**Сяргей Дубавец. ВОСТРАЯ БРАМА.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Эўропа/ Радыё Свабода, 2005. — 520 с.

Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Аляксандра Макавік*
Фота на вокладцы *Дзяніса Раманюка*

«Вострая Брама» — супольны праект Радыё Свабода і рэдакцыі газэты «Наша Ніва». У 1998 годзе перадача была ўганараваная прэміяй імя Алеся Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтру. У цяперашняе выданьне ўвайшлі выбраныя скрыпты.



ISBN 0-929849-09-4

## Звон Вострае Брамы

У Вострай Браме звону няма. Але хто мае прымач, чуе «Вострую Браму» ўжо восьмы год — кожны тыдзень, у нядзелю ўвечары, у Беларусі й Сібіры, Амэрыцы і Аўстраліі слухачы ловяць акорды Брамса, якія адкрываюць перадачу.

У паўвекавой гісторыі «Свабоды» «Вострая Брама» стварае прэцэдэнт — маратон аднаго аўтара, які мае паўгадзіны этэру і свой погляд на сьвет. Гэта сьвет, дзе мінулае яшчэ не мінула, дзе сапраўднасьць шукае сваё аблічча, дзе самыя простыя рэчы выглядаюць няпэўнымі, бо адсутнічаюць каардынаты нормы.

«Вострая Брама» аднаўляе кантэкст — нацыянальны, эўрапейскі, агульначалавечы.

«Вострая Брама» робіцца ў Вільні — зь любога іншага месца рабілася б іншая перадача. Віленскі погляд дае адчуваньне, якой была і якой можа стаць беларуская Беларусь.

Калі ў сэрцы трывога і жах за радзіму, першым, што ўспомніў паэт, стала Вострая Брама.

На пераломе стагодзьдзяў Сяргей Дубавец вяртае Вострую Браму ў Беларусь.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода, Прага*

# Зьмест

этэр 12 кастрычніка 1997 г.

## Вострая Брама і Курган Славы

Мы крочым праз вострыя брамы,
якія ўтварае пара дарагая,
мая залатая пара.
Але нас ня золата вабіць,
што ўрэшце абернецца
бруднай іржою і гноем,
а готыка голых таполяў,
што рукі скрыжоўваюць недзе
ля самага шэрага, шэрага,
шэрага неба.

Мы рушым праз новыя
вострыя брамы старыя,
як некалі, поруч,
і вера вяртаецца нам,
і нешта нам кажа,
што мы не адзіныя ў сьвеце.

*Тацяна Сапач*



Вострае Брамы ў «Энцыкляпэдыі архітэктуры Беларусі» няма. Гэты помнік дойлідства 16 стагодзьдзя на ўезьдзе ў старую Вільню апынуўся за адміністрацыйнай мяжой краіны. Сёньня гэта Вільнюс, Літоўская Рэспубліка. Разам з тым Вострая Брама застаецца цэнтральным вобразам беларускай сьведамасьці, культуры, паэзіі. Нездарма адзін з нашых нацыянальных гімнаў ужо ў трэцім радку згадвае пра яе:

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах, —
Ўспомню Вострую Браму сьвятую
І ваякаў на грозных канях.

*Максім Багдановіч*

Прызнацца, я доўга шукаў якіх іншых архітэктурных сьвятыняў з гэтага шэрагу — тых, што згадваліся і апяваліся б у беларускай клясычнай паэзіі гэтаксама часта, як Вострая Брама. У выніку шэраг намаляваўся незвычайны: касьцёл Сьвятой Ганны, Замкавая гара, званіца Сьвятога Яна... — усё Вільня, спрадвечная сталіца краю. Яшчэ, можа быць, Полацкая Сафія або Навагрудзкі замак разглядаюцца як універсальная беларуская сымболіка. Але на паўнавартасную паэтычную анталёгію можа прэтэндаваць толькі Вострая Брама, у якой месьціцца цудатворны абраз Божае Маці, аднолькава дарагі як для каталікоў, так і для праваслаўных.

...Твар то зьбляднее, то зробіцца ў плямы...
Стане прад маткай сьвятой з Вострай Брамы,

Просіць: «Прачыстая, згінуць ня дай,
Гора адкінь, ад бяды захавай!» —

гэтак Алесь Гарун распавядае пра пакуты гераіні сваe «Засьцянковае аповесьці». На мяжы 19 і 20 стагодзьдзяў абразкі Вастрабрамскай Божай Маці былі ў хатах па ўсёй Беларусі — як галоўны абярэжны знак. Яшчэ ў канцы мінулага стагодзьдзя Янка Лучына апісаў такі абразок у сваіх «Паляўнічых акварэльках з Палесься»:

Гаспода вось. На градцы посуд. Чыста ў хаце.
Абраз з выявай Божай Вастрабрамскай Маці
На покуці ў вянку...

Але найчасьцей апявалі ў нас гэтую сьвятыню каталікі, паэты-ксяндзы:

О, Маці Божая, што ў слаўнай Вострай Браме,
Як зорка ясная, нам сьвеціш заўсягды... —

пачынае сваю «Малітву» Андрэй Зязюля. У іншага паэта-сьвятара Казімера Сваяка верш на гэтую тэму — адзін зь лепшых у творчым даробку:

Вастрабрамска Маці Божа
Краска чыстая, прыгожа.
Міласэрдзе Твае волі
Сьвеціць Вільні у нядолі.

Ўся Цябе Русь славіць Бела
І Літва і Польшча цэла,
Бо Ты маці міласьціва,
Сваім дзеткам дабратліва...



Сьвятыня краю магла служыць для паэтаў і проста адметным будынкам, і тапаграфічным арыенцірам у горадзе, як, напрыклад, у Міхася Кавыля. Ён усю ноч шпацыраваў з каханаю па Вільні, а разьвіталіся яны раніцою каля Вострай Брамы. Такіх згадак у беларускай паэзіі шмат. Мяне ж цікавяць сапраўдныя паэтычныя пэрліны, якія запамінаюцца адразу і назаўсёды. Адзін з такіх твораў належыць пяру Алеся Салаўя, які ў 1944-м разьвітаўся зь Вільняй, яшчэ ня ведаючы, што астатняе жыцьцё яму давядзецца пражыць у Аўстраліі. Верш называецца «Ля Вострай Брамы»:

І прашчуры схілялі тут галовы...
Мінаю я праход Яе сьвяты,
а вусны шэпчуць дабравесьця словы:
— Сьвятая Ты!

За Ёй — і старадаўная сталіца
мае радзімы ў чарах пекнаты.
Ізноў табе прыехаў пакланіцца —
— Сьвятая Ты!

У вершы іншай эмігранткі, Натальлі Арсеньневай, Вострая Брама ўяўляецца індульгенцыяй, прошчай. А ірваная музыка верша гучыць роспачна і зусім непадобна на звычайна мэлядычныя творы паэткі:

Выходжу й гукаю,
гляджу, выглядаю — нямашка...
У ходзішча шчырбах каштанавы тае сьнег.
Праз дошкі кастрывыя
крыва ўсьміхаюцца крамы.
(На яве ўсё гэта? У сьне?)

Чыйсь крок невясёлы і важкі.
— Дзе Вострая Брама?
— Нямашка.

Кажучы пра нацыянальныя сымбалі, што апетыя беларускай паэзіяй, я да часу ня згадваў савецкіх вершаў. Там мы знойдзем індустрыйны Менск, гіганты прамысловасьці, якія цяжка ўпісаць у шэраг нацыянальных сьвятыняў, а найперш — Хатынь і Курган Славы. У савецкай сыстэме каардынат уласна беларушчына пачынаецца зь мінулай вайны. Гэтаксама як дзень незалежнасьці сёньня прызначаны на дату вызваленьня Менску ад немцаў.

Дзьве сыстэмы сымбаляў: Вострая Брама і Курган Славы — як іртуць і вада, ніякім чынам не спалучаюцца, не ўзаемапранікаюць. Немагчыма ўявіць сабе паэтычны твор, дзе б згадваліся абедзьве гэтыя сьвятыні. Як, зрэшты, немагчыма ўявіць сабе верш Максіма Багдановіча пра Хатынь. Тут нам адкрываецца глыбокі раскол нацыянальнае сьвядомасьці. Напэўна, нават больш глыбокі, чым падзел на канфармізм і нонканфармізм, савецкую і несавецкую беларускую культуру. Верш пра Курган Славы цалкам мог напісаць Янка Купала, бо «курган» — ягонае слова, назва хрэстаматыйнай паэмы і скразны вобраз усёй ягонай паэзіі. Але пра Вострую Браму Купала не пісаў ніколі. Дый вершы пра Вільню ў яго выходзілі нейкія непаважныя, гратэскавыя...

Над Вяльлёй-ракой,
Па гары крутой
Туман сьцелецца;
Ні то лом-ламок,
Ні то дом-дамок
Там віднеецца...

Найлепей вытлумачвае такія адносіны да Вільні і Вострае Брамы Міхась Машара ў сваёй паэме «Падарожжа». Часам можна пачуць думку, што менавіта такі падыход — сапраўды беларускі, народны.

Іду далей... вось Востра-брама.
Зьнімаю шапку (трэба тут).
Малітвай раньняю сабраны
Каля муроў таўпіцца люд.

Я не малюсь мурам і тайнам
Незразумелым і пустым.
Мой Бог — такі прасты, звычайны,
Але магутны і жывы.

Яго аўтар — лясы і поле,
Яго сялібай — даль і шыр,
І гай зялёны на прывольлі
Шуміць імшой, як манастыр.

І я малюсь Яму з калосьсем,
І я малюсь Яму з травой,
І ў веснашумаў адгалосьсі
Гуторыць часта Ён са мной.

Вось у чым справа. Тое, што ў нас называлі народнасьцю ў дачыненьні да літаратуры — гэта насамрэч дух паганства. Вострая Брама і Курган Славы ўступаюць у этычны і эстэтычны канфлікт менавіта як хрысьціянская і паганская сьвятыні. Можна працягнуць гэтую палярызацыю на ўсё, што сёньня адбываецца ў

Беларусі. Ледзьве абазначыўся ў нас эўрапейскі, хрысьціянскі тып цывілізацыі, як зараз жа быў зломлены і адмоўлены рэваншам паганства.

Падзел сьвядомасьці паміж Вострай Брамай і Курганам Славы можна разглядаць таксама як падзел паміж арыстакратычнымі і пралетарскімі стэрэатыпамі, паміж культурай сэрца і стыхіяй душы. Праекцыя гэтага ўнутранага расколу праглядаецца ў беларускіх палярызацыях «захад — усход», «каталіцызм — праваслаўе». Вынікі гэтага падзелу — у неаб'яднанасьці свайго. Калі цётка гаворыць «па-нашаму», але не прызнае, што па-беларуску. Калі намэнклятура адчувае проста фізычную няпрыязь да фактаў і асобаў нацыянальнай гісторыі і культуры. Калі народ хоча жыць як жыве, але пры гэтым не згаджаецца абазначыць стан краіны як незалежную Беларусь і галасуе за СССР.

Даводзячы гэты раскол да зусім канкрэтнага знакавага ўзроўню, я спрабую паставіць эстэтычную задачу — убачыць верш, у якім бы апяваліся Вострая Брама і Курган Славы адначасова. Вострая Брама — міжканфэсійны сымбаль. Для курганаслаўнікаў ён незразумелы і чужы. Курган Славы — для вастрабрамнікаў — сымбаль чужое вайны на беларускай зямлі. Хоць ніштo не замінае разглядаць яго як сымбаль перамогі над фашызмам. Так ці інакш, уся справа ў трактоўках, якія яшчэ трэба будзе стварыць. Сёньня ж недарэчнасьцю ўяўляецца думаць пра Вострую Браму, схіліўшы галаву ля падножжа Кургана Славы, або разважаць пра Курган Славы, уваходзячы ў Вострую Браму. Можа быць, калі такі верш усё ж зьявіцца, тады адбудзецца і наша нацыянальная кансалідацыя. Калі ж я памыляюся, і два сымбалі ніколі ня ўступяць у эстэтычны кантакт, а будуць працягваць сьмяротны двубой, дык аднаму зь іх рана ці позна давядзецца капітуляваць, загінуць, прапасьці. Але гэта будзе ўжо зусім іншая краіна або тэрыторыя.



этэр 26 кастрычніка 1997 г.

## «Ружовы туман»

Адыходзіць у нябыт таталітарная савецкая культура, якая паўстагодзьдзя лічылася ў Беларусі культурай нацыянальнай. Ілжывая вартасьць уласна савецкіх твораў вытлумачвалася ілжываю ідэалёгіяй, хоць самі гэтыя творы не рабілі нам гонару ў сьвеце. Падступны амаралізм партыйнае палітыкі выяўляўся ў тым, што сацрэалістычная хлусьня падавалася менавіта як беларушчына і менавіта як да беларушчыны — як да роднага — да яе выхоўвалася любоў. Ніякім іншым спосабам убіць гэта ўсё ў галовы людзей было немагчыма. І таму быў абраны самы каварны мэтад. Пры гэтым добрую палову твораў праўдзівае беларускае культуры давялося ад народу схаваць.

Што праўда, і ў гэтым каварстве людзі часта распазнавалі фальш. І тады зьяўляліся іраніч-

ныя трындушкі пра тое, што «Пятрусь Броўка піша лоўка, піша лоўка і даўно...»

Але што сёньня рабіць з усёй гэтай неабдымнай спадчынай сацрэалізму? Не, мы ня станем адмаўляць і хаваць яе так, як яна сама ў свой час адмовіла і схавала несавецкую беларушчыну. Але мы мусім аднесьці яе да адпаведнага ёй разьдзелу не літаратуры, а іншае дысцыпліны — гісторыі таталітарызму ў Беларусі.

* * *

Сёньня ў Вільні адбываюцца спрэчкі вакол ідэі музэю таталітарнае скульптуры. У віленскіх газэтах адныя прапануюць паставіць усіх ленінаў і сталінаў у двары былога КГБ, у будынку якога цяпер разьмясьціўся суд. Іншыя супраць. Іх галоўны аргумэнт такі: як людзі будуць даваць у судзе паказаньні, бачачы ў вакне Леніна?

У гэткай палеміцы найвастрэй выявілася якраз тое, што сацрэалістычныя шэдэўры паводле ўзьдзеяньня на чалавека — гэта не культура, і зь іх ня можа вырасьці новы, нармальны культурны кантэкст. У такім сьвятле размовы пра высокую эстэтычную вартасьць манізераўскага Леніна на плошчы Незалежнасьці ў Менску гучаць недарэчна. Зразумела, фармалістычныя знаходкі могуць сустракацца і ў прадметах сатанінскага культу, чым па сутнасьці і была беларуская савецкая культура, але...

«Думаю, што многія з нас, савецкіх літаратараў, людзей партыйных, марацЬ калі-небудзь напісаць вобраз Уладзіміра Ільліча Леніна, кожны ў сваім жанры», — яшчэ нядаўна выказваўся Іван Шамякін.



Як можна даваць паказаньні ў судзе, бачачы ў вакне каменнага Леніна? — уражана пытаюцца ў Вільні. Суд судом. Але як можна жыць, штодня сустракаючы каменных і бронзавых ленінаў на вуліцы і на пляцы? Як ня зблытаць эпохаў? Як выйсьці з гэтага, паводле Васіля Быкава, ружовага туману?

«Ружовы туман» — караценькае быкаўскае апавяданьне зь ягонае яшчэ нявыдадзенае кнігі прозы*. Савецкія партызаны падрабілі нямецкія прадуктовыя карткі і з тымі фальшывымі карткамі адправілі глуханямога селяніна ў краму. Маўляў, нам набярэш і сабе таксама. Той селянін, нічога не падазраючы, шчасьлівы, прынес з крамы прадуктаў. Фальшыўка спрацавала. І да глыбокае старасьці глуханямы захаваў бязьмежную ўдзячнасьць тым партызанам, так і ня ўведаўшы, што хадзіў з падробкай, што на ім выпрабоўвалі тыя карткі. Гэты стан Быкаў і назваў ружовым туманам маны.

Ёсьць, дарэчы, пра ружовы туман і ў Шамякіна. Фрагмэнт, варты параўнаньня:

«Дома! Як хораша дома! У суботу жыў у ружовым тумане. Цэлы дзень аглядаў сваю рэканструяваную дачу. Добра атрымалася. Расстаўляў мэблю. Хлопцы расстаўлялі па маім указаньні».

Гэта 1982 год. Наколькі ўсё ж адзін і той вобраз у розных аўтараў азначае рознае, супраць-

* Кніга Васіля Быкава «Сьцяна» выйшла ў Менску ў выдавецтве «Наша Ніва» напрыканцы 1997 г.

леглае. Для аднаго — душэўны камфорт, для другога — аблудны наркатычны падман.

Магчыма, Быкаў стаў тым пісьменьнікам, які першы выйшаў з ружовага туману. Фігуральна кажучы, з Коласам беларуская літаратура ўвайшла ў гэтую хмару, надоўга згубілася ў ёй, а з Быкавым выйшла. Яшчэ ня ўся. Надта цяжка ёй гэта даецца.

Натуральнае пытаньне — што рабіць з тымі сотнямі літарататараў і дзясяткамі клясыкаў, якія цалкам упісаліся ў савецкі пэрыяд? Выбіраць зь іхнае творчасьці тое, дзе ня згадваюцца дыктатары? Але флюідамі таталітарызму прасякнутыя нават кнігі тых аўтараў, на якіх учора гадаваліся сёньняшнія незалежнікі і дэмакраты. Для пісьменьнікаў гэта было зацятае спаборніцтва, хто лепш апіша чалавечнасьць Леніна і ягоных паплечнікаў. А ў чытачоў у свой час нават паэма «Ленін думае пра Беларусь» абуджала пачуцьцё нацыянальнае годнасьці.

Пакінуць усё на водкуп чытачу? А школьныя праграмы, дзе й цяпер поўна чалавечных бальшавікоў, якія вяршаць свае акты справядлівасьці — раскулачваньне, выкрыцьцё шпіёнаў і сабатажнікаў, удалы расстрэл якога-небудзь папа?

На золаце — ўзьняты Кастрычніка сьцяг,
Прасторы бязьмежныя, ясныя,
Да сонца шырокі пралажаны шлях,
Багатыя нівы калгасныя…

*Максім Танк*



Пакінуць усё на водкуп рынку? Але з выдаленьнем савецкага кантэксту многія матывацыі ўчынкаў ды і проста рэаліі становяцца незразумелымі сучаснаму чытачу. Рынак адкідае гэтую літаратуру. А як быць зь яе відавочным амаралізмам, няшчырасьцю або перавернутым разуменьнем сьвету?

Камуністы — гэта слова, як са сталі,
Камуністы — гэта слова, як з агню.
Маркс і Энгельс нам імя такое далі
Сто гадоў таму назад упершыню.

*Аркадзь Куляшоў*

Калісьці крытык Анатоль Сідарэвіч сказаў мне па сакрэце, што далі б яму волю, ён бы зь дзевяці тамоў Броўкі выбраў некалькі дзясяткаў «крэпкіх вершаў», і атрымаўся б прыстойны зборнік. Але ён казаў тое гадоў пятнаццаць назад. Сёньня, думаю, трэба было б зноў адбіраць — ужо з таго выбранага зборніка.

Дык хто мы?
Песьняры ці хлусьняры?
Я добра жыў:
Пакутваў і спагадваў,
Я веру Леніну
Зь дзіцячае пары…
Няхай агнём бязьлітасным гарыць
Сьвет бюракратаў, махляроў і гадаў.

*Пімен Панчанка*

Амаралізм у крыві гэтага антымастацтва. Вы можаце чытаць пра вясковыя сантымэнты або сцэны каханьня, захапляцца лёгкасьцю пяра,

празрыстасьцю апісаньня, але пры гэтым атрымліваць тыя самыя мэтастазы сатанізму. Бо оды Сталіну, чэкістам і партыі — гэта не маскіроўка або недаразуменьне паэтаў. Гэта іх шчыры стан душы, нават у момант замілаваньня прыродай.

Апанэнты звычайна кажуць, што адбор прывядзе да зьбядненьня літаратуры. Але гэта зьбядненьне для тых, хто сумуе па савецкай ярархіі, хто дагэтуль думае пра золата, якое для чытача даўно ператварылася ў іржу і гной. Адсюль непапулярнасьць літаратуры, яе разбэрсанасьць, нявыстраенасьць і неканвэртабэльнасьць. Яна, поўная «дарагіх усім імёнаў», нікому не патрэбная. Прычым творцы ружовага туману пераблытаныя ў ёй з сапраўднымі клясыкамі і разбураюць тую сапраўдную ярархію, якая мусіць выбудоўвацца сёньня.

Зьбядненьне літаратуры — міт. Калі яно й ёсьць, дык выяўляецца ў замоўчваньні або стрымліваньні сапраўдных шэдэўраў. Ніхто ня будзе сёньня чытаць усяго Коласа, але дасавецкі Колас складаецца з патэнцыйных бэстсэлераў. Колькі ні выдаюць «Вянок» Багдановіча ў адным шэрагу з кнігамі савецкіх паэтаў, а «Вянка» не купіць...

У савецкай Беларусі былі свае спосабы «пераацэнкі каштоўнасьцяў». Вымаліся, напрыклад, усе вершы Купалы, прысьвечаныя Сталіну. Але тут ніхто не казаў пра зьбядненьне Купалы. І каго гэта сёньня хвалюе, акрамя пяці спэцыялістаў-навукоўцаў. Паводле гэткае лёгікі, цяпер мы мусім выняць Леніна зь ягонымі паплечнікамі, кампартыю зь яе роляю, прычым выняць як з тэксту, так і з кантэксту. Але такая «зачыстка» — гэта таксама мэтад таталітарнага рэжыму. У нашым жа выпадку даводзіцца сьцьвярджаць, што беларуская савецкая літаратура — гэта не разьдзел беларускай літаратуры, а, паўтаруся, разьдзел гісторыі таталітарызму.



Яшчэ адзін міт беларускай савецкай літаратуры — гэта яе эстэтычныя здабыткі. «Пахне чабор», «Сьцяг брыгады» і г.д. Але перачытайце гэтыя творы сёньня. Зразумела, што ў свой час, калі існавала адпаведная сытуацыя для ўспрыняцьця такой эстэтыкі, гэтыя творы пасвойму выдатна дапаўнялі «Марш энтузіястаў» і «Пастанову аб далейшым паляпшэньні палітыка-выхаваўчай работы». Але сёньня гэтага кантэксту няма ці, дакладней, амаль няма. І ўжо нічога не вытлумачвае тых або іншых пачуцьцяў Броўкі або Пысіна або Панчанкі. Выраз «Ленін думае пра Беларусь» успрымаецца цяпер як фатальнае таўро на нашай гісторыі 20 стагодзьдзя.

этэр 18 студзеня 1998 г.

## Рэспубліка Радзіма

Адзін піцерскі знаёмец некалі распавядаў, што для расейскага вуха «Вячаслаў Францавіч Кебіч» гучыць як «Бэата Тышкевіч», гэта значыць, не па-свойску. У тыя часы людзі ў Расеі, магчыма, упершыню адчулі, што брацішка-бе-

ларус жыве ў іншай краіне. Прычым адчулі на самым жорсткім, знакавым узроўні — на ўзроўні ўласных імёнаў. Тады ж, спрабуючы вярнуць братэрскае «единообразие», сёй-той з палітыкаў тлумачыў, што ў Беларусі ўладу захапілі палякі. А мясцовыя нацыяналы, наадварот, вышуквалі ва ўласных імёнах глыбокія эўрапейскія повязі. І калі Кебіч сустракаўся з Колем, яны задаволена адзначалі, што сустракаюцца дзьве капусты: Кебіч — па-ангельску і Коль — па-нямецку.

Роля ўласных імёнаў, іх таемны ўплыў на лёсы людзей і ўсяго народу магутны і да канца невытлумачальны.

Мінулым разам мы гаварылі пра фіксаваную беднасьць на чалавечыя імёны, якая з савецкіх часоў гаспадарыць у Беларусі. Сашы з Машамі і Наташамі, безумоўна, пазычаныя ў суседняга народу, ствараюць пэўны абмежаваны прэйскурант, за межы якога ў загсах, дзе рэгіструюць дзяцей, выходзіць або не рэкамэндуюць, або нават забараняюць. У іншых народаў такіх жорсткіх абмежаваньняў «паводле ўсенароднай дамоўленасьці» не існуе. А ў дачыненьні да нас гэта сьведчыць пра абмежаваны кругагляд, што выяўляецца ці не ва ўсіх сфэрах жыцьця.

Выбар імя — гэта важны акт, у якім сыходзяцца традыцыі, густы і астральная энэргія. Калі ж над народам пануе абмежаваны загсаўскі прэйскурант, для выбару амаль не застаецца месца. На гэтай абмежаванай прасторы мы поўнімся крытыцызмам да імёнаў сваіх суайчыньнікаў і да імя самое нашае краіны Беларусі.



Некалькі нумароў запар у «Нашай Ніве» друкуюцца лісты беларусяборцаў. Маўляў, кепскае імя нашай краіны фатальна навісла над ейным лёсам і не дае ёй вылузацца, стаць напоўніцу самастойнай і самавітай. Адзін чытач прапануе называцца Крывіяй, другі — Літвой. Абодва падтрымваюць адзін аднаго ў крытыцы імя Беларусь, але ў выбары альтэрнатывы разыходзяцца. Маўляў, Крывія сымбалізуе толькі паганскую веру, а Літва — хрысьціянскую. Трэці чытач, якому таксама недаспадобы Беларусь, адмаўляе Крывію, бо ён гомельскі, г.зн. радзіміч, і ганарыцца ўласнай рода-племяннай традыцыяй. Я думаю, прыгожая магла б атрымацца назва — Рэспубліка Радзіма...

Чацьверты прапануе, каб ня блытацца зь Літвой-Летувой, называцца Вялікалітвой. Пяты чытач ужо ня піша, а тэлефануе мне ў рэдакцыю і кажа, што пасьля ўсіх гэтых прапановаў у яго ня толькі ўсё пераблыталася ў галаве, але й паплыла трывалая глеба пад нагамі. Маўляў, справа, дзеля якой жывеш і выстойваеш у супрацьстаяньні з антыбеларускімі ўладамі, пачынае рассыпацца на мноства часьцінак. І калі ўжо на тое пайшло, яму зручней называцца, як ягоная вясковая бабка — тутэйшым, самым мудрым і па-філязофску глыбокім сялянскім імем, ад канкрэтнага месца на зямлі — тут. Вось толькі ў горадзе гэтага «тут» няма, не намацваецца...

Парадокс у тым, што ўсе нашыя чытачы маюць рацыю. І наконт Беларусі, і наконт Крывіі зь Літвой, і наконт Тут. Усе іхныя прапановы сто разоў гістарычна апраўданыя і вартыя

ўвагі. Адно, што выбар гэтых людзей, якія сыходзяцца ў справядлівай крытыцы імя Беларусь, разводзіць іх у розныя бакі. Ён іх не злучае, а разьядноўвае. Бо крывіч ніколі не захоча звацца ліцьвінам або тутэйшым, і наадварот. І чым далей будзе працягвацца дыскусія, тым больш непераадольны будзе вырастаць паміж імі бар'ер. Досьвед у гэтым сэнсе ў нас ёсьць. Гэта расколатая беларуская эміграцыя, якая паглыбіла свае разыходжаньні ў выбары назвы краіны на раскол канфэсійны, партыйны і ўсялякі іншы. Прымірэньне ў большасьці выпадкаў аказалася немагчымым.

А між тым якраз беларушчына сёньня — адзінае, што дазваляе ідэнтыфікаваць і аб'яднаць супраць русіфікацыі і крывічоў, і ліцьвінаў, і радзімічаў, і тутэйшых. Уявім сабе «Нашу Ніву» як літоўскую або ліцьвінскую газэту; ці напісаў бы ў яе крывіч або які-небудзь яцьвяг — як у сваю, прычым адначасова сваю для ўсіх? Сумнеўна. Таму выбар у гэтай справе пралягае не паміж альтэрнатыўнымі назвамі, а паміж яднаньнем і расколам.

Назва краіны можа быць зьмененая ў часы ўсенароднага ўздыму і прыходу да ўлады нацыянальных сілаў, або ў часы, калі нармальная ўлада стабілізуе сытуацыю ў краіне. Скажам, крывіцкая партыя пераможа на выбарах ліцьвінскую — і Беларусь стане называцца Крывіяй. Але гэтага ня здарыцца сёньня. Сёньня антыбеларускі і антыдэмакратычны рэжым, які заняў пасад краіны, будзе назіраць за спрэчкаю крывічоў зь ліцьвінамі, і цешыцца тым, што іхны адзіны сьцяг разьдзёрты на дробныя кавалкі няісных дзяржаваў.

Як ні круці, а зьмена назвы не выглядае сёньня панацэяй для Беларусі. Можа быць, у нашае агульнае маткі і сапраўды ня тое імя. Але на іншае яна нам не адгукнецца.



этэр 5 красавіка 1998 г.

## Крыху нянавісьці для паўнаты жыцьця

23 сакавіка мне давялося высадзіцца зь віленскага боінгу ў бясконцыя калідоры лёнданскага аэрапорту Гітроў і паспрабаваць адчуць самога сябе пэрсанажам чытаных у далёкім дзяцінстве кніг. Даўно, хоць і завочна знаёмы горад абяцаў заваражыць.

Праўда, што толку ад эўфарыі, калі ты адзін у чужой краіне, а тваё веданьне мовы абмяжоўваецца не заўсёды зразумелымі фразамі з рэпэртуару папулярных некалі рок-гуртоў. Паралельна я прывез у сабе яшчэ некалькі іпастасяў — разбуральніка ўласных стэрэатыпаў і, на ўсялякі выпадак, турыста. Зрэшты, апошні так і не разьвіўся ўва мне, бо ўсе прыкметнасьці, якімі толькі можна ўразіцца ў сьвеце, я ўжо даўно сабе ўявіў і, наколькі мог, уразіўся. А папярэднія вандроўкі ці то ў Будапэшт, ці то ў Прагу пераканалі, што таго ўяўнага ўражаньня бывае дастаткова, каб не ўзьнікала па-

трэбы ўражвацца зноў. Забягаючы наперад, скажу, што знакамітыя Біг-Бэн пры парлямэнце і Букінгемскі каралеўскі палац не разбурылі майго досьведу.

Сапраўдных моцных уражаньняў, перажытых увачавідкі падчас вандровак у сталіцы сьвету, у мяне ня так і шмат. Гэта першае наведваньне Варшавы, фактычна, першы выезд «за мяжу». Гэта вугорскі парлямэнт, пасьля якога ўжывую ўражвацца архітэктурай мне ўжо здаецца немагчымым. Нарэшце, гэта Дунай у Будапэшце. Хто зь дзяцінства ня чуў ад бабулі даўніх беларускіх песень пра Дунай і хто не сьпяваў гэтых песень сам, той ніколі не зразумее, што ў ім пры выглядзе гэтай культавай беларускай ракі зварухнулася штосьці спаконвечнае.

У параўнаньні з Дунаем Тэмза — рака будзённая і нецікавая. Зрэшты і сам Лёндан — гэта вялікі быт. Словам, турыст, які памёр ува мне ўжо на ўваходзе ў тутэйшую падземку, underground, так болей ні разу і не падаў прыкметаў жыцьця.

Што праўда, і разбуральнік уласных стэрэатыпаў за ўвесь тыдзень знаходжаньня нічога не разбурыў. Я нават склаў для сябе такую формулу: у Лёндане нічога ня ўразіла, але нічога й не расчаравала. Магчыма, гэта найлепшая характарыстыка для гораду, які адзін мой сябра называе ідэальным горадам для жыцьця.

Такім чынам, я праяжджаў свой бясконцы андэграўндавы шлях пад дзесяцімільённай сталіцай сьвету і амаль фізычна ператвараўся ў іншага чалавека, зусім не таго, чые іпастасі



прыхапіў з сабою. Сярод грыбатых нэграў, цемнаскурых індусаў, касавокіх карэйцаў і самых неверагодных мяшанцаў, паміж якіх традыцыйны ангелец або проста белы складае яўную меншыню, я без асаблівае ахвоты намацваў ролю Таго-хто-раскажа. Гэта значыць, чалавека, якому трэба будзе нешта распавядаць пасьля вяртаньня дахаты. А паколькі цікавяць мяне найперш патаемныя пачуцьці, то мне належала хутчэй стварацць стэрэатыпы, чым разбурацць іх.

Выйшаўшы зь цягніка ў лёнданскім раёне Фінчлі, дзе няма дому, вышэйшага за тры паверхі, я адразу знайшоў на станцыйнай схеме беларускі дамок — Марыян-хаўс. Дарога была недалёкай, пачыналася шарая гадзіна, а разам зь ёй дожджык. Вакол усё квітнела — цэлае мора самай неверагоднай расьліннасьці. У Марыян-хаўсе нікога не было, і я, пакінуўшы рэчы, адправіўся шукаць свае параўнаньні.

Штосьці тут нагадала мне Друскенікі з майго дзяцінства, або нават родны Мазыр — таксама зь дзяцінства. Калі там яшчэ былі доўгія вулкі невялікіх дамкоў. Дамкі ўтваралі надзвычай цёплыя краявіды на высокіх узгорках па беразе Прыпяці. Пасьля іх зьнесьлі разам з узгоркамі. Памятаю, у апраўданьне зносу кіраўнік мясцовага аддзяленьня таварыства аховы помнікаў БССР у сярэдзіне 80-х назваў гэтыя дамкі «жыдоўскімі клапоўнікамі». У Лёндане, дарэчы, таксама зносяць, але зносяць банальныя дзевяціпавярховікі з «лоджыямі» і «гастраномам» на першым паверсе — тое, што па беларускіх мерках увасабляе сабою сучасны

горад, і што ў нас прыйшло на зьмену мазырскім «клапоўнікам». Цяпер у Мазыры няма мясьцінаў майго дзяцінства. Як амаль няма іх і ў Менску. Затое раз-пораз я знаходжу іх то ў Вільні, то ў Празе, то вось цяпер у Лёндане.

Па прыезьдзе ў мяне абавязкова спытаюць: што такое Лёндан, і таму я прыдумляю яшчэ адну формулу: у кожнага з нас у розных гарадах ёсьць свае блізкія мясьціны. Дык вось Лёндан увесь складаецца зь менавіта такіх тваіх мясьцінаў.

А яшчэ, каб уявіць сабе Лёндан, можна ўзяць улюбёную старую Вільню, памножыць яе ў пяцьдзясят разоў, чыста мэханічна скласьці гэта ўсё ў адно — і атрымаецца сталіца сьвету, якую цалкам можна назваць Лёнданам. Ніякае цэнтрычнае структуры не існуе, бо ў ангельскай сталіцы не адшукваецца цэнтар. Ёсьць бясконцыя пляцы з прыкметамі цэнтру, але які зь іх цэнтральнейшы — ня скажаш. На Оксфард-стрыт я спытаўся ў свайго праваднікa Ігара — ці гэта іхны Ленінскі праспэкт? Ён пачухаў патыліцу і сказаў: ну, увогуле не зусім, але, калі хочаш так лічыць...

Чыста прагматычна я магу патлумачыць гэтую ўтульнасьць старасьцю — цэглы, дрэва, мэталу. Гэта ў даросласьці мы кажам, што, напрыклад, кватэра несучасная, а ў дзяцінстве для нас гэта бабуліна кватэра, у якой адбыліся ўсе нашыя на ўсё жыцьцё дарагія адкрыцьці. Сапраўды, як файна вяртацца з працы ў кватэру, дзе ты некалі слухаў бабуліну казку. Хто ў нас можа пахваліцца такім адчуваньнем? Хіба адзінкі. У Лёндане гэтым адчуваньнем прасякнуты ўвесь горад. І нікому ня прыйдзе ў галаву замяніць высьлізганыя за сто гадоў драўляныя парэнчы ў старым пабе на новыя — мэталічныя ці плястыкавыя. Калі й заменяць, дык так, што ніхто не заўважыць розьніцы.



Часам мне думалася, што гэта чыста беларускія адчуваньні. Наша гісторыя дваццатага стагодзьдзя ператварае нас у закладнікаў чужых краінаў і гарадоў, якія для нас вельмі хутка робяцца роднымі. Тады як свае гарады за жыцьцё аднаго пакаленьня страчваюць усе згадкі пра ягонае дзяцінства.

У Фінчлі, у беларускай Скарынаўскай бібліятэцы пануе гэтая самая старасьць і несучаснасьць. Тут музэйная, належна захаваная беларушчына не мадэрнізуецца, а проста застаецца. У адрозьненьне ад Беларусі, дзе ўсё беларускае нібыта кожнага разу ствараецца нанова. Тут ніколі не падумаеш пра тое, ці добры ў нас герб, сьцяг, або нацыянальны гімн. Або ўрэшце — ці добрае імя ў нашай краіны, пра што ў Беларусі дэбатуюць сёньня патрыёты. Тут, у Лёндане, разумееш і яшчэ адзін сэнс недатыкальнасьці і каштоўнасьці старога — яно належала іншаму пакаленьню. Гэты бээнэраўскі пашпарт належаў Янку Чарапуку, а гэтая гулагаўская кашуля — Ларысе Геніюш...

У выніку простыя рэчы выглядаюць, як сьвятыні. А можа, гэта таму, што захоўвае іх сьвятар і тутэйшы гаспадар айцец Аляксандар Надсан. Ці таму, што ўсё гэта дзеецца ў Лёндане. І квіток на тутэйшую падземку з датай 25 сакавіка 1998-га году, набыты ў дзень 80-х угодкаў БНР, становіцца рэліквіяй ужо ў маёй кішэні...

У часе дзясятка сустрэчаў у розных ангельскіх арганізацыях, калі гаворка ішла пра Беларусь, даводзілася разьвітвацца з сваімі прыжывальнымі адчуваньнямі роднасьці і вяртацца ня тое што ў рэальнасьць, а ў гіпэррэальнасьць. Тут сапраўды ніхто нічога толкам ня ведае пра Беларусь, і можна пачуць самыя неверагодныя гіпотэзы.

За круглым сталом у *BBC* абгаворваліся магчымасьці адкрыцьця беларускай службы гэтай радыёстанцыі. Ангельскі кіраўнік заўважыў, што, мабыць, найлепей, каб такая служба вяшчала па-расейску. Купка беларускіх падарожнікаў з апазыцыйнага парлямэнту 13 скліканьня жыва падтрымала такую ідэю. Падумалася, што ангельскія таварышы нядрэнна ведаюць моўную сытуацыю ў Беларусі. Няйначай, з папярэдніх сустрэчаў зь беларускімі апазыцыянэрамі.

Вінцук Вячорка на тое заўважыў, што расейская мова тут як мінімум зашкодзіць *BBC* у ягонай радыйнай палітыцы. Слухач, які прызвычаіўся ў караткахвалевым шумавіньні знаходзіць беларускую «Свабоду» або Радыё Ватыкан паводле моўнага сыгналу, проста ня вылучыць расейскамоўную беларускую службу *BBC* сярод расейскіх галасоў. Усе мусілі пагадзіцца з такой нечаканай дасьведчанасьцю прысутнага суразмоўцы.

* * *

Спрабуючы сёньня ў думках ад’ехаць назад у ангельскую сталіцу, я згадваю адно, можа быць, самае істотнае назіраньне. Я нават магу сказаць, што гэтым разам адчуў, зразумеў, што такое Захад, што прымушае гаварыць пра яго і не вяртацца зь яго маіх землякоў. Усе вонкавыя параўнаньні, дабрабыт і бытавая ўладкаванасьць — справы ўрэшце дзясятыя. Галоўнае, як правіла, не называецца, бо гучала б выклікам шматпакутнай Бацькаўшчыне.

Я блукаў па Лёндане, заходзіў у пабы і крамы — і чагосьці там не знаходзіў. Чагосьці ненамацвальнага. І, урэшце, я зразумеў. Там няма нянавісьці. Такой звыклай, усеагульнай і беспрычыннай, абавязковай і незаўважнай, якая нібы працяла нашую плоць і кроў.

Звычайна ў такіх развагах баісься заходзіць далёка, каб не будзіць ліха, каб не назваць таго, чаго не павінна быць, і што магло б адно ад тваіх развагаў матэрыялізавацца. Словам, каб не сурочыць. Але гэтым разам я дазволіў сабе разважаць.

Нянавісьць (я шукаў нейкага іншага слова, але гэта менавіта нянавісьць) — падспудная, падсардэчная ношка, зь якой мы жывем, як з глыбока схаванаю хваробай. Менавіта яна ўсеагульная і галоўная прычына крыўд і бед нашага грамадзкага бытнаваньня, у аснове якога ляжыць патрэба «зашчыміць бліжняга свайго». Дробная сацыяльна-бытавая нянавісьць ляжыць у падмурку нерэлігійнасьці беларусаў, бо рэлігійнасьць мусіла б грунтавацца на любові. Урэшце, менавіта нянавісьць рухала электаратам, які абраў на пасаду першага прэзыдэнта такога чалавека. Гэта была нянавісьць да сувэрэнітэту, да начальніка-кебіча, да суседа... урэшце, да сябе. Кажуць, нянавісьць — другі

бок любові. Магчыма. Толькі наш мэдаль яшчэ не паварочваўся тым другім бокам.

Далібог, мне ніколі б не захацелася пра гэта казаць, і я, можа, першы кінуўся б пераконваць заежджага назіральніка ў адваротным. Бо нянавісьць — нябачная, яна тое, што мы імкнемся неяк ігнараваць, на чым імкнемся не засяроджваць увагі, што імкнемся лічыць за выпадковасьць. Але як інакш мне растлумачыць, што такое Лёндан, калі, на маю думку, менавіта ў тым яго першае і галоўнае адрозьненьне ад нашага Менску, што там яе няма, і што мой душэўны камфорт-дыскамфорт там увесь час парушаўся яе недахопам. Для «паўнаты жыцьця» мне адчувальна не ставала яе.

Магчыма, неўсьвядомленая бытавая нянавісьць у нас ёсьць, а ў іх яе няма з-за таго, што ў іх даўно не было войнаў і ніколі не было калектывізацыі? Толькі і прычыны мяне сёньня ня надта цікавяць. Урэшце, нянавісьць — гэта й ёсьць самая галоўная прычына таго, што наш чалавек прызнае абсалютныя перавагі заходняга ладу жыцьця, але пры гэтым усімі сіламі трымаецца за савок, за калгасы, за савецкую атрыбутыку, за рынкавы сацыялізм з праваслаўным атэізмам. Каго ён у гэтым выпадку ненавідзіць, думаю, тлумачыць ня трэба.



этэр 7 чэрвеня 1998 г.

## Сьвятло, зашыфраванае ў смузе

У цэнтральнай частцы Вашынгтону на скрыжаваньні *P-street* і 22-й вуліцы стаіць помнік Тарасу Шаўчэнку, на якім я прачытаў словы ўкраінскага песьняра:

> …коли
> ми діждемося Вашингтона
> з новим і праведним законом?
> А діждемось таки колись!

У сквэры пры помніку на лаўцы дзень і ноч ляжыць бяздомны чорны чалавек. Ён не чакае Вашынгтона са справядлівым законам. Яму, мабыць, і так добра. Бяздомнасьць — ягонае крэда, яна ня кара, а выбар. А вось Украіна, якая клікала амэрыканца вуснамі свайго кабзара ажно ў 1857 годзе, усё яшчэ чакае. І перад новымі прэзыдэнцкімі выбарамі, якія адбудуцца праз год, тусуе ўсё тую ж зацёртую калоду яшчэ савецкай намэнклятуры, у якой Вашынгтона няма. Што да мяне, дык прачытваю я ў словах Тараса Шаўчэнкі пра сваё, пра Беларусь. «Калі МЫ дачакаемся Вашынгтона»?

***

Вашынгтон надзвычай, без усялякай меры зялёны горад, дзе паўсюль шум аўто мяшаецца з птушынымі галасамі. Вуліцы тут нагадваюць пра Лёндан, а дзікія паркі, лагчыны й яры прымушаюць ня верыць, што ты — на зварот-

ным баку Зямлі, а ня дзе-небудзь у Віленскім нагорным парку ці ў Мазыры. Асабліва калі сярод гэтай зеляніны цябе засьпее навальніца зь перунамі і зусім ліпеньская, як па-нашаму, зьліва.

Якраз пад такой навальніцай мы з калегамі выйшлі з лагчыны да праваслаўнай царквы. Вашынгтонская руская царква — ляпідарнае збудаваньне, у якім вісяць ляпідарныя абразы, няма ані кроплі пазалоты або звыклых у нас карункаў, і служба вядзецца па-ангельску, дакладней, па-амэрыканску, бо ўсе сьпяваюць, ледзьве не прытанцоўваючы, як у большасьці пратэстанцкіх сьвятыняў ЗША. Калега-журналістка, расейка з Джамбулу, які цяпер называецца Тараз, нават паставіла сьвечку, чым выклікала ў астатніх лёгкую пашану. Увечары за агульным сталом яна прызналася, што паставіла сьвечку за Лукашэнку, якога вельмі любіць. Я стаў драматычна распавядаць пра тое, што ў нас стагнацыя, ёсьць палітычныя вязьні, і вельмі цяжка выжываць незалежным газэтам. А Лукашэнка — гэта такі дракон, якому, як у вядомым фільме, рана ці позна зьнясуць галаву. На гэта расейка, не зьміргнуўшы вокам, сказала: падарыце мне здымак вашага дракончыка!.. Напэўна, гэта сапраўды была любоў. Але я ня стаў ёй патакаць і заўважыў: толькі наўзамен на здымак вашага Назарбаева. Журналістка скрывілася.

Гэтак міжволі ў Вашынгтоне мне давялося патрапіць у эпіцэнтар страсьцей і парадоксаў так званага СНГ. Казахі распавядалі пра валюнтарыста Назарбаева, малдаваны — пра тыраспальскага стагнатара Сьмірнова. Сытуацыя з Прыднястроўем замарожаная гэтаксама, як і з далучэньнем Малдовы да Румыніі. На прыднястроўскім купоне ў 500 рублёў — палкаводзец Сувораў. Малдаўскую мову ў Тыраспалі на лацінку не перавялі. У астатняй Малдове ўжо 10 гадоў, як перавялі, і называюць румынскай.



Адкат у савецкія часы з рознай хуткасьцю адбываецца ва ўсіх краінах СНГ. Толькі нідзе, акрамя нас, ён ня стаў афіцыйным курсам кіраўніцтва краіны. Скончыліся фээрыі ўсталяваньня сувэрэнітэтаў і для нацыяў, што выбраліся ў сьвет, настаў час ставіць наступную мэту. Літоўцы сказалі — у НАТО, мы — назад у СССР, іншыя топчуцца на месцы. Краіны нібы апусьцілі ветразі і дрэйфуюць у чаканьні наступнага парыву — або ўнутранага, або вонкавага. Зьдзіўляе, наколькі пабляклі паўсюль шыхты палітычных фаварытаў. Гэта ўжо ня 1991 год. Вашынгтон з новым і праведным законам не прыйшоў і на гэты раз.

***

Мядзяны Вашынгтон, зялёны ад часу, скача па горадзе свайго імя на кані ў натуральную велічыню. Сталіца ЗША літаральна заселеная помнікамі. Постаць нашага земляка Касьцюшкі ўзьведзеная ад імя польскага народу на плошчы перад Белым домам. А ў мэмарыяле Касьцюшкавага сябра Джэфэрсана, які, няслушна прачытаўшы слова «Lithuania», назваў Беларусь Вялікім Княствам Сіліцыяніяй, мне хочацца думаць, што ягоная трохмэтровая постаць увасабляе і нашую гісторыю. Магчы-

ма, гэта тое знаёмае пачуцьцё прыжывалы, калі даведзенае да ладу чужое вельмі хутка становіцца сваім, блізкім, бо сапраўднае сваё — занядбанае. Зь іншага боку, хіба амэрыканцы на этапах гісторыі ўяўлялі свой шлях так ясна, як гэта бачыцца здалечыні сёньня? Дык, можа, і ў нашай смузе зашыфраванае нейкае будучае прасьвятленьне?

На жаль, гэта толькі допуск. Розьніца паміж намі сёньня і імі 200 гадоў назад большая, чым падабенства. У Амэрыцы тады сабраліся мужныя й валявыя людзі, бо іншымі й не маглі быць першыя эмігранты. Яны сабраліся і сталі вырашаць, якую ім збудаваць краіну. 200 гадоў таму на іх ня ціснуў цяжар застарэлых праблем. І адно, чаго яны імкнуліся пазьбегнуць з эўрапейскіх стандартаў — гэта тыраніі. Вось чаму Вашынгтон ня стаў каралём, а стаў першым прэзыдэнтам. Валявыя людзі прыдумалі такую сыстэму, якая дазволіла іхнай канстытуцыі праз 200 гадоў стаць самай старой у сьвеце.

***

Цыкляпічныя помнікі Джэфэрсану і Лінкальну — гэта выключэньне. Амэрыканцы звычайна ставяць сваіх бронзавых герояў у натуральны чалавечы памер. Духу імпэрскасьці я ў Вашынгтоне не адчуў нідзе, хоць і гатовы згадзіцца з выказваньнем, што гэты горад валадарыць у сьвеце. Праўда, на кожнае сьцьверджаньне тут існуе мноства контраргумэнтаў, а побач з сусьветным панаваньнем стала прысутнічае і комплекс віны.



У гэтым сэнсе цікава было разглядаць мэмарыял салдатам віетнамскай вайны. Вайну, якую тут называюць непатрэбнай, Амэрыка вяла з 1959 да 1975 году. Нехта за гэты час пасьпеў нарадзіцца і скончыць школу. ЗША страцілі ў Віетнаме 158 тысяч салдат. Іх імёны выбітыя на чорнай мармуровай сьцяне. Побач — тры бронзавыя ваякі пасьля цяжкога бою. Скульптурная група — у чалавечы рост. На тварах — разгубленасьць, страх, ярасьць. Геройства няма. Я праходжу сярод тысяч людзей, якія аглядаюць мэмарыял, і думаю пра аўганскую вайну. Ідэолягі ў Беларусі сутыкнуліся зь няпростай праблемай: што мусяць увасабляць помнікі палеглым салдатам-аўганцам. Так ці інакш, ідэолягі шукалі, імкнуліся выснаваць сэнс той вайны, у якой ніякага сэнсу не было. Урэшце ў цэнтры Менску паставілі праваслаўную капліцу і анёла. Вельмі спрэчнае рашэньне, як, зрэшты, і любое іншае ў гэтай справе. Амэрыканцы, перад якімі стаяла падобная задача, пазьбеглі прывязкі да рэлігіі, хоць мелі на тое болей падставаў. У іх усё ж гінулі вернікі, а не камсамольцы. Але галоўнае, чаго пазьбеглі амэрыканцы — гэта гераізацыі сваіх салдатаў. Сваякі і сябры прыходзяць сюды ўшаноўваць памяць блізкіх, якіх урад выкарыстаў у якасьці гарматнага мяса. Для іх гэта помнік вялікай несправядлівасьці, якая часам запаноўвае ў сьвеце. Таму тут проста ня могуць правіць службу сьвятары, сюды ня могуць прыяжджаць перад загсам маладыя, як гэта адбываецца на аналягічным мэмарыяле ў Менску.

***

У чым адмысловая жывучасьць амэрыканскае мадэлі? Найперш, у адносінах да права. Закон тут не рэгулюе жыцьцё, а забясьпечвае свабоду людзей. Дзеля параўнаньня дастаткова зірнуць на правы прэзыдэнта і прэсы.

У адрозьненьне ад кіраўніка РБ, Клінтан мае фактычна толькі адну магчымасьць рэальна ўмешвацца ў палітыку — гэта накласьці вэта на рашэньне Кангрэсу. Усё астатняе робіць Кангрэс. А што ж прэзыдэнт? Ён цэлымі днямі «сядзіць на тэлефоне» і ўгаворвае кангрэсмэнаў галасаваць за патрэбны яму законапраект. Патрэбны, але не ягоны, бо сам ён права заканадаўчай ініцыятывы ня мае.

Наагул, усё жыцьцё ў ЗША точыцца шляхам дамоўленасьцяў і пагадненьняў. Менавіта гешэфты, а не закон, рэгулююць жыцьцё. Закон існуе для забесьпячэньня гешэфтаў — раўнапраўных і свабодных. Амэрыканская сыстэма нагадвае мне джазавую кампазыцыю, у якой фрагмэнты яснай мэлёдыі зараз жа вар'ююцца і разьвіваюцца ў розныя бакі, нібы імкнуцца адлюстраваць усю заблытанасьць жыцьця. На канцэрце піяніста Дзіка Хаймэна ў Цэнтры імя Кенэдзі мне падумалася, што джаз — гэта ўцёкі ад банальных рашэньняў.

Што да прэсы, дык у Амэрыцы няма ніводнага дзяржаўнага выданьня, радыё або тэлеканалу. Голас Амэрыкі і Радыё Свабода — дзяржаўныя, але іх забаронена трансьляваць на тэрыторыю ЗША. Адзіны нарматыўны акт аб прэсе — гэта прыняты ў 1934-м годзе закон, які забараняе цэнзуру з боку ўладаў. І гэта таксама своеасаблівае, не такое, як у нас, разуменьне законаў. Законы абараняюць ня друк, а народ — ад умяшальніцтва ўладаў у сродкі масавай інфармацыі. Дарэчы, у ЗША ніколі й не было дзяржаўных выданьняў. І прэзыдэнт краіны, каб выступіць у тэлевізіі, мусіць дамовіцца з тэлекампаніямі. А яны пры гэтым будуць яшчэ й круціць носам — ці скажа ён чаго цікавага, і ці спадабаецца гэта іхным гледачам.



Урад у прынцыпе ня можа чагосьці прадпісаць прэсе або закрыць выданьне. Хутчэй наадварот. Скандальная адстаўка Ніксана была ажыцьцёўленая фактычна двума журналістамі *Washington Post*. Ды і пад сёньняшнім прэзыдэнтам разгойдвае крэсла прэса. Менавіта амэрыканскія рэаліі нарадзілі сьцьверджаньне, што прэса — чацьвертая ўлада, якое часам без усялякіх падставаў ужываюць беларускія журналісты.

***

Я ўвесь час думаю пра тое, чаму тут, у Амэрыцы, пазаставаліся многія не апошнія людзі Беларусі, сярод якіх нямала і маіх знаёмых? Адказ, відаць, ня можа быць адзін.

Па-першае, тут няма бытавое нянавісьці, адсутнасьць якой я заўважыў яшчэ ў Лёндане. Ніхто нікога ня шчэміць проста так, дзеля самазадавальненьня. І гэта галоўны плюс.

Па-другое, даходы тут на ўзроўні чалавечых жаданьняў — кожны звычайны жыхар набывае дом, машыну і што там яшчэ трэба для таго, «каб дастойна сустрэць старасьць».

Па-трэцяе, тут давяраюць. У краме, у доме, паўсюль. Цана даверу нашмат большая, чым у нас. І калі ты скрадзеш, або падманеш, ганьба будзе неадэкватна (па-нашаму) вялікая.

Трох гэтых пунктаў ужо дастаткова, каб наш зямляк пераканаўся, што нічога такога ў Беларусі пры ягоным жыцьці ня будзе, і падаў заяву на эміграцыю. Летась 750 беларусаў выйгралі грын-карту. Нельга нават уявіць, колькі іх прайграла — у сто разоў болей ці ў тысячу.

Фактар радзімы пакрываецца словам «Чарнобыль». Г.зн., эміграцыя для дзяцей і для здароўя ня можа падлягаць маральным сумневам.

Што яшчэ? Свабода. Абсалютна незразумелае ў Беларусі слова. Па вяртаньні ў Менск мне сходу давялося прачытаць у газэце тэзу пра тое, што журналіст — гэта самая дзяржаўная прафэсія...

Ну вось, бадай, і ўсё. Усё астатняе 50/50. Зямля ў нас прыгажэйшая. Яшчэ з самалёта я глядзеў на нашыя ўзьлескі і згадваў вашынгтонскі Патамак, у якім ня здолеў абмыць твар — такая брудная там вада. І людзі нашыя, падалося, у масе сваёй прыгажэйшыя. Дык чаму ўсё ж імкнуцца туды нашыя землякі і не вяртаюцца? Можа таму, што ня меў рацыі Багушэвіч — Бог дзеліць якраз роўна, і меў рацыю Караткевіч — каму найлепшая зямля і найлепшы народ, таму найгоршае ў сьвеце начальства? У нашага народу было дастаткова часу, каб пераканацца, што балянс у гэтай справе ёсьць вялікай раўнавагай існаваньня, якой нельга парушаць, бо інакш — зноў вайна ці зноў рэвалюцыя. І таму яны галасуюць за Лукашэнку, а выбіраюць Клінтана, пішучы заявы на конкурс зялёных картак.



***

Што да прысутнасьці Беларусі ў амэрыканскім жыцьці, дык тое «замоўчваньне», якое можа часам раздражняць у Менску, тут успрымаецца зусім натуральна. Вялізная, 270-мільённая фэдэрацыя, складзеная з 50 штатаў, у кожнага зь якіх ёсьць свая канстытуцыя, жыве ў цалкам самадастатковым сьвеце. Што ім Беларусь. Беларусь? — перапытваюцца яны. Расея? *Soviet Union*? У кнігарнях я сустракаў тут толькі адну кнігу, дзе можна прачытаць пра нашу краіну — гэта фундамэнтальны даведнік «Расея — Украіна — Беларусь». Наш разьдзел пачынаецца на 1019-й старонцы. Герб Пагоня выяўлены побач з партрэтам першага прэзыдэнта. Тое самае ў сувэнірных крамах, якія спэцыялізуюцца на сымболіцы розных краінаў — можна знайсьці значкі, гадзіньнікі, папяльнічкі зь бел-чырвона-белым сьцягам, а побач — з савецкім, чырвона-зялёным. Прычым выраблена гэта ўсё ў Кітаі.

На сустрэчы з рэдактарам міжнародных навінаў *CNN* я спытаўся, хто ў іх фармуе ўяўленьне пра Беларусь, і атрымаў адказ: маскоўскае бюро. Тое самае мне сказалі і ў міжнародным аддзеле *Washington Post*. Цікава, што падзеі ва Ўкраіне для гэтай газэты асьвятляе варшаўскае бюро.

У вашынгтонскім *Newseum* — адзіным у сьвеце інтэрактыўным музэі інфармацыі — ёсьць карта сьвету, на якой усе краіны расфар-

баваныя ў тры колеры, у залежнасьці ад становішча прэсы: свабодная яна, не зусім свабодная або зусім несвабодная. Тут у коле сваіх суседзяў — вольных Польшчы, Літвы, Латвіі, не зусім вольных Украіны і Расеі, — Беларусь зафарбаваная самым нядобрым колерам. Музэй належыць арганізацыі *Freedom Forum*, якая ўважліва сочыць за становішчам прэсы ў нашай краіне, ведае пра арышты журналістаў, дзяржаўную манаполію і барацьбу прэзыдэнта зь незалежнымі выданьнямі.

Так ці інакш, у мяне склалася ўражаньне, што Амэрыка гатовая прыняць Беларусь у сваю інфармацыйную прастору. Прынамсі БЫЛА гатовая пару гадоў таму. Але сёньня справа застопарылася. Пераходны пэрыяд. Два сьцягі, інфармацыя праз Маскву і немагчымасьць што-колечы растлумачыць. Я доўга расказваю перакладчыку Білу пра наш *back in USSR* і пра тое, як гэта б’е па свабодзе, па культуры і эканоміцы, а ён заўважае, што ў апошнім нумары часопіса Economist для Беларусі прагназуецца эканамічны рост. Дай Бог, — кажу я і адпраўляюся на скрыжаваньне *P-street* і 22-й вуліцы, каб дзеля падмацаваньня свайго нацыянальнага аптымізму прачытаць на помніку словы ўкраінскага песьняра:

> ...коли
> ми діждемося Вашингтона
> з новим і праведним законом?
> А діждемось таки колись!



этэр 20 сьнежня 1998 г.

## Маўчаньне паэтаў

Гэтаму пытаньню ўжо дзесяць гадоў. І я ўрэшце наважваюся яго задаць. Чаму беларускія паэты, якія ў другой палове 1980-х, на выхадзе з камунізму, сталі ледзьве ня знакамі гэтага выхаду і нацыянальнага адраджэньня, чаму яны перасталі пісаць вершы? Адам Глёбус, Анатоль Сыс, Ігар Бабкоў, Алег Мінкін... Тады, у другой палове 1980-х, іхнае лідэрства ў паэзіі было бясспрэчным і зусім не выглядала на часовае. Нацыя, маладая й сьвядомая яе частка, бачыла ў іх новых багдановічаў і купалаў, як мінімум, творцаў, пакліканьне якіх не падлягае сумневу. І раптам на пачатку 1990-х яны замаўкаюць, прападаюць як паэты, ня пішуць. Чаму?

*Адам Глёбус: Ня я пішу вершы, а вершы пішуцца мною. Я толькі запісваю словы, радкі, сказы. Быў час, калі гэтыя радкі й словы складаліся ў вершы. Цяпер яны складаюцца ў афарызмы, нататкі й апавяданьні. А паэзія пакінула мяне. Ды й ня толькі, зрэшты, мяне. Яе вялікасьць паэзія пакінула пакаленьне маіх аднагодкаў. Прымусіць яе вярнуцца няма ніякай магчымасьці. Адно, што застаецца, гэта быць гатовымі да яе вяртаньня. Я гатовы.*

Свой апошні паэтычны зборнік «Скрыжаваньне» Адам Глёбус выдаў у 1993-м. А перастаў пісаць вершы, мабыць, яшчэ раней. У Ігара Бабкова кніжка «Solus Rex» выйшла ў 1992-м.

*Ігар Бабкоў: Маўчаньне паэтаў... Уменьне маўчаць і слухаць прыходзіць з узростам. Голас, які напачатку мае шмат абэртонаў, пачынае дрыжаць, ламацца і ўрэшце зьнікае, прападае ў цішыні сьвету. Крытыкі й чытачы заўважаюць: паэт больш ня піша. Паэты ня пішуць — гэта мэханічны вынік больш глыбокай зьявы: паэты маўчаць. Але маўчаньне паэтаў — гэта не маўчаньне паэзіі. Тыя, хто мае паэтычны слых, могуць пачуць у гэтай цішыні нават больш, чым у новых бадзёрых прамаўленьнях. Раптам пачынаюць перачытвацца старыя забытыя вершы. Яны ўжо чытаюцца па-іншаму, не як літаратурная прадукцыя, частка агульнага працэсу, не як падстава нацыянальнага гонару (І ў нас ёсьць добрыя паэты!) альбо сораму (Божухна, колькі графаманаў!), яны чытаюцца проста як вершы. Маўчаньне заўсёды гоіць, і паэзія тут не выключэньне. Прыгадайце свой стан спустошанасьці, вычарпанасьці пасьля даўгіх прамаўленьняў, асабліва калі гэта істотныя словы, што патанулі ў агульным шуме. Стан маўчаньня, затрымкі, устрыманьня — гэта стан ня толькі сёньняшняй паэзіі, гэта стан усёй беларускай літаратуры. Літаратура нібы заціхла перад рэчаіснасьцю, літаратура нарэшце дазволіла сабе падзеньне ўглыб. Хіба толькі голас Быкава гучыць з самых прадоньняў беларускай безнадзейнасьці. А потым у паэтаў зьяўляецца іншы голас — голас ценю.*

Адзіны зборнік вершаў Сержука Сокалава-Воюша пабачыў сьвет у 1989-м. Ён называўся «Кроў на сумётах».



*Сяржук Сокалаў-Воюш: Паэта ня можа не пісаць. Амаль нічога не стварыў у часе фізычнай эміграцыі Адам Міцкевіч і, зноў жа, амаль — у часе духовай эміграцыі — Анатоль Сыс. Але няствоpанае на паперы ня ёсьць няствораным наагул. Яно — непрачытанае. Біяграфіі абодвух згаданых паэтаў гавораць самі за сябе. Да гэтых біяграфіяў можна ставіцца па-рознаму, але нельга адмаўляць, што яны — Біяграфіі, у якіх для нас ёсьць цэнтар — паэзія, і навакольле, магчыма, не такое паэтычнае для сучасьнікаў, але цалкам прымальнае для нашчадкаў.*

*Паэта ня можа не пісаць. Наш чалавечы слоўнік забедны на маўчаньне. Тупое, шматзначнае, немае, таямнічае — усё гэта эпітэты. А яно, маўчаньне, ніколі не бывае толькі такім. Яно, як сьнег у якутаў, які ніколі не бывае проста сьнегам. Маўчаньне можна пачуць, можна зразумець, але ня можна выказаць. Можа быць, некалі мы ці нашыя нашчадкі, зможам прачытаць маўчаньні паэтаў, і, можа быць, гэтыя маўчаньні будуць больш геніяльныя, чым пісаньні. А можа быць, іх і наагул ня трэба будзе чытаць. Прыходзіш у краму і набываеш касэтку, якая называецца «Маўчаньне Адама Глёбуса», і слухаеш. Але пакуль што гэта тэма для фантастаў.*

*Паэт ня можа не пісаць. Не пісаць — гэта тое самае, што ня думаць. У мяне таксама бываюць пэрыяды непісаньня, але гэта хутчэй сон стомленай музы, чымся ейная адсутнасьць. Заснулае натхненьне не перастае быць натхненьнем, яно сьніць цалкам паэтычныя*

*сны. Часам прачынаесься, і ў галаве рэшыцца толькі што складзенае ў сьне. Дай сабе волі запісаць сонныя радкі, і раніцай ты зразумееш, што паэта яшчэ ня ўмёр.*

Анатоль Сыс — аўтар двух паэтычных зборнікаў, якія зьявіліся ў канцы 1980-х.

*Анатоль Сыс: Я хадзіў, нос задраўшы: во — Сыс, такія вершы піша! Клясык жывы!.. А высьветлілася, што пакуль быў бел-чырвона-белы сьцяг, трэба было рабіць грунт для будучыні. А шмат хто разважаў гэтаксама, як я. Празявалі — і зьявіўся Лукашэнка.*

Апошні зборнік Алега Мінкіна «Расколіна» выйшаў таксама амаль дзесяць гадоў назад.

*Алег Мінкін: У прынцыпе, я б не сказаў, што я зусім не пісаў. А не пісаў я недзе тры гады — 1995, 96, 97. Магчыма, проста згубіў цікавасьць да сваёй уласнай друкаванай прадукцыі. Можа быць, гэта зьвязана з узростам. Увогуле, нецікава мне стала друкавацца. Цікавы сам акт творчасьці.*

*Канечне, былі й нейкія духоўныя калізіі, якія перашкаджалі мне пісаць. У 1980-я гады я належаў да тых людзей, якія фактычна распачыналі новую хвалю беларускага адраджэньня ў Беларусі. І беларуская ідэя ўяўлялася мне настальгічнай, прыгожай, паэтычнай, сумнай, сьветлай і г.д. Словам, паэтычнай. Але калі пайшлі гады гэтак званай перабудовы, калі гэтая ідэя пачала ўвасабляцца ў палітыку, я пабачыў таксама й ейныя нэгатыўныя бакі, і як бы згубіў галоўную тэму сваёй творчасьці. Усе астатнія тэмы маёй паэзіі былі трошкі другараднымі ў параўнаньні з гэтай. І натуральна, што павінен быў прайсьці нейкі час, каб я зразумеў і самога сябе і адчуў, пра што я яшчэ магу пісаць як асоба, як паэт.*



*Дарэчы, ідэя абароны роднае мовы ў навачаснай паэзіі, я бачу, выраджаецца. І гэта заканамерна, што яна ўжо набіла аскоміну і маладзейшыя паэты пішуць на гэтую тэму ня тое што іранічна, а фарсава. Гэтак паэзія апярэджвае жыцьцё. У нейкага бумбамлітаўца ёсьць твор — наказ Гіла Нілевіча Толіку, які пачынаецца так: Любі, Толік, мову, любі, тваю маць...*

*Былі таксама й чыста эканамічнага характару перашкоды. Я пераехаў у Вільню, у Вільні тады быў дзікі капіталізм. Я ня бачыў магчымасьці зарабіць грошы на сваім прафэсіяналізме як рэдактар, як паэт, як творца, а змушаны быў карміць сям'ю, яна ў мяне немалая — дзьве дачкі, жонка, усе беспрацоўныя.*

*Пачынаючы зь мінулага году я стаў рэдактарам тутэйшай беларускай газэты «Рунь», заняўся беларускім кнігавыданьнем. Таксама пачалі пісацца вершы новага пляну. Між іншым, мне вельмі лёгка пісаць, калі я пішу не ад свайго ўласнага імя, а ад тых асобаў, якіх выдумляю.*

Калі казаць пра натхненьне, якое не прыходзіць, або пра патрэбу замест вершаў зарабляць грошы на пражыцьцё, — гэта ўсё можа вытлумачыць змаўканьне асобнага чалавека, які перастаў быць паэтам. Але гэтым нельга растлумачыць зьявы. Калі казаць пра тое, што ў юнацтве шмат хто піша вершы, але са сталасьцю перастае, — гэта таксама не тлумачыць

зьявы, бо гутарка ідзе пра прафэсійных паэтаў, якія пераканаліся ва ўласным пакліканьні і атрымалі пацьверджаньне гэтага ад чытачоў. Ставіць пад сумнеў сапраўднасьць гэтых паэтаў таксама не выпадае, бо іхныя вершы дагэтуль чытаюцца, цытуюцца і сьпяваюцца. Апошняе яшчэ раз пацьвярджае такую зьяву, як паэзія пакаленьня. Вершы апытаных мною паэтаў сталі песьнямі Касі Камоцкай.

*Кася Камоцкая: Напэўна, як сказаў Глёбус, вершы пішуцца ў маладосьці. Напэўна, яны ўжо не адчуваюць сябе такімі дастаткова маладымі. Але я лічу, што зараз зусім непаэтычны час, і вершаў ня піша амаль ніхто. Мне вельмі шкада, што ня піша Тацяна Сапач. Я думаю, гэта зьвязана з тым, што яна цяпер жыве ў Вільні, у Літве. Вельмі шкада, што ня піша Сыс, што ня піша Глёбус. Тэксты цяперашніх маладых ня йдуць, на жаль, ні ў якое параўнаньне з тым, што было напісана раней: і як вершы, і — адмыслова для мяне — як тэксты.*

Найбольш верагодным з усіх вытлумачэньняў асабіста мне ўяўляецца тое, што Алег Мінкін сказаў пра страту адраджэнскага ідэалу. Нашыя паэты кінулі пісаць вершы менавіта ў часы атрыманьня краінай незалежнасьці, калі над парлямэнтам залунаў бел-чырвонабелы сьцяг. Ідэал палітызаваўся і зьдзейсьніўся, г. зн., прапаў. І паэты, якія высьпельвалі яго на працягу 1980-х, адчулі, што ім няма пра што пісаць. Выходзіць, яны таксама палітызаваліся. Выходзіць, палітызавалася самая энэргія, якой яны напаўнялі свае вершы пра



каханьне, пра сьмерць і пра чорную котку, якая танчыць на кухонным стале.

Так закончылася гісторыя паэтычнага пакаленьня. Аднак, ніхто зь яе ўдзельнікаў не пакідае спадзеву.

этэр 16 траўня 1999 г.

## Панарская бітва (1831)

Адкрыцьцё адбылося надоечы на ўскрайку Вільні, у Панарскіх гарах. Тут на невялікіх каталіцкіх могілках ў 1991 годзе мы пахавалі віленскую пісьменьніцу-мэмуарыстку Зоську Верас, а сёньня вырашылі разам са шваграм адведаць яе магілу. Пакуль швагра разглядаў надпісы на помніках самых розных часоў, маю ўвагу прыцягнуў немалы гранітны куб, перакулены дагары нагамі. Надпісы давялося чытаць, нахіліўшы галаву. Помнік належаў штабскапітану і ад'ютанту рэзэрвовага корпусу войскаў Ягору Васілевічу Сьвечыну. Абставіны ягонае гібелі ўразілі настолькі моцна, што я паклікаў швагру, і мы прачыталі разам: «Убит у подошвы сей горы в сражении 7 июня 1831 года, где русския войска разбили мятежников, понеся потерю в 364 человека». На фоне бязьлюдных, вясковых з выгляду могілак, разьмешчаных на высокай, густа зарослай лесам гары, інфармацыя пра пабоішча зь неверагоднымі чалавечымі стратамі выглядала атворам

у прадоньне гістарычнага часу, у космас мінуўшчыны. «А што гэта было за паўстаньне?» — спытаўся швагра. Я пачаў распавядаць, адчуваючы, наколькі мне бракуе фактаў, і як няпроста ўвязаць іх ва ўцямную карціну. Пасьля кожнага слова можна было ставіць пытальнік. Стала зразумела, што вырашальнае ў нашым нацыянальным лёсе антырасейскае паўстаньне 1831 году, у адрозьненьне ад паўстаньняў Касьцюшкі або Каліноўскага, ніякім чынам не ўпісанае ў беларускі культурны кантэкст 20 стагодзьдзя. Такія высновы звычайна робяцца балюча, калі ўявіш сабе сотні і тысячы жыцьцяў, пакладзеных тады дзеля будучыні. Асабліва калі зусім выпадкова трапляеш да помніка, на якім стаіць лічба 364. 364 акупанты. Колькі палегла паўстанцаў, ніхто ўжо не даведаецца ніколі.

Але два словы пра помнік. Расейскі гранітны куб патрапіў на каталіцкія могілкі адкульсьці з падножжа гары, дзе, відавочна, стаяў асобным мэмарыяльным знакам. Хутчэй за ўсё, яго зацягнулі наверх дзеля якаснага матэрыялу, зь якога нехта меркаваў або мяркуе зрабіць новыя помнікі. Пакуль жа ён проста валяецца сярод магіл. Пройдзе яшчэ крыху часу, і зьнікне з твару зямлі апошняе сьведчаньне найбуйнейшай, як мы высьветлім пасьля, бітвы беларускіх паўстанцаў з расейскім акупацыйным войскам 1831 году.

Чаму такое магчыма ў сёньняшняй Літве, дзе зь піетэтам ставяцца да памятак мінуўшчыны? Таму, што гэтае паўстаньне не займае ў этнічнай літоўскай гісторыі якога-кольвек заўважнага месца. Палякам помнік не патрэбны, бо гэта помнік ворага. Мясцовыя расейцы ўшаноўваюць свае мэмарыялы, зьвязаныя з гонарам, а не з пакаяньнем. Беларусы толькі часам выпадкова натыкаюцца на памяткі свае гісторыі ў гэтых мясьцінах, як мы са шваграм. І тады зьяўляецца падстава ўзгадаць — што гэта было за паўстаньне, і ўва што яно абышлося нашай культуры.



*Сяргей Харэўскі:*

*Вайна 1831 году дзеліць гісторыю нашае культуры на «да» і «пасьля». «Да» існавалі ўнівэрсытэт, кляштары, магнацкія рэзыдэнцыі, пры якіх былі калегіюмы, школы, бібліятэкі, тэатры, музэі, шпіталі... «Пасьля» ўсяго гэтага ня стала. Засталася дата — 1831 год, і пытаньні. Першае зь іх — як называць тую вайну?*

*У Польшчы яе называюць Лістападаўскім паўстаньнем, маючы на ўвазе лістапад 1830 году. У Беларусі яна пачалася толькі ў сакавіку 1831-га, а скончылася ў 1833-м. Палякі змагаліся за сваю канстытуцыю й дзяржаўнасьць. Яны мелі аўтаномію, сэйм і нават войска... Беларусы ня мелі нічога і змагаліся «за нашу і вашу свабоду»... Стары расейскі слоўнік Бракгаўза спасылаецца на кнігу нейкага Пузырэўскага «Польская вайна 1831»... Гэтак яна і ўвайшла ў эўрапейскую гісторыю. Чужая вайна... Але кроў была наша. Атрымалася, што беларусы падарылі тую вайну палякам, якія пасьпелі эміграваць, французам, супраць якіх Расея не адправіла тады войскі, Каўказу, зь*

*якога тыя войскі таксама былі адцягнутыя ў наш край. Беларусы сталі героямі... Безь перамогі, бяз славы, без імёнаў.*

*Паспрабуем усё ж пэрсаніфікаваць вайну 1831 году. Сёньня б тых змагароў назвалі інтэлігентамі. Прафэсар Яўхім Лялевель, філёляг і гісторык, колішні загадчык катэдры ў Віленскім унівэрсытэце, стаў ідэйным правадыром для паўстанцкай моладзі. Уся культурная эліта Беларусі спрычынілася да вайны. Адныя яе рыхтавалі і былі сасланыя крыху раней, другія ў эміграцыі зьбіралі апошнія сілы й апошнія грошы, трэція біліся са зброяй у руках... Кампазытары Агінскі і Абрамовіч, вучоныя Балінскі й Дамейка, літаратары Ходзька і Гарэцкі, мастакі Сухадольскі і Дмахоўскі, ды шмат, шмат іншых... Хто стаў героем? Паэтка й зьбіральніца беларускага фальклёру, дваццаціпяцігадовая графіня Эмілія Плятэр камандавала паўстанцамі. Міхал Валовіч, малады філёзаф і эканаміст, студэнт Лялевеля, браў у вайне чынны ўдзел, эміграваў у Парыж, тэарэтычна абгрунтаваў адмену прыгону і стварэньне Беларуска-Літоўскай рэспублікі. У сакавіку 1833 году вярнуўся нелегальна ў Беларусь. Вёў агітацыю на Слонімшчыне й Навагарадчыне, стварыў партызанскі сялянскі атрад. Напрыканцы траўня атрад разьбілі. Гэта быў апошні, трагічны акорд вайны. Валовіч ва ўзросьце 27 гадоў быў павешаны. Дзьве згаслыя зоркі — дзяўчына й хлапец...*

*Дзе ж слава? Адам Міцкевіч прысьвяціў падзеям тае вайны сваю паэму «Дзяды». Магутным творам, зьвязаным з вайною, стаў паляпэз «Разьвітаньне з Радзімаю» Агінскага, напісаны ў 1831 годзе. Сусьветная клясыка... Большага ў беларускай культуры пра тыя падзеі не сказана й дасёньня. Напачатку 20 стагодзьдзя «Наша Ніва» згадала аднаго з натхняльнікаў таго вызвольнага руху, Сымона Канарскага, расстралянага ў Вільні. А зусім нядаўна скульптар Павал Лук стварыў невялікі барэльеф у гонар Эміліі Плятэр. Колькі словаў у кнігах Мальдзіса, Александровіча, Тарасава... Вось, бадай, і ўсё.*

*Чаму? Па-першае, усё ж польская традыцыя, узьнятая на шчыт «Вялікай эміграцыяй», аказалася вызначальнаю. Гэта было на руку й расейцам, якія разьдзімалі «польскую ідэю», пераконваючы тым самым беларусаў у тым, што іхняя гісторыя — зусім ня іхняя, а чужая, польская. Менавіта пасьля тае вайны расейцы забаранілі нават згадваць назвы Беларусь і Літва. Па-другое, за савецкім часам гэтая вайна таксама атаесамлялася са шляхецкім закалотам, але выстаўлялася чужою нам ужо з сацыяльных прычынаў.*

*Чым стала вайна для нашай культуры? Наступствы паразы былі катастрафічныя. Тысячы людзей былі расстраляныя, павешаныя, сасланыя на катаргу. Дзясяткі тысячаў былі пазбаўленыя маёмасьці і шляхецкіх правоў. У князя Яўстаха Сапегі канфіскавалі маёнткі ў Ружанах і Дзярэчыне. Там былі велізарныя кнігазборы і ўнікальныя мастацкія калекцыі. Пры канфіскацыі толькі сьпіс карцінаў склаў*

*22 аркушы, а ювэлірных вырабаў з срэбра — 18...*

*Былі скасаваныя й выгнаныя ўсе каталіцкія кляштары. Ліквідаваная царкоўная унія. Спынена дзеяньне Вялікага Статуту, зруйнаваныя многія старасьвецкія ратушы. Зачынены Віленскі ўнівэрсытэт. У мусульманаў скасавалі ўсе правы, забараніўшы нават рамантаваць мячэці. Палова нашых татараў загінула ў той вайне. Даверлівых сялянаў напаткаў прыгон новых, расейскіх паноў, і рэкрутчына ў «маскалі»... Культурны й духоўны фон зьмяніўся непазнавальна менавіта пасьля 1831 году. Тыя калясальныя страты нічым не замененыя дасёньня.*

Такім чынам, часавы фон, на якім адбывалася Панарская бітва, стаў больш-менш праясьняцца. Што да самой бітвы, дык у спрошчаным выглядзе сытуацыя выглядала так. Паўстанцы захапілі Коўна і рушылі на Вільню, куды расейцы падцягнулі рэгулярныя войскі. І тут, пад сталіцай Вялікага Княства, яны сустрэліся. Мяркуючы па ахвярах, сеча была страшная. У найбуйнейшай бітве паўстаньня 1863—64 гадоў — пад Мілавідамі — загінула 80 паўстанцаў. У найбуйнейшай сечы апошняй чачэнскай вайны палегла 120 чалавек. Панарскае пабоішча забрала 364 жыцьці толькі з аднаго боку.

Аднак спынім гэты папулярны пераказ і зьвернемся да гісторыка. На мае пытаньні адказвае Генадзь Сагановіч.

— Генадзь, з трох найбуйнейшых антырасейскіх паўстаньняў 18-19 стагодзьдзяў два замацаваліся ў сьвядомасьці публікі імёнамі правадыроў — Тадэвуша Касьцюшкі і Кастуся Каліноўскага. Магчыма, дзеля гэтага пра тыя паўстаньні і болей вядома, яны лягчэй затрымліваюцца ў памяці жывымі вобразамі. Якім імем можна было б акрэсьліць у беларускай гісторыі паўстаньне 1831 году?

— *Паўстаньню 1831 году фатальна бракавала адзінага лідэра. Інсургенты дзейнічалі па паветах аўтаномна і разрозьнена. Паўстаючы, кожны павет ствараў свой паўстанцкі камітэт, зьбіраў войска і ставіў свайго камандзера. Акцыі не былі ні скаардынаванымі, ні адначасовымі. У паўночна-заходняй Беларусі дзейнічалі аддзелы Радзішэўскага, Барткевіча, Важынскага, у Наваградзкім павеце паўстанцамі кіраваў Кашыц, у Пінскім — Пуслоўскі, на Мазыршчыне — Кяневіч, у Белавескай пушчы — Ронка ды іншыя. Агульны Часовы паўстанцкі ўрад быў утвораны толькі ў чэрвені, і Тышкевіч, які яго ачоліў, зусім не зьяўляўся лідэрам. Роля ж такіх паўстанцаў, як вядомы гісторык Міхал Балінскі, пісьменьнік Ян Ходзька, мастакі Напалеон Орда і Вінцэнт Дмахоўскі, не настолькі істотная, каб зь іх імёнамі атаесамляць увесь рух. Не надаецца тут і яркая постаць праслаўленай гераіні тых дзён Эміліі Плятэр. Думаю, паўстаньне 1831 так і застанецца ў нашай гісторыі «безыменным»...*

— Наступнае маё пытаньне — пра бітвы 1831 году, у прыватнасьці, пра тую, якую я назваў Панарскай, і пра маштабы чалавечых стратаў.

— *Паколькі сілы інсургентаў заставаліся*

*разрозьненымі, дык паўстаньне стала своеасаблівай «малой вайной» — сэрыяй лякальных бітваў і сутычак з расейскім войскам. І калі ў красавіку яны часта перамагалі, дык потым усё больш саступалі перасяжным сілам карнікаў. Згадаю тут бітву пад Аўсянішкамі каля Вільні 20 красавіка, бітву ашмянскіх паўстанцаў з генэралам Атрошчанкам пад Вішневам 23 красавіка, бітву пад Румам на Ашмяншчыне 29 красавіка, бітву пад Глыбокім 15 траўня, а таксама бітву над ракой Ганьчай 28 і пад Лідай 31 траўня. Цяжкой была сеча пад Мазыром 11 чэрвеня. Адным з самых крывавых стаў міжбой аддзелу Пуслоўскага з рэгулярным расейскім войскам пад Невелем (на Піншчыне) 8 жніўня, у якім з тысячы інсургентаў палегла амаль палова. Але вырашальнай і, думаю, найбольш стратнай была бітва за Вільню 19 чэрвеня на Панарскіх гарах. У ёй упершыню аб'яднана выступілі інсургенты шэрагу паветаў, а таксама польскае войска, прысланае на падмогу. На жаль, паўтарыць трыюмф 1794 гэтым разам не ўдалося. Паўстанцы мусілі адступаць, і гэтая параза падкасіла дух усяго руху.*

— Наўрад ці існуе статыстыка чалавечых стратаў за ўсё паўстаньне. Верагодна, такі ўлік вёўся ў расейскім рэгулярным войску. Хоць практыка «прыпісак» ды зьмяншэньня лічбы ахвяраў існавала і ў тыя часы. Што да паўстанцаў, дык вядома, што яны хавалі свае страты і імёны палеглых інсургентаў, каб пасьля не падстаўляць пад рэпрэсіі іхныя сем'і. Наступнае маё пытаньне датычыць нацыянальнае прыкметы паўстаньня 1831 году. Сяргей Харэўскі ў сёньняшняй праграме ўжо згадаў, што тое паўстаньне найчасьцей называюць польскім. Скажы, калі ласка, Генадзь, як ахарактарызуеш яго ты?



*— Паўстанцкі рух на абшарах былога Вялікага Княства разьвіваўся дастаткова незалежна ад Польшчы. Ён ахапіў практычна ўсе беларускія губэрні і доўжыўся тут з красавіка па лістапад 1831 году. За гэты час на нашых землях у ім брала ўдзел 15 тысяч чалавек. Аналіз складу ўдзельнікаў паказвае, што гэтае паўстаньне не выпадае лічыць ні адно польскім, ані толькі шляхецкім. Так, шляхта зьяўлялася галоўнай сілай, але ў паўстаньні ўдзельнічалі ўсе станы, зь якіх асабліва ўражвае адсотак сялян: мужыкі-касінеры склалі больш за чвэрць усіх інсургентаў. Рэшта — гэта каталіцкія і ўніяцкія сьвятары, гэбраі, мяшчане, студэнты. Так што рух быў фактычна народным. Застаецца згадаць ідэі, якімі паўстанцы кіраваліся. Іх адозвы заклікалі люд «брацца за зброю, каб здабыць Айчыну і свабоду», дамагацца «вольнасьці і роўнасьці па праву». Пад «вольнасьцю» разумелася вызваленьне ад расейскай акупацыі, пад «правам» — законнасьць, традыцыя, справядлівасьць. Так, асноўнай мэтай барацьбы было аднаўленьне Рэчы Паспалітай у межах 1772 году, але гэта азначала — і ВКЛ як яе суб'екта: ліцьвіны раўніва берaглі самастойнасьць сваёй дзяржавы ў Рэчы Паспалітай, якая, памятайма, была зусім ня Польшчай. А ў дзяржаўнасьці Вялікага Княства ўвасаб-*

*ляўся сувэрэнітэт і беларускага народу. Таму, з гледзішча нашае гісторыі, паўстаньне 1831 ёсьць несумненна найважнейшым этапам беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. І з усіх трох, бадай, найменш вядомым...*

... Вярнуўшыся дахаты, мы са шваграм кінуліся да кніг. Жонка ўключыла тэлевізійныя навіны. «Аказваецца, з расейскага боку ў Панарскай бітве ўдзельнічала 20-тысячнае войска», — сказаў швагра. Я паспрабаваў уявіць сабе наступ гэтае армады на гару, дзе пад каплічкай на вясковых могілках паўстанцкія камандзіры аддаюць апошнія перад боем загады. Тым часам тэлевізійны дыктар распавядаў пра 50-тысячную югаслаўскую групоўку ў Косаве. Паказвалі наезд сэрбаў на альбанскую вёску. Такая самая парослая дрэвамі гара... Усё пераблыталася: краявіды, твары, часы... Засталася нязьменнаю сутнасьць падзеяў.

этэр 6 чэрвеня 1999 г.

## Літаратура-пракуратура

Простая лёгіка каторы раз падказвае, што ў кожнага выніку ёсьць прычына. І каторы раз сутыкаесься з тым, што — ня тут і не цяпер. Ня ў сёньняшняй беларускай грамадзкай сьвядомасьці. Тут і цяпер, як толькі бярэсься тлумачыць тыя ці іншыя праявы жыцьця іхнымі першапрычынамі, абавязкова скажаш або недарэчнасьць, або глупства, або крамолу. Быццам мы ўсе — нейкія бесьцялесныя стварэньні ці літаратурныя пэрсанажы, і існуем не ў жывым жыцьці, а на старонках антыўтопіі. А як бы ты з гледзішча першапрычыны растлумачыў апошняе менскае здарэньне ў пераходзе мэтро? — пытаецца ў мяне калега. У падземным пераходзе загінула пяцьдзясят тры чалавекі, таму што, — адказваю я, — таму што... пайшоў дождж. Гучыць, згадзіцеся, як недарэчнасьць, але любыя іншыя вытлумачэньні — ці то пра агульны чмур, ці то пра кару нябесную, бо гінулі акурат перад вачыма Маці Божае з абраза на фасадзе катэдральнага сабору, а яшчэ й на Тройцу — усё гэта ўжо дапушчэньні, а не першапрычыны. Дождж — вось з-за чаго беларускія хлопцы насьмерць затапталі сваіх дзяўчат. Прычым, дождж сярод сьпёкі, дождж доўгачаканы і жаданы... Чыстая літаратура. Памятаеце, калі герой Альбэра Камю, альжырскі француз Мёрсо, забівае араба, ён тлумачыць гэта сонцам, якое асьляпіла яму вочы. У выніку раман «Чужаніца» становіцца адным зь лепшых твораў 20 стагодзьдзя. Але ўявіце, што Камю прапанаваў сваю вэрсію забойства інфармацыйным агенцтвам як навіну дня. На альжырскім пляжы нехта Мёрсо забіў араба, таму што быў асьлеплены сонцам. Глупства. Ніхто б такое і перадаваць ня стаў. Тое самае і з нашай менскай трагедыяй, якая мае зусім літаратурныя прычыны. Не сказаць пра яе нельга, але чыста па-журналісцку немагчыма, бо прападае сэнс. Напрыклад, літоўская тэлевізія па сьвежых сьлядах паведаміла, што там, маўляў,

абвалілася мэтро. Самі журналісты прыдумалі, бо інакш нічога не зразумела. Прыдумалі і яшчэ абурыліся — як гэта маглі так збудаваць тое мэтро, што яно абвалілася...

У панядзелак пасьля здарэньня ў мэтро ўвесь Менск быў наэлектрызаваны. Нават памочніку пракурора, які выклікаў мяне дзеля тлумачэньняў, у гэты час затэлефанавала маці, як я зразумеў, зь вёскі, бо ён называў яе на Вы. Мама «вы» — так у нас яшчэ кажуць сям-там у вёсках. Старэйшаму памочніку пракурора на выгляд гадоў 25. Ён даўно шукаў мяне, каб я даў паказаньні пра тое, чаму рэдакцыя «Нашай Нівы» вылучыла свайго карэспандэнта Славаміра Адамовіча ў гарадзкую камісію па выбарах прэзыдэнта РБ. Выбары тыя даўно мінуліся, і я, прызнацца, падумваў праігнараваць ужо нікому не патрэбную фармальнасьць. Але падкупіла прозьвішча старпома — Балтуноў. Пракурор Балтуноў — гэта літаратура, падумаў я, і падаўся ў адведкі ў менскую Маскоўскую пракуратуру. Пракуратура — гэта ў нас таксама літаратура.

У такіх установах мне заўсёды згадваецца дакумэнт са справы пісьменьніка Максіма Гарэцкага. Дакумэнт датаваны 1938 годам і называецца пастановаю Тройкі УНКВД Смаленскай вобласьці. Колькі ні перачытваю гэтую лякагічную паперу, ніяк не магу зьвесьці канцы з канцамі. Словаў усяго чатыры: «Гарэцкага Максіма Іванавіча расстраляць». Сэнсу тут ня больш, чым у дажджы, ад якога загінулі 53 чалавекі. Гэта сапраўды літаратура. Адно насьцярожвае, што яна пазбаўленая мастацкай умоўнасьці, і тыя, што загінулі, загінулі ў рэальнасьці. Забітыя ў часе спэктаклю акторы ўжо не падымуцца са сцэны.



А яшчэ дакумэнт пра Гарэцкага згадваецца таму, што калі яго — расстраляць, дык чаму б не расстраляць і каго заўгодна: мяне, цябе, вас? І атмасфэра пракурорскага кабінэту нібы пацьвярджае такое дапушчэньне. На стале ў спадара Балтунова беспарадак. Адна з наглядных справаў зьехала проста мне пад локаць. Чытаю на вокладцы прозьвішча — Сонейка. Рэальнасьць зноў адступае, расплываецца, вызваляючы месца літаратуры. Балтуноў судзіць Сонейка. Далей — болей, гэта справа аб рабаўніцтве. Усё зьляпіць у адзін сказ зноў ніяк не выходзіць. Рабаўнік Сонейка пад наглядам пракурора Балтунова. Я згадваю, што калі ён мне затэлефанаваў першы раз і прадставіўся, маёй натуральнай рэакцыяй было: хлопчык, перастань выдурняцца. Толькі пракурорскія ноткі ў голасе ўстрымалі мяне ад гэтых словаў.

Памочнік пракурора Балтуноў дапісвае мае паказаньні. Аднак літаратура працягваецца. Я як рэдактар газэты растлумачыў яму, якім чынам наш калектыў вылучыў карэспандэнта Славаміра Адамовіча ў гарадзкую камісію па выбарах прэзыдэнта Беларусі. Балтуноў падымае на мяне вочы апошні раз і бязь ценю сумневу ўдакладняе: «Вы маеце на ўвазе выбары ў мясцовыя саветы?» Мне застаецца толькі сьцепануць плячыма, але яго такі адказ задавальняе. Ну, даручылі высьветліць законнасьць нашага ўдзелу ў выбарах, ён і высьветліў. А што там былі за выбары — афіцыйныя ці апазы-

цыйныя, мясцовыя ці прэзыдэнцкія — гэта ўжо не ягоная справа.

І тут я пераходжу да іншага сюжэту. Пра тыя якраз выбары, дакладней, пра іхны кантэкст. Там таксама поўна літаратуры. Зянон Пазьняк зьняў сваю кандыдатуру, назваўшы апазыцыйныя выбары сфальсыфікаванымі і таму амаральнымі, а старшыня цэнтарвыбаркаму Віктар Ганчар у адказ заявіў, што з амаральным рэжымам немагчыма змагацца маральнымі сродкамі. Напэўна, яны спрачаліся пра славутую маральную палітыку. Але калі я паспрабаваў растлумачыць свайму літоўскаму прыяцелю, чаму Пазьняк выступіў супраць Ганчара, той не зразумеў. Дык яны ж абодва супраць Лукашэнкі, — зьдзівіўся ён.

І тут было пра што паразважаць. Значыць, яны не абодва супраць яго. Гэта ён супраць іх. Няма сумневу, што Лукашэнка даўно вядзе халодную вайну супраць апазыцыі. Ён вайну абвясціў, Ганчар гэты выклік прыняў. А Пазьняк абвясціў вайну Ганчару. Каб разабрацца ў гэтай блытаніне, у нас ёсьць больш рэалістычныя прычыны і выразныя арыенціры, чым у выпадках з дажджом і расстрэлам Гарэцкага. Асабіста мне дапамог разабрацца ў заблытанасьці выбарчай сытуацыі зварот Рады БНР з заклікам чынна ўдзельнічаць у гэтых выбарах. Маральны аўтарытэт Рады вышэйшы за такі самы аўтарытэт усіх удзельнікаў беларускага грамадзкага жыцьця. Дык вось Рада свайго звароту не адклікала, чым дала зразумець сваю пазыцыю.

Зразумела, што ўдзел Рады ў беларускім жыцьці мае, як цяпер кажуць, віртуальны характар. Але зьвярніце ўвагу, калі я загаварыў пра гэта, як мала ў маіх словах стала літаратуры, і як паболела рэальнасьці. Прычыны і вынікі тут не выглядаюць супярэчліва і абсурдна. Наадварот. Гэта цешыць, бо пазначае поступ — гэтаксама, як і зьяднаньне беларускай апазыцыі супраць аўтарытарнага рэжыму і за Беларусь. Простая лёгіка ў гэтым выпадку становіцца дарэчнай.



этэр 5 сьнежня 1999 г.

## Жыды: апраўданьне імя

За апошнія дзесяць гадоў колькасьць гэбрайскага насельніцтва Беларусі скарацілася радыкальна, амаль у пяць разоў — да трыццаці тысяч. У параўнаньні зь перадваенным часам — жменька людзей. Ня стала іх, ня стала і нас. Іх — колькасна, нас — роўна настолькі ж — якасна. Яны — перамясьціліся ў Ізраіль і Амэрыку, везучы ў сваіх валізах незапатрабаваныя намі ізумруды нашай гісторыі і нашага духу з мацерыка Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

Яшчэ да вайны жыды складалі палову насельніцтва беларускіх, літоўскіх, украінскіх, польскіх гарадоў і мястэчак. У Расею іх не пускалі, таму рыса аселасьці была тут. Не ў апошнюю чаргу менавіта дзякуючы ім гэтая паласа зямлі ад Балтыйскага да Чорнага мора набыла

адзінства і свой характэрны выгляд, які ў нас асацыюецца з ВКЛ. Сёньня мы, беларусы, існуем у стане адчужанасьці зь літоўцамі ды ўкраінцамі і задаемся пытаньнем: як гэта мы з гэтымі народамі пражылі ў межах адной краіны паўтысячы гадоў? Аднак варта ўявіць сабе колішняга падарожніка ад Каралеўца да Крыму, які паўсюль сустракаў жыдоў, а яшчэ татараў і польскамоўную шляхту, каб зразумець, што гэтая зямля мела адзіны культурны ляндшафт. Менавіта жыды надавалі нашай цэнтральнаэўрапейскай супольнасьці адзіны кштталт.

У Расеі іх не любілі, таму слова «жыд» у расейскай мове стала абразьлівым. Разам з русіфікацыяй тыя ж адносіны зьявіліся і ў нас. Літоўцы трымаліся за свайго «жыдаса», палякі — за свайго «жыда», інстынктыўна разумеючы, што той, хто зрабіў імя іншае нацыі ў сваёй мове абразаю, не ад тае нацыі адняў, а ад сябе.

Аднак і прынесены нам наўзамен «жыда» куртаты ў беларускім гучаньні расейскі «яўрэй» не прыжываўся. Спатрэбілася забараніць клясычныя тэксты беларускай літаратуры, у тым ліку і Купалаў верш «Усебеларускія жыды», каб правесьці гэтую ўніфікацыю, каб і мы пачалі разьвіваць у сабе пачуцьцё бытавога антысэмітызму. Прытым зьмена адносінаў да жыда стала зьменаю адносінаў да беларуса. Калі жыд — абраза, тады і беларус — абраза. Жыд — скнара, а беларус — калхозьнік. І далей: пшэк — таргаш, украінец — хахол, літовец — лабус. Абразы, абразы... Харошы толькі



расеец, які шчодра дзяліўся з намі сваім імпэрскім шавіністычным пачуцьцём. І мы прымалі гэта, не разумеючы, што фатальна страчваем сябе.

Але зьвернемся да статыстыкі. На жаль, нам не ўдалося атрымаць дакладныя зьвесткі апошняга перапісу насельніцтва Беларусі, хоць гэтая статыстыка ўжо гатовая. Тыя, хто яе рыхтаваў, спасылаліся на сакрэтнасьць. Тым ня менш, Сяргей Харэўскі дазнаўся, што за апошнія 10 гадоў колькасьць жыдоўскага насельніцтва ў Беларусі зьменшылася ў пяць разоў.

*Сяргей Харэўскі:*

*Колькасьць жыдоўскага насельніцтва ў Беларусі расла да апошняй вайны. У Менску і ў Вільні іх было па 43 працэнты, у некаторых мястэчках і таго болей.*

*У 1918 годзе, калі стваралася Беларуская Народная Рэспубліка, беларушчына з жыдоўствам ішлі поруч. І першая, і другая Ўстаўныя Граматы БНР дэкляравалі роўнасьць усіх народаў і моваў. У адказ на гэта жыдоўская фракцыя Менскай гарадзкой думы заявіла пра падтрымку беларусаў, пра ўдзел у стварэньні БНР і выдаткаваньне грошай на беларускія справы.*

*І ў БССР ад пачатку ўлады таксама прыхільна ставіліся да жыдоўства, ствараючы прэсу, школы, тэатры. На гербе БССР быў зроблены надпіс на ідыш. Невыпадкова таму жыды ў большасьці засталіся тут. Калі ж запрацавалі сапраўдныя мэханізмы бальшавізму, уцякаць ім ужо не было куды й не было як.*

*Ва Ўсходняй Беларусі ў 1939 годзе налічвалася крыху больш за 400 тысячаў жыдоў, альбо 8 з паловай працэнта ўсяго насельніцтва БССР. І гэта была тут самая шматлікая нацыя пасьля беларусаў.*

*Блізу таго склалася сытуацыя і ў Заходняй Беларусі. Але... У тым самым 1939 годзе сюды з Польшчы хлынула шмат уцекачоў, якія ратаваліся ад немцаў. Колькасьць жыдоў у Беларусі перавысіла мільён чалавек...*

*Заходнебеларускія мястэчкі былі літаральна перапоўненыя гэтымі людзямі. Яны жылі нават у сынагогах. Як польскія грамадзяне яны, часьцяком не трапляючы ў савецкую статыстыку, траплялі ў савецкія лягеры. Тыя ж, хто застаўся тут, застаўся назаўсёды. У магілах. Гэтак нямецкія нацысты перакрэсьлілі цывілізацыю, што праіснавала ў нас паўтысячы гадоў, стаўшы неад'емным складнікам беларускасьці. Невялікая частка беларускіх жыдоў была эвакуяваная ў глыбіні савецкае Эўразіі. Тых, хто вярнуўся сюды па вайне, было зусім няшмат. Людзі не хацелі вяртацца ў вусьцішныя ўспаміны. Таму па вайне ў Беларусі зьявіліся жыды з Украіны, Расеі, Прыбалтыкі. Адначасова з колькаснымі адбыліся й зьмены якасныя. Паваенныя жыды былі ўжо часткаю савецкае інтэлігенцыі. У 1959 годзе жыдоў у БССР стала 150 тысячаў чалавек. Гэта была самая вялікая паваенная лічба. Бо, пачынаючы з 1970-х, спачатку павольна, а пасьля ўсё больш хутка, яны пачалі пакідаць Беларусь, ад'яжджаючы з краіны саветаў у вольны сьвет. Напрадвесьні беларускае незалежнасьці, у 1989 годзе, іх было ўжо 112 тысячаў.*



*Незалежнасьць Беларусі не прынесла чаканага жыдоўскага адраджэньня. Гэтым разам іх пагнала з нашае краіны ўсё разам — радыяцыя, эканамічны крызіс і... доўгачаканая свабода выбару. Ужо сёньня дэмографы й сацыёлягі прагназуюць, што жыдоў у Беларусі засталося блізу 30 тысячаў.*

Калі расстаўляць акцэнты, дык галоўныя страты ў гэтай статыстыцы прыпадуць на гады вайны, якія для жыдоўскага насельніцтва сталі гадамі татальнага вынішчэньня. Гартаючы леташні зборнік артыкулаў пра жыдоў Беларусі, іх гісторыю і культуру, я натрапіў на артыкул Аркадзя Лейзерава, які расшукаў у архівах зводкі нямецкага камандаваньня пра апэрацыі супраць жыдоўскага насельніцтва на акупаванай беларускай зямлі ў 1941 годзе. Маштабы генацыду ўражваюць.

Пры фільтрацыі ў Менску мужчынскага лягеру цывільных асобаў і ваеннапалонных «спачатку расстраляна 1050 жыдоў. Астатнія штодзённа дастаўляюцца на экзэкуцыю».

Кідаецца ў вочы, што колькасьць расстраляных у розных мясцовасьцях, як правіла, супадае — крыху больш за тысячу.

Гэтак у зводцы ад 24 ліпеня паведамляецца, што ў Слоніме пачата акцыя «супраць жыдоў і варожых элемэнтаў. Арыштавана больш за дзьве тысячы чалавек, зь іх 1075 расстраляныя».

Яшчэ адзін істотны факт, які зьвяртае на

сябе ўвагу ў нямецкіх дакумэнтах — гэта характарыстыка беларускага насельніцтва ў тых умовах. Фашыстоўцы наракаюць на беларусаў, што яны зусім не заражаныя антысэмітызмам і замест таго, каб расстрэльваць жыдоў, усё памыкаюцца неяк схаваць іх, завезьці ў лес.

Вось выснова са зводкі ад 23 ліпеня: «Беларусаў нельга справакаваць на пагромы жыдоў». І далей, праз тыдзень: «у Менску не назіраецца ярка выражанага антысэмітызму». Але «немцы працягваюць масавыя рэпрэсіі сваімі сіламі з прыцягненьнем паслугачоў, дастаўленых зь Літвы і Ўкраіны». «Інсцэніраваць пагромы супраць жыдоў дагэтуль у зьвязку з пасіўнасьцю... беларусаў аказалася немагчыма».

«Падобнае заключэньне, — піша Аркадзь Лейзераў, — неаднаразова ўтрымліваецца і ў іншых дакумэнтах акупацыйных уладаў і іхных органаў. Менавіта з гэтай прычыны яны выкарыстоўвалі для пагромаў літоўскія і ўкраінскія фармаваньні. Заўважым, што апошняя акалічнасьць не дасьледавалася ў савецкай навуковай літаратуры пра вайну», — завяршае сваю думку дасьледчык.

*Севярын Квяткоўскі:*

*Хтосьці аднойчы параўнаў сьвядомых беларусаў з жыдамі. Маўляў, гэткая ж культурная меншасьць. Параўнаньне прымусіла задумацца. Калі я на пачатку 1990-х пачуў песеньку Андрэя Мельнікава пра «Гэбрайскі швадрон», дык быў зьдзіўлены зь дзьвюх прычынаў. Папершае, з таго, што і ў нас было сваё антыбальшавіцкае змаганьне за незалежнасьць, а па-другое, з вобразу ваякі-жыда, які ліха махае шабляй. У абодвух выпадках інфармацыя пярэчыла савецкаму школьнаму вобразу «памяркоўных» прыгнечаных людзей.*

*Упершыню непрыгнечаных, узброеных жыдоў я пабачыў у тэлепраграме «Время». Але ж гэта былі «ізраільцяны». Што да непрыгнечаных беларусаў, іх я пабачыў значна пазьней, напрыканцы 1980-х, затое не ў тэлевізары, а ў жыцьці. Як усе савецкія «акцябраты», я ўжываў слова «жыд» як сынонім «скнары», вядома, у расейскай вэрсіі. Як большасьць, са зьдзіўленьнем даведаўся, што гэтае слова мае «нацыянальную афарбоўку». Але ў чым сакрэт — дойга ня мог уцяміць. Бо ж мой аднаклясьнік-жыд размаўляў, як усе, насіў піянэрскі гальштук, як усе, кідаўся сьняжкамі, як усе. Колер валасоў? Дык у дзяўчынкі-палестынкі, што вучылася ў нашай школе, яны былі яшчэ больш чорныя й курчавыя. Раскрыў таямніцу артыкул з энцыкляпэдычнага даведніка «Беларусь»: «Сучаснае расьсяленьне яўрэяў мае дыспэрсны характар, асаблівых адрозьненьняў ад насельніцтва, сярод якога яны жывуць, няма».*

*Жыхары БССР прыблізна ў адзін перабудовачны час пачалі цікавіцца тымі самымі «адрозьненьнямі», якія канчаткова губляюцца ў паваенны час савецкай індустрыялізацыі. Мяркую, тады шмат хто з жыдоў пакутаваў ад сваёй спадчыннай картавінкі, гэтаксама, як беларусы ад спадчыннага «чэканьня», ды ад іншых нацыянальных «анахранізмаў». Ці думалі тыя жыхары БССР, што іхныя ўнукі пач-*

*нуць упарта вывучаць «анахранічныя» мовы, кніжкі, песьні?*

*Як бы там ні было, жыды зь Беларусі зьехалі. У адной спрэчцы, дзе мне талдычылі пра тое, што «жыды пазаймалі ўсе кіраўнічыя пасады ў культурных установах», я сказаў, што ўсіх зьехаўшых жыдоў памяняў бы на прыехаўшых расейцаў. Пазьней я зразумеў, што не зусім быў шчырым. Я казаў пра тых жыдоў, што мелі свае «адрозьненьні», а значыць, паважалі нашыя.*

*Ці можна вінаваціць чалавека за жаданьне зьехаць зь беднай краіны, дзе пануе дыктатура, у багацейшую, дзе слова «жыд» азначае толькі адно — нацыянальную прыналежнасьць? Я далёкі ад думкі, што большасьць беларускіх савецкіх жыдоў ехала ў Ізраіль з прычыны сваёй вялікай нацыянальнай сьвядомасьці. Але. Прыяцель-жыд, які калісьці ў Койне загаварыў па-беларуску, бо не хацеў перад «эўрапейскімі» літоўцамі выглядаць саўком, распавёў мне такую гісторыю. Пра свой шок, калі ў першы тыдзень знаходжаньня ў «абяцанай» яму «зямлі» ў невялікай краме ў Хайфе ўбачыў плякат — «У нас можна казаць па-беларуску». Гаспадыня крамы аказалася былой настаўніцай белмовы з Бабруйску. Яны сустрэліся як суайчыньнікі за мяжой. Дарэчы, прыяцель стаўся грамадзянінам Ізраілю, але вярнуўся жыць у Беларусь, на Радзіму.*

*У адрозьненьне ад жыдоў, наша «Абяцаная Зямля» ляжыць у нас пад нагамі. І беларусамі мы можам быць толькі на ёй. І калі ў нашых*



*крамах зьявіцца шыльдачкі «кажыце па-беларуску», вернуцца і нашыя жыды.*

Беларусь без жыдоў і Беларусь безь беларусаў — гэта тоеснасьць. І калі вы шукаеце ў Менску асаблівае духоўнасьці гораду і не знаходзіце, калі вы спрабуеце адчуць дух Вялікага Княства і не адчуваеце, калі ў вас не заладжваецца гаворка з палякам, літоўцам або ўкраінцам, я магу дапусьціць, з-за чаго гэта, і якая зьвязка выпала з колішняе супольнасьці. Зь іншага боку, з жыдамі і яшчэ хіба з татарамі, у гэткай разнастайнасьці і побач з прыкладамі тыранічных дзяржаваў наша колішняе Вялікае Княства нагадвала Амэрыку часоў стварэньня найстарэйшай у сьвеце канстытуцыі. Можа, таму паўстаў у нашым краі ўжо ня надта зразумелы сёньня фэномэн талерантнасьці...

Але іх няма. Няма і нас. І калі яны зьехалі зь незапатрабаванымі ізумрудамі нашай супольнай духоўнасьці, дык мы пакінулі сабе ад іх адно голы і ні на чым не ўгрунтаваны антысэмітызм і калхозную беднасьць духу. З тым і засталіся, бясконца задоўжыўшы свой шлях да саміх сябе. Статыстычны беларус не пачуваецца гаспадаром у сваёй краіне ў тым ліку і таму, што жыве не ў Беларусі, а ў чужой пакінутай паласе аселасьці.

этэр 30 студзеня 2000 г.

## Мова-2000

Калега неяк згадаў, што бачыў у адным амэрыканскім музэі факсавы апарат 1918 году. Гэта акурат таго часу, калі рэвалюцыйны матрос у Расеі браў тэлеграф, каб дабрацца да доўгіх папяровых стужак і тэлеграфаваць Леніну. А ў Амэрыцы, бачыце, ужо пасылалі факсы.

А яшчэ мне давялося ў рэдакцыі газэты «Вашынгтон пост» бачыць лінатып канца 19 ст. — такі самы, на якім яшчэ ў 1980-я гады рабіліся ў нас усе газэты. Цалкам магчыма, што і сёньня застаўся дзе-небудзь такі — у раённай ці заводзкай шматтыражцы.

Лінатып — гэта друкарская наборна-адлівачная машына, помнік тэхнічнай цывілізацыі, робат з рукамі, страўнікам і ротам... Вось балванка сплаву апускаецца ў кацёл, тым часам клявіятура набірае латунныя літаркі-матрыцы ў радок. Матрыцы зь лязгатам лятуць аднекуль зьверху, з «барабанаў». І вось радок сабраны. Жалезная рука засоўвае яго ў пашчу лінатыпу, дзе радок адліваецца ў мэтал. Нешта сярэдняе паміж робатам-цацкай і робатам-касьмічным прыхаднем. Адно, што перасоўвацца самі лінатыпы ня ўмелі. Можа, з-за гэтага і вымерлі. Як дыназаўры навукова-тэхнічнага прагрэсу. Разам зь імі выйшла з ужытку і іхнае імя.

А пачаў я з факсу і лінатыпу — гэтых сымбаляў цывілізацыі, каб сказаць, што 20 стагодзьдзе ў беларускай мове не адлюстравалася,



не ўвайшло сваімі рэаліямі і зьявамі ў яе тканіну і кантэкст. Усе здабыткі цывілізацыі, якіх за мінулыя сто гадоў была процьма, мы называем запазычанымі словамі, чужымі нам паводле духу і літары. Гэтыя словы не належаць мове. Яны ёсьць, а могуць і ня быць, бо яны ёсьць і ў іншых мовах — у расейскай, праз якую да нас прыйшлі, або ў ангельскай ці нямецкай, у якіх, як правіла, нараджаліся. Але аб'ём такой незасвоенай лексыкі ў беларускай мове расьце, нібы тое чужароднае цела, выцясьняючы ўсё астатняе, сваё. Бо расьце вакол нас колькасьць новых цывілізацыйных выгодаў. Усё большая частка моўнага цела замяняецца пратэзамі.

Так адбываецца зусім не таму, што беларускія навукоўцы нічога не далі сусьветнаму навукова-тэхнічнаму прагрэсу. З гэтым якраз праблемаў няма, пачынаючы яшчэ з 19 ст., калі ўвогуле не зь сярэднявечча, і сканчаючы сёньняшнім днём. Але мова прагрэсу ні тады, ні цяпер — не беларуская. І ў гэтае зьявы прычына ўжо чыста палітычная. А менавіта — русіфікацыя, у яе самых падступных праявах.

Пачнем са слоўніка, які дасьць нам магчымасьць увачавідкі агледзець лексычную карціну. З артаграфічнага школьнага слоўніка беларускай мовы, у якім 20 ст. не адлюстравалася амаль ніводным беларускім словам.

Ёсьць, праўда, хрэстаматыйныя выключэньні, але іх, здаецца, усяго два. Гэта слова цемрашал, якім Кандрат Крапіва пераклаў расейскага *мракобеса*, і слова хмарачос, якім не без насьмешкі пераклалі расейскі *небоскреб* —

найперш амэрыканскую на той час зьяву. Праўда, са зьяўленьнем легальных праамэрыканскіх настрояў у беларускамоўнай публіцы, зьявіўся і больш лагодны, паэтычны нават тэрмін. Хмарачосы сталі называць небасягамі.

У школьным артаграфічным слоўніку маю ўвагу прыцягнулі тэрміны, якія пачынаюцца з «электра». Вось электрапыласос. Цікава, мы ніколі яго так не называлі. Магчыма, існавалі і нейкія іншыя пыласосы — мэханічныя, напрыклад, ці пнэўматычныя. Нехта надзімае мяхі, а нехта другі соўгае шчоткай па падлозе. Або — электрапрайгравальнік. Я так разумею — гэта пра вінілавыя адаптары, якія сышлі ў нябыт, на масавым, прынамсі, узроўні. Беларуская мова нават не пасьпела ўсё гэта засвоіць, а яно ўжо і зьнікла. Электракамбайн, электралямпа, электратранспарт — проста заварожвала нашых людзей гэтае электра- яшчэ ў сямідзясятыя. Падобна, як сёньня заварожвае прыстаўка эўра-: эўрарамонт, эўрашыбы, эўрадзьверы... Ажно тая заварожанасьць зьнікла кудысьці, саступіўшы месца іншым страхоцьцям з будучыні. І яшчэ раз пацьвердзіўшы, што навукова-тэхнічны прагрэс — гэта толькі вонкавая праява, інфраструктура, якая не зьмяняе і ня зьменіць сутнасьці чалавека. Ажно мова, што ні кажы, мусіць засвойваць тэрміналёгію гэтага самага прагрэсу.

Вось цяпер — усеагульная кампутарызацыя. Гэта ці не кампутары мы яшчэ ўчора называлі ЭВМ — электронна-вылічальная машына? Які-небудзь файл палякі называюць «плік», а мы кажам — файл. Пры гэтым можна заўважыць, што ўсе праграмы ў менскіх карыстальнікаў — як правіла, расейскамоўныя. Што Ўіндаўз, што Інтэрнэт Эксплорэр, што Ўорд. Хоць уласна расейскага ў іх няшмат. Кажуць: ты працуеш на пісі, а я — на макінтошы. Што тут расейскага? А вось што — добраахвотны выбар. Бо калі няма свайго, чаму не карыстацца арыгіналам — ангельскімі праграмамі? Спытайцеся пра гэта, і вам хто-небудзь абавязкова адкажа рытарычным прэзыдэнцкім «А зачэм?»



Што ЭВМ, што ВЦСПС у школьным слоўніку выглядаюць аднолькава, як рэчы аджылыя, забытыя, а ўжо цяперашняму школьніку і незразумелыя.

Ці можам мы суцяшацца тым, што праз дзясятак гадоў забудзецца і ўсё гэта? А можа, і яшчэ раней. Давайце падумаем. Можа, захаваць мову на ўзроўні спрадвечнай лексыкі і не псаваць яе наватворамі? Урэшце, тое, што не зьмяняецца, не разьвіваецца, ніколі й не памірае.

А можа, гэта значыць, што тэхнічная цывілізацыя не прыняла нас? Ці што мы не прынялі яе? І яшчэ: ці трэба культуры засвойваць тое, што прамінае з часам? Магчыма, наша беларуская бязьдзейнасьць у гэтай справе дасьць нам нейкія дывідэнды ў будучыні?

Каб разабрацца ў гэтым, варта зьвярнуць увагу на досьвед нашых суседзяў.

*Сяргей Шупа:*

*Галоўным клопатам моватворцаў заўсёды было супрацьстаяць уплыву пануючай на працягу стагодзьдзяў культуры — нямецкай у чэ-*

*хаў, польскай і расейскай — у літоўцаў, нямецкай і расейскай — у эстонцаў. Сродкі ўжываліся розныя. Найперш актывізаваліся ва ўжытку старыя і даўно забытыя словы, пераглядаліся багацьці народных гаворак, а таксама ўтвараліся новыя словы ад наяўных каранёў. Так, прыкладам, чэская мова займела шмат сваіх спэцыфічных словаў, якіх няма ў іншых мовах. (Памятаю, як аднойчы зь сябрамі мы спрабавалі адкаркаваць бочку з чэскім півам, але ня здолелі разабраць інструкцыі, дзе ўсе словы былі спрэс славянскія. Давялося прапароць бочку нажом і абліцца півам з ног да галавы.) Чэхі няшчадна перакладалі й перакладаюць звыклыя нам інтэрнацыяналізмы: «цэнтральны камітэт» — «ústřední výbor», «патрыёт» — «vlastenec», «радыё» — «rozhlas», «нумар» — «číslo», «кампутар» — «počítač», «файл» — «soubor».*

*У польскай мове хваля пурызмаў была меншая, аднак, прыкладам, цалкам спольшчаная некалі была ўся тэхнічная тэрміналёгія, у якой амаль не знайшлося месца нямецкім, францускім ці ангельскім тэрмінам, якія, прыкладам, прыжыліся ў расейцаў, дзе пурызм заўсёды лічыўся нечым непрыстойным. Вось жа «дросэль» у палякаў — «dławik», «парашут» — «spadochron», «танк» — «czołg», а «шарыкападшыпнік» — «łożysko kulkowe».*

*Літоўская мова дагэтуль спрабуе супрацьстаяць наплыву барбарызмаў, і адмысловая моўная камісія пры Літоўскім Сойме, прыкладам, рэкамэндуе замест чужынскіх «гамбургер» і «хот-дог» ужываць наватворы «mėsainis» і «dešrainis», што па-нашаму больш-менш гучала б як «мясень» і «каўбасень». Прыгожае слова прыдумана для гелікоптэра — «malūnsparnis», «млынакрыл».*



*Самыя дзівосныя рэчы адбываліся ў эстонскай мове, дзе на пачатку 20 стагодзьдзя актыўна ўжываўся самы рэдкі спосаб словатворчасьці — стварэньне каранёў зусім з галавы. Так узьніклі звычайныя сёньня словы «relv» — «зброя» ці «laip» — «нябожчык». А ў 1960-я гады Таварыства Эстонскай Мовы пачало нават рэгулярна абвяшчаць конкурсы на стварэньне новых словаў, у якіх бяруць удзел самыя шырокія колы грамадзтва. Што самае цікавае — шмат якія з прыдуманых словаў прыжываюцца, накшталт «teabe» — «інфармацыя», або «raal» — «ЭВМ». Апошняе слова, дарэчы, таксама ўзята з галавы. Проста гучыць прыгожа і па-эстонску.*

Моватворчасьць — з гледзішча самое грамадзкае атмасфэры ў сёньняшняй Беларусі — справа неабавязковая, калі нават ня лішняя. Але бяруся сьцьвярджаць, што менавіта ў такіх клопатах чалавечая асобіна ператвараецца ў чалавека. Зрок робіцца танчэйшым, адчуваньне свайго, найбольш адэкватнага сабе робіцца вастрэйшым, зьяўляецца ўменьне цаніць абстрактныя, быццам бы, інтэлектуальныя каштоўнасьці. Гэтак найбольш дарагой выглядае кніга, ахайна дагледжаная ў вясковай хаце. Адваротны прыклад — калі кажуць, што дармаеды-пісьменьнікі ядуць хлеб працоўнага на-

роду. На жаль, у цяперашняй Беларусі пашыраюцца якраз такія настроі.

З сказанага зразумела, чаму так істотна разгледзець прэцэдэнты беларускае моватворчасьці, якія ў сваіх зародках былі нічым ня горшыя, чым у суседзяў.

*Сяргей Шупа:*

*Якім было 20 стагодзьдзе ў беларускай мове, відаць, доўга тлумачыць ня трэба. За вынаткам 1920-х гадоў, калі палітыка і мова ў нас ішлі больш-менш поплеч, і адбываліся падобныя да апісаных вышэй працэсы, беларуская мова не жыла паўнакроўным жыцьцём дзяржаўнай мовы нацыянальнай дзяржавы. Яе ў шматлікіх функцыях замяніла расейская, і ў штодзённым жыцьці беларусы назіралі за расейскімі працэсамі новага называньня. У афіцыйную, «дэкарацыйна-сувэнірную» беларускую мову фактычна ўсе слоўныя навіны стагодзьдзя аўтаматычна пераносіліся з мовы расейскай, таму складаньне тэрміналягічных слоўнікаў часта ператваралася ў практыкаваньне ў фанэтыцы — трэба было толькі запісаць расейскае слова па-беларуску.*

*Калі ў 1970—80-х гадох літаратурная, гарадзкая беларуская мова зноў рэальна зажыла ў новых жывых беларускіх колах, пачалася і моватворчасьць, прадыктаваная патрэбамі штодзённага жыцьця. Так, паводле прынцыпу «абы не па-расейску», пачалі запускацца слоўцы накшталт «пляшка» замест «бутэлька», «гаўбец» замест «балкон», «лейцар» замест «штопар», «крама» замест «магазін», «чыюк» замест «папугай» ды шмат чаго іншага. Словы «сьвятар», «спадар», «выканкам», «тэлефанаваць» ад тых часоў пачалі гучаць нават у афіцыйных радыё і тэлевізіі ды нават трапілі ў слоўнікі. У ранейшых слоўніках такіх словаў або не было зусім, або яны пазначаліся абласнымі, састарэлымі, прастамоўнымі.*

*Аднак моваабнаўленьне 20 стагодзьдзя ў беларускай мове так і не рэалізавалася поўнасьцю. Лексычнае наватарства не спынілася і магло б стацца цікавай тэмай культурнага дыскурсу. Колькі прадметаў і паняцьцяў нашага штодзённага побыту яшчэ чакаюць свайго прыдатнага беларускага найменьня — усе гэтыя «батарэі ацяпленьня», «унітазы», «пад’езды», «лесьвічныя пляцоўкі». Аднаўленьне сусьвету ў беларускай мове — прыгожая справа для новага тысячагодзьдзя.*



У школе першым прыкладам нэалягізму называлі касманаўта. Маўляў, разам са зьяўленьнем новых рэаліяў зьяўляюцца і новыя словы. Гэта так, але ўсе, бадай, без выключэньня нэалягізмы ў беларускай мове былі нэалягізмамі расейскай мовы, безь якой-кольвек істотнай адаптацыі. Больш за тое, узятыя зь піетэтам да расейшчыны. Згадайма, што словы *большэвік* або *совет*, альбо *коммунізм* сьпярша так і пісалі па-беларуску — праз «о». Гэта значыць, што засваеньня або адлюстраваньня ў мове новых рэаліяў жыцьця папросту не было. Люстэрка мовы было ў 20 стагодзьдзі завешанае, як за-

вешваюць люстэрка ў хаце, у якой ёсьць нябожчык.

Як бачым, і палякі, і літоўцы па крупіцах лепяць сучасны вобраз сваіх моваў, імкнуцца ўводзіць гэтыя мовы і ў кампутар, і на біржу — балазе, паўсюль гэта рэглямэнтуецца і законамі аб мове. У Эстоніі конкурсы нэалягізмаў праводзяцца з шасьцідзясятых гадоў. А ў Польшчы гадоў пяць таму велізарны конкурс праводзіла «Газэта Выборча». Высьвятлялі, да прыкладу, як можа па-польску гучаць «сэкс-шоп». Для беларускай рэальнасьці такія ўсенародныя ініцыятывы выглядаюць, згадзіцеся, дзіўнавата. Чаму?

Адказ знаходзім у іншым баку. Дзіўнавата гэта ўсё выглядае і ў расейскай рэальнасьці. Ад спробы ўводзіць нэалягізмы ў пачатку стагодзьдзя засталіся хіба што анэкдоты пра лапці-макраступы. У цэлым жа Расея традыцыйна бярэ заходнеэўрапейскую лексыку, ня надта яе перарабляючы. Прычына гэтага ва ўсьведамленьні велічы нацыі й дзяржавы. А гэтая веліч спараджае сон душы. Заклапочаны ў такой сытуацыі толькі невялікі народ, якому праз усю гісторыю стаіць праблема выжываньня. Безумоўна, гэтаксама, як літовец або чэх, мусіў бы паводзіць сябе і беларус. Але беларус — у полі расейскага сну.

Гэтай расслабленасьцю, якая прыйшла да нас з русіфікацыяй, тлумачыцца, дарэчы, ня толькі стаўленьне да сваёй мовы, але й да гісторыі і, калі хочаце, да палітыкі, гаспадаркі, да сябе.



этэр 30 красавіка 2000 г.

## «Сказ пра Лысую гару»

Калі верыць даведцы часопіса «Вожык», ананімная паэма пра Лысую гару зьявілася на сьвет і пачала перадавацца з рук у рукі 25 гадоў таму. Унікальны твор позьняга савецкага часу дагэтуль ахутаны хмараю таямніцаў. Няхай сабе мы ня ведаем і ніколі не дазнаемся імя аўтара. Верагодна, ён быў калектыўны, верагодна таксама, што іх было некалькі. Але ёсьць яшчэ і таямніца паходжаньня, і фэномэн літаратурнага лёсу. Паэма, у якой няма ані кроплі антысавеччыны ці хоць бы нонканфармізму, перадавалася з рук у рукі нароўні з машынапісным «Майстрам і Маргарытай» ці фотакопіямі філязофскага эсэ Ігната Абдзіраловіча «Адвечным шляхам» — творамі, якія за савецкім часам зусім не ўхваляліся, дзякуючы іхнаму зьместу. Чаму ж бяскрыўдны «Сказ пра Лысую гару» патрапіў у гэтую самвыдавецкую плынь?

*Зьміцер Бартосік:*

*Ніяк не магу ўзгадаць, якім чынам на маёй паліцы апынулася гэтая брашура. Дакладней, што прымусіла мяне набыць чацьверты нумар бібліятэкі часопіса «Вожык» за 1991 год. Недзе год кніжка некранутаю пылілася на паліцы, пакуль аднойчы я не пачуў у радыё, што «Сказ пра Лысую гару» — рэч ня толькі геніяльная, але й самая вялікая загадка сучаснай беларускай літаратуры.*

*Легендарную паэму я прачытаў за нейкую гадзіну. Пачатак інтрыгаваў. «Наш век — нагул вельмі тлумны, мы з гэтым звыкліся даўно: футбол, і бокс, і джаз бяздумны, і п'янкі з сэксам заадно». Але далей я разумеў усё меней. Чытаньне нагадвала прысутнасьць на чужым капусьніку, дзе ўсе адзін аднаго ведаюць, адзін з аднаго пацьвельваюць, адзін з аднога рагочуць, а ты вымушаны сядзець дурнем і ветліва рабіць выгляд, што ты таксама «ў курсе» й табе таксама вельмі сьмешна. Я не зразумеў, навошта аўтару гэтых тысячы пяціста трыццаці сямі радкоў трэба было хавацца за псэўданімам? У той час, той век, тую эпоху ў суседняй Расеі адкрыта пісаліся й сьпяваліся зусім антысавецкія творы, за якія іхныя аўтары расплочваліся загубленымі кар'ерамі й здароўем. Ну, ня дзеля гэтых жа радочкаў трэба было кансьпіравацца: «Яны даўно былі гатовы ажыцьцявіць «сьвяты» парыў — ліквідаваць дашчэнту мову, якой Купала гаварыў. Калі б іх партыя хоць зрэдку не асаджала пугаўём — дык без указу, без дэкрэту, глынулі б бедную жыўём!» Але самаю вялікаю загадкаю быў наклад тае кніжачкі. 100057 асобнікаў. Зь якіх ніводзін не затрымаўся ў кнігарнях і шапіках. Нават у букіністычных крамах я не заўважаў гэтай кніжачкі. Прычым выданьне было паўторнае. Аб такім камэрцыйным посьпеху можа марыць любы пісьменьнік. І ці ня лепшы гэта быў доказ жыцьця «мовы, якой Купала гаварыў»?*

*...Быць маім экскурсаводам на Лысай гары ласкава згадзіўся Гаральд Вольскі, які першы*



*пабудаваў тут хату й многія гады быў старшынём праўленьня дачнага пісьменьніцкага кааапэратыву. Мы блукалі па мясьцінах, так падрабязна апісаных у паэме, і цыталі найбольш цікавыя кавалкі. Той век, той час, тая эпоха пакрысе пачыналі матэрыялізоўвацца ў стракатым краявідзе рознакаляровых дамкоў, па-над якімі панавала самая сапраўдная, ня лысая, а шчыльна парослая лесам гара.*

*Гаральд Вольскі:*

*«Адзін празаік (маецца на ўвазе паэт Кірэенка, вось яго дачка якраз) меў удачу: купіць гаўна ён бочку змог. Прыпёр упоцемку на дачу і начапіў цяжкі замок. Тады, на сорам Чалавеку, — ад слаўных будняў убаку — і ўзьнік ганебны лёзунг веку: «Гаўно трымайце на замку!»*

*А як было... Я, Звонак і Няхай шашлыкоў наеліся й пайшлі гуляць. Глядзім, тут Кастусь Кірэенка нешта майструе. Падышлі бліжэй — ён там дзюркі на бочцы робіць і скабу, каб замок павесіць. Аказваецца, гэта ён прывез бочку курынага памёту і, каб не сьцягнулі, прычапіў гэты цяжкі замок. Так што гэта меўся на ўвазе не празаік, а паэт Кірэенка...*

*«У зьвязку з гэтаю праблемай, якой жылі гаспадары, дыскусій шмат было й палемік на схілах Лысае гары. — Абы дзярмо, — аднойчы ўвечар сказаў Няхай і тут жа скіс. Але паэту запярэчыў (іхная хата якраз насупраць) празаік Сачанка Барыс: Ну, не кажыце: гной ня роўны. Найлепшы той, што зробіш сам. Бо ён жа твой, уласны, кроўны, Як твор, які ты*

*напісаў. Мне гной уласны найдарожшы за ўсякі куплены другі, хоць, пэўна добры гной у Прокшы, і ў Лукшы, мабыць, неблагі»...*

*Наконт «Байкануру». Мы гэты ўчастак звалі «Байканур». Сіла Гусеў паставіў «шпакоўню», туалет маецца на ўвазе, а даху не было. Дык ён зь нейкага дому ўзяў такі выцягнуты каўпак. А каб вада ня йшла, дык яшчэ зрабіў наканечнік. Атрымалася ракета. «Ён форму ўзяў для туалета — што аж зайздросна паглядзець: як ёсьць касьмічная ракета, вось-вось гатовая ўзьляцець! І гэтай формы сэнс быў ясны: Заходзь, садзіся і ўключай! Ну, а ці быў там зьмест сучасны — ты ўжо, чытач, мне выбачай...» Але яе ўжо няма. Сіланці Гусеў... Ён жа «аўроравец». Штурмаваў Зімні. Ён расказваў, што ніякага штурму не было. Чырвонагвардзейцы падышлі да жаночага батальёну, прапанову зрабілі, тыя й разьбегліся. Мой бацька таксама прымаў удзел у гэтым. Так што ўсё гэта казкі...*

*«Таму Валоўшчынская крама амаль заўжды была пустой: пітва ніякага ні грама — хоць трупам ляж, хоць слупам стой!» Гэта была такая крама каля фэрмы, і фэрма ўжо развaленая. У краме той гарэлка была, хлеб быў. А пасьля зачынілі яе, не вазілі нічога. «Дык у сяле не без прычыны бурчэлі злосна мужыкі: «Ці не адпэндзіць нам, мужчыны, адсюль пісьменьнікаў такіх?»*

*Зьміцер Бартосік:*

*Я разьвітаўся са старым Гаральдам і працягнуў сваю вандроўку па Лысай гары самастойна. Быў сьпякотны й яркі, амаль летні дзень, які так не гарманізаваў з маўклівымі дамамі-дэкарацыямі «тае эпохі». Там дзе некалі адбываліся шумныя анэкдатычныя лысагорскія сваркі, п'янкі й гулянкі, сёньня панавала сьпякотная цішыня, якую парушалі адно салаўі. Я разумеў, што яшчэ не сэзон для масавага дачніцтва. Але пачуцьця няўтульнасьці гэта не пазбаўляла. Я блукаў па пустым пасёлку ў надзеі знайсьці каго-небудзь з пэрсанажаў. Дзіўна — прывідны аўтар, хочучы таго ці не, ператварыў бальшыню рэальных асобаў, людзей, думаю, зь ня меншымі творчымі амбіцыямі, ва ўсяго толькі сваіх забаўных пэрсанажаў, сэнс жыцьця якіх быццам абмяжоўваўся чатырма соткамі зямлі. Зрэшты, ад каго яшчэ я мог даведацца пра пісьменьніка й бальшавіцкага штурмавіка Сілана Гусева, аб якім маўчыць энцыкляпэдыя? Якая ўсё ж нястрашная атрымалася ў таго Ведзьмака эпоха. Ад ідыятызму ЦК і СП можна было зьбегчы на лецішча, уключыць ціхенька беларускую «Свабоду» і зарыцца ў грады. Але пра гэта таксама ў паэме ёсьць: «Абмаляваўшы голь і ўбоства, пара зрабіць мне рэзюмэ: страшней няма самазабойства, чым вось такое — на дзярме! І калі, дружа Грыша-Міша, мяне ты ў госьці пазавеш — я не спытаю, што ты пішаш? Я запытаю: чым жывеш? Ты зубы мне не загаворыш. Ёсьць дыялектыкі закон: Дзярмом жывеш — дзярмо і творыш. (А натварыў — дык выкінь вон! )»*

*Неўзабаве мне пашанцавала на сустрэчу. Каля акуратнага дамка з чырвонай цэглы я спаткаў пісьменьніка, кніжкамі якога зачыт-*

*ваўся яшчэ ў дзяцінстве, Міхася Герчыка. Размову зь ім я вырашыў пачаць з цытаты: «Аўрамчык з Герчыкам і Жычка — як бабруйчане-землякі — у бабруйчан вядома звычка — з радзімы вывезьлі дамкі».*

*Міхась Герчык:*

*Так. Вось гэтыя дамкі. Вось мой, вось побач дом Жычкі. Потым я свой абклаў цэглай, але гэта той самы дамок. Ну вось, з 1968 году, з раньняй вясны ўсё гэта пачыналася. Прайшло больш за 30 гадоў. І, на вялікі жаль, за гэтыя 30 гадоў шмат людзей ужо адышло ў нябыт. І часам вечарам, калі я хаджу па гэтых вуліцах, мне здаецца, што я хаджу па могілках.*

*«Сказ пра Лысую гару», калі ён зьявіўся, нарабіў шораху, канечне. Мы атрымалі яго ў выдавецтве, гэтак жа, як і атрымлівалі ўсе. Раптам раніцай прынесьлі пошту, і сакратарка адкрыла пакет, прачытала, і па ўсім выдавецтве пайшоў погалас, што зьявілася такое-нейкае цуда. Пачалі чытаць. Ну, там пра ўсіх. Пра нас неяк так ашчадна, з Жычкам і Аўрамчыкам. Пра Аўрамчыка там ёсьць больш злосна. І пра Жычку. Жычка тады быў рэдактарам «ЛіМа». Займаў важную пасаду. Тут Чэрня са сваімі хлопцамі памагалі будаваць яму дом. І ў Аўрамчыка маладыя аўтары завіхаліся. Ён загадваў аддзелам паэзіі. Але ўсё гэта глупства, вядома. Памагалі па-сяброўску.*

*Я асвойваў гэты ўчастак вельмі арыгінальным спосабам. Тут быў суцэльны дзірван. І вось я прыехаў раней, прывез дзесяць пляшак гарэлкі і закапаў іх у розных месцах па ўчастку. Сабраў сяброў і сказаў: «Во, капайце. Як знойдзеце першую, так і сядзем. І так паступова ўсе дзесяць і апрыходуем». Мы два дні капалі гэты ўчастак, бо капалі надта старанна. Каб не пабіць гэтыя пляшкі рыдлёўкай. Як дабраліся да першай, дык было агульнае сьвята. Селі й пасядзелі добра, тут, у гаёчку. За два дні выбралі ўвесь пырнік, перакапалі ўсю зямлю, і знайшлі ўсе дзесяць пляшак. Ніводнай не пабілі. Вельмі ўдала працавалі людзі, вельмі старанна.*

*Хто напісаў гэтую паэму, так мы і ня ведаем. Называлі многа імёнаў, называлі й Звонака, называлі й Караткевіча, называлі й Барадуліна. Паэма напісаная таленавітай рукой. Вядома, пісаў яе майстар. І ня толькі майстар, але й чалавек, які глыбока знаў вось гэту рэчаіснасьць. Дэталі, якія ёсьць у паэме, іх нельга было пачуць ад некага. Іх трэба было бачыць самому. Чалавек ведаў усё, усе падрабязнасьці. Калі нехта пабудаваў там прыбіральню, як ракету — Гусеў, здаецца — дык гэта адразу ж легла ў паэму. І крыўда была. «Вялікі друг усіх славян», вядома ж, быў абражаны й пакрыўджаны страшэнна. А мы сьмяяліся...*

*Была нейкая паездка неўзабаве. Тады ЦК любіла наладжваць паездкі пісьменьнікаў па вёсках, па райцэнтрах. А тады быў сакратар ЦК па ідэалёгіі... ня памятаю прозьвішча. І Шамякін пажартаваў у аўтобусе — а што, калі надрукаваць. А той сказаў — чаму не? Друкуйце. І, тым ня менш, надрукавана яна была значна-значна пазьней. І зрабіў гэта Лёня Гаўрылкін, зямля яму пухам. Ён быў*

*тады рэдактарам «Вожыка». І ў «Вожыку» выйшлі два выданьні. Першае разьляцелася імгненна. Зачытваліся. Прычым самае дзіўнае, што зачытваліся людзі далёкія ад літаратуры, якім усе гэтыя рэаліі былі абсалютна чужыя. У таксі садзісься, таксіст пытае... Так размова зойдзе нейкая, альбо гаішнік спыніць на дарозе — гэта вельмі часта са Ставерам было. Ён бясконца парушаў правілы руху, яго бясконца спынялі гаішнікі. Ён ім адразу дарыў свае кнігі, крычаў, што ён беларускі паэт. Яму гаварылі: «Ага! Раскажы пра Лысую гару. Што вы там круцілі на Лысай гары». У любым асяродзьдзі звычайна ў той час, пра што заходзіла гаворка, гэта пра «Сказ пра Лысую гару». Паэма адлюстравала рэчаіснасьць, асэнсавала той час — гэта бясспрэчна. Гэта выдатная рэч. «Сказ пра Лысую гару» застанецца помнікам часу. Гэтак жа, як «Тарас на Парнасе». Гэта адмеціна таго складанага часу, і добрага ў нечым, і кепскага, вядома. Добрага, можа, таму, што мы маладыя былі. Былі маладыя, здавалася, што жыцьцё наперадзе, усё пасьпеем...*

*Зьміцер Бартосік:*

*«Ну, вось і ўсё маё сказаньне, і кропку ставіць мне пара. Пара сказаць на разьвітаньне: бывай жа, Лысая гара!»*

*Я вяртаўся ў Менск, так і не адкрыўшы да канца сакрэту папулярнасьці старой паэмы. А можа, ніякага сакрэту й не было? А было жывое жаданьне паказаць жывое жыцьцё жывою моваю. Не за ганарар, а каб цікава было. Здаецца, ва ўсе часы ды эпохі гэтага было дастаткова, каб цікавасьць публікі не вычэрпвалася праз пару гадоў. «Сказу» Ведзьмака-Лысагорскага сёлета спаўняецца дваццаць пяць.*



*Сяргей Харэўскі:*

*Ува ўсіх народаў арыйскага паходжаньня, ад Ірану да Скандынавіі ёсьць свае Лысыя горы. Іх назва трывала зьвязваецца з рознай чартаўшчынаю. Менавіта на гэтых гарах гойсаюць бесы й колькі разоў на год зьбіраюцца ведзьмы на свае шабашы. У Швэцыі — гэта Блакула, у Гішпаніі — Бараон, у Літве — Шатрыя пад Шаўлямі, у Італіі — Сьпінато й Патэрна, у немцаў з аўстрыякамі іх цэлая плойма — Блёксбэрг, Хорсэльбэрг, Бэхтэльбэрг ды шмат іншых. Тое і ў славянаў. Ёсьць гэткая Лысая гара блізу Кіева, ёсьць каля Львова, ёсьць у Карпатах ля Закапанага. У польскіх Сьвятакрыскіх гарах іх нават дзьве. Адну перайменавалі ў Сьвятой Кацярыны, а другая засталася Лысіцай.*

*Расейскі гісторык 19 стагодзьдзя Хадоўскі налічыў больш за пятнаццаць гор з гэткай назвай у славянскіх краёх. Ён піша: «Лысыя горы, на якія зьбіраюцца баба-Яга зь нячыстымі духамі, зь ведунамі й ведзьмамі — месцы абавязкова прыгожыя. І шабашы творацца тут у чыстае бязвоблачнае надвор'е».*

*Што ж такое ведзьмін шабаш? Паводле эўрапейскіх традыцыяў, ведзьмы зь ведзьмакамі адпраўляюцца на шабаш вярхом на мятле ці на кіях. Яны выходзяць уначы на ростань. Каля тае ростані раскрываецца страшная*

*пячора. Нячысьцікі станавіліся перад ёю й тройчы гукалі шатана, каб ён забраў іх на Лысую гару. Шатан зьяўляўся на покліч сваіх прыхільнікаў, апранёны ў шэры каптан, чырвоныя штаны й вастраверхі капялюх. І барада ў яго вялікая рудая... Ён падхопліваў сваіх гасьцей, і яны небам адпраўляліся на баляваньне. На Лысую гару. Шатану дапамагае натоўп чартоў. Усе чарты набываюць выгляд казлоў, верхам на якіх і лятуць усе ахвочыя на шабаш. Многія вядзьмаркі прыводзяць з сабою дзяцей. Асаблівай была й пачостка на гары. Абавязковыя стравы: капуста з салам, аўсяная каша, масла, сыр ды малако. Зрэшты, што тут дзіўнага? Адсутнасьць алькаголю! Так... паелі, папілі, парагаталі ды й разьляцеліся. Мніх, тэоляг і гісторык Дэль Рыо ў 1611 годзе пісаў: «Найперш там творацца скокі й вусьцішны рогат, пасьля сядаюць за стол».*

*Галоўны шабаш у Беларусі адбываўся на Лысай гары на Купальле, а ў заходняй Эўропе — у ноч на Сьвятога Вальпурга.*

*Чаму гара менавіта Лысая? Ці не ад чорта лысага? Ва ўсёй іранскай, юдэйскай, хрысьціянскай і мусульманскай дэманалёгіі чарты й сапраўды лысыя. Лысіна ў большасьці старажытных народаў адназначна нэгатыўная прыкмета. Ня дзіва — ранейшая працягласьць жыцьця была ў палову цяперашняй. А лысіна ў гадоў трыццаць — рэдкасьць. Як кажуць у народзе — ад чужых падушак. Глядзі й рогі вылезуць. Але гэтыя горы зусім неабавязкова голыя. Некаторыя пакрытыя дрымучым лесам, іншыя — голым скальным каменьнем, і нічым не*



*адрозьніваюцца ад суседніх. Падказку дае рымская назва гэткіх гор. Па лацінску іх завуць Calvus monts, альбо гара чэрапу. Дарэчы, менавіта адсюль этымалягічна вынікае й Кальварыя. Месца сьмерці. Менавіта на колішніх мясцовых Лысых горах і паўставалі пазьнейшыя каталіцкія Кальварыі — у Менску, у Вільні, у Жыровіцах...*

*Цікава, што ў кожным краі побач з Лысай гарою ёсьць месцы чыстыя — горы Сьвятыя. Яны абавязкова складаюць пару. Як дабро й зло, цемра і прасьвятленьне. Сьвятая гара абавязкова вышэйшая. Хоць крыху. Гэткія месцы абіралі для сьвяцілішчаў. Але з 1958 году нашая Сьвятая гара, зусім недалёкая ад Лысай, была перайменаваная ў Дзяржынскую.*

Лысая гара — гэта месца шабашу, на які зьляталіся чарты лысыя (менавіта з лысае галавы вырастаюць рогі). Зьвярніце ўвагу на тое, чым займаліся нячысьцікі падчас свайго шабашу, і ў чым уласна іхны шабаш заключаўся, дзеля чаго ўласна яны зьбіраліся на тую Лысую гару. А зьбіраліся яны — рагатаць. Яны рагаталі, гагаталі, якаталі, дохлі са сьмеху — беспрычыннага, дурнаватага і, трэба думаць, пасвойму выверанага. Пасьля таго, як побач з Лысай гарой у Беларусі перастала існаваць гара Сьвятая, якую пераназвалі ў Дзяржынскага, зьнік балянс дабра і зла. Чартаўшчына разьлілася па краі. Верагодна, гэта была савецкая ідэалёгія, дзе элемэнтарныя чалавечыя каштоўнасьці ставіліся з ног на галаву. І ў полі гэтае ідэалёгіі, зусім не насуперак ёй, учыняла

ся рагатуха — пісьменьніцкі шабаш на Лысай гары, адлюстраваны ў ананімнай паэме.

Між іншым, і сам псэўданім аўтара — Вядзьмак — лішні раз сьведчыць пра тое, што стваральнікі ананімнай паэмы разумелі той кантэкст, у якім гарусьцілі свой капусьнік. Менавіта пісьменьніцкую брацію яны параўновалі з кагортай вадзянікоў, лесавікоў ды ўсялякіх іншых чартоў, што сабраліся на шабаш. Але вынік бяскрыўднага рагатаньня аказаўся іншы, ня той, на які маглі разьлічваць аўтары.

Памятаю, у 1975 годзе я пераздымаў на фота машынапіс «Сказу пра Лысую гару», які літаральна на гадзіну прынес мне калега. Трэба было тэрмінова зрабіць копіі. Тады мы шмат чаго пераздымалі, і пра гэта можна было б ня згадваць, калі б не адна дэталь. Той машынапіс калега ўзяў у свайго бацькі, які, у сваю чаргу, прынес яго адтуль, дзе працаваў, — з ЦК КПБ. Верагодна, зь нетраў менавіта гэтай арганізацыі Лысагорскі шабаш атрымаў пашырэньне. Менавіта цэкоўскія машыністкі пладзілі дзясяткі ці сотні копіяў «Лысае гары».

Калі ўлічыць сутнасьць тае ўстановы і тое, што ў ананімнай паэме няма ані слова праўды пра савецкую ідэалёгію, тады, чытаючы паэму, можна пачуць і гэты беспрычынны ды ідэалягічна выверанаы рогат. Пісьменьніцкі капусьнік ня быў выдадзены тады, калі быў напісаны, таму што прыдаўся для службовага карыстаньня ведзьмакоў ды вядзьмарак з ідэалягічных аддзелаў камуністычнага ЦК. Гэта, натуральна, не касуе ягонае вартасьці як дакумэнту свайго часу.



этэр 23 ліпеня 2000 г.

## 100 гадоў Наталі Сарот

Ці вы чуеце іх? Тыя словы, якія нічога ня значаць? Яны *быццам* нічога ня значаць. А складаюцца ў сказы, у тэкст, які азначае ўсё жыцьцё, дае зусім паўнакроўнае ягонае адчуваньне. Дарэчы, між іншым, так бы мовіць, як той казаў, што вы-што вы, пасьля вас, натуральна, і толькі так...

18 ліпеня мы маглі адзначыць 100-гадовы юбілей францускай пісьменьніцы Наталі Сарот. Яна, яе проза — яшчэ адна арыгінальная спроба пісаць сутнасьць — адразу, абмінаючы «рэчавы» сэнс слова. Літаратуразнаўцы назвалі гэта «новым раманам», а яшчэ нас вучылі, што гэта — плынь сьвядомасьці. Апошняе — прыгожае і загадкавае вызначэньне — у кантэксьце савецкае ідэалёгіі, дзе слову «сьвядомасьць» было адведзенае культавае месца, выглядала крыху карыкатурна. Зрэшты, яно нічога й не азначала. Калі ісьці гэтым шляхам, дык прозу Наталі Сарот найбольш адэкватна было б назваць плынёю прытомнасьці. Гэта нагадвае перапады сьвятла, блікі на рэчах, будынках, у складках фіранак, лёгкі цень завітка на плячы, шоргат далёкай машыны, зыб кавы ў кубку, адлюстраваньне на паліроўцы... Паспрабуйце на хвіліну адарвацца ад таго, што вы лічыце галоўным, і вы пачуеце і ўбачыце вакол сябе і ў сабе цэлы сьвет. Можна рабіць назыўным ваша галоўнае, а можна — усё, што пры тым, але й па-за тым, усё астатняе. Вось жа

ўсё астатняе — гэта таксама праўда жыцьця, якая напавер выяўляе кантэкст вашага галоўнага і па-здрадніцку выкрывае сапраўдную вартасьць таго, на чым вы засяроджваецеся. Вы чуеце іх? Словы, якія нічога ня значаць?..

«Быццам крынічныя ручаі, яны цяклі адусюль, нібы нараджаліся зь цёплага, трошкі волкага паветра, плылі, мякка, нібы сачыліся са сьцен, дрэваў, з лаваў, сквэраў, з бруднага тратуару.

Паміж нежывымі фасадамі дамоў яны выцягваліся доўгімі цёмнымі гронкамі, перад вітрынамі крамаў, сям-там зьбіраліся ў шчыльныя, нерухомыя згусткі, і часам пачыналі ціха круціцца, ціха, як вір, калі плынь натыкаецца на перашкоду.

Ад іх веяла нейкім дзіўным спакоем, нечым накшталт безнадзейнага, адчайнага задавальненьня. Яны ўважліва разглядалі стосы сподняй адзёжы на Выставе бялізны, адмыслова складзеныя ў выглядзе сьнежных гор, ці ляльку, у якой вочы й зубы праз аднолькавыя інтэрвалы загараліся й гасьлі, загараліся й гасьлі, загараліся й гасьлі, увесь час праз тыя самыя інтэрвалы, зноў загараліся й зноў гасьлі.

Яны доўга глядзелі, стаялі тут, перад вітрынамі, нерухомыя, загіпнатызаваныя, як ахвяры, увесь час адкладаючы яшчэ на імгненьне той час, калі трэба будзе ісьці. І маленькія, ціхія дзеткі, што трымалі іх за руку, ужо стомленыя ад глядзеньня, няўважлівыя й цярплівыя, чакалі, стоячы каля іх».

«Яны ніколі не стараліся прыгадаць тую вёску, дзе некалі гулялі ў дзіцячыя гульні, ніколі не стараліся ўспомніць тыя колеры й пахі таго мястэчка, у якім расьлі, яны ніколі не адчувалі, каб у іх раптам узьнік, — калі яны крочылі па вуліцах свайго кварталу, разглядалі крамныя вітрыны, пачціва віталіся з кансьержкаю, праходзячы міма яе закутка, яны ніколі не адчувалі, каб у іх памяці ўсплыў той родны мур, за якім кіпела жыцьцё, ці брук на двары, магутны й адначасова пяшчотны, ці ласкавыя прыступкі на ганку, дзе яны сядзелі ў дзяцінстве».



«Трапізмы» Наталі Сарот у перакладзе Зьмітра Коласа друкаваліся дзесяць гадоў таму ў «Нашай Ніве», год таму пісьменьніцы ня стала, а пару дзён назад ёй споўнілася 100 гадоў. Чытаючы яе прозу, мне нязьменна хочацца шукаць у біяграфіі французскай аўтаркі геаграфічна блізкія сьляды. Інакш кажучы, за «рэчавымі» словамі датаў і жыцьцёвых падзеяў, перамяшчэньняў у часе і прасторы, імёнаў сваякоў убачыць тыя блікі і водбліскі, шоргаты і ледзь улоўныя пахі, якія б пацьвярджалі, што блізкасьць і зразумеласьць ейнага сьветаўспрыманьня — ня толькі плён літаратурнае гульні або агульначалавечых супадзеньняў. Урэшце, кожнае перакананьне ў тым, што «сьвет цесны», заўсёды ўдзячнае, бо ўзбагачае тваю ўласную прыроду і культуру.

Паходжаньне Наталі Сарот у гэтым сэнсе вельмі слаба дасьледаванае. Агульнавядомая біяграфія пра паходжаньне піша скупа. Маўляў, Наталі Сарот — французская пісьменьніца расейскага паходжаньня, нарадзілася ў Іванава-Вазьнясенску, недалёка ад Масквы. Бацька

яе Ільля Чарняк быў хімікам і на тэкстыльным заводзе займаўся фарбаваньнем тканіны. Маці — Паўліна Хатаноўская пісала раманы пад псэўданімам Віхроўская. Калі дзяўчынцы было два гады, сям'я пераехала ў Парыж, у 1906-м вярнуліся ў Расею, у Санкт-Пецярбург. Тут бацькі разводзяцца, у Натальлі зьяўляецца мачаха, і праз тры гады, у 1909-м, сям'я перабіраецца ў Францыю ўжо назаўсёды. Далейшае жыцьцё расьпісанае па гадах. Мяне ж, гэтым разам, цікавіць тое, што было раней, у часе, калі нарадзілася пісьменьніца, і да яе нараджэньня.

Францускія дасьледчыкі звычайна не пераймаюцца фактамі іншаземнага паходжаньня ўласных клясыкаў. «Родам з Расеі» — для іх зусім дастатковы пасыл — што ў дачыненьні да Шагала, што да Сарот. Што да Апалінэра, дарэчы, таксама. Нам жа якраз гэтыя зачыненыя дзьверы карціць адчыніць, бо за імі — і наша прысутнасьць у культурнай прасторы сьвету.

Натуральна, Ільля Чарняк быў у Іванаве чалавекам прыежджым. У адным з інтэрвію Наталі Сарот казала: «Мой бацька быў адзіным гэбраем у Іванава-Вазьнясенску. Гэбраяў там не было ніводнага, бо закон забараняў ім там жыць, але яму далі спэцыяльны дазвол. Ён прыехаў працаваць на ткацкай фабрыцы, якая належала Макееву, бо ведаў сакрэт, як захаваць колер тканіны».

Адкуль прыехаў у Іванава бацька Наталі Сарот — невядома. Найбольш верагодна — з тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага тагачаснай паласы аселасьці гэбраяў, за мяжу якой — у Расею — іх не пускалі.



Наталі Сарот акцэнтуе ўвагу на сваім этнічным паходжаньні, калі кажа пра бацьку: «Аднойчы ён пачуў, як адзін рабочы кажа: «Вось, цяпер мы павінны слухацца нейкага жыдзёнка». Мой бацька ў ярасьці пабег да Макеева і сказаў: «Я не хачу тут працаваць, калі мяне так называюць». А той яму кажа: «Мілы ты мой, ну, ня хочаш, дык ня будзем так цябе называць. Мы ж гэбраяў ніколі ня бачылі — ты тут адзіны».

Што ўяўляла сабою тагачаснае Іванава — знакаміты ў савецкія гады «горад нявест»? Цяперашнія расейскія даведнікі пішуць, што гэта быў першы горад краіны паводле імклівага індустрыйнага росту, і называюць яго расейскім Манчэстэрам. А мне згадваецца раман Горкага «Маць» — псэўдарэалістычная страшылка для псаваньня настрою і выклíканьня грэблівасьці як да тых заводаў, так і да пралетарыяту. Дзікунскі побыт, дзікунскія дачыненьні, дзікунскія думкі. Памятаеце, Павал Уласаў меў адмарожаныя ў Сібіры мазгі, і таму «не любіў Павал зімы». Галоўны пралетарскі пісьменьнік тут пастараўся ад душы. А вось якая карціна паўстае ў кнізе Наталі Сарот «Дзяцінства»:

«Мяне прывялі да таты на «фабрыку», дзе ён працуе цэлы дзень... я іду празь вялікі брудны двор міма гліняных збудаваньняў, трэба пераскокваць праз ручаіны, праз калюгі блакітныя, жоўтыя, чырвоныя... паўсюль сярод бочак і калёсаў ходзяць барадатыя мужыкі ў картузах, абутыя ў высокія чобаты... пах тут не такі

брыдкі, як ад воцату, але я стараюся ўдыхаць яго як мага меней, настолькі ён непрыемны, востры, кіслы...»

Яркія каляровыя лужыны ніяк не спалучаюцца ва ўяўленьні з барадатымі мужыкамі ў картузах. Магчыма, гэта дае сябе знаць савецкае выхаваньне. Усё пралетарскае мусіць быць шэрым і суворым, але толькі ня яркім і рознаколяровым...

Такім чынам, Ільля Чарняк прыехаў у Іванава аднекуль з паласы аселасьці. Магчыма, з Заходняй Смаленшчыны. Славуты Айзэк Азімаў з тамтэйшых Пятровічаў да канца дзён так і ня здолеў зразумець таямніцу свайго паходжаньня. Вялікаму фантасту забракавала фантазіі, каб уявіць — як гэта ён мог нарадзіцца ў Расеі, калі Расея была па-за рысай аселасьці гэбраяў.

Зрэшты, Ільля Чарняк перад Іванавам мусіў яшчэ недзе атрымаць адукацыю доктара хіміі, каб навучыцца фарбаваць тэкстыль. Магчыма, ён вучыўся ў Пецярбургу, бо менавіта туды сям'я на нейкі час вярталася з Францыі. Але для нас важна — што было да той ягонай адукацыі.

Яшчэ большая загадка — з паходжаньнем маці Наталі Сарот. Паўліна Хатаноўская не была расейкай. І тое, што расейскія дасьледчыкі не цікавіліся ёю, пацьвярджае гэта. Хоць і друкавалася яна ў часопісе ў Караленкі. Але асабліва тут цікавы псэўданім, пад якім яна пісала свае раманы — Віхроўская. Гэта ад ракі Віхра або Вяхра, як кажуць на Магілёўшчыне, — той самай, на якой стаіць старажытны



Мсьціслаў. Крыху вышэй па Віхры — родавае гняздо хасыдаў Любавіч, які стаіць на рачулцы Вільнянка. Некалі мы былі ў тых мясьцінах з экспэдыцыяй «Нашай Нівы». Цяпер гэта амаль няжылы, але фантастычна прыгожы край. І калі паспрабаваць вычуць нейкія генэтычныя імпульсы творчасьці, дык менавіта з гэтае зямлі яны мусілі зыходзіць самым шырокім спэктрам. Так тут пераблыталіся культурныя знакі. Тыя мясьціны — поўныя таямніцаў — далі Эўропе і сьвету не аднаго выдатнага чалавека.

Гэтак магло б выглядаць паходжаньне Наталі Сарот, напісанае водблiскамі, водгукамі, словамі, якія быццам нічога ня значаць. Ці вы чуеце іх?

Некалі я напісаў такі абразок — уступ да чацьвертага выданьня Шляхціца Завальні. Думка заблукала якраз у тых ваколіцах, недзе ў віцебскіх ды магілёўскіх лясах, у цёмных непралазных пушчах, на сядзібах позьняе шляхты, паміж Янам Баршчэўскім і Оскарам Мілашам — французскім фантазёрам з Чарэі. Але пісалася выключна і чыста пад уплывам Наталі Сарот-Чарняк. Яе «Залатых пладоў» ці «Трапізмаў». Пісалася словамі, якія нічога ня значаць, адным сказам...

«Кожнага разу, калі настае восень, калі доўгі кастрычніцкі дождж гоніць нас, нібы палае лісьце, зь лесу, з ракі й з суседзкіх двароў, калі шэры дзень так незаўважна перамяняецца ў вечар, што раз-пораз пазіраеш на гадзіньнік, блытаючы «шэсьць» і «восем», каб адразу ж забыцца на час і зірнуць зноў, — кожнага разу мы з

шумам ляцім па гулкай лесьвіцы да свайго паверху і, расчырванелыя, штурхаемся ў калідоры, скідаючы абутак, нешта выкрыкваем, сьмяемся й разьбягаемся па доме, па ўсіх пакоях, каб неўзабаве сабрацца да вечаровага стала, ля якога ўжо сядзіць наш сівавусы дзядуля, каб пасьля вячэры йсьці ў вялікі гасьцёвы пакой, дзе мы з нагамі залазім на старасьвецкую канапу, каб зараз жа стаіцца й слухаць, слухаць пад бомканьне дажджу за вакном доўгі-доўгі роспавед пра іншы сьвет ды іншых людзей, дзе сьвет і людзі такія дзіўныя й такія падобныя да нас саміх, бо гэта наш дзядуля распавядае нам свае дзівосныя гісторыі, а мы, заварожаныя, не варушымся, хоць нам зусім ня хочацца спаць, бо трэба абавязкова дазнацца, чым скончыцца гэтае апавяданьне, якое ўжо заўтра мы будзем пераказваць адзін аднаму на розныя лады, але так будзе заўтра, а сёньня мы заўважаем, што дзядулевы гісторыі апошнім часам робяцца ўсё больш кароткія і ўсё часьцей паўтараюцца, яны ўжо зусім не такія захапляльныя, як калісь, і ад гэтага нам лезуць у галаву ўсялякія недарэчныя думкі пра тое, што наш дзядуля зусім пастарэў і не распавядзе нам ужо больш нічога — ён пазірае на нас сваімі сумнымі вачыма, у якіх стаяць сьлёзы, нібы вінаваціцца перад намі, бо штосьці зьмянілася — нават ня ў ім, і ня ў нашым вялікім пакоі, а ў цэлым сьвеце, альбо гэта мы ўжо вырасьлі з гэтага сьвету, бо кожнага разу, калі гадзіньнік паказваў дзесяць, дзядуля казаў нам: «Пара спаць!» — а сёньня ўжо даўно за дзесяць, а ён ня кажа нічога. Ён маўчыць…»



Наталі Сарот пазьбягала імёнаў і сюжэтаў. Магчыма, у часы суворых рэалістаў яе папросту ня сталі б чытаць. Але сёньня гэта ўжо больш рэалізм, чым самы крытычны або самы пралетарскі рэалізм пачатку стагодзьдзя. У гэтым міжслоўі нашмат болей праўды і амаль не застаецца месца вымыслу. Дакладней, вымыслу не застаецца месца наагул. Словы, падобныя на водбліскі, водсьветы, водгукі… Ці вы чуеце іх?

«Я сяджу за сталом ля вакна ў сваім пакоі. Я выводжу словы пяром, змакнутым у чырвоны атрамант… я бачу, што яны не падобныя на сапраўдныя словы, тыя, што ў кніжках… яны нібы дэфармаваныя, крыху калекі… І вось адно, якое няцьвёрда трымаецца на нагах, няўпэўненае, я павінна яго паставіць… можа быць, тут… не, там… але я пытаюся ў сябе, ці я не памылілася… здаецца, яно ня надта добра спалучаецца зь іншымі, са словамі, што жывуць недзе ў іншым месцы… я знайшла іх надта далёка адсюль і прывяла іх сюды, але я ня ведаю, што для іх добра, я ня ведаю іхных звычак…»

P.S. Пазьней, пасьля перадачы, мне ўдалося-такі адшукаць канкрэтнае месца, адкуль прыехаў у Іванава-Вазьнясенск бацька Натальлі — Ільля Чарняк. Гэбрайская генэалёгія паказала на горад Бабруйск. Менавіта адтуль узяўся род Чарнякоў. Самы славуты продак у 19 стагодзьдзі гандляваў на бабруйскай вуліцы газіроўкай, а славуты ён тым, што стварыў у горадзе першую пажарную каманду — грамадз-

кую, бо дзяржаўнае не было. Гісторыя гэтага пажарніка — двухмэтровага, шыракаплечага беларускага гэбрая — чытаецца, як рамантычная проза. Столькі там усеагульнага натхненьня і жаданьня паспрыяць свайму гораду, і столькі ўдзячнасьці — ад гораду. Пазьней такі нефармальны калектывізм быў страчаны, выбіты калектывізмам фармальным, накінутым зьверху, ідэалягізаваным. А шкада. Каб гэта дзе ў іншым месцы Эўропы, дык, мабыць, гараджане паставілі б таму Чарняку помнік ці хоць бы вуліцу ягоным імем назвалі. А бабруйскія дзеткі ганарыліся б, што яны землякі сусьветна вядомай пісьменьніцы.

этэр 29 кастрычніка 2000 г.

## Яцак Крышталевіч — гарадзкі вар'ят

Паўгоду таму ў «Вострай Браме» мы гаварылі пра невядомага пісьменьніка 19 ст. Васіля фон Роткірха, які пад псэўданімам Тэабальд апісваў усялякія незвычайнасьці з тагачаснага жыцьця. У прыватнасьці, Роткірх прысьвяціў некалькі апавяданьняў віленскаму дзіваку Яцку Крышталевічу, вулічнаму імправізатару вершаў. Прычым у расейскамоўных апавяданьнях Тэабальда Крышталевіч нязьменна гаворыць па-беларуску.

З тае красавіцкае перадачы мінуў час. І вось надоечы, акурат на Дзяды, зусім выпадкова мне ўдалося адшукаць у Вільні магілу гэтага



культурнага героя 19 ст. Такая знаходка — сама сабою стымул для далейшых пошукаў праўды пра Крышталевіча — сучасьніка Крашэўскага і Сыракомлі, якога, як высьветлілася, добра ведалі абодва клясыкі.

Яцак Крышталевіч пахаваны ў 1840 годзе на Бэрнардынскіх могілках, на Зарэччы. А Зарэчча — гэта найстарэйшае віленскае прадмесьце, якое ад сёньняшняга старога гораду аддзяляе рэчка-Вялейка. Знаўца гораду Лявон Луцкевіч казаў, што менавіта на Зарэччы найлепей захавалася беларушчына старой сталіцы Вялікага Княства. Тут жылі Фэрдынанд Рушчыц, у якога зьбіралася віленская інтэлігенцыя, і слынны беларускі ксёндз Адам Станкевіч, якога адсюль, проста з кватэры забрала назаўсёды НКВД…

Вось жа яшчэ напачатку 19 ст. на Зарэччы адкрыліся Бэрнардынскія могілкі. Належалі яны кляштару бэрнардынаў — таму самаму, якому належыць і ўсім вядомы касьцёл сьв. Ганны. Тут ляжыць шмат слынных людзей, і кожная культура — літоўская, польская, расейская — выбірае і згадвае сваіх. Ёсьць тут і беларускія магілы. Але сёньня мы зьвернемся да постаці Крышталевіча, якога ніводная з гэтых культураў да сябе не прызнае. Пакуль што ён застаецца проста віленскім — валацугам і жартаўніком, вар'ятам і ўлюбёнцам публікі, бажаволкам і імправізатарам вершаў.

Розныя выданьні называюць Крышталевіча па-рознаму — хто Яцкам, хто Юзафам, хто Ігнатам. Мабыць, гэта з-за таго, што ў ягонай асобе гістарычная пэрсона і літаратурны пэрса-

наж яшчэ пры жыцьці сталі аднолькава даставернымі.

Распавядаюць, што паэт прыбыў у Вільню з Валыні і, ня маючы ў горадзе нікога, стомлены, заснуў на лаве каля ратушы, а раніцою прачнуўся, пабачыў, што яго абрабавалі і, ня здолеўшы перанесьці гэткага ўдару лёсу, страціў сьвядомасьць, «зьвіхнуўся». Наіўная гісторыя. І гісторыкі, як правіла, распавядаюць яе са шкадаваньнем. Маўляў, Крышталевіч быў нязлы вар'ят і на пытаньні адказваў досыць дарэчна. Але штосьці ў гэтай наіўнасьці насьцярожвае. Можа, тое, што кожны імкнецца падкрэсьліць у Крышталевічу менавіта наіўнасьць? Ці тое, што вядомы мастак Кукевіч намаляваў ягоны партрэт, а купец Вэйс, ведаючы папулярнасьць віленскага вар'ята, гэты партрэт надрукаваў паштоўкай ды сотнямі асобнікаў распаўсюдзіў па ўсім краі і меў з гэтага даход?..

Першыя зьвесткі пра Крышталевіча знаходзім у апісаньні прадпрыемства Юзафа Завадзкага — арганізатара віленскага кнігавыдавецкага і кнігагандлёвага працэсу. Завадзкі так добра паставіў справу, што плаціў ганарар — гэта нязьменна адзначаюць мэмуарысты, а ягоная кнігарня служыла ўвадначасьсе літаратурным салёнам. Мэмуарыст Станіслаў Мараўскі згадваў пра зьвязаны з гэтым эпізод свае маладосьці:

«Кнігарня Завадзкага, калі я ўжо пачаў пра яе казаць, была тады rendez-vous навукоўцаў, літаратараў, мастакоў, дасьціпнікаў. За вялікім сталом сядзеў сам Завадзкі, каротка стрыжаны брунэт, малы і тоўсты, зь мілым павабным тварам. Каля вокнаў або пад дзьвярыма з вуліцы стаяў адзін з знаёмых усёй Вільні вар'ятаў: альбо Шурлоўскі, або Крышталевіч, альбо абодва разам. Абодва яны, ні для каго ня шкодныя, сьфіксаваныя былі на паэзіі. Бесьперастанку пісалі вершы. І былі вельмі надатныя ў тыя вясёлыя часы. Калі каму ў кнігарні ўдавалася з гэтай нагоды або зь якой плёткі скласьці эпіграмку, вершык, сатырку, а такое здаралася часта, дык гэта зараз жа аддавалася Шурлоўскаму або Крышталевічу, каб запусьцілі гэта ў сьвет, выдаючы за сваё...»



Асабіста ў мяне ацэначны бок гэтых сьведчаньняў не выклікае даверу. Па-першае, легкаважнае стаўленьне аўтара да паэзіі, як да вар'яцтва ў прынцыпе, па-другое — заўсёды цяжка ацэньваць сучасьнікаў. Хто вар'ят і графаман, урэшце, не вызначае часам нават сама гісторыя. Скажам, польскі паэт Цыпрыян Норвід, сучасьнік Крышталевіча, быў пры жыцьці прызнаны вар'ятам. Надрукавалі яго толькі празь пяцьдзясят гадоў пасьля сьмерці, а праз сто гадоў ягоныя вершы пісаў на сваіх лёзунгах польскі прафсаюз «Салідарнасьць». Ідзі тут разьбярыся...

А потым — мова, беларуская мова, у якой нязьменна цытуецца Крышталевіч. Вулічная мова тагачаснай Вільні. Але настолькі не салённая, не літаратурная, што, каб складаць на ёй вершы, трэба было набыць імідж або вясковага лірніка, або фальклярыста. Што да ўрбаністычнай постаці Крышталевіча, дык яшчэ не прыйшоў час.

А дадайце да гэтага інтрыгі паміж літаратарамі, змаганьне за праўдзівую славу і прызнаньне. Зусім нескладана было ў паэтычных колах 19 стагодзьдзя праслáвіцца графаманам і вар'ятам.

Між тым, ёсьць сьведчаньні, што слава ці няслаўе Крышталевіча разьляглáліся далёка за межы кнігарні Завадзкага і Вільні. Вось гісторыя пра сапсаваныя адносіны Юзафа Крашэўскага з часопісам «Тыгоднік Пецярбурскі». У гэтым самым «Тыгодніку» выйшла зьедлівая рэцэнзія на паэтычную трылёгію Крашэўскага «Анафеляс». Аўтар рэцэнзіі высьмейваў стылёвую манеру пісьменьніка, граматычныя памылкі, моўнае ўбоства, брак яснасьці і псыхалягічную ненатуральнасьць. Увесь гэты бульдозэрны наезд на клясыка і цяперашняга фаварыта польскіх школьных праграмаў быў падпісаны скаротам «Ф.Кол». Неўзабаве высьветлілася, што Ф.Кол — гэта Ян Чачот. Толькі ягоную рэцэнзію ў «Тыгодніку Пецярбурскім» перакруцілі, дадалі ў яе кпінаў, і таму Чачот мусіў выдаць свой арыгінал асобнай брашурай з апраўданьнямі. Але вось дэталь той пецярбурскай рэцэнзіі. Крашэўскі там называецца графаманам, у параўнаньні зь якім Шурлоўскі і Крышталевіч — сапраўдныя пігмэі. Згадзіцеся, такое, хай сабе і прыніжальнае параўнаньне з аўтарам двухста раманаў у пецярбурскім часопісе — нешта ды значыць.

А потым, уявіце сабе, каб вас параўналі з кім-небудзь з шырокае абоймы сёньняшніх графаманаў — нават на вашу карысьць — і вы адчуеце тое, што мусіў адчуваць Крашэўскі, у



прыватнасьці, да Крышталевіча. І Крашэўскі адпомсьціў. У сваім «Рамане бяз назвы», апісваючы Вільню свае маладосьці, ён згадвае, паміж іншым, як у акадэмічнай кавярні студэнты бавіліся дэклямацыямі праслаўтага графамана Ігната Крышталевіча, амаль сымбалічнай постаці для мясцовага калярыту. Вось так. Кропка.

Працяг нечакана знаходзім у Сыракомлі. Вясковы лірнік і ўлюбёнец публікі, мусіць, таксама пакрыўджаны параўнаньнем з Крышталевічам, ці падазрэньнем у такім параўнаньні, піша «Ліст Крышталевіча з Элізэйскіх Палёў да Рамуальда Бараноўскага», а сьледам — «Адказ Бараноўскага на ліст Крышталевіча». І тут вельмі істотная дэталь. Сыракомля зьдзекваўся з сымбалю віленскіх вершаплётаў тады, калі Крышталевіча ўжо не было на сьвеце. Жарты жартамі, а трэба мець сур'ёзныя падставы і матывацыі, каб ісьці на такі ўчынак. Біёграфы тлумачаць гэта юначай дурасьлівасьцю Сыракомлі, маладым выбрыкам. Няхай так. Будзем паблажлівымі, як ня раз заклікаў нас ставіцца да сваіх твораў сам Сыракомля.

Але ж вернемся і да першага сьведчаньня — з кнігарні Завадзкага, адкуль Крышталевіч нібыта разносіў падслуханыя імправізацыі і выдаваў іх за свае. Вершыкі Сыракомлі сьведчаць пра тое, што гэта ўжо Сыракомля панес па сьвеце вобраз Крышталевіча як свой.

Але ня толькі Крашэўскі і Сыракомля былі закранутыя за жывое самой наяўнасьцю ў віленскім экстэр'еры паэта-імправізатара, які рыфмаваў той моваю, якой яны гаварылі ў

жыцьці, але не насьмельваліся карыстацца ў літаратуры, бо адчувалі непадымны цяжар гэткага першапраходства і рызыку ня стаць клясыкамі чужой, але ўжо распрацаванай літаратуры. Вобраз Крышталевіча перасьледаваў і пісьменьніка менш вядомага, але ня менш пладавітага, чыё імя было Васіль фон Роткірх.

Вось эпізод з апавяданьня Тэабальда «Яцак Крышталевіч, віленскі бажаволак».

«У гарадзкім тэатры Крышталевіч таксама нярэдка заяўляў пра сябе. Трагічнай акторкай была тады спадарыня Ашпэргер, прадмет захапленьня ўсіх тэатральных партыяў. Аднойчы ішла ў бэнэфіс яе трагедыя «Вар'ятка». Дамы рыдалі. Настаў страшны момант 5 акту, калі вар'ятка, што ўцякла з вар'ятні, у адной кашулі, з расплеценымі косамі, з кінжалам у адной руцэ і зь дзіцёнкам пад пахаю ў другой, кідаецца ў спачывальню свайго спакусьніка. Усе чакаюць, што яна выскачыць з спачывальні з акрываўленым кінжалам і зь дзікім рогатам, што ёй удалося нарэшце забіць яго. У чаканьні гэтага кульмінацыйнага моманту сцэна бывае пустая і ў публіцы запаноўвае такая глыбокая цішыня, што здаецца, чуваць біцьцё сэрцаў. Раптам у адным канцы райка нехта чыхнуў.

— На здароўе! — прарэзаў цішыню гучны голас Крышталевіча з другога канца райка.

— Дзякуй! — пачуўся ў адказ дзіцячы голас — і публіка пакацілася са сьмеху.

Акторка зараз жа выскачыла з спачывальні забітага — але ўвесь эфэкт ужо прапаў».

Віленскі дасьледнік творчасьці Роткірха Павал Лаўрынец піша, што барон Васіль Аляксеевіч фон Роткірх належыць да старажытнага рыцарскага роду, карані якога губляюцца ў Сылезіі 12 ст., а адгалінаваньні ўнесеныя ў дваранскія матрыкулы Фінляндыі і Ліфляндыі, а дзед ягоны быў жанаты з малодшай дачкой Ганібала. І гэтак далей. Ня трэба мець шырокіх генэалягічных ведаў, каб пераканацца, што кожны шляхціц паходзіць ад Палемона і абавязкова недзе падцжаніўся зь якой сусьветнай славутасьцю. Ёсьць свае законы даказваньня радавітасьці для публікі.



На зямлю з дваранскага заабломча нас апускае наступны радок біяграфіі — Роткірх скончыў Магілёўскую гімназію і ў 1837 годзе паступіў юнкерам у Галіцкі егерскі полк. З той пары служыў у частках, што кватаравалі ў заходніх губэрнях Расеі. Тут ён пераклаў Міцкевічавых «Дзядоў» на расейскую мову і заслаў іх у расейскую прэсу, адкуль атрымаў адказ ад тагачаснае зоркі — Майкова: «Якія нялепыя паданьні захоўваюцца дагэтуль у Літве! І якія сумныя выходзяць зь іх паэмы». Гэта — заўважце — толькі пра сюжэт, якасьць перакладу тут ні пры чым. Ці не нагадвае вам прыведзеная ацэнка раней згадваных ацэнак Крашэўскага? Дык вось, перакладаў Роткірх і Крашэўскага. Водгук на ягоныя пераклады, які зьявіўся ў пецярбурскіх часопісах, моцна перагукаецца з тым, як дасталося самому Крашэўскаму ў «Тыгодніку Пецярбурскім»: «Долго читали мы такую чушь, наконец вторые петухи пропели, литовская поэма выпала у нас из рук, и тяжелый сон оковал наши бренные веж-

ды; целую ночь снились нам поэмы и рифмоплеты»...

Роткірх, Крышталевіч, Крашэўскі, Міцкевіч сышліся ў адно кола для прадзьвінутага расейскага літаратурнага докі. Яны з сваімі віленскімі і літоўскімі праблемамі тут усе — пігмэі. Для паўнаты карціны варта нагадаць, што імя Міцкевіча на той час было пад цэнзурай, і Роткірх даваў пераклады, не называючы аўтара. Апроч таго, і сам Роткірх атрымліваў лісты з цэнзурнай адмовай, напрыклад, на свае «Нататкі пра Друскенікі», якія даслаў быў у часопіс «Пантэон».

І тут задумляесься над наступнай зьявай: наколькі блізка адно ад аднога расейскі літаратурны снабізм і расейская цэнзура. У праекцыі на грамадзкае жыцьцё гэта можна растлумачыць татальнай падменай паняцьцяў, калі вам кажуць, што вы напісалі бяздарны твор, матывуючы гэтым чыста палітычную адмову. Або калі кажуць, што ў нас палітычных вязьняў няма, суцэльныя крымінальнікі...

Трэба разумець і сытуацыю трактоўкі Роткірха. У свой час ён сапраўды разглядаўся, як правінцыйны графаман. Але сёньня, калі навукоўцы па крупіцах зьбіраюць усіх такіх графаманаў, каб паказаць, што ў Вільні існавала расейская літаратурная традыцыя, і марыць пра тое, каб спаборнічаць з традыцыяй польскай, дык на такія дробязі не зьвяртаецца ўвагі. Тым больш, што кожная паперка за сто пяцьдзясят гадоў набывае гістарычную вартасьць.

Але вернемся да біяграфіі Роткірха, напісанай апалягетам расейшчыны ў Віленскім краі



Паўлам Лаўрынцом. Пра апалягета я сказаў, каб падкрэсьліць сваё крытычнае стаўленьне да гэтых фактаў. Бо, скажам, наступны пасаж цалкам кантрастуе з тым, пра што мы казалі вышэй.

У часе паўстаньня 1863 году Роткірх бярэ чынны ўдзел у задушэньні гэтага паўстаньня. За што падпольшчыкі арганізуюць на яго замах і раняць атручаным кінжалам. Але ці то кінжал аказаўся тупым, ці атрута была пратэрмінаваная, але працягу гэты эпізод ня меў. Пярэварацень Роткірх, ня йначай, як той Мураўёў дзекабрыст-вешальнік, пачынае служыць у жандармэрыі. Праўда, у адрозьненьне ад Мураўёва, ён не прыехаў у гэты край у акупацыйным абозе, а быў цалкам тутэйшай гадоўлі. І ў жандармэрыі служыў, як бы цяпер сказалі, у лінейнай, гэта значыць, на чыгунцы. У 1873 годзе ён на пяць гадоў заняў пасаду начальніка Менскай жандарска-паліцыйнай управы на чыгунцы. А пасьля гэтага перабраўся ў Вільню. Вось тут ён і пачынае па-сапраўднаму пісаць — пад псэўданімам Тэабальд. Ці таму, што літаратурнае балаўство было не да твару жандарскаму палкоўніку, як расцэньвае гэта біёграф Павал Лаўрынец, ці таму... раблю гэтае дапушчэньне, што ўсё ягонае жандарства было чыста службовай функцыяй, тады як літаратура выглядала на сапраўднае жыцьцёвае захапленьне. Дый адносіны Роткірха з цэнзурай і пецярбурскімі літаратурнымі докамі да службы ў жандарах і пасьля яе не зьмяніліся. Ён піша аповесьць «Спартанка. Эпізод з падзеяў 1863 году», гістарычны твор «Возера Дзя-

вочае вока», «Найпадобнейшая Эўфрасіня, княжна Полацкая». Да гэтага часу належыць і апавяданьне «Яцак Крышталевіч, віленскі бажаволак».

Выдаўшы ўсе свае творы, Роткірх пайшоў на пэнсію і празь нейкі час памёр. Пахавалі яго на Эўфрасінеўскіх могілках у Вільні — на Ліпоўцы, галоўных гарадзкіх праваслаўных могілках.

* * *

На Бэрнардынскіх могілках у гэты халодны восеньскі дзень у розных месцах корпаюцца чалавек пяць — прыбіраюць магілкі да Дзядоў. Згалелыя дрэвы не затуляюць болей касьмічнага віленскага краявіду, які адкрываецца з гэтай гары. Унізе бяжыць порсткая рачулка-Вялейка. І вецер шоргае лісьцем паміж урослымі ў зямлю надгробкамі, на якіх даўно сьцёрліся імёны герояў і простых сьмяротных.

Натуральна, магілу самага слыннага віленскага вар'ята, вершаплёта і бажаволка я не знайшоў. На гэтых закінутых кладах увогуле цяжка расчытаць і стогадовыя надпісы. А дата сьмерці Крышталевіча — 1840. Наглядчык могілак — дзядзька гадоў трыццаці, які, па ўсім ягоным выглядзе, п'е з маленства і цьвярозым не бываў ніколі, як мог, патлумачыў, што ўсе дакумэнты могілак захоўваюцца ў канторы на могілках Роса. Там, у славутым віленскім нэкропалі, дзе працуе цэлы штат навукоўцаў, у інвэнтарызацыйных кнігах Крышталевіча не знайшлі, але патлумачылі, што ў іх перапісаныя толькі тыя магілы, на якіх можна расчытаць прозьвішча. У тым, што на паўтарастагадовых не расчытаеш, я пераканаўся сам. Але, апроч сучасных інвэнтароў, існуюць так званыя пахавальныя кнігі, у якіх запісвалі ўсіх, каго ў прынцыпе хавалі. Дык вось, пахавальная кніга Бэрнардынскіх кладоў знаходзіцца цяпер у Польшчы, ва Ўроцлаве. Там яна і апублікаваная. Зь яе я і даведаўся пра месца апошняга прыстанку віленскага вар'ята.



Вяртаючыся на Зарэчча, я спрабаваў уявіць сабе, хто і як хаваў Крышталевіча. Можа быць, гэта была цэлая працэсія, якая сабрала ўвесь горад на сьмерць агульнавядомага культурнага героя. А можа, гэта быў сьціплы вазок санітарнае службы, вазьніца і работнік, якія выканалі сваю непрыкметную работу.

Так ці інакш, а культурны герой лёг на ўдалым месцы. Рана ці позна будуць прыведзеныя ў парадак Бэрнардынскія могілкі. Гэта дакладна. Менш дакладна, што ў нашчадкаў хопіць энтузіязму і настрою ўспомніць таго вершаплёта як паэта і імправізатара, які выклікаў усеагульныя насьмешкі галоўным чынам з-за нясвоечасовае мовы сваіх твораў.

этэр 7 студзеня 2001 г.

## Загадка Караткевіча

Напачатку 1980-х сьвядомыя беларусы сьпявалі. І сярод песень Беларускай сьпеўна-драматычнай майстроўні была Багдановічава «Паго-

ня» — на матыў «Марсэльезы», бо іншай мэлёдыі — Шчаглова-Куліковіча — тады яшчэ ня ведалі. Часам замест словаў «Пагоні» на той самы матыў «Марсэльезы» сьпявалі верш Уладзімера Караткевіча «Багдановічу». Замена падавалася адэкватнай.

Сьцюжны час, бязьмежна-суровы.
Сьпіць народ, нібы зерне ў ральлі.
.................................................
Ты прыйшоў
І гарачым словам
Рунь узьняў на роднай зямлі.
Ты сказаў нам: «Унукі Скарыны,
Дзе ваш гонар, моц і краса?
Ёсьць і ў вас, як у іншых, сьвятыня.
Не давайце сьвятыні псам!
Не давайце зь яе глуміцца,
Бо прасьпіць яна ясну зару,
Бо сьвяты ізумруд заімгліцца
У пярсьцёнку тваім, Беларусь».

Караткевічавы словы заварожвалі сваёй таямнічай магіяй. І калі найбольш дасьведчаныя сьпевакі ўжо ведалі, што паэт выкарыстаў тут словы Хрыста з Нагорнай казані, дык наступныя словы ўражвалі сваёй экзатычнай выключнасьцю ды нетутэйшым бляскам — сьвяты ізумруд у пярсьцёнку Беларусі не павінен быў заімгліцца. Тэза ўспрымалася настолькі ж неаспрэчна, наколькі была няўцямная. Часам думалася — чаму гэткі знаўца мовы і старажытнасьці, як Караткевіч, ня ўжыў смарагд замест ізумруду. Але пра тое, што азначаў гэты ізумруд, разважаць не хацелася. Не хацелася разбураць гэтую адначасова казку і ўжо вызначаную жыцьцёвую праграму. Ізумруд выпраменьваў вобраз Беларусі настолькі магутна і пры тым інтымна, што ўдавацца ў канкрэтыку не было пазыву. Нешта падобнае перажывалі майстроўцы, сьпяваючы верш Натальлі Арсеньневай «У гушчарах». Эмацыйнай вяршыняй там былі словы: «Беларусь, Беларусь залатая, за цябе, за цябе мы ідзём». Была б на месцы «залатой», да прыкладу, «дарагая» — і тэкст адразу б рабіўся звычайным. Магчыма, і сьпявалі б яго ня гэтак ахвотна. А тут — кожнага разу «дабіраліся» да тых апошніх радкоў з залатой Беларусяй, нібы расьцягваючы задавальненьне, нібы доўжачы гэтае чаканьне незразумелага шчасьця, быццам рыхтаваліся да раптоўнага эмацыйнага ўзьлёту. Зразумела, што «залатая» была ў Арсеньневай маленькім паэтычным азарэньнем, бязь нейкага канкрэтнага намёку ці шыфроўкі. Вось жа гэтаксама ўспрымаўся і Караткевічаў сьвяты ізумруд. Аднак, як высьвятляецца, у ізумрудзе якраз была зашыфраваная канкрэтная зьява.

Для дасьведчанага ў беларускай літаратуры чалавека паходжаньне Караткевічавага ізумруду ў вершы «Багдановічу» — не загадка. Дастаткова зьвярнуцца да твораў самога Максіма Багдановіча. Ёсьць там такі вершык зь дзіўнаю назвай «Безнадзейнасьць».

Скарына, доктар лекарскіх навук,
У доўгай вопратцы на вежы сочыць зоры.
Яны спрыяюць! Час! З рухавых рук
Скарыны п’е адвар пан земскі пісар хворы.
І ўраз пабачыў ён, што ізумруд

Ў пярсьцёнку залатым на пальцы штось імгліцца,
Што блеску ў ім няма... І з болем тут
Ён зразумеў, што ўжо к жыцьцю не вараціцца.

Як бачым, Уладзімер Караткевіч у вершы, напісаным да 75-х угодкаў Максіма Багдановіча, выкарыстаў Багдановічаву сымболіку і вобразы — тут і Скарына, тут і ізумруд, тут і матыў Багдановічавай «Пагоні». Усё нібыта зразумела. Аднак ізумруд... З залатога пярсьцёнка хворага земскага пісара ў Багдановіча, дзе ён імгліўся, прадвяшчаючы сьмерць чалавека, ізумруд у Караткевіча перамясьціўся ў залаты пярсьцёнак Беларусі. Найбольш проста трактаваць і тут заімгленьне ізумруду як прадвесьце сьмерці Беларусі. Але ёсьць у гэтым вобразе і канкрэтны кантэкст. Каб адшукаць яго, нам давядзецца зазірнуць у перадгісторыю напісаньня Багдановічавага верша.

Максім Багдановіч зь пяці гадоў невыезна жыў у далёкіх расейскіх гарадах — Ніжнім Ноўгарадзе і Яраслаўлі. Там ён з кніжак вывучыў родную мову і прасякнуўся беларушчынай, там пачаў пісаць вершы, якія дасылаў у рэдакцыю «Нашай Нівы» ў Вільню. У рэдакцыі заўважылі маладога паэта і ягоны талент ды вырашылі запрасіць хлапца ў Беларусь. І вось у 1911 годзе Багдановіч прыяжджае ў Вільню. Тут ён праводзіць некалькі дзён праездам у Ракуцёўшчыну пад Маладэчнам. У наступныя гады ва ўсёй творчасьці паэта будзе выразна праглядаць жывы досьвед той паездкі, прычым ясна падзелены досьвед — на гарадзкі і вясковы. Некалькіх дзён у Вільні яму хапіла, каб пасьля на працягу гадоў ашчадна выпісваць свае ўражаньні. Не кранаючы чыста віленскіх вершаў, сабраных у нізку «Места», можна яшчэ ў дзясятках іншых твораў убачыць тыя віленскія ўражаньні. Да прыкладу, у знакамітых «Слуцкіх ткачыхах». Дасьведчанаму ў біяграфіі Багдановіча гэты верш, ягоная тэма і вобразы могуць падацца дзіўнымі, маўляў, пры чым тут Слуцак і радзівілаўскія мануфактуры. Але варта прачытаць успаміны бацькі паэта — Адама Багдановіча, напісаныя шмат пазьней пасьля сьмерці Максіма. Ва ўспамінах згадваецца, што найбольшае ўражаньне на Максіма ад паездкі ў Беларусь зрабілі слуцкія паясы, якія ён разглядаў у Вільні ў калекцыі Івана Луцкевіча. Сёньня, між іншым, тыя паясы знаходзяцца ў экспазыцыі літоўскага этнаграфічнага музэю. Дык ці ж верш пра слуцкіх ткачых ня мусіць быць уключаны ў віленскі цыкль? Згадаем радкі:

Цямнее край зубчаты бору...
І тчэ, забыўшыся, рука,
Заміж пэрсідзкага узору,
Цьвяток радзімы васілька.

Запомнім гэты «васілёк». Аналіз паэтыкі Багдановічавых вершаў падкажа нам, што чыста фармальна гэта — той самы ізумруд, тая самая разынка ў палатне верша, што і залатая Беларусь у Арсеньневай, толькі больш прадметная — па-багдановіцку. Васілёк дапаможа нам далей прасачыць сюжэт з ізумрудам.

У часе тых некалькіх дзён у Вільні Максім

жыў у сакратара рэдакцыі «Нашай Нівы» Вацлава Ластоўскага. Ластоўскі — гісторык і мовазнаўца, вялікі рамантык беларушчыны, паказваў Багдановічу Вільню. Вось тут друкаваў свае кнігі Францішак Скарына, мы пісалі пра яго ў «Нашай Ніве», гэта выбітная постаць беларускага адраджэньня. Ня толькі першадрукар, але і астраном — Ластоўскі паказвае на вежу абсэрваторыі Віленскага ўнівэрсытэту. Там Скарынаназіраў неба. А яшчэ ж і лекарам быў. Каго лячыў? Ну, да прыкладу, земскага пісара… У галаве Багдановіча рояцца ўражаньні, і ўрэшце, складаецца карціна, якую ён пасьля апіша вершам. Праўда, аднаго сюжэту і пераліку Скарынавых умельстваў будзе мала. Гэта Багдановіч ведае з тэорыі паэтыкі. Патрэбная нейкая дэталь, якая зробіць верш філязофскім і вечным. І тут згадваецца пярсьцёнак, які ён сёньня бачыў у калекцыі Луцкевіча. Дакладна гэтак, як у сюжэце са слуцкімі ткачыхамі спатрэбіўся васілёк.

І тут самы час перайсьці да галоўнага пытаньня гэтага вершаванага «вузла»: што меў на ўвазе Караткевіч пад сьвятыняй у тым радку з Нагорнай казані? Увага:

Ты сказаў нам: «Унукі Скарыны,
Дзе ваш гонар, моц і краса?
Ёсьць і ў вас, як у іншых, сьвятыня.
Не давайце сьвятыні псам!
Не давайце зь яе глуміцца,
Бо прасьпіць яна ясну зару,
Бо сьвяты ізумруд заімгліцца
У пярсьцёнку тваім, Беларусь».



«Сьвятыня» ў Караткевіча ўжытая ў адзіночным ліку, у адрозьненьне ад Нагорнай казані, дзе Хрыстос гаворыць пра сьвятыні. Калі б Караткевіч казаў пра шмат сьвятыняў, атрымаўся б дыдактычны радок патрыятычнага зьместу. Але гутарка ідзе пра адну, найбольшую. Простая аналёгія са словам «храм» тут таксама непераканаўчая. Караткевіч ведаў і цаніў шматканфэсійнасьць Беларусі, а да таго ж у 1966-м рабіць такі адназначны рэлігійны акцэнт было і рызыкоўна, і — для багемнага асяродку паэтаў філялягічнае школы — неадэкватна. Можа быць, Караткевіч назваў сьвятыняю Беларусь? Але ж Беларусь тут названая сама сабою, гэта ў яе пярсьцёнку заімгліцца ізумруд, калі будзе зглумленая сьвятыня.

Нарэшце, трэба падводзіць рысу. Пішучы верш-водгук на Багдановічава васьмірадкоўе пра Скарыну, выкарыстоўваючы рытміку Багдановічавай «Пагоні» зь яе Вострай Брамай сьвятою, Уладзімер Караткевіч меў на ўвазе Вільню, страчаную і нічым не апраўдана чужую. Вільню зь яе абсэрваторскай вежай і дамамі бурмістра Бабіча, які даў прытулак першадрукару, зь яе слуцкімі паясамі ў беларускім музэі Івана Луцкевіча, з васільком на іх і зь пісарам земскім, які пісаў зразумела на якой мове. Вільню, культурную цану якой Караткевіч і ведаў, і вычуваў, як рэдка хто з сучасных беларусаў.

Звышэмацыйны выкрык Караткевіча, які прагучаў у вершы «Багдановічу» менавіта з-за гэтай самай звышнасьці ня быў пачуты цэнзурай, бо звычайнае вуха ня чуе інфрагукаў,

якімі перагукаецца з суродзічамі «чорны кажан, што шнуруе ля вежы». Гэты выкрык працягвае гучаць і сёньня, ён блукае рэхам па віленскіх вуліцах Завальнай, Вялікай Пагулянцы, Вастрабрамскай... Але чуюць яго адно кажаны. Караткевіч выказаўся, як выгукнуў. Тэзіс пра немагчымасьць новага нацыянальнага адраджэньня бязь Вільні прагучаў на поўную моц у 1966-м. Паэт шыфраваў свае думкі, бо выказаць іх адкрыта было цяжка, і думкі выходзілі друзлыя, гнятлівыя, амаль невыносныя. Побач зь вершам «Багдановічу» ў кнізе «Мая Іліяда» зьмешчаны верш, у якім Караткевіч спрабуе сказаць тое самае напрасткі. Мая найвялікшая любоў да беларушчыны падае птушкаю ў нейкія дэманічныя, злыя і бязьлітасныя рукі, — прызнаецца Караткевіч, як можа, эўфэмізуючы свае пачуцьці. Верш называецца «Вільня ў дождж»:

Вільня ў дождж, як старая гравюра
у «Тэцы Віленьскай»:
Праз завесу дажджу — кожны дах
у штрыхах, як страха,
Крадуць даль туманы. Ўсё у зьвівах, нібы
на паперы вяленевай,
Ўсё з шматлікіх штрыхоў, ўсё ў касых
характэрных штрыхах.

Ўсё з дакладнай штрыхоўкі гравёра:
завеса туману,
Пляма вежы, забытай у дождж
на вяршыні гары,
І акрэсьлены контур званіцы вялікага Яна,
І, ля ног яго, пастка зь цямноцьця
і цэглы — Муры.



Я ня ведаю, дэман які над гравюрай
пануе пахмура?
І чые гэта вочы халодныя ў віслых мяшках
Разглядаюць яе? І чыя гэта крэсьліць
крыжамі гравюру,
З жыл-вяровак, старэчая, злая, сухая рука?

этэр 4 сакавіка 2001 г.

## Друскенікі ў лютым

Інтрыга сёньняшняй перадачы — у тым, што Друскенікі — гэта летні курорт. А яшчэ ў тым, што гэтае чыста літоўскае мястэчка на мяжы зь Беларусяй да Беларусі ніякага дачыненьня ня мае. Вось жа ўсё гэта больш-менш няпраўда.

Кажуць, яшчэ перад вайною ў саміх Друскеніках жыла толькі адна літоўская сям'я. Ня ўсё ясна і з назваю мястэчка. Яшчэ й цяпер у нас яго часьцяком называюць Друзгенікі. Так яно згадваецца на беларускамоўных мапах пачатку мінулага стагодзьдзя і ў «Геаграфіі» Аркадзя Смоліча. Праўда, польскамоўны «Слоўнік геаграфічны» 1881 году выданьня папярэджвае, што Друскеннікі (праз два «н») і Друзгенікі — гэта няслушныя, памылковыя назвы. Тым часам, нашы сучасьнікі прыгадваюць, што яшчэ ў 60-я гады 20 ст. сюды прыходзіў цягнік з блізкае Горадні, на якім былі табліцы па-беларуску: «Гродна — Друзгенікі». Дык, можа, Друзгенікі — гэта якраз па-беларуску?

Ці — па-гэбрайску?

З усіх мясцовых культураў гэбраі аказаліся другімі пасьля беларусаў паводле трываласьці забыцьця. Далей у гэтым «рэйтынгу» — палякі і расейцы. Што да гэбраяў, дык яны маглі б згадаць і колішні цэнтар палестынафілаў у колішняй Расейскай імпэрыі, калі Друскенікі фігуравалі ў пераліках паміж Варшавай і Вільняй, або масавае засяленьне гэтых мясьцінаў сваёй папуляцыяй у канцы 19 ст. Мерапрыемства мела назву — «Населены лес». Маглі б успомніць і сынагогу, якая згарэла ў 1961 годзе. Маглі б згадаць, але няма каму. Не засталося ў Друскеніках гэбраяў.

А беларусы ёсьць. Яны тут, як і ў Вільні, паводле колькасьці трымаюць сваё ганаровае чацьвертае месца. Праўда, разгледзець іх амаль немагчыма. Тутэйшыя Юрась і Пятрусь міжсобку гавораць па-літоўску і ветліва называюць адзін аднаго: Юргіс і Пятрас. Наагул жа літуанізацыя ў Друскеніках праведзеная ўзорна. Ёсьць, так бы мовіць, чаму павучыцца. Але ёсьць што ўспомніць і зь беларускіх традыцыяў. І ня толькі колішніх. Мясцовы санаторый «Беларусь», які належыць РБ — ці не найбуйнейшае і найжывейшае ў цяперашніх Друскеніках прадпрыемства. Толькі па-беларуску там умеюць усяго некалькі чалавек — як зьлічыць на пальцах.

Пра ўсё гэта й пойдзе гаворка ў сёньняшняй праграме. А яшчэ — пра канцэптуальнае, пра засваеньне чужога і насаджэньне свайго, пра нацыяналізм і мультыкультуралізм — два супярэчныя прынцыпы арганізацыі культурнае прасторы. Мы разглядаем Друскенікі праз атвор Вострае Брамы.



***

У Друскеніках зімою не пакідае адчуваньне, што мястэчка стаіць на моры. Гэта — прысутнасьць нечага вялікага, неахопнага, касьмічнага. Магчыма, гэта сосны — бясконцае мора хвояў, паміж якіх пракідаюцца будынкі, некалькі вулак, возера і ўжо зусім сталы Нёман у стромых лясістых берагах.

Першае славутае імя маленькіх Друскенікаў — Мікалоюс Канстанцінас Чурлёніс або Чурлянь, як называла яго «Наша Ніва» пачатку мінулага стагодзьдзя, паведамляючы пра выставу ягонага жывапісу ў Вільні. Чамусьці пашыранае памылковае ўяўленьне, быццам Друскенікі — радзіма Чурлёніса. Напэўна, таму, што ён тут — самая культавая постаць, ёсьць цэлы музэйны комплекс Чурлёніса. Насамрэч нарадзіўся будучы мастак і кампазытар у Варэне, а ў Друскеніках жыў у сям'і свайго бацькі — касьцельнага арганіста.

Ёсьць і іншая постаць, якая тут мусіла б стаць культавай. Некалі, у спадзеве пераадолець хваробу, на тутэйшыя мінэральныя воды падаўся Ян Чачот. На жаль, ані воды, ані хвоі яму ўжо не дапамаглі. Не дажыўшы да паўвеку, Ян Чачот памёр тут у жніўні 1847 году і пахаваны на могілках у прадмесьці Ротніца (па-літоўску Ратніча). І сёньня на прыгожым узгорку па-над выгінам рэчкі Ратнічанкі стаіць помнік з эпітафіяй па-польску. Прозьвішча *Czeczott* напісанае зь дзьвюма «t» на канцы.

... Як усё ж няпроста іншы раз здабываць старую беларушчыну з-пад наслаеньняў іншых культураў. Ігар Лучанок нядаўна ў тэлебачаньні сказаў, што Міхал Клеафас Агінскі — польскі кампазытар. Нібы кропку паставіў. Бо на слых паспалітага беларуса гэта значыць — чужы. Дасьведчаны дасьледнік гісторыі культуры ведае, што сам Агінскі ніколі б не назваў сябе так. Але разбурыць стэрэатыпы нашмат цяжэй, чым іх ствараць — адной фразай.

І Чачот, беларуска-польскі або польска-беларускі, як у нас пішуць, паэт і навуковец ніколі б не назваў сябе так. На тое ёсьць і ўскосныя, і простыя доказы. У лісьце са ссылкі ў 1825 годзе Чачот піша сябрам: «Цяпер арэнбурская лінія, можна сказаць, запруджаная палякамі (так нас называюць тут і за такіх прымаюць)». Дасьледчык творчасьці Чачота Кастусь Цьвірка піша пра незапатрабаванасьць гэтае постаці польскай культурай. Беларускай культуры яшчэ толькі трэба будзе зацікавіцца гэтай постацяй і гэтым творчым даробкам.

Пастаўлены ў студэнцкія гады ў Віленскім унівэрсытэце на адну лінію са сваім сябрам Адамам Міцкевічам, Чачот праз усё жыцьцё імкнуўся зразумець, чаму ён, проста кажучы, не настолькі вялікі творца. Але рухала ім ня зайздрасьць або гэтае самае жаданьне стаць вялікім, а шуканьне ў сабе свае праўдзівае рэалізацыі. Седзячы ў ссылцы ў Башкірыі, ён перакладаў Вашынгтона Ірвінга. Факт, які ня можа не зьдзіўляць. Амэрыканскі пісьменьнік быў сучасьнікам Чачота, які (без інтэрнэту) атрымліваў нейкім чынам усе самыя сьвежыя навінкі літаратурнага сьвету. Ня варта думаць, што ссылка праходзіла ў цяплічных, спрыяльных умовах. Вось вытрымка зь ліста:

«Усе мы здаровы. Мы не на лепшай ад няволі свабодзе... Мы блукаем далёка па стэпах, прыносячы адтуль у душы дадому такую ж, як стэпы, аднастайнасьць, панурасьць і млоснасьць. Наш дом — маленькая хатка: зробленая яшчэ пры жыцьці пустэльніка магіла... У гэтай дзіравай і недагледжанай хованцы часам быў такі жахлівы холад, што я змушаны быў сядзець тут адзеты, як у павозцы — у кажуху, паліто, цёплых ботах, рукавіцах і шапцы. Я так замярзаў колькі разоў, што ня ведаю, як яшчэ не захварэў — калі б ня ўнутранае цяпло, можна было б ператварыцца ў лёд».

Для літаратуразнаўцаў Ян Чачот ня стаў настолькі ж геніяльным паэтам, як ягоны сябра Міцкевіч. Чытаючы Чачотавы лісты, разумееш, што ён сам у сваёй ацэнцы ўласнага паэтычнага даробку быў яшчэ больш жорсткім крытыкам. Але ён не пераставаў шукаць сябе. І знайшоў. Некалькі зборнікаў беларускіх народных песень, адабраных і складзеных з найвялікшай любоўю да матэрыялу ды зь ня меншай рэдактарскай патрабавальнасьцю — вось што стала ягоным вялікім плёнам. Праз амаль 200 гадоў, прызнаюся, тыя песьні выглядаюць нашмат больш глыбокімі, гарманічнымі і жывымі, чым творы аўтарскія, якія патрабуюць ад чытача схільнасьці да архівізму. А тое, народнае, як праменіла спрадвечную беларускую волю і долю, гэтаксама праменіць і цяпер. Словам, знаць Чачота ўсе павінны.

Стоячы над ягонай засьнежанай магілай у Друскеніках, я згадваю кніжныя зьвесткі. Памёр Ян Чачот на вачах у Юзафа Крашэўскага. Ягоныя апошнія дні найбольш падрабязна апісаў нядаўна адшуканы намі ў «Вострай Браме» пісьменьнік Васіль фон Роткірх. Але гэты сюжэт яшчэ патрабуе разьвіцьця. На помніку Чачоту — верш Антона Адынца, які па-беларуску перакладаў Максім Танк, і які друкаваўся ў кнізе Адама Мальдзіса «Падарожжа ў 19 ст.». У Менску выдадзеная кніга твораў Чачота і некалькі кніг пра яго. Так мы ўсе пакрысе расчышчаем гэтую фрэску з-пад напластаваньняў часу і пылу.

***

У прадмесьці Ротніца, на могілках, дзе пахаваны Ян Чачот, ёсьць яшчэ і нядаўні літоўскі помнік — дэпартаваным пры Сталіне землякам. Названыя ўсе пайменна. Уявіць сабе такі помнік дзе-небудзь у беларускай вёсцы я не магу, хоць гісторыя ў нас адна й тая. Людзі паразнаму ставяцца адзін да аднаго, часам сварацца, часам усёй вёскай кагосьці ня любяць. Тое самае што ў нас, што ў літоўцаў. Але па выніках яны ўсё ж трымаюцца ў сьвеце неяк інакш. Яны сваіх помняць кожнага — і благога, і добрага. Тут ужо неістотна, хто які. Чаму так? Урэшце раблю выснову, што яны, у адрозьненьне ад нас — даражаць сваёй папуляцыяй. Пачуцьцё вельмі мала знаёмае беларусам. Нават у адраджэнскай прапагандзе заклік да беларусаў даражыць сваімі, калі й гучыць, дык недзе напрыканцы сьпісу. Адкуль жа гэта бярэцца — такая воля?



Дапускаю, яна паходзіць ад таго, што ў літоўцаў як нацыі няма сваякоў. Ці то гэтак склалася аб’ектыўна, ці яны самі сабе так вырашылі, але няма ў іх ані старэйшых, ані малодшых, ані проста братоў і сясьцёр. «Прыбалтыйская абойма» — насамрэч чыста палітычная гульня. Літоўцы часьцяком недалюбваюцца з латышамі. Як, дарэчы, і з палякамі, і з расейцамі. Найлепшае паразуменьне яны знаходзяць з намі. Але яны — балты, у іх адрозная мова, у іх, як той казаў, хутаранская сьведамасьць і вялізная воля да жыцьця. А мы нібыта славяне, наша мова падобная з расейскай, мы ўвогуле — з братняю Русьсю, і нашая нацыянальная воля ледзьве падае прыкметы жыцьця. Наяўнасьць сваякоў — магутнейшых і багацейшых, згадзіцеся, расслабляе. Гэта як спакуса ў нейкіх справах паспадзявацца на старэйшага брата, ня ўзяць адказнасьці на сябе. Вось жа літоўцы сабе такой магчымасьці не далі.

Літоўскае засваеньне Друскенікаў паводле мадэлі такое самае, як і засваеньне Вільні. Толькі ў маленькім мястэчку гэта даецца прасьцей і хутчэй.

Гісторыя паселішча пачынаецца з двароў. Спачатку адзін двор, пасьля два двары, пяць двароў. Усе жыхары вядомыя пайменна. Паўтараста гадоў таму, дакладна — 164 гады назад — на тутэйшых мінэральных водах засноўваецца курорт. А ўласна літуанізацыя пачынаецца толькі пасьля мінулай вайны.

Нібы з аднаго каліва цэлае поле, тут з адна-

го чалавека паўставала цэлая нацыя. У храналёгіі найважнейшых падзеяў з гісторыі мястэчка першы ўласна літовец сустракаецца пад 1903 годам. Менавіта тады тут нараджаецца Дамінік Вішчыніс, а ў 1912-м — ягоны брат Пятрас. Зь іх усё і пачалося, хоць усяго тады ў Друскеніках было каля трох тысяч жыхароў. У 1943-м, за немцамі, Пятрас скончыць Віленскі ўнівэрсытэт, а ўжо ў 1944-м, за саветамі, стане стваральнікам і дырэктарам першай тут літоўскай прагімназіі. Ягоны малодшы брат з 1941 году будзе забясьпечваць падтрымку з-за мяжы. У Амэрыцы ён узначаліць радыёстанцыю «Звон свабоды». Так выглядае завязка. Першая школа, першая бібліятэка, першая літоўская служба ў касьцёле, першая нелегальная антысавецкая арганізацыя, першае сьвята літоўскай песьні... Гарадзкая хроніка фіксуе кожнага, хто спрычыніўся да паўставаньня нацыі і славы мястэчка. Да прыкладу, 3 ліпеня 1949 году друскеніцкая школьніца Яня Вайкшнорайтэ ставіць рэспубліканскі рэкорд у мятаньні гранаты. Рэкорд пратрывае 30 гадоў...

Яшчэ крыху, і кола пачне круціцца само. Можна сабе ўявіць, як няпроста было пачынаць. Але ўсе тыя кроў, пот і сьлёзы ня йдуць ні ў якое параўнаньне з вынікамі. І яшчэ што важна. Літоўцы рабілі сваю справу вельмі творча. Наўкола будаваліся й адкрываліся ўсё новыя санаторыі і дамы адпачынку, а ў мясцовых актывістаў нараджаліся дзеткі. Хлопчыкаў прыдумалі называць Вітаўтасамі — у гонар Вялікага князя Вітаўта. І вось сёньня ў Друскеніках жывуць трыста Вітаўтасаў. Уявіце



сабе, чаго вартыя спаянасьць і воля гэтага клюбу. За часамі незалежнасьці ў цэнтры мястэчка зьявіўся і помнік самому князю.

Дарэчы, пра тых Вітаўтасаў. Самі літоўцы літуанізацыю называюць гарманізацыяй. Імёнам і прозьвішчам надаецца вялікая ўвага. Бо гэта — вобраз нацыі і, ўрэшце, краіны. Немагчыма сярод сьведамых літоўцаў уявіць сабе якога-небудзь Іванова ці Пятрова або нават Івановаса зь Пятровасам. Гэткія прозьвішчы — незгарманізаваныя. Затое літоўца па прозьвішчы адразу відаць, дзе б у сьвеце ён ні апынуўся. Згадайце тую зорку маскоўскай эстрады Арбакайтэ. Зьявіся там беларуска Дарафеева, мы яе проста не адрозьнім як сваю. Журналіст беларускага радыё Ёнас Лаўрынавічус ніколі і ў галаве ня меў замяніцца на Івана Лаўрыновіча. Затое шмат якія беларусы Іваны Лаўрыновічы, якія жывуць у Літве, ахвотна перапісаліся на Лаўрынавічусаў. Гістарычныя прозьвішчы гарманізавалі навукоўцы. Скажам, Ян Чачот па-літоўску — Čečota.

Такім чынам, махавік запрацаваў на поўную моц і ўжо не патрабуе такіх неверагодных высілкаў і фантазіі, як тое было напачатку.

***

Друскенікі ў лютым пуставатыя. Ня столькі таму, што зіма. Цяпер ужо і ўлетку тут няма тых шумных натоўпаў «з усяго Саюзу», і многія санаторыі стаяць зачыненыя. Але няма тут і запусьценьня. Як любяць казаць нашы людзі, у літоўцаў — культура. Вось жа гэты сапраўды вышэйшы бытавы стандарт — га-

лоўны інструмэнт літуанізацыі. Негвалтоўны і пасьпяховы. Быць літоўцам і гаварыць палітоўску — найперш прэстыжна, а пасьля ўжо выгадна. Праўда, правілы гульні, усталяваныя ад пачатку, жалезныя і перагляду не падлягаюць: адна дзяржава і адна мова. Ніхто не спрачаецца. А чаго спрачацца? Зь літоўскай хутчэй знойдзеш добрую працу, за якую будзеш атрымліваць столькі, што назад у Расею не захочаш. Няма сэнсу. З добрым заробкам тут набудзеш усё, што табе трэба. Як кажуць, у асартымэнце. Каб сапраўды не хацець назад у СССР ці ў якое СНГ, жыхарам Літвы дастаткова наглядпае ілюстрацыі — суседняй РБ зь яе заробкамі, крамамі і няяснай будучыняй.

Ці надаюцца літоўскія мэтодыкі да беларускай сытуацыі? Гэта загадка, якую трэба разгадваць. Прыкладам, можна, як літоўцы, ставіцца да тутэйшых традыцыяў выбіральна. А можна — мультыкультурна. Два падыходы супярэчаць адзін аднаму. Калі маеш на мэце ўзгадаваньне нацыі, мусіш разумець, што маладая нацыя заўсёды імкнецца да экспансіі. Менавіта так выяўляецца яе воля і інтарэс да жыцьця. Літоўцы працягваюць актыўна засвойваць Віленшчыну і Клайпедзкі край, імкнуцца ўдзельнічаць у пытаньні Калінінграду, некаторыя залучаюць ва ўласна літоўскія землі цяперашнюю Беларусь — аж да Маладэчна. Дзеля чаго ім гэта ўсё трэба? Каб захоўваць малады жыцьцёвы імпэт найперш у самой Літве. Бадзёрасьць духу, прагу пазнаньня і тварэньня. Гэта як бы беларусы актыўна дыскутавалі пытаньні Вільні, Дзьвінску, Смаленску, Беласто-



ку, Чарнігава... Ня дзеля таго, каб гэта ўсё адваяваць. А дзеля таго, каб жывой нацыянальнай творчасьцю напоўніўся сёньняшні Менск.

Другі падыход — мультыкультуралізм. Беларусы ў Літве спрадвеку жывуць у суплёце розных традыцыяў — польскай, гэбрайскай, татарскай, літоўскай, расейскай... Нам, як жыхарам краю, цікавая ўся культура гэтага краю. Узаемапранікненьні зь іншымі ня толькі ня шкодзяць, але спрыяюць. Бо гаворка йдзе не пра нейкую ачышчанасьць, нацыянальную адасобленасьць, а пра ўзвышэньне культуры. Тады мы ня можам гаварыць пра кроў, якая цячэ ў нашых жылах, адразу прызнаючы, што яна мяшаная. Тут дарэчы будзе клясычны прыклад трох родных братоў Іваноўскіх, якія прызнаваліся кожны да іншай нацыі: беларус, літовец і паляк.

Як мультыкультуралісты, мы цікавыя сьвету. Як нацыяналісты — цікавыя найперш сабе і служым нацыянальнаму ўзгадаваньню.

Напэўна, добра, калі ў межах аднае нацыі ёсьць прадстаўнікі абедзьвюх плыняў. Беларусы — пераважна мультыкультуралісты. Міжволі падумаеш, ці ня ў гэтым перакосе наша нацыянальная слабасьць і зьнешняя безаблічнасьць?

***

17 верасьня 1939 году Друскенікі ўвайшлі ў склад Парэцкага раёну БССР, дзе знаходзіліся амаль чатырнаццаць месяцаў. Мала дасьледаваная гісторыя. Ці была тут створаная беларуская школа, ці выходзіла беларуская газэта, ці

заснавалася якое таварыства — невядома. Вядома, што менавіта ў тую пару быў адкрыты санаторый «Беларусь» — для супрацоўнікаў Акадэміі навук. У 1952-м быў адкрыты яшчэ адзін — санаторый для дзяцей беларускіх чыгуначнікаў «Пралеска». Але да сёньня даіснаваў той першы — «Беларусь». Мая маці прыгадвала, як пасьля вайны курортнікам тут ня раілі гуляць блізка каля Нёману, бо з процілеглага боку ракі пастрэльвалі лясныя браты. Цяпер, дарэчы, іхная стаянка ў лесе ператвораная ў мэмарыял. Згаданыя ўсе пайменна.

У сёньняшняй перадачы я не назваў ніводнага беларускага чалавека ў сучасных Друскеніках. Але яны ёсьць, і сапраўдныя падзьвіжнікі беларушчыны сярод іх ёсьць. Ёсьць суполкі, і нават дзіцячы хор. Праўда, пра школу гавораць, як пра тое, што становіцца ўсё менш рэальным. Беларусы, як і расейцы, і палякі, ходзяць тут у расейскую школу. І ўжо тая на мяжы закрыцьця. Юрась і Пятрусь ахватней адгукаюцца на Юргіса і Пятраса. Санаторый «Беларусь», які быў прадметам міждзяржаўных спрэчак за Шушкевічам і Кебічам, як праблема, ужо нікога не цікавіць. Высьвятляць ісьціну ў архівах стала ня модна. Беларускія архівы цяпер запатрабаваныя ўладамі дзеля кампрамату, а ня ісьціны. Хіба ТБМ часам нагадвае пра Друскенікі. А ў цэлым справа завіслая. Да лепшых часоў.

Колішнія шумныя Друскенікі, у якіх летняй парой перабывала столькі беларускага народу, сёньня сустрэлі нас у лютым. Мэтафара, падобная на мэтамарфозу. Усё перамянілася — Літва, Беларусь, мы з вамі. Дакладней, усё перамяняецца, усё незавершанае. Апусьцелы засьнежаны курорт таксама напружана думае, як вярнуць сабе былую сваю славу і тыя шумныя натоўпы аматараў лекавых гразяў, мінэральнай вады і хваёвага паветра.



этэр 11 сакавіка 2001 г.

## Падарожжа ў 20 стагодзьдзе

Аднойчы ў падвале бацькоўскага дому я перажыў самую сапраўдную трансфармацыю ў часе. Прыйшоўшы па бульбу, я стаў разглядаць стосы старых кніг, зьнесеных сюды з хатняе бібліятэкі. Раптам вока ўпала на карэньчык з прозьвішчам «Ваўпшасаў». Гэтая асоба зацікавіла мяне яшчэ на шыльдзе адной менскай вуліцы. Што за прозьвішча такое? Каўказец — не каўказец. Аказаўся літоўцам. Толькі да прозьвішча Ваўпшас дадаўся расейскі канчатак -ов. (Унікальны на маёй памяці выпадак.) Што за чалавек? Дывэрсант, чэкіст, опэр, асабіст, чый лёс увабраў заградатрады, НКВД, спэцпадразьдзяленьні... Прафэсія — ліквідацыя людзей. Пяцьдзясят гадоў біяграфіі Ваўпшасава прыпадаюць на Беларусь.

Наша краіна вачыма тэрарыста...

Я прысеў, разгарнуў таўставаты, амаль на 500 старонак, том і пачаў чытаць.

Паглыбляючыся пры сьвятле тускнай лямпы ў зьмест Ваўпшасавых мэмуараў, я зразумеў,

што паглыбляюся ў самое мінулае стагодзьдзе. Міжволі я параўнаў сваё падарожжа з колішняй кнігай Адама Мальдзіса «Падарожжа ў 19 ст.». Пэўне ж, не на сваю карысьць. Там Агінскі, Чачот, Бакшанскі — узьлёты духу з зразумелай адвеку і давеку думкаю пра Бацькаўшчыну, яе свабоду і посьпех. Мальдзіс кліча чытача ў нябёсы нязьменных ідэалаў, у сьветлыя рамантычныя вышыні, у палёт. А мне з маім падарожжам у стагодзьдзе 20-е выпала сядзець у пыльным бульбяным падвале сярод сьпісаных састарэлых кніг, чые ідэалы ператварыліся ў скукожаныя ідэалягемы. Тым ня менш, я вырашыў прайсьці сваё падарожжа, каб ясьней разгледзець мінулае стагодзьдзе і ягоных герояў, ягоных заканадаўцаў і гаспадароў.

Узьлёты духу… Колькі ж жыцьцяў на сумленьні аднаго гэтага чалавека! А які матыў сотцень, або і тысяч забойстваў? Усясьветная рэвалюцыя? Далёкая песьня, усё больш далёкая, ужо амаль неразборлівая… Да аснаваньня, а зацем… Словам, матыў кануў некуды ў нябыт. А безь яго з чым будзе стаяць тая душа чалавечая перад вечнасьцю, чым растлумачыць свае ўчынкі? Эй, хто ты?

Ужо першы абзац Ваўпшасавай кнігі мяне насьцярожыў і азадачыў:

«Канфліктаваць з жыцьцём я пачаў рана. Асаблівых падставаў для майго неўсьвядомленага пратэсту не было, зьнешне ўсё выглядала на дабрабыт, я не магу паскардзіцца на бязрадаснае або жабрацкае дзяцінства. Тым ня менш нешта не задавальняла мяне ў звыклых парадках, а што менавіта, адразу цяжка было зразумець».



Пасьля высьветліцца, што гэта — уся жыцьцёвая праграма, якая можа быць пададзеная ў боскую канцылярыю, бо астатніх вытлумачэньняў — пра інтарэсы рэвалюцыі і савецкае ўлады — там ня прымуць.

Калі ж адкінуць бальшавіцкую ідэалёгію, якую сёньня больш дакладна назваць ідэалістыкай, дык жыцьцёвыя прыгоды Ваўпшасава ўспрымаюцца як успаміны якога-небудзь бэн Ладэна, ня йначай.

Як нараджаецца тэрарыст? У нашым выпадку ён сфармаваўся з вайскоўца.

«На другі дзень раніцою Нехвядовіч атрымаў цывільную вопратку, літаратуру, выбухоўку і, рассоўваючы ўсю гэтую гаспадарку па рэчавых мяшках, сказаў:

— Вось хутка пераапранемся, і нічога ў нас чырвонаармейскага не застанецца. Мужыкі і мужыкі. Былі франтавікі — сталі партызаны, і што нас чакае наперадзе, нікому няведама. Але мы далі слова партыі і павінны яго сьвята выконваць, а хто паверне…

— Няма ў нас такіх, камандзір! — адгукнуўся Жулега. — Мы ня зьвернем з абранай дарогі да самага сканчэньня ўсясьветнай рэвалюцыі, пакуль апошняга буржуя не прыкончым.

— Жулега ў нас такі, — умяшаўся Пеця Курзін. — Барацьбу прызнае толькі ва ўсясьветным маштабе. Польскі пан для яго ня пан, а дробная казурка. Як дасьць па фрызуры — так і вырасьце сьвежая магілка».

Ключавое слова тут — пераапранемся. За сваё жыцьцё Ваўпшасаў толькі паводле мэмуараў мяняў прозьвішча і дакумэнты разоў дзесяць. Гэта вельмі важная дэталь — закрыцца. З чужым імем ты быццам і недасягальны, і беспакараны. Гэтым разам дзея адбываецца яшчэ за першай польскай акупацыяй.

У чым зьмест дзейнасьці? Увайсьці на тэрыторыю праціўніка, зьбіць там групу, напасьці на інкасатара, каб было за што піць-есьці, пасьля арганізаваць напад на абоз ці склад з боепрыпасамі, а з гэтым ужо прыступаць да дывэрсійнай дзейнасьці. Што-небудзь зьнішчыць, каго-небудзь забіць, разграміць невялікі гарнізон. І пры гэтым сьцягваць да сябе ўсё новых прыхільнікаў. Дзеля чаго ўсё гэта? Дзеля ўсясьветнай рэвалюцыі — гучыць выцьвіла і непераканаўча. Калі ж адкінуць ідэалістыку, дык маем справу з рамантыкай звычайнага бандытызму.

Зьвярніце ўвагу, як наіўна гучаць сёньня апраўданьні разбою на дарогах. Перайшоўшы мяжу, дывэрсанты сядзяць у лесе. Ад мясцовага агента даведваюцца, што па дарозе Бягомаль — Мсьціж будзе ехаць польскі вайсковы скарбнік. Нехта прапануе напасьці. Камуністычныя дывэрсанты ў сілу сваёй ідэалістыкі пачынаюць сумнявацца. Ваўпшасаў працягвае:

«— Экспрапрыяцыя? — спытаўся я. — Трэба падумаць. Мы ж камуністы, падпольшчыкі, і наўрад ці нам трэба даваць польскім уладам падставу называць нас разбойнікамі з бальшой дарогі.

Але Зыс стаяў на сваім, і мы пайшлі да нашага камандзіра, каб ён вырашыў нашу спрэчку. Нехвядовіч уважліва выслухаў нас і сказаў:

— Таварыш Зыс мае рацыю. Мы павінны жыць за кошт праціўніка, забіраючы ў яго зброю, харчы і іншыя матэрыяльныя каштоўнасьці, у тым ліку і грошы. Такая лёгіка партызанскай вайны.

Камандзір прыняў рашэньне: арганізаваць засаду, ахову і скарбніка раззброіць, але не забіваць, а грошы падзяліць паміж найбольш беднымі сялянамі, і частку ўзяць сабе для патрэбаў падпольля».

Ну, проста калыханка нейкая. Ідылія. Нібы і пісаў гэта ўсё Ваўпшасаў у тыя часы, калі ня меў яшчэ й дваццаці гадоў, а не ў сваім кабінэце зь відам на маскоўскі Ленінскі праспэкт.

...Уладкаваўшыся зручней у падвальным катуху, я прабягаў вачыма старонкі, запоўненыя вадзяністым расповедам. Сярод усіх гэтых робленых дыялёгаў раз-пораз натрапляў на назвы знаёмых мне вёсак, сустракаў і ведамых гістарычных пэрсанажаў. Але цікавіла мяне, мабыць, ня гэта.

Масьціты забойца нідзе не апісваў саміх экзэкуцыяў, быццам стараўся не пакідаць сьлядоў злачынства. Хіба што ў такіх знакавых выпадках, як расстрэл памешчыка Вішнеўскага з-пад Вялейкі на вачах ягоных батракоў. Далей імем гэтага памешчыка будуць палохаць іншых. Што да астатніх ліквідацыяў, дык яны папросту выпадаюць з тэксту. Гаворыцца, што правакатарам няма дараваньня, пасьля эпізод допыту і... усё. Ліквідацыя шпіёнаў — так ён сам гэта называе. Насамрэч тут лёгка вычытва

ецца правобраз будучых заградатрадаў. Бальшавіцкія дывэрсанты сядзелі ў лясах за польскай мяжою, адсочвалі і зьнішчалі перабежнікаў з савецкага боку. Ішоў 1923 год. Вось як гэта выглядала:

«Але хто ня мог чакаць ад нас літасьці, дык гэта шпіёны і правакатары.

Дзьмітры Балашка паведаміў мне, што ягоная група затрымала на шашы каля вёскі Бамбалі мужчыну, які назваўся Жылінскім. У яго адабралі зброю.

— Прывядзіце яго сюды, — папрасіў я.

Допыт працягваўся некалькі дзён. Жылінскі і жартамі аддзелваўся, і сварыўся з намі. Упарта цьвердзіў сваю легенду:

— Я служыў у Чырвонай арміі, быў на фронце і ваяваў супраць белапалякаў. Цяпер дапамагаю сумленным беларусам змагацца ў тыле ворага.

— Патрыёт, значыць? — спытаўся я ў яго, будучы выведзены зь цярпеньня нахабнай хлусьнёю.

— А што, скажаце, не? — адказваў ён, не зьміргнуўшы вокам.

— Ва Ўсходняй Беларусі бывалі?

— Бываў.

— Выпадкова не знаёмы з камісарам лясного наркамату ў горадзе Ігумен?

Такога пытаньня арыштаваны не чакаў. Бо гэтым камісарам да нядаўняга часу быў ён сам».

Канец эпізоду.

Самой экзэкуцыі аўтар не апісвае. Гэта як у эратычных кінафільмах — закаханыя кладуцца ў ложак і гасяць сьвятло. Далей мусіць запрацаваць уяўленьне гледача — наколькі яно разбэшчанае. Так і тут.



Ня могуць не запыняць увагі эпізоды, дзе адным сказам пазначаюцца некалькі гадоў працы ў НКВД у самы разгар выкрываньня шпіёнаў і ворагаў народу. У Ваўпшасава гэты сказ гучыць так: «Некалькі гадоў праслужыў у рэспубліцы, зь якой даўно і моцна зьвязаў свой лёс. Затым зноў Масква». А там — Беламорканал. Можна толькі дзівіцца, як адзін чалавек накрывае сваім лёсам усе гарачыя кропкі стагодзьдзя. Прычым, па ўсім сьвеце. Вось ён апынаецца ў Барсэлёне. Аказваецца, яшчэ да Адама Глёбуса гэты горад наведаў, апісаў і палюбіў верны опэр НКВД. Сцэнка сустрэчы двух сяброў настолькі беларуская савецкая, што не магу яе не прывесьці.

«Барсэлёну нездарма называюць пэрлінай Міжземнага мора. Горад проста цудоўны са сваімі велічнымі старажытнымі будынкамі, пышнымі пальмавымі бульварамі, шматкіляметровымі праспэктамі і ўзьбярэжнымі, раскошнымі віламі ў ваколіцах. Калі я прыехаў, неба над морам і гарадзкімі кварталамі зьзяла яркім блакітам, і ўсё навокал было па-паўднёваму яркае, жыцьцярадаснае, прыгожае.

У Барсэлёне я сустрэўся з многімі савецкімі добраахвотнікамі, што прыехалі сюды раней за мяне. Вельмі радаснай была сустрэча з Кірылам Пракопавічам Арлоўскім, усё такім жа маладым, задорным, агнявым.

— Сьвет малы, Станіслаў! — прамовіў ён, калі мы абняліся. — Колькі разоў мы з табой

разлучаліся, але дарожкі нашыя сыходзяцца зноў і зноў. Ці ж ня дзіва!

— Калі разабрацца, Кірыл, ня дзіва. У такое стагодзьдзе так і павінна адбывацца. Заканамернасьці часу супадаюць з заканамернасьцямі асобы.

— Вось-вось, Станіслаў! Гэтак мы з табою ўсё жыцьцё пройдзем разам».

Дзея адбываецца ў часе гішпанскай грамадзянскай вайны. Ваўпшасаў прыехаў сюды дарадцам, які кансультаваў дывэрсійныя атрады, як правільна разбураць камунікацыі, мініраваць дарогі, ствараць паніку сярод насельніцтва.

Наступны эпізод зноў ляканічны, хоць і ўбірае некалькі гадоў:

«Па вяртаньні ў Маскву я стаў працаваць у адной з управаў НКВД. Жыў у сям'і, хадзіў па родных маскоўскіх вуліцах, любаваўся сталічным бляскам і дзелавой мітусьнёй вялізнага гораду». І ўсё. Далей адразу — фінская вайна. Задача Ваўпшасава — здымаць з дрэваў «зязюляў» — фінскіх снайпэраў.

«Любіў я сваіх падначаленых, па-бацькоўску клапаціўся пра іх. І яны не аднойчы ратавалі мяне ад вернай пагібелі, а паміж сабою за ўзрост, гумар і вечную заіндзянеласьць празвалі Дзедам Марозам»...

Часам правалы здараюцца нават з геаграфіяй. «Паўтара году я правёў у капіталістычнай Эўропе, выконваючы спэцыяльныя заданьні». Увесь пэрыяд нямецкай акупацыі Беларусі Ваўпшасаў на акупаванай тэрыторыі нашай краіны займаецца звыклай работай — дывэрсіі, стварэньне ліквідацыйных групаў і ўласна сама ліквідацыя. У прыватнасьці, ён бярэ ўдзел у арганізацыі забойстваў «актыўнага буржуазнага нацыяналіста» Фабіяна Акінчыца, «ворага беларускага народу» Вацлава Іваноўскага і «злобнага буржуазнага нацыяналіста» Казлоўскага.

«У выніку ўдараў, нанесеных па беларускіх нацыяналістах, гэтыя празрэнныя адшчапенцы, ня маючы апоры ў народзе, не змаглі аказаць эфэктыўнай дапамогі фашысцкім акупантам. Чэкісцкімі групамі праводзілася вялікая праца дзеля разлажэньня нацыяналістычных арганізацыяў і фармаваньняў, якія ствараліся гітлераўцамі зь ліку мясцовага насельніцтва». Дэталі не ўдакладняюцца.

Пасьля вайны бальшавіцкі бандыт мяняецца месцамі з тымі, хто перасьледаваў яго ў лясах. Адбываецца новае пераапрананьне. Цяпер ён ад імя ўлады ловіць бандытаў у Беларусі і Літве.

«Зноў замкнулася кола лёсу: тут у 1920-я гады я працаваў у падпольлі, змагаўся ў партызанскіх атрадах, а цяпер ролі перамяніліся, я бараніў народную ўладу ад усялякага роду ўзбройных прайдзісьветаў, што хаваліся ў лясах».

Далей Ваўпшасаў пачынае распавядаць гісторыю, якая мае ўжо адкрыта казачны зьмест. Ён прыяжджае ў Жэмайцію, дзе ў лесе сядзіць банда нейкага Клаюнаса. Наш герой вырашае ліквідаваць банду па-добраму. Ён піша Клаюнасу ліст, каб той перастаў змагацца, бо такое вакол цудоўнае жыцьцё, савецкае. Маўляў, за

24 гадзіны ўся банда на фурманках павінна выехаць зь лесу пад чырвонымі сьцягамі. Гадзіны бягуць хутка, чэкіст хвалюецца. Але хіба ж можа ён памыляцца. І вось сапраўды мноства фурманак зь ляснымі братамі пад чырвонымі сьцягамі прыяжджаюць у мястэчка. Малайцы, — кажа ім Ваўпшасаў. Чым хацелі б займацца ў мірнымі жыцьці? Тыя адказваюць, што ім за здраду можа дастацца ад іншых лясных братоў, таму яны хацелі б паехаць на Далёкі Ўсход.

Хто б мог падумаць, што пасьляваенныя масавыя дэпартацыі літоўцаў у ГУЛАГ адбываліся добраахвотна...

Верагодна, у сэнсе даставернасьці гэты эпізод адпавядае і ўсёй астатняй кнізе. І яшчэ — ані разу не ўзьнікае жаданьня параўнаць сябе з героем-распавядальнікам, маўляў, як бы зрабіў я. Наадварот, нязьменна ўяўляеш сябе на месцы ахвяраў безагляднага дывэрсанта. Ад гэтага ўвесь час кніжку хочацца адкласьці. Тым ня менш, я дачытваю да апошняга абзаца, які мае філязофскі характар:

«На дарогах жыцьця растуць не адныя посьпехі ды ўдачы. Вельмі важна пазьбегнуць паразы і дамагчыся перамогі. Але ня менш важна пры любых абставінах захоўваць паўсюль — і ва ўнутраным сваім сьвеце, і ў калектыве людзей, сярод якіх знаходзісься, — аптымальную маральную атмасфэру».

Дзесьці я нешта падобнае нядаўна чытаў. Ага, згадваю. Цяпер у Вільні судзяць нейкага Янушкевіча. За пяць гадоў ён учыніў трынаццаць забойстваў — пераважна інкасатараў і мянялаў валюты, учыніў мноства ўзбройных



нападаў, рабункаў. Словам, чысты Ваўпшасаў нашых дзён. Гэта ён сказаў журналістам нешта пра «аптымальную маральную атмасфэру». Газэты не ўдакладняюць, ці кіраваўся Янушкевіч нейкімі ідэйнымі матывамі, напрыклад, ці ён камуніст. Але калі да ягонае дзейнасьці прыставіць нейкія матывацыі — скажам, дэстабілізаваць сытуацыю ў цяперашняй капіталістычнай Літве, дык мы атрымалі б яшчэ аднаго савецкага героя.

Але ж як у выпадку зь Янушкевічам, так і ў выпадку з Ваўпшасавым усе ўчыненыя ім забойствы, рабункі і дывэрсіі засталіся толькі забойствамі, рабункамі і дывэрсіямі, бо ўсё, дзеля чаго гэта нібыта рабілася, было асуджана, адкінута, забыта. Інтэрнэтаўскія шукалкі на імя Ваўпшасаў адгукаюцца сёньня толькі адрасамі ўстановаў, разьмешчаных на адной зь менскіх вуліц...

На вуліцы Ваўпшасава ў Менску ёсьць маторны завод, дзьве аўтазапраўкі і першы ў Беларусі прытулак для бяздомных людзей.

Паўстагодзьдзя наш герой займаўся дывэрсійнай і тэрарыстычнай разбойнай дзейнасьцю. У сваёй кнізе ён апісаў нашу краіну не як краязнаўца або падарожнік, не як навуковец, а менавіта як бандыт.

У савецкай Літве, як тады было прынята, на радзіме героя Савецкага Саюзу ўсталявалі ягоны бюст. Сам Ваўпшас жыў у сваёй кватэры ў Маскве на праспэкце Леніна і пісаў на машынцы мэмуары. Сёньня ягоны бюст — у парку скульптуры таталітарнага пэрыяду, у глыбокай правінцыі, недалёка ад беларускай мяжы,

сярод іншых пэрсанажаў таго часу — ленінаў, сталінаў, дзяржынскіх...

Першую спробу даць пераацэнку дзейнасьці вэтэрана савецкага палітычнага тэрарызму зрабіў расейскі пісьменьнік Віктар Сувораў у сваёй кнізе «Ледакол. Хто пачаў другую сусьветную вайну?» Менавіта Ваўпшасаў спатрэбіўся Сувораву для даказваньня таго, што Сталін рыхтаваўся не да абарончай, а да нападніцкай вайны.

«Да 1926 году ваяваў у польскіх лясах. Афіцыйна вайна з Польшчай даўно завяршылася, а савецкія «партызанскія атрады», укамплектаваныя галаварэзамі з ЧК і ГПУ, забіваюць людзей у імя ўсясьветнай рэвалюцыі. Пасьля вяртаньня Ваўпшас — буйны начальнік на вялікіх будоўлях ГУЛАГу — тысячы галодных зэкаў капаюць сталінскія каналы, а кіруюць будаўніцтвам чэкісты. Ваўпшас — сярод кіраўнікоў. А пасьля наш герой кантраляваў ня зэкаў ГУЛАГу, а палітбюро гішпанскай кампартыі, накіроўваў працу рэспубліканскай контрразьведкі і дывэрсійных фармаваньняў. А потым Беларусь і падрыхтоўка савецкіх партызан на выпадак уварваньня праціўніка на савецкую зямлю. Але вось падпісаны пакт, і партызаны больш непатрэбныя. Ваўпшас трапляе ў фармаваньні Асназ НКВД і займаецца высакароднай справай «ачысткі тэрыторыяў ад варожых элемэнтаў» у часе «вызваленчых паходаў». А вось 22 ліпеня 1941 году ён сустрэў не на мяжы, а за мяжой, на тэрыторыі «верагоднага праціўніка», маючы ў кішэні дыпляматычны пашпарт. Навошта гэтага карніка, тэрарыста, гулагаўскага дыплямата адправілі за мяжу? Можа, у інтарэсах умацаваньня бясьпекі краіны, «прадбачачы абарончую вайну»? Не, у абарончай вайне ён там зусім непатрэбны. Як толькі такая вайна пачалася, яго тэрмінова вярнулі ў Савецкі Саюз і адправілі ў Беларусь партызаніць, ствараць нядаўна зьнішчаны партызанскі рух, пачынаючы з нуля... Калі рыхтавалася абарончая вайна, дык навошта ўвесь гэты маскарад зь пераапрананьнем?»

...Забраўшыся па вушы ў 20 стагодзьдзе, я злавіў сябе на адчуваньні, быццам надыхаўся бульбянога пылу. Болей сядзець у цёмным падвальным катуху было немагчыма. Адно зафіксаваў сабе ў памяці магію адпаведнасьці — гэтага пыльнага катуха, скрыняў зь леташняй бульбай, леташняга стагодзьдзя і гэтай кнігі, гэтай асобы, гэтага чалавечага лёсу, які і забыў бы хутчэй, дык жа не аднойчы нагадае пра яго ўсё яшчэ актуальная назва адной зь менскіх вуліц.



этэр 29 красавіка 2001 г.

## Пасаджэньне на кол (1)

Узурпатары ўлады звычайна настолькі ж даюцца ў знакі сваім народам, наколькі ўдзячны ўяўляюць сабою матэрыял для псыхолягаў, пісьменьнікаў, дасьледнікаў культуры. Іх вобразы часьцяком становяцца знакавымі, іх імёны пішуцца на вокладках тоўстых раманаў.

Канцэнтрацыя ўсёй улады у адных руках мабілізуе чалавечую асобу, усё, што ў ёй ёсьць добрага і благога. Астатнім выходзіць паказальная навука — чалавечая прырода «ў чыстым выглядзе».

Дыктатары, як правіла, самотныя, звыш меры заклапочаныя ўласнай бясьпекай, а таксама — думкамі пра свой сыход. Да прыкладу, Сталін на схіле дзён зусім сур'ёзна разважаў пра несьмяротнасьць, а Гітлер баяўся, што яго будуць вазіць па Расеі ў жалезнай клетцы. Не раўнуючы, Ямельку Пугачова. Прычым ня столькі клетка яго палохала, колькі Расея — агромністая і бяскрайняя, што абяцала расьцягнуць паездку да немагчымасьці.

Ня склаў выключэньня ў сьпісе такіх кіраўнікоў і першы прэзыдэнт РБ — гэткі ж усеўладны, гэткі ж самотны, заклапочаны ўласнай бясьпекай і праблемай сыходу. Маю на ўвазе нядаўняе шчыраваньне перад супрацоўнікамі КГБ пра тое, што апанэнты пасадзяць яго на кол: «Яны крычаць у адзін голас — Лукашэнка вінаваты. Гэта дэмакраты, дэмакраты, якія апрануліся ў дэмакратычную тогу! Яны ўжо мяне асудзілі без суду! Мяне, галаву дзяржавы. Дык вось, каб ня мучыліся болей журналісты з нагоды вось гэтых усіх гучных справаў і злачынстваў, я хачу заявіць наступнае — так, я вінаваты, што гэта здарылася ў краіне. Я, бо — прэзыдэнт. І больш не шукайце вінаватых… Але судзіць мяне будуць толькі тады, калі мне ў даверы адмовіць народ. І калі яны захопяць уладу. Тады яны ўсе без суду і сьледзтва пасадзяць мяне на кол».



Незвычайная выснова пра гэткі экзатычны спосаб сыходу гучыць як самавыкрывальніцкая мэтафара. Сапраўдны змагар за народную долю, якім звычайна падае сябе першы прэзыдэнт, мусіў бы сказаць — яны мяне ўкрыжуюць! Але вырвалася іншае — пасадзяць на кол. Такім чынам Аляксандар Лукашэнка неўсьвядомлена, можа быць, даў характарыстыку сваёй уладзе, указаўшы на яе гістарычны прататып і на прататып яе праціўнікаў, якія маглі б прыйсьці да ўлады на зьмену першаму прэзыдэнту.

Рэч у тым, што пакараньне сьмерцю цераз пасаджэньне на кол у гісторыі Беларусі практыкавалася ў дачыненьні толькі да аднаго віду злачынцаў. На кол саджалі казакаў. І гэта адзіны выпадак, які настаўнік гісторыі Лукашэнка мог штудыяваць яшчэ ў магілёўскім пэдінстытуце. Арыгінальнае пакараньне запомнілася на ўсё жыцьцё, бо ў тым процiборстве першы прэзыдэнт быў на баку пакараных.

Архаічнасьць пакараньня зьвяртае нас да культуралягічнага зьместу пасаджэньня на кол. Раптам ажываюць цэлыя гістарычныя эпохі з нашэсьцямі барбараў, самымі неверагоднымі катаваньнямі і самымі разнастайнымі трактоўкамі тых ці іншых прадметаў забойства…

*Сяргей Харэўскі:*

*Пра саджаньне на кол мы ўпершыню даведваемся са школьнага курсу гісторыі Беларусі. У беларускіх савецкіх падручніках гэтай сьмяротнай карай ілюстравалі нялюдзкасьць*

*«польска-літоўскіх паноў» у дачыненьні да «мірных казакаў-вызваліцеляў».*

*Гэткія школьныя стэрэатыпы я прыгадваў падчас колішніх археалягічных раскопак у Мазыры. Тамака на Спаскай гары мы выявілі вялізарны роў, шчыльна забіты людзкімі парэштакамі. Гэта не былі ахвяры бальшавікоў ці нацыстаў. Гэта было масавае пахаваньне сярэдзіны 17 ст., то бок, часоў казацкіх набегаў... Шкілеты розныя, жаночыя й мужчынскія, дзіцячыя й старэчыя. У многіх рукі закручаныя за сьпіну, некаторыя без галоваў. Сотні, сотні людзей памерлі тутака ўвадначасьсе гвалтоўнай сьмерцю. Хто мог гэтак масава зьнішчаць пасपालітае насельніцтва старога Мазыра?.. Не татары ці маскалі, бо ім патрэбныя былі рабы, не свае вайскоўцы, што натуральна... Гэта рабілі казакі. Тутака ляжаць і жыды, якіх казакі нішчылі бязь літасьці, зрэшты, як і шляхту, тут і сьвятарства, і просты люд паспаліты. Пасьля гэтага рову паіншаму ўяўляеш сабе тыя школьныя сцэны саджаньня казацкіх правадыроў на калы. Паіншаму бачыш ролю Міхала Вішнявецкага ці Януша Радзівіла, якія неверагоднымі высілкамі ўтаймавалі казацкую навалу...*

*Вобраз кала ў беларускай і агульнаэўрапейскай традыцыях надта магутны. Перадусім, гэта вобраз мужчынскага, прыяпічнага пачатку. Вакол кала ўсё абарачаецца колам. Кол пазначае межы. На кол навязваюць быдла. Калок становіцца апірышчам кволаму дрэўцу... Прытым у эўрапейскай цывілізацыі кол ніколі не выкарыстоўваўся як спосаб катаваньняў. На тое йснавала табу. Марудная пакутніцкая сьмерць, калі душа паволі пакідае цела, несумяшчальная з уяўленьнямі пра чысьцец і пекла. Кол напаткаць можа хіба пасьля жыцьця зямнога. У сярэднявечнай традыцыі йснавалі цэлыя плоймы грэшнікаў, якіх на тым сьвеце чакае менавіта кол. Але нават на тым сьвеце кала пазьбегнуць жанчыны. Ва ўяўленьні эўрапейскіх сярэднявечных тэолягаў і казаньнікаў, вечна пакутаваць на кале павінны былі: ліхвяры, аматары салодкага жыцьця, няверныя сужэнцы, распусьнікі, садаміты... Прытым інтэрпрэтацыі «саджаньня на кол» былі самымі разнастайнымі. Напрыклад, у адным нямецкім мястэчку, як паведамляе кроніка 13 стагодзьдзя Цэзарыя Гэйстэрбахскага, вартаўнік царквы, які патрапіў на той сьвет, пабачыў там нейкага спадара Тэадорыха, які пры жыцьці вызначаўся ўменьнем жыць на шырокую нагу ды сваімі неўтаймоўнымі пажадамі ў дачыненьні да жанчын. Дык вось жа, у пекле таго Тэадорыха чэрці то саджалі на кол, то здымалі. Сам кол быў уторканы гострымі лёзамі. А шатаны, цягаючы душу грэшніка ўніз-уверх, напявалі, прысьвістваючы вясёлую песеньку пра адрынутага Богам Тэадорыха... Між іншым, і саміх нячысьцікаў можна было зьнішчыць, прабіўшы іх калом. Гэткі спосаб пазбаўленьня ад нетапыроў ведамы ўсім індаэўрапейскім народам. А вось ва Ўсходняй Эўропе, ад Трансыльваніі да Падзьвіньня, абавязкова ёсьць удакладненьне, што кол мусіць быць асінавым...*

*Этнографы й антраполягі зафіксавалі са-*

*джаньне на кол, як спосаб забойства, у прымітыўных плямёнаў Цэнтральнае Афрыкі, Новай Гвінэі, Амазоніі, там-сям у Азіі. На падставе параўнаўчага аналізу яны прыйшлі да высновы, што гэткая сьмяротная кара была вядомая амаль сярод усіх плямёнаў часоў нэаліту й тычылася перадусім ворагаў-ваяроў, то бок усё ж мужчынаў. У тыя часы палонных ня бралі. Працінаньне калом, зьнізу ўверх, абазначала пазбаўленьне мужчынскага і, адпаведна, ваярскага пачатку. Прытым, ганебнасьць гэткае сьмерці была агульназразумелая. Таму найлепшым ратункам для патэнцыйных ахвяраў была сьмерць у баі. Бо ганьба пасаджанага на кол мужчыны лягала на ўвесь род.*

*Пад канец пазамінулага стагодзьдзя большасьць плямёнаў, што мелі гэткія звычаі, спрасьцілі працэдуру сьмерці праз кол. У палінэзійцаў, індзейцаў Амазоніі, у народаў басэйну Конгі гэты рытуал замяніўся насаджваньнем на кол галавы ворага. І праўда, выйшла эканомія часу, бо ў клясычных выпадках сьмерць пасаджанага на кол чалавека мусіла наступаць праз два, а то й тры дні. Адрэзаная галава на кале — дастатковы сымбаль.*

*Зварачае на сябе ўвагу, што надзяваньне, насаджваньне, натыркненьне на кол распаўсюдзілася разам з патрыярхатам. І датрывала гэтае катаваньне да гістарычнага часу ў самых «мужчынскіх» мадэлях цывілізацыяў. З азіяцкіх глыбіняў у 15 стагодзьдзі прывандраваў гэткі спосаб катаваньняў і ў Эўропу, дакладней, на яе ўскраіны, што пачалі межаваць*



*з Асманскай імпэрыяй цюркаў, у якіх саджаньне на кол было распаўсюджанай практыкай. І менавіта ад турак яе запазычылі ўладцы Рэчы Паспалітай, Бальканаў, Расеі. Збольшага, выглядае, славяне... Нагадаю, што гэткая сьмерць разглядалася ня проста як спосаб невярагоднага гвалту над целам, а менавіта як спосаб зганьбіць саму мужчынскую прыроду таго, каго гэтак забівалі. У Расеі сьмяротная кара праз колапасаджэньне была ўдасканаленая: на кале рабіліся адмысловыя засечкі альбо ўбіваліся кліны, каб расьцягнуць сам працэс паміраньня, падчас якога можна было яшчэ дапытваць асуджанага...*

*Стоячы над археалягічным раскопам у Мазыры, на Спаскай гары, гледзячы на процьму людзкіх парэшткаў, я міжволі ўявіў сабе карціну тае крывавае эпохі 17 стагодзьдзя. У 1648 годзе Мазыр быў захоплены казакамі, адсюль, дашчэнту зрабаваўшы места, яны выпраўляліся ў далёкія рэйды ўглыб Палесься, а часам даходзілі нават да ваколіцаў Нясьвіжу ды Слуцку. За год іхнага крывавага балявань-ня былі panішчаныя дзясяткі бажніцаў і кляштараў, спаленыя мястэчкі, шляхецкія засьценкі, вёскі, тысячы людзей былі пазабіваныя. На вызваленьне Мазыра скіраваўся гетман польны Януш Радзівіл зь вялікім войскам. Абложаныя ў Мазыры казакі, на чале са сваім правадыром Міхненкам, адмовіліся капітуляваць. Бо ведалі, што даравањня ня будзе. Радзівіл узяў места штурмам, а казакаў папасаджваў на калы. Недзе тутака ж, на Спа-*

*скай гары, стаялі тыя калы, побач з брацкай магілаю казацкіх ахвяраў...*

*Гэта быў выключны выпадак. Нечага падобнага болей у нашай гісторыі не было. Кара тычылася менавіта казакаў. Бо ў тагачасным паспалітым уяўленьні казакі былі недалюдкамі, рабаўнікамі, якія нічога ня сеялі, нічога не выраблялі, ня мелі нават сем'яў. Ніколі ў нашай гісторыі гэткай страшнай сьмерцю не каралі сваіх — хто б то ні быў: шляхціц, селянін ці жыд. І ці не таму казакі, вычуваючы ўсю сваю асацыяльнасьць, прадбачыўшы сваю ганебную кару, гэтак лютавалі на нашай зямлі ад Вільні да Мазыра, не пакідаючы за сабою нічога, адно гвалт, дзетазабойства, сьвятакрадзтва?..*

Бескарыснасьць казакаў з вышыні гісторыі выглядае нават большым злом, чым іхныя разгульныя злачынствы. Гэта прастой, праяданьне і прапіваньне, адсутнасьць руху. Падобная сытуацыя з нашымі сямю гадамі без рэформаў, бязь зьменаў, безь якога-кольвек імкненьня хоць бы ў які бок. Казаччына. Тая самая інтэграцыя з Расеяй — таксама, дарэчы, галоўная зьнешнепалітычная дактрына Хмяльніцкага — выглядае бесталковай і бязмэтнай як у гісторыі, так і цяпер. На простае пытаньне: навошта Аляксандру Лукашэнку зноў быць прэзыдэнтам Беларусі, — няма і ня можа быць рацыянальнага адказу. Як не было і не магло быць сфармуляванае мэты тых колішніх казацкіх набегаў. Я ўжо не кажу пра зьнешняе падабенства і «казацкае» прозьвішча чалавека, празванага ў народзе «бацькам».



Атрымліваецца, што карані цяперашняе ўлады нашмат глыбейшыя, чым савецкі пралетарызм і камбедаўшчына. Зрэшты, і гэтыя зьявы наўпрост паходзяць аднекуль адтуль, зь бесьсямейнай і безмаетнай казаччыны, у якой усю гаспадарку складаў нарабаваны абшчак, паняцьця асобы не існавала, а чалавечае жыцьцё не каштавала нічога.

Паралель з казаччынай і згадка пра кол падказваюць нам і гістарычны антыпод гэткага бязроднага разгулу, а менавіта тую сілу, якая выступала ўтаймавальнікам казачкоў і судзіла іх сваім бязьлітасным судом. Гэта арыстакратыя. Менавіта яе, радавітую і багатую шляхту, разам з усімі яе вонкавымі і духоўнымі адзнакамі, разглядалі казакі як свайго найлюцейшага ворага. Не складала для іх праблемы братаньне з татарамі, не было ў іхных шэрагах адрозьненьняў паводле нацыянальнае прыкметы — сеча зьбіралася пераважна зь беглых сялянаў ды крымінальнікаў усіх масьцей. А вось арыстакратыю ненавідзелі і баяліся. Міжволі згадаеш, што, толькі прыйшоўшы да ўлады, першы прэзыдэнт адабраў у краіны бела-чырвона-белы сьцяг і герб Пагоню — бо гэта арыстакратычныя сымбалі. На зьмену іх была ўсталяваная падкрэсьлена дысгарманічная і падкрэсьлена бязродная сымболіка — зялёна-чырвоны сьцяг і герб, празваны ў народзе капустай. Сюды ж варта далучыць выказваньні новага кіраўніка пра дзьве вялікія мовы сьвету і пра тое, што «сваіх рэпіных у нас няма». Што

можа быць большай сатысфакцыяй для казацкае душы, чым упікнуць шляхту яе нерадавітасьцю.

Менавіта арыстакратызму так баіцца цяперашні кіраўнік краіны ў сваіх апанэнтах, калі кажа пра іх, якія пасадзяць яго на кол. Бо якраз у арыстакратызме хаваецца тая вялікая сіла вяртаньня краіны з прастою на шлях разьвіцьця.

Праўда, не ўяўляю, каб людзі галасавалі за арыстакратаў. Тыя мусяць прыйсьці нейкім іншым шляхам. Народ выбірае казачка. І менавіта пра казачка сьпявае ён у сваіх песьнях, а не пра Радзівілаў. Бо казачок, гарачая галава, сымбалізуе сабою вольніцу і адсутнасьць якога-кольвек змусу, а Радзівіл патрабуе парадку, умельства і культуры. Казачок, як той рамантычны камуніст, усталёўвае ўсеагульную роўнасьць у беднасьці і цешыцца самымі простымі праявамі жыцьця, запрашаючы ўсіх астатніх далучацца. А як чаго ня выйшла, дык і тлумачэньні таму самыя простыя — маўляў, нявыкрутка. Радзівіл жа сымбалізуе ярархію паводле паходжаньня, маёмасьці, здольнасьцяў, адукацыі. У выніку атрымліваецца поступ — растуць гарады, павялічваецца скарб, адкрываюцца ўнівэрсытэты, выдаюцца кнігі, краіна і нацыя набывае міжнародны прэстыж. Пасьля налятае на ўсё гэта шараварная брація, зьядае ўсё назапашанае, усе адпачываюць цэлымі заводамі і калгасамі, ані табе змусу, ані якіх лішніх патрэбаў, кшталту тых кніг з унівэрсытэтамі. Настаюць часы прастою, нявыкрутак і падзеньня міжнароднага прэстыжу.



Гэткая плебэізацыя на зьмену ранейшаму арыстакратызму. Доўга так цягнецца ці каротка, але прыходзіць урэшце Радзівіл і садзіць гарачую галаву на кол — як у Мазыры, у 17 стагодзьдзі. Ёсьць, аказваецца, і такая гістарычная лёгіка, пра якую міжволі нагадаў першы прэзыдэнт, абраніўшы такую нечаканую, на першы погляд, фразу пра свой сыход.

Ёсьць і яшчэ адно ў зьвязку з гэтым сьведчаньне. Выглядае, што папулярныя песьні пра казачэньку-плэйбоя — гэта плён пазьнейшае народнае творчасьці і акадэмічнае рамантызацыі казаччыны. Да ранейшых сьведчаньняў трэба аднесьці легенду пра казачага атамана Залатарэнку, які гойсаў па Беларусі аж да Вільні. Між іншым, у Вільні ён, маючы 40 тысяч шабель, дачыста выразаў усё насельніцтва — асаблівы мастак быў на ўсялякія мудрагелістыя забойствы немаўлятаў. Пасьля гэтага дачыста спаліў горад. Далей — цытую легенду:

«Бог не дараваў Залатарэнку ягоных злачынстваў. Ён быў забіты пад Шкловам. Цела ягонае выставілі ў царкве на катафалку. Паглядзець на страшнага казака сабралася мноства народу, але зараз жа народ разьбягаўся ў жаху. Бо труп Залатарэнкі то падымаўся ў труне, то зноў падаў, твар ягоны быў страшэнна скрыўлены, зубы ашчэраныя, а з роту чуліся енкі. У дзень пахаваньня народу сабралася мора. Калі манахі пачалі адпраўляць жалобнае набажэнства, труп Залатарэнкі падняў руку, зь якой сьцякала кроў, і тройчы крыкнуў: Уцякайце! Уцякайце! Уцякайце!

У панічным жаху кінуліся бегчы папы, ка-

закі і ўвесь народ. У гэты момант царква загарэлася, і разам зь ёй труп Залатарэнкі паглынуў агонь».

этэр 6 траўня 2001 г.

## Пасаджэньне на кол (2)

У мінулай перадачы мы гаварылі пра пасаджэньне на кол і казакаў. У часе набегаў на Беларусь казакі вызначаліся асаблівай нялюдзкасьцю ў дачыненьні да мясцовага народу — старых, жанчын, немаўлят. Ня дзіва, што іх самых — казакаў — лічылі недалюдзьмі. Безмаетныя і бесьсямейныя, яны ня бралі палону, бо ня мелі права і патрэбы ў рабах, і не захоплівалі, не акупавалі гарадоў, бо таксама ня мелі права і намеру тут гаспадарыць, а таму — толькі нішчылі ўсё і ўся, пакідаючы пасьля сябе пустату. Недалюдкам і пакараньне было вызначана зусім нялюдзкае — пасаджэньне на кол. Сёньня мы працягнем гэтую тэму, але гаварыць будзем ужо не пра тых, каго саджалі на калы, а пра тых, хто саджаў, хто спыняў няпрошаныя набегі, караў злачынцаў і вяртаў край да цывілізацыі, як бы цяпер сказалі — у канстытуцыйнае поле.

Менавіта арыстакраты вякамі праводзілі ў Беларусі цывілізацыйны поступ, будавалі гарады, адкрывалі ўнівэрсытэты. Менавіта арыстакраты спынялі тыя казацкія набегі і каралі недалюдкаў на калах.



З чаго складаецца беларускі арыстакратызм? Каб высьветліць гэта, я прапаную зрабіць экскурс у гісторыю, але экскурс, так бы мовіць, наадварот. Паспрабаваць у мінуўшчыне разгледзець цяпершчыну. Сёньняшняе грамадзтва — гэта ўсяго толькі працяг колішняга. Цягам гісторыі яно растраціла свае ўнутраныя сілы, сваю волю да жыцьця, сваю самабытнасьць, але можа і вярнуць іх, калі будзе падпарадкоўвацца сваёй жа ўнутранай лёгіцы разьвіцьця і ведаць, адкуль прыйшло.

*Сяргей Харэўскі:*

*Вобраз беларускага арыстакрата вельмі розьніцца ад падобных вобразаў у Заходняй Эўропе і ў Расеі. Шляхта ў Вялікім Княстве, паводле розных падлікаў, складала 10 адсоткаў. Адпаведна ў той ці іншай ступені большасьць сёньняшніх беларусаў, пераплаўленых у гуце 20 стагодзьдзя, носіць у сабе кроплі шляхецкае крыві.*

*За часамі станаўленьня Вялікага Княства нашае шляхецтва напрацавала комплекс спэцыфічных ідэяў, што прынята называць «сарматызмам». Па-першае, яны ўважалі сябе сама меней за рыцараў Хрыста, што вартуюць веру на яе апошніх межах, за якімі пачыналіся «тартары» — неаглядныя й варожыя эўразійскія абшары. Натуральна, што абаронцам Веры мог быць адно* homo militans, *то бок, чалавек збройны, які зь дзяцінства не разьвітваўся з шабляю. За часоў Рэчы Паспалітае толькі шляхта мела права насіць зброю. А за тое ёй даваўся выключны прывілей — толькі*

*яна мусіла бараніць сваю дзяржаву, праліваючы сваю крой. З таго вынікала адмысловая сыстэма выхаваньня хлапчукоў. Яны найперш павінны былі быць спрытнымі ды зухавымі ваярамі. Брак фізычнае моцы павінен быў кампэнсавацца ўмельствам страляць ды фэхтаваць. Пацы, Сапегі, Радзівілы, Храптовічы, Агінскія з трох гадоў сядалі ў сядло й бралі ў рукі зброю.*

*Беларуская шляхта казала пра сваё паходжаньне наўпрост ад сарматаў, качавых іранскіх плямёнаў Прычарнамор'я. На мяжы 17 і 18 стагодзьдзяў сарматызм стаў зброяй і лекамі супраць касмапалітызму ў культуры, то бок, супраць вонкавых уплываў як з Усходу, так і з Захаду. Праўда, беларускія арыстакраты ахвотней атаясамлівалі сябе з рымлянамі. Праціўнікі уніі з Польшчаю бурчэлі: «Ляхове не была шляхта, а людзі простыя, ані мелі гербаў сваіх, але мы шляхта старая, рымская».*

*Нешта падобнае мы можам знайсьці адно на супрацьлеглым краі Эўропы, у Гішпаніі. Дасьледчыкі культуры шматкроць зваралі ўвагу на незвычайнае падабенства ня толькі ідэалёгіі, але й мастацкіх формаў між намі й Гішпаніяй. Прытым, сьведчаньняў простага ўзаемаўплыву няшмат. Але цэлыя жанры, напрыклад, партрэты арыстакратаў, маюць проста неверагоднае падабенства... Гішпанскія гідальга гэтаксама пачувалі сябе рыцарамі Хрыста на мяжы эўрапейскае цывілізацыі, гэтаксама надавалі вялізную ролю вайсковаму й фізычнаму выхаваньню, гэтаксама выводзілі свой паўмітычны радавод ад готаў і*



*рымлянаў. Гідальга, як і наша шляхта, складалі вялікую частку насельніцтва. Што праўда, гэтая частка моцна скарацілася ў Гішпаніі пасьля ад'езду на канкісту ў калёніі.*

*Беларуская шляхта скарачалася ў бясконцых войнах на ўласных межах. Адно згадаць — напрыклад, у 17 стагодзьдзі было толькі 32 мірныя гады. Дзіва, што цэлыя фаміліі* homo militans *зьвяліся ў тых несупынных войнах. Не пайсьці на вайну, адкупіцца, як тое практыкавалася ў большасьці заходнеэўрапейскіх краінаў, было немагчыма. Бо менавіта коштам свае рыцарскае крыві арыстакратыя Рэчы Паспалітае аплочвала свае правы на вольнасьць і рэспубліканскі лад. Калі ў Францыі кароль Людовік XIV мог сказаць: «Дзяржава — гэта я!», дык у нас гэта з поўным правам мог сказаць кожны шляхціц. І тыя, абраныя шляхтаю, каралі былі вартыя свайго рыцарства. Сьцяпан Батура біўся сам у сечах, і на зуброў паляваў сам. А пра Яна Сабескага, які разьбіў туркаў пад Венаю, наагул хадзілі легенды. Ён кіраваў гусарамі, летучы наперадзе іх у той вялікай сечы, што перадвызначыла лёс Эўропы. Няўжо ж тым, хто абіраў сабе гэткіх каралёў, можна было хавацца за іхнымі сьпінамі?*

Сарматызм як ідэалёгія адметнасьці. Сапраўды, для старадаўняга беларуса было б недарэчна пагаліць вусы, надзець панталёны і парык, як гэта практыкавалася на Захадзе. У нас для стварэньня адметнасьці ўжываліся самыя неверагодныя фантазіі і кампіляцыі з каўкас-

кіх, пэрсідзкіх, турэцкіх матываў. Адныя слуцкія паясы чаго вартыя!

*Сяргей Харэўскі:*

*Яшчэ адным складнікам ідэалёгіі беларускае арыстакратыі была Зямля.* Bene natus et posessionatus — *высакародны земляўласьнік — вось ідэал рыцара! Колькі б тае зямлі ні было, яна мусіла быць. Нават каб і самому давялося «высакародна араць сваё поле». Магнаты ж куплялі зямлю па ўсёй краіне, ад краю да краю. Пачуцьцё годнасьці было проста неаддзельным ад зямлі. Астах Валовіч ці Леў Сапега, прытым, што былі адважнымі ваярамі, выдатна разьбіраліся ў аграрных пытаньнях, кіравалі складанымі зямельнымі рэформамі. Тыя, хто праліваў сваю кроў за сваю зямлю, умелі яе й цаніць, і гаспадарыць на ёй. Родавае гняздо, маярат быў каштоўнасьцю выключнай. За яго трымаліся да апошняга, яго багамілі, рамантызавалі. Зямля продкаў — у літаральным, вузкім сэнсе. Можаце сабе ўявіць, якія пачуцьці, напрыклад, мусілі казытаць душы ўладальнікаў сядзібы ў Мосары, што на Глыбоччыне, калі яшчэ ў міжваенным часе на фасадзе была каменная табліца ў гонар наведваньня яе Сьцяпанам Батурам, калі той ішоў паходам на Пскоў... Не было заганаю і ўласнымі рукамі корпацца ў зямлі. Наадварот! Яшчэ бацькі Фэрдынанда Рушчыца, графскага паходжаньня, разам з сынам самі выбіралі бульбу поруч зь сялянамі. І зусім ня зь беднасьці, а з... арыстакратызму.*

*Хлапчукоў у 7—8 гадоў бацькі адрывалі ад мацярок і навучалі гаспадараньню й паляваньню. Хоць, што праўда, у бацькоў гэта не заўжды выходзіла. Бо чарговы покліч вёў іх у паход. І ролю мужоў у выхаваньні хлапчукоў пераймалі жанчыны. Гэтак сталася нават з будучым каралём, Янам Сабескім. Ягоную маці шляхта ўважала гэтаксама за рыцара (ці то рыцарку), як яго самога.*

*Панятак безьзямельнае шляхты зьявіўся вельмі позна, толькі ў 18 стагодзьдзі, у выніку ўсё тых жа войнаў. Баючыся пазбыцца свайго шляхецтва, гэтыя бедакі змушалі дзяцей вучыць напамяць усю сваю генэалёгію, каб не прапасьці. А масава шляхта пазбылася зямлі толькі ў выніку расейскае акупацыі. Ад таго моманту мара пра зямлю стала яшчэ адным неад’емным складнікам шляхецкага мэнталітэту...*

Мілітарнае выхаваньне таксама стыхійна прабіваецца зь сёньняшніх беларусаў. Яго няма, і як бы мэты яму няма, але прырода ці голас крыві патрабуе. Неўсьвядомленая гістарычная лёгіка. Так ствараюцца суполкі «Край», «Белы легіён» і падобныя. Не заўсёды толкам ведаюць нават — навошта. Але сэрца падказвае. Калі ж глядзець на сярэднявечныя вытокі гэтых падказак, дык убачым, што ўменьне ваяваць патрэбнае на тое, каб бараніць сваё майно, найперш — сваю ўласную зямлю. Ці ня ў гэтым сакрэт доўгага існаваньня Вялікага Княства без усялякіх дыктатураў і валюнтарызмаў. Земляўласьнікі — вось хто быў апірышчам краіны. Іхная згода ў абароне правоў на зямлю

была вышэй за ўсялякія іншыя раздоры і адрозьненьні.

*Сяргей Харэўскі:*

*Наступнай адметнасьцю нашае арыстакратыі была яе адносна высокая адукаванасьць. Прынамсі, кожны шляхціц, нават шарачок, быў пісьменны. Мала таго, неад'емнай часткаю адукацыі з 16 стагодзьдзя стала лаціна. «Я шляхціц, я гавару на лаціне», — лямантаваў шляхціц у лапцях, калі яго раптам блыталі з кім іншым. Магнатэрыя пагатоў рупілася пра выхаваньне нашчадкаў. Радзівілавых дзяцей навучаў Сымон Будны, які для іх пераклаў Катэхізіс па-беларуску. А Мялеці Сматрыцкі выхоўваў дзяцей князя Саламярэцкага, між іншым, езьдзячы зь імі па нямецкіх унівэрсытэтах. Той самы Януш Радзівіл, які саджаў на калы казакаў, вучыўся дзецюком у лепшых унівэрсытэтах Ангельшчыны, Нямеччыны, Нідэрляндаў ды Францыі.*

*Натуральна, чым вышэйшы быў род, чым большая была яго адукаванасьць, тым меней увагі надавалася рэлігійным звадкам. Бойкі на рэлігійнай глебе былі справаю чэрні й шалёнага сьвятарства. Арыстакратыя заўсёды знаходзіла між сабою агульную мову, не зважаючы на розьніцу вызнаньняў. Напрыклад, Ганна Стацкевіч-Багданава, якая фундавала ў Менску царкву й брацтва Пятра й Пайла (што на Нямізе), прызначыла апекунамі гэтага асяродку ў 1618 годзе вядомых магнатаў... кальвіністаў: Януша Радзівіла, Марціна Валадковіча, Яна Агінскага, Юрыя Тышкевіча ды*



*колькі іншых. Маўляў, у гэткім выпадку пратэстанцкая арыстакратыя будзе аб'ектыўнаю й абароніць праваслаўных. Альбо вось яшчэ прыклад. Зь ліста вялікага канцлера Льва Сапегі, каталіка, да гетмана Канстанціна Астроскага, праваслаўнага: «Як каталікам мала будзе карысьці ад вашага злучэньня, так і ніякай страты, калі вы застанецеся па-старому ў вашым аддзяленьні... Усё гэта няхай застанецца пры вас. А навошта ж, аднак, лаяць Папу, называць яго антыхрыстам, ворагам Сына Божага, ганіць каталікоў?..» Як бачым, гэта заклік да ўзаемапавагі. Гэта быў узровень палемікі «паноў-братоў», якія плячом да пляча стаялі супраць агульных ворагаў.*

*Паміж мужчынамі-арыстакратамі, нягледзячы на ўсё іхнае братаньне, існавала складаная сыстэма ярархіі й адпаведнага этыкету. Перад кім здымаць шапку, каму ціснуць руку, а каму цалаваць, каму ківаць, а перад кім складацца да зямлі — гэта была мудрагелістая навука. Пагатоў, трэба было дакладна ведаць тытулы, званьні, заслугі. Гэта вывучалася ў паходах і на соймах. Памылковае прывітаньне было абразаю.*

*Істотным складнікам беларускага арыстакратычнага мэнталітэту было падкрэсьлена паважлівае стаўленьне да кабетаў. Тут мала падабенства да куртуазнае культуры Заходняе Эўропы, пагатоў да расейскага дамастрою. У нашых сарматаў усё выходзіла натуральна. Шляхціц, які вяртаўся з татарскага палону ці з паходу на швэдаў, быў зусім не гатовы да сэрэнадаў ці да букетаў. Не вучылі куртуазна-*

*му абыходжаньню ані ў сям'і, ані ў школах. А вось ліставаньне ўхвалялася. Нашая арыстакратыя пакінула немалую эпісталярную любоўную спадчыну. Насамрэч, як яшчэ можна было кантактаваць з каханымі, па дзясятку гадоў не пакідаючы сядла?*

*Разам з тым, усе ключы ад гаспадаркі былі ў жаночых руках. Жанчыну (бабцю, маці, жану) блізу што багамілі, раўнуючы іхны цнатлівы вобраз з Паннай Марыяй. Менавіта жанчыны перахоўвалі старыя звычаі ды сямейныя паданьні. Ва ўмовах, калі большасьць мужчынаў непазьбежна гінула ў росквіце сілаў на войнах, на жанчыну лягаў увесь цяжар клопату пра дом і пра дзяцей. Каб у сьвет пайшло чарговае пакаленьне арыстакратаў,* homo militans, *высакародных земляўласьнікаў, якія будуць бараніць сваю дзяржаву й сваю зямлю.*

Усё сказанае і ўбачанае ў сёньняшніх рэаліях выглядае больш на фантазію. Ня так проста прасякнуцца ідэалёгіяй арыстакратызму, калі навокал пануе казаччына. Зь іншага боку, гісторыя ясна паказвае нам нас самых і тое, чаго нам сёньня бракуе. Ёсьць праекцыя казацкага набегу, але няма праекцыі арыстакратыі. У нас падсьведама шукаюць гэткую сілу, а яе відавочна трэба ствараць. І наўрад ці выседзіш яе ў менскіх кватэрах, на інтэлігенцкіх кухнях. Нашыя продкі пакінулі нам вякамі сьпеленую ідэалёгію. І рэч ня столькі ў нашых генэалягічных табліцах, колькі ў адпаведнасьці сваёй чалавечай прыродзе.

Неяк у вёсцы я крыху паэкспэрымэнтаваў.



Аглядаючы прыгожы і добра дагледжаны грушавы сад, сказаў гаспадару:

— Ну, ты арыстакрат! Адразу відаць — беларус.

З погляду ў адказ я зразумеў, што патрапіў у кропку, выказаў найвышэйшую пахвалу.

этэр 22 ліпеня 2001 г.

## Джэром Сэлінджэр

Гэтай парою спаўняецца 50 гадоў адной культавай кніжцы, свайго роду бібліі ўсіх падлеткаў другой паловы мінулага стагодзьдзя. Па-беларуску яна не перакладзеная дагэтуль, таму ў нашых краёх чыталі і чытаюць яе па-расейску. «Над пропастью во ржи» — так гучыць яе расейская назва. Дапытлівыя крытыкі і сёньня працягваюць спрачацца пра тое, што такая назва занадта расплывістая і далёкая ад ангельскага арыгіналу, які літаральна гучаў бы «Лавец у жыце». Праўда, апанэнты зараз жа кажуць, што так было б і груваcтка, і ня надта знакава. Няпростая гэта справа — зьмяніць клішэ гатовага культу.

Біяграфія амэрыканца Джэрома Сэлінджэра, які напісаў «Лаўца ў жыце», уяўляе сабою бэстсэлер, ня менш папулярны за згаданую кніжку. Найперш пісьменьнік славуты тым, што аднойчы, недзе ў 1965 годзе, на самай вяршыні свае папулярнасьці, раптам кінуў пісаць і наагул дачыняцца з навакольным сьветам,

зашыўся ва ўласнай сядзібе ў глыбокай правінцыі, і больш яго амаль ніхто ня бачыў і ня чуў. Гэтак працягваецца ўжо трыццаць гадоў. А самому Сэлінджэру цяпер 82 гады. Але пра ўсё па чарзе.

«Калі вам насамрэч хочацца пачуць гэтую гісторыю, вы, напэўна, перадусім захочаце даведацца, дзе я нарадзіўся, як правёў сваё дурацкае дзяцінства, што рабілі мае бацькі да майго нараджэньня, — адным словам, усю гэтую дэвід-капэрфілдаўскую муць. Але, шчыра кажучы, мне няма ахвоты ў гэтым корпацца. Папершае, сумна, а па-другое, у маіх продкаў, напэўна, здарылася б па два інфаркты на брата, калі б я стаў балбатаць пра іх асабістыя справы. Яны гэтага цярпець ня могуць, асабліва бацька».

Няхай даруе нам герой аповесьці, але мы сёньня крыху патрывожым продкаў ягонага стваральніка. Дакладней, да нас тое ўжо зрабіла дачка Сэлінджэра Маргарэт, якая нядаўна разбурыла таямніцу затворніцтва бацькі, надрукаваўшы кнігу пра яго пад назвай «У пагоні за марай». Маргарэт вырасла побач з бацькам акурат на той недаступнай для цікаўнае публікі сядзібе.

«Маё дзяцінства было падобнае на страшную казку. Існаваньне Джэрома Сэлінджэра далёка не заўсёды было добраахвотным зьняволеньнем, аднак на жыцьці ягоным ляжаў нейкі злавесны водсьвет. У гэтым чалавеку заўсёды адчувалася трагічная раздвоенасьць».

Дачка пісьменьніка часткова тлумачыць гэта тым, якое было ягонае дзяцінства:



«Ён рос у цэнтры Нью-Ёрку, на Мангэтане. Бацька ягоны, гэбрай, пасьпяхова гандляваў прадуктамі харчаваньня. Звыш меры клапатлівая маці была ірляндкай, каталічкай. Аднак яна падпарадкоўвалася абставінам і выдавала сябе за гэбрайку, хаваючы праўду нават ад сына. Сэлінджэр, які з асаблівай вастрынёй усьведамляў сябе паўжыдкам, на ўласным досьведзе спазнаў, што такое антысэмітызм. Вось чаму гэтая тэма неаднаразова і даволі выразна праступае ў ягонай творчасьці».

Нічога дзіўнага ў тым, што бацька пісьменьніка прыехаў у Амэрыку з колішняй рысы аселасьці гэбраяў — з тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. Больш дакладных зьвестак пра радзіму гэтага роду мне адшукаць не ўдалося. Але факт ёсьць факт. Нашы землякі-гэбраі добра спрычыніліся да стварэньня Амэрыкі і яе культуры. Пачынаючы ад таго Мэера Ланскага-Шушланоўскага, які прыехаў з Горадні, стаў самым крутым мафіёзі ў Штатах і заснаваў Лас-Вэгас. Або з братоў Гершвіных — Джорджа і Айры, стваральнікаў амэрыканскае опэры. Або з таго самага Сэлінджэра. Цікава, як гучала прозьвішча ягонага бацькі да ад'езду ў Амэрыку?..

Далейшая біяграфія пісьменьніка нагадвае лёс Васіля Быкава. Пры ўсёй непараўнальнасьці гэтых двух стваральнікаў знакавых аповесьцяў, рызыкну дапусьціць, што менавіта вайна сталася тым вірусам, які выклікаў у абодвух захворваньне на прозу. Вось як гэта ў кнізе дачкі Сэлінджэра Маргарэт:

«Ягонае юнацтва прыпала на неспакойны

час. Скончыўшы вайсковую вучэльню, Джэром распусьціўся ў масе амэрыканскіх «джы-ай». У складзе 12-га пяхотнага палка 4-й дывізіі ўдзельнічаў у другой сусьветнай вайне, адкрываў другі фронт, дэсантаваўся на бераг Нармандыі. На фронце было нясоладка, і ў 1945-м будучы клясык амэрыканскай літаратуры патрапіў у шпіталь з нэрвовым зрывам».

Мусіць, было ад чаго. Там, на фронце, Сэлінджэр пазнаёміўся з Гэмінгўэем і на ўсё жыцьцё быў шакаваны тым, як старэйшы таварыш па-заліхвацку расстрэльвае куранятаў. Тады Джэром яшчэ ня мог ведаць, што праз шмат гадоў зьедлівая крытыка назаве яго «Гэмінгўэем для бедных».

У адрозьненьне ад Быкава, Сэлінджэр ваенным пісьменьнікам ня стаў. Аднак, калі ўлічыць, што ваенны — гэта ня быкаўскае самавызначэньне, а прыдумка крытыкі, дык тое адрозьненьне можа і зьнікнуць. Урэшце, тэматычны бок літаратуры — вонкавы. Што да кантэксту твораў, дык, думаю, параўнаўчы аналіз тут цалкам магчымы.

«Стаўленьне да вайны і пасьляваеннага сьвету ў яго было таксама дваістым — на жаль, іншае вызначэньне падшукаць цяжка. У якасьці супрацоўніка амэрыканскай разьведкі Джэром удзельнічаў у праграме дэнацыфікацыі Нямеччыны. Будучы чалавекам, які ўсёй душой ненавідзіць нацызм, ён аднойчы арыштаваў дзяўчыну — маладую функцыянэрку нацысцкай партыі. І ажаніўся зь ёю. Тую немку — першую жонку бацькі — звалі Сыльвія. Разам зь ёй ён вярнуўся ў Амэрыку, і нейкі час яна жыла ў доме ягоных бацькоў. Але шлюб аказаўся недаўгавечным. Яна ненавідзела гэбраяў з такой самай жарсьцю, зь якой ён ненавідзеў нацыстаў».



Пасьля ў яго яшчэ былі жонкі. Кожны эпізод з жыцьця пісьменьніка даўно пераплаўлены ў літаратуру. Ды й неапісаныя, гэтыя эпізоды выглядаюць заўсёды знакава, літаратурна. Як і ўсё, што зьвязана зь ім самым і зь ягоным імем. Да прыкладу, пасьля забойства ў Нью-Ёрку Джона Ленана газэты наперабой паведамлялі пра тое, што забойца, зрабіўшы сваю справу, дастаў з кішэні кніжку і пачаў чытаць. Кніжка была тая самая, Сэлінджэрава, пра 50-я ўгодкі якой мы сёньня гаворым.

Перачытваючы «Лаўца ў жыце», я думаў пра паралелі зь беларускай літаратурай. Культавая кніжка ўсіх падлеткаў выглядае адначасова як дзёньнік і як нататкі псыхааналітыка. Менавіта з гледзішча псыхалёгіі ўсе сытуацыі ў ёй тыповыя і для Штатаў, і для Беларусі.

«Дачка нашага дырэктара, старога Тэрмэра, часта ходзіць на матчы, але не такая гэта дзеўка, каб па ёй вар’яцець. Хаця ўвогуле нічога. Неяк я зь ёй сядзеў побач у аўтобусе, ехалі з Эгерстаўну і разгаварыліся. Мне яна спадабалася. Праўда, нос у яе доўгі, і пазногці абкусаныя да крыві, і ў станік нешта падкладзена, каб тырчала ва ўсе бакі, але яе чамусьці было шкада. Спадабалася мне тое, што яна табе ня ўкручвала, які ў яе выдатны татуся. Відаць, сама ведала, што ён балбатун несусьветны».

А хто ў падлеткавыя гады не запісваў у дзёньнік усялякія банальнасьці пра дзяўчы-

нак-аднаклясьніц, пачынаючы кожнага разу фразай «Дзень правёў нядрэнна» або «Час прайшоў пагана» і г.д. Тыя самыя словы, тыя самыя тэмы, пераказаныя пачуцьці. Тое самае надзіманьне грудзей «пад дарослага». Той самы погляд на сьвет.

Усё, адным словам, як у нас — што ў амэрыканскага падлетка, што ў беларускага. Але нельга сказаць, што ў амэрыканскага гэта беларускае. Усё наадварот. Бо грудзі нашага земляка надзімаюцца найчасьцей менавіта пад амэрыканскіх герояў кніжак ды фільмаў. Як і ўся маскультура наша — зьява амэрыканская. Гэта мы, выгадаваныя ў полі амэрыканізму, чытаем Сэлінджэра, нібы пра сябе. Хоць нашым быцькам або дзядам у падлеткавым веку наўрад ці гэткае чытво закранула б душу.

Інтрыгу твору робіць эфэкт чытаньня чужога дзёньніка. Калі тэматычна, дык у нас падобнага дасягаў Андрэй Федарэнка ў сваёй аповесьці «Гісторыя хваробы». Але Федарэнка вырас наўзбоч ад амэрыканскае масавае культуры, і таму аналёгіі яму трэба шукаць хутчэй у расейскай літаратуры. Затое цалкам у полі амэрыканізму вырас Адам Глёбус. Ягоныя аповесьці з кнігі «Толькі не гавары маёй маме» — найбольшае жанравае і тэматычнае набліжэньне да Сэлінджэра ў беларускай літаратуры.

«Кажу табе: нічога адметнага не было, ніхто не застрэліўся. У іншых здараецца страшнае, і яны трапляюць у лякарні, і труцяцца, і вешаюцца, а ў мяне... Ну, калі ты настойваеш, скажу так: мне было сямнаццаць. Лядачы ўзрост, асабліва калі вясна, травень, і табе сямнаццаць, і ўсе дзяўчаты прыгожыя. А тая, што да цябе бліжэй за ўсіх, — самая прыгожая. А бліжэй за астатніх да мяне была Вольга Пакроўская. За адным сталом на занятках сядзелі. Другі год сядзелі побач, і калі ў мяне ўзьнікалі розныя думкі, дык я іх праганяў зь дзіўнай лёгкасьцю. Ну, мала што каму захочацца ці прымроіцца на занудлівых занятках па вайсковай справе, калі маёр Мухін у соты раз разьбірае й зьбірае аўтамат Калашнікава, а потым прымушае гэта рабіць усіх па чарзе. А аўтамат адзін. І калі дойдзе чарга, дык адчуеш, як ад Мухіна пахне сьпіртам».



Гэта Глёбус піша пра свае першыя каханьні з усёй дзёньнікавай шчырасьцю. А вось Сэлінджэр:

«Я жахлівы хлус — такога вы ніколі ў жыцьці ня бачылі. Страшная рэч. Іду ў краму купляць які-небудзь часопіс, а калі ў мяне раптам спытаюць, куды, я магу сказаць, што іду ў опэру. Жудасная рэч! І тое, што я сказаў старому Спэнсэру, быццам іду ў гімнастычную залю забіраць рэчы, таксама была хлусьня. Я і не трымаю нічога ў гэтай трыклятай залі».

Вось тут ён ня хлусіць. У выніку — эфэкт пранізьлівае, інтымнае шчырасьці.

Чытаньне чужога дзёньніка ў падлеткавым веку дае адчуваньне ўдвая недазволенага. За савецкім часам такое магло ўспрымацца і як антысавеччына. А цяпер аказваецца, што гэта ўсё — амэрыканізм. Дзіўнавата раптам адкрыць для сябе, што ты як бы напалову амэрыканец. Але так і ёсьць. Прынамсі, так было ў школе. У глыбокія савецкія часы мы з нашымі жуй-

камі Рыглес і джынсамі Лэвіс, партрэтамі Джона Ўэйна і музыкай «Ролінг Стоўнз» дэ-факта былі напалову антысавеччыкамі, бо былі напалову амэрыканцамі. Нават ніколі ня думаючы пра гэта. І Глёбус, мабыць, таксама ня думаў, калі пісаў сваю кнігу «Толькі не гавары маёй маме». Аднак стыль адносінаў да жыцьця ў яго такі нігілістычны і максымалістычны, які ён бывае толькі ў падлеткаў. У гэтым найперш Глёбус і падобны да Сэлінджэра. Дзіўным чынам мне зноў згадваецца Быкаў. Не за амэрыканізм, натуральна, але за максымалізм, які яднае яго з Сэлінджэрам і робіць у беларускай літаратуры непараўнальным ні з кім.

Кажуць, менавіта з-за «Лаўца ў жыце» Сэлінджэр перастаў дачыняцца з вонкавым сьветам і затачыўся ў сваёй сядзібе далёка ад людзей. Натуральна, цікаўны сьвет ужо трыццаць гадоў спрабуе зазірнуць за Сэлінджэраў плот — чым можа займацца славуты на ўвесь сьвет пісьменьнік. Для Беларусі такую сытуацыю ўявіць цяжка. Каб літаратар у росквіце славы ўзяў ды схаваўся ад усіх назаўсёды. Можа, таму, як у нас звычайна кажуць, што галоўная кніга яшчэ не напісаная, яна наперадзе. Чаго ня скажаш пра Сэлінджэра. Сьвятло на ягонае затворніцкае жыцьцё праліла ягоная дачка Маргарэт:

«Зрэшты, сьцьверджаньне пра тое, што Сэлінджэр спакусіў юную Клэр, не зусім дакладнае. Якраз у той час ён духоўна ўдасканальваўся і ўстрымліваўся ад сэксу. Ягоным настаўнікам быў нейкі індыйскі гуру, а настольнай кнігай — «Казані Шры Рамакрышны». Строгае ўстрыманьне ад плоцкіх насалодаў, як і многае іншае, адлюстравалася ў творчасьці пісьменьніка. Менавіта ў мядовы месяц канчае жыцьцё самагубствам Сэймур — герой апавяданьня «Час бананавых рыбак».

Гэта было апошняе апавяданьне пісьменьніка. Вось яно якраз і было адзінае перакладзенае на беларускую мову і друкавалася ў першым нумары адноўленае «Нашай Нівы». Далей пачынаецца затворніцкае жыцьцё, пра якое піша дачка:

«Разам з тым вечная «пагоня за марай» моцна атручвала жыцьцё ўсёй сям'і. Ягоныя вераваньні можна вызначыць як нейкую сумесь індуізму з эгаізмам. Гэтае захапленьне, бадай, самае сталае з усіх. Пісьменьнік пераспытаў цэлы шэраг экзатычных рэлігіяў: дзэн-будызм, саенталёгію, хрысьціянскія навукі. Гэта было падобна да блуканьняў закаханага падлетка. Ня менш экстравагантныя былі мэтады «вядзеньня здаровага ладу жыцьця». Сэлінджэр увесь час вынаходзіць новыя дыеты. На працягу аднаго тыдня ён харчаваўся толькі сырой ежай, на працягу іншага з рацыёну цалкам выключаліся бялкі. Вынікі, праўда, былі ня самыя лепшыя. Ягоная скура пачала зелянець, набыла хвараблівае адценьне, а да дыханьня дамешваўся пах сьмерці. Гэткі быў вынік мікрабіётыкі і галаданьня. Я баялася, што ён памрэ».

Аднак пісьменьнік шчасьліва пераступіў мяжу 80 гадоў і працягвае сваё затворніцкае існаваньне разам з каторай па ліку сваёй жонкай. Ягоны «Лавец у жыце» працягвае вы-

ходзіць па ўсім сьвеце агромністымі накладамі. А ягоная мясьціна даўно перастала быць бязьлюднай. Дрэвы вакол сядзібы пісьменьніка варушацца, бо за галінамі ўвесь час нехта ёсьць: журналісты, школьнікі, рамантыкі, якія мараць хоць на імгненьне пабачыць свайго куміра. А ён нібы адказвае ім апошнімі радкамі сваёй самай знакамітай аповесьці:

«Вось і ўсё, больш я нічога распавядаць ня стану. Вядома, я мог распавесьці, што было дома, і як я захварэў, і ў якую школу мяне зьбіраюцца аддаць з восені, калі выпішуць адсюль, але ня варта пра тое казаць. Няма ахвоты, шчыра кажу. Нецікава. Па праўдзе кажучы, я й сам ня ведаю, што думаць. Шкада, што я так шмат набалбатаў. Дзіўная рэч. І вы лепей таксама нікому нічога не распавядайце. А то раскажаце пра ўсіх — і вам бязь іх стане сумна».

этэр 2 верасьня 2001 г.

## Цэнзура

Прыкметная зьява ў сёньняшнім інтэлектуальным жыцьці Беларусі — цэнзура. Гаворыцца і пра зьніклых палітыкаў, і пра несумленныя выбары прэзыдэнта, і пра ўсё тыя ж чарнобыльскія наступствы. Але чырвонай ніткай у кожнай тэме — хаваньне праўды. Цэнзура, даўняя знаёмая, захінае сваімі белымі прасьцірадламі ня толькі лічбы і факты, але й жывых людзей. Яна злавесная і бязьлітасная, нелягічная, амаральная і нахрапістая, яна ўсюдысная. У страху ёй прыслужваюць малыя і вялікія начальнікі, падымаюць яе сьцяг паспалітыя грамадзяне. Хтосьці кідаецца, каб сарваць ейныя прасьціradлы, але большасьць паўтарае, нібы заклён: так і павінна быць.

Акурат у гэтыя дні зьявіўся з друку пятнаццаты нумар маскоўскага часопіса «Досье на цензуру». Гэта расейская вэрсія вядомага ангельскага выданьня *Index on Censorship*. Чарговы нумар цалкам прысьвечаны Беларусі. Журналісты, эсэісты, навукоўцы распавядаюць расейскаму чытачу пра наш край.

Колькі гадоў таму, у 1996-м, прысьвячаўся Беларусі і нумар ангельскага мэтрапольнага часопіса. *Index on Censorship* знаёміў з выпадкамі цэнзуры, падаваў пераклады забароненых у Беларусі тэкстаў. Там пераважалі пісьменьнікі і літаратурныя творы. Сёньняшні расейскі часопіс карэнна адрозьніваецца ад таго. Ён — журналісцкі, калі не сказаць газэтны. Тут няма ўласна індэксу цэнзуры або дасье на цэнзуру. Аўтары прэпаруюць самое паняцьце цэнзуры і робяць калектыўную разборку паняцьцяў Беларусь, беларуская нацыя, мова, беларускі лёс. Яны абвяргаюць і даказваюць існаваньне Беларусі. У выніку атрымалася найноўшая прэзэнтацыя нашай краіны, нашых клопатаў і нас саміх расейскаму чытачу. Але пачну зь перадгісторыі.

Сёньня цэнзура выключаная зь беларускага заканадаўства. Яна супярэчыць міжнароднай

Дэкларацыі правоў чалавека. Тым ня менш, яна ёсьць.

Калі яна ў нас пачалася? З прыходам расейскае адміністрацыі дзьвесьце гадоў таму. Адно зь першых сьведчаньняў знаходзім у лісьце Яна Чачота да сябра. 1822 год. Гаворка ідзе пра творы Адама Міцкевіча, якія будуць друкавацца ў Варшаве, бо тут, у Вільні, — піша Чачот, — зубатая цэнзура. Ужо тады — зубатая.

Машына расейскае цэнзуры прыйшла ў Беларусь на штыхах, забараніла друкаваньне па-беларуску і была цынічна адкрытаю. Кнігі і часопісы без пазнакі «Дазволена цэнзурай» не выходзілі або лічыліся незаконнымі і друкаваліся за мяжой — у Польшчы ці Ўсходняй Прусіі. Быў выпадак беларускага выданьня і ў сталіцы імпэрыі — у Санкт-Пецярбургу. Але тады кніжка выйшла з пазнакаю «На болгарском языке» — каб увесьці ў зман цэнзуру.

Першая беларуская газэта «Наша Доля» ўжо пасьля дазволу беларушчыны ўсё адно забаранялася цэнзурай, яе нумары канфіскоўваліся. Сякая-такая адліга настала ў першыя савецкія часы, прыблізна да 1929 году. Чым мацней былі адпушчаныя акупацыйныя лейцы, тым мацней гэта пасьля і ўдарыла, нібы бумэрангам, — людзей высылалі і расстрэльвалі. Але той пэрыяд для беларускага слова — перад рэпрэсіямі — нібы кароткі ўздых на поўныя грудзі. Прынамсі, з такім адчуваньнем і сёньня чытаюцца тагачасныя творы, часопісы і кнігі. Пасьля вайны пачаліся доўгія гады больш ці менш пасьпяховага адваёўваньня ў цэнзуры то слова, то імя, то нават літары. З найдрабнейшых крупіцаў здабывалася тое сваё поле, на якім можна было б зноў ажыць беларушчыне.



Пасьля распаду СССР загаварылі пра наступствы Чарнобылю, пра гістарычную праўду, пра сталінскія рэпрэсіі. Але неўзабаве і гэтая адліга скончылася.

За ўсю гісторыю для Беларусі, яе нацыі і культуры існавала і існуе толькі адна цэнзура — чужая. Ніякай сваёй мы ніколі ня ведалі й ня ведаем. Бо ў прынцыпе ўсё наша — ужо толькі за інтанацыю — заслугоўвала і заслугоўвае забароны з боку любой адміністрацыі.

Але вернемся да маскоўскага часопіса «Досье на цензуру». Ягоны чарговы, пятнаццаты, нумар называецца «Дрыгва на краі Эўропы».

Я ўжо сказаў, што аналізу мэханізмаў цэнзуры ў Беларусі, як і самых прыкладаў, у гэтым часопісе няма. За выключэньнем хіба што нататкі Аляксандра Фядуты пра скандальныя «белыя плямы» ў «Советской Белоруссии» і іншых афіцыёзных выданьнях на месцы антыкарупцыйнага дакладу. Зрэшты, сканчаецца нататка горычным уздыхам аўтара: «А змагаемся ўсё болей са справамі рук сваіх».

Словам, у клясычным выглядзе індэксу фактаў супраць слова ў Беларусі часопіс не дае. Хоць фактаў больш, чым дастаткова. Верагодна, прычына ў тым, што часопіс разьлічаны на расейскага чытача, і што для расейскага інтэлігента цэнзура — гэта зьява свая, расейская. Так склалася гістарычна. Чыя ўлада, тых і цэнзура. З цэнзурных камітэтаў там выходзілі майстры пяра, клясыкі літаратуры. І тут прынцыповае адрозьненьне ад беларускай сытуацыі,

дзе цэнзура ніколі не была сваёй, а была прышлай і заўсёды антыбеларускай. Будзь то ўласна расейская цэнзура ці цэнзура савецкага марыянэткавага ўраду, ці прарасейскага цяперашняга.

Расейскаму інтэлігенту ўласьціва разважаць пра цэнзуру і дэмакратыю, містыфікуючы гэтыя паняцьці. Дэмакратыя, кажа ён, — абстрактная, а карані цэнзуры — у недасканаласьці сьвету. Ён схільны падмяняць цэнзуру і норму. Расейская цэнзура можа быць і «во благо», яна можа быць «у сабе». На тое й цэнзура, каб яе ўмела абыходзіць, — кажа расейскі пісьменьнік.

Што да нас, дык, ня маючы ў гісторыі прыкладаў уласна беларускай цэнзуры, мы гаворым пра цэнзуру нямецкую, польскую і расейскую.

Цэнзура ў Расеі можа быць уважлівай і чуткай, «нястрогай», схаванай і адкрытай, беларуская — толькі рэпрэсіўнай. Расейцы спрачаюцца пра цэнзуру на карысьць грамадзтва. Словам — цэлая палітра фарбаў. Для беларушчыны цэнзура — без адценьняў. Гэта заўсёды адназначна, як сьмерць, як забойства.

Тое, што расеец можа ўспрымаць гуляючы, як літаратурную гульню ці гульню словаў, у нас разумеецца толькі, як ганебнае — самацэнзура. Гульня з уласнай грамадзянскай годнасьцю і сумленьнем.

Нарэшце, у расейскай літаратуры нярэдка можна сустрэць выраз — «айчынная цэнзура», уявіць які ў Беларусі зусім немагчыма.

Вось жа гэткае адрознае значэньне цэнзуры



ў Расеі і Беларусі і немагчымасьць апісаць беларускія выпадкі ў зразумелых расейцам катэгорыях — усё гэта, верагодна, і прывяло да адсутнасьці ў маскоўскім часопісе «Досье на цензуру» фактаў і да «бадакьня» іншае тэмы — Беларусі. Што ж гэта за штука такая, як яе зразумець? Зыходны матыў у тэкстах часьцяком — а ці існуе яна наагул? Ня буду ўступаць з аўтарамі ў паленіку, адзначу толькі цікавую тэндэнцыю, якой у папярэднія гады не было. Аўтары ў большасьці сваёй імкнуцца знайсьці Беларусь у саміх сабе — просяць яе адгукнуцца. Іншым разам небеспасьпяхова.

Тон гэтаму задала сваім уступным маналёгам Сьвятлана Алексіевіч:

«Я б сказала, што паводле свайго сьветапогляду я — касмапаліт. А жыцьцёвая філязофія — гэта, канечне, швэйцэрства, этыка глыбокай пашаны да жыцьця, асабліва пасьля Чарнобылю... Склалася я, канечне, у расейскай культуры. А Беларусь — гэта хутчэй геаграфія, але геаграфія душы, і ўнутрана я, канечне, чалавек адсюль, ад гэтай мяккасьці, ад гэтай цярплівасьці, дружалюбнасьці. І шмат іншага, няўлоўнага...

І беларуская мова — таксама ў нейкім сэнсе мая мова. Бо мова — гэта ня толькі словы, гэта і старыя вясковыя людзі, і пабудовы, і галашэньне, якое і ў кнігах у мяне таксама ёсьць, гэта і зацемненасьць, няяснасьць сэнсу, распушчаная ў часе...»

Іншыя аўтары нібы падхопліваюць гэтую інтанацыю і працягваюць, кожны на свой лад. То нібы ўхіляюцца, баючыся адкрытых словаў

і прызнаньняў, то нібы паглыбляюцца кудысьці ва ўласную падсьведамасьць, спрабуючы апісаць, цытую, «практычны мэтад выкліку ў сабе беларускага духу» — ня з родавай альбо нацыянальнай традыцыі, а зноў жа вельмі асьцярожна — зь беларускіх зямлі, вады, паветра і агню. У выніку выходзіць нешта на мяжы кавээну і эсэістыкі. Ніхто з аўтараў не выступае, так бы мовіць, магільшчыкам беларушчыны, але і будучыню краіны, нацыі, мовы прадказваюць з многімі агаворкамі і хутчэй зь цьмяным спадзевам, чым з адкрытаю верай.

Зноў гэтае паняцьце — вера ў Беларусь, якое ў нашых перадачах праглядаецца не ўпершыню і нібы ўсё больш матэрыяльна.

Заўважце, наколькі зьмянілася яшчэ гадоў дзесяць таму палярнае стаўленьне да будучыні беларушчыны, наколькі яно зьмякчэла і наблізілася да таго, каб з «нарысаў гістарычнага пэсымізму» — з прыпіскай: хай бы хто-небудзь мяне разуверыў, — стаць нарысамі аптымізму.

Бадай, толькі тры пасылы ў пятнаццатым нумары маскоўскага «Досье на цензуру» падаліся мне сур'ёзна памылковымі. Першы належыць дырэктару менскага Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту Анатолю Міхайлаву. Вось ён:

«На гэтым шляху праблему нацыянальных моваў абысьці немагчыма. Але давайце аддамо сабе справаздачу ў тым, што існуе нешта накшталт лёсу кожнай канкрэтнай мовы. Мы разумеем, напрыклад, якая розьніца паводле ступені распаўсюджанасьці паміж ангельскай і, скажам, чувашкай мовамі. Гэта ня значыць,



што чувашкая мова непаўнавартая — не пра тое гаворка. Але ёсьць пэўная дадзенасьць, не лічыцца зь якой, прынамсі, памылкова. У той самаідэнтыфікацыі, якая адбываецца цяпер, ёсьць сур'ёзная небясьпека: павялічыць правінцыйнасьць нашых інтэлектуальных далягляда ў, якая зь вядомых прычынаў была непазьбежная ў сілу нашага агульнага мінулага. Аднак тады гэтая правінцыйнасьць дыктавалася ідэалягічнымі меркаваньнямі, цяпер — нацыянальнымі».

Трэба думаць, што лёс мовы — зьява рукатворная. Гэты лёс сёньня цалкам залежыць ад творцы, ад інтэлігенцыі і ад дзяржавы. Скажам, калі ў Літве па-літоўску выдаецца ў сто разоў болей філязофскіх кніг, чым у Беларусі па-беларуску, гэта не спрыяе адсталасьці літоўцаў у гэтай сфэры і хоць нейкаму лепшаму лёсу беларусаў. Што да разьвіцьця філязофіі, дык, на маю думку, нас даўно чакаюць у цэнтральнай Эўропе менавіта як беларусаў, бо нашае зьвяно ў ланцугу гісторыі думкі цэлага рэгіёну не заменіць ніхто. Літва, Польшча, Украіна, а таксама Ўсходняя Прусія складаюць гістарычна цэльны з намі культурны рэгіён, які спрадвеку падпадаў пад расейскую агрэсію, дзякуючы Расеі рабіўся рысаю аседласьці гэбраяў, і наша незавязанасьць на Расеі зусім ня значыла б, што мы страчаныя ў сьвеце. Якраз навязваньне расейскае адукацыі і расейскіх культурна-мэнтальных стэрэатыпаў спрыяе вырываньню нас з нашага прыроднага асяродзьдзя і нашай менавіта расейскай, а не беларускай правінцыйнасьці.

Другое, на маю думку, памылковае ўяўленьне ў апошнім нумары «Досье на цензуру» — пра «расейскамоўнае» насельніцтва Беларусі. Маўляў, у нас нідзе не пачуеш жывога беларускага слова. Трэба быць чалавекам, прыежджым з Масквы, каб пераканацца, што гэта ня так. Ня буду зноў спасылацца на зьвесткі перапісу пра родную мову, паўтару толькі выказваньне Адама Глёбуса пра тое, што «калі мы гаворым па-расейску, у душы мы гаворым па-беларуску». Мабыць, з гэтым пагадзілася б большасьць нашых «расейскамоўных», якія ў апытаньнях паўтараюць адно — ужо ня мы, дык дзеці нашы мусяць загаварыць. Адсюль і тыя вынікі перапісу. Трэба ўлічваць, што гутарковая мова — гэта зусім ня тое, што мова пісаная, у адпаведнасьці зь літаратурнымі нормамі. Чаго, між іншым, не разумеюць выдаўцы нашых расейскамоўных газэт і часопісаў, якія ў імкненьні быць бліжэй да публікі змушаныя пісаць моваю Пушкіна, тады як народ зусім ня моваю Пушкіна размаўляе.

Нарэшце, трэці пасыл, які можа ўвесьці ў зман расейскага чытача. У артыкуле журналіста Эдуарда Мельнікава:

«Выкладаючы гэтыя і іншыя факты незвычайнай палітычнай кар'еры Лукашэнкі, ня будзе занадта вялікай сьмеласьцю разуверыць каго б ні было ў тым, што ўсё, што адбылося ў Беларусі, ёсьць нейкай выпадковасьцю, фатальным зьбегам абставінаў. Наадварот, усё глыбока заканамерна, бо зь некалькіх кандыдатаў у прэзыдэнты беларускі народ беспамылкова выбраў «свайго». Бо лад думак, узровень мысьленьня, нават (а можа быць, і больш за ўсё) манера размаўляць маладога лідэра ёсьць дакладным зьлепкам ладу думак, мэнталітэту, псыхалёгіі сярэдняга беларуса — такім, якім яго вылепілі вякі беларускай гісторыі».



Ня буду пагружацца ў сфэру палітычнае аналітыкі і супярэчыць аўтару, маўляў, не за яго галасавалі, а супраць папярэдняга. Заўважу толькі істотную рэч. Нацыянальная мэнтальнасьць у такіх сваіх праявах — зьява амбівалентная. І тая пагалоўная большасьць, якая падтрымала згаданага кіраўніка, — яна ж адначасова маральная меншасьць беларускае нацыі. Думаю, у гэтым сэнсе беларусы мала адрозьніваюцца ад іншых эўрапейцаў. Адно, што яны маладая нацыя, чыя маральная большасьць толькі фармуецца, нарастае, набіраецца сілаў. Маральная меншасьць, нават калі яна фізычная большасьць — заўсёды аморфная і схільная да застою, да адсутнасьці пераменаў. У ейным полі і робіцца з боку ўладаў усялякая непатрэбшчына, заводзіцца цэнзура і запаноўвае ўсеагульны прытоены страх. Што да маральнай большасьці, дык яна і бярэцца зь веры ў сваю краіну.

Кожная краіна і нацыя паходзіць з такога пераканаmake — гэта мы, мы існуем. А тады толькі напрацоўваюцца аргумэнты — зусім адметная культура, свой гістарычны шлях і зусім спрыяльны патэнцыял на будучыню, каб быць моцнай і вартай павагі эўрапейскай дзяржавай.

Мне згадваецца герой аднаго гішпанскага фільма — стары настаўнік, які кажа простыя словы: «Толькі адно пакаленьне павінна вы-

расьці ў свабоднай Гішпаніі, і Гішпанія больш ніколі ня будзе несвабоднай краінай». Ішоў трыццаць шосты год, пачатак фашызму. Настаўніка расстралялі. Але праўда ягоных словаў засталася. Што для Гішпаніі, што для Беларусі.

этэр 9 верасьня 2001 г.

## «Восень патрыярха»

Здаўна людзі называюць гэтую дарогу прэзыдэнцкай. Ад менскай Нямігі яна цягнецца праз Дразды і ўпіраецца ў вёску Ждановічы. Дарога шырокая і заўсёды пустая, на ўзбочынах заўсёды пасьвяцца козы, а абапал дарогі цягнуцца вазёры, вада ў якіх заўсёды, пры любым надвор'і выглядае нежывою, быццам пад ёй хаваюцца нейкія падводныя вайсковыя аб'екты… Я злавіў сябе на тройчы паўтораным «заўсёды» і згадаў трапны жарт, пачуты некалі ад дзіцяці: маўляў, у гэтых вазёрах сам Лукашэнка купаецца ў браняваных плаўках.

Лукашэнка, а дакладней ягоны дух, прысутнічае тут ня толькі ў вадзе альбо ў народнай назве дарогі, ён пасяляецца і ў рэдкіх машынах, што, здараецца, праяжджаюць тут, і пры абмежаваньні хуткасьці да 90 кілямэтраў на гадзіну, абавязкова скідаюць да 80 і ніжэй. Магчыма, яны робяць гэта ад боязі ці перастрахоўкі. Каб чагосьці ня выйшла. А магчыма



таму, што радыё ў машыне заўсёды гаворыць голасам кіраўніка краіны, і ў голасе тым гучыць пагроза па-ранейшаму будаваць жыльлё, як заўсёды клапаціцца пра чалавека працы, надалей сябраваць з Расеяй і даваць адпор Захаду разам зь ягонай цывілізацыяй.

Радыё спыніць нельга. Аляксандар Лукашэнка сустракаецца з выбаршчыкамі ўжо пятую гадзіну. За гэты час мяне на прэзыдэнцкай дарозе канчаткова апаноўвае лацінаамэрыканскі настрой. Я думаю пра падабенства іхных і нашай дыктатуры. І калі ён распавядае пра сваё званьне падпалкоўніка, якое не замінае яму надзяваць маршальскі мундзір — гэта гучыць, як росьпіс, як шчырасьць, што выклікае на памяць радкі з Маркесавай «Восені патрыярха»:

«І тады ён ледзь прачыніў дзьверы сваёй патаемнай спальні і, гледзячы ў шчыліну, убачыў у залі паседжаньняў сваё мёртвае цела, аточанае запаленымі сьвечкамі, сваё мёртвае цела, апранутае багацей за любога зь нябожчыкаў Рымскіх Пап на працягу ўсёй гісторыі каталіцтва, аднак вусьціш і сорам уразілі яго, калі ён глядзеў на тое цела, уласнае ягонае цела, што патанала ў кветках, з тварам, белым ад пудры, з нафарбаванымі вуснамі, з скасьцянелымі рукамі капрызьлівай какеткі, складзенымі на пакрытых бранёю рэгаліяў грудзях, цела, апранутага ў прыдуманы кімсьці спэцыяльна для нябожчыка мундзір Генэрала Сусьвету, зь дзясяткам яркіх сонцаў на пагонах…»

Новыя пяць гадоў ягонага кіраваньня ўяўляюцца цэлай вечнасьцю, як ужо вечнасьцю па-

даюцца гады мінулыя. Верагодна, іх ня сем. І ён мае рацыю, калі кажа, што за гэтыя сем пражыў усе трыццаць ці, як мінімум, дваццаць пяць. Я зноў згадваю лацінасаў, якія навучылі нас, што дыктатура вымяраецца не гадамі, а вечнасьцю. Бо гэта спынены час — аднастайны і нязьменны. Ён — заўсёды.

Тым часам у радыё нейкая жанчына распавядае пра Пятра Міронавіча Машэрава, і я думаю пра невыпадковасьць таго, што гэтая прэзыдэнцкая дарога, па якой еду, носіць імя Машэрава. «Ды вы, Аляксандар Рыгоравіч, ад Пятра Міронавіча і крохі пабралі», — кажа кабета нешта з такім вось сэнсам і пры бурных воплесках залі. Словам, поўная пераемнасьць. Асабіста для мяне, калі зазіраць туды, у часы да Машэрава, дык ужо не ва ўласную памяць, а хіба што ў кнігі. Сапраўды, цэлая вечнасьць. І неістотна — пяць гэта гадоў ці дваццаць пяць.

Раман пра вечнасьць дыктатара — «Восень патрыярха» Габрыэля Гарсія Маркеса ўпершыню ў Савецкім Саюзе быў перакладзены якраз у Менску і якраз у часы Машэрава. Зрабілі гэта Валянцін Тарас і Карлас Шэрман. Але тады наўрад ці хто думаў пра Машэрава. Разуменьне таго, з чым насамрэч мы маем справу, і наколькі менавіта нас гэта ўсё тычыцца, прыходзіць у поўным аб'ёме толькі сёньня, перад новай пяцігодкай вечнасьці. Сёньня гаворка пойдзе пра стаўленьне да дыктатуры ў лацінаамэрыканскіх і беларускіх пісьменьнікаў — у чым яно падобнае і ў чым адрознае.



***

«На зыходзе тыдня сьцярвятнікі-грыфы разьдзёрлі мэталёвыя ваконныя сеткі, праніклі праз гаўбец і вокны ў прэзыдэнцкі палац, узмахамі крылаў скаланулі ў палацавых пакоях задушнае паветра застаялага часу, і ў панядзелак на сьвітанку горад ачомаўся нарэшце ад векавога летаргічнага сну, у які ён быў пагружаны разам са сваёй ператворанай у гнільлё веліччу; толькі тады мы насьмеліліся ўвайсьці, і ня трэба было аблогаю браць крапасныя сьцены, да чаго заклікалі адныя, самыя сьмелыя, альбо тараніць дышламі валовых павозак парадны ўваход, як прапаноўвалі іншыя, бо варта было толькі дакрануцца, як самі сабою расчыніліся браняваныя вароты, якія ў слаўныя для гэтага будынку часы выстаялі пад ядрамі Ўільяма Дэмпіра, і вось мы ступілі ў мінулую эпоху і ледзьве не задыхнуліся ў гэтым агромністым, ператвораным у руіны барлогу ўлады, дзе нават цішыня была лядашчай, сьвятло хісткім, і ўсе прадметы ў гэтым хісткім, прывідным сьвятле адрозьніваліся няясна...»

*Габрыэль Гарсія Маркес. Восень патрыярха*

Беларуская літаратура не нарадзіла нагэтулькі магутнага раману пра дыктатара. Дакладней, пра свайго дыктатара. Дакладней, пакуль не нарадзіла. І каб зусім ужо дакладна — беларуская літаратура не напісала пакуль пра сваіх людзей ва ўмовах сваёй дыктатуры. Чаму? Найперш таму, што, у адрозьненьне ад лацінасаў, яна не хацела мірыцца з жыцьцём пад уціскам. Яна, вядома, шмат казала пра

дыктатуру, але гэта былі хутчэй засьцярогі ад магчымае сытуацыі, чым ад таго, што ёсьць насамрэч. Пісьменьнікі ўяўлялі сябе палітыкамі і прарокамі, ад якіх залежыць зьмена палітычнае і грамадзкае сытуацыі. Вось яшчэ трохі — галадоўка ў парлямэнце, і яшчэ — Чарнобыльскі шлях, і яшчэ — заявіць на ўвесь сьвет пра брутальныя арышты, альбо — самадзейныя прэзыдэнцкія выбары і байкот парлямэнцкіх — здаецца, яшчэ зусім трохі падналегчы, і нашая праўда пераважыць, перацягне. І так з дня ў дзень, зь месяца ў месяц. Аднак, нічога не зьмянялася. І яны зноў шукалі новага спадзеву. А раптам спрацуе заява дзяржсакратара, а раптам Ельцын, а раптам Пуцін. Усё, здавалася ім, можа вырашыцца за хвіліны. І так сем гадоў. Гэткі быў погляд беларускага творцы. Ня дзіва, бо менавіта творцы ў нас былі завадатарамі і перастройкі, і незалежнасьці.

Лацінасы пазіралі, як дзеці. Сьвет навокал такі, які ён ёсьць — несправядлівы, грубы, улада хамская, жорсткая. Верагодна, некалі, праз вечнасьць, яна зьменіцца на іншую, але мы жывем і пішам цяпер — мы дасьледуем свайго чалавека менавіта ў такіх умовах.

Урэшце, для пісьменьніка існуе свая вечнасьць. Гэта газэтчыку альбо палітыку так важныя праблема ўлады або выбары. Гэта ім важна надаць значнасьць сёньняшняму дню. Гэта для іх вечнасьць — не крытэр. Гэта яны кажуць пра нелегітымнасьць, як пра свой інструмэнт. А ў пісьменьніка такога інструмэнту няма.



Беларускі пісьменьнік перастаў быць палітыкам. Гэта значыць, што нелегітымнасьць улады ўжо ня можа заспакоіць яго. Яму вяртаюцца ягоныя прафэсійныя функцыі — прымаць чалавека і сьвет такімі, якія яны ёсьць. Толькі так ён можа быць дасьледнікам жыцьця. Верагодна, цяперашні злом у беларускай палітыцы ўсё паставіць на свае месцы. Сем гадоў пісьменьнік чакаў або змагаўся, а цяпер ён, як змагар, канчаткова ўпёрся ў маналіт жыцьця. Ужо зьмененага, ужо іншага. Ягоны супляменьнік толькі й паўтарае, што хоча ЖЫЦЬ тут і цяпер. Кахаць, працаваць, зарабляць грошы, нараджаць дзяцей — сёньня. І ніякіх сямі гадоў на чаканьне няма і быць ня можа.

Што такое нелегітымнасьць улады для літаратара? Гэта значыць, што літаратар выходзіць адзін на адзін з прэзыдэнтам і горда кажа — падай, ты забіты, я ў цябе патрапіў, цябе няма. Слушна, — адказвае дыктатар, — гэта слушна, пакуль мы гуляем у змаганьне. Але гульня скончаная. Дакладней, кожны будзе гуляць на сваім полі. Я магу цябе закапаць на Паўночных могілках, а ты можаш закапаць мяне ў вачах майго народу і ўсяго сьвету, калі напішаш сваю «Восень патрыярха» і атрымаеш Нобэлеўскую прэмію.

Тысяча выкрывальніцкіх тэкстаў — вершаў, апавяданьняў і п’есаў, у якіх аспрэчвалася і высьмейвалася папулісцкая дэмагогія — усё гэта выматала пісьменьніка і ўжо не ратуе. Ня тая зброя. Застаецца сказаць — ён ёсьць. І гэта дадзенасьць. І мы ў гэтай дадзенасьці жывем і вывучаем чалавека менавіта ў ёй. Для літара-

туры адкрываецца цэлае поле дзейнасьці. Сапраўды, наш чалавек можа прапасьці бязь сьледу, і быць тым, хто ўчыняе прапажу. У абодвух за плячыма цэлы клубок сувязяў і матывацыяў. Рыбакі і Сотнікавы доўжаць сваю біблейскую палеміку ў вечнасьці.

Гаворка ня йдзе пра прыманьне ці непрыманьне ўлады. Пісьменьнік заўсёды ў апазыцыі. Але беларуская літаратура за савецкім часам была адвучаная ад таго, каб быць у маральнай апазыцыі. І толькі цяпер яна апынулася на сваім месцы, канчаткова пакінуўшы ўладныя пасады і быццам наноў засяляючы свой пакінуты на час Парнас.

Калі б Дастаеўскі ставіў на мэце адмаўленьне свайго Мёртвага дому, а Горкі — свайго Дна, а Быкаў — сваёй Вайны, калі б яны выступалі змагарамі супраць самое наяўнасьці гэтых агідных праяваў жыцьця — не было б літаратуры. Безумоўна, як грамадзяне, яны супраць. Але іхная справа выявіць гэта праз прыроду чалавека, які сам творыць сваё пекла. Бо яшчэ Сартр апісаў у сваёй п'есе «Пры зачыненых дзьвярах» ня толькі рукатворнасьць пекла, але й марнасьць пісьменьніка змагацца зь ім, бо інакш трэба было б змагацца з чалавекам, у якім ёсьць і добрае і злое.

За савецкім часам так і было — дыктатар успрымаўся, як дадзенасьць, і ніводзін пісьменьнік не задаваўся ідэяй замяніць Машэрава або Панамарэнку, ніхто ня жыў чаканьнем іхнага сыходу, ніхто не высьмейваў дурасьці, сказанай мажнаўладцам, настолькі маналітнай была ўлада. Наперадзе ў пісьменьніка была вечнасьць тварэньня, поўная рызыкі і спадзеву на цудоўнае адкрыцьцё. Іншая рэч, што часьцяком ён абіраў канфармісцкі шлях.



Выбары і ў прынцыпе выбар для нашага літаратара, які прызвычаіўся быць пры ўладзе, сталі спакусай на цэлых апошніх дзесяць гадоў. Няўжо і праўда можна зьмяніць свой сьвет? Зорка Габрыэле д'Анунцыо для кагосьці, а для кагосьці зорка Юкіо Місімы зазьзяла на поўную моц. Але калі іхнае халоднае зьзяньне і напаўняла сэрцы адзінак, дык для літаратуры таго сьвятла не было відаць наагул.

***

У нядаўна надрукаванай гутарцы Алеся Адамовіча і Васіля Быкава Быкаў кажа, што ня ставіць на мэце ані зьмяніць сьвет, ані палепшыць чалавека. Мэта — паказаць чалавеку, што ў ім ёсьць і добрае і благое. І калі чалавек гэта ўбачыць, мяркуе Быкаў, ён паразумнее.

Сказана — пісьменьнік заўсёды ў апазыцыі. Можа быць, гэта апазыцыя да недасканалага сьвету. І тут ёсьць спакуса ўсю тую недасканаласьць сьвету зьвесьці да гэтага вось дыктатара і ягонага рэжыму. Зьменім — і ўсё будзе добра. Усё можа быць па-іншаму.

Ня будзе. Нічога ня зьменіцца. Самы час прыгадаць Астурыяса зь ягоным раманам «Пан прэзыдэнт». Гаворка ідзе пра дыктатуру Эстрады Кабрэры:

«Дыктатура — гэта страшны ядавіты павук, які разбэшчвае, падкупляе, запалохвае ўсе клясы грамадзтва, людзі робяцца альбо бяздушнымі мэханізмамі, альбо фанатыкамі, аль-

бо брыдкімі прыстасаванцамі. Некаторыя думаюць, што пасьля дыктатуры настане новы час, і ўсё стане на свае месцы. На жаль, гэта ня так. Мінаюць гады, а дух дыктатара і ягонай сыстэмы ўсё жыве і жыве. Чаму? Ды таму, што дыктатура разьядае грамадзтва да мозгу костак».

Між іншым, гватэмалец Астурыяс упершыню выдаў свой раман гадоў праз пятнаццаць пасьля таго, як напісаў яго, прычым выдаў за ўласныя грошы і толькі за мяжою — у Мэксыцы. Для пісьменьнікаў з Паўднёвае Амэрыкі гэта тыповая сытуацыя, як і творчасьць у выгнаньні, з чым беларускія літаратары пачалі знаёміцца толькі за часамі гэтай самай сваёй дыктатуры.

Магу дапусьціць, што сьвет зьмяняецца не дыктатарамі і змагарамі — знакавымі постацямі з нацыянальнае гісторыі. Усё ня так хутка і ня так пасьпяхова. Калі мы мроім пра эўрапейскую цывілізацыю, дык яна ўся складаецца з цывілізацыяў нацыянальных, што высьпелі праз неверагодныя церні агульнага граху і агульнага пакаяньня. Той, каму ўдалося ў гэтым тралейбусе праехаць зайцам, той сёньня і мае тое, што мае — або дыктатуру, або нябыт. Гісторыя — надта строгі і непадкупны кантралёр.

А як жа тады грамадзянская пазыцыя пісьменьніка? Можа быць, яна ўжо ня ў тым, каб выйсьці на пляц, на мітынг і сказаць прарочае слова пра тое, што рэжым абавязкова ўпадзе. Можа, яна ў тым, каб з усіх сілаў імкнуцца ўразіць сьвет раптоўным зразуменьнем у чалавеку таго, чаго раней неяк не заўважалі, і ў тым, каб данесьці гэтае зразуменьне, набыць высокі аўтарытэт. Каб у масавай сьвядомасьці Беларусь Лукашэнкі зьмеркла перад Беларусяй пісьменьнікаў — адсюль столькі спадзеву на гэтую Нобэлеўскую прэмію. Але каб цэлым атрадам нашыя літаратары імкнуліся да прызнаньня ў сьвеце, а тады і дома. Гэтак, скажаце, дакаціўся я да тых самых словаў, што кажа дыктатар: няхай пісьменьнікі пішуць. Толькі ў гэтым «няхай пішуць» ёсьць два розныя сэнсы. Няхай пішуць «Восень патрыярха». Новая пяцігодка можа даць ім для гэтага шмат матэрыялу.



Дыктатар сапраўды рукатворны. У стварэньні яго ўдзельнічае ўвесь народ. Большменш тыпова выглядае шэраг апалягетаў — прапагандыстаў, самадураў і запалоханых. Тут найменш выяўляецца нацыянальная сутнасьць. Але за дзесяць гадоў стварыліся вобразы апазыцыйнага палітыка, апазыцыйнага творцы, апазыцыйнае моладзі — такія непадобныя да падобных у іншых культурах. І самае галоўнае — паўстаў зусім іншы беларус, якога раней не было. Гэта беларус перад выбарам. Ён разнастайны, але таксама раскладаецца на акрэсьленыя тыпажы.

Варта згадаць і яшчэ адзін досьвед паўднёваамэрыканскіх дыктатураў. Яны спрычыніліся да стварэньня нацыяў. Гэта факт. Гішпанская Амэрыка ператварылася ў коўдру з рознакаляровых лапікаў. І далося гэта цаною многіх і многіх жыцьцяў. Не паўсюль удаюцца аксамітныя або сьпеўныя рэвалюцыі.

Мы ня можам не заўважаць, колькі, насуперак уціску мовы, за гэтыя сем гадоў стала ў Беларусі беларускамоўнае моладзі. Уменьне мовы стала добрым тонам палітыка, перадусім апазыцыйнага. І самае апошняе сьведчаньне — у культурніцкіх асяродках ужо не гавораць, што гіне мова, нацыя і Бацькаўшчына. Вось чаму я раблю выснову, што беларуская «Восень патрыярха» можа быць ня менш значнай, але, безумоўна іншай паводле духу і мовы — яна будзе напісаная па-беларуску, раскажа пра Беларусь сьвету.

Не хачу, каб падумалі, што я сьпісваю нацыянальнае станаўленьне ў заслугі дыктатуры. Гэта прыродная зьява, і адбываецца сама сабою. Але гарт нацыя набывае ў супрацьстаяньні. Альбо ў экспансіі вонкі, або ўнутры сябе мацнее духам. Гэта аб'ектыўныя рэчы. Нельга ўхваліць вайну і ГУЛАГ, але беларуская інтэлігенцыя, якая прайшла гэтыя два пеклы — яна сапраўды найбольш загартаваная, мужная, верная Бацькаўшчыне і людзкая.

У пісьменьнікаў з Лацінскай Амэрыкі часьцяком сустракаем эпахальныя выразы, якія падтрымліваюць адчуваньне веліччы і вечнасьці нікчэмных дыктатараў. Запомнілася ў Маркеса — Эпоха Вялікага Шуму. У беларускай літаратуры гэткіх звышазначэньняў яшчэ, бадай, не завялося. Аднак паралелі з лацінасамі і іхнымі дыктатурамі пачаліся ад самага пачатку выбраньня Аляксандра Лукашэнкі. Нават яшчэ перад ягоным выбраньнем. У надрукаваных у «Нашай Ніве» «Казках пра кандыдатаў» — гэта калектыўны твор Глёбуса, Клімковіча і



Сьцяпана — яшчэ ў 1994 годзе была зробленая спроба мэтафарычна перадаць сутнасьць кожнага з кандыдатаў. Тады іх было шэсьць. Кебіч зьбіраў грыбы, Шушкевіч лячыў галубку, Пазьняк змагаўся з камуністамі, Новікаў дапамагаў пэнсіянэрам, Дубко адмаўляўся ад мэдаля. Пераможца — хто б тады пра такое мог і падумаць — насіў самбрэра. Казка пра яго, яшчэ кандыдата, так і называлася — «Лукашэнка і самбрэра»:

«Вельмі ўжо да твару Алесю Рыгоравічу Лукашэнку звычайнае мэксыканскае самбрэра. Надта ж зручная рэч, нашмат лепшая за цюбяцейку ці генэральскую папаху. І ў сьпёку заўсёды цень знойдзеш, і ў дождж не замокнуць дэпутацкія плечы. Насіў бы і насіў Алесь Рыгоравіч сваё самбрэра, у якім так хораша гойсаць на саўгасным «козьліку» ад кароўніка да сьвінарніка, але закінуў лёс Лукашэнку ды ў сталіцу. Змог бы і ў горадзе Алесь Рыгоравіч насіць любы сялянскаму сэрцу галаўны ўбор, каб была ў яго службовая машына з адкрытым верхам. Але не такі ён чалавек, каб перарабляць машыну пад сябе і кідаць на вецер народныя грошы. І паспрабаваў Лукашэнка езьдзіць у грамадзкім транспарце, бо хацеў захаваць імідж простага мэксыканскага селяніна. Але як ты ўваб'есься-ўшчэмісься ў лацінаамэрыканскай шапцы ды ў менскі тралейбус?! Раз брылі пакамечылі, другі пакамечылі, і давялося Алесю Рыгоравічу Лукашэнку павесіць сваё самбрэра на цьвік. Але ня траціць надзеі Лукашэнка, што надыдзе час, калі будзе ў яго машына з адкрытым верхам».

Можа быць, лацінасы, пішучы пра вечнасьць дыктатуры, імкнучыся да нязьменнасьці дэкарацыяў, што спрыяе спакойнаму дасьледаваньню чалавека ў гэтых дэкарацыях, нават гіпэртрафуюць час дыктатуры і пэрыяд кіраваньня дыктатара. Адсюль «сто гадоў адзіноты». Ня дзіва, што і наш чалавек іншы раз наіўна гукае пра тое, што вось быў Машэраў, а цяпер такі самы — Лукашэнка. Я вымавіў слова «наіўна», каб яшчэ раз зьвярнуць увагу на дадзенасьць сьвету, якім яго ўспрымае дзіця, і пры якой толькі і магчымыя дзіцячыя вобразы, што сьветлымі водсьветамі кладуцца на ўсё жыцьцё, а таксама каб нагадаць, што і пісьменьнік мае справу з падобнымі вобразамі і водсьветамі, адкуль і струменіць ягоны талент, каб нагадаць, што пісьменьнік і паводзіць сябе ў палітыцы часьцяком наіўна, па-дзіцячаму.

Такім чынам, новая пяцігодка дыктатуры выглядае на вечнасьць. Асабліва гэта адчуваеш, едучы праспэктам прэзыдэнта Машэрава і думаючы пра тое, што ён, гэты праспэкт, быў заўсёды — са сваімі козамі на ўзбочынах і вайскова-тэхнічным колерам вады ў азёрах абапал шляху. Для нашых творцаў новая пяцігодка (і колькі іх там яшчэ будзе) ня стане часам спакусы, як папярэдняя сямігодка. Беларускія творцы здольныя заваёўваць прызнаньне на міжнародных тэатральных фэстах, мастацкіх пленэрах і літаратурных кірмашах. Яны гэта даказваюць, калі спакушаюцца вечнасьцю мастацтва, а не мімалётнасьцю дыктатуры. Новы час мусіць стаць часам тварэньня і часам прызнаньня. Бо ў нацыі, як і ў чалавеку, ёсьць і добрае і благое. Калі нас пазнаюць толькі дзеля Курапатаў, Чарнобылю і Лукашэнкі — гэта значыць, пазнаюць наша благое. Хіба ж гэта і ёсьць усе беларусы і ўся Беларусь?



этэр 16 верасьня 2001 г.

## Амэрыканская трагедыя

Адразу пасьля падзеяў у Амэрыцы інфармацыйныя каналы сьвету перапоўніліся да краёў: сэнсацыі адна за адной, нібы зарніцы ў небе, выблісквалі і прападалі. На тле ўстойлівае тупое нуды, якую заўсёды выклікаюць паведамленьні пра сьмерць, вылучаліся дзьве тэмы. Першая — гэта сьведчаньні ахвяраў, якія яны пасьпелі перадаць з борту захопленага летака або з-пад развалінаў Усясьветнага гандлёвага цэнтру. У гэтых сьведчаньнях ёсьць надзея на штосьці, што яшчэ можа павярнуць фатальную хаду падзеяў, адвесьці дурную, незразумелую пагібель. На жаль, надзея засталася марнай. Але мне падалося, што яна мела падставы. Сцэнар пісаўся ў паветры ці, прынамсі, мог быць удакладнены ў паветры. Карэктывы мусіла ўнесьці зямля. Але пра гэта — крыху пазьней.

Другая тэма — гэта пошукі спраўцаў злачынства. Магчыма, вядома, у клубах дыму разгледзець твар дэмана, але імёны бандытаў у кожным разе цяпер можна толькі дадумаць — больш ці менш доказна і пераканаўча. Непераканаўчая, хоць і зусім зразумелая, хаатыч-

насьць першых дзён. Затрыманыя тэрарысты, праз гадзіну — адпушчаныя, аказалася, ня тыя. То ўзьнікае вэрсія пра залётных арабаў, што проста перад вылетам чыталі курс пілятажу па-арабску, то яна абвяргаецца іншай: гэта былі прафэсіяналы, рыхтаваліся гадоў пяць. Натуральна, вялізныя ведамствы мусяць выконваць сваю работу і даваць адказы. Яшчэ больш натуральная іхная прага адплаты. І публіка прагне, сьвядома ці не, разумеючы, што імя аўтара ў гэткай сытуацыі можа зьмяніць калі ня ўсё на сьвеце, дык маё прыватнае стаўленьне да многіх рэчаў, маю асабістую філязофію жыцьця.

Сёньня ў «Вострай Браме» — амэрыканская трагедыя. Яе ахвяры, яе сьведкі, яе стваральнікі і яе культурны кантэкст.

Пачну з уражаньняў, якія шмат каму пададуцца спрэчнымі. Зьміцер Бартосік шукаў самога сябе ў гэтым ці то зьмененым пасьля трагедыі, ці то нязьменным нашым сьвеце. Ягоны погляд зь Менску падаўся мне ня тое што тыповым, але характарыстычным. У ім, нібы ў люстэрку, — гама пачуцьцяў менскае публікі, перадусім моладзі, якая ня мае ўстойлівых паняцьцяў пра самую сябе, сваё спадчыннае месца на зямлі і ў сьвеце, дзеля таго, каб у гэтых каардынатах, быццам у амфары, магло захоўвацца маналітнае і непарушнае рэчыва спагады.

*Зьміцер Бартосік:*

*9 верасьня ў сваёй паштовай скрынцы я знайшоў невялічкую рэклямку. І ня мог не ацаніць пачуцьця гумару тых, хто даслаў яе менавіта ў дзень выбараў беларускага прэзыдэнта. Рэклямка запрашала ўзяць удзел у чарговым розыгрышы грын-картаў у самую лепшую краіну сьвету — Злучаныя Штаты Амэрыкі.*

*А праз два дні, адзінаццатага верасьня, я сядзеў на эсплянадзе гандлёвага дому «На Нямізе», «Партызанскім» півам адзначаў новую пяцігодку і зьбіраўся затэлефанаваць аднаой амэрыканскай журналістцы, воляю лёсу закінутай у наш край зь Нью-Ёрку, каб пацешыць яе гісторыяй пра рэклямку. І раптам затэлефанавалі мне. Маці крычала ў слухаўку, што пачынаецца трэцяя сусьветная вайна, што ў Нью-Ёрку гараць хмарачосы, што разбураны Пэнтагон, што ў Амэрыцы тысячы забітых і параненых, і каб я тэрмінова ехаў дадому. Яе гістэрыка перадалася й мне. «Якая вайна? Які Пэнтагон? Нікуды я не паеду», — крыкнуў я ў адказ і адрубіў сувязь. Тры шыракатварыя хлопцы, што пілі піва за суседнім столікам, ляніва азірнуліся на мой крык. «Гарыць Нью-Ёрк. Гарыць», — сказаў адзін, жуючы свой хот-дог. Сказаў так, быццам гаворка ішла пра мінулыя выбары ці пра надвор'е. Я паспрабаваў уявіць тую карцінку ў навакольным краявідзе. Як вялізны самалёт абрынаецца на шэры няміскі гмах, на ўсе гэтыя ўнівэрмагі, на бязладна зашклёныя бальконы зь бялізнаю, на бестурботных менчукоў. І вырашыў затэлефанаваць адной прыгожай дзяўчыне, каб даведацца пра ўсё больш падрабязна.*

*«Гарыць твая Амэрыка сінім полымем. Да-*

*гуляліся ў вайну», — адказала тая. «І табе не шкада людзей?» «Каго, амерыкашак? Не шкада ні кроплі». «А каго ж табе шкада, расейскіх салдат у Чачэніі?» — завёўся я. «Так, — сказала яна, — іх вельмі шкада». Цікава, што мая знаёмая — зусім не закончаная дурніца і не прыроджаная лукашыстка. І нічога кепскага ёй Амэрыка не зрабіла. Адкуль жа гэткі антыамэрыканізм у аматаркі амэрыканскіх фільмаў ды грошай? У асобы, якая не пасьпела пабыць нават савецкай піянэркай?*

*Я бадзяўся па вуліцах і зазіраў у твары мінакоў. Намагаўся адчуць, што ў гэтым сьвеце сапраўды адбылося нешта настолькі непрадказальнае, што цяжка паверыць. Але людзі паводзілі сябе так, як паводзяць заўсёды. Толькі адзін заклапочаны твар я сустрэў на працягу гадзіны — знаёмага актора, чыя дачка жыве ў Чыкага. Цікава, у колькіх нашых грамадзян трагедыя на тым беразе акіяну выклікала не спачуваньне, ня страх перад гэтым непрадказальным сьветам, не жаданьне хоць чым-небудзь дапамагчы... а радасьць. Маленькую, подленькую радасьць. Не ад таго, што загінулі ідэалягічныя ворагі ці былыя супернікі ў халоднай вайне. А толькі ад таго, што загінулі нашмат багацейшыя й дужэйшыя. Загінулі тыя, хто мог дазволіць сабе ня ведаць, хто такі Лукашэнка. Загінулі тыя, хто заробак атрымлівае ў далярах, а ня ў зайцах. Хто жыве на шыкоўных вілах, замест таго, каб жыць у сьмярдзючых хрушчобах. Хто адпачывае на Багамах, замест таго, каб ехаць саджаць буракі на дачу. Хто п’е добры віскі замест «Крыжачка». І хто сьмела ды ўпэўнена глядзіць у заўтрашні дзень. І вось заўтрашняга дня — ня будзе. Мы будзем. А яны — не.*

*Дабраўшыся да тэлевізара, я быў уражаны прыгажосьцю той трагедыі. У вялікай краіне нават катастрофы выглядаюць прыгожа й велічна. Як у кіно. Да тае пары, праўда, пакуль буйным плянам не пакажуць людзей у вокнах. У гэты момант кіно сканчаецца. Бо разумееш — людзі, якія трапілі ў пастку самых верхніх паверхаў, праз кароткі час загінуць. Але машучы хусткамі, яны яшчэ спадзяюцца на нешта.*

*Якімі дробнымі здаліся раптам усе тыя жарсьці, якімі я жыў яшчэ пазаўчора. Усе нашыя ганчарыкі й лукашэнкі, стаяньні пад парасонамі й дзяльба амэрыканскіх грантаў, развагі пра эміграцыю. Ні на Палац рэспублікі, ні на галоўную Рэзыдэнцыю боінг не ўпадзе. Нават кукурузьнік. Не заслужылі пакуль. І, пасьля ўбачанага, ужо, напэўна, ніводзін нягоднік ня скажа, што Штаты ваююць за дэмакратыю, плоцячы чужой крывёю.*

*А за вакном тым часам працягвалася жыцьцё. Мясцовыя алкашы знайшлі сабе такую нагоду для п’янкі. Гэта ж трэба — Нью-Ёрк гарыць! Тут табе й за ўпакой, і за здароўе. Але памыляюцца тыя, хто радуецца. Нават пад руінамі хмарачоса, сярод аскепкаў боінгаў, сярод пылу Мангэтану ляжаць зусім не такія, а вольныя й багатыя людзі.*

Слухаючы Зьмітра Бартосіка, я згадаў нядаўнюю менскую трагедыю на Нямізе. Тады ўлады адрэагавалі як адрэзалі: ня трэба шукаць

вінаватых. Хоць мала хто паверыў, што галоўны вінаваты ў масавай пагібелі моладзі — банальны травеньскі дожджык, які і стыхіяй не назавеш. У Амэрыцы задача знайсьці і адплаціць была пастаўленая адразу. Злачынства прагучала, як выклік цывілізацыі. Але фізычных выканаўцаў не існуе ў прыродзе. Гэта значыць, што ў тым выкліку трэба разглядаць зьяву. Яе назвалі міжнародным тэрарызмам. Магчыма, яна шырэйшая і больш складаная, чым толькі гэтыя групкі непрымірымых ісламістаў у аўганскіх гарах.

Паўтару — самымі даставернымі з усіх фактаў выглядаюць сьведчаньні пацярпелых. Тых, што званілі з мабільнікаў з борту самалёта перад самай сьмерцю. Або тых, хто выбраўся з-пад завалаў жывым.

«Арабская» вэрсія выглядае найпрасьцейшай, але яна патрабуе наўпроставых доказаў. Насьцярожвае, што ні ў адным званку з захопленых самалётаў не называліся арабы. Насьцярожвае і тое, што такую маштабную акцыю наўрад ці можна было ў Амэрыку прыўнесьці звонку — больш праўдападобна, што яна высьпела ўсярэдзіне.

Ужо на другі дзень пасьля здарэньня такія сьведчаньні мільганулі ў друку і прапалі, накрытыя хвалямі новых і новых фактаў.

Мне запомнілася сьведчаньне 25-гадовай Таццяны. У часе першага выбуху яна была на 29-м паверсе Ўсясьветнага гандлёвага цэнтру ў Нью-Ёрку:

«Працаваць у адной зь вежаў-блізьнятаў Усясьветнага гандлёвага цэнтру, якім ганарыліся жыхары амэрыканскага мэгаполісу, было ня толькі прэстыжна, але й прыемна. Раніцай, калі ў падземным паверсе адкрываліся шматлікія буцікі, а народ сьпяшаўся на цягнікі ў бок Нью-Джэрзі, у натоўпе можна было заўважыць мноства турыстаў. Адныя кіраваліся да хуткасных ліфтаў, каб з глядзельнай пляцоўкі паўднёвай вежы пад назваю «Вяршыня сьвету» паглядзець на захапляльную панараму Нью-Ёрку. Іншыя з разяўленымі ратамі разглядалі маладых «япі» — жанчын у бездакорна белых блюзках і мужчын з масіўнымі кейсамі — супрацоўнікаў самых вядомых кампаніяў сьвету, офісы якіх разьмяшчаліся ў двух 110-павярховых будынках. А тыя, абмяняўшыся прыветным «Morning» з аховай, імкнуліся ў свае ўтульныя кабінэты. Да 9 гадзіны прыбіральшчыкі акурат сканчалі сваю працу. І можна было, наліўшы кубачак кавы, каторы раз акінуць вокам, як прачынаецца горад, і зноў зьдзівіцца бурлівай энэргіі і вечнаму руху. Потым спраўдзіць электронную пошту, даведацца навінаў, пабалбатаць з калегамі».

25-гадовая Таццяна працавала фінансавым аналітыкам аднаго з найбуйнейшых банкаў. І раніца 11 верасьня была для яе зусім звычайнай. Прыйшоўшы на працу крыху раней за дзявятую гадзіну, яна зьбіралася зрабіць званкі, але тут адбылося непамыснае. Будынак раптам гайдануўся, «нібы яго ўдарыла вялізнай бэйсбольнай бітай». У першы момант Таццяна вырашыла, што пачаўся землятрус, але зараз жа адчула жудасны пах чаду і дым, які разьядаў

вочы. Ва ўнісон зьвінелі супрацьпажарная сыстэма і сыстэма бясьпекі, людзі кінуліся ў калідоры. Ліфт не працаваў. Тады ўвесь народ апынуўся на лесьвіцы запаснога выхаду. На шчасьце, Тацяне ўдалося дабрацца да падземнага гаража да таго моманту, як абрынулася вежа. Адтуль зьнямелую ад жаху яе разам зь іншымі адводзілі па нейкіх лябірынтах у памяшканьне, падобнае да бамбасховішча і далі магчымасьць затэлефанаваць сваякам. Той час, што яна адседжвалася ў бясьпецы, падаўся ёй самым страшным.

«Я думала пра тое, што цяпер адбываецца на паверхні, і ў думках разьвіталася са сваімі блізкімі. Праз чатыры гадзіны, выйшаўшы на вуліцу, я ўбачыла на месцы вежаў месіва з абгарэлых чалавечых целаў, кавалкаў мэталу, аскепкаў шкла і абгарэлай паперы. І тады я зразумела, што майго сьвету болей не існуе. Я зазірнула ў ацалелую вітрыну — адтуль на мяне глядзела сьсівелая і моцна напалоханая жанчына. Цяпер над горадам стаіць хмара ванітоўнага смуроду, падобнага на шклавату, а вуліцы абляпілі мільёны папераў. Усё, што здарылася, не ўспрымаецца, як рэальнасьць, а хутчэй — як фінальная сцэна фільма «Байцоўскі клюб».

На думку Тацяны, тэрарысты, якія зьнішчылі Ўсясьветны гандлёвы цэнтар у Нью-Ёрку, нанесьлі ўдар па маладых славалюбцах, па тых, хто ўвасобіў амэрыканскую мару і атрымаў працу ў найбуйнейшых міжнародных кампаніях. І хоць мала хто цяпер кажа пра псыхалягічны аспэкт трагедыі, яе ўплыў на амэрыканскую нацыю будзе сакрушальным і страшным.



Кінафільм «Байцоўскі клюб» і сапраўды па-свойму вытлумачвае тое, што адбылося. Прынамсі, такая вэрсія можа мець месца. Герой фільма — такі самы славалюбец з прэстыжнай фірмы. Але, у адрозьненьне ад Тацяны, яму мала гэтага ўтульнага сьвету ўсеагульнага руху і самасьцьверджаньня. Калі жыцьцё ідзе перадвызначанаю каляінай — гэта ўжо несвабода. Інакш кажучы, гэтага мала, каб адчуць, што жывеш напоўніцу. Бо не пакідае думка, што хоць ты і гома сапіенс у белым каўнерыку, але пры тым застаесься жывёлінай — валасатай малпай зь невядома якімі таемнымі вірамі на самым дне душы. Якім чынам тут раскрыцца? Герой знаёміцца з такім самым, як і ён, чалавекам. Два нармальныя, звычайныя, дастаткова разьвітыя маладыя бізнэсмэны сустракаюцца, гавораць пра што заўгодна, намацваючы тую супольную мяжу жаданьняў. І аднойчы калега кажа герою: «Слухай, дай мне ў морду. Ну, праўда, дай». «Проста так даць?» «Проста так»... Большасьці людзей не ўласьціва даць іншаму ў морду. Нейкі бар'ер, нейкая перашкода замінае. А інтуіцыя падказвае ім — ага, вось дзе твой бар'ер, твая несвабода, твая абмежаванасьць і немагчымасьць жыць напоўніцу.

Герой размахваецца і ня вельмі рашуча наносіць удар калегу. Што адбылося? Штосьці незразумелае, але прыцягальнае. Істота адчула сябе поўнай і неабмежаванай. Цяпер чарга калегі... Словам, два зусім добрапрыстойныя дзе-

цюкі знаходзяць сваё вызваленьне ў гэтым. Удзень яны ўлягаюць у сваіх прэстыжных фірмах, а па вечарах «адцягваюцца» ў бойцы. Каб знайсьці сваю свабоду, яны ня пішуць вершаў і не кахаюцца бесьперастанку, як гэта рабілі іхныя папярэднікі-гіпі. Яны намацалі той комплекс, які з маленства закладзены ці ня ў кожным мужчыну, і вырашылі яго разбурыць. Далей высьвятляецца, што такіх, як яны, — мора. Вялізнае мноства мужчын па ўсёй Амэрыцы, для якіх пераадоленьне таго няўменьня даць іншаму ў морду, што глыбака засела з маленства, становіцца ледзьве не рэлігіяй. У выніку маленькі напачатку байцоўскі клюб нашых герояў ператвараецца ў сетку такіх клюбаў па ўсёй краіне. Пасьля таго, як арганізацыя структуруецца, яна мусіць знайсьці сабе ідэалёгію. Калі ідэалёгіі няма, зьяўляецца жорсткая сыстэма падпарадкаваньня і грандыёзная мэта — зрабіць акурат тое, што мы пабачылі ў аўторак 11 верасьня.

Адзін авіядыспэтчар зафіксаваў голас тэрарыста ў захопленым самалёце. Адна толькі фраза: «Бяз глупстваў» — была сказаная без акцэнту і акурат так, як гэта мог сказаць Брэд Піт у «Байцоўскім клюбе».

Хадзілі чуткі, што «Байцоўскі клюб» забаронены да публічнага паказу ў ЗША. Можна зразумець, чаму. Там прырода тэрарызму выводзіцца на сучаснай амэрыканскай глебе, і тэрарыстамі робяцца такія зразумелыя клеркі з офісаў, пекары-аптэкары і развозчыкі піццы. Камікадзэ можа выгадавацца і ў нетрах самай звычайнай амэрыканскай публікі, на глебе зна-



ёмай амэрыканскай мары і амэрыканскае маскультуры, у фантазіі стваральнікаў якой пасажырскія самалёты ўжо не аднойчы таранілі вежы Ўсясьветнага гандлёвага цэнтру.

Цяпер — пра выратаваньне, пра тое, што магло зьмяніць ход падзеяў. Пасьля аўторкавай трагедыі ў Амэрыцы свае парады апублікаваў адзін палкоўнік расейскай ФСБ:

«Аўтобусы, вакзалы, аэрапорты і самалёты — найбольш улюбёныя месцы ў тэрарыстаў. Таму лепей прыязджаць на вакзал ці ў аэрапорт як мага бліжэй да адыходу цягніка, аўтобуса ці да пачатку рэгістрацыі. У аэрапорце трэба як хутчэй прайсьці ўсе фармальнасьці, каб чакаць пасадкі ў адмысловым сэктары, які ахоўваецца. Абіраючы дату падарожжа, супастаўце яе з календаром: ці не прыпадае яна на якое рэлігійнае сьвята, памятную падзею ці гадавіну тэракту. У дарогу апранайцеся непрыкметна, не бярыце з сабой упрыгожаньняў і не дэманструйце рэлігійных знакаў. Лепш ляцець эканомклясай, бо салён першае клясы тэрарысты захопліваюць у першую чаргу і разьмяшчаюць там свой «штаб». У аўтобусе сядайце ў сярэдзіну салёну. У самалёце найбольш небясьпечныя месцы каля праходаў і аварыйных люкаў, праз якія спэцназ пачынае свае апэрацыі дзеля выратаваньня закладнікаў. Галоўная задача — не ўступаць з тэрарыстамі ў кантакты, не супраціўляцца і не выяўляць ініцыятывы. Не глядзіце яму ў вочы, ня скардзіцеся, нічога не патрабуйце, не выказвайце страху і будзьце непрыкметным. Той, хто мітусіцца, загіне першым. Памочнікі тэрары-

стаў могуць быць і сярод пасажыраў, таму ні з кім не размаўляйце. Нічога не даставайце з кішэняў або сумкі. Сядзіце ціха і прышпіліцеся рамянём, бо пры выбуху ў расколіну зацягваюцца ня толькі прадметы, але й людзі».

Натуральна, у жыцьці ўсё адно непазьбежныя адхіленьні ад інструкцыі. Пра тое сьведчаць пасажыры самалёта, які ўрэзаўся ў будынак Пэнтагону. Тэрарысты паведамілі людзям, што перад сьмерцю яны могуць затэлефанаваць сваякам праз мабільную сувязь. З тых званкоў не вынікае — хто такія былі захопнікі. Вядома толькі, што яны былі ўзброеныя нажамі і што сагналі пасажыраў у заднюю частку машыны. І вось там, сярод гэтага натоўпу, у якім кожны, верагодна, імкнуўся выглядаць непрыкметным, апынулася жонка намесьніка міністра юстыцыі ЗША Тэадора Олсана. Былі там таксама супрацоўнікі сэнату, тры школьныя настаўнікі з Вашынгтону. Ня кажучы пра іншых, ужо толькі зь пералічаных можам дапусьціць, што гэта былі людзі, здольныя цьвяроза ацаніць сытуацыю і паспрабаваць нейкім чынам распарадзіцца ўласным лёсам ды паўплываць на лёсы іншых. Усім ім далі загад затэлефанаваць сваякам і паведаміць, што яны зараз памруць.

Барбара Олсан, якая да таго ж была некалі фэдэральным пракурорам і вядомай тэлекамэнтаторкай, затэлефанавала свайму мужу двойчы. Два разы па адной хвіліне. Першы раз яна сказала: «Наш самалёт захоплены». Муж тэрмінова зьвязаўся зь міністэрствам юстыцыі, дзе яму адказалі, што афіцыйным асобам нічога не вядома пра захоп гэтага самалёта. Праз некалькі хвілінаў Барбара зноў зьвязалася з сужэнцам і спытала: «Што я павінна сказаць пілёту?» Гэта былі яе апошнія словы. Высьветлілася, што яна ня мусіла ляцець гэтым рэйсам, бо забранявала квіток на іншы час. Але ў мужа быў дзень нараджэньня, і яна захацела прыляцець раніцай, каб пасьпець пасьнедаць зь ім разам.



Апошні званок сьведчыць, што разумная і відавочна валявая жанчына не зьмірылася зь лёсам і не жадала склаўшы рукі чакаць сьмерці. «Што я павінна сказаць пілёту?» Адказу на гэтае пытаньне мы ня знойдзем у інструкцыях, не знайшоў гэтага адказу і яе муж. Што ён мог сказаць ёй? Хіба словы суцяшэньня? Але гэта ня той выпадак, калі суцяшаюць безнадзейна хворага. Жонка прасіла ў мужа таго слова, якое магло паўплываць на пілёта і зьмяніць ход падзеяў. Верагодна, калі яна пыталася пра гэта, яна мела ўжо нейкую размову з захопнікамі, прынамсі, мела доступ да таго, хто вёў самалёт у сьмерць. Магчыма, яна нават паабяцала ўжо нешта сказаць яму. Вось толькі адзін званок, і адтуль ёй перададуць гэтае самае запаветнае. «Што я павінна сказаць пілёту?»

Мне чамусьці здаецца, што калі б яны былі ісламскімі фундамэнталістамі, дык тут сытуацыя магла б выглядаць прасьцей. Ня ведаю, якім словам спыніць мусульманіна, але дапускаю, што такое слова ёсьць. Вера, якая б фанатычная яна ні была, рэгулюецца словам. У мужа спадарыні Олсан было некалькі хвілінаў,

каб падумаць у гэтым накірунку. «Што я павінна сказаць пілёту?»

А калі гэта не мусульманін? Калі ўчынак тэрарыстаў не афарбаваны ніякімі культурнымі ці культавымі фарбамі? Калі гэта і сапраўды — байцоўскі клюб? Нават тады напачатку ўсяго гэтага ляжала ідэя, задума, выказаная словам. Вось яна і прасіла СЛОВА. Паэтычнага, магічнага, фантастычнага...

«Што я павінна сказаць пілёту?»

Тут усё — ад дзіцячага «чароўнага слова» да талстоўскага «Што я павінен сказаць сьвету?» — ёсьць калясальная вера ў сілу слова, якое здольнае зьмяніць бачаньне ўсяго навокал і адвярнуць трагедыю. Але маўчыць муж на тым баку сувязі. Маўчыць інструкцыя палкоўніка ФСБ. Маўчаць Шэкспір і Дастаеўскі, маўчаць Цыцэрон і Чэрчыль, маўчаць Купала і Колас. Маўчыць наша паважаная цывілізацыя.

Гэтым разам яна прайграла.

Гэтым разам яна прамаўчала.

этэр 28 кастрычніка 2001 г.

## Магіла Каліноўскага

Кожны год на Дзяды мы прыходзім да магілаў продкаў: блізкіх, сваякоў, нацыянальных герояў. Часам месца іх пахаваньня невядомае. Як, да прыкладу, са Скарынам. Тады, ад немагчымасьці наведаць месца апошняга спачыну асьветніка, застаецца ў сэрцы ніякаватае пачуцьцё дакору. Часам мы ведаем месца пахаваньня, але ня ведаем, хто там ляжыць канкрэтна, як, да прыкладу, у Курапатах. А часам мы ведаем імя героя і месца ягонага пахаваньня, але ніхто і ніколі туды ня ходзіць. Яго магіла ўжо даўно сама стала знакам бяспамяцтва. На яе месцы даўно няма ніякага помніка, толькі брук. Агульнапрынятае бяспамяцтва ўсталявалася так даўно і трывала, што ў нас нават не ўзьнікае покліча што-небудзь у гэтай справе зьмяніць. Гэта — амаль як табу. Вось жа ў сёньняшняй перадачы мы разбурым адно такое табу. Гаворка пойдзе пра магілу Кастуся Каліноўскага. Сапраўдную, вядомую, але даўно і трывала забытую. Некалі яна была ўвянчаная мэмарыялам, і сюды ішлі з кветкамі. Пасьля мэмарыял зьнесьлі, і паломніцтва спынілася. Ужо ніхто не прыходзіў на гэтае спустошанае месца ў самым цэнтры старажытнага гораду...



* * *

Пасьля таго, як кіраўнік антырасейскага паўстаньня 26-гадовы Кастусь Каліноўскі быў схоплены на канспіратыўнай кватэры ў Вільні, яго ўвязьнілі ў Дамініканскім кляштары, дзе тады была зробленая турма. Адсюль 10 сакавіка яго прывялі на Лукішкі — знакаміты віленскі пляц. Тут Каліноўскага, як «дзяржаўнага злачынцу», павесілі. Пасьля гэтага цела яго апынулася ў братняй магіле на тэрыторыі вайсковага гарнізону на вядомай усім гары Гедыміна.

У паўстанцкай магілы — свая драматычная

гісторыя. Помнік на ёй то зьяўляўся, то зьнікаў, у залежнасьці ад улады і ідэалёгіі. А ўлады і ідэалёгіі ў Вільні зьмяняліся шмат разоў.

У беларускай літаратуры зьвестак пра магілу Каліноўскага амаль няма. А тыя, што й ёсьць, неканкрэтныя і нібы не зусім абавязковыя.

Згадалася, магчыма, першае сьведчаньне — яшчэ даваеннае. 16 чэрвеня 1939 году Максім Танк робіць у сваім дзёньніку наступны запіс:

«Наведаў сваіх літоўскіх сяброў на Антокалі. Вяртаўся ад іх увечары. Не было куды сьпяшацца. Я ўзышоў на Замкавую гару... Каля магілы паўстанцаў 1863 году — група турыстаў. Пад крыжам — цярновы, зроблены з дрэва, вянок».

Нічога больш канкрэтнага няма і ў спэцыялістаў-гісторыкаў. Генадзь Кісялёў у кнізе «Радаводнае дрэва» з падзагалоўкам «Каліноўскі — эпоха — наступнікі» піша:

«Гісторыкі лічаць, што астанкі Каліноўскага, як і іншых змагароў, павешаных і расстраляных у Вільні ў 1863 годзе, пахаваны на вяршыні гары Гедыміна».

Пры гэтым Генадзь Кісялёў спасылаецца на словы, узятыя з колішняга эсэ пра Вільню Ўладзімера Караткевіча:

«10 сакавіка 1964 году, калі споўнілася сто гадоў, як пакаралі сьмерцю Кастуся Каліноўскага, я яшчэ ў прыцемках прайшоў увесь яго шлях: ад Дамініканскіх муроў да Лукішак, дзе ля сьцен кляштара сьв. Якуба стаяла шыбеніца.

А пасьля таксама пехатою пайшоў на месца, дзе хавалі павешаных (на тэрыторыі тагачаснай цытадэлі), падняўся на гару Гедыміна. Я ня ведаў, дзе там ляжаць яго косьці, але сеў пасядзець і бачыў, як над горадам абуджаецца ранак».



Вось, бадай, і ўсё, што напісана ў нас пра магілу героя.

Працытаваўшы Караткевіча, мушу зрабіць адно істотнае ўдакладненьне. Шыбеніца, на якой павесілі кіраўніка паўстаньня, стаяла не каля сьцен кляштара сьв. Якуба, а роўна на процілеглым баку пляца, паміж будынкамі былога КГБ, дзе цяпер музэй генацыду, і кансэрваторыі. Тут пачынаецца вуліца Ахвярная і стаіць цяпер літоўскі помнічак ахвярам савецкіх рэпрэсіяў. Акурат на месцы помніка і была тая шыбеніца. У міжваенны час тут быў памятны знак з таблічай па-польску — у гонар паўстанцаў 1863 году. Пасьля на плошчы зьявіўся помнік Леніну. Але Ленін ня мог паказваць рукою на месца колішніх мураўёўскіх экзэкуцыяў, і табліцу перанесьлі Леніну за сьпіну, на процілеглы бок пляца, пад кляштар сьвятога Якуба, дзе яе і пабачыў Караткевіч.

Аднак рушым да галоўнага месца нашага сёньняшняга падарожжа.

*Сяргей Харэўскі:*

*Гэтую магілу ў Вільні калісьці добра ведалі ўсе. Так было перад вайною. Манумэнт над пахаваньнем паўстанцаў 1863 году зьбіраў да сябе турыстаў і пілігрымаў. Але сёньня, колькі б мы ні кружлялі па Замкавай гары, ня знойдзем тут ані знаку. Між тым, пахаваньне*

*ёсьць. І старыя віленчукі дакладна паказваюць на ягонае месца.*

*Натуральна, першай справаю я патэлефанаваў у сам Верхні Замак, у музэй, што месьціцца ў знакамітай Гедымінавай вежы. Там чамусьці спужаліся, а пасьля пачалі запэўніваць, што ніякай магілы паўстанцаў на гары быць не магло. І ніхто з супрацоўнікаў музэю нічога нават ня чуў. Але параілі зьвярнуцца да загадчыка гістарычнага аддзелу Нацыянальнага музэю Літоўскай Рэспублікі Тадаса Шэмы. Ягоны кабінэт акурат пад гарою. Спадар Шэма быў надзвычай зьдзіўлены й разгублены. І ён нічога ня ведае. Заставалася кволая надзея, што пра мэмарыял распавядзе найстарэйшы мастацтвазнаўца Літвы спадар Будрыс, які ачольвае Нацыянальны мастацкі музэй. Я ўжо ведаў, што крыж над паўстанцкай магілаю вырабіў адзін з самых значных віленскіх скульптараў пачатку 20 ст. Антон Вівульскі. Аднак і спадар Будрыс катэгарычна аспрэчыў, што на гары была нейкая магіла. Словам, выходзіла так, што агульнавядомы да вайны гарадзкі помнік сёньня не знаёмы нават спэцыялістам. Чаму?*

*Па параду я зьвярнуўся да найбольш аўтарытэтнага ў Літве дасьледчыка паўстаньня Каліноўскага, гісторыка й журналіста Ўладзіслава Бікуліча. Спадар Бікуліч — аўтар манаграфіі «Рэвалюцыйныя арганізацыі ў Беларусі й Літве ў 1863 годзе», а ў 1963-м паводле ягонага сцэнару ў Менску быў зьняты дакумэнтальны фільм «Кастусь Каліноўскі». З размовы са спадаром Бікулічам стала ведама вось што...*



*За часоў паўстаньня 1863 году расейскія акупацыйныя ўлады на чале з графам Мураўёвым баяліся паўтарыць сваю памылку 1839 году, калі яны пасьля экзэкуцыі аддалі цела расстралянага імі паўстанца Сымона Канарскага віленчукам. Магіла Канарскага адразу стала месцам паломніцтва і ўся патанала ў жывых кветках і сьвечках. А зь ягоных кайданоў патрыёты парабілі сабе «чорную біжутэрыю» — калечкі, пярсьцёнкі й бранзалеты.*

*Целы пакараных сьмерцю паўстанцаў 1863 году, у тым ліку Каліноўскага, Сакакоўскага ды іншых, вырашана было хаваць патаемна. Пасьля страты на шыбеніцы іх звозілі на Замкавую гару, дзе тады стаяў расейскі гарнізон. Тут іх і закопвалі пад старадаўнімі мурамі, у братняй магіле. Увесь час магілу вартавалі маскалі, і ніводзін цывільны віленчук цягам паўстагодзьдзя ня меў права туды зайсьці. Больш за тое, расейцы зрабілі на магіле паўстанцаў пляцоўку для гульні ў крыкет, пра што сьведчаць тагачасныя фатаздымкі.*

*Калі ж у 1915 годзе расейцы пакінулі Вільню, дык тутэйшая грамадзкасьць адразу пачала пошук славутае магілы. І праўда, археолягам, сярод якіх, верагодна, быў і Іван Луцкевіч, пашчасьціла знайсьці дакладнае месца пахаваньня. Балазе, жывы быў яшчэ дворнік, што працаваў калісь у расейскім форце на гары. Падчас раскопак былі знойдзеныя людзкія парэшткі, фрагмэнты паўстанцкіх чамарак, спражкі,*

*абутак. Самы выбітны тагачасны віленскі дойлід Антон Півульскі вырабіў велізарны адмысловы крыж, у народным кшталце, зь вялікіх брусоў дрэва. Але неўзабаве расейскіх акупантаў зьмянілі нямецкія. На загад камэнданта Вільні графа Інстэнбурга фон Бэрнштэйна немцы зламалі крыж і закапалі яго тамсама.*

*Калі ж у 1921 годзе Вільня адышла да Польшчы, мэмарыял быў адноўлены. Гэтым разам ён складаўся з крыжоў і прыгожай мармуровай табліцы, на якой былі высечаныя імёны паўстанцаў, якія знайшлі тут свой вечны спачын. Ведама дакладна, што менавіта тут былі пахаваныя, сярод іншых, Кастусь Каліноўскі, Зыгмунт Серакоўскі, Баніслаў Калышка, ксёндз Станіслаў Ішора. Усяго каля пятнацацаці чалавек. Але й гэтаму мэмарыялу выпаў нядоўгі век. Пасьля таго, як Сталін перадаў Вільню Літве, у 1940 годзе крыжы былі спаленыя, а табліца зьнікла бязь сьледу.*

*Тым часам віленчукам гэтая гісторыя яшчэ вярэдзіць сэрцы. Да прыкладу, вось што распавёў мне вядомы віленскі журналіст і літаратар Войцех Пятровіч:*

*— У пэўны час там быў пастаўлены крыж, запраектаваны скульптарам і дойлідам Антонам Вівульскім. Гэта быў драўляны крыж. Я бачыў яго недзе на здымку й на нейкай карціне намаляваным. Гэта быў цікавы разьбяны крыж, складзены зь некалькіх частак, трохі падобны на жмудзка-літоўскія крыжы. Справа ў тым, што сям'я Вівульскіх паходзіць са Жмудзі. Таму й ён меў пэўна сэнтымэнт да жмудзкіх крыжоў і зрабіў той крыж у такім жа кшталце.*



*Спадар Пятровіч, у сваю чаргу, параіў мне зьвярнуцца да вядомага публіцыста Генрыка Сасноўскага, які працуе ў тутэйшай Фундацыі польскай культуры імя Мантвіла. Кажа спадар Сасноўскі:*

*— Крыж той зьнішчылі ў 1940 годзе... Калі польскія археолягі вывучалі тыя магілы, дык знайшлі макасіны Каліноўскага й іншыя розныя парэшткі... І Каліноўскі, і Серакоўскі былі пахаваныя менавіта там. Хоць ад часоў другой сусьветнай вайны там досьледы больш не праводзіліся, але была кніжачка, дзе распавядалася пра тыя знаходкі. Іх пазналі па ботах, гузіках ды іншых рэчах. Крыж Вівульскага быў з дрэва. У мяне ёсьць яшчэ аўтэнтычны здымак Грыгаровіча з выяваю Замкавай гары з тым крыжам. І здымак той табліцы памятнай маю... Перад вайною крыж звалілі, падпалілі... Там цяпер нічога няма. А некалі ж людзі зрабілі там пляцык, у 1923 годзе нават быў маленькі фантанчык, была прыгожая мармуровая табліца з імёнамі пахаваных герояў...*

*Ідэя аднавіць мэмарыял над магілаю паўстанцаў раз-пораз узьнікала па вайне. Быў нават эскіз помніка. Хто ж яго зрабіў? Кажа Ўладзіслаў Бікуліч:*

*— Акадэмік Канстанцінас Богданас. Гэта была ягоная дыплёмная праца, калі ў юнацтве ён скончаў мастацкі інстытут. Я быў ініцыятарам гэтае справы, той-сёй з маладых архівістаў мяне падтрымаў. Але ўлады гэтай справы не падтрымалі. Цяпер гэтая скульп-*

*турная кампазыцыя стаіць у Мастацкім музэі. Я сустракаўся з Богданасам. Ён таксама быў зацікаўлены. Скульптура была зробленая ў вельмі традыцыйным, рамантычным кшталце, у духу Антакольскага. Але не падтрымалі...*

*Уладзіслаў Бікуліч распавёў таксама, што супраць мэмарыялу паўстанцам Каліноўскага на Замкавай гары рэзка запярэчыў Антанас Жугжда, намесьнік прэзыдэнта літоўскай Акадэміі навук, дырэктар інстытуту гісторыі.*

Застаецца сказаць колькі словаў пра тое, чаму на тым месцы няма ані знаку. Паўстаньне 1863 году займае вялікае месца і ў літоўскай, і ў польскай гісторыі — гэтаксама, як і ў беларускай. Аднак кожны тут дбае пра сваё. У братняй магіле, дзе ляжыць Каліноўскі, нібыта няма этнічных літоўцаў. Для палякаў гэтыя людзі таксама не зусім свае. Цэльнасьць іхнае пальшчызны разбураюць ідэалы ўніяцтва, беларушчыны і сэпаратызму ў дачыненьні да Польскага каралеўства, якія адстойвалі палеглыя. Таму гэта чыста беларуская магіла.

У літоўскіх гісторыкаў памяць выбарачная, што зусім зразумела, калі ведаеш абраны імі мэтад. Літоўцы не спрачаюцца пра тое, быць Літве ці ня быць. Яны не займаюцца нацыянальным заняпадам і адраджэньнем. Для іх Літва ёсьць, і яна вечная, а таму трэба рабіць яе ўсё больш моцнай, надзейнай і адназначнай. Так нараджаецца міт краіны. Усё лішняе прыбіраецца. Застаецца «чысьціня жанру».



Адна толькі прысутнасьць у Вільні шыльды Скарыны вымагае ад літоўскіх гісторыкаў зашмат тлумачэньняў — што ён тут робіць. Не хапала яшчэ магілы беларускага нацыянальнага героя — ды дзе? — у сэрцы Вільні, на Гедымінавай гары. Адкуль гэта ўсё ў літоўскай сталіцы? — задзівіцца турыст. Доўгія тлумачэньні падаюцца непатрэбным марнаваньнем часу.

Беларускія гісторыкі маюць цалкам адваротны мэтад. Як і самі беларусы, што спрачаюцца пра будучыню Беларусі, занепадаюць, як нацыя, і адраджаюцца. Нашы гісторыкі абсалютызуюць факты. У выніку акцэнты аказваюцца зблытанымі, а магілы — забытымі.

Аднак, цяпер гутарка пра іншае.

Кім мусіць быць запатрабаваная магіла Каліноўскага? Пытаньне рытарычнае. Мне думаецца, што не рытарычна яно сотні разоў гучыць па ўсёй Беларусі на ўроках гісторыі, калі пасьля захапляльнага і страшнаватага расповеду настаўніка пра сьмерць галоўнага беларускага паўстанца або на ўроках літаратуры — пасьля чытаньня шматлікіх твораў пра Каліноўскага, вучань пытаецца ў настаўніка — а дзе пахаваны адважны змагар? У сёньняшняй перадачы мы адказалі на гэтае пытаньне.

этэр 18 лістапада 2001 г.

## Кен Кізі

Калі тыдзень таму паведамілі пра сьмерць амэрыканскага пісьменьніка Кена Кізі, я зразумеў, што прысьвячу ягонай памяці «Вострую Браму» і нарэшце дабяруся да таго, што ніяк не давалася ў папярэдніх перадачах пра Гершвіна, Голдынга або Сэлінджэра.

Амэрыканская ці — шырэй — сучасная заходняя культура ў Беларусі мае зусім іншае прачытаньне, чымся ў Амэрыцы. У нас янаператвараецца ў нешта цалкам адметнае, інакш уплывае, інакш нараджаецца і зьнікае. Мы гартаем тыя самыя кнігі, слухаем тую самую музыку, глядзім тыя самыя фільмы, але пры тым прачытваем, бачым, чуем зусім ня тое, што нашы сучасьнікі на Захадзе. Акурат Кен Кізі і падказвае гэткую выснову: часам мы нават большыя амэрыканцы, чым самі амэрыканцы. (Недафармаваныя, недаакрэсьленыя нацыянальна, мы ў прынцыпе «большыя», чым хто.) Бо тое, што там праходзіць у патоку шоў-бізнэсу, тут часьцяком пакідае ў душы пажыцьцёвы адбітак.

Нарадзіўся Кен Кізі 17 верасьня. Праўда, беларускі народ тады яшчэ ня ведаў, што будзе адзначаць гэты дзень, як адно з найвялікшых сваіх нацыянальных сьвятаў. Да ўзьяднаньня Заходняй і Ўсходняй Беларусі заставалася чатыры гады. Калі маленькі Кен пачне выяўляць цікавасьць да кніжак, па ўсёй Беларусі назавуць вуліцы днём ягонага нараджэньня. На



тых вуліцах некалі зьявяцца так званыя гіпары — апалягеты поўнае свабоды, рок-н-ролу і вольнага каханьня. Кізі будзе аб'яжджаць амэрыканскія правінцыі на сваім аўтобусе, а дзенебудзь у Полацку Вінцэсь Мудроў будзе зачытвацца ягоным раманам. Гэты аброслы патлямі дзяцюк яшчэ ня ведае, што стане ці ня самым акрэсьленым гіпі ў беларускай літаратуры, які апіша сваю бітнікаўскую маладосьць самымі сьветлымі зыкамі роднае мовы...

*Вінцэсь Мудроў:*

*«Простым паваротам рэгулятара на стальных дзьвярах старэйшая сястра можа пускаць насьценны гадзіньнік з такою хуткасьцю, як ёй трэба: заманулася ёй паскорыць жыцьцё, яна пускае яго хутчэй, і стрэлкі круцяцца на цыфэрбляце, як сьпіцы ў коле».*

*Прывёў гэтую цытату зь «Зязюльчынага гнязда» дзеля ілюстрацыі ўласных пачуцьцяў. Пасьля сарака неяк асабліва гостра адчуваеш плынь часу: валадар хронасу безразважна круціць рэгулятар, час ляціць, і ўсё, што хвалявала калісь сэрца і розум, незваротна патанае ў шэрым калейдаскопе дзён. Але што дзіўна: тыя два золкія верасьнёўскія дні, калі я, паваліўшыся на тапчан і паклаўшы на грудзіну тры сшыткі «Нового мира», чытаў раман Кізі «Над зязюльчыным гняздом», запомніліся да драбностак. Было гэта ў 1987 годзе, у таёжным цюменскім пасёлку, за сотні кілямэтраў ад цывілізацыі; знадворку сьпяваў віскуцень, па даху вагончыка, у якім я жыў, ляскатала адарваная бляха, а па мокрай шыбе*

*паўзла, спрабуючы выбрацца на сухое, самотная мушка.*

*«Уяві сабе, — казаў герой раману індзейцу Бромдэну, — Вялікі Правадыр Бромдэн ідзе па бульвары — мужчыны, жанчыны і дзеці задзіраюць галовы і глядзяць на яго», — я чытаў гэтыя радкі і ўяўляў, як мы, тры маладыя хлопцы, ішлі ў верасьні 70-га па наваполацкай вуліцы: басанож, у падзертых капелюшах, у кашулях, расфарбаваных анілінавымі фарбавальнікамі ня горай ад таго аўтобуса, на якім Кен Кізі выпраўляўся ў свае вандроўкі, і мужчыны, жанчыны і дзеці задзіралі галовы й глядзелі на нас. Як і героі знакамітага раману, мы бунтавалі. Дзяржава, у якой мы жылі, давала сваім грамадзянам мінімум даброцьцяў: малагабарытную двухпакаёўку, сьціплую еміну, нейкую вопратку — той жа балёневы плашч на плечы. Мы праглі большага, нам было цесна ў савецкім малагабарытным загоне. Нам хацелася слухаць «Бітлз» і «Ролінгаў», чытаць Кізі і Бёрджэса, насіць на худых азадках «левісаўскі» лэйбл, мы марылі наведаць Лівэрпуль і фэст у Вудстаку, а яшчэ мы праглі, узьбіўшыся на званіцу сваёй недасяжнай мары, дыхнуць на поўную грудзіну і плюнуць на ленінскі камсамол. Дакладней, на прылізаных камсамольскіх важакоў, якія ў тыя далёкія 70-я гады спрабавалі нас выхоўваць.*

*Надарылася тое, што і павінна было надарыцца. Мушка, якая завіхалася на мокрым шкле, так і ня выбралася на свой мацярык, вязень псыхушкі Макмёрфі — герой «Зязюльчынага гнязда» — зазнаў паразу, бунтар Кен Кізі*



*ўрэшце махнуў на ўсё рукой і зьехаў у Арэгон, дзе стаў вырошчваць сэльдэрэй і арцішокі, а былыя камсамольскія работнікі, збольшага вясковыя мальцы, сталіся ў Беларусі гаспадарамі жыцьця. Сёньня ў гэтых калгасьнічкаў, якія з маладых дзён ведалі, што дзе казаць і куды лізнуць, якія зроду ня слухалі «Ролінгаў» і не чыталі Кена Кізі, усё схоплена. І я дзячу Богу, што яны яшчэ не схапілі нас, былых кізістаў: людзей, якіх на золку жыцьця наведаў бунтарскі дух.*

*Чытаючы жыцьцяпіс бітніка прыгожага пісьменства, міжволі шукаеш раўналежнікаў паміж колішнімі сваімі інтэнцыямі і жыцьцёвай філязофіяй Кена Кізі. На жаль, а можа, і на шчасьце, мы, тады яшчэ наіўныя падлеткі, ня мелі магчымасьці прачытаць ягоных раманаў, і закладзеная ў іх філязофія ня сталася этыкетам нашых паводзінаў. І ўсё ж мы маем права назваць сябе кізістамі, ці, лепш сказаць, кізікамі. І хай гэты наватвор ня надта лагодзіць слых, але затое ён напоўніцу адпавядае маладзёвай эстэтыцы 1970-х. Пасьля невялічкай паўзы заўважым: не прайшлі міма нас і наркотыкі. Ну, вядома, гэта быў не гераін, і ня «Lucy in the Sky with Diamonds», а нейкая брыда, якую прывозіў з грузінскага Руставі адзін мой знаёмы па мянушцы Жыган.*

*У папулярныя сярод савецкага афіцэрства папяросы «Казбек» замест тытуню была напханая калянная трава, ад якой, як казаў Жыган, можна было заляцець на аблокі. Па сьведчаньні знаёмца, травой гэтай забаўляўся сам Пол Макартні, і такі аргумэнт прымусіў з*

*понтам, як тады казалі, стукнуць папяросінай па пачку і шчоўкнуць запальніцай. Нічога не адчуўшы, я высмаліў яшчэ пару папяросін, а потым цэлую гадзіну ванітаваў у прыбіральні, дарэшты ўсьвядоміўшы, што чалавечае сталеньне складаецца ня толькі з душэўных парываньняў, але і з памылак.*

*Раман, пра які тут гаворка, зьявіўся сьвету ў 1962 годзе. Цікавы быў час: на парыскай сцэне сьпяваў пра апалае лісьце Іў Мантан, за акіянам пачынаў брынкаць на гітары Піт Сыгер, а на нябачным з-за шчыльнага ідэалягічнага туману Альбіёне ўжо гучаў дуэт Джона і Пола. Раман «Над зязюльчыным гняздом» стаў прадвесьцем цэлай эпохі — зь яе бітнікамі, гіпі, антываеннымі дэманстрацыямі, барыкадамі ў Лацінскім квартале і гіпнатычнымі зонгамі Джыма Морысана. Скончылася тая бурная эпоха напачатку 1970-х, акурат тым часам, калі моладзь захапілася іншай эстэтыкай і іншым бэстсэлерам: аповесьцю Эрыка Сыгала «Love Story». І гэта дае магчымасьць сьцьвярджаць, што рэпэрнымі пунктамі гісторыі зьяўляюцца не рэвалюцыі, а кнігі.*

*Пісьменьнік Кізі ўважаў акаляючы сьвет задужа прагматычным, сур'ёзным і хцівым, а таму й непрымальным для сябе. Пісьменьнік ня толькі творчасьцю, але й эксцэнтрычнымі паводзінамі змагаўся з усясьветным прагматызмам, сур'ёзнасьцю і хцівасьцю. І, як Ільіч аб ста тысячах трактараў, марыў аб ста тысячах размаляваных школьных аўтобусах.*

*Сьмерць Кізі ня выклікала патэтыкі. Пабачыўшы на тэлеэкранах партрэт свайго колішняга куміра, сівагаловыя амэрыканцы, ангельцы і французы сумна пасьміхнуліся, згадаўшы паношаныя джынсы, дэманстрацыі на 5-й авэню і саладжавы пах марыхуаны. Дзея ў Марксавай парадыгме: чалавецтва весела разьвітваецца з сваім мінулым.*



*Апошнім часам мне здаецца, што там, на другім баку сусьвету, душа — хай і на кароткі час — стрэнецца з душамі іншых людзей. Я паспрабаваў пералічыць тых, з кім хацеў бы стрэцца. Такіх людзей аказалася няшмат: дзьве блізкія мне жанчыны, Максім Багдановіч, Джон Ленан, і вось сёньня далучыў да сьпісу Кена Кізі.*

*Так што, уздыхнуўшы і падвысіўшы голас, скажам: — Bye-bye, mister Kesey... І да сустрэчы.*

У 60-я гады Кен Кізі езьдзіў па Амэрыцы на сваім аўтобусе і прапагандаваў наркотыкі. З гэтых падарожжаў вырасла цэлая культура. Чым ня роля для сучаснага інтэлігента? Хто сказаў, што творца на Захадзе — гэта ўсяго толькі прафэсіянал, а не прарок. Гэтаксама, як і кожны прарок, ён адрынуты правільнай публікай і горача вітаны носьбітамі альтэрнатыўных каштоўнасьцяў. Прапагандысты апэльсінавага соку, разьведзенага з кіслатою, былі сапраўднымі аднадумцамі. У іхным аўтобусе стварыўся культавы рок-гурт *Grateful Dead*, першая група так званага кіслотнага року. Пазьней на гэтую плынь адгукнуцца і «Бітлз», і Джымі Гэндрыкс, і Джэніс Джоплін, плынь

будзе названая музыкай «абуджанае сьвядомасьці». Чым ня тэрмін з гісторыі беларускага адраджэньня? Вынікам аўтобусных падарожжаў стала тое, што ЛСД у ЗША пакаштавалі два мільёны чалавек. Сёньня гэты наркотык забаронены ва ўсіх амэрыканскіх штатах.

У дапушчэньні пра тое, што час зязюльчынага гнязда для нас яшчэ наперадзе, ёсьць рацыя. Рэч у тым, што сымболіка свабоды ў творах Кізі для заходняга чалавека мае агульнагуманістычны сэнс. Вар'яты — гэта зусім не вар'яты, а *іншыя* людзі. Асаблівая ўвага надаецца творчасьці *іншых*. Таму рэвалюцыя, паводле Кізі, ёсьць вызваленьнем гэткага чалавечага патэнцыялу так званых ненармальных, распараджацца якім так званыя нармальныя ня маюць маральнага права. Зусім па-іншаму ўсё гэта выглядае ў нас. Сымболіка свабоды набывае тут сацыяльнае і нацыянальнае гучаньне. Вось чаму раман Кізі ў савецкія часы ўспрымаўся, як прадвесьне пераменаў. Вось чаму сёньня ён успрымаецца ледзьве не як дапаможнік у паліталёгіі. Згадайце, колькі ў нас пішацца пра сьвядомасьць народу альбо электарату, пра тое, што нашы людзі самі ня хочуць свабоды і незалежнасьці і не разумеюць гэткіх перавагаў. Мэтафара настолькі яркая, што асьляпляе.

Кен Кізі паражыў многіх сваіх сяброў-бітнікаў. Сам ён аказаўся творцам культуры, у сьпісе аўтараў якой Джэк Керуак, Уільям Бэроўз, Ален Гінзбэрг. Пачынальнік бітніцтва Керуак пісаў:

«Трэба, каб сьвет запоўнілі вандроўнікі з пляцакамі, якія адмаўляюцца падпарадкоўвацца ўсеагульнай вымозе спажываньня прадукцыі, паводле якой людзі павінны працаваць дзеля прывілею спажываць усю гэтую лухту, якая ім насамрэч зусім непатрэбная. Перад мною ўстае мроя пляцаковае рэвалюцыі, тысячы і нават мільёны маладых амэрыканцаў падарожнічаюць з пляцакамі за сьпінай, караскаюцца на горы, пішуць вершы, якія прыходзяць ім у галаву, бо яны добрыя, і, робячы дзіўныя ўчынкі, яны падтрымліваюць адчуваньне вечнай свабоды ў кожнага, ва ўсіх жывых істотаў...»

Джэк Керуак, 1945 год. Самы пачатак руху гіпі. Мы чытаем такое па-свойму. Чым не Багушэвіч са сваім «хай жа ўсе, усе хто можа, возьмуць свой кіёк дарожны» і адпраўяцца — у сьвяты паход. Чым ня нашы адраджэнцы ўсіх без выключэньня плыняў, для якіх падарожжа было заўсёды галоўным спосабам існаваньня. А мы ж і ня ведалі, што з падарожжа пачаўся рух гіпі. Вандруючы то ў Зэльву да Ларысы Геніюш, то ў Мір да замку, то ў Полацак, то на Палесьсе ў фальклёрныя экспэдыцыі, мы й ня ведалі, што такім чынам «гіпуем». Вы скажаце, што гэта ўсё было іншае. Ня ведаю. З вонкавых прыкметаў нічога не адрозьнівалася. І музыку мы слухалі тую самую. Проста выгляд і значэньне гэтых вандровак у нашай сытуацыі былі нібыта свае. Але зноў жа — нібыта.

Кен Кізі рана разьвітаўся зь літаратурай. У адрозьненьне ад многіх сваіх сяброў, што не вярнуліся з наркатычнага фронту, ён пераадолеў залежнасьць і стаў вырошчваць гародніну на фэрме. Сваёй сапраўднай вынаходкай ён

лічыў ня прозу, а той самы размаляваны школьны аўтобус, які езьдзіць па сьвеце, сымбалізуючы свабоду і супрацiў няшчырасьці закасьцянелых грамадзкіх прынятасьцяў. Тыдзень таму Кізі ня стала. Але ягоны аўтобус, бадай, будзе працягваць сваё падарожжа, бо ягоная місія ня скончыцца ніколі і нідзе.

этэр 9 сьнежня 2001 г.

## Дзіцячыя хаўтуры

У сёньняшніх рэпартажах з Курапатаў чырвонай ніткай праходзіць адна характэрная і загадкавая тэма: чаму іх, гэта значыць, абаронцаў магіл, так мала? Жменька маладых людзей у намётах дзень і ноч пільнуюць, каб будаўнікі не парушылі сьвятога месца. А дзе тысячы іншых? Чаму іх няма? Нават тых, хто дэкляруе сваю далучанасьць да абароны Курапатаў? Найбольш дапытлівыя і крытычна настроеныя камэнтатары кажуць пра ляноту сэрца, стому душы або нерэлігійнасьць публікі, савецкую звычку не высоўвацца. Праўда, прыходзілі ж некалі ў Курапаты дзясяткі тысяч — за савецкім яшчэ часам. Супрацьстаялі міліцыі з дубінкамі і газам. Значыць, няма тут спадчыны, а ёсьць зьява апошніх гадоў, менавіта — страта эмоцыяў. Гучыць даволі агульна, між тым, вынікі зусім канкрэтныя.

Дапускаю, што сёньняшняя безэмацыйнасьць выкліканая сацыяльнай і нацыянальнай апатыяй, аднак прырода яе — рудымэнтарная. Гэта — як здранцьвеньне перад безвыходнасьцю, альбо як псыхічны стан першабытнага чалавека, які яшчэ ня зьведаў эмоцыяў. І там, дзе ў цывілізаванага чалавека выяўляецца глыбокая скруха або шчырая радасьць, у гэтага — цёмная пустата.



Рудымэнтарная прырода безэмацыйнасьці лёгка прасочваецца і вяртае сучаснага беларуса ў псыхалягічны стан на мяжы каменнага і бронзавага веку альбо аўстралійскіх абарыгенаў. Нездарма бездухоўнасьць параўноўваюць са зьдзічэньнем. Вось жа зьдзічэньне — гэта зусім не жаданьне забіваць, руйнаваць, паліць і рэзаць або, скажам, мацюкацца. Сапраўднае зьдзічэньне — гэта страта эмоцыяў.

Менавіта такую падказку дае нам этнаграфічнае адкрыцьцё, зробленае нядаўна мастаком і этнографам Дзянісам Раманюком. Гэта ўнікальны абрад дзіцячых хаўтураў — калі дзеці хаваюць дзяцей — які датрываў у Беларусі амаль да нашых дзён.

Калі беларусы страцілі эмоцыі? Адам Багдановіч у сваіх «Перажытках старадаўняга сьветабачаньня» напрыканцы пазамінулага стагодзьдзя кажа пра наступствы надзвычай цяжкага прыгону. Можна дадаць да гэтага ня раз гвалтам зьмененае веравызнаньне, палянізацыю з русіфікацыяй, натуральна, войны. Усё гэта раз за разам вяртала нацыю ў яе дзіцячы стан; дзіцячы, у сэнсе, неразьвіты, дагістарычны, той, адкуль паходзяць многія беларускі абрады, у тым ліку і вось гэты — дзіцячыя хаўтуры — ці то гульня, ці то поўны змрок па-

ходжаньня. Заўважу адразу, што зафіксаваны абрад на поўначы Беларусі, таму мы зрабілі спробу пашукаць яго карані ў балцкай перадгісторыі. Аднак літоўскія культуролягі, зь якімі давялося гаварыць, нічога гэткага ў сваёй спадчыне ня ведаюць.

Каб разабрацца ў сутнасьці абраду, пачнем гаворку зь дзіцячае гульні ў пахаваньне. Ці гульня гэта, і што яна можа значыць?

*Сяргей Харэўскі:*

*Беларускія дзеці здаўна гуляюць у пахаваньне. Памятаю, маці распавядала, як яна зь сяброўкамі, яшчэ зусім малыя, хавалі лялькі ў садзе. Рабілі трунку, клалі туды розныя фанцікі, карункі й закопвалі. А аднаго разу, падгледзеўшы ў дарослых, паклалі ў такое лялечнае пахаваньне грошы, якія ўзялі ў бацькоў. У паваенныя нішчымныя гады гэта была сур'ёзная правіна. Дзеці плакалі, а бацькі перакопвалі сад у пошуках тых пахаваных грошай. Малым я зь сёстрамі таксама гуляў у гэтую гульню. Ды й сёньняшнія дзеці ладзяць сваім лялькам хаўтуры.*

*Мёртвых зазвычай любяць болей за жывых. І таму дзіцячая гульня ў пахаваньне ўласных цацак ёсьць праявай фэтышызму, дзе хочацца даставіць сабе салодкую пакуту ад страты адухоўленага ўжо прадмета. Па сутнасьці, дзеці заўсёды гуляюць у дарослых.*

*У разьвітых культурах такія ролевыя гульні ў лекараў і лётчыкаў, у краму й цырульню, у мамаў і ў вайскоўцаў, а таксама ў пахаваньне капіююць тыя галіны жыцьця дарослых, у якіх дзеці яшчэ ня могуць браць самастойнага ўдзелу. Разам з тым, яны абіраюць найбольш цікавыя й эмацыйна насычаныя бакі жыцьця. Пахавальны абрад і ёсьць менавіта з тых сфэраў, дзе драматызм пачуцьцяў спалучаны з рознымі рытуаламі. Беларускія дзеці, як і іншыя дзеці Эўропы, гуляюцца ў сьмерць. Розьніца ў тым, што эўрапейскіх дзяцей за такія гульні паўсюдна караюць. А ў фінскамоўных народаў гэта наагул лічыцца вельмі кепскім знакам, што можа прынесьці бяду сям'і, пагатоў, калі дзеці гуляліся ў пахаваньне каля дому ці на сапраўдных могілках.*



З уласнага дзяцінства згадваю падобны досьвед. Толькі ў мяне была ня лялька, а голуб. Гадоў у пяць на мазырскай гары мне напаткаўся мёртвы шызы голуб. Я паклаў яго ў маленькі стары чамаданчык — тады такія называліся «баннымі» — і ахоўваў свой скарб ад дарослых. Верагодна, я імкнуўся схаваць сьмерць — незразумелую і таямнічую. Але сьмерць не ўспрымалася эмацыйна. Гэта быў першы набытак, скарб, штосьці важнае, каштоўнае і прытым маё. Магчыма, тут прысутнічаў і яшчэ адзін матыў — схаваць голуба найперш ад сябе. Навязьлівае імкненьне закапаць чамаданчык цяпер асацыюецца ў мяне з закапваньнем пупавіны або з тым, як дзіця імкнецца далёка схаваць сваю дунду. Памяць пра паходжаньне яшчэ жывая ў душы, тады як розум спакваля напаўняецца іншым досьведам іншага, гэтага сьвету. Вось тую памяць, досьвед таго, адкуль

прыйшоў і куды некалі сыдзеш, і трэба было хаваць.

Добра запомнілася менавіта безэмацыйнасьць таго сьвету, пра які была тая памяць, што сьвярбела схаваць ад іншых.

Так спакваля я наблізіўся да адкрыцьця, зь якога пачаў сёньняшнюю гаворку. Дзяніс Раманюк — мастак і сын заўчасна памерлага этнографа Міхася Раманюка — выдаў бацькаў альбом «Беларускія народныя крыжы». Збор зьвестак пра беларускі пахавальны абрад, які бацька вёў праз усё жыцьцё, цяпер працягвае сын. Аказваецца, што ў гэтай справе можна напаткаць яшчэ шмат невядомых або забытых сьведчаньняў.

Этнаграфічныя адкрыцьці прыходзяць выпадкова. Дзяніс бясконца езьдзіць па Беларусі, зварочвае з асфальту на гравейку і ўважліва азіраецца па баках…

*Дзяніс Раманюк:*

*Зьвярнуўшы з асфальту на гравейку, я стаў уважліва азірацца па баках. Справа былі бачныя стрэхі вёскі. Каб не пятляць зноў, я спыніўся каля сьвежых разораў і пайшоў да дзьвюх жанчын, што выбіралі бульбу. Аказалася, я зусім блізка да мэты, таму зараз жа пачаў свае роспыты. «Ці праўда, што раней у гэтых краях былі асобныя дзіцячыя могілкі?» Жанчыны адставілі поўныя кашы…*

*— Магілачкі такія даўнейшыя. Гэта ўжо даўно было…*

*— А чаму дзяцей так вось асобна ад іншых хавалі?*



*— Знаеце, як… Узрослых везьлі да касьцёла, мша была, ксёндз хаваў. А дзеці, значыць, яны нягрэшныя, яны маленькія дзеці, за іх імша не адпраўлялася. Дык вот, бралі дзяўчаты, бальшынство дзяўчаты, на ручнікі і несьлі трунку. Чацьвёра. На адзін ручнік дзьве дзяўчаты, і тутака двёх. І панесьлі хаваць туды. Ну, а ўперадзе ідуць чалавек чатырох-трох і сьпяваюць сьвятыя песьні.*

*— І менавіта дзяўчынкі несьлі? Ці маці несла?*

*— Не, маці — не. І ня бабы старыя. Дажэ і маладыя жанчыны-то ня несьлі. Толькі во дзеткі. Памерлых так да году, год-два. Больш — ужо не. Калі болей, дык ужо везьлі туды, далёка. А гэтых маленькіх тутака хавалі. Дык дзяўчаткі, якія ў шосты клас ходзяць ці ў сёмы, во такія дзеткі несьлі… Як хлопчыка, дык хлопчыкі нясуць…*

*У маім уяўленьні на панараме пыльнай дарогі побач са мною вымалёўвалася групка дзяўчынак у белых строях. Яны павольна рухаліся ў прасторы ў чырвані промняў восеньскага сонца пад гукі ціхай памінальнай песьні. Набліжаная праекцыя дала магчымасьць разгледзець, што іхныя дзіцячыя рукі моцна трымаюць бялюткія ручнікі, на якіх, як на арэлях, гайдаецца маленькая труна…*

*Абшукаўшы ўсё ўздоўж і ўпоперак, я зь цяжкасьцю знайшоў два крыжыкі, што захаваліся да сёньня. Ад аднаго застаўся толькі вэртыкальны слуп і кавалак плоту вакол. Другі ж быў нядрэнна дагледжаны, што сьведчыла пра існаваньне чалавека, які быў удзельнікам таго*

*спэцыфічнага пахаваньня. Агульны ж стан таго, што магло называцца калісь могілкамі, засмучаў. Відавочна, што неўзабаве яны зьнікнуць у гісторыі. Хіба, можа, падбае пра іх мясцовы сьвятар.*

Дзяніс Раманюк распавёў пра сваё адкрыцьцё «ў першым набліжэньні». Як вы заўважылі, адбылося яно, калі ў вёсцы капалі бульбу. З таго часу Дзяніс колькі разоў наведваўся ў тыя мясьціны і прывозіў новыя факты і ўдакладненьні. Адна кабета — з суседняе вёскі — распавяла, што дзіцячыя пахаваньні ладзіліся яшчэ ў 1960-я гады і што толькі на яе памяці такіх было тры дзясяткі. А пачалася традыцыя ў пракаветныя часы. На самых дзіцячых могілках ледзьве ўгадваюцца ня больш за 10 магілак. Яны безыменныя. Простая арытмэтыка дазволіла Дзянісу сьцьвярджаць, што хавалі тут адно на адно, і што ляжаць на гэтым лапіку зямлі парэшткі соцень дзяцей.

Іх не адпявалі, не рабілі памінальнай вячэры, не прыходзілі сюды на дзявяты дзень. Старыя кабеты тлумачаць, што гэта ж дзеткі, яны як анёлкі, во і паляцелі. Зьвярніце ўвагу — у гэтым параўнаньні з анёлкамі гучыць не матыў замілаваньня або шкадаваньня. Дзеці — такія ж бескарысныя, як і анёлкі, таму яны самі сваіх і хавалі. Хлопчыкі несьлі хлопчыкаў, а дзяўчынкі — дзяўчынак. Дарослыя нібыта і не спрычыняліся да тых хаўтураў. Падкрэсьлю, што зьява гэта чыста беларуская і аналягаў ёй, як, зрэшты, і нашай безэмацыйнасьці, няма ў суседніх культурах. Аналёгіі знаходзім на мяжы жалезнага і бронзавага веку, альбо ў тых плямёнаў, якія ўсё яшчэ жывуць у першабытным стане.



*Сяргей Харэўскі:*

*Па-іншаму глядзяць на гульні ў архаічных супольнасьцях. Там гульня для дзяцей — прыцягваньне іх да працоўнае дзейнасьці. Яны рана сталеюць і становяцца самастойнымі. З-за таго ролевых дзіцячых гульняў у народаў, што вядуць першабытны лад жыцьця, няма. Малыя індзейцы, папуасы ці аўстралійцы бяруць удзел у паляваньнях, шукаюць пладоў, удзельнічаюць у рэлігійных і пахавальных цырымоніях. Дзіцячы й дарослы сьвет для іх непадзельны. Адзіным табу для дзяцей, да часу іхнае ініцыяцыі, ёсьць удзел у мужчынскіх таварыствах і, натуральна, сэксуальнае жыцьцё, хоць яно ня ёсьць для іх таямніцаю.*

*Дзіцячы й дарослы сьветы разыходзяцца разам з паглыбленьнем падзелу працы і ўсталяваньнем клясычнага патрыярхату. Месца чалавека, малога ці старога, найпрост залежыць ад ягонае вартасьці як працаўніка. У гэтым сэнсе немаўля ці нямоглы стары — ня вартыя вялікае ўвагі.*

*Сьведчаньняў пра адмысловыя дзіцячыя пахавальныя цырымоніі, то бок, калі дзеці насамрэч хаваюць дзяцей, вельмі мала. Гэткія абрады былі ў плямёнаў квакіютль і тлінкітаў у Брытанскай Калюмбіі, у індзейцаў піма й папага ў Каліфорніі, у горнага народу яо ў Лаосе, у некаторых народаў Цэнтральнае Афрыкі. Словам, у найбольш архаічных культурах. Ра-*

*зам з тым, гэта народы з разьвітай касмалёгіяй, рэлігіяй, рамёствамі. Абыякавасьць жа да самых малых ёсьць адлюстраваньнем таго погляду, што яны, малыя, не прыносяць карысьці, рэальнага плёну працы. І, адпаведна, малымі мусяць займацца малыя. Але гэта наўпрост пярэчыць хрысьціянскай маралі. Бо дзіця мае душу яшчэ ў матчыным улоньні. Падобны звычай існаваў і ў Францыі, праўда, у 13-м стагодзьдзі. Сьвятар-дамініканін Эцьен Бурбонскі пісаў, што ў ваколіцах Ліёну, у мясцовасьці Навіль, існуе гай, куды сялянскія дзеці носяць хаваць немаўлятаў ці памерлых ад хваробаў дзяцей. Да таго ж па дрэвах яны разьвешвалі іхныя пялюшкі. Гэты звычай выклікаў абурэньне ў каталіцкага сьвятара. Ён перакanaў тамтэйшых земляўласьнікаў сьсекчы гай і спаліць дрэвы на тых нячыстых, на ягоную думку, магілах.*

*Можна меркаваць, што на мяжы нэаліту й бронзавага веку гэткія абрады йснавалі паўсюдна ў сьвеце.*

Словам, беларускія дзіцячыя пахаваньні нельга разглядаць, як гульню. Тут больш дарэчы сацыяльнае вымярэньне, калі дзеці выступалі ў ролі пэўнае сацыяльнае групы. Неработнікі. Нясталыя — тыя, што яшчэ ня сталі.

Могуць быць і іншыя паралелі. Прычым, неабавязкова такія самыя паводле абраду. Скажам, у Тыбэце бутанцы пакідалі целы памерлых дзяцей на корм птушкам. А старажытныя скіфы хавалі сваіх герояў, расчляняючы іх, каб тыя не маглі вярнуцца ў сьвет жывых. Такіх



прыкладаў мноства, і сьведчаць яны ўсё пра тое ж неэмацыйнае стаўленьне да сьмерці, пра погляд туды — у спракавецьце, дзе не было яшчэ чалавека радаснага і скрушнага, а быў надта падобны да жывёлаў і яшчэ неаддзельны ад іншага жывёльнага сьвету.

Дзіцячыя хаўтуры ў Беларусі — чым не мэтафара 20-га стагодзьдзя, якое стала найвялікшым выпрабаваньнем людзей на дзікунства і безэмацыйнасьць. Цэлае стагодзьдзе зьдзяцінелае чалавецтва хавала свайго мёртвага голуба, зрабіўшы яго вобразам міру пасярод бясконцых вынішчальных войнаў. Курт Вонэгут піша пра Крыжовы паход дзяцей, Алесь Адамовіч згадвае дзіцячы фашызм, Уільям Голдынг распавядае пра выспу, населеную хлопчыкамі, у рамане «Валадар мух»...

Разважаючы пра дзіцячыя пахаваньні, я спрабаваў вырашыць адну праблему — што гэта? Чысты рудымэнт дзікунства ў закінутай беларускай вёсцы, ці знак адкату, характэрны для той чалавечай супольнасьці, да якой мы сябе залучае? Абодва варыянты адказу апраўданыя. Па-першае, гаворка ідзе зусім не пра адну і зусім не пра закінутую вёску, а пра самую што ні ёсьць магістральную беларускую тэрыторыю. Днямі стала вядома, што і яшчэ сям-там такая практыка мела месца да нядаўняга часу. Па-другое, усё мінулае стагодзьдзе на нашай зямлі толькі й займалася тым, што руйнавала знакі і сымбалі веры хрысьціянства і культуры. А менавіта яны адказваюць у людзтве за эмоцыі.

Зрэшты, гістарычна ў нас гэты адкат у пер-

шабытную сьведамасьць пачаўся, відаць, пасьля паўстаньня Касьцюшкі і далучэньня Беларусі да Расеі. Усе лепшыя, арыстакраты духу, выехалі або былі забітыя. Далей зь імі, арыстакратамі, гісторыя гэтая бясконца паўтаралася. А народ... Аблівалі памыямі магілы паўстанцаў Каліноўскага, напроч забылі пра масавыя пахаваньні часоў першай сусьветнай. Неактуальна.

Пра безэмацыйнасьць сьведчаць і сталінскія катаваньні, і расстрэлы, і Курапаты — па ўсёй беларускай зямлі безьліч масавых — адно на адно — і прытым безыменных пахаваньняў. Расстрэлы паэтаў у 1937-м. Урэшце, і сёньняшні наезд на тыя магілы з рацыянальнымі вытлумачэньнямі пра кальцавую дарогу — хіба гэта ня тая самая безэмацыйнасьць? Яно-то ясна, магілы. Але ж дарогу будаваць трэба. Так і просіцца на язык просьценькі троп — кальцавая дарога на мяжу жалезнага і бронзавага веку.

этэр 27 студзеня 2002 г.

## Сюжэт пераўвасабленьня: Пэгі Лі

На століку маленькай віленскай кавярні ў кубку з гарбатай танчыць скрылёк цытрыны. Здаецца, ён кругамі дакладна паўтарае рытм песьні, якую сьпявае Пэгі Лі. А за вакном цярушыць і цярушыць несуцешны зімовы дождж. Па тварах наведнікаў я бачу: яны й не



здагадваюцца, што гэта голас Пэгі Лі, і хто яна такая, і што акурат днямі яна пакінула наш зямны сьвет, назаўсёды перасяліўшыся ў свае песьні. Але гэта не замінае наведнікам піць гарбату і размаўляць міжсобку ў камфортным атачэньні яе сьпеваў.

Мог нічога ня ведаць пра яе і я. Так, чыстая выпадковасьць. Пэгі Лі — зусім ня тая сьпявачка, якіх бясконца паказваюць у нас у тэлевізіі. Гэта выпадак, калі маскультура губляе свой прыдомак мас-.

Кажуць, што нарадзілася Пэгі Лі ў штаце Паўночная Дакота, а памерла ў Каліфорніі, на 82-м годзе жыцьця. Аднак, усё ў гэтых зьвестках выглядае падазрона, прынамсі, патрабуе ўдакладненьня. «Чыстакроўная амэрыканка» была насамрэч швэдкай, яе сапраўднае імя Норма Дэлёрэс Эгстром. А яе доўгі век быццам аспрэчвае праўду пра фатальна слабое здароўе. Кажуць, што нават сваім спэцыфічным і пазнавальным голасам яна абавязаная хваробе горла, якую перанесла ў юнацтве. Зрэшты, казаць могуць, што заўгодна, было б пра каго.

Распавядаюць, да прыкладу, што сваю кар’еру яна пачала ў 1941 годзе — салісткай у аркестры Бэні Гудмэна. Здымалася ў фільмах, сама пісала песьні, займалася жывапісам і скульптурай. У 1969-м ёй далі «Грэмі» і назвалі найлепшай сьпявачкай сучаснасьці. За сорак гадоў Пэгі Лі запісала 60 альбомаў разам з самымі гучнымі творцамі амэрыканскага джазу. Натуральна, такія біяграфіі можна пераказваць бясконца, як самое жыцьцё. Апроч твораў, засталіся ў яе дачка, тры ўнукі і тры праў-

нукі. «Няўжо гэта ўсё, і іншага ня будзе?» — сьпявала Пэгі Лі ў сваёй культавай для амэрыканцаў песьні...

Адзін джазавы крытык некалі напісаў пра яе: «Калі ня чуеш дрыжыкаў, слухаючы Пэгі Лі, гэта значыць, што ты мёртвы».

Што да ўсялякіх хворасьцяў, дык на 82 гады сьпявачкі іх выпала спаўна. Гэта калі не лічыць траўмаў пры падзеньні зь лесьвіцаў. Цікава, ці ёсьць людзі, якія за жыцьцё ані разу ня ўпалі з прыступак?

Між тым, выпадак славутай сьпявачкі стаў анталягічным у псыхолягаў. Яго апісалі Алан Ландсбэрг і Чарлз Фэй у сваёй працы «Сустрэчы з тым, што мы называем сьмерцю». У прыватнасьці, гаворка ідзе пра выпадкі вяртаньня адтуль, з таго сьвету, і пра матывы, якія прымушаюць людзей вяртацца. Адзін з такіх матываў — пачуцьцё адказнасьці.

«Многія кажуць, што «вярнуліся назад» таму, што лічылі сваю працу на зямлі незавершанай. Абавязак прымусіў іх абраць вяртаньне. Сьпявачка Пэгі Лі выступала ў вечаровым клюбе ў Нью-Ёрк Сіці ў 1961 годзе і за кулісамі страціла прытомнасьць. Яе адправілі ў лякарню з пнэўманіяй і плеўрытам. Сэрца Пэгі спынілася, і каля трыццаці сэкундаў яна была ў стане клінічнае сьмерці. ДПЦ (так скарочана аўтары называюць Досьвед Па-за Целам) Пэгі быў вельмі прыемны, але яе моцна турбавала думка пра вяртаньне. «Боль — зусім невялікая плата за тое, каб жыць для людзей, якіх любіш, — распавядала яна пасьля. — Я не магла вытрываць смутку і тугі ад разьвітаньня з дачкой». Мы бачым, што менавіта пачуцьцё адказнасьці найчасьцей выяўляецца пры такога кшталту сустрэчах са сьмерцю».



Такую выснову робяць псыхолягі на прыкладзе Пэгі Лі. Дарэчы, падрабязна дасьледаваў гэтую праблему Алесь Адамовіч у сваёй апошняй аповесьці «Vixi». Адамовіч спасылаўся на ангельскіх мэдыкаў, якія зафіксавалі шмат сьведчаньняў таго згаданага «прыемнага стану» перамяшчэньня ў іншую сутнасьць, тое, што Ландсбэрг і Фэй называюць Досьведам Па-за Целам.

Мне падумалася, што сьпеў можа разглядацца, як мэтафара таго досьведу. Асабліва такі сьпеў, як у Пэгі Лі — з падобным прыемным адчуваньнем.

Урэшце, песьні і застаюцца, як сьведчаньні Досьведу Па-за Целам. Песьні працягваюць жыць сваім асобным жыцьцём. Прычым, ужо ня толькі ў мэтафарычным сэнсе, але і ў самым што ні ёсьць рэальным.

У 1961 годзе галяндзкая рок-група *The Tornados* высьвятляе, што гурт з такой самай назвай ужо ёсьць у Англіі. Музыкі вырашаюць перайменавацца ў *The Golden Earrings* — «Залатыя Завушніцы» — песьню з такой назвай з рэпэртуару Пэгі Лі *The Tornados* выконвалі з найлепшым посьпехам. Першае турнэ пад новай назвай прынесла музыкам эўрапейскі посьпех. А сёньня *Golden Earrings* — прызнаныя клясыкі рок-музыкі.

Сама Пэгі Лі мела творчыя і дзелавыя кантакты з многімі зоркамі маладзёвай на той час культуры. Да прыкладу, з Полам Макартні.

Менавіта пад яе імя ён браў банкаўскі крэдыт на выпуск альбому *Band on the run*. І гэты праект меў посьпех.

Урэшце, тое, што песьні Пэгі Лі цяпер перасьпеўваюць многія сучасныя зоркі, само сьведчыць пра іхную жывучасьць. Вось і Мадона ўключыла ў свой альбом «Эротыка» песеньку *Fever* — «Ліхаманка». Нават у нас тады ў тэлевізары паказвалі гэты канцэрт, дзе Мадона з русальчынымі грудзямі і радыёмікрафонам на галаве добрыя дзьве гадзіны лётала па сцэне, нібы ў сапраўднай ліхаманцы.

Заўсёды зьдзіўляла тое, што на Захадзе не было такога бар'еру паміж рок-музыкамі і традыцыйнымі выканаўцамі.

Цяжка сабе ўявіць, каб у 1970-я Тамара Раеўская або Віктар Вуячыч выступалі зь «Песьнярамі» ці «Сузор'ем». Калі на Захадзе гард-рокеры накшталт *Deep Purple* запісвалі альбомы разам зь Лёнданскім сымфанічным аркестрам, у нас цяжкая рытм-сэкцыя, напружаны фарсіраваны голас і гітарныя «запілы» ўсё яшчэ маглі абразіць слых публікі. Памятаю, як нават у канцы 70-х гадоў, калі мне давялося граць у адным менскім, як тады казалі, вакальна-інструмэнтальным ансамблі, на нейкім конкурсе журы запатрабавала адключыць апаратуру, усе гэтыя «непрыстойныя» бас-гітары ды ёнікі. Хоць сьпявалі мы лірычную баляду «Таполі» на верш Янкі Купалы. У тыя часы ў беларускім грамадзтве прыблізна на адным узроўні дазволенасьці былі тры тэмы — сэкс, рок-музыка і родная мова. Сёньня шмат што зьмянілася. Публіка спакойна ставіцца да бурнага патоку



расейскіх эратычных газэтак, нізкапробнае расейскае папсы, у якой нікога ўжо не бянтэжаць цяжкія барабаны і няўстрымны віск вакалістаў. Толькі родная мова засталася на тым самым паўпадпольным становішчы...

...За вакном усё цярушыць несуцешны зімовы дождж. А песенька, такая ж сумная — пра летні дзень. Кругамі ўсё марудней паўтарае яе рытм цытрыновы скрылёк у кубку з гарбатай, які, нарэшце, замірае ад музыкі некалі выпадкова сустрэтай і цяпер ужо незабыўнай Пэгі Лі.

этэр 28 красавіка 2002 г.

## Нацыя паэтаў і яе хросныя бацькі

Гэтая гісторыя мае даўні пачатак, а завяршаецца яна ў нашы дні, на нашых вачах. Гэта гісторыя пра хроснага бацьку, у абліччы якога за стагодзьдзе выступалі розныя людзі, але ўсе яны клапаціліся пра сям'ю і ўсе пакінулі на сваім шляху мноства забітых і панявечаных сямейнікаў. Што рабіць, калі гэткі несправядлівы сьвет! Хочаш, як найлепей, а выходзіць — горш не прыдумаеш. Гэта гісторыя пра хроснага бацьку нацыі, дакладней, як мы, беларусы, сябе называем — нацыі паэтаў.

Мы сапраўды — нацыя паэтаў. Ні адзін народ не пахваліцца такой колькасьцю вершаскладальнікаў — геніяў і графаманаў, прафэсіяналаў і аматараў, якія ёсьць у кожнай вёсцы і, бадай, у кожнай вясковай хаце. Што ўжо

казаць пра гарады, дзе выходзяць газэты, і пры кожнай рэдакцыі ўвіхаюцца дзясяткі й дзясяткі паэтаў і тых, хто проста ня здолеў на пераломе сталасьці разьвітацца з гэтай ці то звычкай, ці то патрэбай — складаць вершы.

Гэтая гісторыя пачалася яшчэ ў пазамінулым стагодзьдзі, калі самую назву нашай нацыі — беларусы — даў чалавек, якога мы прызнаем за пачынальніка. Імя ягонае было Францішак Багушэвіч. Гэты чалавек з агромністымі вусамі ў старой паўстанцкай сьвітцы сядзеў у сваёй сядзібе ў Кушлянскім лесе і прыдумляў для нас наш лёс, наша імя. А імя для паэта — гэта і ёсьць лёс. Нічога дзіўнага, што такім чынам Багушэвіч стаў хросным бацькам нацыі.

(Здаецца, нават у прозьвішчы ягоным — Багушэвіч — закладзена быць хросным бацькам нацыі. Але гэта ўжо паэтычная думка, а распавядаць пра паэтаў вершамі я не зьбіраўся. Бо тады вам цяжка будзе што-небудзь зразумець.)

Францішак Багушэвіч памёр роўна ў 1900 годзе, акурат, дарэчы, у такі самы дзень, 28 красавіка. Ён не пакінуў спадкаемцаў па жыцьці, затое пакінуў у літаратуры. Можа быць, з тых часоў мы і сталі такой асаблівай нацыяй, для якой іхная ўлюбёная, найлепшая ў сьвеце краіна жыла і жыве найперш у вершах, а не ў рэчаіснасьці.

Аднак, сям'і Багушэвіч не запачаткаваў. Спатрэбіцца яшчэ трыццаць гадоў, каб новананароджаная нацыя стварыла свае газэты й часопісы, школы і ўнівэрсытэты, дзьве свае рэспублікі, каб насталі часы вялікай дэпрэсіі ці, як іх у нас называлі, часы ўсенароднага ўздыму і энтузіязму, каб аб'явіўся наш першы дон Карлеонэ, і каб уласна й пачалася тая гісторыя, якая сканчаецца сёньня.



Гэта быў Міхась Клімковіч — суворы чалавек з валявым тварам і празрыстымі халоднымі вачыма. Акурат тады з нашае нацыі паэтаў навыходзіла так шмат прафэсійных вершаскладальнікаў, што сама сабою насьпела патрэба вылучыць зь іх найлепшых і аб'яднаць іх у касту самых-самых таленавітых. Такіх паэтаў найвышэйшае касты пачалі называць пісьменьнікамі, а іхную сям'ю — Саюзам. Вось жа на чале гэтай новапаўсталай сям'і і аказаўся яе хросны бацька — Міхась Клімковіч.

Цяпер такіх, бадай, не сустрэнеш. Міхась Клімковіч быў сапраўдны дон Карлеонэ — статны мужчына ў плашчы і капелюшы, з гранатай у кішэні, які мог выскачыць з аўтамабіля і, даведаўшыся, што мінулай ноччу былі расстраляныя ня дзесяць паэтаў, а ўсяго два-тры, уздыхнуць па-бацькоўску з палёгкай. Ён думаў пра сям'ю, а тады кожная ноч несла для яе пагрозу і страты.

Стратаў трэба было пазьбягаць. Ня дзіва, што з тых часоў існаваньне сям'і ператварылася ў суцэльную барацьбу, а шлях яе быў шчодра паліты крывёю. Відаць, у гэтым бязжаласным сьвеце інакш і не магло быць. Ворагі ўвесь час выхоплівалі зь сям'і дзяцей, а яе старэйшынаў, такіх, як Янка Купала або Цішка Гартны, то аднаго, то другога — даводзілі да самагубства. Хроснаму бацьку трэба было дбаць пра тое, каб колькасьць сям'і не расла, а наадварот, зьмяншалася. Што ні кажыце, а вузкім гуртом у та-

кой аблозе выжыць лягчэй, а таму можна пазьбегнуць непатрэбных ахвяраў. Вось жа даводзілася пазбаўляцца ад лішніх дзяцей.

Дзеці — найдаражэйшае, што ёсьць у сям'і. Але менавіта дзеці схільныя да рызыкі, яны менш асьцярожныя за дарослых і ня ведаюць усёй складанасьці дачыненьняў у гэтым сьвеце. Зь дзецьмі толькі праблемы. Добра, калі на двары — лагодныя часы. Але тыя часы былі суворыя.

Гэта былі часы, калі пісьменьнікі не выходзілі з дому безь пісталета, і калі кожную ноч расстрэльвалі паэтаў. Турма тайнай паліцыі — «амэрыканка» — літаральна ламілася ад паэтаў, сталічных і прывезеных з правінцыі або з новадалучаных земляў Заходняе Беларусі. Самым частым зьвінавачаньнем, якое чулі паэты, быў шпіянаж. А яшчэ нацдэмаўшчына — так на жаргоне ворагаў гучала слова паэзія.

Нарэшце, дайшло да таго, што ня толькі нацыя страціла большасьць сваіх паэтаў, але й каста абраных — пісьменьнікі — згубілі большую частку чальцоў. У іхным Саюзе ледзьве нашкрабалася два дзясяткі чалавек. І здавалася, як напіша пазьней Караткевіч, ужо й на развод ня будзе. Але ўсё аджыло. Бо нацыя, не зважаючы на страты, працягвала нараджаць сваіх дзяцей, і хутка сям'я зноў набрала ранейшыя аб'ёмы ў некалькі соцень чалавек. Разам з тым вярнуліся і ранейшыя праблемы.

Пасьля вайны спакваля адышлі ў мінулае расстрэльныя сьцены, пісьменьнікі здалі табэльную зброю, жыцьцё, якое ні ёсьць, сяк-так наладжвалася, і стары дон Карлеонэ падаўся на спачын. Цяпер ён сядзеў у качалцы на сваім лецішчы, слухаў птушак, думаў пра дзяцей і пра тое, што яму ўдалося-такі вывесьці сям'ю з гэтага агню і ўсеагульнага зьнішчэньня.



А сям'я тым часам перайшла пад кіраўніцтва новага хроснага бацькі. Яго звалі Пятрусь Броўка. І акурат у той дзень, калі ягоны амэрыканскі калега дон Карлеонэ вырашыў, што сям'я больш ня будзе займацца наркотыкамі ды іншым экстрэмізмам і цалкам легалізуе свой бізнэс, акурат у той самы дзень і ў тую хвіліну гэтая самая думка наведала і хроснага бацьку беларускае пісьменьніцкае сям'і. Мы ня будзем займацца экстрэмізмам, ня будзем нікога забіваць і падпальваць ці там раскідаць якія ўлёткі, мы цалкам легалізуемся, што прывядзе нас да ўзбагачэньня і дабрабыту. А што яшчэ трэба для сям'і?!

Пасьля гэтага дон Карлеонэ ледзьве ўцёк з-пад куль сваіх калег, якія не згаджаліся аддаваць свой хай і нячысты бізнэс. А ў Беларусі гэта прывяло ўрэшце да ўнутранага падзелу сям'і. У адных пісьменьнікаў зьявіліся службовыя машыны, шыкоўныя летнікі, яны не вылазілі зь ціхаакіянскіх круізаў. Другія пабіраліся па суседзях і спалі на падлозе, абліваючы сваё лежбішча паласою вады — ад клапоў. Сацыяльны статус мала адбіваўся на талентах пісьменьнікаў і мала залежаў ад іх, бо таленты былі дадзенасьцю, і даваў іх кожнаму ад нараджэньня Бог. Таму з гэтым разьмеркаваньнем не спрачаліся і пад яго ярархію ў сям'і не падганялі. Маўляў, Богу Богава. Бяда была ў іншым.

Бяда была ў тым, што ўся нацыя былі паэты. Яны нараджаліся, выраcталі і бесьперастанку прэтэндавалі на тое, каб увайсьці ў сям'ю. Распарадзіцца зь імі так, як гэта можна было ў трыццатыя гады, цяпер не выпадала. Аднак гэта ня значыць, што пра тое ня думалі. І першы, хто разважаў пра гэта — Пятрусь Броўка, высокі лысаваты мужчына ў акулярах, якія блікавалі ягоны прышчураны і шмат для каго фатальны пагляд. Ён нібы сымбалізаваў сабою пераход ад вайны да мірнага існаваньня, увасабляючы ў сабе ўсемагутнасьць першага дона Карлеонэ, а разам з тым — слабасьць і бездапаможнасьць наступнікаў. Вядома, што кожная парода з часам драбнее.

Уся нацыя паэтаў ведала Броўку як чалавека неталенавітага, прынамсі, у паэзіі. Таму народ складаў пра яго вершыкі, дзе ў абразьлівай форме характарызаваў ягоны літаратурны дарoбак. «Пятрусь Броўка піша лоўка, піша лоўка і даўно, але ўсё, што ён напіша, называецца...» Менавіта ад Броўкі бярэ пачатак тая тэза, што імянітым паэтам у атачэньні адпаведнага дабрабыту можна стаць і апошняму графаману, што да сёньня актыўна выкарыстоўваецца ўсё новымі прэтэндэнтамі на ўдзел у сям'і.

Што праўда, наступнік Броўкі, Максім Танк, быў сапраўдным паэтам, нават больш ад Бога, чым ад сябе самога. Нягледзячы на сваё непрабойнае і наступальнае прозьвішча, гэты хросны бацька болей жыў сваім унутраным жыцьцём, і ўсім заставалася толькі здагадвацца — што ў яго насамрэч у галаве.

Танк таксама быў высокім статным мужчынам і, у адрозьненьне ад Броўкі, не мітусіўся, а хадзіў гэтак па-міністэрску разьмерана і грунтоўна. Ён усё болей выседжваў у прэзыдыюмах, езьдзіў па сьвеце і, здаецца, ні пра што й ня думаў, а толькі чакаў — увесь час цярпліва чакаў імпульсу ад свайго найвышняга патрона. Патрон час ад часу дыктаваў яму геніяльныя вершы.



У наступнага хроснага бацькі ўжо ўвогуле нічога, апроч салiднай паставы, не засталося. Ані пісталета, ані сьмелых і каварных плянаў перахітрыць ворагаў, ані славы спрытнага ваяра. Між тым, сьвет зусім не рабіўся дабрэйшым, і прымірэнчая пазыцыя гэтага хроснага бацькі, як і заўсёды, успрымалася за слабасьць. Тым часам, паэты па-ранейшаму скончвалі жыцьцё самагубствам або высылаліся куды далей. Ніл Гілевіч, так звалі новага хроснага бацьку, шукаў кансэнсусу, а пазыцыі сям'і падалі, падалі, падалі...

Ён, здаецца, ні разу й ня крыкнуў ні на кога, ня грукнуў кулаком па стале, нічым іншым ня выявіў, хто ў гэтым доме гаспадар. Ня дзіва, што дому таго хутка ня стала. Праўда, не за Гілевічам, а пазьней.

У ягонага пераемніка не было ўжо і стаці. Ён наагул быў добрым чалавекам і шукаў ужо не кансэнсусу, а згоды — усіх з усімі. А такога, як вядома, не бывае. Гэтак прыйшлі часы, калі зь сям'ёй канчаткова перасталі лічыцца. Ну, насамрэч, разважалі ворагі, ты толькі зьлёгку падвышаеш голас, а ён ужо пачынае плакаць. Ды не хацеў ты адбіраць у яго ягоную мову. Ты толькі хацеў спраўдзіць, наколькі ён моцны,

каб далей трымаць сваю маёмасьць — свае выдавецтвы, сваю сядзібу, сваю сям'ю... А ён пачынае плакаць і прасіць, каб ты не чапаў мовы.

Натуральна, ты ведаеш, што мова — найдаражэйшае, што ёсьць у паэта. І няхай ён з гэтым застанецца. Толькі нашто яму грошы, нерухомасьць, прадпрыемствы, а ўрэшце і сям'я, калі ён ня здольны гэтага бараніць, і калі сам ня ведае, як гэтым распарадзіцца.

Так разважалі ворагі.

З гэтага моманту дон Карлеонэ канчаткова растварыўся ў паветры. Засталося толькі ягонае высокае крэсла, куды прымерваліся сядаць новыя дзеці нацыі паэтаў. Іншы зь іх і спрабаваў быў бразнуць дзьвярыма і абазвацца для ўсіх хросным бацькам, але яму ня верылі. Ды нават калі б і паверылі, гэта ўжо даўно нічога ня значыла. Не было ўжо сям'і, не магло быць і бацькі.

А канчатковы крах сям'і настаў тады, калі мужчыны паўцякалі за мяжу, пакінуўшы ў крэсьле дона Карлеонэ... жанчыну. І зрабілі гэта не ад фэмінізму свайго ці ад джэнтэльмэнства, а таму што жанчына, як вядома, слабы пол. І выяўляецца гэта ў тым, што колькі ні валі на яе — усё вывезе, ня пікне. Гэтак Вольга Іпатава апынулася ў неадэкватным становішчы. Уявіце сабе, што кабета трапляе ў крэсла бацькі сям'і, чый шлях шчодра ўсыпаны трупамі і паліты крывёю. Жанчыны, вядома, заўсёды ўплывалі на лёсы, можа быць, іншым разам больш за самых важных пісьменьнікаў. Але яны рабілі гэта не на полі бою.



У канцы трэцяй часткі фільма, які так і называецца «Хросны бацька», ворагі забіваюць самае дарагое, што ёсьць у дона Карлеонэ — ягоную памочніцу-дачку. Думка простая — жанчынам ня месца ў мафіёзных разборках, няхай сабе гэта разборкі Саюзу пісьменьнікаў з уладамі, ці талентаў з графаманамі, ці што заўгодна. Усё ж гісторыя Жанны д'Арк — гэта выключэньне, а ня правіла. Гэта першае. Другое — забойства дачкі паклала канец сям'і Карлеонэ. Яе існаваньне страціла сэнс. Тое самае адбылося і з нашай сям'ёй пісьменьнікаў. Драматычны канец. Канец фільма.

* * *

Сёньня ўсё, што засталося ад сям'і — гэта толькі ідэя сям'і — такой, якой запачаткаваў яе Міхась Клімковіч. Але ён усё рабіў дзеля яе дабрабыту і для дзяцей. А сёньняшнія ягоныя нашчадкі найчасьцей кажуць, што адраджэньне сям'і немагчымае менавіта таму, што няма дабрабыту. Яны страцілі смак да жыцьця. Ворагі адабралі ў іх іхныя выдавецтвы, іхную сядзібу, цяпер забіраюць іхныя часопісы. Ім няпроста своечасова распазнаць ворага, бо той можа прыйсьці звонку, а можа і з самой сям'і. Той, хто нібыта твой брат, насамрэч аказваецца тваім магільшчыкам. Нічога ня зробіш, такія законы жанру.

Пасьля Броўкі новыя энэргічныя паэты спрабавалі ствараць свае сем'і ўнутры сям'і. Так заўсёды бывае, калі падрастаюць дзеці. Яны цягнулі з сваіх правінцыяў сваякоў, стваралі зямляцтвы. Гэтак казалі, што Барыс Сачанка

спрыяў землякам — Мятліцкаму і Канапельцы...

Сачанка загінуў проста за рабочым сталом, пры нявысьветленых да канца абставінах. Сёньня Канапельку пагналі з крэсла галоўнага рэдактара часопіса «Крыніца», а Мятліцкаму далі такое крэсла — галоўнага рэдактара часопіса «Полымя». Я думаю, на чыім баку быў бы сёньня Сачанка? Можа быць, на баку Канапелькі. А можа, і ні на чым. Адно ведаю, што Мятліцкага б ён у гэтай справе не падтрымаў і не ўхваліў ніколі. А гэта значыць, што і на такім вось мікраўзроўні новая сям'я стварыцца не магла.

Мятліцкі не забыўся на той урок, які некалі даў Броўка. Мікола, натуральна, хоча быць донам Карлеонэ. Няхай паспрабуе. Толькі што ня кожны на тое здольны, а часам трапляюцца і здольныя, але без галоўнае рысы хроснага бацькі — тыя, што ня думаюць пра сям'ю і гатовыя здраджваць яе інтарэсам. І калі імпэту ў цябе навалам, а Бог ня даў сапраўднага таленту, тады даводзіцца скіроўваць той імпэт у іншае рэчышча. Заваёўваць сабе жыцьцёвую прастору падманам і каварствам. Але гэта, бадай, немагчыма, пакуль у іншых застаецца выбар, а ў цябе яшчэ не зьявілася табэльнай зброі...

Так, яны сапраўды змагаліся самі з сабою, прыдумляючы сабе ворагаў зь ліку чужых — ці то «марыністаў», ці то дзяржаўных прызначэнцаў, але яны любілі сваё і мучаліся гэтай любоўю, і ня спалі доўгімі начамі, ствараючы адзін аднаму тую невыносную цяжкасьць



быцьця, якая часам адыходзіла, але нахлынывала зноў і зноў з новай сілай — як хвалі. І тады яны гатовыя былі палюбіць адзін аднаго і чытаць, чытаць, чытаць свае фантастычныя вершы, якія гучалі, як гімны яднаньня, як найвышэйшыя сьведчаньні іхнае роднасьці. І гэта была паэма! Гэта было адкрыцьцё. Дзе-небудзь на нарачанскім беразе пры вогнішчы яны гатовыя былі забыцца, хто зь іх каго пасадзіў, хто на каго настучаў, бо над імі было высокае неба ідэалу — самае большае, што было ў іх наагул. Яны: і сівагаловыя вэтэраны, і захопленыя барадаценькія юнцы, — раптам ператвараліся ў дзяцей. І да плачу слухалі адзін аднога, перабівалі, і зноў слухалі. І гэта была паэзія — іх галоўная стыхія.

Божа, якое шчасьце вычуць у бліжнім не каварства, а ў сабе — не раздражненьне, а гэтую самую сарамяжлівую любоў! І ім заўсёды тое давалася на гэтай зямлі, якая нараджала паэтаў. Гэта была зямля паэтаў. Таму яна здавалася ім ідэальнай зямлёю, таму ўлады ім заўсёды бачыліся найгоршымі ў сьвеце, бо паэты цураюцца ўладаў. Яны думалі, што заўсёды будуць дзецьмі, і ніколі ніхто ня выставіць ім рахункаў. Якія могуць быць рахункі да дзіцяці? Калі гэтак ставіцца пытаньне, дзіця знойдзе на вашыя рахункі свой пісталет. А як яшчэ вы хацелі размаўляць з паэтам? Якой мовай?

...Паэт надзявае шыракаполы капялюш або бэрэт і плашч. Беларускі паэт — чысты гангстэр. Ці даводзілася вам дажджыстым шэрым панядзелкам сустрэць у парку Горкага паэта Ніла Гілевіча? Сівы аксакал прамінае вас, як

дон Карлеонэ. І ня дзіва, калі ў абойме ў яго ўсе гэтыя сысы, глёбусы ды славаміры адамовічы. Хто сьпіўся, хто не, а хто ў турме. Пачакайце, хлопцы выйдуць — кожны з сваёй сытуацыі. Але ведайце адно. Гэта нацыя паэтаў. Гэта зямля палескіх рабінзонаў і дзіўных кентаўраў, якіх тут ласкава называюць Міколкамі-паравозамі. Гэта зямля, дзе раптам пачынае пахнуць чабор, і дзе найвялікшыя ворагі сям'і — Алесь Бачыла, які, надзеўшы вышыванку, адпраўляецца да Ларысы Геніюш; Леанід Прокша, на незабыўных пасквілях якога вырасла цэлае пакаленьне новых паэтаў; дзе стары Алесь Кучар замест пісталета ўжывае расейскія мацюкі, бо гэта ўся зброя, што ў яго засталася.

Гэтая нацыя ведала столькі чужацкіх нашэсьцяў, што ўжо перастала лічыцца зь імі. Не глядзіце, што мы кажам — КГБ, Масква, акупацыя. Нашыя галоўныя ворагі даўно сярод нас. Мы іх прыватызавалі. Вы падсоўваеце нам Касьцяна, мазырскага галерэйшчыка? Што за цуд гэты Мазыр! Але галоўны вораг і галоўныя нашыя антаганісты ў гэтай сытуацыі — тыя, што ідуць з гэтым Касьцянам, — нашы. Вось Таіса Бондар, аўтарка кніг, якія варта прачытваць назвамі — «Двое на востраве сьлёз»! Чаго чакае калюмбійская тэлевізія? А вось Раіса Баравікова — ці ня новая хросная маці нацыі паэтаў? Мілую Раісу любілі і любяць, як будуць заўсёды любіць прыгажуню і сымбаль жаноцкасьці, для якіх ніколі ня будзе веку ці — як вы сказалі? — грамадзянскай пазыцыі. А во наш знаёмы Мікола Мятліцкі — Лукашэнка з закрытай формай гэтае хваробы. Ну, не



паэт, але чалавек, які сьцьвердзіў, што з паэзіі можна рабіць і біяграфію, і прэміі. І кожны кранаўшчык ці мэліяратар, які парываецца сёньня пачаць сваю справу, мог бы павучыцца ў Міколы, як рабіць яе зь беларускай паэзіі. Ня ведаю Ніну Чайку. Ведаю толькі, што пры яе кіраўніцтве «Беларуская маладзёжная» на дзяржаўным савецкім радыё стала самай лібэральнай рэдакцыяй. І ў гэткім вось развальненьні яе пераняла наша Жанна Літвіна — хросная маці беларускай журналістыкі. Усе зьмяняюцца. Верагодна, зьмянілася і Чайка — павяла свой «разгавор па сушчаству»...

Некалі мне давялося працаваць у «Нёмане», які ўзначаліла цяпер Чайка. Дзівосны быў час. Другая палова 1980-х. Анатоль Кудравец, прыйшоўшы на галоўнага рэдактара, першае, што зрабіў, паставіў кропкі над «ё» ў назве часопіса. І ўсім стала ясна, што плянэркі будуць праходзіць па-беларуску. Што гэта быў за час, і што за калектыў, і што за часопіс... Не скажу, каб ня зьбіцца на рыфмы, бо пра такое можна расказваць толькі вершам. Во дзе кавалі прафэсіяналаў. Але «Нёман» даўно ня той. І Чайка зьмяніла на пасадзе Алеся Жука. А гэта яшчэ адна мая памяць і яшчэ адна паэзія. Бо да «Нёману» ў мяне быў «ЛіМ», і рэдагаваў яго Алесь Жук, чалавек, якому ўся намэнклятурнасьць ягонай пасады і ўвесь камунізм навакольнага жыцьця былі неяк нават для арганізму чужыя. Гэта ў ягонай рэдакцыі працаваў Анатоль Сідарэвіч, ля стала якога я часьцяком засьпяваў Міхася Стральцова — таго

самага, якi ўжо й не пiсаў нiчога, а калi ў яго пыталiся — чаму, адказваў — ня чую.

Божа, як усё перавяртаецца! Чайка замест Жука, Баравiкова — замест Далiдовiча, цiхага i звышкансэрватыўнага, амаль як Марыяк, празаiка! А Вячаслаў Дашкевiч — фантастычны паэт, якi некалi пiсаў — «Я прашу ў дактароў: замянiце мне кроў!» — гэта вам не графаман Мятлiцкi. Дашкевiч страшна нязручны чалавек са сваiмi iдэямi i канцэпцыямi. А хто зручны? Сыс? Цi Славамiр Адамовiч? Цi, можа, Глёбус зручны? Скажу вам па сакрэце тое, што зразумеў зь немалога досьведу. Сапраўдныя паэты — нязручныя людзi, як правiла. Некалi я яшчэ думаў, што з гэтым рабiць, а пасьля зразумеў, *што* — цанiць, друкаваць, пашыраць. I не крыўдаваць. На паэта крыўдаваць нельга. Так распарадзiлася неба. Сядзi й крыўдуй, а ён ужо там, далёка, яго чытаюць у гэты момант праз сто гадоў, а ты тут сядзiш i крыўдуеш. Згадзiцеся, марны занятак.

Хто ў нас яшчэ? Таiса Бондар… Некалi, яшчэ ў брэжнеўскiя часы, Сяржук Сокалаў-Воюш прапанаваў зрабiць сталiцай падпольнага беларускага адраджэньня Рудзенск — маленькi гарадок на чыгунцы. Маўляў, усе рэвалюцыi пачыналiся з чыгуначнiкаў. Мы нават зьезьдзiлi туды — агледзець мясьцiну. З усiх зьвестак пра Рудзенск у нас было толькi тое, што гэта — радзiма Таiсы Бондар. Асоба спадарынi Таiсы адразу набывала таямнiчы, загаворнiцкi зьмест.

Алесь Пiсьмянкоў — з тых хлапцоў, што, кажучы словамi нашых мэтраў, ператварылiся ў



харошых паэтаў. Ён заўсёды любiў Пысiна, свайго земляка, здаецца, нават больш за ўсю пiсьменьнiцкую сям'ю. Усе ўспрымалi Алеся з сымпатыяй — i як паэта, i як чалавека. Але не як рэдактара. Бо «ЛiМ» за iм апусьцiўся нiжэй узроўню 1956 году. На жаль. Але паэт — зусiм ня значыць рэдактар. Тут, верагодна, проста нейкая кабiнэтная памылка.

Аднак я спыняюся, бо неўзабаве раскрыю вам усе таямнiцы, а тады, ведаючы гiсторыю сям'i, вам раптам не захочацца браць у рукi творы сямейнiкаў. I гэта, паверце, будзе няслушна. Бо творы iснуюць самi па сабе i шмат якiя зь iх вартыя чытаньня i нават захапленьня.

Калi ў выпадку кiнарэжысэра Копалы чацьвертай сэрыi ягонага фiльма быць ня можа, дык у нашай гiсторыi працяг цалкам магчымы. Страцiў сэнс iснаваньня Саюз пiсьменьнiкаў, але працягвае жыць i разьвiвацца нацыя паэтаў. Яе нiшто ня зьнiшчыць. Трэба было б спынiць жыцьцё кожнага беларуса. Але гэта немагчыма. Нас усё яшчэ 10 мiльёнаў, i знайсьцi нас можна i ў Беларусi, i ў суседнiх краiнах, i ў Амэрыцы цi Аўстралii, i нават у Афрыцы. Нi адна iншая мафiя ня здолее пералавiць нас усiх. I нiшто не перапынiць нашай апантанай цягi да паэзii. Мы пiшам вершы. Мы ўсе пiшам вершы — на паперы, у кампутары цi проста ў галаве, бо мы нацыя паэтаў. I так будзе вечна.

этэр 19 траўня 2002 г.

## «Дон Кіхот» — найлепшая кніга на ўсе часы

Зусім нядаўна Нобэлеўскі інстытут назваў «Дон Кіхота» найлепшай кнігай чалавецтва. Паўнавартаснага беларускага перакладу гэтага шэдэўра не існуе дагэтуль. Выбіраючы з сусьветнае клясыкі найважнейшае, акурат Сэрвантэсаў раман наша культура абмінала.

Перад тым, як назваць «Дон Кіхота» найлепшай кнігай усіх часоў і народаў, Нобэлеўскі інстытут апытаў сто найбольш вядомых і прызнаных у сьвеце літаратараў. Сярод рэспандэнтаў былі Мілан Кундэра, Сальман Рушдзі, Джон Ірвінг, Карлас Фуэнтас ды іншыя. Назва намінацыі гучала так: «Найлепшы мастацкі твор у гісторыі». У выніковым сьпісе, апроч Сэрвантэса, на першым месцы знайшліся творы Флябэра, Талстоя, Томаса Мана, Кафкі, Маркеса, Вірджыніі Вулф. Знайшлося месца і для Гамэра з Шэксьпірам. Беларускага чалавека можа цешыць тое, што паводле колькасьці найлепшых раманаў лідэр — наш суродзіч Дастаеўскі.

Галоўнае тлумачэньне перамогі Сэрвантэса гучыць так: менавіта «Дон Кіхот» стаў першым такога кшталту раманам, зь якога бяруць пачатак усе наступныя, што патрапілі ў сьпіс. Мэксыканец Фуэнтас кажа пра «першы вялікі раман» у сусьветнай гісторыі. Гэта, вядома, слушная, але й чыста аб'ектывісцкая ацэнка. Вобраз высакароднага ці проста добрага вар'-



ята стаў асабліва прыцягальным у мінулым стагодзьдзі, і сёньня перажывае пік свае славы. Папулярная навука з радасьцю паведамляе нам, што ўсе мы «крыху таго», і што вар'яты — ня хворыя, а — інакшыя; Галівуд раз-пораз выпускае на экраны то «Чалавека дажджу», то «Форэст Гамп». Прычым творчы запас гэтага пэрсанажа і самой тэмы ўяўляецца невычэрпным. Дастаткова толькі засяродзіцца на словах «я звар'яцела», або «я зусім згубіў галаву», якія мы чуем і прамаўляем ледзь не штодня, і крыху пафантазіяваць. Што можа быць лепшым сьведчаньнем жывасьці розуму, чым рызыкоўныя фантазіі! Вось чаму няма ў гісторыі лепшае кнігі, чым «Дон Кіхот».

А, між тым, пісаўся «Дон Кіхот» вельмі даўно — на пачатку 17 ст. Пародыя на папулярныя тады рыцарскія раманы — а менавіта такі жанр «Дон Кіхота» — была настолькі не ў сваім часе, што быццам сама вымалявалася з-пад бязвольнага пяра аўтара. Напалоханы такім свавольствам Сэрвантэс зараз жа па сканчэньні «Дон Кіхота» сядае і піша правільны рыцарскі раман, які, натуральна, кануў у гісторыі разам з цэлым эвэрэстам падобнай літаратуры. А «крывое дзіцятка» выжыла і, здаецца, яшчэ толькі ўбіраецца ў сілу.

Аднак што гэта быў за час? У 1606-м у Магілёве ўздымаецца бунт жыхароў супраць злоўжываньняў магістрату. Гарадзкую ўладу скідаюць, а на яе месца абіраюць новую. Росквіт самакіраваньня! Ня тое, што цяпер. У 1608-м памірае Канстанцін Астроскі, адзін з найбуйнейшых магнатаў ВКЛ. Ня той, які перамог у

славутай бітве пад Воршай, а ягоны нашчадак, заснавальнік Астроскай друкарні. Надта багаты быў чалавек. Яму належала 25 гарадоў, 10 мястэчак і 670 вёсак. Гэты Астроскі любіў кнігі і падтрымліваў школьніцтва. Няма сумневу, што ён чытаў Сэрвантэсаў бэстсэлер, бо тады эўрапейскія навінкі даходзілі да нашых краёў хутка. Ня тое, што цяпер. У 1610-м пакідае гэты сьвет Андрэй Волан, філёзаф і правазнаўца, аўтар трыццаці працаў, што ня страцілі актуальнасьці да нашых дзён, бо казалі пра роўнасьць усіх перад законам, пра верацярпімасьць, а ў такіх рэчаў няма мяжы дасканаласьці. Вось жа Волан мог «Дон Кіхота» і не чытаць, каб не муціць сабе розум марнымі лятункамі. Але доступ да кнігі, безумоўна, меў. Тады адукаваныя людзі ведалі шмат моваў. Ня тое, што цяпер. У 1611-м Смаленск захапілі расейцы. Усходняя крэпасьць Вялікага Княства апынулася ў чужых руках. І далей на працягу 17 стагодзьдзя гэты крывіцкі горад будзе некалькі разоў пераходзіць з рук у рукі, пакуль не адыдзе да Расеі назаўсёды. А тады гэта быў горад зусім беларускі, цэнтар княства. З смаленскага рыцарства выходзілі пісьменьнікі і асьветнікі. І Смаленск зусім ня быў правінцыяй. Ня тое, што цяпер...

Словам, часы былі супярэчлівыя. І для многіх людзей у тагачаснай Беларусі не складала праблемы знаёмства з «Дон Кіхотам». Прычым, ня толькі таму, што часта не было моўнага бар’еру, але й таму, што рэаліі раману — тыповыя для тагачаснае Эўропы. Кожны зьбяднелы шляхціц мог пазнаць у гішпанскім гідальга сябе, а ў Санчу Пансу — свайго збраяносца. А «Пагоня», рыцар на кані, які спрэс патрапляў на вочы і ў жыцьці, і на дзяржаўным ды гарадзкіх гербах... Вобраз беларускага зьбяднелага шляхціца, які «высакародна арэ сваё поле» зь мячом на баку, маляўніча выпісаў Уладзімер Караткевіч у рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні»...



Усё сказанае сьведчыць, што разглядаць Дон Кіхота, як мэнтальна чужога для беларусаў, не выпадае. Тым больш, што сам вобраз гішпанскага рыцара багата сьлядоў пакінуў і ў беларускай літаратуры.

Расейскі біёграф Сэрвантэса Іван Тургенеў у публічным выступе 1860 году зьвярнуў увагу на тое, што першае выданьне трагедыі Шэкспіра «Гамлет» і першая частка «Дон Кіхота» зьявіліся ў адзін год — у 1604-м. Тургенеў называе такое супадзеньне сымбалічным, бо, на ягоную думку, гэта два супрацьлеглыя вобразы: самаахвярны альтруіст Дон Кіхот і эгаіст Гамлет, які жыве толькі для самога сябе.

Украінскі біёграф Сэрвантэса Іван Франко заўважае, што памёр пісьменьнік у 1616 годзе ў той самы дзень, калі ў Англіі памёр вялікі драматычны паэт Ўільям Шэксьпір.

«Гамлет» па-беларуску перакладаўся ня раз. Але ў найноўшым рэйтынгу галоўных кніг чалавецтва перамог ня ён, а «Дон Кіхот». Праўда, рэйтынгі — рэч ня самая стойкая. І яшчэ праз сто гадоў найлепшай кнігай можа стаць іншая. Эпоха, у якой мы жывем, моцна ўплывае на наш выбар. Нейкія пачуцьці сьцішваюцца, а нейкія робяцца вострымі, як лязо.

Іван Франко, які ў 1913 годзе апублікаваў свой вершаваны пераклад «Дон Кіхота» на ўкраінскую, пісаў пра Сэрвантэса — Мігуэль, а ў дужках — Міхайла. А ў назве пазначыў героя не як гідальга, а як шляхціца. Менавіта так мусіць быць і па-беларуску. (А ў гішпанскім перакладзе наш шляхціц Завальня няхай называецца гідальгам.) Вось што пісаў Франко:

«Гэтая аповесьць мела нечуваны датуль посьпех, першае выданьне разышлося на працягу чатырох тыдняў, а яшчэ ў той самы год выйшлі чатыры выданьні. У тым самым годзе пачалі таксама зьяўляцца яе пераклады на іншыя мовы, асабліва ў Францыі... Пра папулярнасьць можа сьведчыць хоць бы тое, што ў Гішпаніі гэтую кнігу выдавалі больш за 400 разоў, што яна перакладалася на ангельскую мову 200 разоў, на францускую 168 разоў, на італьянскую 96, на партугальскую 80, на нямецкую 70, на швэдзкую 13, на польскую 8, дацкую 6, расейскую 2 разы і на лаціну 1 раз. Поўнага ўкраінскага перакладу «Дон Кіхота» дагэтуль яшчэ ня маем, дый, відаць, няхутка дачакаемся».

Сёньня на «Дон Кіхота», напісанага зь беларускім «і», адгукаецца ў інтэрнэце мноства якраз украінскіх сайтаў — пераклады і крытыка. А да беларускай сытуацыі пасуе менавіта тая стогадовае даўніны характарыстыка Івана Франка — ня маем, а поўнага перакладу дачакаемся ці хутка.

У 1940 годзе зьявіўся першы пераклад на беларускую, але не з арыгіналу, а з расейскай. У 1999-м гісторыя паўтарылася. У сэрыі «Школьная бібліятэка» выйшаў яшчэ адзін



пераклад з расейскай. Але такога беларускага «Дон Кіхота» цяжка назваць і беларускім, і «Дон Кіхотам». Расейскія перакладчыкі ў такіх выпадках карыстаюцца архаічным «высокім штылем» — каб перадаць і гістарычны дух твора, і экзатычную для расейскай мінуўшчыны сярэднявечную Эўропу. Што да нашай мовы, дык у ёй такога «высокага штылю» няма, і сярэднявечныя беларускія рэаліі, калі наша краіна была ў складзе Вялікага Княства Літоўскага, нічым асабліва не адрозьніваліся ад заходнеэўрапейскіх. Тая самая шляхта, рыцары ды збраяносцы, замкі і палацы, каралі-каралевы... У Расеі нічога такога не было. Абсалютызм цара, баярыня Марозава і «Раніца стралецкае кары»... Таму пераклад з расейскай аўтаматычна праводзіць паміж кнігай Сэрвантэса і беларускім чытачом лінію адчужэньня.

Некалі праблемы зь якасным перакладам былі і ў Расеі. Да прыкладу, у 1860 годзе, калі Іван Тургенеў у публічнай лекцыі казаў:

«На жаль, мы, расейцы, ня маем добрага перакладу «Дон Кіхота»; большая частка з нас захавала пра яго даволі няпэўныя ўспаміны; пад словам «Дон Кіхот» мы часта маем на ўвазе проста блазна, — слова «донкіхоцтва» ў нас раўназначнае з словам «недарэчнасьць» — між тым як у донкіхоцтве нам трэба было б прызнаць высокі пачатак самаахвярнасьці, толькі схоплены з камічнага боку. Добры пераклад «Дон Кіхота» быў бы сапраўднай заслугай перад публікай, і ўсеагульная ўдзячнасьць чакае таго пісьменьніка, які перадасьць нам гэты адзінкавы твор ува ўсёй ягонай красе».

Напэўна, і ў гэтым выпадку беларуская сытуацыя адрозьніваецца ад расейскай. Прынамсі, той першы, хто зробіць якасны наўпроставы пераклад «Дон Кіхота», наўрад ці стане ў нас такім вось нацыянальным героем. Добра ўжо, што такі перакладчык ёсьць. Гэта Якуб Лапатка, які цяпер жыве ў Фінляндыі. Каб высьветліць, у якім стане беларускі пераклад раману Сэрвантэса, я затэлефанаваў у Хэльсынкі. Кажа Якуб Лапатка:

— *Я зрабіў некалькі разьдзелаў. Частка іх надрукаваная ў «Хрэстаматыі сусьветнай літаратуры». Яшчэ некалькі разьдзелаў у мяне тут перакладзена. Я хачу зрабіць ня поўную вэрсію, а... Ну, не такую ўжо, як, ведаеш, «клясыкі на 20-ці старонках», а сярэднюю вэрсію для аблегчанага чытаньня. Таму што, будзем казаць так, чытаць яго вельмі цяжка. Па-гішпанску яшчэ цікавасьць ёсьць да мовы, і гэтак далей, а так калі чытаць... Я яго ў дзяцінстве чытаў і вельмі зьдзіўляўся — чаго гэта ўсе на яго так накінуліся. Таму я тут выбіраю такія разьдзелы, знакамітыя... Напрыклад, пра ветракі, зь якімі ён змагаўся, бо ўсе ведаюць — «змагацца зь ветракамі», а хто і што — ня ведаюць. Карацей, я паціху калупаю і думаю, што праз годзік я яго закончу.*

Якуб Лапатка кажа тое, што скажа кожны, хто чытаў «Дон Кіхота» ў неадаптаванай вэрсіі — чытаць яго цяжка. Гэта, бадай, клясычны прыклад таго, як усеагульнае прызнаньне набывае зьмест твора, форма якога — хутчэй для спэцыялістаў.

Чаму ж такая цяжкая для чытаньня кніга



стала найлепшай кнігай чалавецтва? Мой асабісты адказ наступны. Дон Кіхот — першы паводле перасьпеваў. У розных культурах на працягу ўсёй гісторыі за гэты вобраз браліся пісьменьнікі — як за толькі абазначаны матыў. Гэтак увесь сьвет пісаў і працягвае пісаць свой агромністы гіпэртэкст, які часам надта далёкі ад першакрыніцы, і якому няма канца. Для літаратуры факту і проста для будзённае сьвядомасьці Дон Кіхот — гэта ўстойлівы сымбаль ірацыянальнага дабра.

Расейскі пісьменьнік-эмігрант Уладзімер Набокаў згадваў, як у часе сваіх гарвардзкіх лекцыяў ён у Мэмарыяльнай залі на вачах шасьціста студэнтаў разьдзёр «Дон Кіхота» на кавалкі, назваўшы яго злобнай, тапорнай старой кнігай. Набокава раздражняла будова раману, устаўныя навэлы, *бесьсюжэтны сюжэт*. Асабліва абурала яго чамусьці тое, што ёсьць мноства людзей, якія не чыталі Сэрвантэса, але гатовыя ўва ўсіх дэталях распавесьці пра пэрыпэтыі ягонага раману.

І яшчэ — спэцыфічная гішпанская жорсткасьць, якой, на думку Набокава, напоўненая кніга. Бязьлітасная жорсткасьць, што карае старога, які гуляецца, бо стаў падобны да дзіцёнка. Кніга пісалася ў тыя часы, калі з карлікаў і вар’ятаў пасьміхаліся, калі тых, хто думае інакш, спальвалі на пляцы пад усеагульныя воплескі, калі міласэрнасьць і дабро нібы выпарыліся. Набокаў лічыў, што сучасьнікі Сэрвантэса сьмяяліся менавіта з жорсткасьці ў ягонай кнізе:

«Аднак у сьвеце хутка знайшоўся іншы спо-

саб прачытаньня. Кніга дала штуршок сучаснаму раману па ўсёй Эўропе. Філдынг, Смолет, Гогаль, Дастаеўскі, Дадэ, Флябэр выдрапалі з Гішпаніі гэтую гісторыю і ўжылі яе дзеля сваіх уласных мэтаў. Герой, які выйшаў з-пад пяра стваральніка блазнам, зь цягам часу ператварыўся ў сьвятога».

Сваё арыгінальнае прачытаньне Сэрвантэса — у дзёньніках Франца Кафкі:

«22 кастрычніка 1917 году. 5 гадзінаў раніцы.

Адзін з найважнейшых подзьвігаў Дон Кіхота, яшчэ больш настойлівы, чым змаганьне зь ветраком, — гэта самагубства. Мёртвы Дон Кіхот хоча забіць мёртвага Дона Кіхота; але для гэтага яму патрэбны хоць адзін жывы кавалачак, які ён і вышуквае мячом — настолькі ж бесьперапынна, наколькі і безнадзейна. У гэтым занятку барукаюцца абодва мерцьвякі неразрыўным клубком праз усе стагодзьдзі».

Пасьля Кафкі мне згадаўся прынцып «апошняга абзацу». Гэта калі пачынаеш чытаць кнігу з канца, і паводле той выбуховай энэргетыкі, што зьбіраецца «на дне твора», разумееш, ці варта прачытаць яго ўвесь. Натуральна, Кафка ня меў на ўвазе сьмерць Дон Кіхота, што апісваецца ў рамане Сэрвантэса. І ўсё ж захацелася перачытаць ня той разьдзел пра змаганьне зь ветраком, а той апошні, дзе гішпанскі рыцар піша перад скананьнем свой запавет.

«Розум мой праясьніўся, цяпер ён ужо вольны ад густога змроку невуцтва, у які яго абрынула злашчаснае й няспыннае чытаньне мярзотных рыцарскіх раманаў. Цяпер я бачу ўсю



іхную глупоту і хлусьлівасьць, і адзінае, што мяне засмучае, гэта што ацьверазеньне настала занадта позна, і ў мяне ўжо няма часу выправіць памылку і ўзяцца за чытаньне іншых кніг, якія ёсьць сьветачамі для душы. Мне хацелася б памерці так, каб людзі пераканаліся, што жыў я недарэмна, і каб за мною не засталося мянушкі вар’ята, — няхай я гэткі і быў, аднак жа сьмерцю сваёй хачу даказаць адваротнае».

Праз два гады ўвесь сьвет будзе адзначаць чатырохсотыя ўгодкі «Дон Кіхота» — найлепшай кнігі ўсіх часоў і народаў. Кнігі пра ірацыянальную дабрыню і высакароднага вар’ята. Магчыма, да таго часу пабачыць сьвет і паўнавартасны беларускі пераклад гэтага твору. Далейшы ягоны лёс губляецца ў смузе будучыні. Бо ніхто не адкажа на пытаньне, што нас чакае там. Хіба што Дастаеўскі, які, відаць, прадбачыў сёньняшні посьпех і меркаваў, што «Дон Кіхот» Сэрвантэса здолее паслужыць чалавецтву апраўданьнем на Страшным судзе».

этэр 23 чэрвеня 2002 г.

## Стаянка першага чалавека

Дарожныя паказальнікі на гомельскай Беларусі не такія, як на віленскай. Залесься ці Навасёлак я ня ўлічваю. Гэта, скажам так, агульны фон. Але чаго тут зусім няма, дык гэта балцкіх назваў вёсак: Жупранаў з Кушлянамі

ды Мірклішак са Скірдзімамі. На Гомельшчыне: Пакалюбічы, Сьвяцілавічы, Сенажаткі... А вось яшчэ вёскі — Барэц і Дварэц. Гэта не русізмы. Гэта якраз чыстая Беларусь, бо назвы ўтвораныя ад словаў «бор» і «двор». Яны такім самым чынам назваными, як невялікі трактар тут называюць «трактарэц».

У гэткую вось тапанімічную раскошу мы выпраўляемся зь Вільні на другі край Беларусі — у Рэспубліку Радзіму, якую называем так і таму, што гэта край старадаўніх радзімічаў, і таму, што самі нарадзіліся ў гэтых мясьцінах. А ў майго калегі літаратара Барыса Пятровіча — яшчэ й бацькі ў Хойніцкім раёне. Туды мы зьявімся пазьней, бо пачынаем — для паўнаты карціны — зь Веткаўшчыны, дакладней, з Чамярні...

Навокал — краіна кантрастаў, дзе адселеныя пасьля Чарнобылю вёскі, у якіх «зашкальвае» дазымэтар, суседзяць зь дзейнымі дамамі адпачынку, дзе сьмяротна небясьпечна жыць, але дзе буяе й памнажаецца жывая прырода, дзе Беларусь пакінула самыя лепшыя й плодныя свае палі; край, у якім, паводле пашыранага ўяўленьня, высьпяваюць абрыкосы і дыні. І ня толькі ў гэтым кантраст. Забягаючы наперад, скажу, што, бадай, нідзе ў Беларусі ня бачыў у мястэчках і вёсках такой дамінацыі дзяцей і моладзі, як тут, у гэтых раёнах, у зоне, што падлягае адсяленьню.

За Сьвяцілавічамі — вёска Вялікія Нямкі, акурат тут давялося пабачыць «жыўцом» прыкрынічныя крыжы — знак спракаветнай беларускай архаікі, які падрабязна апісаў этнограф



Міхась Раманюк. Гэта калі ля крыніцы ставяцца крыжы, і месца робіцца сьвятым, нешта накшталт царквы пад адкрытым небам. Тут зьбіраюцца мясцовыя людзі і на крыжы вешаюць ручнікі. І так з году ў год. Старых ручнікоў не здымаюць, таму крыжы з часам ператвараюцца ў такія захутаныя постаці...

Вялікія Нямкі — радзіма пісьменьніка Акуліна. У самых гэтых словах — літаратура. Мусіць, так доўга маўчалі гэтыя Нямкі, так ім у нутры ўсяго надумалася, нацешылася і набалела, што не маглі ня выплеснуць усё сваім уласным пісьменьнікам. Гэтак разам з вандроўкай пачынаецца яшчэ адна тэма — «радзіма пісьменьніка». Далей на нашым шляху такіх будзе шмат, аж да Бярозаўкі за Мазыром — радзімы пісьменьніка Федарэнкі. У гэтых краях радзімы пісьменьнікаў — як тыя этнаграфічныя крыжы, трапляюцца на кожным кроку. Верагодна, таму, што тут і сапраўды — радзіма, яшчэ і ў гэтым сэнсе.

... У Гомелі бацька нахінаецца да пяцігадовага хлопчыка, робіць вуснамі «пу-у» і кажа: «Ты што зрабіў?» Малы падымае ўгору вінаватыя вочкі. Ай-яй-яй, — кажу я, нашто ж так бянтэжыць хлопчыка. — Каб вучыўся саромецца, — адказвае бацька. Эпізод нацыянальнае пэдагогікі...

Ну, вось і Чамярня. Заснавальнік Веткаўскага музэю Фёдар Шкляраў — чалавек вельмі адораны і дасьціпны, заўсёды згадваў гэтую Чамярню, як узор краявіду. Чамярня — амаль на мяжы з Расеяй. Гэта спракаветнае гарадзішча на беразе Бесядзі. Сказаць, што мясь-

ціны прыгожыя, будзе банальна. Зрэшты, за гэтую вандроўку мы пабачылі вялікае мноства краявідаў, якія, перанясі іх на холст, выглядалі б абсалютнай пошласьцю. І ў гэтым для мастака-пачаткоўца — вялікая спакуса: перадаць боскае стварэньне так, як яно ёсьць. І ў гэтым вялікі ўрок для кожнага майстра — чаму літаральна змаляваны прыгожы краявід на халсьце ператвараецца ў пошласьць.

У Чамярні, на гэтым самым гарадзішчы — спаленыя могілкі: карціна, якая сёлета ў Беларусі суправаджае цябе паўсюль, куды б ні паехаў. Абгарэлыя сосны. Першыя такія ў траўні мы бачылі адразу за беларускай мяжой на Пскоўшчыне. У пакінутай вёсцы — ржавага колеру сасновая купа на ўзгорку. Згарэла ўсё, што было з дрэва — усе драўляныя крыжы. Засталіся на папялішчы толькі крыжы каваныя і цясаныя з каменя. Першая і найбольш верагодная здагадка — нехта падпаліў леташнюю жухлую траву, ад якой загарэлася і ўсё астатняе. Праўда, траву ў нас палілі заўсёды, а столькі спаленых могілак давялося пабачыць толькі сёлета.

Мы ад'ехалі ад гарадзішча, каб паглядзець на яго з дарогі. Сапраўды, сярод лысага поля плаўна вырастае пагорак, які раптам рэзка спадае да ракі. І на гэтым спадзе купкаю — тыя ржавыя сосны. Барыс Пятровіч, які меўся знайсьці літаратурнае параўнаньне ўсяму гэтаму, ляканічна сказаў: «лабок».

У Ветцы наша даўняя знаёмая Галіна Нячаева, якая зьмяніла на пасадзе дырэктара музэю Фёдара Шклярава пасьля ягонае сьмерці, сказала, што гэта яна адкрыла яму гэтую мясьціну — Чамярню. Пасьля Шкляраў не аднойчы прыяжджаў сюды з эцюднікам, бо быў яшчэ й жывапісцам. А мабыць, яшчэ часьцей — з гасьцямі. Каб проста так завезьці людзей, вывесьці на стромы бераг і сказаць: «Глядзіце!» І раптам такая музыка пачынае гучаць, такая нахлыньвае гармонія, што куды там да гэтага японскім школам зь іхным урокам любаваньня прыродай. Нашу сытуацыю нават любаваньнем не назавеш. Гэта хутчэй нейкае філязофскае глядзеньне ў абсалют. Ты ня сьлізгаеш позіркам, а зазіраеш у прадоньне сябе самога...



Дарэчы, у Ветцы, дзе сьцяной стаяў дождж, Галіна Нячаева паказала нам абноўленую экспазыцыю музэю, дзе гісторыя і мастацтва стараабрадцаў увесь час падсьвечваюцца тутэйшай беларускай традыцыяй — ручнікамі з геамэтрычнымі ўзорамі, у якіх спадарыня Галіна вялікі сьпец. Ад свайго папярэдніка Шклярава яна пераняла ня толькі пасаду, але й манеру размаўляць з наведнікамі. Гэта і экскурсія, і лекцыя, а раптам разумееш, што ўсё гэта — урок этыкі.

Веткаўскі музэй — самы дасканалы і жывы, а таму і самы багаты з усіх, якія даводзілася бачыць у Беларусі. Не зважаючы нават на даражэзныя экспанаты, столькі сюды ўкладзена ўсяго нематэрыяльнага, што музэй гэты, здаецца, стаў сувымернай духоўнай альтэрнатывай самой чарнобыльскай бядзе.

Яшчэ адзін кантраст: самы жывы музэй у самым нежывым месцы. Турысты сюды валам ня валяць, бо баяцца радыяцыі...

Гомельшчына даволі позна ўвайшла ў літаратуру. Але выглядае яна ці не найбольш беларускай. Тут заўважна часьцей гаворыць па-беларуску, і беларускае візуальнае інфармацыі больш. Часам гэта калькі — «Шчасьлівага шляху!», часьцей нармальна — «Шчасьлівай дарогі!»

Барыс распавядае, як бачыў у адной тутэйшай вёсцы хворага на AIDS. Той лічыў сваё захворваньне несправядлівым (заразілі!) і помсьціў. Жыў у зоне адсяленьня, а абсьледавацца езьдзіў у Маскву. Кожнага разу купляў купэ і спакушаў якую-небудзь кабету. Туды кабету, назад кабету. Гэтак помсьціў. Калі Барыс напісаў пра гэта ў газэце, зь ім ледзьве не судзіўся цэнтар прафіляктыкі AIDS, маўляў, аўтар раскрыў мэдычную таямніцу. Справа была гадоў дзесяць таму, а Барыс абураецца дагэтуль. Чаму хворыя на AIDS абароненыя таямніцай ад астатніх, а астатнія ад іх — не!

А што табе «Ваўчыная яма»? — пытаюся ў Барыса пасьля гэтай гісторыі. Быкаў, — кажа, — у краявідах Чарнобыльскай зоны ўпарта апісвае Віцебшчыну, хмызьнякі ды ўзгоркі. А якія тут, на Палесьсі, хмызьнякі?..

Тым часам мы заяжджаем у Гомель. Гомель — увесь у рысях. Гарадзкі герб, праўдзівасьць і права на існаваньне якога яшчэ пятнаццаць гадоў таму трэба было даказваць, цяпер паўсюль — на шыльдах, на этыкетках, у газэтах…

Далей — на Лоеў. Там нас чакае другі пасьля Чамярні «эратычны эпізод» гэтай вандроўкі. А пакуль пераяжджаем Дняпро. На ўвесь прасьцяг па даляглядзе — вёска Гарошкаў. Радзіма пісьменьніка Толіка Сыса. Барыс перакананы, што і сам пісьменьнік цяпер недзе тут. Але шукаць яго ня сталі. У Толіка цяпер усе сюжэты пачынаюцца зь мілым палескім акцэнтам: «Я ўупіў альбо му ўупілі і…», далей ідзе сюжэт. Чаму мы да яго не заехалі? Барыс кажа, што калі я так хачу зь ім пабачыцца, мушу ўзяць бутэльку і з Сысом ўупіць. А інакш — навошта я яго шукаў? Жалезная лёгіка.



І мы пакідаем гэтае месца зь ня надта добрым паветрам. Тут рэчыцкія адстойнікі — ці то бытавыя, ці для нейкай вытворчай гадасьці — ня важна.

…Ізноў назвы паселішчаў на паказальніках уражваюць. Едзеш, як па Ірляндыі. Вось вёска Дублін, а вось нейкі Велін дый сам Брагін таксама. Мужчынскія словы.

Лоеў, як і ўсе тутэйшыя мястэчкі і вялікія вёскі, гадоў сто таму быў жыдоўскім. Гэта значыць, што апроч наежджай расейскай адміністрацыі, тут жылі пераважна гэбраі, а сялянская маса, якая атачала паселішча, была беларуская. Ад гэбраяў засталіся камянічкі, якія й сёньня ўтвараюць аблічча гэтага зусім курортнага гарадка. Ціхі і ўтульны, акуратны Лоеў мае ўсе падставы прыцягваць турыстаў. Вялікую ваду дае зьліцьцё Дняпра з Сожам, пляжы, прыгажэнныя краявіды… І асабліва радыяцыі тут няма. Праўда, колішні дух і інтэлект малюсенькага мястэчка ўжо ня тут — ён разьвеяны па ўсім сьвеце. Варта згадаць, да прыкладу, лоеўскага выхадца бэн Бэцалеля, знакамітага талмудыста, які апынуўся ажно ў Празе і на-

прыканцы 16 ст. стаў галоўным праскім рабінам. Гэта ён прыдумаў слыннага праскага голема. А з Францішкам Скарынам яны там разьмінуліся прыблізна на чвэрць стагодзьдзя...

Зрэшты, алюзіі колішняга лоеўскага інтэлектуалізму і досьціпу можна пабачыць і сёньня. Гэта я пра той абяцаны «эратычны сюжэт». А ўбачылі мы яго на цэнтральнай плошчы мястэчка, побач з будынкам райвыканкаму. Убачылі, і вачам сваім не паверылі. Ленін. Звычайны Ленін, вельмі акуратны помнік, вельмі правільны, амаль такі, як у Менску на плошчы Незалежнасьці, чорны. Толькі Ільліч тут ні на што не абапіраецца, а паказвае пальцам на сутоку Дняпра і Сожа, туды, дзе гарадзкі пляж. А замест указальнага пальца ў Леніна — фалас. Самы што ні ёсьць рэалістычны, адпаведны ўсяму помніку. Ну, усякіх даводзілася бачыць ленінаў — і пафарбаваных зялёнай ці блакітнай фарбай, і нават такога, як у пасёлку Жаркоўскі на Цьвершчыне, у якога штаны ўехалі ў зад, але гэткага — з фаласам замест указальнага пальца...

Мы сьмяяліся, але стрымана. Усё ж месца тут сур'ёзнае — штаб раённай вэртыкалі, вакол дзелавіта сноўдае мясцовае начальства. І потым, сам факт такога Леніна ўяўляўся за межамі магчымага. Ці гэта жарт скульптара? Але ж ставіўся помнік у самыя суворыя сталінскія часы — у 1948-м. Магчыма, пажартаваў які пазьнейшы рэстаўратар? А можа, гэта водгук беларускай палескай архаікі, дзе фаласам, да прыкладу, упрыгожвалі вясельны каравай,



зьвязваючы гэта ўсё з заклінаньнем пладнасьці. А яшчэ думалася пра тое, што людзі ў нас часта на такія рэчы не зьвяртаюць увагі. Усё ж такі Ленін — штука сур'ёзная, таму, калі й бачыш у ім нешта «ня тое» — ня вер вачам сваім.

...Чарнобыль суправаджае нашу вандроўку хутчэй як вобраз, чым як рэальнасьць. Сапраўды ж, радыяцыі не памацаеш, а што ў горле запяршыла — дык магло і ад цыгарэты. Чарнобыль — невідзімка. Іншы раз хацелася думаць пра яго, як пра вялікі міт, створаны беларускім народам у канцы мінулага стагодзьдзя, як пра фальклёр. Нешта падобнае да пачвары Нэсі ў шатляндзкім возеры, толькі не такое «матэрыяльнае». Чарнобыль нагадвае дух Нэсі. Такое прыблізна адчуваньне Чарнобылю, па-мойму, у людзей, якія жывуць на забруджаных тэрыторыях. І ў такім стылі пра яго распавядаюць. Пра хваробы гавораць, як пра іншую тэму, падыходзячы ўжо нібы «з другога боку». Хваробы — гэта рэальнасьць. А Чарнобыль — злая, натуральна, але ўсё ж казка. Зьмешваць іх, складаць у прычынна-выніковую сувязь не выпадае. Як нельга зьмешваць уласную хату з палацам якога Зьмея Гарыныча. Гэта два розныя жанры. І калі зьмешваць — як тады жыць?

...У вечаровым сонечным Брагіне на акуратным цэнтральным пляцы парамі шпацыруюць дзяўчаты і хлопцы. Дзеці ядуць хойніцкае марозіва. Маладая жанчына годна нясе свой вялікі жывот — цяжарная. На сьветлавым табло на будынку палаца культуры сьвецяцца

лічбы — 96 мікрарэнтген у гадзіну. За бюстам земляка-пажарніка, які загінуў на АЭС, — тры сьпісы населеных пунктаў: пахаваных, якія зрылі бульдозэрамі, адселеных і тых, якія знаходзяцца ў стадыі адсяленьня. Брагін — у гэтым апошнім сьпісе.

Дарога з Брагіна ў Хойнікі ідзе паміж засеяных палёў. Зьлева і справа — адселеныя, пустыя вёскі. Проста сярод поля раз-пораз стаяць знакі — трохсотмэтровая забарона на прыпынак. Гэта яны абазначаюць, што злы казачны дракон усё ж існуе, і адчуць ягоны дотык, матэрыялізаваць небясьпеку пры жаданьні можна акурат у гэтым месцы.

Дарога на Бабчын закрытая шлягбаўмам і ахоўваецца міліцыяй. Але гэтым разам у нас няма задачы патрапіць у трыццацікілямэтровую зону, і таму мы праяжджаем міма. Бабчынскі пэдтэхнікум, у якім у 1920-я гады ўтварылася беларуская нацыяналістычная арганізацыя альтруістых, застаецца пакуль неадведаным. А яшчэ Бабчын — радзіма пісьменьніка Мятліцкага, таго самага, які цяпер прызначаны рэдактарам часопіса «Полымя», і які пісьменьніцкую кар'еру зрабіў на вершах пра Чарнобыль. Я цытую нешта з колішняга верша Мятліцкага пра радзіму: «Дзе помнічак пад ліпамі ля школы вартуе даўняй памяці грамы». І мы ўсе разам задумляемся, што гэта ўсё значыць...

Хойнікі — чыста польскае слова. Толькі націск трэба ставіць правільна — Хойні́кі. Гэта як Мінск або Гродна — таксама польскія варыянты беларускіх назваў, якія прыйшлі назад у



мову беларускую праз расейскую. Зусім яскравы прыклад — Гайнаўка. Яна цяпер з польскага боку мяжы, і па-польску — Гайнувка, а ў расейцаў няма такога «г», і яны польскую ўжо назву перадаюць праз «х» — Хайнувка. Ну, а паколькі ў нас доўгі час за эталён ва ўсім бралася расейская мова, дык цяпер і па-беларуску афіцыйна — Хайнуўка. У выніку беларуская вёска зь беларускім насельніцтвам, якое так прыгожа назвала сваё паселішча Гайнаўка, цяпер па-беларуску — Хайнуўка.

Праўда, нашы людзі, як правіла, на такія алягізмы не зьвяртаюць увагі, як на той фалас Леніна ў Лоеве. Альбо — як на расклад руху на ашмянскай аўтастанцыі, дзе Літва названая «дальнім зарубежжам», хоць ехаць да яе 20 кілямэтраў, а быў бы аўтобус на Ашгабад — называўся б «блізкім зарубежжам», хоць ехаць да яго трэба было б 3 тысячы кілямэтраў, далей, чым да Нью-Ёрку, дарэчы...

Празаік Барыс Сачанка, які пра тутэйшую сваю родную вёску Вялікі Бор напісаў тоўсты раман «Вялікі Лес», тлумачыў, што спрадвечная беларуская назва Хойнікаў — Хвойнікі.

Глінішча. Радзіма пісьменьніка Мележа. Дом-музэй, як той казаў, вылізаны, акуратненькі. Перад ім — бюст Мележа, які ў гэтым выкананьні нагадаў нам Быкава. Барыс Пятровіч зьвяртае ўвагу на тое, што дом-музэй належыць аддзелу культуры Хойніцкага райвыканкаму. А ў Хойніках сваіх пісьменьнікаў, маўляў, любяць, як нідзе. Натуральна, праяжджаючы такой вёскай, пачынаеш углядацца ў аблічча вяскоўцаў — хто тут знакаміты Васіль,

а хто — Ганна Чарнушка. Людзі на балоце, якога даўно ўжо няма...

У Юравічах Барыс заявіў, што менавіта тут самыя прыгожыя беларускія дзеўкі. Ён наагул патрыёт Хойнікаў ці Хвойнікаў. Але тут нешта здаўся на карысьць, выходзіць, Калінкавіччыны. Гэтая -ччына правакуе цэлую плойму згадак пра тое, як гомельцы або гамяльцы або афіцыйныя гамяльчане — у сэнсе, жыхары вобласьці — называюць жыхароў сваіх гарадоў і вёсак. Можна ж брагінцы сказаць, а можна і брагінчане, хойнікцы — і хайнічане. Гэтыя -ане гучаць больш на расейскі манер, хоць гэта няпраўда, дакладней, гэта чыста мясцовая праўда. А ўсё расейскае ў нас ухваляецца, і нягледзячы на ўзор якіх-небудзь ленінградцаў, тут жыхароў Чачэрску, да прыкладу, упарта называюць чачарчане. І толькі так. Чачэрцы ўжо як бы і не па-нашаму.

Архітэктурная прыкметнасьць Юравічаў — руіна кляштару і стары калегіюм, у якім сёньня праваслаўны манастыр. Усё гэта абнесена высокім плотам. Уваход — напісана — толькі з блаславеньня, і побач табліца з папярэджаньнем пра злога сабаку. Нечым усё гэта нагадвае зону. Магчыма, так і трэба. Тут утаймоўваюць целы, каб мацаваўся дух...

Юравічы можна лічыць абсалютным пачаткам чалавека ў Беларусі. Менавіта тут знойдзеная самая старая ў нас чалавечая стаянка. Каля 30 тысячаў гадоў таму. І — абсалютная прастора для фантазіі. Што гэта быў за чалавек, адкуль прыйшоў, і чаму ён менавіта тут



вырашыў пасяліцца? Свой адказ мы знаходзім даволі хутка. На месцы.

Уявіце сабе, што вы праехалі кілямэтраў сто па абсалютнай роўнядзі сярод палёў, лясоў і вёсак. Такая роўная плоскасьць на месцы асушаных балот. І раптам гэтая плоскасьць абламваецца, і вы глядзіце з трыццацімэтровай гары, а перад вамі — унізе, на ўвесь прасьцяг, на ўсю шырыню далягляду — іншая плоскасьць з тымі самымі палямі, лясамі і вёскамі, толькі від зьверху. Здагадка прыйшла адразу. Гэта ж мы стаім на беразе легендарнага мора Герадота, якое славуты грэцкі гісторык намаляваў некалі на месцы сучаснага Палесься... І таму нічога дзіўнага, што першабытны чалавек вырашыў пасяліцца на беразе мора.

Хто быў той першы чалавек, таксама становіцца зразумела хутка, на самой стаянцы. Праўда, ад яго захаваўся толькі пастамэнт з надпісам «В.И.Ленин». Сюды ж праведзеная электрычнасьць. Падсьветка. Жыва ўяўляецца, як у сталінскія часы гэты першабытны чалавек ці першачалавек стаяў высока і горда панад морам Герадота. Такі сабе Заратустра. На самым глыбінным узроўні скрайнасьці змыкаюцца. І тут гэта адчуваеш. Лысы карузьлік — звышчалавек. Пастамэнт сталінскага часу з такімі самымі ляпнінамі, як на менскім Сталінскім праспэкце. Але Леніна няма. Ён сышоў, хутчэй за ўсё, разам з разьвянчаньнем культу Сталіна. Дакладней, пераставілі яго кудысьці — ці на плошчу, ці на які школьны двор. Але вось сымболіка! Ленін на стаянцы

першабытнага чалавека зьнік разам са зьнікненьнем таго, каго называлі Ленінам сёньня...

Не дае спакою той першы чалавек. Беларускі Адам. За сваю гісторыю Палесьсе ведала многія перасяленьні і засяленьні. Кажуць, што славяне прыйшлі сюды з Дунаю, бо ўсе тутэйшыя песьні — пра Дунай. А яшчэ тут сьпяваюць пра мора. «Колькі раз я ў моры парынала, не дастала ў моры дна, я сваімі белымі рукамі адмахала ўсім людзям, я сваімі русымі касамі прыплывала к берагам». Што дзіўнага, што народ, які жыве па берагах колішняга мора, захаваў тое мора ў сваіх песьнях?

Пазьней тут масава сяліліся... Хто толькі ні сяліўся. Нават туркі. Але мястэчкі былі гэбрайскія. Сёньня гэтага ўжо не відаць. Пагналі гэбраяў тутэйшыя партыйцы са сваім прыроджаным антысэмітызмам. Самы паказальны прыклад гэткага выгнаньня — сёньняшні стары Мазыр, акуратны і прылізаны на мінулыя Дажынкі, але цалкам спустошаны, выхалашчаны. Таксама, дарэчы, кантраст. Акуратны горад, у якім ніхто не жыве, а толькі прагульваюцца. Зь дзяцінства памятаю стары драўляны рынак, які заўсёды быў проста затоплены народам. Цяпер на ягоным месцы — новы, вялізная бэтонная гаргара. Таксама меўся быць рынкам. Але ня стаў. Няма каму сюды хадзіць, бо ўся забудова прылеглых вуліц зьнесеная. Мне згадваецца, як у 1980-я, калі старыя каманіцы тут руйнавалі цэлымі вуліцамі, мясцовы загадчык аховы помнікаў зьдзіўлена пытаўся — навошта нам пакідаць гэтыя «жыдоўскія клапоўнікі»? На сьцяне ў ягоным кабінэце — і гэта ў сярэдзіне 80-х! — вісеў партрэт Сталіна. Цяпер я думаю, што з такой «філязофіяй» можна было б і ад старой Вільні зь яе «жыдоўскімі клапоўнікамі» не пакінуць каменя на камені. Але пакінулі. І цяпер «клапоўнікі» ўнесеныя ў сьпіс сусьветнае спадчыны ЮНЭСКА.



Апошняе ўражаньне — нібы ў працяг гэтае тэмы — я вынес з гастраному ў Калінкавічах. У прадавачкі-жыдовачкі на бэджы прачытаў яе імя і прозьвішча: Надзея Фундамэнт. Побач яе каляжанка, наліваючы мне смачнага мазырскага квасу, распавядала яшчэ адной, трэцяй прадавачцы: «Я ў Фундамэнт летам зьбірацца не люблю, вып'еш 50, а ап'янееш на 150, панэльны дом, сонечны бок — чыстая саўна...» І ўсе сьмяяліся, разам з гэтай самай ва ўсіх сэнсах сымбалічнай Надзеяй Фундамэнт.

этэр 14 ліпеня 2002 г.

## Грошы

Калі мы гаворым міжсобку пра тое, чаго за апошнія пятнаццаць гадоў у беларускім жыцьці паболела і чаго паменела, найчасьцей называюцца дзьве рэчы: свабода і грошы. Свабода разам з вызваленьнем ад татальнае апекі з боку дзяржавы прынесла і выдаткі — разарэньне, эміграцыю сяброў і блізкіх, дэпрэсію. Грошы змарнелі, затое значна паболела іх як чыньніка ў размовах, у паспалітай філязофіі, у чалавечых лёсах.

Свабода і грошы прапанавалі беларускаму чалавеку выбар: адчуць сябе вольным гаспадаром, або нікому не патрэбным і таму пакінутым учорашнім утрыманцам.

Праўда, нельга сказаць, што такі выбар — пан або прапаў — спасьціг кожнага беларуса. Старэйшым прыносяць дахаты пэнсію, моладзь пераарыентоўваецца на капіталістычныя каштоўнасьці. Найцяжэй, бадай, сярэдняму пакаленьню. Акурат таму, якое ў культуры аб'ектыўна аказалася адказным за гэты пераходны пэрыяд. Скажам, старэйшыя пісьменьнікі і мастакі, як правіла, спадзяюцца дажыць свой век у той схеме, да якой прызвычаіліся за савецкім часам. Самыя маладыя ладзяць пэрфомансы і шукаюць кантактаў за мяжой. Што да сярэдняга пакаленьня, дык яно не стварае раманаў, а піша гэты час пераважна сваімі ўласнымі лёсамі. Як правіла, атрымліваецца тое, што пажылыя жанчыны па выхадзе з кіназалі называюць «цяжкое кіно».

Пра драматычныя лёсы трох маіх знаёмцаў — журналіста, паэта і празаіка, у жыцьці якіх грошы адыгралі фатальную ролю, я распавяду напрыканцы сёньняшняй перадачы. А пачну з самога месца валюты або матэрыяльных рэсурсаў, або, зусім ужо па-вулічнаму, «бабак» у жыцьці беларускага грамадзтва. Ці зьмяняецца гэтае месца цягам апошніх 10—15 гадоў? Верагодна, ня так хутка, як гэта адбылося ў суседніх Літве, Польшчы ці нават Расеі. Сказваецца беларускі постсавецкі застой.

Мне згадваецца, як у глухой расейскай вёсцы сем гадоў таму ў краме сельпо ў нас адмовіліся браць даляры, а чарга вясковых цётак са зьдзіўленьнем разглядала «амэрыканскі рубель». Сёлета ў той самай вёсцы мы пабачылі ажно тры крамы — тое самае сельпо, толькі значна пабагацелае, і дзьве камэрцыйныя. У камэрцыйных бяруць і даляры. Гэта так, маленькі штрышок у карціне параўнаньня беларускай і расейскай сытуацыі. У нас за гэты час амаль нічога не зьмянілася.



Падобную выснову робіць таксама філёзаф і бізнэсовец Уладзімер Мацкевіч:

— *Пачатак 1990-х гадоў прызвычаіў людзей да таго, што грошы нешта каштуюць. І гэта быў, так бы мовіць, культурны прарыў у гэтых адносінах. Але ж грошы ня сталі для беларусаў каштоўнасьцю да сёньняшняга часу. І таму людзі болей дбаюць пра тое, каб зарабіць на жыцьцё, чым пра тое, каб ставіцца да грошай, як да сродку — сродку разьвіцьця сваёй сям'і, самога сябе, сваёй справы. Гэтага пакуль што не назіраецца. Ну, за выключэньнем кола бізнэсоўцаў і прадпрымальнікаў.*

Нашы людзі трымаюць у руках валюту падзіцячаму: нібы не асабліва разумеюць, што гэта такое; падкрэсьлена без пашаны, каб не выглядаць скнарамі; і крыху грэбліва, каб не вылучацца сваім «багацьцем» сярод іншых. Дзяцінства беларускай нацыі — тая стадыя, куды яе адкінуў савецкі час. Да рэвалюцыі гэта была сялянская нацыя, у сваю чаргу, адкінутая ў такі стан пасьля далучэньня краіны да Расеі. Але тады, у нашаніўскі пэрыяд пачатку 20 ст., сялянская нацыя мусіла пайсьці ў школу, навучыцца весьці гаспадарку і абыходзіцца

з грашыма. Мусіла адбыцца тое, што свой капіталізм зрабіў зь літоўцамі — таксама сялянскай нацыяй, якая за дваццаць міжваенных гадоў пасталела ў дарослую. Беларусы ж засталіся дзецьмі, і іхнае сталеньне прыпадае ўжо на 21 стагодзьдзе. Вось што кажа пра гэта Ўладзімер Мацкевіч:

*— Традыцыйна, са старых часоў Беларусь — краіна грашовая. Нягледзячы на тое, што ў 17—18 ст. гандаль ажыцьцяўляўся магнатамі, усё ж гандлёвыя адносіны ў гарадах і нават на вёсцы былі. У адрозьненьне ад Расеі. У Беларусі да грошай ставіліся больш па-эўрапейску. А вось тое дзіцячае стаўленьне — гэта наступства савецкага часу. І ў гэтым сэнсе мы нічым не адрозьніваемся ад іншых народаў. За выключэньнем тых, хто праз пратэстанцкую этыку меў каштоўнасьці прыбытку, заможнасьці. І тут адрозьненьні нават паміж беларусамі заходнімі і ўсходнімі. Я яшчэ застаў часы, калі ў Гарадзенскай вобласьці сяляне марылі пра каня, пра тое, каб ім вярнулі зямлю й гэтак далей. На жаль, гэта былі старыя людзі, якія засьпелі яшчэ польскі час. А сёньня іх дзеці ўжо пра гэта ня мараць. Але ўсё ж людзі пра грошы пачалі дбаць. І перасталі саромецца лічыць грошы, таргавацца.*

Каліісьці за прыкладам нашых балтыйскіх суседзяў альбо палякаў, дык можна зрабіць выснову, што менавіта капіталізм, грашовыя дачыненьні давершаць працэс фармаваньня беларускае нацыі, якая запынілася ў сацыялізме, нібы ў сваім уласным дзяцінстве. Вам не даводзілася назіраць, як памякчэлі апалягеты



камунізму пасьля таго, як сталі пераводзіць свае зьберажэньні ў амэрыканскія даляры? Аднак ёсьць у паводзінах з грашыма беларусаў і прадстаўнікоў іншых народаў і паказальныя адрозьненьні.

*— Што тычыцца, напрыклад, каўкаскіх народаў... — кажа Ўладзімер Мацкевіч. — Грошы яны, так бы мовіць, любяць. Шануюць. Але ж там няма індывідуалізму ў стаўленьні да бізнэсу, да грошай. Там — сям'я, тэйп, клан. І грошы ходзяць у кланавых групоўках, амаль як у холдынгах. Таму нельга сказаць, калі маем справу з заможным каўказцам, што гэта яго грошы. Гэта грошы сям'і. У беларусаў гэтага няма. Беларусы больш эканомныя, больш сьціплыя, чым расейцы. Расейцы грошай не шануюць звычайна. Таму ўсе зробленыя грошы пускаюцца на жыцьцё, на прадметы раскошы. У беларусаў гэта таксама назіраецца, таму што некаторыя бяруць прыклад з так званых «новых рускіх». Не па сродках звычайна жывуць тыя, хто добра зарабляе. Але ж не ў такой ступені, як у Расеі. Больш значныя адрозьненьні ўсё ж існуюць там, дзе ёсьць пратэстанцкае стаўленьне, той так званы дух капіталізму. Гэта эстонцы, латышы. Нават меншае адрозьненьне паміж беларусамі і летувісамі ў гэтым сэнсе. Гэта што тычыцца звычайных паводзінаў чалавека, беларуса. Іншая справа — гэта ўмовы. Пагадзіцеся, што не мэнталітэт звычайнага беларуса вінаваты ў тым, што ў краіне за больш чым 10 гадоў незалежнасьці так і не зьявілася ўласнай грашовай адзінкі, што мы да сёньня жывем зь незра-*

*зумелымі грашыма, якія як былі разьліковымі білетамі, уведзенымі ў сытуацыі крызісу, так і засталіся. І вось гэтая сарамлівасьць на дзяржаўным узроўні, узроўні тых, хто кіруе нашай эканомікай, не зьяўляецца наступствам мэнтальнага стаўленьня беларуса да грошай.*

Што да расейцаў, дык не аднойчы даводзілася назіраць, як чалавек, гатовы аддаць табе «апошнюю кашулю» або рассыпаць мільёны пад ногі цыганам, акажацца скнарай у самай дробнай дробязі. Урэшце, пацьверджаньне такой рысы даюць і самі расейскія назіральнікі і пісьменьнікі, а я згадаў пра гэта таму, што ў беларусаў такой рысы няма. Беларус у справе грашовых аб'ёмаў больш адэкватны, і ня стане выкідаць многа і шкадаваць мала. Напэўна, калі гэта ня той беларус, які «новы рускі». Дарэчы, адносіны паміж «новым рускім» беларусам і «новым рускім» расейцам ці палякам, ці літоўцам — таксама маюць у падмурку сваім тэму грошай.

*— Што тычыцца расейцаў, дык яны ставяцца да беларусаў, як да меншых братоў. Прычым, без падставаў для гэтага. Беларускі бізнэс больш цывілізаваны. Больш эўрапейскі. І гэта відаць ня толькі на прыватных адносінах прадпрымальніка з прадпрымальнікам, фірмы зь фірмай. Гэта і на заканадаўчым узроўні таксама адбываецца. У нас у сярэднім бізнэсе (буйнога бізнэсу няма) амаль выключаныя разьлікі «кэшам», наяўнымі грашыма, што да сёньняшняга дня практыкуецца ў Расеі. Нават калі беларускія фірмы маюць расейскія філіялы, яны адчуваюць значныя складанасьці ў працы, таму што паводзіны бізнэсоўцаў у Беларусі больш цывілізаваныя, чым у Расеі. Але гэта ніяк не зьмяняе стаўленьня расейцаў да Беларусі. Расейцы ставяцца звысака. Што тычыцца летувісаў ці латышоў, палякаў, дык тут ня трэба перабольшваць культурных і нацыянальных адрозьненьняў. Бізнэс — інтэрнацыянальная, касмапалітычная справа. Там маюць справу з чалавекам і зьвяртаюць увагу на тое, што можна назваць плацёжнай дысцыплінай, уменьнем трымаць слова. І ў гэтым сэнсе адрозьненьняў паміж бізнэсоўцамі беларускімі і летувіскімі няма.*



А як самі беларусы, у масе сваёй далёка не багацеі, ставяцца да багатых суайчыньнікаў? І як багатыя суайчыньнікі на гэта рэагуюць? Ці не пачуваюцца яны няёмка? Усё ж той савецкі фон роўнасьці ў жабрацтве ў Беларусі яшчэ адчуваецца, і калі на гэтым фоне зьяўляецца чалавек з грашыма, ён мусіць пачувацца крыху замежнікам ці, іншы раз, нават іншапланэтнікам. А яшчэ ён мусіць паводзіць сябе так, каб не даваць падставаў зараз жа накідвацца на яго і прасіць грошы...

*— Ёсьць такая рэч — жабрацкі этас. Доблесьць у тым, што мы бедныя. Гэта распаўсюджаная зьява. Як толькі чалавек дае зразумець асяродку, што ён мае грошы, што ён заможны, ён сутыкаецца вось з гэтым стаўленьнем. Калі ты маеш грошы, дык дай. І тое, што права жабрака — прасіць, і права бізнэсоўца — даць ці ня даць — асымэтрычныя адносіны, гэта яшчэ не разумеецца. Патрэба чалавека беднага не дае яму права патрабаваць у таго,*

*у каго грошы ёсьць, задавальненьня ягонай патрэбы. І гэта зь цяжкасьцю разумееццa на сёньняшні дзень. Усё ж зьмены ў гэтым сэнсе адбываюцца. І ўсё менш і менш становіцца тых, хто думае, што ягоная галеча, ягоная беднасьць дае яму правы качаць гэтыя правы. Паказваць, што маеш грошы — небясьпечна. Таму, што найбольшым вымагальнікам зьяўляецца дзяржава, а ня тыя, хто просіць. Хоць сапраўды, грамадзкія арганізацыі, палітычныя арганізацыі, яны таксама паводзяць сябе, як жабракі. Замест таго, каб уступаць у дзелавыя адносіны з тымі, хто мае грошы і мог бы спансараваць гэтыя грошы на грамадзкія справы, быць мэцэнатам нейкіх культурніцкіх зьяваў… Трэба аказваць паслугі адзін аднаму, тады й грошы будуць. А калі проста — дайце, таму што мы хочам… Гэта непрымальная ў сучаснасьці пастаноўка пытаньня.*

За савецкім часам фраза «прадаць радзіму» гучала, як апошняе злачынства, а падобнае дзеяньне каралася сьмерцю. Мы, натуральна, ня будзем прадаваць сваю Беларусь, але вось пытаньне — ці існуе кошт у радзімы, і калі так, дык якім чынам ён можа быць вызначаны?

— *Я лічу, што грошы — адно з самых геніяльных вынаходніцтваў чалавецтва. Грошы — гэта такая мера, унівэрсальная, у якой мы можам параўнаць самыя розныя зьявы нашага жыцьця. Самыя розныя каштоўнасьці. Што б там ні казалі ў такім квазімаральным пляне, што радзіму нельга прадаваць, што мастацкія каштоўнасьці ня маюць кошту… Ну, сапраўды, ня маюць. Але ж іх можна вымераць. Нельга купіць «Мадону» Рафаэля. Але ж яна нешта каштуе. Нават утрыманьне й захаваньне яе ад разбурэньня і то патрабуе грошай. І чым больш дарагая рэч культуры, тым больш яна патрабуе на сваё захаваньне грошай. Таму грошы дазваляюць усё пералічыць і ўсяму прызначыць свой кошт. І радзіме. Кажуць, што нельга гандляваць радзімай. Але ж радзіма, патрыятызм, любоў да краіны, яны таксама могуць быць вызначаныя грашыма. Ну, напрыклад, такім чынам. Чалавек не зьяжджае ў эміграцыю, няглледзячы на тое, што яму прапануюць большыя грошы, а працуе на радзіме. Таму, што ён тут патрэбны, таму, што ён любіць гэта. Вось гэта мера. І ўвогуле, грошы даюць магчымасьць абменьвацца самымі рознымі каштоўнасьцямі. Захоўваць каштоўнасьці. І вызначаць — што чаго каштуе.*



* * *

Напачатку 1990-х адзін знаёмы журналіст пазычаў ва ўсіх сяброў грошы, абяцаючы вялізныя працэнты. Кажуць, назьбіраў мільён даляраў, а можа, і больш. Хлапец быў вядомы, знаўся з мноствам народу, і яму давяралі. Пасьля ён раптам кудысьці прапаў. Адныя казалі, што зьбег з грашыма на другі край сьвету, другія пярэчылі — маўляў, гэты хлапец ня мог учыніць такой здрады, мы яго ведаем. Трэція гаварылі, што злавілі таго журналіста бандыты, грошы адабралі, а самога закапалі ў зямлю так, каб ані сьледу не засталося. Асабіста мяне ў гэтай гісторыі запыняюць адносіны атачэньня. Не кажу ўжо пра мэркантыльную незацікаўле-

насьць «падманутых укладчыкаў». З часу зьнікненьня журналіста мінула гадоў дзесяць, і ягоная гісторыя паступова забылася. Ніхто сур’ёзна не заняўся расьсьледаваньнем. Тут ня столькі да грошай абыякавасьць, Бог зь імі, з грашыма. А вось чалавек — быў, і няма. Зрэшты, можа, каму трэба — той ведае. Я думаю, што менавіта так усе і разважаюць. Мараль гэтай гісторыі ў тым, што калі й вы зоймецеся падобнай справай і некуды зьнікнеце, прападзеце, вас ня будуць шукаць. Гэта ўжо стала адзнакай нашага беларускага капіталізму — не шукаць зьніклых...

Прыблізна ў тыя ж часы пачатку 1990-х такой самай справай зьбіраньня грошай пад працэнты заняўся адзін паэт. Гэты за савецкім часам меў добрыя даходы і заўсёды ў сябе ў сваім хлебасольным доме прымаў гасьцей, усім дапамагаў. Словам, такі быў для ўсіх, як бацька. А настаў капіталізм, і спалохаўся паэт, што ня здолее выцягнуць сям’ю, застацца на той матэрыяльнай вышыні, якая калісь дазваляла яму быць такім вось усіхным бацькам. Нібы прорва пагрозьліва раскалолася пад нагамі. І чалавека як падмянілі. А тут яшчэ й фірма, куды ён тыя грошы пад працэнты разьмяшчаў, ляснула. Шэф фірмы, прыхапіўшы банк, уцёк за мяжу. І ўнурыўся паэт. Мусіў кожнаму свайму «кліенту» доўга тлумачыць, што здарылася. Можа, дзе ў Грузіі яму б і паверылі, але ня ў нас. У нас западозрылі, што ён тыя грошы прысвоіў. І адвярнуліся ад паэта. Тады паэт і зусім заціх і перастаў пісаць вершы. А шкада. І таму мараль гэтай гісторыі — для ўсіх падманутых



укладчыкаў. Усё ж такі сапраўдная высокая паэзія нашмат даражэй за вашую крыўду...

Трэці знаёмец быў празаікам. Узяў вялізную пазыку пад задуманы бізнэс, а бізнэс ягоны прагарэў. І крэдыторы ягоныя папаліся несэнтымэнтальныя. Таму мусіў празаік прадаць усё, што было ў яго і ягонай радні з рухомага і нерухомага майна. Засталіся ўсе ў чым стаялі. Але вось бяда — і гэтых грошай не хапіла на пакрыцьцё пазыкі. Тады сталі крэдыторы пагражаць празаіку сьмерцю. І мусіў ён уцячы ў іншую краіну і так глыбака схавацца там, што вось ужо шмат гадоў ніхто ў нас у Беларусі пра яго нічога ня ведае...

Усе гэтыя людзі належаць да майго пакаленьня, якое нясе найбольшыя выдаткі, аплочваючы капіталізацыю радзімы і станаўленьне нацыі па самым высокім рахунку, аддаючы за гэта хто жыцьцё, хто талент, а хто свабоду і славу.

этэр 11 жніўня 2002 г.

## Элвіс Прэсьлі

16 жніўня споўніцца 25 гадоў з дня сьмерці Элвіса Прэсьлі, слыннага караля рок-н-ролу, якім у нас, у Беларусі ніколі асабліва не захапляліся. Гэткі саладжавы, пешчаны і разбэшчаны сымбаль амэрыканскае мары і спажывецкага грамадзтва, у адным шэрагу з гамбургерам і бойфрэндам лялькі Барбі Кенам, Прэсьлі ніко-

лі ня быў кумірам ані ў нашых джазавых ці рокавых мэляманаў, ані ў людзей паспалітых, якія аддавалі перавагу Тому Джонсу і Магамаеву, Дзіну Рыду і Абадзінскаму. Прэсьлі не знаходзіў у нас сваёй нішы. Ён быў бунтаром, які зарабляў мільёны ў тыя часы, калі сапраўдны музычны бунт ва ўяўленьні нашых людзей яшчэ не абуржуазіўся, неператварыўся ў прыпудраны шоў-бізнэс. Можна было або верыць у рок-рэвалюцыю, або ў мяшчанскія ідэалы сытага бытнаваньня. Элвіс добра надаваўся да савецкіх карыкатураў на *іхны* буржуазны лад жыцьця — бяздумны і амаральны сьвет чыстагану. І мы, прызвычаеныя шукаць у такіх карыкатурах кантэкст, тут знаходзілі толькі карыкатуру, у якую і ператварыўся напрыканцы свайго нядоўгага жыцьця гэты тлусты, азызлы, дабіты наркотыкамі і сэксуальнымі вычварэнствамі рок-н-рольны кароль.

Тым ня менш, юбілейная дата, якая па ўсім сьвеце стала цяпер адной з галоўных тэмаў, наводзіць на нечаканыя супастаўленьні і адкрыцьці. Элвіс Прэсьлі — гэты брантазаўр рок-н-ролу — трывала асацыюецца з дабітлоўскай эпохай, з 1950-мі гадамі, за межы якіх ягоны вобраз не сягае. А тут раптам высьвятляецца, што памёр ён ажно ў 1977-м годзе. Зусім, так бы мовіць, нядаўна.

Мінула ўжо сем гадоў, як афіцыйна распаліся *The Beatles*, калі ўжо адыгралі свае лепшыя творы такія героі постбітлоўскае пары, як *Deep Purple*, *Led Zeppelin*, *Pink Floyd*, а Элвіс яшчэ жывы. Тры разы зьмянілася музычная мода, а ён, нібы ў паралельным сьвеце, ня толькі жыве, але й дае рэкордную наведвальнасьць на сваіх канцэртах. Той парою ў Менску ўжо гралі сотні, а па Беларусі тысячы гуртоў, якія хіба што з насьмешкай называлі сябе «вакальна-інструмэнтальнымі ансамблямі», ужо прамінулі самы пік свае славы «Песьняры», і менавіта ў 1977-м, увосені, ствараецца гурт «Сузор’е», той самы, зь якога, як кажуць, пачнецца гісторыя беларускага року. А Элвіс яшчэ жывы. Прычым па-ранейшаму ён самы папулярны і самы прадавальны музыка. Але ягоных песень ня граюць у Беларусі, мы папросту не зьвяртаем на яго ўвагі, іранізуем зь яго альбо нічога пра яго ня ведаем.



Акурат у 77-м мне даводзілася граць і сьпяваць у такім самадзейным гурце на менскім заводзе «Гарызонт». Чаго толькі мы ні выконвалі — і з *Deep Purple*, і з Сантаны, і свае песенькі на вершы Янкі Купалы. Праўда, Купалу — на конкурсах, са сцэны. А звычайна на танцах у рабочых інтэрнатах гралі рэпэртуар заходніх музыкаў. Пра Элвіса — ні слова, ні згадкі. Дыстанцыя недзе такая самая, як да рэпэртуару Льва Лешчанкі ці Кабзона.

Цяпер я думаю, што, можа быць, якраз у такі жнівеньскі вечар, калі мы на чатыры галасы раўлі «Smoke on the water» або выцягвалі пранікнёную «Black magic woman» у душнай, біткам забітай народам інтэрнатнай залі заводу футаралаў на менскім ускрайку, якраз у той самы момант славуты Элвіс казаў жонцы, што пасядзіць у прыбіральні, пачытае. А праз тры гадзіны яна знойдзе ягонае распухлае цела побач з унітазам каля абронена́й кнігі і зразумее,

што яго больш няма… Жыў грэшна і памёр сьмешна.

Не, не атрымаецца ў мяне ўспамінаў пра Элвіса. Хоць, шчыра кажучы, шкада. Але пра гэта крыху пазьней. Пакуль жа да каго я ні зьвяртаўся з нашых мэляманаў з прапановай паразважаць на тэму «Чаму я не люблю Элвіса Прэсьлі», у адказ атрымліваў адмову. А гэта, згадзіцеся, ужо інтрыгуе. Да рок-н-рольнага караля ставяцца ў лепшым выпадку абыякава. У горшым — згадваюць растлусьцелага біцюга ў залатых блёстках з саладжавым голасам, маўляў, што пра яго гавараць. Хіба толькі Зьміцер Бартосік пагадзіўся згадаць куміра нязлым ціхім словам, дый тое толькі таму, што яго самога часьцяком прымаюць за Элвісавага «двайніка».

*Зьміцер Бартосік:*

*Я ніколі ня быў фанатам Элвіса Прэсьлі. Ніколі не ўзьнікала жаданьня адпусьціць бакенбарды ці апрануць вастрамысыя чаравікі на высокіх абцасах. Для мяне, апалягета расейскай аўтарскай песьні, Прэсьлеў стыль быў цалкам чужы. Пляцкартны вагон выглядаў нашмат больш прывабна за ніколі ня бачаны лімузін. Грубай вязкі швэдар значна выйграваў у маіх вачах перад атлясным пінжаком. «Беламорканал» быў мацнейшы й сапраўднейшы за «Мальбара». А маскоўскія падваротні цікавейшыя за невядомыя хмарачосы. Невядомае шыкоўнае жыцьцё, якое сымбалізаваў Прэсьлі, у маіх вачах саступала таму суровому й мужчынскаму, якое ўвасабляў Высоцкі.*



*Але я выдатна памятаю той момант, калі й як я пачуў Элвіса Прэсьлі. Лета 1992-га. Я ў Вільні! Я ўжо амаль авалодаў гутарковай беларускай мовай, і ўжо пасьпеў закахацца ў старую сталіцу. Мой мозаг пераўзбуджаны ад уражаньняў, а зрок і слых абвостраныя. Ужо ня памятаю, чаго мяне занесла на стары віленскі рынак «Пад галяй». Але нэапалітанскую песьню ў выкананьні Прэсьлі я пачуў менавіта там. Я стаяў пасярод базарнага пылу й сквару і насалоджваўся вібрацыяй ягонага голасу. Тым больш, маёй ангельскай хапіла, каб зразумець адну фразу. «It's now or never». Зараз альбо ніколі. І менавіта зараз, у беларускамоўным тлуме гандлёвых радоў, мне раптам захацелася шыкоўнага жыцьця. Новага, беларускага, эўрапейскага. А гэта значыць, невядомага дагэтуль жыцьця. Я знайшоў той шапік, адкуль круцілі Прэсьлі, і набыў сабе касэту.*

*Праз месяц у маёй кішэні зьявіўся першы зароблены даляр. Праз год мой гардэроб папоўніўся белым плашчом і вастрамысымі чаравікамі. Яшчэ праз некаторы час я набыў аўтамабіль «Запарожац». А любімая касэта круцілася ўвесь час. І дома, і ў машыне. Калі я адпусьціў бакенбарды — і сам ня памятаю. І ў думках не было пераймаць караля рок-н-ролу. Памятаю, як, выходзячы зь нейкага менскага кабака, я ледзь разьмінуўся ў вузкіх дзьвярах зь нейкім спадаром «пад шафэ». Які пасьля хвіліны ўзіраньня ў мяне сказаў наступнае: «А, Элвіс? Ты яшчэ жыў?» «І паміраць не зьбіраюся», — аджартаваўся я.*

*Кожны выходзіць з дэпрэсіі па-свойму. Хто едзе на прыроду, хто знаходзіць паратунак у гарэлцы. Нехта абкладаецца кніжкамі. Мне ж дастаткова паставіць заезджаную касэту з нэапалітанскай песьняю. Каб на нейкі міг вярнуцца ў той падзабыты стан першаадкрывальніка. І дзе словы «зараз альбо ніколі» гучалі дэвізам. У той час, як большасьць марыла пра «ўчора» назаўжды.*

*Кожнага разу, як пачую альбо пабачу яго на экране, бярэ крыўда. Як жа яго не хапае. Беларускага мача ў залатым пінжаку, прыгажунамужчыны на ружовым лімузіне, улюбёнца кабетаў і маладзёвага куміра, нахабнага парушальніка канонаў і правілаў. Не хапае менавіта зараз. «Ніколі» ў нас ужо было...*

Раскладаючы Элвіса па палічках, я бачу, што складнікі ягонага скандальнага посьпеху ў Амэрыцы былі й застаюцца складнікамі ягонай паразы ў нас. У нас ня любяць эпатажу, а эпатажу за грошы — асабліва. У нас не прымаюць усялякіх адхіленьняў, напрыклад, ягонай гіпэртрафаванай любові да мамы або ягонай амаль жывёльнай сэксуальнасьці на публіцы. Амэрыканцы далі яму мянушку — *Elvis the Pelvis* (Элвіс-тазасьцёгнавы сустаў).

Па першым часе і ў Амэрыцы старэйшае пакаленьне абуралася ягонымі паводзінамі, што аўтаматычна рабіла яго папулярным сярод падлеткаў — з духу пярэчаньня бацькам. Таксама ня наша сытуацыя. У нас найчасьцей дзеці адмаўляюць куміраў сваіх бацькоў. І, відаць,



бацькоў гэта таксама падагравае ў іхных прыхільнасьцях.

Далей. Элвіс — усім наркаманам наркаман. І за гэта ў нас яшчэ не навучыліся любіць.

А вось за што палюбіць маглі б. Нягледзячы на посьпех і зробленыя ўжо мільёны, Прэсьлі ня стаў адмазвацца ад войска і праслужыў свае два гады. Але якраз гэтага факту зь ягонага аблічча і голасу не відаць.

А яшчэ Элвіс — імпэрскі герой. Нездарма ён гэтак добра прыжываецца ў расейскім грамадзтве. І раптам у ягоным іміджы зьяўляецца гэтая зусім расейская рыса, такая сабе разгуляй-цыганшчына. Але гэта таксама не пра нас.

Кім жа быў Элвіс Прэсьлі, што яго так любяць, нягледзячы на ўсе ягоныя непрывабнасьці? Крытыкі не без падставаў называюць яго бацькам усёй сучаснай музыкі, чалавекам, які паламаў бар'еры паміж музыкай белай і чорнай, музыкай для старэйшых і падлеткаў, паміж музыкай і бізнэсам, чалавекам, які адкрыў шлях *The Beatles* і ўсяму таму, што ішло зь імі і пасьля іх.

Ён з 1935 году. Гэта пакаленьне Караткевіча, Адамчыка, Барадуліна. Раўналеткі таксама Элвіс Прэсьлі і Ніл Гілевіч. Аднак цяжка ўявіць сабе, каб Гілевіч пісаў нешта пра Прэсьлі ў сваёй паэме «Родныя дзеці», а Прэсьлі сьпяваў песьню «А я лягу, прылягу». Зрэшты, наконт песьні — чаму б і не. Сьпявалі ж *Led Zeppelin* «Эмігранцкую песьню» Багдановіча. На гэтым прыкладзе добра відаць, што такое рознасьць культураў, а што такое выпадзеньне

з культуры. Пры ўсёй сваёй інакшасьці, культуры як такія ня мусяць адмаўляць магчымасьці перасячэньня. Яны могуць ніколі не перасячыся, але самой магчымасьці адмаўляць ня мусяць. Скажам, калі «NRM» грае песьню «Радзіма, мая дарагая» ў гард-рокавай ці там мэталічнай манеры, і песьня сапраўды гучыць, дык гэта толькі лішняе пацьверджаньне яе рэальнае каштоўнасьці. Граюць жа пахавальны марш Шапэна ў джазавай манеры, і гэта гучыць, сьпяваюць беларускія калядкі ў стылі Боба Марлея — і дадатковая энэргія зьяўляецца ў тых пракаветных творах. Зусім не зьдзівіла б зьяўленьне слухачоў Прэсьлі ў рамане «Чорны замак Альшанскі» Караткевіча ці ў вершах Барадуліна. Гэта і ёсьць магчымасьць перасячэньня культур. Бо існуе адзінства культуры ўвогуле.

Прэсьлі пражыў 42 гады. Небясьпечны, няшчасны і несьмяротны...

Ён пачаў у 1953-м. Посьпех прынесла песенька, зьвернутая да мамы...

«Мядовы голас», «чароўны паўднёвы акцэнт»... На сцэне ў яго левая нага б’ецца экстазнымі дрыжыкамі, вось ён пераломваецца напалам, адкідаючыся назад. Публіка раве і стогне. У прэсе пішуць, што ён — мера падзеньня амэрыканскага густу і нават — опіюм для народу. Моладзь любіць у ім незацугляную вольніцу, жанчыны сьняць ягоныя вочы чорныя... Проста расейшчына нейкая. Прычым з Амэрыкі яна распаўзаецца па ўсім сьвеце, упарта абмінаючы маленькую сінявокую краіну на ўсходзе Эўропы.



Кажуць, у войску ён быў спраўным салдатам, але клопату рабіла ягоная пошта — 15 тысяч лістоў за дзень ад закаханых прыхільніц, некаторыя зь якіх, дарэчы, скончылі самагубствам, прыносячы сваё жыцьцё ў ахвяру яму. І ня толькі дзяўчынкі. Недзе ў Лівэрпулі быў страсна ўлюбёны ў Элвіса Джон Ленан.

Элвіс і *The Beatles* сустрэліся ў 1965-м. Маладыя куміры завіталі дахаты да старога караля, якому, дарэчы, споўнілася тады 30 гадоў. Джон Ленан напіша пра тую сустрэчу ўспаміны. Размова ня клеілася, пакуль усім не раздалі інструмэнты. І пасьля гэтага ўсе разам музыкавалі да паўночы. З тых мэмуараў паходзіць і знакамітае выказваньне Ленана пра Прэсьлі: калі б не было яго, не было б нічога.

Дасьледнікі прэпаруюць ня толькі талент, але і кроў Прэсьлі. Ня тую, у якой пасьля ягонае сьмерці знайшлі ці то 14, ці то 16 відаў наркатычных рэчываў, а тую, што складалася генэалягічна. Сёлета на фэстывалі гэбрайскіх фільмаў у Таронта паказалі фільм пад назвай «Шмэлвіс: у пошуках гэбрайскіх каранёў караля рок-н-ролу». Гэта імпрэсарыё Элвіса пад псэўданімам Шмэлвіс сьцьвярджае, што Элвіс Арон Прэсьлі быў гэбраем.

Насамрэч гэбрайкай была прабабка Элвіса. Апроч яе крыві, у ягоных жылах была намяшаная індзейская, ірляндзкая ды бог ведае, якая яшчэ. Але для беларускіх аматараў генэалёгіі караля, калі б такія знайшліся, менавіта гэты, гэбрайскі сьлед, мог бы быць карысным. Ня йначай, прывёў бы ён прасьцяком у Бабруйск, як тое было ўжо не з адной сусьветнай зна-

камітасьцю. Дарэчы, мэнэджэр сьпевака Том Паркер кажа, што раіў яму не казаць пра свае карані, аднак Прэсьлі наадварот, заўсёды падкрэсьліваў сваё гэбрайства.

Магчыма, гэта кожная кроў сьпявала ў ім сваю песьню асобна. Бо Прэсьлі вельмі розны — неўтаймоўны і затарможаны, сур'ёзны і шалапутны, разьняволена блюзавы і афіцыёзна гімнавы.

Вось жа, нягледзячы на тое, што ў любым маралітэ гэта быў бы адмоўны герой з поўным наборам адмоўнасьцяў, Элвіс застаецца самым папулярным сьпеваком усіх часоў і народаў. І нягледзячы на тое, што ён, як кажуць, усяго толькі ў патрэбны час і ў патрэбным месцы падвярнуўся пад руку прад'юсэру, які шукаў белага хлопца, які сьпяваў бы «чорныя» песьні, нягледзячы на ўсё гэта, Прэсьлі застаецца самым рэйтынгавым сьпеваком у сьвеце.

Песенька называецца «A little less conversation». Яна 18 разоў перамагла ў брытанскіх чартах. Гэта рэкорд. Голас Прэсьлі тут крыху аддае нэкрафільствам, бо ў новай апрацоўцы ён гучыць як архіўны дакумэнт, як нежывы. Тым ня менш, такая музыка прыносіць прыбыткі тым, хто прадае яе спажывецкаму грамадзтву.

Пры ўсім гэтым падобныя песьні сьведчаць, што сьвет не стаіць на месцы. Элвіс, натуральна, жывы. Хоць нам, беларусам, наўрад ці ўжо будзе магчымасьць аджывіцца на элвісаманіі. Затое, бясспрэчна, што рок-н-рольны кароль трывала ўпісаў сябе ў падручнікі гісторыі сусьветнай культуры. У тым ліку і ў тыя, што выйдуць некалі па-беларуску.



этэр 18 жніўня 2002 г.

## «Крывавае сьвята»

Мінула ўжо тры гады пасьля трагедыі на Нямізе, калі ў цісканіне пераходу мэтро загінула паўсотні чалавек, а тая падзея ўсё нагадвае пра сябе — судовымі працэсамі, мэмарыяльным знакам, сьвежасьцю пачуцьцяў... Мінула ўсяго тры гады ад таго апошняга дня вясны, і кожны наступны быў пазначаны нібы паўтарэньнем, як назваў яго Алесь Памідораў, «крывавага сьвята». Пад нагамі шматлюднага вясельля ў Ерусаліме абрушваецца падлога. Яшчэ праз год у горным тунэлі ў Альпах трапляе ў пастку цэлы фунікулёр народу. Нарэшце, сёлета ў Львове на авіяцыйным сьвяце аграмадны вайсковы самалёт падае ў самы натоўп гледачоў. Наша Няміга, быццам пушчаны па вадзе каменьчык, ляціць і ляціць, зачапляючы паверхню людзтва то там, то там...

Усе гэтыя падзеі аб'ядноўвае тое, што ім няма адэкватнага вытлумачэньня. Натуральна, адбываюцца суды, знаходзяцца вінаватыя, у паперах усё сяк-так згарушчваецца пад закрыцьцё справы, але нібы сонечны блік, ці выпадковая кропля дажджу, ці яшчэ нешта такое самае, амаль ненамацвальнае ды ілюзорнае застаецца ў пратаколах і дражніць сваёй абсурднай неадпаведнасьцю. Як з той Нямігай, якую як ні тлумач, усё адно застанецца прычынаю летні дождж.

Пір у часе чумы — добра вядомая сусьветнай культуры тэма. Яе процілегласьць — чума ў

часе піру, тое, пра што мы й гаворым сёньня, — часьцей адбываецца не ў мастацтве, а ў жыцьці, якое на хвіліну абірае сабе жанр містычнага трылеру і заварожвае сваім абсурдам ды жорсткасьцю.

Знаходзяцца тлумачэньні і войнам, і прыродным катаклізмам, і генацыду. Нават бязглуздым бойкам футбольных заўзятараў можна адшукаць рэзюмэ. Такія тлумачэньні лічацца адэкватнымі. А тут, у гэтым кантрасьце сьвята і жахлівае сьмерці, любыя тлумачэньні выглядаюць неадпаведнымі. Гэта значыць, не замiраюць нас з тым, што здарылася, і з самімі сабою, не супакойваюць або не надзяляюць новым жыцьцёвым досьведам. Ну, што там... летні дождж ці тое, што падлога абвалілася, ці пантон ня вытрываў... Гэта ўжо літаратура — жыцьцё паралельнае ўмяшалася ў жыцьцё звыклае.

Нездарма вакол такіх катаклізмаў заўсёды шмат чутак і веры ў ненатуральныя сілы. Містычны вэлюм вакол кожнага «крывавага сьвята» іншы раз схіляе да думкі, што якраз жыцьцё твае ўласнае душы спрычыняецца да таго здарэньня. Прынамсі, душы прасьцей, чым розуму, дашукацца прымірэнчага адказу на пытаньне — чаму ж тое адбылося.

Трагедыя ў Ерусаліме не была зьвязаная з тэрарызмам або арабска-ізраільскім канфліктам. У вясельлі ў палацы «Вэрсаль» бралі ўдзел больш за 600 чалавек. Калі ўвесь гэты натоўп устаў з-за сталоў, каб танцаваць, пад ім імгненна і бясшумна абвалілася падлога. На відэастужцы бачна, як усё адбываецца менш, чым за



сэкунду. Усё раптам памкнула ўніз — сталы з пачастункам, крэслы, людзі. Пасьля кадар перакрываецца клубам пылу, і толькі пасьля гэтага чуеш страшэнны грукат і галас.

Журналісты ахрысьцілі тое, што адбылося, «крывавым вясельлем». Людзі сьвяткавалі на трэцім паверсе чатырохпавярховага будынку. Абрынутае вясельле прабіла перакрыцьці астатніх паверхаў і з 18-мэтровае вышыні ўвалілася ў падземны гараж. Напрыканцы гэта было ўжо суцэльнае месіва зь людзей, бэтонных плітаў і мэталёвых канструкцыяў. Здарэньне ацэненае, як самая вялікая за ўсю гісторыю Ізраілю цывільная катастрофа.

Быў, натуральна, суд. Доўгае разьбіральніцтва. Кагосьці пакаралі. Але тэма не закрытая і, мабыць, ня будзе закрытая ніколі. Здарэньне адбылося за сэкунды, а час высьвятленьня прычынаў, як заўсёды ў такіх невытлумачальных выпадках, гатовы расьцягнуцца ў вечнасьць.

Гэтаксама за некалькі хвілін, амаль імгненна, згарэлі ўсе пасажыры функулёра ў аўстрыйскіх Альпах. Невытлумачальны парадокс гэтай гісторыі ў тым, што тунэль быў абсталяваны самай сучаснай тэхнікай, што цягнік быў агнястойкі, але пры гэтым у ахвяраў не было аніякіх шанцаў на выратаваньне.

Трагедыя адбылася на курорце Капрун. Тут мора турыстаў, і галоўная небясьпека — сыход сьнежных лявінаў. Таго, што адбылося, ніхто ня мог і дапусьціць. Сьведкі кажуць, што функулёр увайшоў у чатырохкілямэтровы тунэль, калі ў першых вагонах ужо зьявіліся

языкі полымя. Некалькі чалавек у апошніх вагонах пасьпелі разьбіць вакно і выскачыць вонкі. Тым часам цягнік прайшоў па тунэлі яшчэ 600 мэтраў, і тут пачалося вогненнае пекла.

Тунэль уяўляе сабою трубу, што ўздымаецца па горнай строме. Якая ж была цяга ў гэтым вялізным коміне! Цягнік згарэў за некалькі хвілін. Да таго ж строі гарналыжнікаў бароняць ад холаду, але не ад агню. Яны, наадварот, згараюць імгненна. Таму разрозьніць парэшткі 155 чалавек у тым, што засталося ад цягніка, экспэртам было няпроста. Падобна ерусалімскай, капрунскую катастрофу назвалі самай страшнай у Аўстрыі за ўвесь пасьляваенны час.

І тут быў суд. І тут знайшлі вінаватых. Не знайшлі толькі дастатковага адказу на пытаньне — чаму ўсё гэта адбылося. Як і ў ранейшых, і ў наступных выпадках, пытаньне пра прычыны тут ператварылася ў рытарычнае.

Магчыма, сам чалавечы розум упіраецца тут у межы пазнаньня? Крымінальны кодэкс не апэруе ірацыянальнымі або містычнымі сьведчаньнямі. Напрыклад, суд ніколі ня возьме пад увагу, што менская трагедыя адбылася на Тройцу і на вачах сьвятога абраза, павешанага на фасад катэдральнага сабору, або што ў тым месяцы была некалі гістарычная бітва на Нямізе. Гэтаксама, як ерусалімскі суд ня стане разглядаць парадокс сытуацыі — вясельле было нагэтулькі вясёлае, што, калі крайнасьці сапраўды змыкаюцца, сьмерць была нагэтулькі ж страшная. І аўстрыйскі суд ня зьверне ўвагі на



парадокс халоднага сьвята і гарачае сьмерці. Рэч у тым, што крымінальны кодэкс (як і права ў цэлым) мала зьмяніўся па сутнасьці за ўсю гісторыю чалавецтва. Тым часам магчымасьці чалавечага *ratio* вычарпаныя, і жыцьцё настойліва падказвае, што альбо трэба браць пад увагу таксама ірацыянальныя матывы, альбо зьмірыцца са сваёй біялягічнай недасканаласьцю і трываць «крывавыя сьвяты» далей.

Яшчэ адна выснова са згаданае чарады здарэньняў — самая простая. Сьмерць у часе сьвята недарэчная і раптоўная, бо якраз на сьвята чалавек найбольш не гатовы да ўратаваньня. Цікава, што, да прыкладу, расейскае слова перадае такі стан больш дакладна. Наша «сьвята» — ад сьвятога, што якраз патрабуе пэўнай унутранай засяроджанасьці, а расейскі «праздник» — ад «праздности», незанятасьці, расслабленасьці, парожнасьці.

Сьвяточныя людзі — яны расслабленыя, яны распусьцілі сваю асьцярогу ва ўражаньнях ад канцэрту ці ў прадчуваньні галавакружнага спуску на лыжах з гары. Іх можна браць голымі рукамі. Яны — як дзеці…

Дзеці былі ці не галоўнымі ўдзельнікамі авіяцыйнага сьвята на львоўскім авіяшоў. Дзеці паказвалі дарослым канцэрт.

Там, на аэрадроме Скленіў, сабралася дзесяць тысячаў гледачоў. 70 зь іх — апошні раз. І сярод ахвяраў шмат дзяцей. Вось хто прыйшоў сюды назіраць беспадобнае шоў, калі забываесься сам на сябе пры выглядзе магутных вайсковых летакоў, падобных да ракетаў, калі перамыкае дыханьне ад паветраных віражоў.

Мабыць, захапленьне тое, калі вялізны лятак зусім блізка чапануў крылом дрэвы, толькі нарастала. А калі ён яшчэ й даўся аб зямлю, перавярнуўся і ляціць у твой бок хвастом наперад… Тут мусіць быць момант, калі прыгажосьць павінна ператварыцца ў даўкае такое адчуваньне таго, што нешта ня так. Мабыць, пасьля таго, як лётчыкі катапультаваліся, прыгажун-лятак і стаў выглядаць бясконца недарэчна, сьмяротна непрыгожа. Гэта можна было толькі хуценька, імгненна адчуць, але ніяк не ўсьвядоміць, бо ў наступны момант для назіральнікаў усё скончылася, быццам нехта выключыў сьвятло. Лятак урэзаўся ў самую гушчэчу сьвяточнага натоўпу, і неверагодны выбух страсянуў паветра.

І тут выказваюць дзясяткі тлумачэньняў, але ніводнае не ўспрымаецца, як адэкватнае.

Крывавае сьвята не залежыць ад палітычнага рэжыму, які пануе ў краіне. Перавернутая формула піру ў часе чумы — чума ў часе піру — тут па-над уладай.

Трагедыі забываюць… Адзін знаёмы гісторык патлумачыў гэта тым, што ёсьць рэчы, пра якія лепей забыць, ня ведаць. Прыблізна гэтак, як у вёсцы малым дзецям не паказваюць дзяльбу кабанчыка. Маўляў, недасканалы сьвет. Рацыя, але гэта ўсьвядомлены намі недасканалы сьвет нас саміх, а не сустрэчы з стыхіяй. Яшчэ кажуць, не хадзі туды, дзе будзе натоўп. Але дзе ж ты ўберажэсься, калі такі шэраг засьцярогаў можна працягваць бясконца, як усё жыцьцё — не хадзі на вясельле, не гуляй па людных вуліцах, не катайся на лыжах…



На маю думку, мы якраз мусім супастаўляць прыкметы такіх здарэньняў, шукаць агульнае, каб, нягледзячы ні на што, ісьці да адэкватнага вытлумачэньня. А агульнага шмат, прычым кола супадзеньня досыць вузкае. Ужо згаданых сёньня выпадкаў дастаткова, каб пералічваць чыньнікі. Усе здарэньні адбыліся ў атмасфэры сьвята, вясельля і весялосьці. Чума ў часе піру. І кожнага разу, чым большы быў пір, тым страшнейшая чума. Паўсюль фігуруе мост, пераход. Памост быў і ў Ерусаліме — той, што абваліўся. І альпійскі выпадак зьвязаны мэтафарычна з мастом. Бо тунэль — гэта і ёсьць мост, толькі вывернуты на знаніцу. У менскім выпадку фігуруе Палац спорту — адбывалася недалёка ад яго, са спортам так ці інакш зьвязаныя і альпійскі, і львоўскі выпадкі. А яшчэ паўсюль была музыка, канцэрт. І ў Менску, і ў Ерусаліме, і ў Склініве.

Зрэшты, самымі галоўнымі прыкметамі бяды аказаліся ў мяне самыя галоўныя зьнешнія прыкметы чалавечае радасьці і шчасьця. Музыка, спорт, сьвята. Быццам спроба стварыць сабе адчуваньне раю на зямлі кожнага разу прыводзіла да паўставаньня зямнога пекла.

Ёсьць і яшчэ адно падабенства — зусім матэматычнае. Паўсюль загінула падобная колькасьць людзей.

З гісторыі Беларусі ўдалося прыгадаць толькі адзін падобны выпадак. Гэта карнавальная ноч 3 студзеня 1946 году, калі ў Менску ў будынку на пляцы Волі загінула мноства моладзі. Натуральна, бывалі ў нас і не такія катастро-

фы — да прыкладу, на радыёзаводзе, або сутыкненьне цягнікоў каля Заслаўя. Але я не пра тое. Там колькасьць палеглых на парадак большая, і — галоўнае — там не было сьвята, як у часе трагедыі на Нямізе або ў карнавальную ноч 1946-га. Як заўважыў дасьледнік пасьляваеннай трагедыі Зьміцер Падбярэскі, вокны таго будынку дагэтуль глядзяць на пераход станцыі мэтро «Няміга». Такім чынам, «крывавае сьвята» ў беларускай гісторыі ёсьць з чым параўноўваць.

А для таго, каб параўноўваць, трэба памятаць. На маю думку, найлепшая памяць пра такія здарэньні — гэта думаньне пра іх і няспынны пошук іхных прычынаў. Можа быць, такія невытлумачальныя катаклізмы і даюцца людзям, каб яны ўрэшце дамагаліся іх вытлумачэньня і пашыралі непарушныя межы чалавечага пазнаньня.

этэр 1 верасьня 2002 г.

## Алесь Адамовіч

Алесь Адамовіч ані зьнешне, ані ўнутрана не ўяўляецца вэтэранам вайны, колішнім юным савецкім партызанам, якім насамрэч быў. Не ўяўляецца ён сярод тых сівых пераможцаў, грудзі ў мэдалях, што зьбіраліся на свае партызанскія сустрэчы праз шмат гадоў пасьля перамогі дзе-небудзь у лесе — з музыкай, паходнай кухняй і звонкімі віншаваньнямі ад піянэрыі.



А паспрабуеш уявіць, убачыш дысананс — што робіць гэты літаратар, які піша рэабілітацыйныя тэксты пра наццэма Гарэцкага (яўна не бяз каверзы чалавек), што ён робіць сярод правільных дзядуляў, так падобных міжсобку нават выразам вачэй. А, настроіўшыся на душэўны матыў вэтэранаў, і наагул адчуеш раптам, як сама сабою складзецца выснова: ня наш чалавек.

Натуральна, не пра адных наццэмаў думаў і пісаў Адамовіч. Якраз мінулая вайна займае ў ягонай творчасьці галоўнае месца. Але й гэтыя аповесьці, як сказалі б вэтэраны, ня нашы, не пра тое, не пра нас. Найбольш актыўныя партызаны гнеўна патрабавалі *такога* пра вайну — не друкаваць!

Людзі савецкія не рабіліся ў прозе Адамовіча нейкімі адмысловымі запамінальнымі тыпажамі. Псыхалёгія «нашага» чалавека ў яго ня толькі пазнавальная, але й прадказальная. Найчасьцей аўтару дастаткова некалькіх рысаў, каб абазначыць тып ці то старога партызана, ці то дзяўчыны-падлетка, ці нечай жонкі, маці і г.д. Тут ад пачатку ёсьць завершанасьць вобразу. Нічога новага сказаць немагчыма. Іншая рэч — немцы, цэлае прадоньне ўнутраных матывацыяў, і ніколі ня ведаеш, якім чынам будзе разьвівацца ў яго думка або пачуцьцё.

Скажам, калі Быкаў найперш «нашым» людзям аддае свой асабісты псыхалягічны палігон, свае розум і душу пазычае найперш ахвярам, дык Адамовіч пазычаецца карнікам, забойцам і немцам. І чым вышэйшы ў ярархіі той

немец, тым Адамовічу цікавей яго дасьледаваць. І тым больш парадоксаў адбываецца ўсярэдзіне такога чалавека. А што за цікавасьць атаясамлівацца зь якім Васіліем Цёркіным — зборным, уніфікаваным, трафарэтным вобразам удалага расейскага салдата.

Чым прасьцейшая выява, тым лягчэй зрабіць зь яе трафарэт, і тым болей надаецца яна да тыражаваньня. Адсюль і таталітарызм, які магчымы толькі ў спрошчаным жыцьці, дзе найменшая варыянтнасьць разбурае ўсё.

Славянскі плякатны тып у нас малявалі, бадай, ніяк ня менш, чым арыйскіх плякатных ваякаў у Нямеччыне. Пісьменьнік-раманіст займаўся тым самым, што і плякатысты, толькі наратыўная частка ў яго была пашыраная. Сёньня ўжо, відаць, ніхто ня зьлічыць, колькі тонаў такой вось макулятуры напладзілі савецкія, у тым ліку і беларускія пісьменьнікі. Што да Адамовіча, дык ён, бадай, з малых гадоў пачуваўся нейкім вывертам з усёй гэтай схемы. Пасьля на зьмену юначаму духу пярэчаньня прыйшла філялягічная культура, і ўжо яна не дазваляла пісаць плякатаў. Адштурхоўваючыся, нават падсьведама, ад савецкай дыдактыкі, ён аўтаматычна трапляў на другі бок лініі фронту — да карнікаў, да Фрыца-нямка, да Гітлера. Зрэшты, сам аўтар прызнаецца, што рабіў саступкі савецкай цэнзуры, зьмяняючы ва ўгоду ёй партрэты і лёсы сваіх рэальных пэрсанажаў. Але гэта былі выключэньні.

Не, не маглі Адамовіча цікавіць іпастасі савецкага салдата-пераможцы, бесшабашнага і прастакаватага да прымітыву. Тым больш, што



пісьменьнік з уласнага жыцьцёвага досьведу ведаў цану тых плякатных перамогаў і з асаблівай упартасьцю дакопваўся да схаваных у памяці і ў архівах фактаў. Такіх, як факты спаленьня беларускіх вёсак разам з жыхарамі, што ўчынялі асобыя атрады, чэкісты. Ды й самы трагізм «нашага» чалавека на тле сусьветнага літаратурнага досьведу выглядаў спрошчана. Вось у немца што ў душы, ці ў карніка — там цэлы Дастаеўскі. Натуральна, пісьменьнік нідзе не сыходзіць з абранай гуманістычнай пазыцыі, за што і атрымлівае ад былых паплечнікаў таўро «абстрактнага гуманіста».

Абстрактны дык абстрактны — пагаджаецца Адамовіч. Унівэрсальны — больш дакладнае азначэньне. Гэта значыць, што зьверствы савецкіх партызанаў нічым ня лепшыя за зьверствы фашыстаў, і ніхто ня мае права іх замоўчваць, як гэта робяць гуманісты канкрэтныя, выбарачныя. Як, да прыкладу, вось у гэтай гісторыі, што мела месца ў рэальнасьці:

«Праз паўгоду большасьць з глушанскіх падпольшчыкаў пайшлі ў лес, у партызаны, і ў гэтую ж ноч з 3 на 4 сакавіка 1943 году партызаны павялі з сабой, выкраўшы ў немцаў з-пад носу (як зімой ваўкі сабаку выкрадваюць ад самага парога гаспадара), усю паліцыю. Іх пагналі кудысьці асобна ад нашага абозу, а калі наляцелі нямецкія самалёты і ўзяліся нас бамбіць, паліцэйскіх зачынілі ў нейкім хляве, каб не разьбегліся. Але адтуль яны так і ня выйшлі, і толькі потым мы пачулі, што адбылося: ляжалі там дровы, і камусьці з начальнікаў аховы прыйшла ідэя — няхай самі кан-

чаюць сябе. Сказалі паліцэйскім: «22 — гэта перабор, далей павядзём толькі палавіну, самі вось гэтым (паленьнем) вырашайце, каму жыць, а каму не». Слухалі празь сьцены, як унутры гэта адбывалася, а потым зайшлі і перастралялі «пераможцаў турніру» (так гэта называлі зь нядобрым сьмехам)».

Ну, каму б гэта з вэтэранаў спадабалася ўспамінаць такое. Асабліва, калі сам пра гэта ведае, і яшчэ больш асабліва — калі сам у падобным удзельнічаў. Якія з такіх успамінаў атрымаюцца «ўрокі міру», і як у вочы глядзець звонкагалосай піянэры? Зь іншага боку, а чаму з гэтага трэба рабіць тайну? Гэта ж ня змус нейкі, гэта ж самі савецкія партызаны той турнір прыдумалі й наладзілі. Але гэта ўжо Адамовічава лёгіка, абстрактны гуманізм.

Адамовіч парушаў лінію кола, намаляванага вакол савецкага пісьменьніка, выходзіць за якую было непажадана, падазрона, злачынна. На цкаваньне літаратара паўсталі не асобы, паўстаў сам савецкі прымітывізм.

Між іншым, гэты тэрмін абазначыў ня толькі літаратуру сацрэалізму, але й самое савецкае жыцьцё. Мы яшчэ не разглядалі гэтых зьяваў ва ўзаемазалежнасьці. Насамрэч літаратура — убогая, хлусьлівая, прымітыўная — адлюстроўвала такое самае ўбогае і прымітыўнае жыцьцё. Найперш сацрэалізм быў у жыцьці. Ён адбіваўся ў літаратуры і зноў вяртаўся ў жыцьцё, тыражуючы тыя стэрэатыпы, якіх з гэтага ж жыцьця і набраўся. Заўважце, як сёньня з пагардаю гаворым мы пра сацрэалізм, быццам на яго імкнемся перакінуць увесь той



прымітыў, тым часам сваё ж сацрэалістычнае жыцьцё пакідаем сабе як нешта сьветлае, бо гэта ж была наша маладосьць… Але гэта — усяго толькі падманлівы эфэкт нашае памяці.

Груба кажучы, савецкіх людзей можна было падзяліць на некалькі зусім простых тыпаў — маці і бацька, дзеці, бабуля і дзядуля, начальнік, вучоны кабінэтны і камандзіровачны, артыст. У дасканаласьці сацрэалізму ўсё зводзілася да падзелу наагул на два тыпы: добры і дрэнны. І абодва былі пазнавальныя зь першага погляду і зразумелыя да неглыбокага свайго дна. Што тут можна было адкапаць псыхолягу, інжынэру чалавечых душаў?

Сёньня мы спакваля адыходзім ад гэткага спрашчэньня. Зьявілася тое, чаго не магло быць за саветамі — унікальнасьць канкрэтна ўзятага чалавека. Ягоная неспазнавальнасьць зь першага погляду. Вось бярэцца, скажам, сто выпадковых менчукоў — і кожны іншы, нетыповы, не такі, а каб зразумець, які — двума пытаньнямі не абыдзесься.

Кульмінацыя сацрэалізму, ці, дакладней, сацпрымітывізму была найлепей адпрацаваная ў кітайскіх камуністычных турмах, дзе стаяла задача ня толькі зрабіць усіх аднолькавымі, але… мэтад называўся — ператварэньне чалавека ў жабу. Чалавека садзілі ў глыбокую закрытую яміну з жабамі, і з часам ён забываўся, як выглядае неба, і што на сьвеце ўвогуле нешта ёсьць, акрамя гэтых самых жабаў. Урэшце, ён і сябе пачынаў атаясамліваць зь імі. Гэтак прымітывізацыя даводзілася да абсалюту. Верагодна, у Савецкім Саюзе настолькі акрэсь-

ленай і доўгатэрміновай мэты ня ставілі, але якімі б іншымі мэтамі гарманічнага разьвіцьця ні прыкрывалася ідэалёгія, відавочна тое, што ўся савецкая гісторыя была гісторыяй прымітывізацыі чалавека, вяртаньня яго да больш простага віду. І ў гэтым сэнсе камунізм быў адваротнай эвалюцыяй.

Перастройка сталася вяртаньнем на эвалюцыйны шлях. На нашым канцы сьвету адбыўся зрух да чалавечае разнастайнасьці. А да таго, у савецкі час, галоўным полем прымітывізацыі і супраціву ёй была расейская культура. Там, як выглядала, вяршыліся лёсы сьвету. І туды цягнуўся Адамовіч, прагны да непасрэднага ўдзелу ў гэтых самых важных, як выглядала, працэсах. Непасрэднага — гэта значыць, безь перакладу.

У Адамовіча крок да чалавечае разнастайнасьці быў крокам ад плякатнага савецкага партызана — у процілеглы бок — да карніка, які паліў беларускія вёскі разам зь людзьмі. Гэта быў крок пісьменьніка. У 1980-м наш абстрактны або ўнівэрсальны гуманіст ня мог яшчэ і пальцам крануць хлусьлівы плякат, затое мог усю сілу свайго псыхалягічнага аналізу перакінуць на паліцая, на немца, на ворага. Так зьявіліся «Карнікі» — можа быць, самы папулярны і чытаны твор Адамовіча. Чытач мусіў сьледам за аўтарам зрабіць крок да чалавечае разнастайнасьці і нават прымерыць сьледам за ім тыя душы да сябе. Падобна, што менавіта такі эфэкт ад кнігі і атрымаўся. Людзі моцна задумаліся…



*Зьміцер Бартосік:*

*Лета 1987-га. Разгар перабудовы. Чытва — мора. Я працую шліфоўшчыкам на гомельскім заводзе станочных вузлоў, чакаю прызыву ў войска і чытаю. Што такое станочныя вузлы, я ня ведаю й дагэтуль. А вось адамовіцкія «Карнікі» не забываюцца. Пачытаць іх параіў мне бацька. Маўляў, пачытай, сынок, добрую беларускую кніжку. Ні ў якой іншай літаратуры такога ты не прачытаеш.*

*І неяк, перад сном, адрабіўшы другую зьмену, я, каб хутчэй заснуць, разгарнуў гэтую беларускую кніжку пра вайнушку. Яшчэ не разумеючы, якую пастку падрыхтаваў мне аўтар — інтэлігентны дзядзечка ў акулярах, які цёпла пазіраў са здымка.*

*У тую першую ноч я адолеў толькі разьдзел, дзе апісваліся трызьненьні Гітлера. Насалодзіўшыся аўтарскай фантазіяй, што перанесла мяне ў апартамэнты фюрэра, ды паспачуваўшы людажэру й ворагу маёй савецкай радзімы, я спакойна заснуў. Пакінуўшы прыемнае чытво на наступныя ночы.*

*І наступнай ноччу, пасьля плённай працы ды сытнае вячэры, я ў ложку разгарнуў адамовіцкі том, як разгортваюць дэсэртны дэтэктыў. А страшнага Гітлера ўжо не было. Пайшлі беларускія пасёлкі на шляху ў колішніх украінскіх рабацяг, колішніх афіцэраў савецкай арміі ды іхных нямецкіх паплечнікаў-камісараў. Пачаліся забітыя людзьмі, спаленыя зрубы, у якіх трупы працягвалі стаяць. Пачаліся карціны лягераў, дзе чырвоныя камандзіры елі трупы сваіх баявых таварышаў.*

*Пачаўся салодкі дым ад спаленага чалавечага мяса. Пачаліся больш чым пераканаўчыя доказы, што чалавек ня ведае сваіх д'ябальскіх здольнасьцяў. І няма той мяжы, да якой можна апусьціцца. У тым ліку й табе. Васямнаццацігадоваму шчанюку-камсамольцу, які нахабна думае, што сьвет створаны адмыслова дзеля ўвасабленьня ягоных мараў. Шчанюку, у параўнаньні зь якім, пры пэўных абставінах, і дзядуля Гітлер выглядаў бы райхстагскім летуценьнікам.*

*Наступнай ноччу я ўжо браў страшную кнігу з павагаю, разгортваў павольна. Як дзеці разгортваюць страшныя казкі. Гэтым разам я пазнаёміўся з Тупігам. Трыццацігадовым днепрапятроўцам, шарагоўцам карнага батальёну Мельнічэнкі, маўклівым бамбізам, які не здымаў шыняля нават у самую сьпёку. І працаваў. Ня п'янстваваў з аднапалчанамі, ня зьверстваваў попусту й без патрэбы. А менавіта працаваў. І аўтар даў мне напоўніцу пакаштаваць тае працы. Асабліва ў сцэне ліквідацыі ўсёй вёскі, што сабралася ў адной хаце. Тупіга, калі хто забыўся на зьмест, паспрачаўся з калегам, што пакладзе ўсіх адным дыскам. Як прафэсіянал, ён не любіў марнаваць патроны. І, зайшоўшы ў забітую людзьмі хату, вёў зь сялянамі пустую размову, сам у гэты час выбіраючы найбольш зручнае месца для агню. Каб націснуць на курок у самы нечаканы момант, і першымі пад кулі патрапілі дзеці на печцы.*

*За ўвесь час чытаньня «Карнікаў» я не прысьніў ніводнага кашмару. Але сам таго не жадаючы, я пачынаў паважаць Тупігу. Сярод астатніх герояў раману — паўп'яных сьмярдзючых хахлоў, якія рабілі з забойства цяжарных жанчын забаву, інтэлігентнага масквічаафіцэрыка, заклапочанага пошукамі апраўданьня сваім дзеяньням, эсэсаўцаў, што ня бачылі ў тутэйшых людзях людзей, толькі Тупіга выглядаў чалавекам, які ведаў цану ім усім. Чалавекам, які ў прапанаваных умовах жыцьця й сьмерці зрабіў свой выбар сьвядома. І жыў, і працаваў згодна са сваім выбарам. Безь непатрэбнага енчаньня.*

*Ад моманту прачытаньня я яшчэ доўгі час ня мог пазбавіцца ад таго Тупігі. Ува мне раптам зьявілася ягоная спакойная ўпэўненасьць. Быццам і мне, які ніколі ў сваім жыцьці не забіваў, вядомае тое пачуцьцё, што дорыць чалавеку кулямёт і права навесьці ягоную рулю на іншых. І апранаючы штодня цяжкія кірзовыя боты ды брудны халат, і павольна ідучы штодня па залітым сонцам заводзкім двары, і пазіраючы на свой цень, я бачыў на зямлі адбітак Тупігі ў шынялі.*

*А майстар быў незадаволены маімі спазьненьнямі. І начальнік цэху быў таксама нечым абураны. А калегі па працы дазвалялі сабе жарты на мой адрас. І ніхто зь іх ня мог даўмецца, чаму я такі спакойны і абыякавы. Быццам мяне зусім не хвалюе месячная прэмія з трынаццатай зарплатай. Я глядзеў на іх вачыма адамовіцкага героя, і мяне сапраўды абсалютна не хвалявала тое, што ім здавалася жыцьцёва важным...*

*Да Тупігі я вярнуўся пасьля войска, падчас*

*няўдалай спробы паступіць у маскоўскі ВГІК на акторскі курс Джыгарханяна ды Філозава. Спазьніўшыся на першыя туры, я меў намер зачараваць камісію адразу на трэцім. У посьпеху свайго матэрыялу я не сумняваўся. Як і ў сваім выкананьні таго самага маналёгу Тупігі, дзе ён абірае больш зручнае месца для агню. У тым, што камісію яшчэ ніхто не расстрэльваў, я быў пэўны. Але калі Армэна Барысавіча я заінтрыгаваў, дык Філозаў застаўся непахісны. Адным словам, артыст зь мяне не атрымаўся. Хоць маналёг я магу ўзгадаць і зараз...*

* * *

Адамовіч і піша па-расейску, і імкнецца ў Маскву не таму, што ён пачуваецца расейцам і цаляе заняць месца ў расейскай літаратуры. Нездарма і імя ён сабе пакінуў беларускае — Алесь, і нацыянальнаму сантымэнту ў яго знаходзіцца месца. Ён едзе туды, дзе на той час быў цэнтар, дзе было самае высокае начальства, дзе вырашаліся праблемы глябальнае ядзернае пагрозы, трэцяй сусьветнай вайны, канца камунізму. Ён едзе ва ўнівэрсальнасьць, відаць, і адчуваючы пры гэтым прывіднасьць таго ўнівэрсалізму. Але вонкавыя знакі: шасьцідзясятніцтва, Сахараў, «Мэмарыял», — заважваюць.

Ягоная сьмерць не дазволіла нам прасачыць разьвіцьцё гэтае лёгікі. Хоць сёе-тое для асэнсаваньня ў нас ёсьць. Перастройка разваліла ня толькі савецкую імпэрыю, але й вобраз Масквы як унівэрсуму. Масква з сталіцы сьвету ці,



прынамсі, многіх народаў стала ператварацца ў расейскую сталіцу — тады яшчэ нясьмела. Але і тады ўжо Адамовіч робіць характэрныя ўчынкі — знакавыя для ягонага вяртаньня. Ён бярэ ўдзел у Чарнобыльскім Шляху, ягоная постаць заўважная на Сойме БНФ, ён заснавальнік Беларускага ПЭН-цэнтру...

Сёньняшняя расейская і маскоўская моўная і геаграфічная дысьлякацыя ўжо зусім не азначае ўнівэрсуму. У культурным сэнсе гэта такая самая правінцыя, як і Беларусь. І тут і там усё яшчэ адбываецца пераходны пэрыяд. Адно, што ўсеагульнае стала расейскім, а беларускае засталося беларускім. Сваім запаветам пахаваць сябе на радзіме Адамовіч сам адказаў на пытаньне пра вэктар свайго руху.

Вяртаньне на эвалюцыйны шлях абярнулася вяртаньнем да разнастайнасьці ня толькі чалавечай і псыхалягічнай, але й нацыянальнай — разнастайнасьці відаў, моваў, спадчынаў, радзімаў, краінаў... І той Адамовічаў унівэрсум, што складаўся з Масквы як пупа зямлі, з глябальнай ядзернай пагрозы, чалавека «вообще» і звышлітаратуры — гэты ўнівэрсум лянуў, а на ягоным месцы ўтварылася мноства непадобных, і тым цікавых культураў, кожная зь якіх вядзе свой дыялёг паміж небам і зямлёю без пасярэдніцтва якогась цэнтру, кожная ўзыходзіць да ўнівэрсуму сама, сваімі сродкамі. І няма сярод іх ні большых, ні меншых, ні галоўных і другасных. Пры гэтым унівэрсальны Адамовіч не ператварыўся ў расейскага пісьменьніка. Ягонае імя яшчэ можна сустрэць у даведніках «русских писателей», але зь

нязьменнаю пазнакай — «белорусский писатель». Адамовіч вяртаецца туды, дзе ён сапраўды патрэбны, дакладней, дзе ён можа быць найболей запатрабаваным і ўжо адкуль можа паўтарыць свой выхад не ва ўнівэрсальны цэнтар, а ў шырокі сьвет.

этэр 26 студзеня 2003 г.

## Менск: горад, складзены зь вёсак

У адрозьненьне ад большасьці эўрапейскіх сталіц, у «вечна маладым» Менску ня цэняць і не зьберагаюць помнікаў архітэктуры, колішніх вуліц ды кварталаў і прыроднага ляндшафту. Адзінкавыя выключэньні толькі пацьвярджаюць правіла. У выніку не пасьпявае вырасьці чарговае пакаленьне менчукоў, як незваротна зьмяняецца сам дух гораду, у якім тое пакаленьне нарадзілася. Менск ня ведае і ня любіць сваёй мінуўшчыны.

Так адбываецца зусім не таму, што менчукі горшыя за парыжан або варшавякаў ці віленчукоў. Некалі ж і Менск быў горадам магдэбурскім, ганзейскім, «партовым». Але было тое надта даўно. Мінулае 20 стагодзьдзе канчаткова ператварыла сталіцу Беларусі ў мэгаполіс, складзены зь вёсак. Грушаўка і Ляхаўка, Цівалі і Дразды, Лошыца, Курасоўшчына, Сьляпянка, Зялёны Луг, Карзюкі ды шмат-шмат іншых вёсак апынуліся пад адной назваю



«Менск», які ня стаў ад гэтага горадам, падобным да іншых сталіц сьвету.

Дух і традыцыя вёскі, якая паводле прыроды сваёй ня дбае пра помнікі архітэктуры і гістарычны цэнтар, запанавалі ў Менску. Гэты дух і сёньня нясуць у сабе менчукі — у большасьці гараджане першага ці другога пакаленьня, учорашнія вяскоўцы. Гэты дух — у самым ладзе жыцьця, у культурным і палітычным выбары менчукоў, у іхным спэцыфічным стаўленьні да роднае мовы.

Як сьвет стаіць на трох чарапахах, як Рым — на сямі ўзгорках, так Менск стаіць на сваіх вёсках. Вёсак ня сем, а сямнаццаць ці, можа быць, дваццаць сем. Але сутнасьць ад гэтага не зьмяняецца. З даўніх часоў у Менску змагаюцца між сабою два пачаткі — вясковы і гарадзкі.

Калі тое змаганьне пачалося, напэўна, ніхто ўжо ня скажа. Бо звычайна адбываецца наадварот — вёска паступова вырастае ў горад. І справа тут ня ў тым, што зьмяняецца аблічча, што дамы вышэйшыя і каменныя, што жыхароў болей. Нашмат важнейшыя зьмены ў сьветапоглядзе насельнікаў. Вось жа ў Менску, які вырас да памераў мэгаполісу, пануе гэты самы вясковы сьветапогляд. Ад таго і сам горад пачуваецца ня цэлым горадам, а населеным пунктам, складзеным, злучаным, зьлепленым у адно з мноства вёсак.

Ці гэтак было заўсёды?

Апісваючы Менск сярэдзіны 19 стагодзьдзя, Уладзіслаў Сыракомля ўвесь час параўноўвае яго зь Вільняй:

«Заўважым, што... на адзін дом прыпадае 16

жыхароў, у той час як у Вільні — 34 жыхары; але разам з тым у Менску няма такіх вялікіх дамоў, як у Вільні...»

«Важнейшая вуліца места — Койданаўская, на якой раней было некалькі касьцёлаў і цэркваў, а цяпер мала хто можа паказаць, дзе яны стаялі».

«Вуліца Саборная... і яе працяг — Фэліцыянская, ужо найбольш забудаваныя адна- і двухпавярховымі драўлянымі дамамі і дамкамі, што ўціснуліся ў асяродак сваіх арыстакратычных братоў, як тыя вяскоўцы, што, трапіўшы на відовішча, працісквающца, як могуць, бліжэй да сцэны, не зважаючы на грамаду вяльможных паноў».

Хоць у пару Сыракомлі, паўтараста гадоў таму, і былі прыкметныя рысы будучае менскае мэтамарфозы, але выглядалі як атавізмы, ад якіх горад непазьбежна пазбавіцца. Паўстануць вялікія гмахі, а драўляныя хаты зьнікнуць, а галоўнае — зьявіцца памяць пра тое, што і дзе было, зьявіцца зусім іншае разуменьне часу, зьявіцца гарадзкая гісторыя.

Але адбылося па-іншаму. Менск разрастаўся ў вялікі горад, з кожным пакаленьнем руйнуючы тое, што было створана папярэднікамі. Зноў і зноў малады горад вынішчаў цэлыя вуліцы і кварталы свае памяці, свае гарадзкое гісторыі. Калі зруйнаваная Варшава пасьля вайны наноў адбудоўвала сваю Старуўку, у Менску ўсё старое пайшло пад знос, які цягнецца да нашых дзён. Менск адбудоўваць свой Стары Горад ня стаў.

Сьветапогляд вяскоўца падказваў, што хата



або дом ня маюць каштоўнасьці толькі таму, што яны старыя. Наадварот, захоўваць або паднаўляць староцьце было б непрактычна. Яго трэба перарабіць або зьнесьці. Вёска ня ведае рэстаўрацыі.

Захапленьне згібам крывой вулкі, маляўнічай шчылінай у сьцяне, пахам цэглы, вясёлкай на дзікім бруку пасьля дажджу — тое, што знаёмае месьцічу, для вяскоўца няважнае, бескарыснае. І знос найстарэйшае менскае вуліцы Нямігі ў 1960-я гады быў зусім прагрэсіўным у вачах гараджанаў першага пакаленьня. І знос вуліцы Замкавай пазалетась — таксама.

Мабыць, галоўнай прычынай менскае мэтамарфозы сталася ператварэньне губэрнскага цэнтру ў сталіцу краіны, якой ён стаў з заснаваньнем БССР. Вось калі вясковы пачатак перамог. Ня стаўшы, па сутнасьці, сучасным самадастатковым горадам, Менск прыпадобіўся да таго навабранца, якому раптам пачапілі генэральскія пагоны. Калі ты сталіца, ці варта табе задумляцца пра тое, наколькі ты — горад? Гэта нібы і так зразумела.

У адрозьненьне ад гораду, вёска ня мае гісторыі, а толькі традыцыю, яе культура — этнаграфія. Вясковы паэт, складальнік песень, казак і прымавак — народ, а ня Янка Купала ці Ўладзімер Караткевіч. Вёска не пэрсаналізуецца так, як горад. Можна сказаць: адна баба, адзін мужык — і ўжо ясна, пра каго гаворка.

Вёска не ўнікальная — яна тыповая. Для гораду гэта — сьмерць. Ён пачуваецца адзіным у сьвеце, асабліва, калі ён — сталіца. Вёска — аб’ект, горад — суб’ект, прынамсі, мусіць та-

кім быць. Вёска — асяродзьдзе, а горад — чалавек у гэтым асяродзьдзі. Вось чаму тое, што добра для вёскі, для гораду часьцяком блага. Бо міталёгія гораду складаецца з фактаў гісторыі і канкрэтных пэрсанажаў. Менскія вёскі забралі ў сталіцы яе гісторыю і яе герояў тады, калі вясковы пачатак перамог.

Горад рос, разбухаў, напаўняўся патокамі насельніцтва і паступова сам станавіўся вобразам гэтага памкненьня вяскоўцаў у сталіцу. Часьцяком за такі пераезд яны плацілі сваёй роднай мовай, мяняючы яе на нібыта гарадзкую менскую, а то й памяцьцю пра сваіх пакінутых недзе ў вёсцы бацькоў. Гэтую здраду без пакаяньня і цяпер можна разгледзець у вачах менскага вулічнага натоўпу.

Зроблены сталіцай, Менск перанес сваю вясковасьць і «вечную маладосьць» на ўсю краіну. Пад сталічную «моду» пачалі перарабляць і іншыя цэнтры. Уплыў распаўсюдзіўся на ўсё грамадзкае жыцьцё Беларусі. І калі абвешчаньне незалежнасьці ў 1991 годзе было перамогай гораду — г.зн., гісторыі, культуры і асобаў, дык абраньне першага прэзыдэнта стала рэваншам традыцыі, этнаграфіі і тыповасьці. Вось чаму так пабляклі сёньня ўчорашнія імёны: дзяржаўныя мужы, акадэмікі ды народныя пісьменьнікі. Вось чаму ўлада ня лічыцца зь іхнымі заслугамі і не бярэ пад увагу іхнага меркаваньня. Абраньне першага прэзыдэнта стала рэваншам вёскі над горадам-суб’ектам. Уся краіна пагрузілася ў бясчасьсе з дажынкамі і стала аб’ектам дзейнасьці аднаго чалавека — войта, старасты ці дырэктара саўгасу — сутнасна тое самае — таго, хто мае ўсю паўнату ўлады ў вёсцы.



Натуральна, усё сказанае будзе адно толькі дапушчэньнем, калі словы не падмацаваць фактамі ды назіраньнем з натуры.

*Зьміцер Бартосік:*

*Тое, што Менск — вялікая вёска, я чуў неаднойчы. Але на свае вочы ўбачыў толькі з самалётнага ілюмінатара. Зьверху на беларускую сталіцу адкрываецца дзіўная карціна. Не разгледзіш тых паштовачных сюжэтаў з плошчай Перамогі ды праспэктам Скарыны. Але пабачыш нашмат цікавейшае, тое, чаго зь зямлі не заўважаецца. Паміж жылымі масівамі, паабапал шырокіх трасаў, уздоўж чыгунак і рэк, па ўсёй сталічнай прасторы раскінуліся вёскі. Нават цяжка вызначыць, дзе сканчаецца тая вёска, і пачынаецца ўласна Менск.*

*СУХАРАВА*

*Ніякавата стаяць на вясковай вуліцы і ня чуць характэрных вясковых гукаў. Ні мычаньня кароў, ні крыкаў пеўня, хіба што сабака забрэша. Адчуваеш сябе альбо глухім, альбо акупантам, ад якога пахаваліся вяскоўцы. Альбо незнаёмцам, які бяз справы зайшоў у чужую хату. Менавіта так я адчуў сябе, калі ўвайшоў у Сухарава. Вялізную вёску, палову якой ужо зьеў горад Менск. Шматпавярховікі абышлі могілкі на пагорку і спыніліся перад старымі хатамі. Малады сухаравец Мікола,*

*якi вяртаўся з гарадзкой крамы, аказаўся вельмi гаваркiм.*

*— Цi вёска жыве, як вёска? Тут трымаюць жыўнасьць?*

*— Ужо не трымаюць. Таму, што кармiць няма чым. Горад акружыў нас. Хаця травы тут ёсьць дзе накасiць. Але ж яна загаджана выхлапнымi газамi. Сад калгасны за горкай быў, там зрабiлi парк. А кароў тут трымалi, дык яны ня сталi есьцi траву, бо сабакi ўсё загадзiлi. Во так i жывем. Быццам бы горад, а як была дзярэўня, так дзярэўня i засталася.*

*— Горад не прынес Вам нiякiх выгадаў?*

*— Вялiкая выгада... Раней плацiлi капейкi за зямлю, а цяпер плоцiм тысячы. Падатак вырас, i больш нiчога, усе выгады.*

*Пра былыя лiхiя часiны Мiкола згадвае з гумарам:*

*— Сухарава было нябеднае сяло. Бацька мой з мацi да вайны дзесяць гектар зямлi мелi. А калгас як пачаўся, усё гэта ў калгас здалi. Расказваў бацька, калi калгасу не было, дык такiя камуны былi. Ну, сабралi ўсё ў камуну — жывёлу i iншае. I пастанавiлi — будзем жыць у гэтай камуне. Ну, сталi купляць адзежу сабе з гэтых агульных грошай, разам ежу варылi. Калi парэзалi ўвесь скот, растрацiлi ўсе грошы, камуна i разьбеглася. Такая вясёлая гiсторыя была...*

## *ПЯТРОЎШЧЫНА*

*Пралятаючы па шырокiх i простых менскiх праспэктах, мы не заўважаем i нават не здагадваемся пра прыродны ляндшафт тых мясьцiнаў, што мiльгаюць за вокнамi. Але варта толькi збочыць з вулiцы Чыгуначнай у вёску Пятроўшчына, каб зразумець, колькi сiл i сродкаў пакладзена горадам на нiвэляваньне i выраўнiваньне ўсяго, што замiнае простаму руху па роўнядзi. Якая сотня мэтраў убок, i вы быццам ня ў Менску. Адкуль такiя горы i западзiны? Якая пастаральная маляўнiчасьць у краявiдзе, складзеным з дамка на гары, азярка ў нiзiне, зьвiлiстай дарогi, што губляецца за новым пад'ёмам. А за iм — таполевыя прысады, сьляды шляхецкай сядзiбы. Калi б яшчэ не тралейбусны бразгат з вулiцы Сямашкi, i не вясковая цiшыня падворкаў, дык i не паверыш адразу, што сёлета за два крокi пачнецца будаўнiцтва станцыi мэтро «Пятроўшчына».*



*Пятроўшчына разрэзаная на тры часткi. Адна за Чыгуначнай вулiцай, другая — за праспэктам Дзяржынскага. А трэцяя памiж iмi — адзiн толькi дом, але ў аблозе дзьвюх ажыўленых трасаў ён выглядае няскоранай крэпасьцю. Антыподам вясковай хаце сьвецiцца нэонамi яркая аўтазапраўка, што разьмясьцiлася насупраць. Я пагрукаўся ў дзьверы. Гаспадар супакоiў сабаку i прыемна зьдзiвiўся маёй мове.*

*— Па-беларуску? А мы размаўляем на трасянцы. Просiм тагда ў хату. Удаставерэнiе есьць? А то патом паглядзiш, р-р-аз, i каўра ня стане...*

*Усяго чакаў, але толькi не такога разьвiцьця сюжэту. Напэўна, зьдзiчэў я ў далёкiм Менску, калi, як нейкае дзiва, успрымаю запрашэньне за стол. За сталом — вялiкая бяседа. У гаспа-*

*дароў, сям'і Мялешкаў, госьці зь іншага канца гораду. А такое адчуваньне, што зь іншага гораду. Бо і віно, і закуска, і абстаноўка ў хаце абсалютна вясковая. Сьвятло запраўкі, што б'е ў вокны, па гэты бок выглядае, як зьзяньне нейкага НЛА.*

*— Віно! Будзеце піць, а патом яшчо можам даць і з сабой. За знакомства. Давайце. Нас тут зь месца ніхто ня строне, толькі чацьвёртая ўласьць...*

*Чым болей я адаграваўся вясковым віном у гэтых мілых людзей, тым больш адчуваў сябеastomленым падарожнікам у якім старадаўнім заезным двары. Пэрсанажам з аповесьці Яна Баршчэўскага. Загаварыла гаспадыня:*

*— Мы жывём, як у вёсцы. Нават яшчэ горш, чым у вёсцы. Бо няма нікакіх умоваў, і не прадбачыцца. Хазяйства я не магу дзяржаць, бо газ не магу правесьці, вадаправод я не магу сабе правесьці, бо нас зносяць з 1980-га году...*

*— А вы б хацелі памяняць гэтую хату на кватэру? — спытаўся я ў гаспадара.*

*— На кватэру? Чэсна гавара, я б памяняў на благаўстроены дом. Таму што я прывык на зямлі жыць... Давайце лепей раскажу другую гісторыю. Нальём толькі віна пад гэта дзела... Сам я точна ня помню. Са старыны пайшло. Чаго называецца Пятроўшчына, а чаго называецца Рылаўшчына? Тут дзярэўня Дружба, раней называлась Рылаўшчына. Гэта ў це ўрэмена, відзіма, кагда была Северная вайна. Мінск меў магдэбурскае права, а Пятроўшчына была ўжэ населена. Так случылась, ехаў цар Пётар. І жыцелі выйшлі цара Пятра сустракаць. Чарку, скварку. Ну, цар праехаў. А жыхары той дзярэўні выйшлі, з-за хат пагладаюць, толькі рылы павысоўваюць. Ну, цар і сказаў: «Вунь тая першая дзярэўня, дзе з чаркай-скваркай, хай будзе маім імем названая — Пятроўшчына. А тая, дзе рылы... Рылаўшчынай і будзе»...*



*Адсьмяяўшыся, гаспадыня згадала, якая раней была ў Пятроўшчыне рэчка. Тая самая, якой сёньня не разгледзіш з аўтамабільнага вакна:*

*— Калі пачала хадзіць у школу ў 1960-х гадах, край гораду быў — завод санцехзагатовак. Далей ужо нічога не было. Далей шлі палі. Пшаніца, лён, хадзілі з мамай лён палоць. І яшчэ хадзілі рэчку палоць — прачышчаць рэчку граблямі. Ой, якая рэчка была! Лугі заліўныя якія былі! Рэчка Шума называлася. Там вясной сустракаліся два патокі. Роў стаяў, што тут была чутна.*

*На разьвітаньне гаспадар гасьціннага двара сказаў наступнае:*

*— Праблема ў тым, што я тут радзіўся, тут жыву, і гэты кусок зямлі мне вельмі дораг. Я прэкрасна знаю, што гэты кусок зямлі намнога дарожэ стоіт, чэм двухкомнатная кварціра ці што там мне палагаецца. Таму, што я на этам куске зямлі, калі гэта будзе мой кусок, магу фальварак адстроіць. Але ж не даюць. Я вішу праміж небам і зямлёй. У гэтым уся справа заключаецца...*

Пакуль Зьміцер Бартосік гаворыць зь вяскоўцамі-менчукамі, я гартаю стары «Геагра-

фічны слоўнік», што выдаваўся таўшчэзнымі тамамі напрыканцы 19 ст. І першае, што спыняе маю ўвагу — тагачасныя варшаўскія выдаўцы не перакручвалі назваў менскіх вёсак на польскі лад. А зьдзіўляе гэта таму, што такі факт цалкам супярэчыць стэрэатыпу, быццам гэта ў спадчыну ад падступных палянізатараў дасталіся нам сёньняшнія назвы многіх беларускіх гарадоў і вёсак. У выніку Берасьце мы называем Брэстам, Горадню — Гродна, а Менск — Мінскам. Дык вось, гартаньне «Геаграфічнага слоўніка» пераконвае, што гэта не зусім так. Скажам, менская вёска, якую сучасны энцыклапэдычны даведнік пра сталіцу на расейскай мове падае як «Вильковщина», гэта значыць, у польскай інтэрпрэтацыі, у старым «Геаграфічным слоўніку» называецца па-польску Волкаўшчынай. Дык, можа, і самім апалячаным словам «Мінск» мы абавязаныя не палякам, а нейкім іншым гульцам у палітыку з тапанімікай?

Зусім «дзіцячае» пытаньне: чаму беларуская сталіца дагэтуль называецца не на беларускі, а на польскі манер? — сустракае ў адказ зацятае маўчаньне «дарослых». Дарэчы, апошнім часам «дзіцячае» пытаньне перастала падымацца наагул. Верагодна, таму, што яно невырашальнае ў стане аб'ектнасьці і з новай сілай загучыць толькі тады, калі горад перастане напавер быць скопішчам вёсак.

Стары «Геарафічны слоўнік» ляпідарна фіксуе знаёмыя менскія назвы. Часам, як з той Волкаўшчынай, іх удакладняючы. Скажам, засьценак Будзілава ў гміне Сеньніца, тры вярсты ад Менску, трэба насамрэч называць Будзілавічамі.



А вось Весьнінка — ці ня той гэта раён на праспэкце Машэрава, які менчукі называюць «каменнымі джунглямі»? У «Слоўніку» гэта фальварак, 5 вёрстаў ад Менску, збудаваны ў прыгожым месцы, над шырокім ставом; глеба глíністая, ураджайная, лугі адборныя, лясы сасновыя. Спадчынная маёмасьць Вярыгаў-Дарэўскіх. Недалёка ад фальварку ў лесе ёсьць сьляды старажытнага замку, і тое месца называецца Замчышчам, а ў самым фальварку на дзядзінцы знаходзяць часта манэты часоў Жыгімонта Аўгуста.

А вось — Зялёны Луг. Іх цяпер шмат, і тады было тры. Адзін зь іх — і ня вёска нават, а прыдарожная карчма на шляху да Тышкевіцкага Гарадка, 7 вёрст ад Менску.

Кальварыя. Стары прыгожы могільнік пад губэрнскім Менскам — піша ў «Слоўніку» аўтар артыкула Аляксандар Ельскі. Цяпер гэта амаль што цэнтар гораду. Мураваны касьцёл мае ўнутры карціны вядомага Яна Дамеля. Тут спачывае мноства асобаў, заслужаных для мясцовасьці і краю ўвогуле. Але іх імёны мала каму сёньня нешта гавораць — дадаю я ад сябе.

Побач з Кальварыяй — вёска Цівалі. Пра яе назву ня так даўна пісала «Наша Ніва»:

«Цівалі. Такую ж назву мае каскад вадаспадаў вышынёю 160 мэтраў на рацэ Аньён, прытоку Тыбру ў Цэнтральнай Італіі. Менавіта там імпэратар Адрыян і патрыцый Мэцэнат, чыё імя стала назыўным, мелі свае вілы. Там быў разьбіты парк з каскаднаю сыстэмай фантанаў.

Вось адкуль Цівалі — ад вадаспадаў. Гэткую ж назву меў і маёнтачак пад Менскам, побач з Кальварыяй. Рамантычныя прыхільнасці ўладальніка і, пэўна, прыродныя асаблівасьці паўплывалі на выбар назвы».

Цівалі апетыя сучаснымі менскімі бардамі. У Лявона Вольскага ёсьць адмысловы верш:

Я жыў ля вёскі Цівалі,
ці мелі вы калісь мажлівасьць
вось так — правесьці
ўсё дзяцінства
паблізу вёскі Цівалі?
Ці Валя там са мной гуляла
ў пясочны замак,
ці ня Валя?
Ці не! Бадай што, Віялета.
На жаль, забыўся я на гэта.
На жаль, я шмат на што забыўся.
Напрыклад, на сваё дзяцінства:
на школу, на садок дзіцячы,
на парты, дзёньнікі, задачы,
на зорку, на чырвоны гальштук —
на ўсё забыўся я амаль што.
На ўсё.
Адно, што толькі помню:
я жыў ля вёскі Цівалі.
Ці то над прорваю, ці ў жыце
я жыў...
Нікому не кажыце.

А вось Крупцы, дзе Аляксандар Лукашэнка пасяліў сваю маці ў адмыслова збудаваным для яе доме. Гэта на праспэкце Машэрава, побач з новым футбольным манэжам. Вёска Крупцы слынная тым, што там зьявіўся людзям цудадзейны абраз, і цяпер будуецца храм. А яшчэ побач — вёска Дразды.



Дразды — вядомыя сёньня дыпляматычным скандалам і тым, што там жыве прэзыдэнт, у выніку чаго Дразды патрапілі ў песьню Віктара Шалкевіча пра таварышча Сапегу.

Між іншым, рэзыдэнцыя прэзыдэнта ў Драздах пабудаваная на месцы былога канцлягеру. І калі з Драздоў высялялі замежных дыпляматаў, прафэсар Мальдзіс зьвяртаўся да Ўрала Латыпава з прапановай вынесьці адтуль усе рэзыдэнцыі і зрабіць мэмарыял ахвярам нацызму. Маўляў, тады ня трэба было б тлумачыць замежным паслам, чаму іх адтуль выгналі. Аднак голас слыннага вучонага ня быў пачуты. Лукашэнка ў Драздах застаўся, а паслам патлумачылі іхнае выгнаньне прарывам каналізацыі. Вясковая фантазія і тут аддала перавагу рэчам канкрэтным і практычным, а не гарадзкой гісторыі і міталёгіі...

Козырава і Курасоўшчына, Лошыца і Малінаўка, Мядзьвежына і Пагулянка, Пярэспа і Серабранка, Чыжоўка і Шэпічы... Не відаць канца гэтаму сьпісу.

А Грушаўка? — хіба ж ня вёска, пасярод якой разьлёгся аграмадністы комплекс былога НКВД, а пасьля Менскага апэратыўнага палка савецкіх унутраных войскаў? Тады, калі давялося там служыць, памятаю, галоўным прадметам гонару тамтэйшых абітальнікаў былі расповеды пра тое, як Менскі апэратыўны полк аднойчы ў 1968-м проста сярод ночы ўзьняўся з ложкаў і вылецеў у Прагу. Уся апэрацыя — ад пад’ёму да вылету — заняла літаральна пятнаццаць хвілін!

Тады начныя трывогі з выездам былі ўлюбё-

ным заняткам палкавых камандзіраў. І ўсё гэта моцна кантраставала з навакольным паўсонным рытмам жыцьця Грушаўкі — вёскі-вёскаю, што хавалася паміж страхавітымі гмахамі колішняга НКВД і баракамі Менскае тытунёвае фабрыкі.

А Шабаны? Таксама ўвайшлі ў бардаўскую песьню, на гэты раз — у песьню Зьмітра Бартосіка — як сымбаль менскай ускраіны і глухамані...

КАРЗЮКІ

Плаўна Сьвіслач-рэчка
Ўдаль плыве, бяжыць;
Над крутым абрывам
Панскі дом стаіць.

Зелянеюць вольхі
Па краях ракі,
Высяцца над імі
Сумна Карзюкі.

Відзен горад здаля,
Горад Менск стары,
Пнуцца важна к небу
Коміны, муры.

Гулка далятае
Дзікі сьвіст машын
Ды прыпеўкі жабаў
З рэчкі і лагчын.

Гэта, між іншым, Янка Купала, 1911 год. Што ён рабіў у тых Карзюках, цяжка сказаць. Даведнікі пішуць — адпачываў.



*Зьміцер Бартосік:*

*Чым прыцягнула ўвагу Янкі Купалы вёска Карзюкі, цяпер можна маляваць толькі ў сваім уяўленьні. Бо той Сьвіслачы, на беразе якой стаяла некалі вёска, ужо няма. А ёсьць Чыжоўскае вадасховішча. І панскага дому (а мей на ўвазе паэт, думаю, Лошыцкую сядзібу) ужо не відаць з-за дахаў вуліцы Чыжэўскіх — колішняга Ігуменскага тракту. І Менск ужо паўсюль і вакол. Дыміць кальцавая аўтатраса, шуміць Чыжоўка, далягляд закрыты кварталамі Серабранкі. А карзюкоўская старажылка Ганна Аляксееўна, да якой я завітаў, да гэтае пары ня можа назваць сябе гараджанкай:*

*— Якой я магу быць гараджанкай. Я ў дзярэўні радзілася, я ў дзярэўні работала. Ну, вядома, мы блізка гораду жывём, мы не такія і адсталыя людзі. Мы ж відзім, як вядуць сябе людзі. Дык можна было навучыцца. Ну, водаправоду ў нас няма, канечне, гэта трэба вялікія грошы, каб ваду правесьці. У нас во калодзеж на дварэ. Тэлефон ёсьць. А ніякіх больш удобстваў няма. Ні вады, ні ваннай, нічога. Жывем, як прадзеды і дзяды. Горад замнога патрабуе ад нас. Яны нам адводзяць 15 сотак, а астатняе хай бур'янее. Мы вас трогаць, гавconfigурат, ня будзем, будзеце пользавацца. Ну, хто ж нам задарам дасьць пользавацца зямлёй. Зямля ж гасударственная, за яе ж трэба плаціць. Дык што ж, мы зусім такія глупенькія, не панімаем. Ня знаю, калі яны ўжо прыйдуць тутака рэзаць.*

*— Дык атрымліваецца, што лепш бы горад сюды і ня йшоў?*

*— Канечна. У сельсавеце нас ад дзядоў і прадзедаў зналі і нас уважалі. А горад думае, што мы нічога не заслужылі. А заслужылі мы больш, чым хто. Майго бацьку расстралялі, сына брата высылалі ў Германію, мяне ў 17 год вадзілі на расстрэл. Вось так. І чудам проста ад таго, што папаўся такі немец, чалавечны чалавек, я асталась жыва. Ну, а цяпер усім на гэта напляваць.*

Рэчка, луг, гасьцінец,
Горад, Карзюкі
Разрываюць думкі
На усе бакі.

Сам сабой ня знаеш,
Што рабіць, як жыць:
Ці ляцець у горад,
Ці ў Карзюках сьніць?

Ці пайсьці гасьцінцам
Долі ў сьвет шукаць?
Ці рацэ, русалкам
Галаву аддаць?..

## *РЫЛАВІЧЫ*

*Божа, які жах! Гэта першае, што падумалася, як толькі я збочыў з праспэкту Дзяржынскага ў вёску Дружба. Былую Рылаўшчыну. Ці то новая назва паўплывала на яе лёс, але адразу хочацца разьвярнуцца і пакінуць ад граха далей гэтыя крывыя хаты, з выгляду якіх адразу і не разьбярэш — а ці жывуць у іх*



*людзі? Перакошаныя платы, запыленыя шыбы, счарнелыя ад часу дахі. Закінутая фэрма з расхрыстанай брамай ня рэжа тут вока. Пасярэдзіне вёскі панылая вуліца крута спускаецца да азярца, на якім гуляюцца дзеці. Рылавец ці дружбавец гадоў сарака шпацыруе з маленькім сынам:*

*— Былі лугі. Во тут такія лугі былі і рачушка цякла. Невялікая такая, у Лошыцу ўпадала. Потым, калі пачалі будаваць Юга-Запад, гэтую зямлю па пойме ракі бралі на азеляненьне. Трэст «Азеляненьне» накапаў ямаў, а потым... Ссыпаюць мусар, там, там. Горад акружыў нас. Усё мяняецца.*

*— І ці шмат зьмянілася?*

*— На той горцы былі курганы. Там зэніткі стаялі ў вайну, потым зарасло кустарнікам. Грыбы там сабіралі. Курганы былі. Потым іх зраўнялі. Кurганоў няма цяпер.*

*— Бліжэйшыя вашыя суседзі — гэта Пятроўшчына?*

*— Пятроўшчына, Дворышча, шмат вёсак. Курасоўшчына. Па маладосьці там, дзе цяпер ямы, быў стадыён. І мы з акружнымі дзяраўнямі ў футбол гулялі. А цяпер адны ямы...*

*Спадар накіраваў мяне да дзеда Рыгора, які трымае пчол. Дзед Рыгор выглядае моцна. Аднаногі, каржакаваты, гучны, спрытны, нягледзячы на калецтва, стары больш паходзіў на колішняга пірата, чым на калгасьніка.*

*— Скажыце, а хто-небудзь называе яшчэ вёску Рылаўшчына?*

*— Ёсьць. Я ў ёй радзіўся, у гэтай Рылаўшчы-*

*не, яна называецца Рылаўшчына. Яе ў 1961-м годзе перайменавалі на Дружбу.*

*— А навошта?*

*— Ну, я ня знаю, навошта. Сьмяяліся: рыла, рыла, рыла. Гэта, напэўна, пан быў Рылоўскі такі, па-мойму. Можа быць, я паноў ужо ня помню. Я ад старых чуў, што нібы пан быў такі Рылоўскі. Маліноўскі — Малінаўка, Пятроўскі — Пятроўшчына. Па імені паноў давалі назвы.*

*МІХАЛОВА*

*Пасьля Рылаўшчыны-Дружбы вёска Міхалова ўражвае памерамі і багацьцем. Цагляныя дамы ў два паверхі, спадарожнікавыя антэны... Углыб вёска бяднее, але не да жабрацтва. Нават разваленая фэрма каля азярца не выклікае жалю. Хутчэй абуджае шляхетны сум. Маўляў «няма таго, што раньш было». Крэпкі мужык у паношаным беларускім, далукашэнкаўскім міліцэйскім кіцелі вядзе каня. Гэта былы міліцыянт, а сёньня пэнсіянэр, дзядзька Дзіма.*

*— Вы сталі гараджанінам, ці ўсё ж засталіся вяскоўцам?*

*— Па-мойму, асталіся вяскоўцамі. У горадзе.*

*— А калі было лепш: калі была вёска, ці калі вёска акружаная мікраараёнамі?*

*— Нам горад не замінае, можна работаць, вясьці дамашнюю гаспадарку.*

*— І шмат хто тут апрацоўвае зямлю?*

*— Уся акруга. Дачнікаў многа. І так проста, для душы, харашо.*



*Гаспадар каня параіў мне зайсьці да міхалоўскага старажыла дзеда Сашы. Камяніца дзеда Сашы стаіць у прыгожым тупіку. Некалькі дамоў згрувасьціліся на гары, за якою ляжыць колішняе поле, на даляглядзе будуецца мікраараён Сухарава. Дзед Саша:*

*— Тут стаяў памешчыцкі дом, тут во, пабач. Тут была рака ў нас, зьнізу працякала. Я купацца хадзіў. У памешчыкаў было культурна. Алея была, яны прахаджваліся. А далей былі прысады такія... клёны. Пад гэтымі прысадамі было заўсёды суха. І мы туды бегалі. Калі лістапад, мама прымушала зьбіраць кляновыя лісьця. І хлеб яна пякла... дзеравянная лапата, цеста, кляновыя лісьця, і ў печ — шух. Гэта было красата. І мы бралі гэтую скарынку, націралі часнок, і ніколі зубы не балелі. Мама была мая красавіца жэншчына. Яна калісьці была ў памешчыка, выхоўвала дзяцей у іх. Пасьля вайны адзін прыяжджаў, маму любіў, сын памешчыцкі Вася. Памешчыкі самі не выхоўвалі, яны нянькам аддавалі дзяцей.*

*Дзед Саша шмат расказваў пра сваё жыцьцё, пра навакольле, пра партызанку. Але наймацнейшае ўражаньне, найбольш эмацыйнае, у яго пакінуў уласаўскі афіцэр, які ў кароткі тэрмін занядбаны саўгас ператварыў у бліскучую нямецкую гаспадарку:*

*— І вось гэты ўпраўляючы такую гаспадарку падняў, што такіх ураджаяў у нас, у Савецкім Саюзе, не было. Прывезьлі з Германіі зярно, жыта прывезьлі, і прывезьлі бульбу. У нас бульба была — такія бубачкі. Як пасеялі гэтую бульбу, як убралі ўраджай. 30—40 цэнт-*

*нэраў з гектара, во такія клубні. Жыта пасеялі. А колас — як боб. Нашы глянулі. Што гэта такое за зярно? Адкуль яно ўзялося? Такія цэнтнэры — страшнае дзела...*

*Вырульваючы зь вёскі Міхалова на забудаваную бэтоннымі блізьнятамі вуліцу Рафіева, я шкадаваў аб адным. Гэтыя людзі забяруць з сабою ў невараць свае ўспаміны. Пакінуўшы бязьлікаму і бязьлітаснаму гораду пераварваць у сваім чэраве тое нешматлікае, што засталося ў яго ад прыроды.*

Успаміны менскіх вяскоўцаў — таксама характэрныя вясковыя. Гараджане звычайна распавядаюць пра школу, пра нейкія культурныя падзеі і пра знакамітых людзей. Вёска ўспамінае зборныя або тыповыя вобразы і тое, што зьвязана зь зямлёй. Яна памятае толькі свой аб'ектны стан.

Таму вяскоўцы ня пішуць кніг, інакш гэта ўжо былі б не вяскоўцы. Бо творца ў вёсцы — народ, а не паэт ці пісьменьнік. І гісторыі вёска, паўтаруся, ня мае. Яна мае традыцыю, якая і сыходзіць спакваля ў невараць. Менск ня стане больш горадам ад нашых сёньняшніх апавяданьняў пра ягоную вясковасьць. Ён хіба што можа лепей зразумець самога сябе, а сьледам за ім, за сталіцай, — і ўся Беларусь нібы зробіць тэст свайго немалога арганізму — дзе яна суб'ект, а значыць, гарадзкая, а дзе — аб'ект, асяродзьдзе, у якім пануе адзін усенародна ці ўсевяскова абраны гаспадар.

Што будзе далей? Ці так і застанецца Менск скопішчам вёсак з адпаведным характарам?



Наўрад ці. Бо вёска ня ведае часу і разьвіцьця, яна нібы застыла ў вечным бясчасьсі, дзе гадзіны адлічваюцца выганам жывёлы, дні — адлегласьцю паміж царкоўнымі сьвятамі, а гады — нараджэньнем і сьмерцю сваякоў ды суседзяў.

Трэба думаць, што горад мусіць-такі перамагаць сваю вясковую сутнасьць. І тады бясчасьсе адступіцца, да традыцыі дадасца гісторыя, а месца аднаго пэрсанажа зоймуць многія — дзяржаўныя мужы, акадэмікі, паэты. І калі тое пачне адбывацца ў сталіцы, яно зрушыць зь месца і ў іншых гарадох, а там і па ўсёй краіне.

этэр 16 лютага 2003 г.

## «Рэспубліка-партызанка»

— Перадача пра Васіля Казлова? — зьдзівіўся калега, калі я назваў яму абраную для «Вострай Брамы» тэму. — Каму гэта сёньня цікава? Яшчэ адзін пэрсанаж з доўгага шэрагу «членаў палітбюро», дарма што сёньня яму спаўняецца 100 гадоў. Той выпадак, калі «ўсё прайшло, мінула, як і не было, у капцох паснула, зельлем зарасло».

Сапраўды, нецікава было б пераказваць тоўстыя казённыя кніжкі пра гісторыю КПБ, яе ролю ў перамозе над фашызмам ды аднаўленьні паваеннай гаспадаркі. Але зазіраць у тыя кніжкі бывае карысна. Хоць бы для таго, каб пераканацца: як тая гісторыя рэхам адбіваецца на

нашай штодзённасьці. А яшчэ для таго, каб пабачыць у той гісторыі вялікае мноства белых плямаў, блытаных эпізодаў і адкрытай хлусьні. І каб урэшце зрабіць выснову, што гэта — зусім невядомая гісторыя.

З імем Васіля Казлова — партызанскага камандзіра і паваеннага кіраўніка БССР — сходу асацыююцца тры рэчы. Першая — вуліца ў цэнтры сталіцы, што носіць ягонае імя. Гістарычна яна Даўгабродзкая, пасьля была перайменаваная ў Казлова, а ў пасьлясавецкі час яе падзялілі на дзьве — частка засталася Казлова, а частцы вярнулі яе спрадвечнае імя, ад чаго менскія дасьціпнікі сталі называць яе «казлабродзкай».

Другая рэч — гэта брэнд «рэспублікі-партызанкі», за якім першай асобаю стаіць той самы Васіль Казлоў. Менавіта ён застаўся ў памяці старэйшага пакаленьня беларусаў, як галоўны пасьляваенны партызан, патрон вэтэранаў ляснога змаганьня.

Нарэшце, трэцяе, што прыходзіць у галаву, — гэта рэабілітацыя менскага камуністычнага падпольля, якой пісьменьнік Іван Новікаў прысьвяціў сваё жыцьцё і творчасьць. Для Новікава гэта была няпростая барацьба, бо на шляху стаяў ня хто іншы, а сам Васіль Казлоў, аўтар афіцыйнай вэрсіі пра тое, што менскае падпольле было створанае фашыстамі — з правакацыйнымі мэтамі.

Урэшце Новікаў перамог Казлова, і сярод назваў менскіх вуліц зьявіліся імёны Ісая Казінца ды ягоных таварышаў. Але гісторыя як была цёмная, так, бадай, яшчэ цямнейшая стала. Мы маем вэрсіі. Вэрсію Казлова пра тое, што падпольле стварылі немцы. Вэрсію Новікава пра тое, што Казлоў, якога Масква прызначыла кіраваць менскім падпольлем у 1943-м, імкнуўся дыскрэдытаваць ранейшых падпольшчыкаў, бо яны зьявіліся стыхійна, без указаньня з Масквы, і таму былі ў ягоных вачах самазванцамі, а значыць, і правакатарамі. Ёсьць яшчэ вэрсія пра тое, што апякун партызанаў Казлоў менавіта іх рабіў галоўнымі героямі вайны і таму імкнуўся не размываць гэтага вобразу іншымі героямі — гарадзкімі падпольшчыкамі. Нарэшце, усё канчаткова заблытваецца, калі глядзець на савецкіх падпольшчыкаў не адназначна, а ва ўсёй складанасьці дачыненьняў з нацыянальным падпольлем і акупацыйнай адміністрацыяй. Чым далей ад нас тыя падзеі, тым больш неадназначнымі выглядаюць іх пэрсанажы, бо тым менш ахвотна мы верым на слова і прымаем чыюсьці адну праўду. А гэта значыць, што Васілю Казлову забыцьцё не пагражае.



Сёньняшняя ацэнка таго партызанскага руху, адным з увасабленьняў якога і быў Васіль Казлоў, — зусім ня тая, якую ён сам даваў у сваіх успамінах. Дакладней, сёньня ацэнак шмат, і яны розныя. Вось, да прыкладу, што кажа пра партызанаў пісьменьнік Валянцін Тарас, які сам пачынаў сваё сталае жыцьцё ў партызанскім атрадзе:

— *Ня трэба думаць, што яны нічога не рабілі, не змагаліся. Яны змагаліся. Былі падрывы эшалёнаў, былі засады, былі налёты на*

*гарнізоны. Карацей кажучы, была партызанская вайна. Ня трэба гэтага адмаўляць.*

Гісторык Уладзімер Ісаенка не адмаўляе. Але, разам з тым, сумняваецца ў эфэктыўнасьці рэйкавай вайны:

*— Урэшце, атрымалася так, што на галоўныя магістралі трэба было рэйкі везьці з Уралу. А гэта ўсё запавольвала хуткае наступленьне савецкіх войскаў. Таму «рэйкавая вайна» — гэта вайна пад сумненьнем. Гэта такая ж, мабыць, рэч, як указаньне таварыша Сталіна, геніяльнае, у 1941 годзе спальваць лясы. Калі б выканалі гэтае ўказаньне, дык дзе ж потым хаваліся б партызаны?*

*В.Тарас: Я прытрымліваюся той думкі, што партызанская барацьба ў Беларусі ў многім мела характар грамадзянскай вайны. Было вельмі часта — адзін брат у партызанах, другі — у паліцыі. Іншая справа, нядаўна я ў «Народнай волі» прачытаў нейкага Аляксея Кулака, які распавядае пра становішча на Валожыншчыне ў час вайны, у час партызанкі. Партызаны ў яго атрымліваюцца толькі рабаўнікі, толькі бандзюгі нейкія, якія ўсё забіралі ў людзей. Забіралі, вядома, таму што партызаны — не рэгулярная армія, іх ніхто ў цэнтралізаваным парадку не забясьпечваў. Усё, што трэба было, трэба было ўзяць у вёскі. І карміцца за кошт вёскі. Вёска, вядома, гэтага не хацела, і ў вачах звычайнага селяніна ўзброены чалавек, які прыйшоў ноччу і забраў карову, ён бандзюга. Але трэба разумець той час, тыя абставіны, і разумець гэтага чалавека. Ён змагаўся, і яму трэба было есьці.*



*Ул.Ісаенка: Партызаны атрымоўвалі газэты «Правда», «Известия», загады там чыталі і пра свае подзьвігі іншы раз чыталі. Але чаму яны не атрымоўвалі дзяржаўных кніжак квітанцыяў? І калі ў якой жанчыны ўзялі карову, чаму не выдавалі квітанцыі? «Вось вам, Марыя Іванаўна, квітанцыя. Пасьля перамогі дзяржава выплаціць вам за вашу карову». Чаму, калі рэквізавалі ў каго валёнкі ці боты для партызана разутага-распранутага, чаму гаспадар не атрымліваў адпаведнага квітка? Інакш пад гэтую марку можна было рабіць усё, што хочаш. І рабілі ўсё, што хочаш.*

*В.Тарас: Мы былі беларускімі партызанамі. Савецкімі? Так. Так наканавала гісторыя. Мы змагаліся з фашызмам пад чырвоным сьцягам. На баку Сталіна. Але на той гістарычны момант у нас не было іншага выбару. Былі сярод нас страшыдлы, былі каты. Падмурак майго савецкага выхаваньня пачаў разбурацца менавіта ў партызанах. Калі я ўбачыў, што такое асобыя аддзелы, што за імі стаіць. Калі я ўбачыў бяссудныя расстрэлы. Але ня трэба зьмешваць у адну кучу тое страшнае, што было, і тое, што кіравала людзьмі. Урэшце, наша перамога ў той вайне мела прынцыповае значэньне для будучыні нашай Бацькаўшчыны, хоць яна была здабыта пад чырвонымі сьцягамі. Таму што ў гісторыі далёкі прыцэл. Калі б тады не ўдалося гэтага зьвера — германскі фашызм — зьнішчыць, дык я ня ведаю, ці маглі б мы сёньня жыць у нейкай Беларусі і марыць пра тую Беларусь, якую мы хочам, якой мы прагнем, за якую мы змагаемся.*

Валянцін Тарас з вышыні свайго жыцьцёвага досьведу пазірае ў даліну гісторыі і робіць сваю ўласную перaацэнку таго, што адбылося:

*— Наконт таго, што Беларусь была «рэспублікай-партызанкай». Тут, канечне, ёсьць пэўнае перабольшаньне. Партызанскі рух быў даволі шырокім, але самым шырокім ён зрабіўся напрыканцы 43-га — напачатку 44-га году. Калі паступіў загад Цэнтральнага штабу партызанскага руху ў Маскве. Мабілізаваць усю моладзь. Хочуць яны ці не. І вялікімі гуртамі гналі гэтую моладзь у лес. І я глыбока перакананы, на падставе свайго досьведу, што вось адсюль узяліся гэтыя паўмільёна. Напрыканцы 43-га, напачатку 44-га году. Іх, канечне, да гэтага часу не было столькі. Былі атрады невялічкія, дывэрсійныя групы. Таму, калі кажуць, што гэта была «рэспубліка-партызанка», гэта ў пэўным сэнсе перабольшаньне. І на заканчэньне яшчэ раз скажу. Ня трэба хлусіць ні з аднаго боку, ні з другога. Трэба глядзець па меры магчымасьці аб'ектыўна. А савецкую канцэпцыю яшчэ вельмі доўга прыйдзецца зжываць. Яшчэ прыйдзе гісторык, нармальны чалавек без усялякай перадузятасьці, безь ніякай сымпатыі ні да правых, ні да левых. І прачытае таго ж Казлова, і прачытае кніжку Адамовіча, і прачытае «Вогненную вёску» Брыля, Адамовіча і Калесьніка. І прачытае ўсё тое, што напісана было не партызанамі. Нават Цанаву прачытае, які таксама пісаў пра «народных мсьціўцаў». Усё гэта ён пераварыць і паставіць на тыя паліцы, дзе тая ці іншая зьява і павінна стаяць. З гістарычнага пункту гледжаньня.*



Брэнд «рэспубліка-партызанка» прыдумалі першы партыйны сакратар Панамарэнка і кіраўнік тагачаснага КГБ Цанава. Абодва выпусьцілі манаграфіі пра партызанскі рух. Абодва былі ў Беларусі людзьмі прыежджымі, і аднпачасова пачуваліся поўнымі гаспадарамі. І вось гэтыя два абароцістыя гаспадары — казак і грузін — склалі легенду пра «рэспубліку-партызанку» з зусім практычнай у сваім гаспадараньні мэтай. Беларусь сапраўды ляжала ў руінах, і трэба было пад нешта выбіваць у Маскве аграмадныя фонды на аднаўленьне. Папросту кажучы, калі армянін мог у высокім кабінэце дастаць бутэльку каньяку, а літовец — жоўтыя галовы сыру, дык беларусу выцягнуць не было чаго. Па-першае, сапраўды нічога не было, па-другое, такога матыву, каб нешта выцягваць, не было ў натуры. Таму пасьля літоўца і грузіна ў кабінэт заходзіў герой-партызан з самай гераічнай і самай пацярпелай за акупацыяй, рэспублікі…

Што праўда, прыдуманы Панамарэнкам і Цанавам брэнд несьці па жыцьці выпала ўжо ня ім.

Кожны кіраўнік краіны ёсьць яе партрэтам у тую эпоху, калі кіруе. Таму і вывучаюць розныя эпохі па імёнах цароў ды каралёў. У Беларусі пасьля ліквідацыі нацыянал-камуністаў яшчэ ў даваенным Курапацкім лесе на самай першай у краіне пасадзе зьмянялі адзін аднога выключна расейцы. Прычым такія, што ні да

прызначэньня на пасаду, ні пасьля сыходу зь яе ніякага дачыненьня да Беларусі і яе народу ня мелі. Самы прыкметны зь іх — краснадарац Панцеляймон Панамарэнка. Ён кіраваў Беларусяй з 1938 да 1947 году. Гэта значыць, што Курапаты, далучэньне Заходняй Беларусі, калектывізацыя, вайна зь яе акупацыяй і партызанкай, а таксама першае пасьляваеннае аднаўленьне — усе самыя буйныя катаклізмы і тэктанічныя зрухі 20 ст. на нашай зямлі — праходзілі пад ягоным мудрым кіраўніцтвам. У 1947-м на тры гады бээсэсэраўскі пасад займае нехта Мікалай Гусараў — ужо астраханскі казак, які партыйную кар’еру распачаў ва Ўрупінску. У Беларусі ён быў аднойчы, праездам — на гэтыя самыя тры гады. Наступны — Мікалай Патолічаў. Родам з «залатога кальца» Расеі. Ён кіраваў да 56-га. Гэта значыць, перажыў усе пэрыпэтыі, зьвязаныя са сьмерцю Сталіна, так званай берыеўскай беларусізацыяй і разьвянчаньнем культу асобы. Акурат пасьля гэтага разьвянчаньня, у 56-м, адбываецца пералом. Прыходзяць нашы — партызаны.

*Сяргей Харэўскі:*

*Тыя, хто стаяў на трыбуне, прымаючы трыццацітысячны партызанскі парад сярод руінаў сталіцы, наўрад ці ўяўлялі сабе, чым стане Менск яшчэ пры іхнай уладзе. Скопішча закурэлых разваліна́ў, што пужала сваім выглядам мінакоў, літаральна на вачах ператваралася ў Сталіцу.*

*Па інэрцыі мы й сёньня называем стыль тае эпохі «сталінскім», але гэта старая памылка. Па-першае, Сталін памёр у 1953 годзе, а ансамблі плошчаў Перамогі, Камароўскай і Прывакзальнай узводзілся пазьней. А па-другое, стыль тае паваеннае пары ў дойлідзтве й дызайне вельмі падобны быў ва ўсіх краінах-трыюмфатарках: Амэрыцы, Францыі й Ангельшчыне, дзе яго пазначаюць тэрмінам «ар-дэко».*

*А вось якім тэрмінам назваць тагачаснае кіраўніцтва Беларусі — ад разьвянчаньня культу асобы да пачатку шасьцідзясятых? Найлепей надаецца азначэньне: эпоха палешукоў або гомельцаў.*

*Амаль адразу пасьля вайны галоўныя пасады ў кіраўніцтве БССР занялі выхадцы з Гомельшчыны. Вярхоўны Савет ачоліў Васіль Казлоў. Савет міністраў — Аляксей Кляшчоў. Камсамол — Кірыла Мазураў, а за ім і Аляксандар Аксёнаў. Старэйшаму з гэтае пляяды, Казлову, напрыканцы вайны было сорак гадоў, малодшаму, Аксёнаву, — 20. Іхныя густы маладых людзей без фундамэнтальнай адукацыі, якую замяніў досьвед вайны на акупаванай тэрыторыі, на доўгія гады сфармавалі духоўны й ідэалягічны клімат у Беларусі. Ад іх пайшоў традыцыйны вобраз беларускага кіраўніка як маладжавага зуха, што так рэзка кантраставаў на тле маскоўскага чынавенства.*

*Мне згадваецца такая гісторыя — як ілюстрацыя тагачаснага ладу. Адзін з колішніх партызанскіх атаманаў, Паўлоўскі, пабраўшыся чарговы раз шлюбам, вырашыў зрабіць сабе й новае жытло. Самапасам засяліўся ў камфортную кватэру на праспэкце, побач з*

*Батанічным садам. Калі таварышы прыйшлі яго ўшчуваць за незаконнае ўсяленьне, той гаркнуў: «Страляць буду!» Што рабіць? Зьвязаліся з Васілём Казловым. А той сказаў, каб партызанскага правадыра не чапалі. Гэтак ці прыкладна гэтак вырашалася тады большасьць справаў. У такім стылі. Бязь лішняе бюракратыі.*

*Ужо ў 1949 годзе Менск аднавіў даваенныя тэмпы вытворчасьці. Калі на 44-ты год, паводле розных падлікаў, у сталіцы жыло максымум 50 тысячаў чалавек, дык праз дзесяць гадоў менчукоў было ўжо ў дзесяць разоў болей.*

*Мала хто зважае цяпер, але за паваеннае дзесяцігодзьдзе плошча лясоў у Беларусі перавысіла даваенную больш чым на паўмільёна гектараў і склала блізу 35% нацыянальнае тэрыторыі. Гэты фэномэн цяжка вытлумачыць, ня ведаючы паходжаньня й біяграфіяў кіраўніцтва. Гледзячы ў вокны цягніка на сінія лясы на даляглядзе, што ў нас трапляюць на вока паўсюдна, варта згадаць, калі яны зьявіліся.*

*На тым паваенным пакаленьні кіраўнікоўпалешукоў не было правіны за расстрэлы й дэпартацыі. І яны, бадай, адчувалі гэта, параўноўваючы сябе з таварышамі зь іншых рэспублік. Брак адукацыі спрыяў іхным сумневам. Ад канца саракавых да сярэдзіны шасьцідзясятых культура й навука былі дзяржаўнымі прыярытэтамі. А самі дзяржаўцы імкнуліся ня ўмешвацца ў тое, чаго ня ведалі. Вось адкуль іхнае ашчаднае і ўважлівае стаўленьне да дзеячоў культуры, навукі й нават рэлігіі. Варта згадаць і тое, што большасьць найлепшых помнікаў дойлідзтва была зьнішчаная альбо да вайны, альбо значна пазьней, у 60-я й 70-я гады.*



*Больш за тое, беларусы, сакратар КПБ Мазураў і сакратар ЦК КПСС Зімянін пасьля сьмерці Сталіна агітавалі за беларусізацыю, за тое, каб кіраўніцтва «гаварыла на роднай мове народу». Які з таго быў плён — іншая гаворка. Але тое, што ў 1957 годзе ў «ЛіМе» зьявіўся артыкул Барыса Сачанкі «Шанаваць родную мову», у якім аўтар заклікаў перавесьці ўсё школьніцтва на беларускую мову, — факт яскравы.*

*Дзеячы культуры адказвалі кіраўнікам узаемнасьцю. Партрэты Васіля Казлова пісаліся мастакамі ўжо ад 1943 году. Жывапісцы Мадораў, Волкаў, Зайцаў, а пасьля й скульптары Глебаў і Азгур пакінулі мастацкія выявы гэтага чалавека.*

*Езьдзячы па іншых тэрыторыях шостае часткі сьвету, я паўсюдна чуў дыфірамбы ў гонар Беларусі. Шафёр узбэк расхвальваў беларускія дарогі, архітэктар азэрбайджанец — горадабудаўніцтва нашых гарадоў, міліцыянт чуваш — узорны праваахоўны парадак у БССР. І гэта было праўдаю. Маладое паваеннае кіраўніцтва на чале з гомельцамі на доўгія гады сфармавала вобраз Беларусі як заўсёды маладое краіны.*

*У сярэдзіне 60-х гадоў мінулага стагодзьдзя гомельскае зямляцтва пакрысе сышло з гістарычнае арэны. Разам зь ім сышлі «цёмныя» часы паміж сталінізмам і брэжнеўшчынай, сышла рэлігійная й нацыянальная лібэраліза-*

*цыя, сышлі ў нябыт вялізарныя праекты пераўтварэньня гарадоў, паўставаньня навукі й мастацтваў.*

*Наступную эпоху гісторык Захар Шыбека ахарактарызаваў як «нэасталінізм». Яна прынесла з сабою разбурэньне традыцыйных каштоўнасьцяў, масавую русіфікацыю, антысэмітызм, а ўрэшце паставіла Беларусь на мяжу экалягічнае катастрофы.*

*Фатальным чынам прапалі й родныя вёскі тых паваенных правадыроў на гомельскім Палесьсі. Адно толькі белы пясок мяце вецер па колішніх котлішчах...*

Сапраўды, родныя вёскі тых гомельцаў, у якіх, па ідэі, маглі б быць нейкія памятныя знакі, зьніклі. Цалкам можа быць, што такой была воля наступных кіраўнікоў, якія падзялілі вёскі на пэрспэктыўныя і непэрспэктыўныя, або ў выніку Чарнобыльскае катастрофы, або — як у выпадку спаленага немцамі котлішча Васіля Казлова, так і не аднавіліся. Сам Казлоў памёр у 1967-м. Гомельскіх партызанаў у кіраўніцтве рэспублікі зьмянілі віцебскія, пачалася вялікая хімія і доўгі грамадзкі застой пад ужо добра раскручаным брэндам «рэспублікі-партызанкі». «Абаяльны» Машэраў затуліў сабою ўсіх ранейшых кіраўнікоў, і цяпер для большасьці беларускае моладзі гісторыя пачынаецца зь яго — гэтаксама, як Менск пачынаецца зь ягонага праспэкту.

Беларусы даўно ўжо зь недаверам ставяцца да свае партызанскае натуры, дый толку ад старога брэнду няшмат. Хіба што ў мастацтве, калі выходзіць у сьвет мадэрновы часопіс з такой назваю — «Партызан» — і міжволі нагадвае адно толькі назвай сваёй — і пра Васіля Казлова, і пра ягоную барацьбу з Іванам Новікавым, і пра тых пасьляваенных гомельцаў-палешукоў.



этэр 9 сакавіка 2003 г.

## Тодар Кляшторны

З гадамі многае бачыцца ясьней у гісторыі 20 ст. Але ёсьць і такія моманты, да якіх — не падступіцца. Да прыкладу, уявіце сабе нішчымны веснавы дзянёк пачатку 1950-х і Якуба Коласа на падворку ягонага менскага асабняка. Народны паэт даглядае азіміну ў сваім агародзе на лапіку зямлі. А за сталом у кабінэце піша артыкулы пра родную літаратуру. Патрыярх дасьледуе творчасьць пяці чалавек. Лынькоў, Куляшоў, Броўка і Глебка... Усяго пісьменьнікаў не нашмат болей. І вось, выходзячы на падворак, пра што думае Колас? Ці думае пра тое, якую нішчымніцу ён, майстар з дарэвалюцыйным стажам, дасьледуе? Ці думае, куды падзявалася сапраўдная літаратура? І галоўнае — куды падзяваліся тыя дзясяткі й дзясяткі апантаных творчасьцю і вырослых на ягоным, Коласавым, аўтарытэце маладых і крыху старэйшых паэтаў? Ён, іхны літаратурны бацька, жывы і абласканы ўладай — ці адчувае хоць кроплю адказнасьці за іх — расстраляных, са-

сланых, змушаных эміграваць? Калі не адказнасьць, дык хаця б шкадаваньне. І калі нават ня іх, дык хаця б той паэзіі, што была загубленая разам зь імі?

Дакумэнтальных сьведчаньняў пра тое няма. Пытаньне застаецца адкрытым.

Сьляпое сталінскае сонца высьвечвае шэрую пуставатую рэчаіснасьць. Дзядзька Якуб на падворку мружыць вочы. Дасаджаюць хваробы, і хочацца ў лес... Быццам нічога й не адбылося за ягонай сьпінай. Проста зь літаратурнага працэсу выпала пакаленьне, а сам працэс на пакаленьне выпаў з часу...

Чаму я пачаў пра Коласа? Бо хачу гаварыць пра Тодара Кляшторнага, аднаго зь дзясяткаў беларускіх паэтаў, у біяграфіях якіх ёсьць слова «расстраляны». Часам здаецца нават — што ні паэт, то — расстраляны. Быццам так і павінна быць. А калі не, дык павінна ж быць хоць нейкае пярэчаньне гэтаму, хоць самы слабы супраціў — ну, хоць бы адвярнуўся нехта дэманстратыўна... Не. Ані факту. Вось чаму падумалася пра Коласа. Колас — гаспадар, прызнаны і самы вялікі ў літаратуры аўтарытэт. Колас пэдагог — у свой час выкладаў усім гэтым расстраляным паэтам. Яны ж дзівакі, гэтыя паэты, асабліва маладыя. Ім уласьціва верыць у цуды, гіпэртрафаваць рэальнасьць. На каго яны маглі спадзявацца, як на апошняга? На таго старэйшага, у чыю справу прыйшлі ўсёй душой, і хто ў гэты момант, калі іх расстрэльваюць, сядзіць у кабінэце і піша вершы. Ну, на каго яшчэ мог спадзявацца Кляшторны?

Зрэшты, маё пытаньне не пра Кляшторнага, а пра Коласа, які сее жыта на сваім сталічным падворку. Якраз Кляшторны ведаў, што ніхто ні за кога не заступаецца. Такія былі прапанаваныя правілы жыцьця.



Тады, перад вайной, яны моцна цешыліся, што столькі талентаў прыйшло ў літаратуру...

Расьце наш народ, і расьце яго дар:
Дубоўка, Зарэцкі, Дарожны, Дудар,
Хадыка, Бандарына, Вольны, Багун,
Грышкевіч, Вішнеўская, Танк, Салагуб,
Язэп Падабед, Маракоў, Шашалевіч,
Кляшторны, Лужанін, Бартуль, Ільляшэвіч,

Мікуліч, Цьвікевіч, Знаёмы, Скрыган,
Калюга, Радзевіч, Грыневіч, Пфляўмбаўм,
Арсеньнева, Геніюш, Чорны, Машара,
Жылка, Салавей, Бабарэка і Хмара,
Баркоўскі, Талерка, Сакол, Нікановіч,
Казлоўскі Пятрусь, Іванова, Міровіч,

Пятро Глебка, Моркаўка, Трус, Галавач,
Язэп Пушча, Івэрс, Ванаг, Крапіва,
Крушына, Случчанін, Вольны, Хведаровіч,
Зосім, Лебяда, Звонак, Александровіч,
Клішэвіч, Кавыль, Золак, Віцьбіч, Сяднёў
— Сыны сенажацяў, вазёр і гаёў.

Во колькі імёнаў зарыфмаваў паэт Алесь Змагар, хоць мог і ў дзесяць разоў болей. А засталося — як пальцаў на руках...

Мора паэтаў, амбіцыяў, мноства кніг і размоваў вакол. Часопісы, сходкі, таварыствы, культурныя героі... Каляровы і аб'ёмны сьвет, зусім не падобны на гэты нішчымны веснавы дзянёк. А якія шматфарбавыя вершы! Зусім ня тое, што крэмзаюць цяпер два Петрусі...

Жахлівы час — гэта так. Але ці можам мы, да прыкладу, казаць пра карпаратыўную адказнасьць пісьменьнікаў ці адраджэнцаў нацыі, як сям'і? І ці паўставала такое пытаньне перад дзядзькам Якубам, на той час — непадзельным духоўным гаспадаром у гэтай літаратуры?

Хіба ня слушна, гаворачы пра адказнасьць, шукаць старэйшага, а ня стрэлачнікаў?

29 кастрычніка 1937 году расстралялі 20 маладых пісьменьнікаў, на наступны дзень — яшчэ трох. Для большасьці зь іх забіцьцё стала пачаткам забыцьця. Цікава, што думаў пра гэта дзядзька Якуб у 1953-м. Ён, як гаспадар літаратуры, мусіў неяк плянаваць месца гэтых аўтараў пасьля... Часы спакваля зьмяняюцца. Вось і Сталін памёр, і ў ГУЛАГу зьмякчылі рэжым, а вось і вярнуўся нехта. Дык што, будзем успамінаць творы забітых, будзем іх перавыдаваць, ну, ня сёньня, але ў прынцыпе, ці — паставім на ўсім гэтым крыж? Няхай забудзецца, як не асабліва чаго вартае? Колас піша доўгія аналітычныя артыкулы, ён аналізуе пустату, і пры гэтым — няўжо ня думае пра тых? Няўжо прымае іхнае забыцьцё?

Пазьней іх стануць-такі перавыдаваць — амаль усіх. Але акажацца, што гэта ня так проста — пераадолець дваццацігадовае забыцьцё, зьявіцца пасьля працяглае клінічнае сьмерці да жыцьця паэзіі ніяк не лягчэй, чым чалавеку. Вакол зьменены сьвет, зусім незразумелая крытыка. У паэзіі скралі кантэкст *ейнага* часу — вось чаму ёй так цяжка. Скажам, Тодара Кляшторнага перавыдавалі пасьля сьмерці Сталіна двойчы, але ад гэтага ён не вярнуўся з забыцьця.



Дачка паэта Мая Кляшторная неяк згадвала на Радыё Свабода, як яны з маці каля дзесяці гадоў хадзілі па чынавенскіх кабінэтах і даказвалі, што Тодар Кляшторны — паэт. Але й гэтых дзесяці гадоў не хапіла. Бо, да прыкладу, сёлетні адрыўны каляндар «Родны край» паведамляе: «11 сакавіка — 100 гадоў з дня нараджэньня Т.Т.Кляшторнага (1903—1944), дзеяча рэвалюцыйнага руху, публіцыста». Мала таго, што паэту прыбавілі сем гадоў жыцьця, дык і назвалі тым, кім ён ніколі ня быў. Ані дзеячом, ані публіцыстам. Тодар Кляшторны быў толькі паэтам, прычым, у самым дастатковым сэнсе гэтага слова.

Некалькі словаў пра той агульны эстэтычны кантэкст, у якім трэба разглядаць творы Тодара Кляшторнага. Філёзаф і дасьледнік літаратуры Ўладзімер Конан згадвае тыя даваенныя літаратурныя групоўкі, куды ўваходзіў паэт:

— *Я думаю, што афіцыйная палітыка беларусізацыі моцна паспрыяла гэтаму прыліву (я называю яго другім прылівам у 20 ст.) таленавітых пісьменьнікаў у беларускую літаратуру. Аднак справа ў іншым. Сам па сабе ўнікальны вопыт беларускай літаратуры, які пазначаны часовым і парадаксальным саюзам паміж беларускім нацыянальным адраджэньнем, адраджанізмам, як тады называлі, і камуністычнай клясавай ідэалёгіяй. Хаця камуністычная клясавая ідэалёгія ў значнай ступені навязвалася зьверху, аднак адбылася вельмі цікавая кантамінацыя гэтых дзьвюх*

*плыняў. І атрымалася так, што якраз у 20-я гады, калі ўзьнік «Маладняк», закончыў сваё вельмі кароткае існаваньне беларускі мадэрнізм. Гэта мадэрнізм Малевіча, гэта спроба стварыць новае мастацтва. І вось гэты сынтэз беларускага нацыянальнага адраджэньня, мадэрнісцкіх плыняў і клясавай ідэалёгіі — унікальны вопыт нашай беларускай культуры 20-х гадоў. На гэтым сынтэзе ўзьнік «Маладняк», і гэты сынтэз стаў распадацца ўжо ў 1927—28 годзе, калі камуністычная ідэалёгія перарасла ў тэрор супраць так званага нацыяналізму, а таксама цалкам падушыла мадэрнісцкія плыні ў савецкім мастацтве. Творчасьць і паэзію Тодара Кляшторнага трэба разглядаць у гэтым пляне. Фактычна, ён быў адным з прадстаўнікоў беларускага імажынізму — у нейкім сэнсе пасьлядоўнікі Сяргея Ясеніна, аднак гэты беларускі імажынізм ня быў паўтарэньнем расейскага руху імажыністаў. Фактычна, гэта быў самабытны кірунак, які арыентаваўся на так званыя кантрасныя вобразы, напеўнасьць, на сялянскую тэматыку, на фальклёр, аднак адначасова ставіў на першым месцы культурнае і дзяржаўнае адраджэньне Беларусі.*

Уладзімер Конан разглядае творчасьць Тодара Кляшторнага ў кагорце паэтаў той пары. Гэтая бурапенная, рознакаляровая паэзія быццам разам зь ейнымі аўтарамі сышла ўвадначасьсе ў нябыт. Тое, што пісалі пасьля вайны, і што даводзілася аналізаваць Якубу Коласу, побач зь ёю, як кажуць, і блізка не стаяла. Яно, цяперашняе — такое самае, як і ўсё навокал, як гэтае пустасьветнае сонца, як гэтыя будынкі, дрэвы і людзі — аднамерныя, нібы на засьвечаным фатаздымку. Можна зразумець у такіх абставінах тых, хто іншага жыцьця й ня бачыў. Але Колас бачыў. І паўнату жыцьця, і жарсьці, і парывы... Можа быць, ён забыў? Але біёграфы сьведчаць, што ў апошнія гады патрыярх, наадварот, шмат думаў пра мінулае, імкнуўся яго рэканструяваць...



З масы прачытанае савецкае літаратуры і крытыкі вобраз Кляшторнага паўстае, як вобраз камсамольца з правільнымі вершамі-маршамі, што ўслаўляюць Кастрычнік і Першамай. Нас так вучылі, што ўсе маладыя савецкія паэты былі нібы на адзін твар — як лётчыкі ў фільмах пра Чкалава. Мінімум пэрсанальных рысаў і поўны набор чалавечых якасьцяў у строгай адпаведнасьці з маральным кодэксам будаўніка камунізму. Насамрэч, усё гэта хлусьня. Знаёмства з творчасьцю і з успамінамі тых літаратараў, якім давялося эміграваць, а значыць, не было патрэбы хлусіць, пераконвае, напрыклад, што Кляшторны ня быў ні савецкім, ні антысавецкім паэтам. Вось што згадвала пісьменьніца Вольга Таполя:

«Беларускага паэту Тодара Кляшторнага я ведала ў дні свайго раньняга юнацтва. Высокі, хударлявы, з капной густых, саламяна-сьветлых валасоў на галаве, з блакітнымі, пад колер блёклых васількоў, вачыма, ён быў заўсёды неяк па-асабліваму сумны, нейкім смуткам веяла ад яго. Каля ягоных тонкіх бледных губ рана леглі складкі горычы. Ён рэдка сьмяяўся, і ягоная ўсьмешка таксама была заўсёды сум-

най. І яшчэ быў ён ціхі, спакойны, ураўнаважаны, ніхто ніколі ня чуў і ня бачыў, каб ён злаваўся...

...Увогуле Кляшторны быў вельмі чулы. Калі хто-небудзь зь ягоных калегаў чытаў свой моцны верш, які праймаў да сэрца, у Кляшторнага на вачах набягалі сьлёзы...

Мне ўспамінаецца адзін прыгожы веснавы дзень. Прыпадкова я сустрэла тады Кляшторнага за горадам. Ён быў з аднэй дзяўчынай. Вясёлая, бойкая дзяўчына была поўным кантрастам ціхаму сумнаму паэту. Яны ішлі побач па высокай траве берагам ракі. Веснавы вецер свавольна гуляў саламянымі валасамі Кляшторнага. Ён ішоў, задуменна спусьціўшы вочы долу.

— Я не разумею цябе, Тодар, — казала дзяўчына. — Скажы мне, ну, скажы — чаму ты такі сумны?

— У мяне нейкае цяжкое прадчуваньне, — ціха адказаў паэта. — Вось пабачыш, мне яшчэ давядзецца зазнаць вялікія цярпеньні, пакуты...

— Цярпеньні?.. Пакуты?.. — зьдзіўлена перапытала дзяўчына. — Скуль? Чаго?

— За Беларусь, — яшчэ цяжэй адказаў Кляшторны, і ціхім шолахам вецер разьнес ягоныя словы па хмызьняку...

Прароцтва паэты спраўдзілася — неўзабаве ён быў схоплены НКВД, з кіпцюроў якога ўжо ня выйшаў».

Ва ўспамінах Вольгі Таполі Тодар Кляшторны выглядае чалавекам мяккага характару, незлаблівым і бесканфліктным. На такіх самых рысах робіць акцэнт і Юрка Віцьбіч:



«Міхась Багун меў заўсёды напагатове 5—6 вершаў «На сьмерць правадыра». Калі хто-небудзь зь іх здыхаў, дык ён, падставіўшы адпаведнае імя, як хутчэй бег са свае Даўгабродзкае ў «Зьвязду» ці «Чырвоную зьмену». Аднойчы, калі памёр Дзяржынскі, пабег ён з прачулым вершам у «Зьвязду». Прыбег, аж засопся, а зь яе выходзіць Тодар Кляшторны і ўсьміхаецца: «Дарма, братка. І тут, і ў «Чырвонай зьмене», і ў «Работніцы і сялянцы», і ў «Піянэры Беларусі» ідзе маё». Хто ў стане кінуць камянём у гэтых двох, што сталіся ахвярамі бальшавізму?»

«...на зборнік Кляшторнага «Праз шторм на штурм» Багун зьмясьціў у «Чырвонай зьмене» рэцэнзію пад загалоўкам «З дарогі, крот і кракадзіл». Сам Кляшторны не надаваўся на тое, каб за гэта вылаяць Багуна, але проста з гора безупынку цэлы тыдзень піў».

«Нас пазнаёміў у Менску Сяргей Дарожны, і ў мяне склалася ўражаньне пра Лужаніна, што, як чалавек, ён куды больш валявы, заўзяты, чым той жа Сяргей Дарожны або Тодар Кляшторны».

Бесканфліктнасьць Кляшторнага найперш заўважная ў ягонай паэзіі.

Можа, як нікому, яму чужы быў сьмяротны бой, які тады апяваўся іншымі паэтамі. У яго два героі — белы і чырвоны, прычым, як правіла, гэта або браты, або — як браты ці як сыны аднае маці. У вершы «Маці» ён распавядае, як белыя на вачох у маці забіваюць ейнага сына — чырвонага. Яна запомніла злачынцу і пракляла яго. Але неўзабаве да яе ў хату прыносяць

таго белага на насілках — ён паранены. «Халодны момант... Потым крык душы». Потым яна бярэцца яго ратаваць са словамі «І ты ж, сынок, таксама чалавек». А ў выніку — вечная тэма. Чым менш сацрэалістычнай аднамернасьці, тым болей у твора шанцаў застацца ў літаратуры і быць цікавым, распавядаць галоўнае пра свой час.

Мяккахарактарнасьць Кляшторнага гатовая ператварыць яго ў жывую прыкметнасьць тагачаснага Менску, амаль што ў гарадзкога вар'ята — забаўнага чалавека з канарэйкай, які звычайна ўвасабляе сабой тое, што ў гораду ёсьць душа.

З успамінаў аўстралійскага беларуса Сымона Шаўцова:

«Кляшторны быў маім суседам па кватэры на пасёлку «Камінтэрн». Разам ішлі неяк з Дому Пісьменьнікаў па прагнілых дошках ходніку на Ляхаўцы. Тодар у абдрыпаных нагавіцах: адна калашына закасаная вышэй калена, другая — спушчаная на падраны чаравік. Нёс на руках сваё малое дзіця, а за ім дробненька тупала ягоная малая, шчуплая жонка. За жончыну спадніцу трымалася малая дачушка. «Тодарка, родненькі, не ўпусьці дзіцятка!» — паўтарала жонка. Тодарка быў крыху падпіты.

Кляшторны часта насіў з сабою ў клетцы канарэйку, якую вучыў размаўляць. Рабочыя-муляры ведалі, што ён — паэт. З рыштаваньняў забачаць яго і гавораць: «Вунь, ідзе пралетарскі паэт!» Пыталіся: «Як сьпявае канарэйка?» «Не сьпявае, а плача ў клетцы канарэйка», — адказваў Тодар...



...У 1934 годзе ўтварылі Саюз пісьменьнікаў БССР. Крытыкі яшчэ горай напалі на «ворагаў народу», «нацдэмаў». Асабліва шчыравалі Бэндэ й Кучар. Моцна дасталося Тодару Кляшторнаму дый амаль усім «узвышэнцам» і «маладнякоўцам».

Нарэшце, зусім праясьняюць тагачасную сытуацыю наступныя паведамленьні. Публікатар лістоў Юркі Віцьбіча да Антона Адамовіча Лявон Юрэвіч зьвяртае ўвагу на такую невядомую савецкай крытыцы арганізацыю, як ТАВІЗ — Таварыста аматараў выпіць і закусіць. Віцьбіч згадвае Кляшторнага цёплым сяброўскім словам. Пры гэтым робіць важную заўвагу: пасьля ліквідацыі «Ўзвышша» і стварэньня адзінага Саюзу пісьменьнікаў з усіх узвышэнцаў, якія былі прынятыя ў Саюз, «толькі Тодар Кляшторны быў прыняты кандыдатам, але не за былое ўзвышэнства, а за справы ТАВІЗу». Юрка Віцьбіч піша:

«Вас цікавіць ТАВІЗ. Пасьля расшыфроўкі атрымліваецца вельмі празаічна — Таварыства Аматараў Выпіць і Закусіць. Па сутнасьці, гэта штосьці накшталт спробы арганізацыйна аформіць беларускую багему... У склад ТАВІЗу ў розныя часы або адначасова ўваходзілі Тодар Кляшторны, Уладзімер Хадыка (да жаніцьбы), Васіль Каваль, Алесь Дудар, Міхась Багун, Валеры Маракоў, Эдуард Самуйлёнак (да хваробы), Сяргей Дарожны і іншыя. Зьбіраліся звычайна або ў каго-небудзь на кватэры (пераважна ў Багуна), або ў 2-й гасьцініцы, калі я прыяжджаў зь Віцебску, або ў шашлычнай на вуліцы Камсамольскай, або ў маленькай піў-

нушцы — уніз па вул. Савецкай, або (у крайнім выпадку) у сутарэньні Дому Пісьменьніка, дзе меўся пэўны час рэстаран…

…Беларуская багема, бадай, нічым не адрозьнівалася ад багемаў іншых нацыянальнасьцяў. Яна зьяўлялася пратэстам супраць існуючага «пракрустава ложа». На паседжаньнях багемы, без старшыні і сакратара, за кухлем ці кілішкам, чыталіся творы, якія пісалі для сябе, а не для друку.

Да нейкае ступені, вельмі невялікае ступені, гэты наш ТАВІЗ нагадвае ясенінска-марыенгофскую «Зойкину квартиру». І тут і там — літаратарская багема, аднак на гэтым падабенства і канчаецца. У нас ТАВІЗ набыў характар ня толькі палітычнага, але й нацыянальнага супраціву, а таму невыпадкова не сыходзіў з парадку дзённага на партпаседжаньнях».

Такім чынам, вобраз Тодара Кляшторнага — гэта сумны, крыху нехлямяжы паэт, вечна нападпітку, але ня здатны на канфлікты. Ён піша вершы пра вечаровую муць, у якіх словы, як акварэльныя фарбы, расплываюцца на паперы. Але нельга такі партрэт разглядаць асобна ад тагачасных абставінаў. І алькаголь, і паўвар'яцкі выгляд, нават неахайнасьць у адзеньні, і незлаблівасьць — гэта ўсё спосабы абароны ад рэчаіснасьці, спосабы захаваць сваю асобу і свой паэтычны талент, агарадзіць сябе ад палітычнай рэальнасьці таталітарнага грамадзтва. Сапраўды, такога не запросяць у прэзыдыюм, але супраць такога і паказальнага судовага працэсу ня зладзіш. Таварыства аматараў выпіць і закусіць — гэта вам не Саюз



вызваленьня Беларусі. Такога нават крытыкаваць сур'ёзна за «палітычныя памылкі» — не выпадае. Выглядае, што Кляшторны і сьведама, і змушана рабіў сабе вобраз, у якім яго можна было толькі… расстраляць — без асаблівага перад тым вымазваньня ў друку. Уявіце, каб ён і сапраўды быў правільным камсамольцам, непазьбежна ўцягнулі б у нейкія прэзыдыюмы, тройкі, прымусілі б загубіць уласных таварышаў, пасьля ўчынілі абліваньне брудам, паказальны працэс і — у выніку — расстрэл. Кляшторны не пацягнуў за сабой гэткага бруднага шлейфу. Ён проста загінуў, як бажаволак, ведаючы, што ў гэтым сьвеце ні ад каго яму ня варта чакаць паратунку. Бо такія правілы гэтага жыцьця, а іншага ён, бадай, і ня ведаў.

Вось дзе распадаецца савецкае маналітнае ўяўленьне пра тых камсамольскіх паэтаў, як пра змагароў за сьветлую яву. Калі арыштавалі галоўных завадатараў «Узвышша», яны зьбіраліся сваім ТАВІЗам, крыху выпівалі і чыталі адзін аднаму вершы, наіўна спадзеючыся самі вычуць у іх крамолу, каб, крый Божа, не аддаць у друк чагосьці недазволенага. Прыпёртыя да сьцяны, яны проста не маглі ўцяміць, каму і навошта іх спатрэбілася забіваць. З-за іхнай паэзіі? Яны, ня маршавыя зусім людзі, былі акрасаю гэтага манатоннага і нуднаватага сьвету, адзінай у ім разнастайнасьцю — са сваёй вечнай прагай пісаць пра васількі, пра чыстую красу. Але… Той сьвет вырашыў пазбавіцца ад іх. І ад усіх такіх, як яны. Той сьвет думаў ачысьціцца ад усяго лішняга, а выйшла, што лішняе якраз і засталося. Рэшта застала-

ся пасьля таго, як было зьнішчана цэлае. Жыцьцё.

Пачаўшы гэтую перадачу зь Якуба Коласа і з развагаў пра ягоную адказнасьць за дзясяткі зьніклых маладых паэтаў, я ўсё пытаўся пра знакі, якія народны пясьняр мог пакінуць у нішчымным паваенным жыцьці — знакі калі не адказнасьці, дык хаця б шкадаваньня, і калі не пра паэтаў, дык хаця б пра іхную творчасьць, безь якой нацыянальная літаратура надоўга патрапіла ў вакуўм бясчасься. Не знайшоўшы такіх знакаў, я думаю пра тое, што ніхто, бадай, і не пытаўся ў Коласа пра ягоныя перажываньні. Урэшце, даць нейкі знак нашчадкам — значыць ня толькі самое гэтае «даць», але й прыняць, пачуць, зразумець. Варта толькі пачаць думаць пра гэта, і адкрыецца.

Неверагодна, але Колас сустрэўся з Кляшторным. У 1956 годзе. Гэты факт зафіксаваў у сваёй кнізе пра народнага песьняра літаратуразнаўца Сьцяпан Александровіч. У самы апошні дзень свайго жыцьця Якуб Колас паехаў у Курапаты.

«Пасьля сьняданьня 13 жніўня 1956 году Канстанцін Міхайлавіч папрасіў шафёра завезьці яго ў лес. Праехалі яны па Маскоўскай шашы і зьвярнулі налева, дзе на пагорку сталі высокія сосны, а крыху ніжэй прыкідаліся купкі дужых бяроз.

Спачатку ён крыху патупаў: ці не схаваліся дзе ў зялёным моху ці пад кустом баравікі. А потым прысеў на пень. Сонца сьвяціла яшчэ палетняму, але перагонамі налятаў халодны вецер, і ён вымушаны быў шукаць зацішак у лагчыне каля бяроз. Прылёг на сухую купіну і цяпер толькі ўбачыў побач з трыма бярозамі вялікі мурашнік... Доўга сядзеў ён, пазіраючы на мітусьню мурашак, адключыўшыся ад усяго, што дзеелася вакол. Потым моўчкі падняўся, пахадзіў вакол мурашніку і бяроз, сеў у машыну і вярнуўся дахаты. Зь цяжкасьцю падняўся ў свой рабочы пакойчык, перакусіў, і раптам стала кепска.

У трынаццаць гадзін дваццаць хвілін перастала біцца ягонае сэрца...»



этэр 20 верасьня 2003 г.

## Натальля Арсеньнева. Таямніца творчасьці

Беларуская паэтка Натальля Арсеньнева пражыла амаль сто гадоў, але гэта ня значыць, што мы ведаем пра яе больш, чым пра іншых клясыкаў, чый лёс выдаўся непараўнальна карацейшым. Найбольшай загадкай застаецца, натуральна, таямніца таленту і ягонага паходжаньня. Сапраўды ж дзіўна, калі ў расейскай сям'і начальніка Бакінскай мытнай акругі Аляксея Арсеньнева прыходзіць на сьвет дзяўчынка, якая стане аўтаркай беларускага гімну «Магутны Божа». Як мудрагеліста мусяць скласьціся абставіны жыцьця, рысы характару і зоркі ў небе, каб атрымаўся такі вынік...

«Мне часта прыходзіць на думку: ці чалавек ужо родзіцца паэтам, музыкам, мастаком, ці ён родзіцца проста здольным, і абставіны ўжо вырашаюць потым, на працягу часоў, кім ён станецца?

Я думаю, што хутчэй гэта апошняе».

Праз усё сваё жыцьцё Натальля Арсеньнева пранесла рацыянальны погляд на прыроду творчасьці, хоць якраз у вершах яе поўна паўдотыкаў, водсьветаў і ледзьве не містычных вобразных суплётаў. Кажуць, што ў сапраўднай паэзіі ня можа быць плягіяту, бо кожнаму чалавеку дадзена пачуць толькі свой уласны голас. Калі не пачуў — гэтага голасу ўжо больш не пачуе ніхто.

Кажуць, што Натальля Арсеньнева мае адну лінію роду з расейскім паэтам Лермантавым, а яшчэ яна ў адзін час хадзіла па яраслаўскіх вуліцах з Максімам Багдановічам. Гэта сама яе паэзія правакуе пошук містычных повязяў — столькі ў ёй, паводле яшчэ аднаго расейца — Брусава — «нерассудочного». Калі Багдановіч дзясяткі разоў перапісваў адзін той самы верш, дык Арсеньнева малявала акварэльнымі фарбамі, мала правячы тое, што атрымлівалася.

Са згаданых мною прозьвішчаў зусім лягічна складаецца пэўны расейскі кантэкст. Нашы кніжныя паэты, Багдановіч і Арсеньнева, былі нібы водгукам беларушчыны на срэбны век расейскае паэзіі. Прынамсі, сама Арсеньнева кажа, што не любіла Бальмонта і Ахматавай, затое надта падабаўся ёй Гумілёў, і менавіта «пад яго» імкнулася яна ствараць свае першыя паэтычныя спробы.



«Я, напрыклад, насамперш пачала маляваць. Ад найменшых год мяне цікавіла ўсё навокал, асабліва колеры. Яшчэ зусім малым дзіцём я гадзінамі магла глядзець на вячорнае неба, сачыць у ім зьмену адценьняў... Як толькі я навучылася трымаць алавік у руках, — мне захацелася перадаваць гэта ўсё на паперы. Не было паперы — і я пэцкала вокладкі кніжак, драпала кійком гладкія сьцежкі нашага саду, за што мне часта даставалася... Памятаю, будучы ў 5-й клясе гімназіі, я намалявала вуглём партрэты ўсіх маіх сяброўак, як казалі, вельмі падобныя. Мне вельмі хацелася маляваць... І гэтак было праз усё дзяцінства, год да 14-цёх. (Я доўга была дзіцём, маючы 14 год, я яшчэ з усёй уцехаю гуляла ў лялькі.) ... Аб вершах я тады й ня думала. Гэта прыйшло пазьней».

Я думаю, калі б Арсеньнева стала мастачкай, ці зьбяднела б беларуская літаратура? І чаго б у ёй тады не аказалася? Не аказалася б такога знакавага твору, як «Магутны Божа». Не было б таго непаўторнага акварэльнага вобразу Вільні. Трэцяе — яна сама, вобраз творцы, якога ў беларускай літаратуры параўнаць няма з кім. Астатняе, сэнсавае і разумовае, магло б сяк-так кампэнсавацца іншымі паэтамі.

«Я мела нейкую дзіўную натуру ад самага маленства. Я ня ўмела быць шчырай, ня ўмела дзяліцца ні з кім сваймі перажываньнямі. Я цешылася, я цярпела, я хацела таго ці іншага, я зайздросьціла сёстрам, сяброўкам, я вельмі кахала маці, некаторых настаўнікаў, але ўсё гэта пацiху, у сабе. Ніхто ніколі ня ведаў маіх дум-

каў. Я ніколі не спавядалася маці з сваіх дзіцячых перажываньняў, хоць мае сёстры, асабліва малы брат, расказвалі ёй усё чыста. Дык вось, хаваючыся ад усіх, я пачала прабаваць пісаць».

Сваім поглядам на жыцьцё Арсеньнева вылучалася і вылучаецца з шэрагу іншых беларускіх паэтаў. Самы лёс беларускага паэта мусіў быць драматычны, што ішло ад варожасьці асяродзьдзя і патрэбы выстойваць душой, і такое было наканаваньне ад самых народзінаў дзе-небудзь у вясковай хаце, адкуль у шырокі сьвет выбрацца было амаль немагчыма. Адсюль у цярпеньні сваім кожны беларускі паэт мерыўся да тогі прарока. Арсеньнева, наадварот, з шырокага сьвету прыйшла ў сьвет беларушчыны, несучы зусім адметны погляд на рэчы. Яе жыцьцё ня хочацца назваць трагічным, а лёс цяжкім, хоць ён такім і сапраўды быў. Але тое, што ў дачыненьні да яе калегаў просіцца на першае месца, у Арсеньневай хаваецца за саму формулу доўгага і багатага на падзеі жыцьця. Няма шкадаваньня ні пра што...

«Я сталася паэткай. Аб гэтым хутка даведаліся і ў клясе, і ў гімназіі. Здавалася, засталося толькі цешыцца славаю. Але справа абярнулася зусім па-іншаму. Я пісала, але ўсё здавалася мне благім, нявартасным, хоць іншыя й хвалілі. Пахвалы цешылі, але было й сорамна, бо здавалася, што хваляць няшчыра. Гэтак са мной і дагэтуль. Мне ніколі не падабаецца тое, што я напісала, бо гэта толькі як бы частка, як бы цень таго, што я хацела напісаць».

І адбылося гэта ў Яраслаўлі. Напэўна, звычайная для тагачаснае Расеі сытуацыя. Але ж Натальля Арсеньнева ніколі ня будзе паэткай расейскай ці нават дзьвюхмоўнай. Каб зразумець, як складаліся абставіны, трэба прасачыць яе лёс ад самага пачатку. Прынамсі, ясна, што імпульс да беларушчыны паходзіў не зь сям'і.



«Дык вось, нарадзілася я ў месьце Баку на Каўказе, на Касьпійскім моры, дзе бацька мой быў тады начальнікам Бакінскай Мытняй Акругі. Але калі мне не было яшчэ й двух год, бацьку майго перавялі на захад, спачатку на Валынь, а тады ў Вільню. Вільню я й лічу сваёй сапраўднай Бацькаўшчынай, бо толькі тут я пачала памятаць сябе, пачала жыць сьвядомым жыцьцём, тут я вырасла, вучылася, пазнала добрае й благое, і гора, і радасьць. Вільню я люблю, і па ёй толькі сумую».

Вільня глыбака запала ў душу дзяўчынкі, але й тут яшчэ няма знаёмства зь беларушчынай. Арсеньнева вучыцца ў расейскай гімназіі, пачынаецца першая сусьветная, сям'я эвакуюецца ў той самы згаданы намі Яраслаўль. Вяртаючыся зь бежанства, сям'я Арсеньневых на нейкі час апынулася ў вёсцы пад Дрысаю. Тут усё і пачалося.

«Сёньня, з пэрспэктывы часу, я бачу, што месяцы, пражытыя пад Дрысаю на вёсцы, літаральна ў голадзе й холадзе, выйшлі мне на вялікую карысьць. Справа ў тым, што тут я ўпершыню сутыкнулася, і то зусім беспасярэдне, зь беларускаю вёскаю і найчысьцейшай беларускаю моваю. Мы жылі ў невялікай сялянскай хаце разам з гаспадарамі, лянівым Юркам і ягонаю спрытнаю, злоснаю, але вельмі пра-

цавітаю жонкаю. Тут я пачула ўпершыню і беларускія песьні і беларускія казкі. Я вельмі ўсім гэтым зацікавілася, і вёска, і песьні, і людзі, і мова падабаліся мне незвычайна».

Такім чынам, паэтка ўжо запазналася зь беларускай мовай. Але наўрад ці гэтага было дастаткова, каб дачка расейскага ўрадоўца пайшла ў беларускую гімназію. Спатрэбілася яшчэ адна выпадковасьць.

«Мы трапілі на кватэру да людзей, што прымалі ўдзел у жыцьці беларускага грамадзтва. Дачка іхная вучылася ў 8-й клясе 1-е Віленскае Беларускае Гімназіі. Як толькі мы крыху паздаравелі, а маці перажыла першае гора па сьмерці мае сястры, яна пачала старацца неяк наладзіць нашае жыцьцё. Быцька быў ужо стары й хворы і ня мог шмат памагчы ёй у гэтым. Праз нашых гаспадароў маме ўдалося ўладзіцца працаваць на амэрыканскую дапамаговую кухню ў беларускай гімназіі. Гэта былі вельмі галодныя пасьляваенныя часы, і кухні такія былі адчыненыя пры ўсіх школах, каб дакармліваць дзяцей і моладзь. Працуючы там, мама пазнаёмілася і пасябравала шмат із кім з настаўнікаў, і ў выніку гэтага пад вясну 1920 году мы ўсе трое былі прынятыя ў гімназію. Як я цешылася, што хоць у голадзе й холадзе, але я магла ізноў вучыцца!»

Увогуле, гэта ня так ужо й дзіўна для тых часоў, што расейскія дзеці пайшлі ў беларускую гімназію. Вось што кажа знаўца даўнейшага віленскага жыцьця спадарыня Галіна Войцік:

*— У той час, калі яна была ў гімназіі, 1920—21-шы, вучні на 90 адсоткаў былі небеларусы.*



*Былі жыды і расейцы. Напрыклад, Мар'ян Пецюкевіч успамінае, што гэтыя небеларусы, віленскія, як ён кажа, мяшчане, хутчэй авалодвалі беларускай літаратурнай мовай, чым хлопцы і дзяўчаты зь беларускай вёскі. Тым перашкаджаў дыялект. І толькі ўжо ў 1923—24 гады большасьць стала — беларусы.*

Дарэчы, і з трох дзяцей Арсеньневых беларускай выйшла толькі адна Натальля. Вядома, што яе брат Сяргей быў пасьля віцэ-старшынём Гуртка Студэнтаў Віленскага Ўнівэрсытэту Сьцяпана Батуры расейскае нацыянальнасьці. Словам, сям'я так і заставалася расейскай. А Натальля Арсеньнева пайшла сваім шляхам, узяўшы шлюб зь беларускім патрыётам Францішкам Кушалем. Праўда, будзе гэта крыху пазьней. Яшчэ перад тым яна станецца беларускай паэткай. І пабуджальным матывам гэтага будзе закаханасьць.

«На зьмену Юліям Цэзарам і Рычардам Ільвіным Сэрцам прыйшоў, зусім зразумела, Гарэцкі, першы жывы чалавек, які мне падабаўся (а мне было тады ўжо 17 год!). Ці дзіва, што гэта сталася яшчэ адным стымулам як найлепшага пазнаньня і апанаваньня беларускай мовы? Я доўга не адважылася гаварыць аб тым, што і я пішу, Гарэцкаму. Зрэшты, якая з гэтага была б карысьць? Гарэцкі... і расейскія вершы! І я маўчала і вучылася, і чытала...»

***

Наступны лёс Натальлі Арсеньневай варты прыгодніцкага сэрыялу. То яна апынаецца на польскім Паморʼі ў асяродку польскага афіцэр-

ства, бавячы час за брыджам і танцамі, то раптам працуе ў савецкіх газэтах у Вялейцы ды Беластоку, то ў глухой казахстанскай вёсцы, дзе няма вады, то ў акупаваным немцамі Менску піша опэрныя лібрэта, то ў лягеры для перамешчаных асобаў наракае на адсутнасьць ранішняе кавы... Вакол руіны гарадоў, вакол ірвуцца бомбы, вакол забітыя і параненыя, вакол кроў і агонь, голад і беспрасьветнае гора людзей. Але згадвае яна і добрае, і благое — як падзеі свайго жыцьця. Зьдзіўляецца, што дзівам уратавалася ад партызанскага тэракту, або што хапіла сілаў выбрацца з забалочанае ракі... Пасьля таго віленскага юнацтва найлепшай парою свайго жыцьця называе працу ў менскай «Беларускай газэце» падчас акупацыі і ўдзел у дзейнасьці Менскага тэатру. Яна так і засталася ўражаная ўсеагульным уздымам і энтузіязмам тагачаснай беларускай інтэлігенцыі. Хоць чытаць такія ўспаміны таму, хто вырас на савецкіх кніжках, нязвыкла.

Аднак найбольш зьдзіўляе той самы рацыянальны погляд, калі надлом і надрыў, што, безумоўна, наведвалі яе чалавечую натуру, ніколі гэтай натуры не фармавалі. Яшчэ задоўга да вайны яна, відаць, зразумела, што ў жыцьці можа быць усё. Абсалютна ўсё, што заўгодна. І ўсё, што застаецца чалавеку, — гэта ратаваць сябе і іншых, працаваць, а калі ўдаецца — ствараць. Гэтак з акварэльнае паэткі пакручасты лёс вырабіў чыстую экзыстэнцыялістку, не скаваную ані маральнымі згрызотамі, бо ня дала сабе для гэтага падставаў, ані ўласным горам, калі ў акупаваным Менску загінуў яе сын, а



яна, быццам у адказ на гэта, піша лібрэта найлепшае арыі да опэры Шчаглова «Ўсяслаў Чарадзей», ані нават сваім беларускім патрыятызмам, што часьцяком здараецца ў замкнёнай нацыянальнай меншасьці, але і для гэтага ў Арсеньневай падставаў не было. Замест усяго гэтага засталося праз усё жыцьцё жаданьне пісаць, апісваць прыгажосьць. Гэта яшчэ з тых віленскіх вершаў, што былі пакліканыя да жыцьця любоўю, і таямніца якіх — у пісаньні віленскае прыроды.

Сьветла, спакойна, лёгка бяз конца,
Грэе і лашчыць вясеньняе сонца.
Сінія далі ў імгле негустой,
Лес прад вачмі вырастае сьцяной...

Звоняць у Вільні ледзь чутна, і гукі
Сэрца чапаюць знаёмаю мукай...

Спадарыня Галіна Войцік кажа, што больш за ўсё на сьвеце Арсеньнева любіла лес. А мне падалося, што і Вільню яна апісвала, як лес — парослыя хвоямі ўзгоркі пад сінім небам, дзе паміж дрэвамі пракідаюцца вежы бажніцаў і рознакаляровыя дахі дамоў, нібы арганічная частка гэтага прыроднага сымбіёзу, які з вышыні птушынага палёту сапраўды выглядае ці то горадам у лесе, ці то лесам у горадзе...

этэр 4 кастрычніка 2003 г.

## Натальля Арсеньнева. Доры

У пазамінулай перадачы мы гаварылі пра тое, як расейская дзяўчына Натальля Арсеньнева пачала пісаць беларускія вершы. Адбылося гэта ў 1920 годзе, калі яна вучылася ў Віленскай Беларускай Гімназіі. Тут яна закахалася ў настаўніка літаратуры Максіма Гарэцкага, якому так моцна хацела паказаць свае паэтычныя спробы. Але як беларускаму настаўніку пакажаш напісанае па-расейску? Вось і давялося рабіць па-беларуску. Ужо самыя першыя вершы аказаліся ўдалымі, заслужылі высокую ацэнку настаўніка і азначылі жыцьцёвы выбар Арсеньневай. Праз год яна сканчае гімназію, яшчэ праз год выходзіць замуж за вайскоўца Францішка Кушаля. Цяпер кожнае лета яна будзе праводзіць у мужавай радні ў вёсцы Доры.

У Дорах Арсеньнева канчаткова становіцца перакананай беларускай патрыёткай. Яна настолькі выдатна засвойвае мову, што ўжо пры сустрэчах зь філёлягамі сама выступае ў ролі аўтэнтычнае крыніцы народнае лексыкі. Варта зазірнуць у «Маленькі маскоўска-беларускі слоўнічак» Янкі Станкевіча і там сярод крыніцаў знайсьці: «Доры — сяло Пяршайскае валасьці, запісы зроблены ў Натальлі Арсеньневай». Станкевіч шукае беларускія адпаведнікі ўстойлівых расейскіх фразаў. Мне жыва ўяўляецца іхны дыялёг пры сустрэчы з Арсеньневай. Станкевіч пытаецца:



— А як у вас у Дорах перакладуць выраз «Куда глаза глядят»?

— Перад сабою, — адказвае Арсеньнева і прыводзіць караценькі прыклад: «Куды ідзеш? — Перад сабою»...

Жыцьцё Арсеньневай праходзіла праз самыя гарачыя кропкі беларускай гісторыі мінулага стагодзьдзя. У Дорах яна адпачывала ад гэтых закалотаў і пакідала сваіх малых дзяцей — двух сыноў. Захаваліся ўспаміны пра дзьве адысэі паэткі — як яна двойчы дабіралася сюды пешшу: адзін раз зь Вільні, другі зь Беластоку. Кожнае такое падарожжа вартае аповесьці... Для сёньняшняга вандроўніка патрапіць у Доры непараўнальна прасьцей — трэба ўсяго толькі збочыць з магістралі Менск — Вільня, і візыт, на які ў даваенныя часы можна было патраціць тыдні ці нават месяцы, зьдзяйсьняецца за пару гадзінаў.

*Зьміцер Бартосік:*

*Доры нібы схаваліся ад чужых вачэй. Хоць знаходзяцца яны, лічы, на скрыжаваньні шляхоў. Ад таго месца, дзе Ракаўская шаша на 55-м кілямэтры ад Менску падзяляецца на Віленскую і Гарадзенскую, і дзе міліцэйскі блёк-пост даглядае вялізныя фуры, да Дораў усяго тры кілямэтры. Варта каля матэлю «Шараі» збочыць направа, і праз колькі хвілінаў з-за пагорку выглянуць чатыры бэтонныя літары. ДОРЫ. Такімі манумэнтальнымі ўказальнікамі ўпрыгожваюць звычайна ўезды ў гарады, але ня ў вёскі. Я спытаўся ў свайго спадарожніка, дзядзькі, якога падвозіў да Дораў, у*

*чым тут сакрэт? «Ды гэта, — кажа, — фэстываль тут праходзіць». «Які фэстываль?» «Ну, тут у вайну фашысты царкву спалілі разам зь людзьмі. Дык тыя, хто выжыў, кожны год тут выступаюць». «А можа, што чулі пра Арсеньневу?» «Не, ня ведаю такую. Сам я не мясцовы».*

*Доры — хутчэй нават ня вёска, а мястэчка, разьлеглае між маляўнічых пагоркаў. Двухпавярховыя нябедныя камяніцы суседзяць са старымі, акуратна пафарбаванымі хатамі. Ніводнага закінутага дому я не заўважыў. Ёсьць і крама, і клюб, і немалая школа, і нават дзіцячая школа мастацтваў. Словам, усё жывое. Пра мёртвых нагадвае мэмарыял на пагорку — падмурак царквы, якую немцы спалілі ў 1943-м разам зь людзьмі, крыжы і некалькі вялізных чорных скульптураў — кабеты аплакваюць землякоў. Прызнацца, зусім ня гэта я чакаў убачыць у вёсцы, знаёмай з успамінаў Натальлі Арсеньневай:*

*«Улетку гэтага ж першага году муж адправіў мяне да свае сям'і на вёску ў Доры Валожынскага павету. Тут я правяла месяцы тры, а пасьля езьдзіла сюды кожнае лета. «Вакацыі» ў Дорах вельмі шмат далі мне для разьвіцьця мае творчасьці. Я пазнала тут найчысьцейшую беларускую мову, песьні, звычаі, пабывала на вясельлях, хрэсьбінах, зжылася і зь людзьмі, і з прыродай. Шмат песьняў я запісала, а мэлёдый вывучыла напамяць».*

*На сёньняшні дзень у Дорах засталіся двое жыхароў, якія памятаюць тыя арсеньнеўскія часіны. Гэта Алена Абановіч і Фёдар Новік.*



*Абодвум старым ужо за восемдзесят. Але сям'ю Кушаляў, ці як яны кажуць, Кушлёў, памятаюць.*

*Ф.Новік: У нас, у Дорах, дзе зараз малочнатаварная фэрма, быў пабудаваны графскі маёнтак. І вось гэтыя самыя Кушлі яго купілі. Дабудавалі дом. Харошы, графскі... Франак гэты быў у званьні капітана польскай арміі. Ён тут рэдка калі бываў. Ён служыў у Вільні. І жонка прыяжджала на лета. Прыяжджалі абодва сюды на вотдых. А тут рачулка была такая харошая, рыбная. Дык яны тут з вудачкамі...*

*А.Абановіч: Франак прайдох быў. Ён жа нейкі быў... чорт яго ведае... Яны на беразе жылі, каля дарогі яго будынак. Я помню. Аддзяліўшыся ад гэтых братоў. А браты ягоныя ў цэнтры жылі. Янка і Пятрук. Будынак быў польскі казённы. І тады, як саветы зайшлі, халера яго ведае, дзе ён дзеўся. Жонку яго помню. Такая была харошая баба. На работу не хадзіла. Яны ж багатыя былі. Наймалі бульбу капаць...*

*— А іх любілі, ці ня вельмі?*

*— Гэтыя два хлопцы добрыя былі, Янка і Пятрук. Іх любілі. Жыта, у каго на зацірку не хапае вясной, дык яны давалі. На адбытак. Яны ўдвух разам жылі. Дык яны такія шутлівыя былі. А бабы зь вёскі ідуць. Кмен быў па сенажаці... Кмен зьбіралі ў пракос. А тыя сьмяюцца: «О, добра. Разьбіваць ня трэба сена. Бабы разаб'юць рукамі. Кмен выбіраючы». Дык гэныя добрыя былі. А гэны Франак, гэны нейкі быў,*

*халера яго ведае. Не скажу я, які ён быў. Але нейкі нехарошы быў...*

*Косы зьвіняць... Сьпеўна ўзносяцца зыкі,*
*поўняць жыцьцём жаўтацьвет-сенажаць*
*майстры дзіўныя зь нязнаных музыкаў,*
*косы зьвіняць...*

*Кмена пах цягне па мокрых пракосах,*
*водарыць сенам у пухкіх капах!*
*Дыхае поле у сонцавых косах,*
*кмену йдзе пах...*

*Песьню жанкі запяялі нясьмела,*
*і — звоніць уся сенажаць,*
*з гукамі — удалеч, здаецца б, ляцела...*
*Косы зьвіняць...*

*Сёньня на тым высокім пагорку, дзе некалі па-над усім краявідам узвышаўся фальварак графа Тышкевіча, куплены Кушалямі, збудаваны кароўнік. Цяпер ён пануе над навакольлем. Варта ўсё ж узьняцца да гэтага месца колішняе сядзібы ды кінуць позірк на карціну, што адкрывалася з уяўнага вакна, і якую бачыла паэтка...*

*Ф.Новік: Знаеце, мы, вяскоўцы, жылі беднавата. Яны багацей жылі. Дык мы рэдка калі круціліся там, на пляцы іхным. Я б не сказаў, што яны былі якімі панамі. Гектараў сорак зямлі. Яны і работалі самі. Трымалі служанку, і парабка, і пастуха. Скаціны штук дваццаць буйнарагатай. Коней трое, я помню. Тут як быў мост, тут рэчка была, дык яны ўсё купаць іх вадзілі. Там купаліся. Мне гэта ўсё помніцца. Бывае, конь гэты плыве, а там глыбакавата было. Мэтра, можа, са тры так глыбінёй. Дык за хвост схвацісься — і за ім, за гэтым канём...*

*А.Абановіч: ...Пані яна была! У хаце харашо было, чыста. Яна была ганарлівая. Людзі рабілі. Харошы будынак паставілі. Браты ж памагалі. Бацька жыў іхны, Кушаль гэты. А бацька быў зь бедных, казалі. Адкуль ён тут? Недалёкі. І тады, як разьбіралі гэтыя двары, прадавалі землі, ён тады ў самы цэнтар уваб-раўся.*

*— А Вы бывалі дома ў іх?*

*— Ну, вот нейкім жа чынам я раз была. Чаго я заходзіла?.. Дык яна адзежу сьцірала. У хаце чыста, на кухні палілася пліта...*



*Зьмярканьне...*
*Зь яснага блакіту*
*Зьнікаюць фарбы, бліскі дня,*
*І чыстым золатам заліта*
*Ціхіх палёў далечыня.*

*Істужкай сьцежка ўецца ў жыце,*
*Зьбягае ўніз, паўзе вышэй,*
*Праз ручаёў сталёвых ніці*
*Бяжыць кудысь далей, далей...*

*Лятуць, купаюцца ў паветры,*
*Зьнікаюць, круцяцца узноў*
*Лісты, што ўвосень носяць ветры,*
*А захад іх фарбуе ў крож.*

У савецкай літаратуры Натальля Арсеньнева і Францішак Кушаль нярэдка называюцца калябарантамі, якія супрацоўнічалі зь нямецкім акупацыйным рэжымам. Але гэта

толькі доля праўды пра іх. Насамрэч, яны былі калябарантамі ў шырэйшым сэнсе гэтага слова. Іх супрацоўніцтва з чужой уладай цягнулася праз усё жыцьцё да самае эміграцыі. Спачатку гэта была акупацыя расейскага царызму — таго рэжыму, пад якім яны нарадзіліся, пайшлі ў школу і набылі прафэсію. Потым гэта была польская акупацыя, пад якой яны ажаніліся, нарадзілі і паставілі на ногі дзяцей. Наступная акупацыя — савецкая, самая кароткая, паўтара году, але самая цяжкая, бо амаль усю яе давялося правесьці ў канцлягеры ў Казахстане і ў турме на Лубянцы. Пасьля гэткага прыход чарговае акупацыі — нямецкай — яны ўспрынялі, як вызваленьне. І, напэўна, інакш не магло быць. Фашысты не выглядалі горш за камуністаў. Дастаткова згадаць дакумэнтальныя факты пра тое, як немцы, прыйшоўшы ў Беларусь, праводзілі эксгумацыі месцаў масавых сталінскіх расстрэлаў, каб выклікаць у сваіх салдатах абыякавасьць да жыцьцяў мясцовых людзей. Маўляў, калі яны самі сваіх так зьнішчаюць, дык вас тым больш нішто ня мусіць спыняць перад забойствамі.

Францішак Кушаль, які абраў кар'еру вайскоўца і стаў польскім афіцэрам, мог стаць і афіцэрам савецкім, і афіцэрам нямецкім, бо гэта была ягоная прафэсія, у якой ніводная ўлада не пакідала месца для ягонага беларускага патрыятызму. А сваёй, беларускай улады ў гэтай куламесе акупацыяў не было. Яшчэ ў першую сусьветную Кушаль, як расейскі афіцэр, ваяваў супраць немцаў, пасьля — у другую сусьветную — як польскі афіцэр — супраць



фашыстаў. Што тут скажаш? Відаць, ён быў неблагім прафэсіяналам, калі кожная ўлада давала яму працу.

Тое самае здарылася і з Натальляй Арсеньневай, якая магла пісаць газэтныя «здравіцы» то Сталіну, то Гітлеру, бо такая была ў яе работа, якая таксама не пакідала месца для яе беларускага патрыятызму. Стаць савецкай патрыёткай для яе было тое самае, што стаць патрыёткай нямецкай, гэта значыць, перастаць быць сабою. Праўда, у адрозьненьне ад мужа, у яе было адхланьне — яе паэзія.

*Зьміцер Бартосік:*

*Каб Натальля Арсеньнева ці Францішак Кушаль зьяўляліся ў Дорах падчас вайны, вяскоўцы ня памятаюць. Але старым прыгадваецца іншае.*

*А.Абановіч: А пры немцах што ж было? Партызаншчына ж была. Вялікая. Немцы ў Валожыне стаялі. Ня надта далёка дарога. Дык немцы: «Так-так-так-так-так», станцуь брахаць. Дык ляціш, ня ведаеш, дзе дзяваца. А ноччу партызаны. Божа-божа, лапці і тыя пахаваеш. Панчохі зрэбныя, робленыя... Оё-аёй-аёй... Усё. Кароўкі адбіралі. Цяжка было. Я ўсё гэта помню, як жылося. Якія партызаны добрыя былі? Чужыя. А свае брадзягі былі. Толькі абіралі.*

*Ф.Новік: Немцы прыйшлі. Кушлі, пэўна, выехалі ў Валожын. Я добра ня ведаю пра іх лёс. А дом? Немцы хацелі паліцыю ў ім пасадзіць. Ну, а партызаны загадалі свайму сувязному, дык ён той дом запаліў. Ну, вось пасьля гэнага*

*Франак абідзеўся сьлішкам, што дом спалілі. Дык яны, відзіма, папрасілі немцаў, каб яны тутака гэтыя Доры зьнішчылі. Ня толькі Доры, а ўсю гэтую мясцовасьць. Маўляў, партызан кормяць. І тут вёсак недзе да сарака, мусіць, спалілі. І людзей многа перабілі.*

*— З ініцыятывы Кушаля?*

*— Так. І гэта факт. Тут кожны год адбываюцца ўспаміны на гэтым самым месцы... І былы старшыня нашага калгасу Шарэцкі чытаў дакумэнт людзям. Што, значыць, яны немцаў папрасілі, ці што. Прадалі яны ўсю нашу бліжэйшую мясцовасьць...*

*А.Абановіч: Ён быў нейкі там прахадзімец. Я чалавек няграматны. Але троха паслухала, як людзі гаварылі. Які ён быў? Знаю, што нехарошы ён быў. А які, чорт яго ведае. Ён у нейкіх дзялох быў. Падпольных. Вось што!*

*Ф.Новік: Немцы ж блакаду тут наладзілі ў нас. І ў нашу вёску сагналі людзей і запалілі. Праўда, стралялі там па іх. Расказвалі некаторыя, што спасьліся, уцяклі, што раненыя былі, і жывыя дзеці малыя. Піск, крык там страшэнны. Туды ж да Налібоцкай пушчы вёсак сорак спалілі. Тут — каля дзьвесьце чалавек, разам зь дзецьмі, старымі...*

*Калі я слухаю падобныя рэчы, дык міжволі пачынаю ўдаваць спачуваньне. І дзіўлюся, што маё спачуваньне не знаходзіць ніякага водгуку ў тых, хто ўсё гэта бачыў і перажыў. Ні ў Фёдара Новіка, ні ў Алены Абановіч падчас расповеду пра вайну няма ніякага ўдаванага трагізму. Гаворка ідзе толькі пра жыцьцё. Якое яно было насамрэч. Напэўна, таму старая Алена не адразу і прыгадала, што ж рабілася тут у 1943-м. Таму няма і намёку на нянавісьць да «фашысцкага прыслужніка» Кушаля ў спадара Фёдара. Як, зрэшты, і вялікага піетэту да колішняга старшыні калгасу Сямёна Шарэцкага, які ўрэшце апынуўся там, дзе і Кушаль. Такое вось было беларускае жыцьцё. Зь вялікай крывёю. І зь вершамі таксама. Выдатнымі вершамі, пазначанымі страшнымі датамі.*



*Тое, што паэтку тут памятаюць, засьведчыла дорская настаўніца беларускай мовы і літаратуры Ала Сыч:*

*— Імя Натальлі Арсеньневай у школе вядомае. Дзеці ведаюць. І яшчэ як жыў Равінскі, былы дырэктар Шакуцёўскай школы, ён прыяжджаў да нас у школу. І, наагул, такі цікавы матэрыял прапаноўваў. І расказваў пра яе жыцьцё. Што яна менавіта тут жыла. І выехала ў Амэрыку. Пасьля вайны.*

Вёска Доры, цяпер ужо назаўжды пазначаная імем Натальлі Арсеньневай, — зусім ня проста вёска. Гэта знак палярнасьці беларускага лёсу. Разам з суседняй Люцінкай гэтая мясцовасьць спазнала і самы сьветлы, і самы страшны беларускі час. Менавіта тут разгортваліся падзеі двух знакавых твораў беларускай літаратуры. У сярэдзіне 19 стагодзьдзя тут была ўбачаная і апісаная Вінцуком ДунінlöМарцінкевічам «Ідылія» — жывыя карцінкі сацыяльнага міру, рамантычная раўнавага ўсяго і ўся, дзе ўладальнік мясцовасьці граф Тышкевіч, ходзячы па вясковых хатах, вядзе запіс

сялянскіх паданьняў і разам зь сялянамі сьпявае іхныя песьні. І вось праз сто гадоў у гэтых самых краявідах разгортваюцца сцэны наступнага фільма і наступнае кнігі. Гэта «Карнікі» Алеся Адамовіча. Менавіта батальён Дырлівангера спаліў дорскіх сялянаў у іхнай царкве. Адамовіч прыводзіць цытату з дакладной запіскі, пад якой стаіць подпіс Кушаля:

«У другой палове ліпеня г.г. нямецкія атрады СС праводзілі ачыстку ад партызан тэрыторыі Валожынскага раёну. Пры гэтым атрадамі былі спаленыя разам з пабудовамі зажыва жыхары вёсак Пяршайскага павету: Доры, Мішаны, Даўгулёўшчына, Лапіцы, Сярэдняе Сяло, Раманаўцы, Нелюбы, Палубоўцы і Макрычаўшчына.

Атрады СС ніякага сьледзтва не праводзілі, толькі заганялі жыхароў, пераважна старых, жанчын і дзяцей, у асобныя пабудовы, якія затым падпальваліся.

У Дорах жыхары былі сагнаныя ў царкву і разам з царквой спаленыя».

Асабіста мне ў гэтым пасланьні афіцэра дапаможнае паліцыі бачыцца стрыманае жанрам рапарту абурэньне і скарга. Аднак гаворка не пра тое. Гаворка пра Доры, празь якія крыжнакрыж леглі дзьве дарогі беларускага лёсу: самая сьветлая і самая цёмная, — і ў якіх, нібы ў замесе дабра і зла, высьпеліўся талент беларускай паэткі, аўтаркі гімну «Магутны Божа».

Складаючы разам імёны і факты дорскае гісторыі — ад Тышкевіча да Шарэцкага, ад сярэднявечнага кальвінскага збору да спаленае разам зь людзьмі царквы, ад калгасных кароўнікаў на месцы панскае сядзібы да высокае паэзіі ўзгоркаў і запаленых восеньню клёнаў, пачынаеш разумець, што тут, у Дорах, табе адкрываецца ўвесь беларускі сьвет і ўвесь беларускі лёс, прынамсі — самае важнае, што ў гэтым сьвеце і лёсе было, ёсьць і будзе.



этэр 15 лістапада 2003 г.

## Лукаш Бэндэ

1930-я гады. Камуністычная мафія кіруе ў савецкай Беларусі. Яны верацць у камунізм, як у сваю беларускую тоеснасьць. Усе, хто гаворыць пра нешта іншае, напрыклад, пра нацыянальнае адраджэньне, замінаюць, яны ворагі, лепей, каб іх не было. Мы ўсе гуляем у адну гульню і імкнемся пазбавіцца ад чужакоў, на што маем санкцыю клясавай барацьбы. Гэта разумеюць і Янка Купала, і Якуб Колас, а лепш за ўсіх — ён, Лукаш Бэндэ, галоўны літаратурны крытык, чые газэтныя разносы цягнуць за сабой для аб’ектаў крытыкі турэмнае зьняволеньне, катаргу або ссылку ў расейскую глыбінку, самагубства або расстрэл. Мафія зьнішчае сваіх адкрытых і таемных ворагаў, выкрывае сваіх няшчырых прыхільнікаў. Бэндэ ўважліва вывучае жыцьцёвыя і творчыя біяграфіі пралетарскіх пісьменьнікаў, у шэрагі якіх запісалася зашмат зьбяднелых шляхцюкоў ды папоўскіх дзяцей, якіх непазьбежна

хіліць пад розныя дробнабуржуазныя адхоны. Работы непачаты край...

Ягоная ўласная біяграфія па-пралетарску простая, як стрэл. Нарадзіўся ў 1903-м на Палесьсі, у тых мясьцінах, дзе вёскі маюць назвы, вартыя мэгаполісаў. Харомск, Ізборск... Ягоная называлася Шчакоцк. Скончыў Камуністычны ўнівэрсытэт Беларусі. Далей пачынаецца кар'ера літаратурнага крытыка. За вочы Бэндэ называлі аглабельшчыкам, але сучасьнікі згадваюць, што хадзіў ён не з аглабләй, а зь пісталетам на правым баку, бо зь першых кар'ерных крокаў зьвязаў лёс з НКВД. Мабыць, адчуваў сваю місію — праўду яму давядзецца казаць у варожым асяродзьдзі.

Імя Бэндэ паміж літаратараў даўно стала назыўным. Яго самога найчасьцей згадваюць як вульгарнага сацыялягізатара, альбо і зусім проста — як літаратурнага ка́та. Між тым, ня ўсё так проста ў гэтай гісторыі. Думаючы пра Бэндэ на стогадовы ягоны юбілей, міжволі пачынаеш адчуваць ягоную прысутнасьць побач з сабою.

Калі Бэндэ і сапраўды — кат, дык ён назаўсёды прывязаны да сваіх ахвяраў. Мёртвым не баліць, і яны ідуць усе разам. Калі за савецкім часам было накладзенае табу на імёны і творы рэпрэсаваных беларускіх пісьменьнікаў, такое ж табу легла і на імя іхнага ката. Як толькі стала магчыма ўзьняць з забыцьця прозьвішчы забітых, сярод першых усплыло ў друку і прозьвішча Бэндэ.

У сёньняшняй перадачы бярэ ўдзел гісторык і архівіст Віталь Скалабан:



*— У 1988 годзе ў газэце «Літаратура і Мастацтва» зьявіўся артыкул сьветлай памяці Барыса Сачанкі, які так і называўся «Бэндэ». Фактычна, упершыню Барыс Сачанка падаў больш-менш поўны нарыс пра жыцьцё і дзейнасьць гэтага чалавека і крытыка, які пакінуў свой вельмі значны сьлед у гісторыі Беларусі канца 1920-х — 50-х гадоў. Менавіта з імем Бэндэ зьвязваецца так званая вульгарна-сацыялягічная крытыка, калі творы разглядаліся не як творы мастацтва, а як звычайныя палітычныя агіткі.*

З артыкула Барыса Сачанкі «Бэндэ»:

«Ён нават зьнешне быў непрыемны. Худы, лысы да апошняга воласа, з вачыма, што глядзелі быццам з таго сьвету і праціналі навылёт. Помню, калі, знаёмячыся, ён працягнуў мне руку, і я ў адказ падаў сваю, здалося, што дакрануўся чагосьці ліпкага, агіднага — ні то цьвілі, ні то павуціньня. Ішоў 1960 год, і з «мест не столь отдаленных» вярталіся, атрымаўшы доўгачаканую рэабілітацыю і грамадзянскія правы, многія, у тым ліку і пісьменьнікі. І, вядома ж, то адзін, то другі з рэабілітантаў заходзілі ў рэдакцыю часопіса «Полымя», дзе я тады працаваў... Завітаў неяк і ён... Ён не спытаў, як пыталі некаторыя, ці чуў я, тады яшчэ малады чалавек, яго прозьвішча. Ведаў, напэўна, што чуў. Ня мог ня чуць...»

*В.Скалабан: Біяграфія яго сёньня вядомая. Ён нарадзіўся ў 1903 годзе пад Янавам. Праўда, якая сям'я была, як ён жыў, якія сваякі —*

*невядома. Потым ён вучыўся ў Камуністычным унівэрсытэце. І ў канцы 1920-х гадоў стаў вядучым літаратурным крытыкам, вучыўся ў асьпірантуры, у яго былі пасады і ў выдавецтве, і ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук... Бэндэ — гэта той чалавек, які разносіў усіх пісьменьнікаў. Яго і малявалі з аглобляй. Адсюль зьявіўся такі тэрмін — аглабельная крытыка...*

*Д'яблам ён ня быў. Ён добрасумленна выконваў тыя ўстаноўкі, якія фармаваліся ў ЦК кампартыі Беларусі. Болей таго, многія зь яго паплечнікаў жылі пасьля вайны і ім выгадна было ўсё сьпісаць на Бэндэ... У Бэндэ ёсьць тое, што сёньня, калі пакласьці на вагі, дык невядома, што пераважыць. Акрамя ўсяго іншага, ён быў калекцыянэрам, зьбіральнікам літаратурнага архіву і сабраў вельмі значныя матэрыялы. У 1934 годзе Бэндэ зьехаў зь Менску ў Ленінград, працаваў на кінафабрыцы «Савецкая Беларусь», у архівах, выкладаў у навучальных установах. І архіў ён захаваў. Сёньня архіў Бэндэ зьберагаецца ў Беларускім дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва. Там сапраўдныя скарбы. Там архіў Паўлюка Труса, матэрыялы Замоціна з тэкстамі Дуніна-Марцінкевіча, там «Хрэстаматыя» Браніслава Эпімаха-Шыпілы...*

Архівіст Віталь Скалабан, як і належыць архівісту, глядзіць на сытуацыю з вышыні часу і аддае належнае архівісту Бэндэ. Калі перачытаць згаданы артыкул Барыса Сачанкі, мы знойдзем там зьвесткі пра тое, якім чынам Бэндэ фармаваў сваю калекцыю. Крытык ня толькі атрымліваў па лініі НКВД тыя матэрыялы, аўтараў якіх трэба было выкрыць у друку, але й сам удзельнічаў у ператрусах на кватэрах ахвяраў.



Шчыра кажучы, ня ведаю, ці дарэчы тут будзе маральны аспэкт праблемы. Можна ж разважыць і так: усё адно ніякі Бэндэ, як бы таго ні хацеў, ня змог бы выратаваць асуджанага на рэпрэсіі клясавага ворага. Не напісаў бы ён, напісаў бы іншы, такіх «пісьменьнікаў» хапала. І тады тое, што Бэндэ захаваў архіў рэпрэсаваных літаратараў, дзякуючы якому мы цяпер толькі і можам даведацца пра іх і прачытаць іхныя творы, — гэткі Бэндаў учынак выглядае ледзьве не як подзьвіг. Для параўнаньня дастаткова згадаць факт, які Аляксандар Лукашук апісвае ў сваёй кнізе «За кіпучай чэкісцкай работай». Аўтар вывучаў асобу іншага крытыка-аглабельшчыка сталінскае пары Васіля Барысенкі і, натуральна, зьвярнуўся да ягоных асабістых архіваў. Дык вось, усё, што ён там знайшоў, — гэта ганаровыя граматы таго самага Барысенкі...

А што ж самі артыкулы Лукаша Бэндэ? У свой час яны расцэньваліся, як даносы. Аднак ці была ў іх нейкая літаратурная каштоўнасьць? Кажа Віталь Скалабан:

*— Яны ня вельмі арыгінальныя. Яны паўтараюць тое, што пісалася і іншымі аўтарамі. Уражаньне такое, што яго проста нацкоўвалі. Такіх, як Бэндэ, было шмат. Але ў сярэдзіне 1930-х гадоў ён ужо выканаў сваю ролю агла-*

*бельшчыка, і яго сaслалі ў Ленінград на кінафабрыку «Савецкая Беларусь».*

*Ня толькі яго дзейнасьць ламала чалавечыя лёсы. Уся атмасфэра ламала. І сёньня, угледаючыся ў гэтыя 30-я гады, вызначыць, хто ня ўдзельнічаў у гэтым кашмары, проста цяжка. Ня ўдзельнічаў той, хто быў ужо сасланы ў Вятку, у Сібір, у Сярэднюю Азію...*

З кнігі А.Лукашука «За кіпучай чэкісцкай работай»:

«Падчас расправы з сотнямі вучоных, пісьменьнікаў права «караць і мілаваць» манапалізавала пэўная група, у якую ўваходзілі Барысенка, Браншэйн, Бэндэ, Вольскі, Канакоцін, Клімковіч, Кучар, Модаль... Іх ацэнкі рабілі «надвор'е», зь іх ліку сьледчыя выбіралі аўтараў рэцэнзіяў-прысудаў. Ня варта перабольшваць ролі гэтых асобаў. Яны нярэдка толькі паслухмяна выконвалі волю іншых. Аднак нельга і прымяншаць, бо гэта была роля памагатых катаў».

Аглабельшчыкаў было шмат, але Бэндэ атрымаўся цэнтральнай сярод іх фігурай. Што праўда, калі параўноўваць яго зь некаторымі іншымі, з тым жа Барысенкам, дырэктарам Інстытуту літаратуры, Бэндэ сваімі артыкуламі не вымасьціў сабе дарогі да высокіх пасадаў ды званьняў ці нейкага іншага набытку. Да канца жыцьця застаўся правінцыйным выкладчыкам, якому нават у Беларусь вярнуцца не далі. Такім чынам, варта было нам бліжэй падысьці да постаці гэтага літаратурнага ка́та, як ягоны



вобраз страціў сваю адназначную адмоўнасьць. А што будзе далей?

*В.Скалабан: Ягоны вобраз будзе значна ўдакладнены тады, калі мы ўявім сабе ўвесь мэханізм дзяржаўнай палітыкі ў галіне культуры. Сёньня зробленыя ўжо значныя крокі дзеля таго, каб убачыць, як гэта ўсё рабілася. Ёсьць публікацыі Расьціслава Платонава, якія на падставе партыйнага архіву расьпісаў увесь гэты мэханізм. І там Бэндэ недзе зусім-зусім унізе, бо ўсе гэтыя ацэнкі фармаваліся наверсе і, можа, ня столькі ў Менску, колькі ў Маскве. Сёньня надрукавана шмат «записок о белорусском националистическом движении» — страшылак, як кажуць, што тут усё захапілі нацыяналісты. Так што роля Бэндэ, як галоўнага аглабельшчыка ў Беларусі, перабольшаная.*

— Нарэшце, самае казытлівае пытаньне. Рэч у тым, што ў сваіх вульгарызатарскіх аглабельных артыкулах літаратурны кат Лукаш Бэндэ пісаў... праўду?

— *«Купала не разумее Кастрычніцкай рэвалюцыі» — амаль тое ж, што цяпер фактычна прызнана. Гэты тэзіс, што Бэндэ ў прынцыпе гаварыў праўду, выказаў яшчэ Алесь Бяляцкі гадоў дзесяць таму ў часопісе «Нёман».*

Купала не разумее рэвалюцыі, Колас фармаваўся на ідэалёгіі заможнага сялянства, Бядуля — прадстаўнік дробнай буржуазіі... Калі выйсьці за рамкі эмацыйнага напаўненьня гэтых ацэнак, а прачытваць толькі іхны сэнс, пачынаеш разумець, што ўсё гэта — праўда. І

тое, што большасьць беларускіх літаратараў былі нацдэмамі — нацыянальнымі дэмакратамі — таксама праўда. І што падкрэсліваньне іхнай пралетарскай сутнасьці або адданасьці ідэям бальшавізму было найчасьцей крывадушным. Можа быць, тут і паўстае галоўная праблема таго часу? Бэндэ пісаў праўду, якая гучала, як данос. Праўдзівы крытык быў стукачом.

Нашаніўскі нацыянал-лібэралізм, дробнабуржуазны нацыяналізм, ідэалізм... Клясыкі беларускае літаратуры сапраўды былі носьбітамі ўсяго гэтага, а значыць, у прымітыўнага пралетарскага рэвалюцыянізму былі ўсе падставы бачыць у іх ворагаў. Пры гэтым відавочна, што ў шэрагах пралетарскіх крытыкаў маглі быць абсалютна шчырыя, перакананыя ў вяршэнстве свае праўды людзі, якія давалі рашучы адпор гэтым прошукам буржуазнага нацыяналізму ў імя той новай рэчаіснасьці, якая ствапалася на іхных вачах у працэсе бязьлітаснай клясавай барацьбы.

Гэта я да таго, што ў нас няма падставаў папракаць Бэндэ двудушнасьцю альбо няшчырасьцю. На гэтыя хваробы хварэлі тыя, пра каго ён пісаў, — пісьменьнікі, якія хавалі сваю сутнасьць.

Ну, не даводзіць жа нам сёньня, што Бэндэ ня меў рацыі, бо Купала ня быў ідэолягам нацыянальнага адраджэньня! Наадварот, мы інакш пра Купалу й ня пішам. Выходзіць, Бэндэ меў рацыю. Але ў выніку гэтае рацыі гінулі людзі. Іх губіла сыстэма, для якой тая рацыя была даносам, а нацдэмы — ворагамі. Сёньня мы пішам, што нацдэмы — гэта добра, але існуем у сыстэме, якая па-ранейшаму ставіцца да нацыянальнага адраджэньня варожа. Мы ня мелі суду над камунізмам, у выніку адбылася дзіўная дыфузія. Нацдэм Купала так ці інакш прызнаны за афіцыйнага клясыка, а нацдэм Быкаў для афіцыёзу, нават пасьля свае сьмерці, — ізгой. У поўнай адпаведнасьці з традыцыямі Бэндэ. Новы падручнік гісторыі для ВНУ ствараецца ў поўнай адпаведнасьці з традыцыямі аглабельшчыка ад гісторыі Абэцэдарскага. КГБ сьвяткуе свае «слаўныя» юбілеі ў поўнай адпаведнасьці з традыцыямі Цанавы. І ўсё гэта адбываецца ў незалежнай Рэспубліцы Беларусі, улады якой абвесьцілі пра стварэньне дзяржаўнае ідэалёгіі, дзе дамінантай мусяць быць традыцыі сталінскага СССР.



Іншы раз здаецца, што чорнае памяці 1937 год зусім не скончаўся. Час спыніў свой вэртыкальны бег, а ўсё, што зьмяняецца, зьмяняецца на гарызанталі таго самага 37-га. З астранамічнага году ён ператварыўся для нас у эпоху, канца якой не відаць. Даўно няма ў жыцьці пэрсанальна Цанавы, Абэцэдарскага і Бэндэ, але пэрсанажы іхныя жывыя і здаровыя. Чаго вартая постаць таямнічага Шэймана. А паглядзіце, як баязьліва акадэмічны Інстытут гісторыі ўхваліў аглабельны падручнік Трашчанка. А холдынг, узначалены Таісай Бондар...

Генадзь Бураўкін назваў яшчэ аднаго сучаснага пэрсанажа, рыхтык Бэндэ. У сваім артыкуле ў «БДГ» ён піша:

«У нашай гісторыі быў Лукаш Бэндэ, які прынес страшэнныя страты беларускай літара-

туры, сваімі пагромнымі артыкуламі скараціў гады і Янкі Купалы і Якуба Коласа. Я думаю, што ня менш шкоды нашай культуры ўжо прынес Уладзімер Пятровіч Замяталін. І як імя Быкава будзе ў гісторыі Беларусі стаяць ля імя Купалы, так і імя Замяталіна павінна стаяць каля імя Бэндэ».

Блытаніну, у якой мы сёньня апынуліся і жывем, вольна ці міжвольна множыла сама інтэлігенцыя, якая імкнулася апраўдаць і рэабілітаваць забітых, высланых і абылганых калег. Яны пісалі, што абвінавачаньні былі няпраўдай, і што насамрэч Купала рэвалюцыю прыняў ды зразумеў, а Колас зь Бядулем былі зусім пралетарскімі творцамі. Усё гэтае пісаньне расквечвалася салютамі вялікаму кастрычніку і ленінскай праўдзе, якая бярэ верх над хлусьнёй вульгарызатараў. Усё канчаткова заблытвалася дзеля таго, каб толькі выцягнуць на паверхню забароненыя імёны і творы «ворагаў народу».

Кажуць, што менавіта Бэндэ давёў Янку Купалу да самагубства. Гэты сюжэт апісаны ў рамане Алега Лойкі. Бэндэ называе Купалу нацдэмам і прапануе яму адрачыся сваіх поглядаў ды ўстаць на шлях пралетарскае рэвалюцыі. А Купала ня можа. Дакладней, ён можа пісаць вершы пра Сталіна і посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва, але сваёй сутнасьці зьмяніць ня можа. У адрозьненьне ад Бэндэ, ён не ў сваёй сыстэме, як і большасьць беларускіх літаратараў. Што ім заставалася рабіць? Мабыць, нічога, калі выбранае было самагубства. Зьмяніць сыстэмы яны не маглі, уцякаць не было куды і не было як, зьмяніць сваёй нацдэмаўскай сутнасьці яны не маглі таксама. Яны стаялі кожны сам насупраць сыстэмы, часткай якой быў Бэндэ.



Праблема суду над камунізмам зусім не ў камунізме, а ў тым, што мусіць быць сьцьверджана іншая праўда. Мы можам колькі заўгодна крытыкаваць і тое, што было, і тое, што ёсьць, але так нічога й не зразумеем, пакуль не пачнем сьцьвярджаць, пакуль ня сьцьвердзім адваротнага. Да прыкладу, як можна крытыкаваць антыбеларускую палітыку цяперашніх уладаў у апазыцыйнай газэце па-расейску? Як можна казаць пра рэпрэсіі супраць інтэлігенцыі, і пры гэтым выдаваць кнігі Ластоўскага, Жылкі, Генюш тым рэпрэсаваным у 1933-м годзе правапісам? Нябожчыкі варочаюцца ў трунах. Гэта ж тое самае, што з імем вялікага кастрычніка на вуснах асуджаць Лукаша Бэндэ. Але гэта ня ваш, а ягоны Вялікі Кастрычнік. І вялікі Ленін — ягоны. І сьветлыя ідэалы камунізму — ягоныя. Бэндэ не двудушны. Ён сапраўдны змагар сваёй сыстэмы. І калі ў нашых вачах ён — кат, значыць мы — людзі іншай сыстэмы і іншай праўды. І пакуль мы не пачнем сваю праўду сьцьвярджаць, мы так і застанемся двудушнымі прыжываламі-нацдэмамі — што за Сталіным, што за Хрушчовым, што цяпер.

Застанецца з намі і Бэндэ, дзіўнае прозьвішча якога мае як мінімум два пераклады. Па-латыску гэта «кат», а па-польску — «буду».

этэр 13 сьнежня 2003 г.

## Марцін Кухта

Нехта з паэтаў сказаў, што ўсе свае шматтомнікі памяняў бы на адзіную Багдановічаву кніжку «Вянок»...

Цікава, што «Вянок», які рыхтавалі да друку супрацоўнікі віленскай газэты «Наша Ніва», не задумляўся імі як галоўная паэтычная кніга на ўсе часы. Безумоўна, сакратар рэдакцыі Вацлаў Ластоўскі разумеў, што мае справу з высокай паэзіяй, але рабіў зноску на тое, што высокая паэзія ці невысокая — вырашаць мусіць час. І сярод іншых тагачасных літаратараў далёка ня ўсе расцэньвалі вершы Багдановіча аднaзначна станоўча. Здавалася, замнога ў іх чыстай эстэтыкі, замала сацыяльнасьці. Таму першае кніжнае выданьне далёкага яраслаўскага аўтара нагружалася дадатковымі атрыбутамі. Уласна і «Вянком» назваў зборнік сам Ластоўскі. На асобнай старонцы ён расшыфраваў: «Вянок на магілу С.Палуяна», — аддаючы даніну памяці беларускаму адраджэнцу, што загінуў тры гады таму. Як піша паэтка і дасьледніца Данута Бічэль, вокладку кнігі Ластоўскі ўпрыгожыў дзіцячым малюнкам, які меў у сваёй калекцыі, а на шмуцтытуле зьмясьціў герб Завішаў — лебедзь у вянку — на знак удзячнасьці фундатарцы Магдалене Радзівіл.

Як бачым, дадатковых функцыяў, якія маглі б супакоіць скептыкаў што да ўласна паэзіі, «Вянок» мусіў выканаць шмат. Верагодна, такая «браня» павінна была паўплываць і на вызначаны наклад — дзьве тысячы асобнікаў — зусім нямала па сёньняшніх мерках. Гэта цяпер мы разумеем, што ў якой бы форме ні зьявіўся першы і адзіны зборнік Багдановіча, гэта ніякім чынам не зьмяніла б ягонай ацэнкі.



Самому ж аўтару, маладому і цяжка хвораму, ягоны «Вянок» на сьмяротным ложку замяніў блізкага чалавека.

Ў краіне сьветлай, дзе я ўміраю,
У белым доме ля сіняй бухты,
Я не самотны, я кнігу маю
З друкарні пана Марціна Кухты.

Гэтымі радкамі імя выдаўца «Вянка» назаўсёды было ўпісанае ў беларускі культурны кантэкст.

Ведаючы, аднак, прозьвішча легендарнага друкара, мы звычайна нічога ня можам сказаць пра Кухту — рэальнага гістарычнага пэрсанажа. А калі зьвяртаемся да энцыкляпэдыяў і ўспамінаў, дык трапляем у сьвет парадоксаў, асабліва дзіўных з гледзішча рэаліяў нашага сёньняшняга жыцьця.

...1906 год, Вільня. Горад яшчэ не літоўскі, ня польскі, не беларускі, не расейскі і не гэбрайскі, але адначасова ўсіхны. Такі сабе кацёл народаў і культур, вір людзкі. Сталіца некалі слаўнага Вялікага Княства Літоўскага, а сёньня — губэрнскі горад Расейскай імпэрыі, і ў больш шырокім сэнсе — цэнтар Паўночна-Заходняга краю. Вось жа ў гэтым віры запачаткоўваецца станаўленьне дзьвюх нацыяў, якія аднолькава жадаюць бачыць у Вільні сталіцу сваіх будучых нацыянальных дзяржаваў. Гэта

беларусы і літоўцы. Другія — пераважна прадпрымальнікі і палітыкі, першыя — рамантыкі і паэты.

Ліхтарняў блеск у сіняй вышыне…
Вітрынамі зіяючыя крамы…
Кавярні… мора вывесак… як плямы,
Анонсы і плякаты на сьцяне.

Кіпіць натоўп на жорсткім вулак дне!
Снуюць хлапцы, суючыя рэклямы,
Разносчыкі крычаць ля кожнай брамы…
Грук, гоман, гул, — усё ракой імкне.

А дальш — за радам кас, лямбардаў, банкаў —
Агні вакзалу… павадка хурманкаў…
Віры людзей… сіпячы паравоз…

Зялёны сэмафор… пакгауз… склады…
Заводаў коміны пад цьмой нябёс…
О, гораду чароўныя прынады!

Літовец Марцін Кухта (Martinas Kukta) адкрыў сваю друкарню ў Вільні ў 1906 годзе. Ужо праз месяц у яго пачынае друкавацца штотыднёвая беларуская газэта «Наша Ніва». Прадпрыемства набірае абароты. Дзясяткі брашураў, пераважна сельскагаспадарчае тэматыкі, чытанкі для дзяцей, календары. Наступнае знакавае выданьне ў гэтым патоку паліграфічнае прадукцыі — «Вянок», у 1913-м. Яшчэ праз пяць гадоў — у 18-м — «Беларуская граматыка для школ» Браніслава Тарашкевіча.

Бадай, ужо гэтых трох выданьняў хапіла б, каб залатымі літарамі ўпісаць імя Марціна Кухты на скрыжалі беларускай гісторыі і культуры. Але ж пры гэтым Марцінас Кукта заставаўся сьведамым літоўцам. Што праўда, рэальная канкурэнцыя паміж беларусамі і літоўцамі пачнецца крыху пазьней. Пакуль жа ўсе ахопленыя адзіным сьветлым адраджэнскім парываньнем. Марцін Кухта працуе на беларушчыну зусім не таму, што гэта для яго выгадны бізнэс. Архівы рэдакцыі «Нашай Нівы» сьведчаць, што газэта найчасьцей друкавалася ў доўг…



Літаральна сёлета стала вядома, што ў прыродзе існуе родны ўнук Марціна Кухты. Гэта сын дачкі друкара Эдмундас Манставічус, які жыве дзесьці за Коўнам. Першы і зусім выпадкова зь ім пазнаёміўся Валянцін Стэх, ініцыятар сучаснага віленскага беларускага адраджэньня:

*— Я цяпер займаюся пытаньнямі кампэнсацыі ахвярам другой сусьветнай вайны з боку Нямеччыны, і аднаго разу лёс зьвёў мяне са спадаром Эдмундасам Манставічусам, які падчас вайны быў у нямецкім канцлягеры. Ён тады быў падлеткам, яго разам зь сям'ёй вывезьлі… Ну, і слова за слова, мы разгаварыліся, бо гэта вельмі прыемны камунікабэльны чалавек… І ён неяк спытаў мяне, а хто ты па нацыянальнасьці? Я кажу: беларус. Тады ён сказаў, што мае ў хаце даволі багатую бібліятэку, у тым ліку і кніжкі на беларускай мове. Я зацікавіўся, адкуль гэтыя кніжкі? Ён кажа: а мой дзед быў выдаўцом, ён выдаваў кніжкі на розных мовах, у тым ліку й на беларускай. А як вашага дзеда прозьвішча? Ён кажа: Кухта. Я кажу — Марцін? Ён кажа: Марцін…*

Цяжка ўстояць перад спакусай сустрэцца з унукам легендарнага Марціна Кухты.

*Тацяна Сапач:*

*Першым чынам, да таго, як казаць пра дзеда і кнігі, гасьцінны гаспадар заковенскае сядзібы паказаў мне сваю калекцыю фігурак з дрэва:*

*— Вось гэта — памірае птушка. Бачыце ейныя крылы? Яна памірае, але застаецца маленькае птушанятка. Яшчэ не аперанае, слабое. А вось птушанятка вырасла, ператварылася ў вялікага птаха. Бачыце, моцныя ногі, кіпцюры. Птах стаіць на тым месцы, дзе некалі памірала птушка. Ён ужо гатовы ўзьняцца ў вышыню...*

З «Энцыкляпэдыі літаратуры і мастацтва Беларусі»:

«Кухта Марцін Міхайлавіч (1875—1942), друкар, выдавец кніг на беларускай мове. У 1906 годзе заснаваў у Вільні друкарню з правам выпускаць кнігі, газэты і часопісы на эўрапейскіх мовах».

*— Вось такога зьместу кнігі былі папулярныя і выдаваліся — «Хоць цела памірае, душа жыве». Друкарня Марціна Кухты. 1906 год. Гэта адразу пасьля адраджэньня літоўскага друку... Калі браць ад самага пачатку, дык гэта прыкладна 1890 год. Ён пачынаў сваю кар’еру, працуючы наборшчыкам у Пецярбургу, у друкарні. Меў юнак сьветлую галаву, быў, можна лічыць, абстынэнтам. То здолеў сабраць ладны капітал. Разам зь Вілейшысам яны закупілі паліграфічную тэхніку і перавезьлі ў Вільню. Друкарня Кухты і Вілейшыса, у параўнаньні зь іншымі, была больш палітычна арыентаванай.*



З «Энцыкляпэдыі друкарняў Літвы»:

«У сакавіку 1906 году Марцін Кухта атрымаў дазвол на адкрыцьцё ўласнай друкарні. Яна разьмясьцілася на вуліцы Ўнівэрсытэцкай, 4. Колькасьць работнікаў друкарні ў розныя гады вагалася ад 15 да 21-го. Былі закупленыя шрыфты ад Лемана і Ольгербранда агульнай вагою больш за 300 пудоў. У траўні 1911 году друкарня перамясьцілася на вуліцу Татарскую, 20».

З «Энцыкляпэдыі літаратуры і мастацтва Беларусі»:

«10 лістапада 1906 году ў друкарні Марціна Кухты выйшаў 1 нумар газэты «Наша Ніва». Кухта друкаваў творы Багушэвіча, Багдановіча, Коласа, Цёткі, Буйло і іншых беларускіх пісьменьнікаў, беларускія календары, зборнікі, сьпеўнікі».

*— Сувязі з тагачаснай беларускай інтэлігенцыяй узьніклі ня так сабе. Дзядуля быў зьвязаны зь беларусамі праз жанчыну. Мая бабуня! Яна была з мазуроў, але зь беларускім дамешкам. Бацька быў мазуром, палякам, а маці бабуніна — зь беларусаў. Мой бацька жартаваў: у цябе, сын, 25 працэнтаў беларускай крыві.*

З «Энцыкляпэдыі друкарняў Літвы»:
«У паваенныя гады арыентаванае на друк літоўскіх выданьняў паліграфічнае прадпрыемства Кухты зазнае перасьлед з боку польскіх уладаў».

*— Пасьля таго дзядуля яшчэ нейкі час трымаўся ў Вільні, але рабілася штораз цяжэй і цяжэй. І тады ён вырашыў пераехаць у Коўна.*

*У Коўне Марцін Кухта працягвае сваю друкарскую дзейнасьць. Ягоны ўнук прыгадвае, што ковенская друкарня дзеда была побач з домам, дзе яны жылі, на вуліцы Мішко. Дзед з бабуляй узялі ўнука да сябе пасьля раптоўнай сьмерці сваёй адзінай дачкі, ягонай маці. Малому было ўсяго два з паловай гады, і дзед стаў для яго і апекуном, і настаўнікам, і сябрам.*

*— Як чалавек, ён быў закрыты. Пра сябе ніколі нічога не распавядаў. Калі трэба было пра што даведацца, дык цяжка было зь яго тое выцягнуць... Але пра свайго дзядулю я ведаю ўсё абсалютна. Мама мая памерла ў 1929 годзе, а я нарадзіўся ў 27-м. І я пасьля мамінай сьмерці гадаваўся ў дзядулі з бабуняю, жыў зь імі, лічыце, да сямі гадоў. Памятаю, што мы жылі на Лясной вуліцы ў Коўне, недалёка ад дзедавай друкарні.*

*Унук пана Марціна Кухты шануе памяць свайго дзеда. Гэтая памяць — ня толькі дзіцячыя згадкі ці пасьля здабытая інфармацыя пра ягоную дзейнасьць. Шанаваньне памяці дзеда — і ў той любові да кнігі, якую спадар Эдмундас называе невылечнай хваробай. Ягоная прыватная бібліятэка — гэта багаты збор твораў на самых разнастайных мовах. Ён мог адмаўляць сабе ў самым неабходным, але ня ў кнігах.*



*— Апошнюю сваю бібліятэку, трэцюю па ліку, я сабраў ня так даўно. Далучыў да ранейшых кніг дзядулеў кнігазбор, тое, што засталося мне ў спадчыну.*

*Ён ніколі ня быў адкрытым дысыдэнтам. Ягоны супраціў савецкай уладзе меў своеасаблівы характар. Улада прадпісвала сваім прыхільнікам туляцца па цесных «хрушчобах», а ён тым часам сам, сваімі рукамі, будаваў дом, такі, які адпавядаў ягоным, а ня ўлады, уяўленьням пра людзкае жытло. У гэтым доме ёсьць месца і для ўлюбёных кніг, і для калекцыі твораў з дрэва, якая папаўняецца з кожнай новай ягонай вандроўкай у лясны гушчар.*

*Ягоная любоў да прыроды толькі на першы пагляд супярэчыць ягонаму прафэсійнаму выбару — хіміі. Сфэра робленага, сынтэтычнага, штучнага толькі падагравала ўспадкаваную ад дзеда цікавасьць Эдмундаса да ўсяго сапраўднага.*

*У вялікім прыгожым доме за Коўнам яны жывуць цяпер удваіх з жонкай. Жыцьцё гэтае нетаропкае і, бадай, трохі старамоднае, як на сучасны пагляд. Кнігі, здымкі, успаміны, дрэвы, камяні... Глядзець, як укрываюцца квеценьню дрэвы, слухаць птушыную гаворку, чакаць восені, і разумець, што ёсьць галоўнае...*

Такім чынам, Марцін Кухта быў сьвядомым літоўцам. Але прытым ён быў, скажам так, та-

ленавітым прадпрымальнікам, якому не чужая рамантыка нацыянальнага адраджэньня «ў чыстым выглядзе» — ці то літоўскага, ці то беларускага. Напачатку мінулага стагодзьдзя вага першага і другога ў Вільні была аднолькавая. У адрозьненьне ад беларусаў, літоўцы хутчэй палітызаваліся, хутчэй рабіліся прагматыкамі. У адрозьненьне ад беларусаў, яны пакінулі гісторыі шмат сваіх групавых фатаздымкаў, на якіх, аднак, Марціна Кухты няма.

І цяпер я вяртаюся да згаданага парадоксу. Відавочна, што заслугі сьведамага літоўца Кухты перад беларускім адраджэньнем шматкроць больш важкія, чым перад адраджэньнем літоўскім. Трэба, вядома, улічваць розную дынаміку і розны характар гэтых адраджэньняў. Беларускае, бадай, так і не ператварылася ў дзяржаўную палітыку, нават пасьля здабыцьця незалежнасьці, так і засталося справаю энтузіястаў. Літоўскае яшчэ да здабыцьця незалежнасьці больш нагадвала дзяржаўную палітыку, чым эмацыйнае парываньне падзьвіжнікаў. Беларускае — скрозь мультыкультурнае, гатовае ўбіраць у сябе многія знакавыя імёны, нягледзячы на кроў, што цячэ ў жылах героя. Літоўскае — больш замкнёнае, пераборлівае і рацыянальнае. Беларусы раскрываюцца і ідуць «на сьвет цэлы», літоўцы — замыкаюцца і выразна адрозьніваюць сваіх і чужых. Беларусы маглі б назваць літоўцаў прагматычнымі, а літоўцы беларусаў — наіўнымі. Вось жа Марцін Кухта, як дзяяч, сфармаваўся ў той час, калі наіўнымі і аднолькава рамантычнымі былі абодва адраджэньні, калі ўсё толькі пачыналася. Калі натхнёныя бязьмежнымі пэрспэктывамі пецярбурскія студэнты вярталіся цягніком дадому — у Вільню, везучы з сабой фантастычныя пляны для сваіх народаў і будучых дзяржаваў. І немагчыма было адрозьніць сярод іх літоўцаў і беларусаў…



Калі не лічыць процьмы тых сельскагаспадарчых брашураў і плякатаў, у тым ліку і палітоўску, дык найбольш знакавыя літоўскія дасягненьні друкара належаць да 1918 году, калі Вільня была акупаваная немцамі.

Тады Марцін Кухта друкуе першую літоўскую паштовую марку — «бяз клею» і акт незалежнасьці Літвы ў газэце «Lietuvos aidas». Апошняя публікацыя, часткова сканфіскаваная немцамі, і зьяўляецца фактычна абвяшчэньнем гэтага акту. Вось, бадай, і ўсе знакавыя літоўскія дасягненьні, якія замацоўваюць згадку пра Кухту ў літоўскай гісторыі. Варта параўнаць гэты даробак з гадавікамі першай беларускай газэты і зь першай беларускай граматыкай, зь «Вянком» Максіма Багдановіча і з той са школы вядомай кожнаму беларусу страфой пра кнігу з друкарні пана Марціна Кухты. А калі дадаць, што менавіта ў той друкарні запальваліся зоркі першай велічыні беларускай літаратуры, дзе выходзілі кнігі Багушэвіча, Коласа, Цёткі, Ядвігіна Ш… ды ці ня ўсіх клясыкаў нашаніўскае пары… Але на віленскім будынку, дзе некалі запальваліся гэтыя зоркі, няма мэмарыяльнай табліцы, сюды не прыходзяць турыстычныя экскурсіі, дый ведаюць пра колішнюю друкарню хіба што некалькі спэцыялістаў. Што лішні раз сьведчыць

пра розную вагу друкара ў беларускай і літоўскай традыцыях.

Для літоўцаў Кухта — прадпрымальнік, які спрыяў нацыянальнаму руху, для беларусаў жа — культурны герой на ўсе часы. Адказ на пытаньне, ці разумеў гэта сам легендарны друкар, ці згадзіўся б з такой ацэнкай, і як бы да яе паставіўся, застаецца пакуль таямніцай.

этэр 8 лютага 2004 г.

## Аляксандар Салжаніцын. Жыць без ілжы

12 лютага 1974 году расейскі пісьменьнік-дысыдэнт, ляўрэат Нобэлеўскай прэміі Аляксандар Салжаніцын падпісвае свой зварот да суайчыньнікаў пад назвай «Жыць без ілжы». Дакладней, тэкст звароту пісаўся крыху раней і быў раскладзены па схованках з умовай: калі аўтара арыштуюць — распаўсюдзіць праз суткі. Так і адбылося. Самога Салжаніцына чакала выгнаньне з СССР, а на радзіме ў легальным друку «Жыць без ілжы» зьявілася толькі ў 1988 годзе. Нельга, аднак, зьменшыць ролю гэтага эмацыйнага заклiку, які ў часы глыбокага застою перадаваўся з рук у рукі і падбухторваў людзей на супрацьстаяньне таталітарнаму ладу.

Што да Беларусі, дык у нас трыццаць гадоў таму зварот Салжаніцына водгуку ня меў. Прынамсі, у хроніцы дэмакратычнай апазыцыі такіх зьвестак няма. Рэч у тым, што дысыдэнцкія зьявы ў тагачаснай Беларусі мелі, бадай, выключна нацыянальна-дэмакратычны характар. Гаворка ішла пра адраджэньне культуры, а не пра зьмену палітычнага рэжыму. І гэта быў першы пункт, у якім беларусы з Салжаніцыным разышліся.

Нібы ў адказ на гэта Салжаніцын «не заўважыць» беларусаў, як асобнае нацыі. Крыўдныя словы прагучаць пазьней у ягоным праграмным артыкуле «Як нам уладкаваць Расею». Але гэтыя два пункты, на маю думку, так і застануцца бескарыснымі пунктамі супрацьстаяньня, калі да іх не дадаць трэцяга.

У адрозьненьне ад усіх іншых самастойных і разьвітых культур нашае часткі сьвету, беларусы ня маюць свайго перакладу ані «Архіпэлягу ГУЛАГу», ані звароту «Жыць без ілжы». Інакш кажучы, мы ня бачым Салжаніцына, а ён ня бачыць нас. Ён — бясспрэчна вялікі пісьменьнік сусьветнага маштабу і грамадзянін. І для таго, каб вынесьці яму прысуд у імпэрскім поглядзе на нас, мы мусілі б загаварыць зь ім па-свойму. Магчыма, і ён пасьля гэтага пачуў бы нас, бо, як вядома, самы цывілізаваны спосаб выхаду з супрацьстаяньня — гэта размова. Лепшага ня вынайдзена.

Нарэшце, ёсьць і яшчэ адна, ужо чыста наша, унутраная карысьць у тым, каб перачытаць Салжаніцына па-свойму. Ён — ці ня самы расейскі паводле духу сучасны пісьменьнік, у якога кожнае слова і стылёвая сынкопа, кожны тон і паўтон дакладна перадаюць чыста расейскую нэрвовасьць і мэнтальнасьць, максымалізм у вялікім і дробязнасьць у прыватным.

Мы, якія хацелі б запярэчыць яму, што мы ёсьць, мы асобныя і разьвітыя і — не такія, менавіта ў ягоных тэкстах распазнаем сваю інакшасьць найлепшым чынам. Ягоная саборнасьць, безальтэрнатыўнасьць праваслаўнага адраджэньня, а нават і сам дух тэксту, так падобнага на царкоўную казань — усё гэта можа быць зразумелае для беларускага індывідуалізму, нашай шматканфэсійнасьці і рацыяналістычнага погляду на сьвет, але не сваё.

Сёньня мы перачытаем зварот Аляксандра Салжаніцына «Жыць без ілжы» ўпершыню па-беларуску. Услухаемся ў яго і дамо магчымасьць аўтару ды ягоным суайчыньнікам услухацца ў нас.

*Аляксандар Салжаніцын*

*ЖЫЦЬ БЕЗ ІЛЖЫ*

*Калісьці мы ня сьмелі і шэптам шаргацець. Цяпер вось пішам і чытаем Самвыдат, а ўжо адзін адному ў курылках НДІ ад душы наскардзімся: чаго толькі* яны *не напракудзяць, куды толькі ня цягнуць нас! Тут і непатрэбнае касьмічнае выхваляньне пры развале і беднасьці жыцьця; і ўмацаваньне далёкіх дзікіх рэжымаў; і распальваньне грамадзянскіх войнаў; і безаглядна выгадавалі Мао Цзэдуна (на нашы сродкі) — і нас жа на яго пагоняць, і прыйдзецца ісьці, куды дзенесься? і судзяць, каго хочуць, і здаровых заганяюць у вар'яты — усё «яны», а мы — бясьсільныя.*

*Ужо да донца даходзіць, ужо ўсеагульная духовая пагібель насунулася на ўсіх нас, і фізычная вось-вось запалае і спаліць і нас, і нашых дзяцей, — а мы па-ранейшаму ўсё ўсьміхаемся баязьліва і лапочам касназыка:*

*— А чым жа мы перашкодзім? У нас няма сілаў. Мы так безнадзейна расчалавечыліся, што за сёньняшнюю нішчымную кармушку аддамо ўсе прынцыпы, душу сваю, усе намаганьні нашых продкаў, усе магчымасьці для нашчадкаў — толькі б не разладзіць свайго лядачага існаваньня. Не засталося ў нас ані цьвёрдасьці, ані годнасьці, ні сардэчнага гарэньня. Мы нават усеагульнай атамнай сьмерці не баімся, трэцяй сусьветнай вайны не баімся (можа, у расколінку схаваемся), — мы толькі баімся крокаў грамадзянскае мужнасьці! Нам толькі б не адбіцца ад статку, не зрабіць кроку паасобку — і раптам аказацца бязь белых булак, бяз газавай калёнкі, без маскоўскай прапіскі.*

*Ужо як дзяўблі нам на палітгуртках, так у нас і ўдзяўблося, выгодна жыць, абы на ўвесь век добра:* асяродзьдзе, *сацыяльныя ўмовы, зь іх ня выскачыш, быцьцё вызначае сьвядомасьць, мы тут пры чым? мы нічога ня можам.*

*А мы можам — усё! — але самі сабе хлусім, каб сябе заспакоіць. Ніякія не «яны» ўва ўсім вінаватыя — мы самі, толькі мы!*

*Запярэчаць: але ж сапраўды нічога не прыдумаеш! Нам заляпілі рот, нас ня слухаюць, у нас не пытаюцца. Як жа прымусіць* іх *паслухаць нас?*

*Пераканаць іх — немагчыма.*

*Натуральна было б іх пераабраць! — але пераўыбараў не бывае ў нашай краіне.*

*На Захадзе людзі знаюць страйкі, дэманстрацыі пратэсту, — але мы занадта забітыя, нам гэта страшна: як гэта раптам — адмовіцца ад працы, як гэта раптам — выйсьці на вуліцу?*

*А ўсе іншыя фатальныя шляхі, што за апошняе стагодзьдзе апрабаваныя ў горкай расейскай гісторыі, — тым больш не для нас, і насамрэч — ня трэба! Цяпер, калі ўсе сякеры свайго дасякліся, калі ўсё пасеянае ўзышло, — нам бачна, як заблукаліся, як учадзелі тыя маладыя, самаўпэўненыя, хто думалі тэрорам, крывавым паўстаньнем і грамадзянскай вайной зрабіць краіну справядлівай і шчасьлівай. Не ўжо, дзякуй, бацькі асьветы! Цяпер ужо ведаем мы, што гнюснасьць мэтадаў месьціцца ў гнюснасьці вынікаў. Нашыя рукі — хай будуць чыстымі!*

*Дык кола — замкнулася? І выйсьця — насамрэч няма? І застаецца нам толькі бязьдзейна чакаць: раптам здарыцца нешта само?*

*Але ніколі яно ад нас не адліпне само, калі ўсе мы ўвесь час будзем яго прызнаваць, услаўляць і мацаваць, калі не адштурхнемся хоць бы ад самай яго адчувальнай кропкі.*

*Ад — ілжы.*

*Калі гвалт урываецца ў мірнае людзкое жыцьцё — ягоны твар палае ад самаўпэўненасьці, ён так і на штандары піша, і крычыць: «Я — Гвалт! Разыдзіся, расступіся — стапчу!» Але гвалт хутка старэе, крыху гадоў — і ён ужо ня ўпэўнены ў сабе, і, каб трымацца, каб выглядаць прыстойна, — ён выклікае сабе ў хаўрусьнікі Хлусьню. Бо: гвалту няма чым прыкрыцца, акрамя хлусьні, а хлусьня можа трымацца толькі гвалтам. І ня кожны дзень, не на кожнае плячо кладзе гвалт сваю цяжкую лапу: ён патрабуе ад нас толькі пакоры да хлусьні, штодзённага ўдзелу ў хлусьні — і ў гэтым усё вернападданства.*



*І вось тут якраз ляжыць занядбаны намі, самы просты, самы даступны ключ да нашага вызваленьня:* асабісты няўдзел у хлусьні*! Няхай хлусьня ўсё пакрыла, няхай хлусьня валодае ўсім, але ў самым малым заўпарцімся: няхай валодае* не празь мяне*!*

*І гэта — прасьвет ва ўяўнай аблозе нашае бязьдзейнасьці! — самы лёгкі для нас і самы разбуральны для хлусьні. Бо калі чалавек адхіснуўся ад хлусьні — яна папросту перастае існаваць. Як зараза, яна можа існаваць толькі на людзях.*

*Не заклікаемся, не сасьпелі мы ісьці на плошчы і прагалошваць праўду, выказваць угалас, што думаем, — ня трэба, гэта страшна. Але хоць адмовімся казаць тое, чаго ня думаем!*

*Вось гэта і ёсьць наш шлях, самы лёгкі і даступны пры той арганічнай баязьлівасьці, што прарасла ў нас, нашмат лягчэйшы за (страшна прамовіць) грамадзянскае непадпарадкаваньне паводле Гандзі.*

*Наш шлях:* ні ў чым не падтрымліваць хлусьні сьвядома*! Усьвядоміўшы, дзе мяжа хлусьні (кожнаму яна яшчэ па-рознаму відна), — адступіцца ад гэтай гангрэннай мяжы! Не падклейваць мёртвых костачак і лушчынак Ідэалёгіі, не сшываць гнілога рызьзя — і мы*

*ўражаныя будзем, як хутка ды бездапаможна хлусьня ападзе, і чаму належыць быць голым — тое зьявіцца сьвету голым.*

*Такім чынам, цераз баязьлівасьць нашу хай кожны выбера: ці застаецца ён сьвядомым служкам хлусьні (о, натуральна, ня дзеля схільнасьці, але для пракармленьня сям'і, для выхаваньня дзяцей у духу хлусьні! ), ці прыйшла яму пара страпянуцца, стаць сумленным чалавекам, вартым павагі і дзяцей сваіх і сучасьнікаў. І з гэтага дня ён:*

*— больш не напіша, не падпіша, не надрукуе ніякім чынам ніводнай фразы, што скажае, на ягоную думку, праўду;*

*— такой фразы ні ў прыватнай гутарцы, ні прылюдна ня выкажа ні ад сябе, ні са шпаргалкі, ні ў ролі агітатара, настаўніка, выхавальніка, ні паводле тэатральнае ролі;*

*— жывапісна, скульптурна, фатаграфічна, тэхнічна, музычна ня выявіць, не суправодзіць, не пратрансьлюе ніводнай хлусьлівай думкі, ніводнага скажэньня праўды, якое ён бачыць;*

*— не спашлецца ні вусна, ні пісьмова на «кіраўнічую» цытату, каб дагадзіць, падстрахавацца, для посьпеху свае працы, калі цытаванае думкі не падзяляе цалкам ці яна не дарэчы;*

*— ня дасьць прымусіць сябе ісьці на дэманстрацыю ці мітынг, калі гэта супраць ягонага жаданьня і волі; ня возьме ў рукі, не падыме транспаранту, лёзунгу, якога не падзяляе цалкам;*

*— не падыме рукі за прапанову, якой не падзяляе шчыра; не прагаласуе ні адкрыта, ні таемна за асобу, якую лічыць ня вартай або сумнеўнай;*

*— ня дасьць загнаць сябе на сход, дзе чакаецца прымусовае, скажонае абмеркаваньне пытаньня;*

*— зараз жа пакіне паседжаньне, сход, лекцыю, спэктакль, кінасэанс, як толькі пачуе ад прамоўцы хлусьню, ідэалягічную лухту ці бессаромную прапаганду;*

*— не падпішацца і не набудзе такой газэты ці часопісу, дзе інфармацыя скажаецца, падставовыя факты хаваюцца.*

*Мы пералічылі, вядома, ня ўсе магчымыя і неабходныя ўхіленьні ад хлусьні. Але той, хто пачне ачышчацца, — ачышчаным поглядам убачыць і іншыя выпадкі.*

*Так, па першым часе атрымаецца няроўна. Камусьці давядзецца страціць працу. Маладым, што жадаюць жыць паводле праўды, гэта вельмі ўскладніць іх маладое жыцьцё напачатку: бо ж і адказы на ўроках напханыя хлусьнёю, трэба выбіраць. Але ж ні для кога, хто хоча быць сумленным, тут не засталося шчылінкі: нідзе нікому з нас нават у самых бясьпечных тэхнічных навуках не абмінуць хоць аднаго з названых крокаў — у бок праўды ці ў бок хлусьні; у бок духовай незалежнасьці або духовага лёкайства. І той, каму ня стане сьмеласьці нават на абарону сваёй душы, — няхай не ганарыцца сваімі перадавымі поглядамі, не выстаўляецца, што ён акадэмік ці народны артыст, заслужаны дзяяч ці генэрал, — так няхай і скажа сабе: я — быдла і баязьлівец, мне абы сытна і цёпла.*

*Нават гэты шлях — самы памяркоўны з усіх шляхоў супраціву — для нас, што засядзеліся, будзе нялёгкі. Але настолькі ж лягчэйшы за самаспаленьне ці нават галадоўку: полымя не ахопіць твайго тулава, вочы ня лопнуць ад жару, і чорны хлеб з чыстай вадой заўсёды знойдзецца для твае сям'і.*

*Здраджаны намі, падмануты намі вялікі народ Эўропы — чэхаславацкі — няўжо не паказаў нам, як нават супраць танкаў выстойваюць няўзброеныя грудзі, калі ў іх годнае сэрца?*

*Гэта будзе нялёгкі шлях? — але самы лёгкі з магчымых. Нялёгкі выбар для цела, — але адзіны для душы. Нялёгкі шлях, — аднак ёсьць жа ў нас людзі, нават дзясяткі іх, хто гадамі трымаецца ўсіх гэтых пунктаў, жыве паводле праўды.*

*Такім чынам: ня першымі ступіць на гэты шлях, а — далучыцца! Тым лягчэйшым і тым карацейшым акажацца ўсім нам гэты шлях, чым больш дружна і густа мы на яго ступім! Будуць нас тысячы — і ня справяцца ні з кім нічога зрабіць. Стануць нас дзясяткі тысяч — і мы не пазнаем нашай краіны!*

*Калі ж мы збаімся, дык досыць жаліцца, што хтосьці нам не дае дыхаць — гэта мы самі сабе не даем! Прыгнемся яшчэ, пачакаем, а нашы браты біёлягі дапамогуць наблізіць чытаньне нашых думак і пераробку нашых генаў.*

*Калі і ў гэтым мы збаімся, дык мы — нікчэмныя, безнадзейныя, і гэта да нас пушкінская пагарда:*

*Навошта статкам дар свабоды?*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Іх спадчына ад роду ў роды*
*Тайро, кайданы і бізун.*



Перачытваючы гэты хрэстаматыйны дысыдэнцкі тэкст савецкае пары, я раптам разумею, чаму сёньня ён стаў хрэстаматыйным у выданьнях РПЦ. Бо гаворка ў ім не пра што іншае, а пра выратаваньне душы.

*Валянцін Акудовіч:*

*Тэкст варты, каб над ім задумацца. Але ў самых розных ракурсах. І найбольш нецікавы зь іх: актуальны ён ці неактуальны. Сапраўды, для сытуацыі ў Беларусі ён выглядае абсалютна актуальным. Ня менш, чым тады, для сытуацыі ў Савецкім Саюзе, у 1974 годзе. Ці амаль ня менш. Зноў праблема: гаварыць ці не гаварыць праўду, маўчаць ці не маўчаць. Ці хаця б — маўчаць няпраўду. І да таго падобнае. Але мяне ў гэтым тэксьце цяпер цікавіць іншае, што, можа, значна больш за пытаньне жыць «по лжи» ці ня жыць па ёй.*

*Гляньце. Салжаніцын спадзяваўся, што калі адзін, два, а потым дзесяць тысяч пачнуць жыць не «по лжи», гэта значыць, калі не гаварыць праўду, дык хаця б не гаварыць няпраўды, ня ўдзельнічаць у хлусьні, дык гэтым можна будзе перамяніць гэты сьвет да лепшага. Так? А цяпер мы зь перажытых гадоў бачым, што, маючы за сьпінай пэрыяд, калі тысячы, сотні тысяч, мільёны, ды ўсе мы маглі падчас перабудовы і трохі пазьней колькі заўгодна гаварыць праўду... І ўсе мы гаварылі праўду. Мы яе столькі нагаварылі. Мы нагаварылі праўды*

*больш, чым было маўчаньня гэтыя 70 гадоў. І што, сёньня расіяне і той жа Салжаніцын могуць сказаць, што ад гэтага іх расейскі сьвет перамяніўся да лепшага? Што, з гэтага гаварэньня праўды наш сьвет стаў лепшы? Так, ён стаў іншы. Але вось гэты спадзеў, што праўда выратуе сьвет, што жыцьцё не ў хлусьні, а ў праўдзе радыкальна можа штосьці зьмяніць у гэтым сьвеце... Гэтым і каштоўны для мяне тэкст Салжаніцына, бо ён якраз і адказвае — на жаль, не. На жаль, сьвет, калі пераходзіць да лепшага, дык нейкімі іншымі шляхамі, а ня толькі праз шлях гаварэньня ці маўчаньня.*

*Прынамсі, цяпер, перачытваючы гэты тэкст, праз столькі гадоў, я заўважыў, што гэты наш спадзеў на праўду, як і спадзеў на фармальную дэмакратыю... Нездарма Салжаніцын кажа: ну, калі мы ня можам выйсьці на плошчу, калі мы ня маем права вольна перавыбраць іншага, давайце хаця б ня будзем хлусіць. Уяўлялася, што, калі можна будзе выбіраць, калі можна будзе гаварыць тое, што думаеш, то адразу мы зажывем у шчасьлівым нейкім сьвеце. А не! Калі ласка, выбірай. Усё роўна Пуціна выбераш. Выбірай, калі ласка, усё роўна выбераш Лукашэнку. Калі ласка, мала засталося апазыцыйных сродкаў масавай інфармацыі, але ёсьць месца, дзе табе сказаць праўду. І гавары, і ніхто цябе за гэта нават і не пасадзіць. А што з гэтага гаварэньня? А што з гэтых выбараў? Самі па сабе ня словы, самыя шчырыя, самі па сабе не магчымасьць выбіраць, магчымасьць гаварыць ці не гаварыць вырашаюць у гэтай цывілізацыі. Што вырашае? — гэта ўжо іншае пытаньне.*



*Аляксандар Лукашук:*

*Некалі ў другой палове 1980-х з паэтам Алегам Бембелем мы спрабавалі перакласьці зварот Салжаніцына на беларускую, пакутавалі, неяк цяжка давалася — мана, ілжа, хлусьня... Алега, аўтара дасьледаваньня «Родная мова і маральна-эстэтычны прагрэс», ягоны шлях — жыць без ілжы — прывёў у манастыр і да ператварэньня ў брата Мікалая.*

*Гэта цяжкі заклік. Ягоным крытыкам стаў пісьменьнік Уладзімер Вайновіч, асоба бясспрэчнай асабістай мужнасьці, — ён быў пазбаўлены савецкага грамадзянства. Ягоны тэзіс: прастата заклiку падманлівая, бо ў таталітарнай дзяржаве няўдзел у сходах, выбарах і іншых рытуалах сьмяротна небясьпечны. Салжаніцын, пісаў Вайновіч, сам ня быў прыкладам такіх паводзінаў — у лягеры, калі падчас вэрбоўкі ў стукачы не адмовіўся наадрэз, а хітраваў, і падчас супрацьстаяньня КГБ у 1970-я гады — хітраваў, замятаў сьляды, бадаўся з дубам. Яшчэ адзін расейскі эмігрант, Вагрыч Бахчанян, сфармуляваў гэта ў афарызм «Усімі праўдамі і няпраўдамі жыць без ілжы».*

*Самы істотны момант — няўдзел у публічнай хлусьні, сёньня, як і 30 гадоў таму, на жаль, актуальны для Беларусі. Я памятаю адзінкі сяброў выбарчых камісіяў, якія заявілі пра фальшаваньне выбараў. Адзінкі супрацоўнікаў КГБ, пракуратуры, міліцыі, якія ня*

*сталі маўчаць. Адзінкі журналістаў, якія звольніліся з тэлебачаньня, пайшлі з афіцыйных газэтаў, каб ня ўдзельнічаць у хлусьні. Адзінкі супрацоўнікаў часопісаў, забраных у холдынг, якія звольніліся. І гэта наводзіць на адну думку: жыць без ілжы — справа ў прынцыпе адзінкавая, асабістая, прыватная, зьвернутая да сябе самога. Фактычна, гэта адзіны шлях свабоды, як кажа адна старая кніжка.*

Дарэчы, у беларускай літаратурнай клясыцы нічога падобнага на гэты тэкст няма. І тут зноў Салжаніцын вядзе нас да вычуваньня ў саміх сабе той расейскай саборнасьці, таго ўсеагульнага яднаньня людзей у духоўным ачышчэньні, якога беларусы ніколі ня ведалі ані ў сваёй літаратуры, ані ў сваёй гісторыі.

*Валянцін Акудовіч:*

*Між іншым, тэкст Салжаніцына страшэнна заідэалягізаваны. Ён зноў жорстка ставіць пастулят, які патрабуе: калі ты жывеш не па праўдзе, калі ты, крый Божа, выступіў на партсходзе, калі ты нес транспарант на майскай дэманстрацыі, калі ты ўступіў у нейкі камсамол, то — усё. Ты зганьбаваны. Значыць, табе гарэць у нейкім салжаніцынскім пекле да канца сьвету. І толькі той, хто хаця б змоўчыць, во той — харошы чалавек. Ну вось, з такой сыстэмай мер падыходзілі і бальшавікі, з такой жа сыстэмай мер падыходзіла і інквізыцыя, з такіх радыкальных пастулятаў якраз і высьпяваюць усе таталітарныя ідэалёгіі.*

*Любая этыка застаецца чалавечнай, калі яна зьвернута да сябе. Калі б Салжаніцын гэты тэкст напісаў проста для сябе: усё, я з гэтага дня, 12 лютага 1974 году, ня буду хлусіць, калі б ён зацыкліў гэты тэкст на сабе, як на сваім маральным імпэратыве... Але гэта патрабаваньне да іншых. Я баюся, калі хтосьці пачынае ў сфэры маралі патрабаваць ад іншых таго, чаго ён сам дасягнуў. Так, этычная вышыня Салжаніцына высокая, і ён гэтую меру вытрымаў. Але гэта твая мера. У тваёй сытуацыі. У тваёй Богам ці прыродай дадзенай канстытуцыі. Патрабаваць гэтага ад нейкага Петрака, Хвядоса... Тут і пачынаецца небясьпка. Этыка таму і этыка, што кожны гэтую планку задае сабе.*

*Рэч у тым, што чалавек стаў чалавекам толькі таму, што ў параўнаньні з астатнімі жывымі відамі мей неверагодна магутны ген адаптацыі. Калі б мы не маглі адаптавацца, то як від, а тым больш як цывілізацыя мы б не паўсталі. І таму любая этычная максыма, зьвернутая да ўсіх, гэта патрабаваньне забыцца на твае здольнасьці адаптацыі да той ці іншай сытуацыі, да таго рэжыму, да гэтага, а стаць насуперак і сябе паставіць пад зьнішчэньне. Хтосьці, як Салжаніцын, можа паставіць і вытрымаць, але дзякаваць Богу, што шлях чалавецтва не пайшоў па адданасьці маральным, этычным імпэратывам. Бо ад чалавецтва ўжо не засталося б ані знаку. Вось гэтая здольнасьць да розных палітычных і сацыяльных сыстэм адаптавацца і прыстасоўвацца — яна самая каштоўная ў нас. Як і — да кліматычных умоваў і г.д.*

Падводзячы рысу сёньняшняе гаворкі пра зварот Аляксандра Салжаніцына «Жыць без ілжы», я заўважаю, што размаўлялі мы галоўным чынам пра тое, чаму гэты хрэстаматыйны тэкст, гэты рэцэпт змаганьня з таталітарызмам не спрацаваў у Беларусі 30 гадоў таму і не спрацуе сёньня. Заклік да асабістага няўдзелу ў хлусьні добры для сябе, але няма ніякага чалавечнага спосабу прымусіць да гэтага іншых. Урэшце, у беларускай традыцыі — у літаратуры і гісторыі — слову «праўда» ніколі не супрацьстаіць слова «хлусьня». Ані ў фальклёры, ані ў вершах Купалы і Коласа, ані ў праклямацыях адраджэнцаў. Там насуперак «праўды» заўсёды — «крыўда». Верагодна, і ў нашай мэнтальнай ды этычнай рэдакцыі салжаніцынскі заклік гучаў бы больш прыземлена, але і больш рэалістычна: жыць па праўдзе — значыць, жыць бяз крыўды, а не без ілжы.

этэр 29 лютага 2003 г.

## Апраўданьне Антона Луцкевіча

У Беларусі ёсьць нямала людзей, якія задаюцца пытаньнем: куды мы ідзем або дзе знаходзімся, якую краіну будуем або мусілі б будаваць, які ў нас цяпер лад? Па ідэі, ясна адказаць на гэтыя пытаньні павінна дзяржаўная ідэалёгія, вакол якой сёньня столькі шуму ды гвалту ў прэсе, у школе, на заводзе. Кіраўнік краіны патрабуе ўзмацніць ідэалягічную работу, падначаленыя рапартуюць, пішуцца падручнікі, але ніхто толкам не разумее, што гэта і пра што. Эклектычная мяшанка зь вернападданскай выпраўкі, абрыўкаў савецкіх слоганаў і падвышаных таноў адказу на пастаўленыя пытаньні не дае.



У чым тут справа? У тым, што задуманая ідэалёгія — гэта бутафорская кампанія, у якой няма пэўнай дактрыны беларускае дзяржаўнасьці, незалежнай ад таго, хто пэрсанальна кіруе краінай. Стройнай сыстэмы гістарычнага шляху нацыі зь мінуўшчыны ў будучыню няма. І ня можа быць. Чаму? Адказ будзе парадаксальны. Таму, што такая сыстэма ўжо ёсьць. Створаная напачатку 20 ст., яна перадвызначыла ўсю наступную гісторыю дзяржаўнасьці Беларусі аж да сёньняшняга дня і далей у будучыню. Мы можам колькі заўгодна адмаўляць яе стваральнікаў, але мы ня можам выйсьці за яе межы. Мы ўсе: і чынавенства, і люд паспаліты, і нацыяналісты, і камуністы, — даўно і надзейна павязаныя ёю. Бо ўрок дзяржаўнай ідэалёгіі ў гэтым сэнсе нічым не адрозьніваецца ад уроку матэматыкі. І гэтаксама, як нельга прыдумаць новай матэматыкі, нельга прыдумаць і новай дзяржаўнай ідэалёгіі. Каб зразумець гэта, варта зьвярнуцца да першакрыніцы — да працаў пачынальніка і стваральніка сучаснае беларускае дзяржаўнае ідэалёгіі Антона Луцкевіча.

Да пачатку перабудовы імя гэтага чалавека было забароненае ў БССР. Калі й згадвалі, дык эпітэты ўзводзілі ў ступень максымальнае нянавісьці. Інакш, як фашыстам, не называлі.

Пра гэтую ніяк не адэкватную, што да асобы Луцкевіча зацятасьць мы яшчэ скажам ніжэй, але сьпярша — пра кнігу.

Арыштаваны НКВД у 1939 годзе, Антон Луцкевіч памёр у турме ў Саратаўскай вобласьці Расеі. Зборнік ягоных твораў «Да гісторыі беларускага руху», які летась выйшаў у выдавецтве «Беларускі кнігазбор», — першае пасьля сьмерці кніжнае выданьне Луцкевіча.

Укладальнік і камэнтатар кнігі Анатоль Сідарэвіч сабраў толькі тыя творы, што непасрэдна тычацца гісторыі і тэорыі беларускае дзяржаўнасьці. Гэта толькі невялікая частка агромністае спадчыны Луцкевіча, якая можа і мусіць разглядацца як першакрыніца беларускае дзяржаўнае ідэалёгіі.

Пытаньні пра Беларусь, якія ў сёньняшніх кампіляцыях застаюцца без адказу, у Луцкевіча сфармуляваныя з усім магчымым досьведам, палітычнай культурай, разуменьнем і адказнасьцю за лёс краіны і нацыі. Луцкевіч гэта зрабіў першы і ўпершыню. Усё, што адбылося з краінай пасьля, так ці інакш выходзіла зь ягоных тэзаў, спрачалася зь імі, але заўсёды было пасьля. Урэшце, яно й не змагло, і цяпер ня можа вырабіцца ў нешта першаснае, як і БССР не магла стаць нейкім самастойным праектам, бо другога першаснага не бывае. У БССР, кажа Луцкевіч, ідэал 25 сакавіка 1918 году рэалізаваўся часткова. Маецца на ўвазе ідэал дзяржаўнае незалежнасьці. Прычым, тая частковасьць і недаробленасьць захоўваецца і ў сёньняшняй РБ, якая хоча быць ідэйнай пераемніцай БССР, а менавіта — тым утварэньнем, у якім дзяржаўны ідэал рэалізуецца часткова.



З гледзішча палітычнае схемы Луцкевіча, няма і ня можа быць ніякага трэцяга шляху разьвіцьця для Беларусі, а тое, што ў нас называюць «трэцім шляхам», — усяго толькі шлях няпоўнае, частковае рэалізацыі дзяржаўнага ідэалу. Вось чаму мы такія, чаму не такія, як іншыя, і чаму ўсё ў нас так, як ёсьць.

Луцкевіч сфармуляваў беларускую дзяржаўную ідэю яшчэ напачатку мінулага стагодзьдзя. І менавіта ягонымі вучнямі і наступнікамі былі стваральнікі БССР. Яны маглі ігнараваць ягоныя працы, але яны ўжо не маглі выйсьці зь ягонага кола. Вось што самае галоўнае. Тое, што і сёньня мы цалкам жывем з канстытуцыяй Луцкевіча, нават калі яе бясконца парушаем. Нічога іншага няма і ня можа быць. Інакш гэта былі б ня мы і ня наша краіна.

Ствараючы праект Беларусь, Антон Луцкевіч ня браў за пачатак Полацкае княства ці Вялікае Княства Літоўскае. Ён мысьліў катэгорыямі сучаснай геапалітыкі і дыпляматыі, быў рэалістам і бачыў, што дзяржаўнае станаўленьне Беларусі будзе адбывацца такім самым чынам, як і ў суседзяў.

Мадэрны беларускі нацыянальны рух пачаўся ў 1903 годзе, з утварэньня першай палітычнай партыі — Беларускай Сацыялістычнай Грамады. Тады ўвесь рух быў сацыялістычны, — заўважае Анатоль Сідарэвіч. БСГ ня дзейнічала ў полі расейскай або польскай культуры, як усе яе папярэднікі ў 19 ст. Яна была чыста беларускай. Яна стварыла газэту «Наша

Ніва», зь яе ініцыятывы ўзьнікалі беларускія школы, яна вяла перамовы з суседзямі — з думкай пра будучае дзяржаўнае ўладкаваньне Беларусі. Урэшце, яна і прывяла да абвяшчэньня Акту 25 сакавіка 1918 году. Тым часам, гадаванцы БСГ, якія перайшлі ў лягер бальшавікоў, дамагліся стварэньня БССР. Вось жа БССР і стала той дзяржавай, у якой дзяржаўны ідэал увасобіўся часткова. Пры поўным увасабленьні, сучасная беларуская дзяржава была б больш падобная да Польшчы або Чэхіі, або Літвы, і менш — да аўтаномнай акругі ці губэрні РФ.

Важна зразумець, што Беларусь, гісторыю якой бальшавіцкія дый сёньняшнія ідэолягі пачынаюць з 1917 году, ня ўпала зь неба, не была раптам прыдуманая ў тым 17-м годзе, не была прыхамацяй Леніна, які раптам убачыў самастойны беларускі народ і падпісаў указ пра тое, што быць нам асобнай рэспублікай. Ні Ленін, ні тым больш Мясьнікоў з Кнорыным, колькі б ні ўглядаліся ў тагачасны наш «цёмны і забіты», кажучы словамі паэта, народ і край, нічога б тут ня ўбачылі, калі б не было рэальнага беларускага руху — культурніцкага і палітычнага, калі б не было выступаў у друку і інтэнсіўнай дыпляматычнай працы. А за ўсім гэтым якраз і стаяў Антон Луцкевіч.

Ніхто па-за ягоным колам, ніхто ў царскай Расеі і ва ўсім белым сьвеце ня думаў, не плянаваў і не ствараў беларускай дзяржаўнасьці. Больш за тое, у праекту асобнай беларускай рэспублікі было мноства праціўнікаў і адкрытых ворагаў. І калі БССР усё ж стварылася,



гэта значыць, што аргумэнты беларускага руху (а ніякіх іншых не было ў прыродзе) аказаліся мацнейшымі і перамаглі. Але ж і гэтыя аргумэнты ня ўпалі зь неба.

Лягічна дапусьціць, што стварэньне савецкай Беларусі было справакаванае абвяшчэньнем БНР. У сваю чаргу, абвяшчэньню БНР папярэднічала вялізная шматгадовая праца. У прадмове да зборніка Антона Луцкевіча Анатоль Сідарэвіч узнаўляе схему гэтых пошукаў:

«А.Луцкевіч паказвае, што да ідэі дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі... ішлі паволі. Самаю першаю была старая... ідэя народнікаў пра аўтаномію Беларусі ў складзе будучае Расейскае дэмакратычнае фэдэратыўнае рэспублікі. Прапрацоўвалася й ідэя аўтаноміі ў складзе Расеі ўсяго Беларуска-Літоўскага краю як аднаго суцэльнага гаспадарчага мэханізму. Задумваліся таксама і пра беларуска-літоўска-ўкраінскую фэдэрацыю. Усьведамлялася й значэньне латвійскіх портаў для эканомікі Беларусі».

Аднак падзеі першай сусьветнай вайны, непрадказальнасьць сытуацыі ў Расеі і хуткае сасьпяваньне незалежніцкіх настрояў ва ўсёй усходняй Эўропе схілілі Луцкевіча і ягоных аднадумцаў да распрацоўкі самастойнага шляху.

Заўважу, што ўсё гэта не было кабінэтнай гульнёй, а бясконца дыскутавалася ў друку, а таксама на перамовах зь літоўцамі, з украінцамі, з расейцамі. Артадаксальны сацыял-дэмакрат, як называе Луцкевіча Сідарэвіч, ад пачатку руху, як і ягоныя паплечнікі, быў марксістам, а гэта значыць, чалавекам, які

шмат у чым падзяляў погляды расейскіх рэвалюцыяністаў. І стварэньне БССР ён вітаў, бо ў немалой ступені гэта было ягонае дзецішча, бо на ягоных працах вырасьлі айцы савецкай Беларусі. І ленінскі нэп, і бальшавіцкую беларусізацыю Луцкевіч вітаў таксама. І ў БССР дваццатых гадоў яго лічылі прызнаным пачынальнікам ды ідэолягам беларускае дзяржаўнасьці. Паразуменьне скончылася ў 1929-м. Гэта быў абвал. Ляснуў нэп. Пачалася прымусовая калектывізацыя, масавыя рэпрэсіі, паляцелі галовы айцоў БССР, рэформа 1933 году адкрыла шлюзы татальнай русіфікацыі, беларуская дзяржаўнасьць была ператвораная ў карыкатуру. Луцкевіч рашуча асуджае сталіншчыну, і з гэтага моманту ў савецкім друку згадваецца толькі з эпітэтамі максымальнае нянавісьці.

Тут самы час зьвярнуцца да ягонае пэрсоны. Дакладней, да таго, чаму адносіны да Луцкевіча ў Беларусі ніколі не былі нэўтральнымі. Яго абавязкова ці лаялі апошнімі словамі, ці апраўдвалі.

Кажучы проста, Луцкевіч апярэдзіў ня толькі свой час і сваю нацыю, але найперш — эліту нацыі. Высокаадукаваны, па-чалавечы прыстойны, надзелены палітычнай культурай, а да ўсяго яшчэ й калясальным досьведам, ён ствараў вобраз, які быў моцным кантрастам да такіх пашыраных у міжваенны час характарыстык масавага беларускага руху, як гнятлівая любоў да ўласнага сярмяжнага паходжаньня, пралетаршчына і ганарыстая неадукаванасьць. Акурат у трыццатыя гады на першыя месцы ў



Беларусі, як усходняй, так і заходняй, узьбіваецца так званая чвэрцьінтэлігенцыя. Зрэшты, гэтая хваля недавучаных настаўнікаў захлынула тады ўсю Эўропу. Гэта яны стануць галоўнымі праваднікамі фашыстоўскай палітыкі і сталінскіх рэпрэсіяў. Як толькі адчуюць сябе гаспадарамі сьвету.

Луцкевіч сярод іх (і для іх) быў чалавекам іншай фармацыі. Ён быў тым люстэркам, у якім новапакліканыя бачылі сваю крывату. Яны папросту не маглі зразумець таго высокага духу, што ішоў ад гэтага адукаванага дыплямата, няяснага для іх арыстакрата-марксіста, пачынальніка той справы і той сфэры, у якой яны апынуліся, і ў прысутнасьці якога ну ніяк ня могуць рэалізаваць свайго прыроднага памкненьня — быць гаспадарамі сытуацыі. Анатоль Сідарэвіч піша:

«Ні бальшавікам, ні правым не ўдалося ўпісаць А.Луцкевіча ў ідэалягічныя схемы, зразумець, чаму ён мог гутарыць і дамаўляцца і з Карлам Каўцкім, і з Томашам Масарыкам, і з Ігнацым Падарэўскім, і зь Сяргеем Сазонавым, і зь мітрапалітам Андрэем Шаптыцкім... Думаецца, глыбей загадку асобы А.Луцкевіча спасьціг былы вучань Віленскае беларускае гімназіі... Марыян Пецюкевіч. Ён пісаў: «...гэта быў чалавек вялікай і глыбокай культуры, якая праменявала ад яго на асяродзьдзе, у якім ён знаходзіўся. Ён, у поўным значэньні гэтага слова, быў вэрсальчык. Яго нейкая «паглынальная» натура прыняла для сябе ўсё ўзьнёслае і лепшае з культуры Захаду, дзе ён пабываў. І гэта, мабыць, не аднаго хамуйлу

цьвеліла і разіла, і пры нагодзе яны за культурнасьць яго ўпікалі. Антона Луцкевіча ня сорамна было паказаць у культурным сьвеце як годнага пашаны прадстаўніка нашага народу».

«Пан Луцкевіч, гаў-гаў», — пісаў Кандрат Крапіва ў вершы «З фашысцкай падваротні». Зрэшты, такой лаянкай літаральна напхатая бээсэсэраўская прэса трыццатых гадоў. Луцкевіча не выносілі і, калі ў 39-м дабраліся да Вільні, адпомсьцілі яму напоўніцу...

Аднак гаворка не пра тое.

Матыў апраўданьня Луцкевіча прысутнічае і ў прадмове Анатоля Сідарэвіча. Аўтар прыводзіць цытаты з апраўдальных артыкулаў сваіх папярэднікаў. Таму гаворка ідзе пра вось гэты комплекс — апраўданьня Луцкевіча.

У 1983 годзе ў беластоцкай «Ніве» ў адным зь першых «рэабілітацыйных» артыкулаў гісторык Аляксандра Бергман цытавала зь ліста да яе Мар'яна Пецюкевіча:

«...ня трэба сьпяшацца з канчатковым прысудам яго палітычнай дзейнасьці. Час можа яго апраўдаць за дапушчаныя памылкі, бо ягоныя заслугі такія аграмадныя, што могуць зацьміць прыкрыя памылкі».

У чым былі прыкрыя памылкі пачынальніка беларускага руху, не ўдакладнялася.

Некалі на гэты кручок — апраўдваць Луцкевіча — патрапіў і я. Гэта быў нейкі падсьведамы покліч. Апраўдваць за «верхнюю палату» ў «Нашай Ніве», закінутую яму ва ўспамінах Ластоўскага, апраўдваць за бээнэраўскае прэм'ерства, за той жа грамадоўскі працэс, даказваць, што не фашыст і г.д. Цяпер я разумею, што ўсе гэтыя апраўданьні былі патрэбныя зусім не Луцкевічу. Яны сталі патрэбаю самога нацыянальнага адраджэньня.

Яно, якое «вечна цярпела» са сваёй няшчаснаю доляй, вечна ж і апраўдвалася — перад акупантамі, перад начальствам, перад сабою. Апраўдваньне стала ягонай галоўнай самаідэнтыфікацыйнай адзнакай.

І сёньня адраджэнства яшчэ не адмовілася ад гэткага самапрыніжэньня, як платы за выжываньне. Цяпер я, здаецца, разумею, што гэта такое. Гэта своеасаблівая падмена нацыянальнага пакаяньня, якога мы, беларусы, ня зналі. Мы сапраўды самыя рахманыя, гасьцінныя і працавітыя ў сьвеце людзі, а ўсе нас толькі душылі ды душылі, плакаць не давалі. А за што нам каяцца? За Курапаты? Дык гэта НКВД хай каецца. За зьнішчаную мову і спадчыну? Дык гэта прафэсары ў Акадэміі навук ці там Машэраў. За пастаўленую на карту незалежнасьць і будучыню дзяцей? Дык гэта Лукашэнка...

Замест пакаяньня, такой ачышчальнай здольнасьці чалавечае душы, у нас — апраўданьне. Трэба, каб мінуў час, каб вырасьлі новыя пакаленьні нармальных, а ня самых талерантных і самых пакрыўджаных прытым людзей.

Натуральна, апраўдваюць толькі тады, калі прызнаюць, што было за што лаяць. У гісторыі з Луцкевічам гэта даўно набыло анталягічны выгляд. Але справа ня толькі ў гісторыі. Комплекс апраўдваньня кагосьці або чагосьці напоўніцу выяўляецца і сёньня — у гаворках, прэсе або інтэрнэце. Паказальны прыклад —

апраўдваньне Ўладзімера Коласа, які нібыта «падставіў» створаны ім Ліцэй дзеля ўласных палітычных амбіцыяў. Хоць ясна, што, пры любых іншых паводзінах Коласа, ад Ліцэю не засталося б ужо і сьледу, тады як цяпер ён жыве, хоць і ў падпольных умовах. Альбо ўзяць прыклад з апраўданьнем цяперашняе апазыцыі, якая гуртуецца да восеньскіх выбараў. Варта задумацца, што мы тут апраўдваем. А менавіта — высакародны ўчынак, палітычную культуру, парлямэнтарызм. Мы нармальныя і пазытыўныя зьявы бярэмся апраўдваць. А гэта значыць, што яшчэ не ўспрымаюцца яны ў нас, як нармальныя і пазытыўныя. Інакш на зьвінавачваньне Антона Луцкевіча ў фашызме папросту ніхто не зьвяртаў бы ўвагі, як на непаразуменьне або глупства.

Зборнік твораў пачынальніка беларускае дзяржаўнасьці падрыхтаваны сапраўды прафэсійна, па-навуковаму. А выдадзены надзвычай сьціпла. Па вялікім рахунку, гэта сьведчыць пра тое, што беларускі дзяржаўны ідэал па-ранейшаму рэалізаваны толькі часткова. Тым ня менш, адказы на пытаньні, зь якіх я пачаў сёньняшнюю перадачу, тут даюцца вычарпальныя. Бадай, больш вычарпальнае кнігі на гэтую тэму папросту не існуе.



этэр 23 траўня 2004 г.

## Невядомая вайна

20 траўня 1654 году ўсходнія межы тагачаснае Беларусі абрынуліся пад напорам небывалага нашэсьця. Велізарнае войска маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча, які ўвайшоў у расейскую гісторыю як «цішайшы і дабрэйшы», прарвала памежную абарону нашых продкаў і пачало расьцякацца па ўсім краі, вынішчаючы на сваім шляху ўсё запар — людзей і гарады, лясы і гаспадарку. Так пачалася самая стратная за ўсю гісторыю Беларусі вайна. Яна будзе доўжыцца 13 гадоў. У выніку краіна будзе дашчэнту разбурана і выпалена, кожны другі яе насельнік, не выключаючы старых, жанчын і дзяцей, будзе забіты.

Адно з трагічных наступстваў той 13-гадовай вайны — гэта яе поўнае забыцьцё. Нашэсьце Аляксея Міхайлавіча будзе так надзейна схаванае ўладамі, ідэолягамі і гісторыкамі на працягу двухста гадоў, што сёньня паспалітыя беларусы гатовыя зьдзіўляцца, пачуўшы пра тыя падзеі ўпершыню. Уявіце сабе, што вы ўпершыню ў жыцьці пачулі пра другую сусьветную або вялікую айчынную вайну... Між тым, паводле людзкіх стратаў і ўплыву на нас, такіх, якімі мы ёсьць сёньня, тая 13-гадовая вайна паклала нашмат глыбейшы сьлед. Кажа пісьменьнік Сакрат Яновіч:

*— Для беларусаў гэтая вайна была катастрофаю, зь якой яны ўжо больш не падняліся. Гэтая вайна зьнішчыла нам Айчыну і будучы-*

*ню. У маіх родных Крынках ад гэтай вайны зьмяніліся прозьвішчы. Я ўстанавіў, што пасьля яе ў Крынках зьявіліся зусім новыя прозьвішчы людзей, мяшчанаў. Не паўтарылася аніводнае ранейшае. Гэта значаць, што ўсіх насельнікаў альбо вывезьлі ў палон, альбо забілі.*

Выглядае, што нават масавыя сталінскія і гітлераўскія расстрэлы, канцлягеры і высылкі не настолькі зьмянілі аблічча нашай краіны і нас саміх, як тая 13-гадовая вайна. Падобна, што да вайны гэта быў адзін народ, а пасьля ўжо — зусім іншы? Сакрат Яновіч:

*— Ён стаў іншы перш за ўсё біялягічна. Бо пасьля тае вайны, як згадваюць мэмуарысты, можна было па Белай Русі ісьці цэлы дзень і не спаткаць жывога чалавека. Толькі на дарогах, у палях і спаленых вёсках гнілі чалавечыя трупы. У былым Віцебскім павеце перапісчыкі далічыліся каля ста сямідзесяці чалавек. Разумееце, што гэта значыць? Не было людзей. Ня кажучы ўжо пра гаспадарку. Я чытаў тагачасныя маскоўскія дакумэнты, дык там бясконца паўтараецца адна фраза ў заканчэньні кожнага загаду: «Спаліць усё да галавешак». У нас забралі, фактычна, нацыю. У нас забралі найбольш жыцьцяздольны элемэнт — места, рамесьнікаў. Пакінулі нам тых людзей, якіх маскалі самі не хацелі, бо яны ім былі непрыдатныя. Бо нічога ня ўмелі. Альбо тых, хто ўцёк у лес. У партызаны.*

Пра партызанаў мы будзем гаварыць крыху пазьней. А цяпер тэму стратаў Беларусі ад



13-гадовай маскоўскай акупацыі працягвае гісторык і пісьменьнік Уладзімер Арлоў:

*— Пацярпела ўся Беларусь. Але калі казаць пра станы, якія панесьлі найбольшыя страты, дык краіна амаль цалкам пазбавілася сваёй эліты: гараджанаў, прадпрымальнікаў, найбольш актыўнай часткі шляхты. І калі перад той жудаснай вайной узровень жыцьця, узровень матэрыяльнай культуры беларускага гораду, як сьведчаць археалягічныя знаходкі, адпавядаў узроўню гораду ў Галяндыі, да прыкладу, то пасьля гэтай вайны нашу краіну, яе гарады як быццам падмянілі. Беларускія землі ў выніку вайны аказаліся населенымі пераважна сялянамі. Ну, скажам, сяляне і раней складалі большую частку насельніцтва, натуральна, як і ў любой эўрапейскай краіне ў той час. Але я маю на ўвазе, што гарады абязьлюднелі ў выніку таго, што нялічаныя тысячы і тысячы гараджанаў, найперш людзей адукаваных, майстравітых, былі прымусова пераселеныя на ўсход, у Масковію. У выніку той вайны іншым зрабілася практычна ўсё — ад умоваў жыцьця да нацыянальнага генафонду. І менавіта ў цяжкіх наступствах тых падзеяў сярэдзіны 17 стагодзьдзя трэба, на маю думку, шукаць прычыны многіх нашых цяперашніх нацыянальных бедаў, пачынаючы ад слабой нацыянальнай кансалідацыі.*

Пісьменьнік Сакрат Яновіч:

*— 1654 год значыць перапынак працэсу станаўленьня народу, нацыі. І выніку тае вайны, з паловы 17 стагодзьдзя мы вельмі моцна і балюча адчуваем аж да сёньня. Таму што сёньня*

*ў нас надалей няма нацыі. Надалей мы ўсё яшчэ фармуемся, як нацыя. Без разуменьня тых падзеяў мы не зразумеем, што адбываецца з намі цяпер. Вайна 1654 году была канцом разьвіцьця Беларусі і пачаткам яе каляніяльнага становішча. Ад гэтай вайны Беларусь існавала ўжо толькі, як калёнія. Альбо польская, альбо расейская.*

13-гадовая вайна ня толькі забіла кожнага другога беларуса, але й мела вынікам беспрэцэдэнтны палон. У Расею забіралі лепшых, забіралі майстроў, спадзеючыся, мабыць, істотна падвысіць стваральныя якасьці насельнікаў Маскоўскай дзяржавы. Прынамсі, размах і маштаб палону сьведчыць менавіта пра такія мэты. Уладзімер Арлоў:

— *Маскоўскі патрыярх Нікан паведамляў антыахійскаму патрыярху, што гасудар Аляксей Міхайлавіч мае намер вывесьці зь Белай Русі трыста тысячаў чалавек. Рэальная колькасьць перасеrange перасягнула гэтую лічбу. На ўсход выводзілі і сялянаў, і шляхту, але ў пераважнай большасьці зь Беларусяй мусілі разьвітвацца гараджане-рамесьнікі: разьбяры, кафляры, друкары, збройнікі, ювэліры, пераплётнікі. Іх унёсак у расейскую культуру, у аздабленьне маскоўскіх і іншых храмаў ды палацаў варты асобнай гаворкі.*

На пачатку сёньняшняе перадачы я ўжо казаў пра тое, што ня меншаю катастрофаю за ўсю 13-гадовую вайну было яе поўнае забыцьцё ў Беларусі. Але як гэта здарылася, што такая вайна — маштабная, страшная — была забытая? І ў якім пакаленьні адбылося забыцьцё? Уладзімер Арлоў:

— *З гістарычнай памяці беларусаў тыя падзеі былі амаль начыста сьцёртыя ўжо ў гады расейскага панаваньня, пасьля падзелаў Рэчы Паспалітай, калі трэба было абгрунтоўваць лёзунгі вызваленьня беларусаў ад рэлігійнага і нацыянальнага ўціску, пад якімі адбывалася інкарпарацыя. Тады ў масавым парадку зьнішчаліся або вывозіліся на ўсход беларускія архівы, хронікі, радаводы найбольш славутых шляхецкіх родаў ВКЛ. Відаць, тады, пасьля інкарпарацыі быў зьнішчаны Полацкі летапіс, бясцэнны для нашых гісторыкаў. І калі я быў студэнтам гістарычнага факультэту БДУ, на пачатку 70-х гадоў мінулага стагодзьдзя, традыцыйна, як, відаць, і ў стагодзьдзі 19-м, падзеі гэтай вайны замоўчваліся. І толькі ў 90-я гады 20 стагодзьдзя беларусы пачулі праўду пра падзеі той самай страшнай у нашай гісторыі вайны. І здарылася гэта ў значнай ступені дзякуючы дасьледаваньням Генадзя Сагановіча, вынікам якіх стала ягоная кніга «Невядомая вайна».*

Гаворыць гісторык Генадзь Сагановіч:

— *Варта нагадаць, што варожасьць паміж Маскоўскай дзяржавай і Вялікім Княствам Літоўскім сягала яшчэ часоў Альгерда. І з канца 15 стагодзьдзя, калі Масква ўмацавалася і пачала дамагацца ўлады над усімі ўсходнімі славянамі, гісторыя нашых дачыненьняў ператварылася ў гісторыю войнаў. Пасьля так званай Смаленскай, што вялася ў 1632—34-м, і якую царства прайграла, антаганізм быў*

*толькі часова стрыманы і прыглушаны. Масква не магла зьмірыцца са стратай Смаленску і чакала лепшага моманту. І такі момант, можна сказаць, найлепшы — ёй неўзабаве стварыла ўкраінскае казацтва. Хмяльнііччына, што пачалася казацкім паўстаньнем і абярнулася вялікай вайной, страшэнна аслабіла Рэч Паспалітую. І толькі пераканаўшыся ў гэтым, цар Аляксей Міхайлавіч адважыўся на далучэньне Ўкраіны да Расеі — гэта значыць, на вайну з Рэччу Паспалітай. Пасьля доўгай падрыхтоўкі, мабілізаваўшы максымальныя сілы, цар пачаў вайну безь яе абвяшчэньня. Каб мець болей шанцаў дамагчыся рэваншу — вярнуць Смаленск, забраць Беларусь... Але па меры посьпехаў апэтыты царскай улады ўзрасталі, так што ў аснове ўсяго, несумненна, — тэрытарыяльныя дамаганьні Маскоўскай дзяржавы.*

Інакш кажучы, Масковія зь яе абсалютысцкай царскай уладай імкліва ператваралася ў імпэрыю і, як кожная маладая імпэрыя, прагнула пашырацца, расьці, праводзячы адпаведную экспансіяністцкую палітыку. Тым часам Беларусь, якая расквітнела ў эпоху Адраджэньня, існавала нібы ў зусім іншым гістарычным вымярэньні. Гэта была радыкальна іншая краіна з высока разьвітымі на свой час гарадамі, навукамі, рамёствамі, юрыспрудэнцыяй. Нездарма папярэдняе 16 стагодзьдзе нашы гісторыкі называюць «Залатым векам».

*— Падкрэсьлю, што калі б не казакі, калі б не Хмяльнііччына, Масква не адважылася б 350 гадоў таму пачаць вайну. А калі б і пачала, то, пэўна, атрымала б іншыя вынікі. А ў той сытуацыі агрэсія была раўназначная, вобразна кажучы, нападу на параненага. Масква пераўзыходзіла праціўніка сваім дэмаграфічным патэнцыялам. Але яе сілы павялічвалі і асаблівасьці ўнутранага ладу гэтай дзяржавы. Маю на ўвазе мабілізацыйныя магчымасьці яе дэспатычнай улады, абсалютызму, якія дазволілі Маскве дамагчыся небывалай колькаснай перавагі сваёй арміі. На беларускі тэатар вайны яна кінула 80 тысячаў, да якіх было далучана яшчэ 20 тысячаў украінскіх казакаў. І гэтай статысячнай арміі Януш Радзівіл, абараняючы край, мусіў ставіць чало толькі з 10-тысячным корпусам. Яшчэ тысячаў 5 магло быць у гарнізонах гарадоў, але яны ня браліся ў разьлік пры палявых дзеяньнях.*

*Слабасьцю Вялікага Княства сталі ў гэтай вайне і яго ранейшыя плюсы. Маю на ўвазе нацыянальна-рэлігійную разрозьненасьць, якую максымальна выкарыстала Масква. А таксама дэмакратыю, лад якой проста ня быў прыстасаваны да такой зьнішчальнай вайны. На жаль, у ваенным супрацьстаяньні абсалютызм, напэўна, заўжды мае перавагі перад дэмакратыяй.*

Паколькі ў тым маскоўскім нашэсьці мы разглядаем два галоўныя бакі — маскоўскі і беларускі, натуральна ўзьнікае пытаньне пра страты агрэсара...

*— Калі гаварыць пра страты Масквы, дык няма сумневу, што ў выніку баявых дзеяньняў маскоўскае войска часьцей губляла болей, чым беларуска-літоўскае. Асабліва ў другой фазе*

*вайны. Вялікія страты несла яно і ад дзеяньняў партызанаў — руху народнага супраціву. Пра гэта сьведчаць, прынамсі, частыя падмацаваньні, якія царскі ўрад пасылаў з цэнтру ў дзейную армію — пастаянныя папаўненьні для гарнізонаў... Але каб атрымаць канкрэтныя лічбы, трэба працаваць у маскоўскіх архівах. Дый там, думаю, наўрад ці рэальнымі будуць лічбы, бо маскоўскія ваяводы ў сваіх паведамленьнях, баючыся цара, звычайна заніжалі свае страты, або нават паразы выдавалі за свае перамогі.*

*Зразумела, Маскоўская дзяржава не панесла такіх стратаў цывільнага насельніцтва, як мы, бо на яе тэрыторыі дзеяньні фактычна не вяліся. Наадварот, за кошт вялізнага палону, выведзенага зь Беларусі, яна павялічыла колькасьць сваіх падданых. Аднак, калі вяртаецца да ваеннапалонных, то ў часе складаньня ўмоваў замірэньня, падпісанага пазьней у Андрусаве, Масква была таксама зацікаўленая ў вяртаньні сваіх вязьняў, і адпаведны пункт прадугледжваў іх вызваленьне з абодвух бакоў. Іншая рэч, што царскі ўрад ня выканаў гэтай умовы. Як і некаторых іншых пунктаў той дамовы. Так ніколі й не вярнуў большасьці палонных, як не вярнуў і скарбаў, вывезеных зь Беларусі.*

Як 13-гадовая вайна зьмяніла аблічча і лёс Беларусі і беларускага народу?

*— Пра свае рэальныя страты мы яшчэ мала ведаем. Уяўляем толькі больш-менш ступень дэмаграфічнага рэгрэсу, бо там ёсьць хоць нейкія канкрэтныя лічбы. А пра іншае толькі*



*мяркуем. Думаю, у пляне нацыянальна-гістарычным мы тады неаднаўляльна страцілі беларускі горад. Бо гарады тады прынялі галоўны ўдар. І яны пацярпелі найболей. Гарадзкое жыхарства скарацілася прыкладна на 55 адсоткаў. А па вайне гарады засяляліся пераважна гэбраямі. І разам з той другой паловай нашага насельніцтва, якой ня стала пасьля вайны, прычым лепшай паловай, хоць бы ў пляне пасіянарнасьці, мы незваротна страцілі і лепшыя шанцы быць нармальным паўнавартым народам, стаць эўрапейскай краінай. Падкрэсьлю — лепшыя. Гэта ня значыць, што ўсе.*

Што ж адбылося пасьля той вайны? І чаму ці не галоўны акцэнт Генадзь Сагановіч зрабіў на тым, што менавіта тады быў страчаны беларускі горад? Для нацыянальнае будучыні Беларусі гэта сапраўды была самая галоўная згуба: беларускі горад перастаў існаваць. Беларускі горад не адрадзіўся дагэтуль. Пасьля той вайны адбылося засяленьне гораду гэбраямі. Менавіта яны, складаючы дзе сорак, а дзе і ўсе 80 адсоткаў гарадзкога насельніцтва, занялі месцы беларускіх майстроў ды рамесьнікаў. І так доўжылася да другой сусьветнай вайны. Бясспрэчна, што гэбраі зрабілі моцны ўплыў на беларускую культуру, як, зрэшты, і на ўсю сусьветную культуру і цывілізацыю паўплывалі гэбраі родам зь беларускіх гарадоў. Бясспрэчна і тое, што гэты ўплыў быў дабратворны і плённы. Іншая рэч, што ўласна беларусы пасьля той вайны сталі чыста сялянскай нацыяй. І нават пасьля мінулай вайны, калі фашы-

сты масава вынішчылі беларускіх гэбраяў, калі адбылася масавая міграцыя гэбраяў у Ізраіль, а беларускіх вяскоўцаў — у гарады, нават пасьля гэтага горад ня стаў беларускім — ані паводле мовы, ані паводле духу, ані паводле мэнтальна абумоўленага характару дачыненьняў месьцічаў. Зьведаўшы пасьля вялікае мноства адміністрацыяў: польскую, расейскую, нямецкую, савецкую, — горад, а сьледам і ўся краіна, так і не займеў адміністрацыі сваёй, беларускай, якой яна вякамі фармавалася да 1654 году. Напэўна, гэта і ёсьць галоўнае наступства той вайны. Наша сёньняшняя не зусім зразумелая незалежнасьць, слабая нацыянальная сьвядомасьць і адсутнасьць такога чалавечага, гуманістычнага асяродзьдзя, як у іншых народаў Эўропы, нашых суседзяў.

Тое, што было зьнішчана за 13 гадоў, не змагло аднавіцца за 350. Мы працягваем жыць у гэтым гістарычным экспэрымэнце, па шчырасьці, ня надта разумеючы, у які бок разьвіваемся, што нам трэба рабіць, і ці будзе некалі ў гэтага экспэрымэнту канец.

этэр 24 кастрычніка 2004 г.

## Тайна Мярлінскіх хутароў

Беларускі зямны рай раскошны, як і належыць раю, таямнічы, як прыстанішча легендарнага Зьмея Гарыныча, і бязьлюдны, нібы тут узарвалі атамную бомбу.



Сярод дзясяткаў вандровак па беларускіх рэках гэтая была першая, якую можна назваць ідэальнай. У Беларусі больш няма такой райскай мясьціны, дзе лясы поўныя белых грыбоў і ажынаў, а ў вадзе плёхаюцца шчупакі і бабры, дзе дубровы на высокіх пясчаных берагах больш падобныя да культурных паркаў, дзе, здаецца, ніколі не прападае сонца, і за пяць дзён падарожжа можна не сустрэць ніводнага чалавека.

Рака называецца Сьцьвіга. На мапе вы можаце адшукаць яе ў самым нізе Беларусі і акурат па цэнтры беларуска-ўкраінскай мяжы. Даўжыня яе — каля ста кілямэтраў ад вёскі Дзяржынск (колішніх Радзівілавічаў) да Аздамічаў. Паміж гэтымі вёскамі і разьмяшчаецца наш зямны рай. Мы плывем на байдарках праз неапісальнае прыгажосьці краявіды і не перастаем зьдзіўляцца. І найбольш зьдзіўляе тут, дзе няма ані сьледу жывой чалавечай дзейнасьці, і адкуль да бліжэйшага паселішча кілямэтраў 30, — нас зьдзіўляе пачуцьцё абжытасьці. Вось так проста пасярод лесу зьяўляецца такое адчуваньне хатняга ўтулку, што ўжо, здаецца, і застаўся б тут, бо нічога лепшага і не бывае. Такая прыцягальная аўра, якую інакш як з аўрай роднага дому не параўнаеш. Таму я назваў гэтыя мясьціны раем.

На мапе гэты бязьлюдны край называецца Мярлінскімі хутарамі. (Мэрлі́нскімі, — казалі колішнія насельнікі гэтых месцаў.) А афіцыйна — гэта заказьнік рэспубліканскага значэньня Альманскія балоты, створаны гадоў пяць

таму, — адзін з найбуйнейшых у Эўропе масіў балатоў, што захаваўся ў натуральным стане.

Як і рай нябесны мае свой адваротны бок, так і рай зямны нагадвае падарожніку, што за ўсё трэба плаціць. Наша падарожжа шчасьліва ўхіляецца ад абстрэлу. Раз-пораз над лесам разьлягаецца кананада — выбухі бомбаў і ракет. У найпрыгажэйшым месцы Беларусі створаны вайсковы палігон.

* * *

Бацька моваазнаўцы Вінцука Вячоркі родам з гэтых самых Мярлінскіх хутароў. Вінцук быў зьдзіўлены, што нам удалася нашая вандроўка, бо, аказваецца, да апошняга часу гэта была цалкам закрытая тэрыторыя, і патрапіць туды было немагчыма. Але пра ўсё па чарзе.

*В.Вячорка: Гэтыя мясьціны былі заселеныя людзьмі ў пачатку 20 ст. Заселеныя вельмі позна, таму што гэта вельмі сур’ёзныя, нават як на палескія маштабы, балоты, вялікія. І яшчэ ў царскія часы і ў польскія часы людзі куплялі там сабе зямлю і ўраблялі гэтую зямлю, адваёўвалі ў балатоў прастору. Мярлінскія хутары складалі каля 250 квадратных кілямэтраў, гэта была паласа шырынёй 10—20 км больш-менш уздоўж асноўных рэк, якія там цякуць. І надзелы складаліся як з ворнай зямлі, адваяванай у лесу, так і з балатоў, якія выкарыстоўваліся пад сенакос.*

*Я ад бацькі ведаю, што ў сярэдзіне 20 ст., перад вайной і пасьля вайны там было ўрочышчаў 15, дзе можна было ставіць хаты, і на кожным урочышчы было 10—15 хутароў. Такім чынам, 2—3 сотні хутароў.*



Вось адкуль гэтае адчуваньне абжытасьці. Людзі сюды прыйшлі ня проста перакантавацца, а як піянэры — з канкрэтнай задачай — абжываць. Даводзілася бачыць зьніклыя вёскі, дзе ані духу ўжо не засталося. Бо там проста жылі і працавалі, а не *абжывалі* край. На Мярлінскіх хутарах перад тымі першымі пасяленцамі царавала нечапаная прырода, і жылі толькі містычныя істоты…

*В.Вячорка: Я асабіста перакананы, што паколькі людзі там асвоілі землі позна ў гістарычных маштабах, то, хутчэй за ўсё, недзе там і гнязьдзіліся легендарныя Зьмеі Гарынычы, якія сталі шырока ведамымі ў фальклёры розных славянаў. Зьмеі нападалі на Кіеў, кралі ў ім нявестаў. Паколькі там балаты, паколькі яшчары жылі ўсякія, так і зьявіўся Зьмей Гарыныч. Гэта наш беларускі звычайны цмок, толькі ён набыў пэўныя тапанімічныя і фактурныя якасьці.*

*Што да містычных уяўленьняў малых насельнікаў Мярліна, мой бацька ўспамінае са свайго дзяцінства, што вельмі яго вабілі сярод чыстага балота купы лесу, якія называліся ляскí. Да іх дабрацца было немагчыма, таму што гэта ж ня чыстая вада, гэта балота, зарослае мохам. Нельга ні пехатой прайсьці, ні на чаўне праплысьці. І яму, і іншым дзецям здавалася, што там павінны жыць нейкія людзі, што гэтыя ляскі заселеныя нейкімі дзівоснымі*

*істотамі. Хаця наагул нават дзеці балатоў не баяліся. Забаваю маёй цёткі Антосі разам з хлопцамі было гушкацца на балотным моху, які ствараў такі гатунак батуту. Такія былі рызыкоўныя атракцыёны тых мярлінскіх дзяцей...*

У міжваенным часе Мярлінскія хутары апынуліся на самым ускрайку Заходняе Беларусі. І гэты памежны стан толькі падкрэсліваў працавітасьць ды заможнасьць тутэйшых людзей у параўнаньні з той калгаснай галыцьбой, што запанавала па другі бок мяжы — на Ўсходзе.

*В.Вячорка: Яшчэ за польскім часам некаторыя мярлінцы пачыналі будаваць двухпавярховыя дамы, прываблівваючы туды турыстаў. Унікальнае паветра, натуральная, нечапаная прырода, фантастычнае мноства грыбоў, ягад, рэкі, хуткія і з унікальнымі краявідамі — усё гэта разам узятае стварала магчымасьць разьвіваць турызм у адным з найбольш экзатычных куткоў Беларусі.*

*Нават яшчэ пасьля вайны людзі хадзілі на Мярлінскія хутары, каб зарабіць нешта ў насельнікаў тых хутароў. Таму, што там людзі былі ня проста працавітыя і цягавітыя, яны рэальна сваёй працай на працягу двух пакаленьняў стварылі сабе нейкія асновы выжываньня, працавалі па 18 гадзінаў у суткі. Дарэчы, існавала такая прымаўка, што Мярлінскія хутары — гэта з кожнай вёскі па злодзею, мелася на ўвазе, што прыйшлі адусюль. Але насамрэч гэта ня больш, чым жарт. Гэта вельмі адказныя і сумленныя людзі былі, ніколі не зачынялі дзьверы. Глыбока шанавалі ўласнасьць адзін аднаго, таму што ведалі, якім цяжкім клопатам гэтая ўласнасьць даецца.*



Варта згадаць, што ў 30-я гады мінулага стагодзьдзя на Мярлінскіх хутарах актыўна пашыралася ўніяцтва, і тут ня раз бываў зь місіяй адзін з выдатных беларускіх сьвятароў Пётра Татарыновіч. А ў Пінску існаваў гурток студэнтаў-уніятаў, выхадцаў зь Мярлінскіх хутароў...

Аднак усё раптоўна скончылася ў 1960-м. Брама раю зачынілася, як выглядае, назаўсёды. І прычынаю стала не раскулачваньне, бо калгасу тут так і не стварылі — не дабраліся ўпаўнаважаныя да Мярлінскіх хутароў. Прычынаю стала бомба.

Што гэта была за бомба, невядома. З тых зьвестак, што патрапілі ў друк, асабліваe інфармацыі не здабудзеш. Усё па-ранейшаму засакрэчана. Ужо выплыўшы зь беларускага раю да першых вёсак, мы па крупіцах зьбіралі інфармацыю ў мясцовых жыхароў, і вось якая атрымалася карціна.

У 1960-м ці 61-м годзе Савецкі Саюз выпрабоўваў сваю міжкантынэнтальную атамную зброю. Запускалі недзе на Далёкім Усходзе, а выбухнула тут, у Альманскіх балатах. Неўзабаве ў насельнікаў Мярлінскіх хутароў пачаліся сур’ёзныя клопаты са здароўем. А яшчэ неўзабаве пачаўся шум у прэсе на Захадзе. Маўляў, у Савецкім Саюзе выпрабоўваюць зброю на людзях. Тады за адзін дзень вай-

скоўцы вывезьлі ўсё насельніцтва Мярлінскіх хутароў і расьсялілі людзей па навакольных вёсках. Тэрыторыю Альманскіх балатоў закрылі і зрабілі там палігон для бамбаваньня. Гэты парадокс ня можа не зьвяртаць на сябе ўвагі — для бамбёжак былі абраныя самыя прыгожыя і здаровыя мясьціны Беларусі. Аднак тое бамбаваньне было спыненае ці не з разваламі Савецкага Саюзу. А тое, што цяпер гахае ў небе, — гэта ўжо новы палігон. Нібыта збудавалі яго расейскія вайскоўцы, якія тут арандуюць зямлю. Зразумела, усё зноў жа пад сакрэтам. Гэтак гавораць мясцовыя людзі. Яны, вядома, могуць нечага ня ведаць, але для іх, як і для нас, таямнічасьць і недагаворкі ў прэсе – не адказ. Трэба прынамсі ўявіць сабе завершаную карціну.

*В.Вячорка: Тое, што цяпер там людзі пакутуюць на розныя хваробы — гэта вынік палітыкаваньня другой паловы 20 ст.*

*Сапраўды, стан здароўя тых людзей, якія жывуць паблізу палігону, дрэнны. І ёсьць такі эколяг Дуброўскі ў Пінску, ён упэўнены, што там выпрабоўвалася нехарошая зброя. Ужо якая дакладна — ці з утрыманьнем нейкіх хімічных рэчываў... Натуральна, для гэтага патрэбная незалежная экспэртыза.*

Артыкул, у якім Аляксей Дуброўскі казаў пра той колішні выбух, называўся «Дачарнобыльская радыяцыя» і быў надрукаваны ў «Народнай газэце» ў 1991 годзе. Журналістка Галіна Нужкова пісала:



«Мне пашанцавала сустрэцца зь цікавым чалавекам, знаўцам Палескага краю Аляксеем Мікалаевічам Дуброўскім. У мінулым — інжынэр мэліяратыўных работ, а зараз галоўны спэцыяліст у ахове прыроды інстытуту «Саюзгіпрамэліявадгас». Вось ягоныя словы:

— Я добра знаёмы з чалавекам, прозьвішча якога зь вядомых прычынаў пакуль не назаву. Зь ім у мяне адбылося нямала шчырых размоваў. З болем ён мне аднойчы сказаў: «Ты нават ня можаш уявіць, што тут адбывалася ў 1960-я гады, калі я служыў у войску. Гарматы мы зацягвалі на вайсковы палігон, а самі зьяжджалі на 20 кілямэтраў на спэцыяльны пункт кіраваньня. Адтуль і кіравалі стральбой. Чым жа яны былі начыненыя, калі самім трэба было «адкатвацца» на такую адлегласьць? На гэты конт чалавеку цывільнаму не дакапацца да ісьціны. Але можна здагадацца: тады, у 60-я гады, на Палесьсі выпрабоўвалася страшная зброя — з атамнай начынкай».

Тое, што Мярлінскія хутары сталі месцам выпрабаваньня атамнай зброі, прычым, верагодна, гэта была не адна бомба, і ня толькі ў 1960—61 гады, вынікае з інтэрвію прафэсара Юрыя Бандажэўскага, якое ён даў «БДГ» яшчэ да таго, як патрапіў у турму:

«Пакуль мы займаемся вывучэньнем толькі цэзію. І калі пачыналі, дык былі ўпэўненыя, што нашы праблемы з радыяцэзіем зьвязаныя менавіта з аварыяй на ЧАЭС. Але неўзабаве высьветлілі, што насельніцтва Беларусі даўно кантактуе з радыяактыўнымі элемэнтамі. Ёсьць нават мапа МАГАТЭ, дзе ўказана, што ў

1962—63 гадах у Эўропе быў зафіксаваны ўсплёск цэзію ў атмасфэры — больш магутны, чым Чарнобыль. Пра гэта, у прыватнасьці, гаворыцца ў кнізе «Глябальныя выпадзеньні радыяактыўнага цэзію», што была выдадзеная Інстытутам біяфізыкі СССР у 1974 годзе. Найбольш забруджанымі, паводле зьвестак гэтай кнігі, былі Столін, Пінск, Давыд-Гарадок. Калі ў 1986 годзе плянавалі мэдычную дапамогу, зьвесткі пра тое 25-гадовае забруджаньне тэрыторыі Беларусі ня ўлічваліся. Але ж насельніцтва Столінскага раёну ўжо ў той час атрымлівала 80—100 бэкерэляў радыяцэзію ў дзень. Гэта значыць, яны ўжо ў той час знаходзіліся ва ўмовах найцяжэйшай цэзіевай інтаксыкацыі».

Нашы Альманскія балоты знаходзяцца якраз у Столінскім раёне, займаючы прыблізна чвэрць тэрыторыі гэтага раёну. А нашы Мярлінскія хутары, такім чынам, былі першым Чарнобылем, пра які ў брэжнеўскія часы ніхто і слова не сказаў. Тым больш, што гэта была не аварыя, а сьвядомыя выпрабаваньні зброі.

Сёньня мы называем савецкую пару часамі татальнай закрытасьці і сакрэтнасьці. Цяжка нават уявіць, колькі ўсяго мы ня ведаем, а колькі, напэўна, не даведаемся ніколі. Што да беларускага зямнога раю, Мярлінскіх хутароў, дык можна падумаць, што гэта Зьмей Гарыныч ізноў адабраў у людзей і вярнуў сабе сваё абіталішча. Колькі будзе доўжыцца ягонае панаваньне ў найпрыгажэйшым месцы Беларусі? Столькі, колькі будзе доўжыцца падмена паняцьцяў, і рэальнае жыцьцё будзе падмененае містыкай, гэта значыць, маной.



Сёньня мы ня здолеем разгадаць адну з найбольшых беларускіх загадак, бо часы закрытасьці і сакрэтнасьці вярнуліся ў наша грамадзтва. І ўсё, што мы можам, дык гэта сабраць у адным месцы ўсе наяўныя факты і дапушчэньні, што і было зроблена цягам гэтай вандроўкі і гэтай перадачы.

## Зьмест «Вострае Брамы» за сем гадоў

1997.10.12 **Вострая Брама і Курган Славы**
1997.10.19 **Ананімныя паэмы канца стагодзьдзя.** Дзёньнік С.Шупы. Нататкі А.Лукашэвіч пра кола чытаньня з удзелам А.Марачкіна і А.Мальдзіса. Занатоўкі С.Харэўскага «Менск з вышыні птушынага палёту». Агляд твораў: «Нарабілася бяды ў нядзельку на Дзяды», «Лука Мудзішчаў прэзыдэнт», «Мірон», «Песьня пра Беларусьніка»:
*...Зьбеларушаная паводле сэнсу і канцоўка твора. Клясык сацыялістычнага рэалізму напрыканцы свайго «Буревестника» ўсклікнуў: «Пусть сильнее грянет буря!» Наш аўтар уклаў у канцоўку ўсю неакрэсьленасьць будучыні:*
*«Але чуе Беларусьнік, што народ ужо сьмяецца, пазбаўляецца ад жаху перад чорнымі вусамі.*
*Нешта! Хутка будзе нешта!*
*Закіпіць народу мора, як паводка на Палесьсі, і тады ты хоць у вырай адлятай, бо стане цесна, і ахова не ўратуе.*
*Хай хутчэй надыдзе Нешта!»*
1997.10.26 **«Ружовы туман»**
1997.11.02 **Марыя і правакатар (вобразы Божае Маці і Леніна).** Нататкі А.Лукашука пра мэмуарную літаратуру. Дзёньнік С.Шупы. Працяг занатовак С.Харэўскага пра Менск.
*...«Мама, а хто такі Ленін?» — пытаецца сёньняшняе дзіця ў матулі, а тая адчувае пры гэтым у глыбіні душы вусьцішны халадок ад раптоўнага разуменьня несапраўднасьці ўсяго свайго ТАГО жыцьця...*
1997.11.09 **Вялікі Кастрычнік і прыватны клопат.** Нататкі С.Астраўцова пра вобразы Леніна і Дзяржынскага ва ўласных творах. Аповед А.Антаняна «Пісталет Дзяржынскага». Згадкі С.Харэўскага пра Менскую мастацкую вучэльню. Водгук на кнігу «Фальклёр у запісах Яна Чачота і братоў Тышкевічаў»:



*...Чалавека турбуюць не праблемы быту, а праблемы быцьця. Гэткаю паўстае Беларусь зь песень пачатку 19 ст. Зусім эўрапейская краіна, ужо анэксаваная Расеяй, але яшчэ не разбураная, не абрабаваная, яшчэ жывая. «Нашы дзяды ня зналі бяды, але ж унукі набраліся мукі», — запісаў Яўстафі Тышкевіч у Барысаўскім павеце ў пачатку мінулага стагодзьдзя.*
1997.11.16 **Спадзевы інтэлігенцыі.** З удзелам А.Каўкі, В.Шалкевіча, І.Герменчука, Я.Максімюка, Г.Сагановіча, С.Шупы.
1997.11.23 **Помнікі дзеячам культуры.** З удзелам Ул.Конана, Л.Юрэвіча, Данчыка, С.Шупы, С.Харэўскага.
1997.11.30 **«Свабода» — вырваная старонка.** З гісторыі нелегальнага друку. З удзелам Ул.Арлова, А.Глёбуса, А.Дзярновіча, С.Шупы.
*Нехта назваў закрыцьцё ўладамі Радыё 101'2 нацыянальнай катастрофай. Закрыцьцё ж газэты «Свабода» — гэта выдзіраньне старонкі з кнігі беларускай гісторыі.*
*Гэта яны толькі кажуць — «плыть в революцию дальше». Насамрэч, рэванш камунізму пачынаецца не з таго моманту, дзе ў яго адабралі ўладу, а заўсёды спачатку. І «Свабоду» закрылі гэтаксама, як закрывалі лібэральныя і нацыянальныя выданьні бальшавікі на чале з Эдмундавічам. Гэта значыць, што Лукашэнка абяцае нам ня столькі вяртаньне ў савецкі час, колькі паўтарэньне савецкай гісторыі — ад пачатку. Ад Мясьнікяна і Кнорына. Вось якая старонка адкрылася, калі яны вырвалі з кнігі «Свабоду».*
1997.12.07 **Аляксандар Кішчанка і Андрэй Варгола.** Агляд падзеяў году з удзелам Л.Галубовіча, Г.Дубянецкай, М.Нікалаева, В.Івашкевіча, К.Шэрмана, Г.Бураўкіна, С.Цімохава, В.Трыгубовіч, С.Сокалава-Воюша.
*С.Харэўскі: Самай вялікай кропкай у творчасьці Кішчанкі стаў габэлен «Дваццатае стагодзьдзе». Тут, як у павелічальным шкле, сабраныя дзеячы БНР і БССР, дзеячы культуры, навукі, выбітныя*

*асобы палітыкі і царквы. Па-над імі лунае Хрыстос, а справа ад яго прымасьціўся... Лукашэнка. Адкуль такая эклектыка? Рэч у тым, што працу над габэленам Кішчанка пачаў у 1991 годзе. Вось і зьявіліся на ім браты Луцкевічы, Ластоўскі, Ігнатоўскі... Але які лёс мог напаткаць такі твор пры новым рэжыме? Вось і зьявіўся Лукашэнка...*

1997.12.14 **Беларушчына ў інтэрнэце.** С.Шупа пра знойдзеную ім у сеціве на аўкцыёне кнігу Ф.Скарыны.

1997.12.21 **Спадчына «жалезнага Фэлікса».** С.Харэўскі пра помнікі Ф.Дзяржынскаму. З.Бартосік пра Дзень беларускага кіно. А.Лукашук пра сваю новую кнігу «За кіпучай чэкісцкай работай»: *«Начальнік Старобінскага НКВД Макар Гарбачэўскі за адзін толькі суботні дзень 18 верасьня 1937 году выпісаў ордэры на арышт сямідзесяці чалавек. Польскія шпіёны, удзельнікі антысавецкага супраціву, усе гэтыя «ворагі народу» напавер аказваліся звычайнымі сялянамі. Яны яшчэ спрабавалі выбрацца з Магілёўскай турмы і зь сібірскіх лягераў, пісалі апэляцыі. Але на шляху гэтых перапісак стаяў той самы Макар Гарбачэўскі, які перабраўся ў Менск і стаў намесьнікам Цанавы».*

1997.12.28 **Леў Вітан-Дубейкаўскі.** Занатоўкі С.Харэўскага да 130-х угодкаў архітэктара. Агляд тэатральнага жыцьця — З.Бартосік.

1998.01.04 **100 беларускіх кніг 20 стагодзьдзя.** Апытаньне «Нашае Нівы». Агляды тэатраў і выставаў З.Бартосіка і С.Харэўскага.

1998.01.11 **«Наша Пані памерла».** З.Бартосік пра юбілейны паказ «Камэдыі» К.Марашэўскага ў Альтэрнатыўным тэатры. С.Харэўскі пра «славянізацыю» культурнай прасторы ў Беларусі. Пра ўлюбёныя беларускія імёны: Ул.Арлоў, С.Астраўцоў, Я.Максімюк.
*А.Антанян: «Наша Пані» — гэта такая гульня. Дзіўная, змрочная, чароўная гульня, якая давала нам, дзецям-падлеткам, перажываньні, якія па сёньня зьдзіўляюць сваёй сапраўднасьцю.*
*Сцэнар просты. Трэба было набраць шэсьць ахвочых у адным пакоі, ссунуць два ложкі. Выбраць кагосьці на ролю Пані. Ён клаўся на ложак, заплюшчваў вочы, складаў на грудзёх рукі, як нябожчык. Усе астатнія кленчылі каля яго і падкладалі па два пальцы рук пад нерухомае цела Пані. Вылучалася сьвятло, і адзін з удзельнікаў пачынаў рытуал. Ён прамаўляў замагільным голасам: «Наша Пані памерла...» Мы па чарзе паўтаралі: «Наша Пані памерла». Вядучы цягнуў далей: «Але мы яе хаваць ня будзем. Хай яе хаваюць злыя духі. Хай яна стане лягчэй за лебядзіны пух. Амэн». Кожная з гэтых фразаў кацілася рэхам: «Але мы яе хаваць ня будзем...» Пасьля апошняга слова лёгка, як пярынку, на двух пальчыках, падымалі цела Пані ўверх. Мне ўсяго пару разоў давялося пабыць у ролі нябожчыцы. Уражаньне ад імкліва-лёгкага пад'ёму да столі, калі вочы самі расплюшчваюцца ад сполаху, калі цела забываецца на існаваньне зямнога прыцягненьня й імкнецца дагары, — неверагоднае. Тваё цела завісае ў паветры. У гэткім стане ты знаходзісься ўсяго нейкую хвілю. І пасьля рэзка падаеш на рыпучыя спружынныя ложкі.*



1998.01.18 **Рэспубліка Радзіма**

1998.01.25 **Уладзімер Высоцкі.** 60-я ўгодкі нараджэньня. З удзелам С.Сокалава-Воюша, З.Бартосіка, С.Харэўскага, А.Антаняна.

1998.02.01 **Сучасны фальклёр.** А.Антанян пра ліст ад брата. З.Бартосік пра беларускі акцэнт. С.Харэўскі — пра паштовыя клішэ нацыянальных герояў:
*«У Вільні сьнег... Я стаю ля мальбэрта і, згадваючы колішні свой занятак, пішу партрэт Аляксандра Ўласава. Сьнег пасяляе ў душы ўрачыстасьць, а асоба Ўласава ўвасабляе высакародзтва.*
*Першае, што легла на палатно, — вусы, бялюткі каўнер і чорны гальштук. Тытан беларускага адраджэньня меў атлетычную паставу, але пры гэтым не цураўся сьвецкага кшталту...*
*Зайшоў брат. Заўважыўшы, што фарбамі пахне на ўвесь пад'езд, запытаўся, чый будзе партрэт — Багушэвіча ці Купалы? Як для Багушэвіча вусы кароткія, як для Купалы — завялікія...»*

1998.02.08 **«Залатое кальцо Беларусі»**. С.Харэўскі аналізуе праект аднайменнай СЭЗ.

1998.02.15 **Вострая Брама Расёмон.** Беларуска-японскія падабенствы.

*Сюжэт Караткевічавага «Нямоглага бацькі» для беларускай літаратуры досыць экзатычны. У вёсцы існуе закон, каб старых бацькоў, якія ўжо з работнікаў ператварыліся ў едакоў, уласныя дзеці вывозілі ў пушчу і там пакідалі ці то на зьядзеньне дзікім зьвярам, ці то на галодную сьмерць. Тое самае — у Шахея Імамуры, у «Легендзе пра Нараяму». У абодвух творах сынам настае час выпраўляць бацькоў на паміраньне: японцу — маці, беларусу — бацьку. Цікава, што і там, і там сыны носяць сваіх старых на плячах. Але самае цікавае, што ў абодвух творах сыны паўстаюць супраць нялюдзкага закону.*

*«Нямоглы бацька» — зусім невялікая літаратурная казка, а «Легенда пра Нараяму» — маштабнае маляўнічае кінапалатно. Сваёй калярытнай шматфарбавасьцю яно нагадала мне «Людзей на балоце», якіх Віктар Тураў зьняў таксама ў пачатку 1980-х. Калі ўявіць сабе, што Тураў зьняў свой фільм не паводле Мележа, а паводле Караткевічавага сюжэту, мы б атрымалі ў пачатку 80-х унісон сусьветнай культуры. У адным часе сышліся б дзьве «Легенды пра Нараяму» або два «Нямоглыя бацькі» — беларускі і японскі. Інакш кажучы, у нас на пачатку 80-х скlаліся перадумовы стварыць свой кінэматаграфічны шэдэўр. А японцы, якім дасталіся канскія ляўры, далі красамоўнае сьведчаньне нашага нешанцунку.*

1998.02.22 **Культурная экспансія.** З удзелам С.Харэўскага, А.Антаняна.

1998.03.01 **Перанос парэштак М.Багдановіча зь Ялты ў Менск.** Спрэчкі культурнікаў. З удзелам А.Сямёнавай, С.Сокалава-Воюша, А.Бяляцкага, Данчыка, А.Мінкіна, С.Харэўскага, З.Бартосіка.

*Само сабою перанясеньне костак, калі яно нічым не адухоўленае, — гэта ўсяго толькі фэтыш. Калі духоўны чын і сумоўе з памерлым геніем ператвараюцца ў дачыненьні з косткамі, — гэта не адраджэньне, а руціна. І для таго, каб зьдзейсьніць акт перазахаваньня Багдановіча, каб наблізіць, а не забіць легенду, каб зноў адкрыць Паэта, а не закрыць пытаньне, для гэтага самая Беларусь павінна дасягнуць такога мэтафізычнага гучаньня, такога ўсеагульнага нацыянальнага ўздыму, такога апатэозу ўсенароднае любові да роднага слова і родных сьвятыняў... Словам, стаць Беларусяй Багдановіча.*

1998.03.08 **Беларусь і фэмінізм.** З удзелам С.Харэўскага.

1998.03.15 **«Беларускія народныя крыжы».** Пра кнігу М.Раманюка. З.Бартосік пра пошукі беларускіх надпісаў на вясковых кладах. С.Харэўскі пра вандалізм на могілках.

1998.03.22 **Чырвоны дзень календара.** З.Бартосік пра прэм'еру «Тытаніка». Агляд выставаў — С.Харэўскі.

*У чалавека, знаёмага з гісторыяй, Акт 25 сакавіка 1918 году выклікае амаль фізіялягічную рэакцыю. Сьціскаецца сэрца, да горла падступае камяк, ледзь не закладвае вушы. Нібы стаіш на самым краі небасягла, або ставіш на карту жыцьцё... Літаральна па днях і гадзінах фантастычная ідэя небывалае ў сьвеце дзяржавы высьпявае ў бясконцых спрэчках людзей, якія ўзялі на сябе ўсю адказнасьць за лёс мільёнаў. І ўрэшце ідэя матэрыялізуецца, перамагае. Псыхалягічнае адчуваньне нагадвае стан парадзіхі. Хочацца крычаць, бо ўсё на сьвеце перапаўняе цябе, боль і радасьць уперамешку. Яны даюць жыцьцё таму, чаго ніколі яшчэ не было. Яны так вырашылі, і раптам усе зразумелі, што Беларусь — гэта дзяржава, і што інакш яно і ня мусіла быць. Цуд нараджэньня нагадвае казку. Тата Карла стругаў бервяно, і раптам яно загаварыла. Нездарма дзень стварэньня ў кожнай краіне — самае дарагое сьвята.*

*Аднак вось дзіця нарадзілася, і яго ўжо можна забраць у маткі, «апрыходаваць» у камуну — будзённа і бяз стрэсаў, бяз болю і радасьці перайменаваць. З гэтага моманту яно — БССР. Яшчэ адна савецкая рэспубліка, якая, зразумела, ніколі б не*

*нарадзілася ў штабах Кнорына і Мясьнікяна, дзе ўсяляк змагаліся з ідэяй самастойнасьці Беларусі. Падобнае да парадзішынага хваляваньне назіралася і ў 1991-м, калі Вярхоўны Савет абвяшчаў сувэрэнітэт. Таксама ж для большасьці было стрэсам — якая там Беларусь — краіна? І таксама, нарадзілі, амаль што ад страху, а гадаваць узяліся іншыя. Бяз болю і радасьці. І таксама стваральнікі апынуліся хто ў апале, а хто ў эміграцыі. Чамусьці не шанцуе ў нас парадзіхам. Магчыма, наступнае пакаленьне ўжо ня будзе так неабачліва нараджаць. Ды і ідэя незалежнасьці павінна выклікаць меней стрэсу ў народзе. Як-ніяк грамадзяне Рэспублікі Беларусі. І пашпарты маем сапраўдныя...*

1998.03.29 **Сьмех па-беларуску.** Занатоўкі З.Бартосіка і С.Харэўскага. З удзелам Р.Барадуліна, В.Сёмухі, Ул.Халіпа, Л.Баршчэўскага.
*Калі чалавецтва сапраўды сьмеючыся разьвітваецца са сваім мінулым, дык, выходзіць, сьмяяцца можна і з Курапатаў, і з Чарнобылю... Толькі каб было сьмешна. Калі вам ня сьмешна ці вас гэта абражае, значыць, адно з двух: або сьмех быў зроблены нясьмешна, або прычына ў вас саміх — у адсутнасьці пачуцьця гумару. Сьмех, нават самы зубаскальскі, нельга забараняць. Заўсёды карысна падумаць, чым выкліканы той ідыёцкі жарт, і самакрытычна прааналізаваць — ці ня ў вашым асабістым ідыятызме хаваецца прычына такой ацэнкі.*

1998.04.05 **Крыху нянавісьці для паўнаты жыцьця**

1998.04.12 **Ігнат Абдзіраловіч.** Дасьледаваньне А.Антаняна. Занатоўкі З.Бартосіка пра загадку расейскай душы і С.Харэўскага пра вёску.

1998.04.19 **Бела-русіфікацыя.** Расейцы ў Беларусі. З удзелам А.Антаняна, З.Бартосіка, С.Харэўскага.
*Нацыянальная адметнасьць бароніцца тады, калі ёсьць прэсінг іншанацыянальнага асяродзьдзя. А тут — расейскамоўныя сярод расейскамоўных, так бы мовіць, страчваюць пільнасьць. І ўжо незразумела, хто каго перайначвае. Русіфікаваная Беларусь становіцца вялікай падманкай для расейскага чалавека. І першы паказчык таго, што ён страчвае сваю этнічную адметнасьць, сваю расейскую душу — тое, што ён у Беларусі не стварае сваёй расейскай культуры.*



1998.04.26 **Незаўважаны Чарнобыль.** З удзелам А.Антаняна, З.Бартосіка, С.Харэўскага.
*...Можна і так паставіць пытаньне: наш сапраўдны Чарнобыль — гэта наша начальства. Толькі вось каторае? Сьлюнькоў? Кебіч? Лукашэнка? Назіраючы, як бестурботна шпацыруе сёньня па вуліцы Пуліхава чарнобыльскі бос ЦК КПБ, я бачу, што ніякі маральны клопат не кладзецца ценем на ягоны заўсёды насуплены твар. І тады я думаю пра тое, што ў нашай краіне ня толькі начальства ператварыла катастрофу ў прафанацыю, але й грамадзтва дазволіла начальству гэта зрабіць. У выніку Чарнобыль не хвалюе нікога. А той, у каго дактары знайшлі лейкемію і вытлумачылі яе Чарнобылем, разумее, што застаўся са сваёй бядою сам-насам, бо ўсім ён абыякавы настолькі ж, наколькі яшчэ ўчора ахвяры радыяцыі былі абыякавыя яму самому. Не прасі спагады, не шукай ратунку. Няма ў каго і няма дзе.*

1998.05.03 **Мінулая вайна з гледзішча нацыянальных інтарэсаў.** С.Харэўскі пра партызанскую тэму ў мастацтве.

1998.05.24 **Маё пакаленьне.** З удзелам С.Сокалава-Воюша, В.Вячоркі, А.Лукашука, С.Харэўскага, А.Глёбуса.

1998.05.31 **«Страчаная спадчына».** Перадача пра кнігу. З удзелам В.Калніна, Ул.Дзянісава, Ул.Арлова...
*А.Глёбус: «Я сяджу ў Менску, гляджу на гэты вялікі горад і разумею, што гэта не зусім беларуская сталіца. І каб гэтую сытуацыю зьмяніць, я б перанес сталіцу зь Менску ў Наваградак. Адпаведна я б правёў рэстаўрацыю і рэканструкцыю наваградзкага замку. Гэта быў бы сымбаль нашай дзяржавы, гэта была б наша сталіца. Не адміністрацыйная, як Менск, не духоўная, як Вільня, якая ўжо ня мае да нашае дзяржавы амаль ніякага дачыненьня, а гэта была б наша нармаль-*

*ная невялікая эўрапейская сталіца нармальнай дзяржавы».*

*С.Харэўскі: «Пераносы сталіцаў — справа ня новая ў сусьветнай практыцы. Менавіта дзеля сьцьверджаньня ідэалаў незалежнасьці свае сталіцы вынесьлі з былых каляніяльных цэнтраў ЗША, Канада, Аўстралія, Новая Зэляндыя, Бразылія, Індыя, Казахстан. У Эўропе зьмянілі свае сталіцы Галяндыя й Нямеччына».*

*З.Пазьняк: «У Беларусі безьліч здабыткаў архітэктуры былі сьвядома і спэцыяльна зьнішчаныя расейцамі з мэтай русіфікацыі, таму ў нас поўная рэканструкцыя, нават без дакумэнтальнай асновы, павінна лічыцца цалкам апраўданым мэтадам. У 60-м годзе, напрыклад, бальшавікі ўзарвалі ў Менску храм, дзе адбылася найвялікшая падзея беларускага адраджэньня 20-га стагодзьдзя — аб'яўленьне ў 42-м годзе Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. На гэтым месцы пабудавалі гмах рэспубліканскай пракуратуры. Дык што мы павінны будзем рабіць? Глядзець на пракуратуру? Не. Мы ўзарвем яе гэтак жа, як яны ў 60-м узарвалі храм і адбудуем гэты храм. Ім было трэба ўзрываць, дык вось нам трэба будзе адбудаваць».*

1998.06.07 **Сьвятло, зашыфраванае ў смузе**

1998.06.14 **Мёртвы хапае жывога.** Судовы працэс «Нашай Нівы». Гутарка С.Шупы з М.Падгайным, А.Лукашанцам, А.Жураўскім і В.Вячоркам.

1998.06.21 **Вобраз краіны, адлюстраваны ў нас.** С.Харэўскі пра «букіністычную афёру» ў Вільні. З.Бартосік пра прыгоды расейца ў Менску. З удзелам С.Сокалава-Воюша.

*... Рысу пад сёньняшнім вобразам Беларусі падвёў славуты польскі інтэлектуал, рэдактар «Gazety Wyborczej» Адам Міхнік. Ён распавёў эўрапейскім журналістам, партугальцам ды бэльгійцам пра Беларусь. Гэта цудоўная краіна, якую мы, палякі, вельмі любім, — сказаў Міхнік. — Гэта краіна, якая дала сьвету пісьменьнікаў Васіля Быкава і Алеся Адамовіча, які напісаў славуты нарыс «Вандэя перастройкі», а таксама Сакрата*



*Яновіча, які жыве ў нас у Польшчы, і Касю Камоцкую. Італьянцы з нарвэгамі акуратна занатоўвалі гэтыя прозьвішчы ў свае нататнікі. Заўтра яны напішуць у сваіх газэтах пра цудоўную краіну і яе выдатных творцаў.*

1998.06.28 **Лета-1998.** З.Бартосік пра паездку ў Маладэчна. Аповед С.Квяткоўскага пра сон у Купальскую ноч. С.Харэўскі пра менскія мэмарыяльныя табліцы.

1998.07.05 **Нобэль — Чарнобыль наадварот.** З удзелам А.Лукашука, Ул.Арлова, З.Пазьняка, А.Антаняна, З.Бартосіка.

*С.Харэўскі: «Польскае пасольства ў Менску наладзіла вечарыну, прысьвечаную нобэлеўскай ляўрэатцы 1996 году Віславе Шымборскай. Як і мае быць, было запрошана колькі літаратараў, перакладчыкаў, журналістаў з культурніцкіх выданьняў. Ці ня самым калярытным удзельнікам тае вечарыны быў стары прыяцель паэткі Янка Брыль: «Я знаёмы зь Віславаю, бадай, болей, чым хто з прысутных, ад 1952 году. Тады мы добра кантактавалі. Разам з польскімі раўналеткамі мы распрацоўвалі мэтад сацыялістычнага рэалізму». Пасьля сьпеваў і дэклямацыяў пад раяль пані амбасадарка Эльжбэта Смулкова прапанавала па трэцяй чарцы. Прысеўшы ва ўтульны фатэль, спадар Брыль заўважыў: «Але ж і пашанцавала ёй! Зрэшты, палякі заўсёды былі джэнтэльмэнамі. Ёсьць у іх тры нобэлеўскія ляўрэаты, нарэшце прапусьцілі наперад жанчыну».*

1998.07.12 **Эфэкт кулі.** Мэтад Кашпіроўскага. З.Бартосік пра сьвята 3 ліпеня. С.Харэўскі пра сэксуальнасьць і дзяржаўную палітыку. С.Квяткоўскі пра вёску.

1998.08.02 **Партрэт Дарыяна Грэя.** Беларускія пісьменьнікі наведалі прэзыдэнта... Вулічнае апытаньне С.Квяткоўскага. С.Харэўскі пра досьвед чытаньня беларускай літаратуры.

1998.08.09 **«Вандроўкі па Вільні».** Да выхаду кнігі Лявона Луцкевіча. Вулічнае апытаньне ў Менску пра Вільню С.Квяткоўскага. Згадкі пра Л.Луцкевіча — С.Харэўскага і З.Бартосіка:

*«Неяк, бадзяючыся па віленскіх кавярнях з адным сваім літоўскім прыяцелем, што на правах гаспадара вырашыў зьдзівіць мяне тутэйшым джынам, ды выпадкова сустрэўшы Лявона Луцкевіча, я абмяняўся зь ім параю словаў. Пачуўшы беларускую гаворку, літовец нямала зьдзівіўся: «Что, и этот дедушка тоже приехал из Гомеля?» «Ды не, — адказаў я, — гэта мы тут з табою турысты з розным стажам, а ён на гэтых вуліцах гаспадар».*

1998.08.16. **Новы Наваградак.** Перанос сталіцы. З удзелам З.Бартосіка, С.Квяткоўскага, С.Харэўскага.
*Беларусы ў гісторыі мелі чатыры сталіцы: Полацак, Наваградак, Вільню й Менск. Полацак — самая старая сталіца Ўсяслава Чарадзея і асьветніцы Эўфрасіні. Наваградак — калыска і першая сталіца Вялікага Княства Літоўскага. Вільня — горад Гедыміна, Скарыны, філяматаў, Каліноўскага, «Нашай Нівы», сталіца новае беларушчыны, яшчэ несавецкай. Менск — сталіца БНР, пасьля БССР, і сёньня — РБ. Пры гэтым найдаўжэйшая ў часе наша сталіца — Вільня — 500 гадоў, а найкарацейшая — Менск — 80.*

1998.08.23 **Прага-1968.** З удзелам С.Квяткоўскага (апытаньне), С.Харэўскага — пра сьпеўную рэвалюцыю ў Літве і З.Бартосіка — пра «негазэтныя» факты рэчаіснасьці:
*«...На маіх вачах і ў маім часе адбываюцца, на першы погляд, нашмат менш заўважныя й вартыя ўвагі падзеі, пра якія салідныя газэты ня пішуць. У менскую электрычку сеў звычайны з выгляду дачнік, з тым толькі адрозьненьнем ад астатніх, што пачытаць у дарогу ён узяў нашаніўскую кніжку «Гарт». А ў Баранавічах, дзе нядаўна выйшаў культурніцкі альманах з назваю «Рыцар Свабоды», маладыя аматары роднага слова набілі морду мясцовым баркашоўцам. А ў Рэчыцкім каледжы апошні збор БПСМ быў прысьвечаны бічаваньню аднаго з вучняў, які амаль год мужна мыў падлогу роднае аўдыторыі сёньняшнім дзяржаўным сьцягам. І такіх негазэтных фактаў па ўсёй краіне штодня набіраецца ўсё больш. За імі пры жаданьні ўжо можна разгледзець літаратурныя сюжэты новых кніг».*



1998.08.30 **«Як я правёў лета».** Кола чытаньня. З удзелам С.Квяткоўскага, З.Бартосіка і С.Харэўскага.

1998.09.06 **Перад будучыняй.** С.Харэўскі аб праекце новай менскай тэлевежы. Вулічнае апытаньне С.Квяткоўскага. З.Бартосік пра факсыміле зборніка М.Гарэцкага «Рунь».

1998.09.20 **Сымболіка свабоды (1).** З удзелам З.Бартосіка, С.Харэўскага.
*Калі ў пачатку 1980-х Роналд Рэйган сказаў сваю знакамітую фразу пра тое, што ёсьць рэчы, больш важныя за атамную вайну, у нас яго не зразумелі. Краіна — ад высокіх кабінэтаў да самага простага застольля — жыла пад лёзунгам: галоўнае, каб не было вайны. Адзін аднаму жадалі сіняга неба над галавою, над заводамі вывешвалі лёзунгі «Міру — мір», малявалі галубкоў. Між тым, Рэйган пад больш важнымі рэчамі меў на ўвазе свабоду.*
*С.Квяткоўскі: Наколькі свабодныя людзі атачаюць нас у штодзённым жыцьці? Свабода — гэта... Працягнуць фразу я прапанаваў мінакам на менскіх вуліцах. Вось адказ маладога бізнэсмэна, які ніколі не працаваў на дзяржаву:*
*— Адно пытаньне — на які ланцуг нас адпусьціць дзяржава, другая праблема — на які ланцуг ты сябе адпусьціш сам. Вось і ўсё. Я цалкам вольны — ланцуг перасечаны. Жыву для сябе, думаю, як хачу. Ні ад каго не залежу, нават ад вашага інтэрвію...*

1998.09.27 **Сымболіка свабоды (2).** З удзелам А.Лукашука, А.Глёбуса і С.Сокалава-Воюша.

1998.10.04 **Шоў-бізнэс.** З удзелам А.Антаняна, С.Харэўскага і З.Бартосіка.

1998.10.11 **Жазэ Сарамага.** Пра ляўрэата літаратурнага Нобэля. Эсэ С.Харэўскага пра мікрараён:
*«Усьлед за пісьменьнікам-утапістам Кампанэла, аўтарам кнігі «Горад Сонца», ідэальныя гарады пачалі прыдумляць і дойліды. Казачныя паселішчы мусілі быць прыгожымі, чыстымі і ўтульнымі. Але то войны, то хваробы, то брак сродкаў заміналі*

*ажыцьцявіць гэтыя праекты. Нарэшце такая магчымасьць зьявілася ў Беларусі, куды на запрашэньне Радзівіла Сіроткі прыехалі тыя самыя летуценьнікі-дойліды й пабудавалі новы Нясьвіж. Першы горадабудаўнічы комплекс, створаны паводле адзінага праекту, які спалучаў у сабе вытворчыя, адміністрацыйныя й жыльлёвыя функцыі, альбо, як кажуць сёньня, мікрараён, зьявіўся ў нас яшчэ ў 1583 годзе. Беларусь стала радзімаю мікрараёнаў».*

1998.10.25 **Дзень Мовы.** Чаму беларускія адраджэнцы ў побыце гавораць па-расейску? Адказваюць: В.Вячорка, В.Івашкевіч, І.Бабкоў, І.Гермянчук, В.Сіўчык, З.Пазьняк, Я.Брыль, Ул.Някляеў, Г.Бураўкін, С.Шупа. Вулічнае апытаньне С.Квяткоўскага пра Дзень без чужога слова. Успамін С.Харэўскага пра беларускамоўны цыганскі табар у Менску на вуліцы Пуліхава.
*А.Глёбус: Мы гаворым па-расейску, але ў душы мы ўсё адно гаворым па-беларуску.*

1998.11.08 **Беларусь у паралельным часе.** Гутарка С.Квяткоўскага з А.Кулінковічам, К.Камоцкай, З.Вайцюшкевічам і Л.Вольскім. Аповед З.Бартосіка:
*«Раптам на пляцоўку выплыла чырвоная й бліскучая, нібы толькі з канвэеру, Audi-цыгара, з адчыненага вакна якой на ўсю ваколіцу неслася «Вітам, панове, я Казік Пэсэцкі». Затым з аўтамабіля паказаўся й сам герой песьні. Высачэзны бляндын у піжонскім скураным паліто. З-пад неверагоднай велічыні капелюша віжавалі шэрыя вочы. Раптам незнаёмец накіраваўся да нас. «Я Казімір, бухгальтар раённага ТБМ», — працягваючы татуяваную руку ды выпускаючы струмень дарагога тытунёвага дыму, назваўся ён, міжвольна гледзячы на нас зьверху ўніз.*
*У аўто сядзеў яшчэ адзін чалавек. Саракагадовы пан з акуратна зачасанымі чорнымі валасамі. Пах моцнай парфумы надзвычай пасаваў ягонаму дыхтоўнаму гарнітуру з круглым значком ТБМ на штрыфэлі. «Знаёмцеся, гэта наш бос. Старшыня раённай рады», — прадставіў нам свайго калегу бляндын, калі мы патанулі ва ўтульнасьці нямецкага салёну. «Спачатку едзем у гатэль. Затым сустрэча з актывам, а заўтра праедземся па школках», — паінфармаваў бос. «І Захад нам дапаможа», — чамусьці згадалася мне.*



1998.11.22 **Самапачуваньне грамадзтва.** Удзельнікі гутаркі: А.Глёбус, А.Ліпай, А.Дынько, С.Астраўцоў, Ул.Арлоў, А.Лукашук. Занатоўкі А.Антаняна і З.Бартосіка.

1998.11.29 **Напярэдадні вечнага жыцьця.** Ці хацелі б вы жыць вечна? Вулічнае апытаньне С.Квяткоўскага. Аповед З.Бартосіка пра здарэньне на рацэ. Адказы А.Лукашука, К.Бандарука, С.Сокалава-Воюша:
*«Уяўляю, што было б, калі б яшчэ жыў мой прапрадзед, удзельнік расейска-турэцкіх войнаў. Ну, і куды ён мне са сваім досьведам змаганьня за матухну-Расею? І куды яму я са сваім досьведам змаганьня супраць?»*

1998.12.06 **Расея — аб’ект нянавісьці і любові.** З удзелам В.Кіпеля, А.Аблажэя, Г.Леха, С.Сокалава-Воюша.

1998.12.13 **Што вас асабіста зьвязвае з Расеяй?** Апытаньне С.Квяткоўскага. Аповед З.Бартосіка пра нечаканую сустрэчу ў Віцебску.

1998.12.20 **Маўчаньне паэтаў**

1998.12.27 **Палітыкі сьпяваюць калядкі.** З удзелам С.Багданкевіча, М.Статкевіча, Я.Лугіна, Г.Лыча, А.Дабравольскага, В.Івашкевіча, А.Бяляцкага, В.Вячоркі. Вулічнае апытаньне С.Квяткоўскага: Ці сьвяткуюць менчукі Каляды? Аповед З.Бартосіка пра Парыж.

1999.01.03 **Усё наадварот.** Што такое Новы год? З удзелам А.Глёбуса і З.Бартосіка.

1999.01.10 **1999—1899: ста гадоў як не было.** Занатоўка З.Бартосіка пра Захараўскую вуліцу. Вулічнае апытаньне С.Квяткоўскага: Ці хацелі б вы быць падобным да прэзыдэнта РБ? С.Харэўскі пра менскіх губэрнатараў.

1999.01.17 **Я — славянін. Што гэта значыць?** Вулічнае апытаньне С.Квяткоўскага. С.Шупа пра славянскія

мовы. С.Харэўскі пра славянскія сымбалі. З.Бартосік пра баксэрскі турнір.
*...Беларускі гісторык і археоляг мінулага стагодзьдзя Адам Кіркор піша, што нашыя продкі-славяне мелі звычай пасьля сьмерці мужа забіваць і ягоную жонку, а таксама маленькіх дзяцей і ўсіх хавалі разам. Прычым дзяцей, тапілі, і тапілі чамусьці разам зь пеўнямі. Якое гэта мае дачыненьне да сёньняшняга славянскага братэрства? — спытаецеся вы. А якое дачыненьне гэтае братэрства мае да нас?..*

1999.01.24 **Бібліятэка «Фрагмэнтаў».** Гутарка С.Квяткоўскага з І.Бабковым. Водгук С.Харэўскага на кнігу В.Акудовіча «Мяне няма».
*Увесь сьвет лютуе або пратэстуе ў справе Пінача-та, хоць у Гішпаніі, дзе яго мусяць судзіць, пасьля 70 гадоў турэмнае зьняволеньне не прадугледжана. Гэта значыць, што Піначэту ў кожным разе гарантаваная спакойная старасьць і магчымасьць апраўдваць перад сьветам свой жыцьцёвы выбар. У той самы час ягоны раўналетак Старавойтаў яшчэ да суду сядзіць у жалезнай клетцы ва ўласнай краіне, дзе паважны ўзрост не зьяўляецца аргумэнтам.*

1999.01.31 **Што аб’яднае нас?** З удзелам А.Надсана, Н.Дудараваай, С.Харэўскага, С.Сокалава-Воюша, А.Мальдзіса, В.Трыгубовіч. З.Бартосік пра скарачэньне насельніцтва на 25 адсоткаў.

1999.02.07 **Славамір Адамовіч. «Плавільшчыкі расы».** Водгукі на кнігу. З удзелам С.Харэўскага, А.Мінкіна. Аповед З.Бартосіка:
*«...Але летась, на вечаровай узьбярэжнай паміраючага крымскага курорту, куды нас занес журналісцкі лёс, я ізноў глядзеў на яго, нібы ўпершыню, дзівячыся, як парою дакладна могуць супасьці вобраз і відарыс, зьмест і форма. І справа тут ня ў моры, не ў вясёлых гуках джаз-банды, што разносіліся далёка ўздоўж берагу, і не ў аскепках прамінулае эпохі — усіх гэтых балясінах ды калянадах. А ў тым, дзеля чаго жывуць паэты. Ён убачыў сваю музу. Яна, тыповая пастаральная пастушка зь вялікімі блакітнымі вачыма, гандлявала нейкімі бясхітраснымі сувэнірамі і наўрад ці чакала сустрэчы з кавалерам у ядвабным гальштуку. Дагэтуль незвычайна ашчадны, ён скупіў ледзь не палову яе тавару й павёў у бліжэйшы дансінг. Яна, у сваёй паркалёвай сукенцы і танных сандалетах, і ён, у шырокага пакрою гарнітуры і ў капелюшы, сярод джынсы, скуры ды аглушальных дэцыбэлаў, выглядалі пэрсанажамі з даўно забытага кіно. Ён тэатральна запрасіў яе на танец пад нейкую папсовую драбядзень, што неслася з магнітафону. Нягледзячы ні на што, у ягоным танцы ўсё роўна ўгадвалася «Рыо-Рыта»...*



1999.02.14 **Беларускія філіі і фобіі.** С.Харэўскі пра тое, каго любяць і ня любяць беларусы. З.Бартосік слухае радыёп’есу пра фашыстаў. Занатоўкі С.Квяткоўскага:
*«Неяк мне давялося пачуць, што адваротны бок так званай беларускай талерантнасьці — гэта бытавая ксэнафобія, а сынонім славутай беларускай памяркоўнасьці — звычайная абыякавасьць. Ня дзіва, што ў колішнім СССР беларусы былі любімчыкамі, кшталту славутага чырвонца, які «падабаецца ўсім». Такое паўінфантыльнае адчуваньне па-ранейшаму кіруе многімі нашымі суграмадзянамі і сёньня. Тым часам рэйтынг беларусаў пачаў падаць, прычым, ня толькі ў палякаў ці літоўцаў, для якіх непрымальная татальная стагнацыя РБ. Украінцы расчараваныя дэкляратыўнай русафіліяй браткоў-беларусаў, а «любвеобильные» расейцы незадаволеныя беларускай шлюбнай нерашучасьцю і спажывецкім падыходам да сьветлай ідэі аб’яднаньня...»*

1999.02.28 **Наша супольная адказнасьць.** З удзелам Б.Пякарскай, В.Гідрановіча, Я.Лапаткі, М.Бусла, З.Бартосіка, С.Харэўскага, С.Квяткоўскага.

1999.03.07 **Мэмуарны бум.** З удзелам З.Бартосіка, С.Сокалава-Воюша. С.Харэўскі пра ўспаміны мастакоў:
*«Аднаго разу мэтра зь векапомным барэтам на сівой шавялюры перастрэў на вуліцы другі мастак, Уладзімер Адамчык, таксама ў барэце. «Вельмі зьмястоўную і цікавую кнігу Вы напісалі, Заір*

*Ісакавіч, — сказаў мастак Адамчык. — Але чаму Вы не напісалі пра тое, як ляпілі Сталіна?» «Як мая кніга завецца? — пытаньнем на пытаньне адказаў скульптар. — «Тое, што помніцца»? А пра Сталіна ня помніцца...» Крыху счакаўшы, дадаў, праўда, ужо не сваімі словамі: «Трэба браць з гісторыі агонь, а ня попел...»*

1999.03.14 **У чым наша крыўда.** З удзелам С.Сокалава-Воюша, С.Харэўскага, А.Сідарэвіча, І.Бабкова, А.Глёбуса, С.Квяткоўскага.

1999.03.28 **Рэцэпт цуду.** З удзелам С.Сокалава-Воюша, Л.Баршчэўскага, А.Анціпенкі, Л.Акаловіча. Успамін З.Бартосіка:
*«...Я жыў тады з маці ў вялікім горадзе на Волзе. Даходжваў другую чвэртку трэцяй клясы, чакаў новага 1979 году й зімовых вакацыяў, ды насіўся з клюшкаю па двары разам з аднагодкамі. І аднойчы, загнаны маці дадому, пачуў ад яе дзіўную навіну. Не зусім зразумелую, але ад таго яшчэ больш радасную. Яна сказала, што Новы год мы будзем усёй сям'ёй сустракаць у Беларусі, дзе бацька атрымаў працу, і дзе мы цяпер будзем жыць.*
*«Эх, і шанцуе ж некаторым», — менавіта такою была рэакцыя маіх знаёмых на гэтую навіну. Я дакладна памятаю, што слова «Белоруссия» ў мяне ніяк не асацыявалася са словам «Россия». У гэтай «руссии» на канчатку мне чулася нешта «з італьянскай опэры». Экзатычны край з кніжак Джаньні Радары. Я нават асабліва не задумваўся, у якім гэта ўвогуле баку?*
*Але чаго я зусім не чакаў — дык гэта ўвагі да маёй пэрсоны з боку дарослых. Прадаўшчыца малочнай крамы адкрыла мне, што там, куды я еду, заўсёды ёсьць сьмятана й масла. Ня кажучы пра кілбасу. Настаўніца з паралельнае клясы, як высьветлілася, сама была адтуль, і ласкава мяне папярэдзіла, што ў беларусаў «очень грубый язык». Дагэтуль мне казалі, што самая грубая мова ў немцаў. Алькагалічка-суседка, славутая тым, што забіла «па п'яні» ўласнага мужанька, паведаміла, што няма людзей, дабрэйшых за беларусаў... Адным словам, я ехаў у цёплы край, дзе добрыя людзі штодня ядуць кілбасу са сьмятанаю й размаўляюць амаль па-нямецку...»*



1999.04.04 **Пошукі праўды.** З удзелам М.Пачкаева, А.Лукашука, З.Бартосіка, С.Харэўскага.
*Які-небудзь статыстычны ангелец або амэрыканец жыве небагата, працуе з напругаю сіл, часам напіваецца, часам лупцуе жонку... Словам, нічым не адрозьніваецца ад звычайнага беларуса. Але. Ва ўяўленьні беларуса недзе ёсьць лепшае жыцьцё, недзе там, дзе жыве ангелец або амэрыканец, а ва ўяўленьні ангельца або амэрыканца лепшае жыцьцё можа быць толькі на нябёсах.*

1999.04.11 **Беларускае патаемнае.** З удзелам З.Бартосіка, С.Харэўскага, А.Дынько, С.Квяткоўскага.

1999.04.18 **Нашы жыцьцёвыя арыенціры.** З удзелам С.Сокалава-Воюша, В.Івашкевіча, П.Севярынца, А.Бяляцкага, Ул.Коласа, Л.Баршчэўскага, А.Марачкіна, М.Чарняўскага, С.Квяткоўскага. Занатоўкі З.Бартосіка пра літаратурных герояў і С.Харэўскага пра ідэалы.

1999.04.25 **Хэпі-энд для Чарнобылю.** Параўнаньне твораў У.Голдынга і В.Быкава. З удзелам А.Лукашука, Г.Сагановіча, В.Лістратава, А.Клешчука, З.Коласа, З.Бартосіка і С.Харэўскага.

1999.05.02 **Мяжа краіны.** З удзелам З.Бартосіка, С.Харэўскага і С.Квяткоўскага.

1999.05.09 **Другая сусьветная вайна.** Сучасны погляд. З удзелам З.Бартосіка і С.Харэўскага. Апытаньне С.Квяткоўскага.

1999.05.16 **Панарская бітва (1831)**

1999.05.23 **Жахі гісторыі. Грунвальд.** З удзелам Г.Сагановіча, З.Бартосіка і С.Харэўскага. Апытаньне С.Квяткоўскага.

1999.05.30 **Менскае лета.** З удзелам З.Бартосіка і С.Харэўскага.

1999.06.06 **Літаратура-пракуратура**

1999.06.13 **Сучасная моўная палітыка.** З удзелам З.Бартосіка і С.Харэўскага.

1999.06.20 **Іспыт зь беларускай гісторыі.** З удзелам Г.Сагановіча, С.Харэўскага, С.Квяткоўскага, Ул.Арлова.
*Сын Міндаўга Яўнут, — кажа беларускі пад-*

*ручнік, — заступіў на вялікакняскі пасад пасьля бацькі і сядзеў, пакуль ня быў скінуты братамі, тады ўцёк у Масковію, прыняў праваслаўе і быў названы Іванам, вярнуўся дадому і атрымаў ва ўладаньне Заслаўе. Паводле літоўскага падручніка, Яўнуціс уцёк у Польшчу, а па вяртаньні атрымаў Трокі...*

1999.06.27 **Бязьлюдная Беларусь.** Вандроўка на Гарадоччыну. З удзелам Г.Сагановіча, З.Бартосіка, С.Харэўскага.

1999.07.04 **Боязь Захаду.** З удзелам З.Бартосіка, С.Харэўскага і С.Квяткоўскага.

1999.07.11 **Анталёгія беларускага ўчынку.** Г.Сагановіч пра князя Багуслава Радзівіла, С.Харэўскі пра Напалеона Орду, А.Лукашук пра Янку Філістовіча, З.Бартосік пра аднавайскоўца Немца.

1999.07.18 **Саюз пісьменьнікаў сёньня.** З удзелам С.Адамовіча. Занатоўкі С.Харэўскага пра менскую вуліцу Фрунзэ.

1999.07.25 **Літаратурны сюжэт нашага часу**

1999.08.01 **Забытыя адрасы беларушчыны.** З.Бартосік пра фальварак Мігаўку, з удзелам М.Шнэйдэра. С.Харэўскі пра дом П.Сергіевіча ў Вільні, з удзелам Ф.Нюнькі, Я.Вайтовіча і Ул.Скараходава.

1999.08.08 **Крыж Эўфрасіні.** З удзелам С.Харэўскага, Ул.Арлова, А.Лукашука, А.Мальдзіса:
*«Мне падказвае ўнутраны голас, што ён у Эрмітажы. Відаць, папросту ніхто ня хоча ўзяць на сябе адказнасьць за тое злачынства...»*

1999.08.15 **«Песьняры».** З удзелам С.Харэўскага.

1999.08.22 **Восеньскі мінор.** А.Антанян пра «Разьвітальную аповесьць» В.Адамчыка. С.Харэўскі пра вобраз Свабоды ў мастацтве. З.Бартосік пра Л.Пракопчыка.

1999.08.29 **«Пад’езд старых кавалераў».** Забыты адрас культуры. Занатоўкі З.Бартосіка. С.Харэўскі пра выставу С. і А.Покладаў.

1999.09.05 **Рэстытуцыя.** З удзелам С.Харэўскага. З.Бартосік пра сядзібу Ядвігіна Ш. у Карпілаўцы.

1999.09.12 **Верасень 1939-га.** С.Харэўскі пра тэму ўзьяднаньня ў мастацтве. З.Бартосік пра сьляды колішняе мяжы.



1999.09.19 **Аляксей Фралоў.** Гутарка С.Харэўскага.

1999.10.17 **«Калі сябры нас гудзяць згубаю...»** Забытае слова. З удзелам С.Шупы. С.Харэўскі пра кнігу Г.Войцік «Лявон Луцкевіч» у сэрыі «Партрэты віленчукоў».
*Пісаліся «Вершы аб Вільні» ў чэскай сталіцы, дзе Жылка вучыўся ва ўнівэрсытэце. Жыў паэт у прадмесьці Прагі Радоціне, у двухпавярховым асабняку, дзе здымаў ці то пакой, ці толькі ложак. ...1925 год. У Вільні пануюць палякі і пальшчызна, але працуюць беларуская гімназія, музэй, партыі, выходзяць газэты. Беларуская Грамада налічвае 100 тысяч сяброў. Вільня мае неафіцыйны статус сталіцы Заходняй Беларусі. У Менску будуюць камунізм. Жылка запыняецца над лістом Луцкевічу і выводзіць гэтую відавочна вынашаную, прадуманую і прачутую фразу: «Менск — толькі этап»...*

1999.10.24 **Сваё як чужое.** С.Харэўскі пра Марш Свабоды.
*Калі прэзыдэнцкі заўгас Ціцянкоў на даху былога ЦК КПБ здымаў бел-чырвона-белы сьцяг і рваў яго на кавалкі, ён, магчыма, і чуў нешта пра дружыны СБМ, што маршавалі пад гэтым сьцягам у акупаванай немцамі Беларусі. Але ўжо напэўна ён ня меў ніякіх пачуцьцяў да жалезнага флагштоку, выробленага на заводах Крупа і ўсталяванага тут фашыстамі. На нямецкі флагшток быў вернуты сьцяг марыянэткавай БССР. Разуменьне непарушнасьці першага і другога — рэчаў, што сымбалізуюць панаваньне ў Беларусі чужых уладаў з цэнтрам у фашысцкім Бэрліне і камуністычнай Маскве — і радасны зьнішчальніцкі азарт у дачыненьні да рэчы, якая сымбалізуе сваё, беларускае, — гэта, на жаль, тыповыя рысы афіцыйнага ці ўвогуле палітычнага Менску.*
*Гэткае самае пачуцьцё перажываў і беларускі савецкі дасьледчык фашызму Іван Сачанка, калі пісаў, што беларускага ксяндза Гадлеўскага расстралялі савецкія партызаны. Насамрэч, дакумэнтальна пацьверджаны факт, што змагара за беларусізацыю касьцёлу айца Вінцука расстра-*

*лялі нямецкія фашысты. Але для Івана Сачанкі галоўнае ня тое, хто забіваў, а тое, што забілі ворага. І тут — што савецкія партызаны, што нямецкія фашысты — неістотна, бо гэта як бы «нашы». Хоць па ўсіх раскладках менавіта беларускі патрыёт Гадлеўскі мусіў быць для беларускага дасьледчыка сваім.*

*Яшчэ прыклад. Калі А.Лукашэнка ў сваіх расейскамоўных выступах згадвае апазыцыянэраў, у тым ліку і дэпутата Лябедзьку, ён з найвялікшай грэблівасьцю называе яго «змагаром». Беларускае слова тут — эўфэмізм абразьлівай лаянкі. Калі ж дэпутат Лябедзька ў сваіх расейскамоўных артыкулах імкнецца адказаць Лукашэнку адэкватна, каб чым балючэй абразіць яго, ён піша: «Нас заставляют поверить, что только шкловская земля рождает политических деятелей, и только руководитель посредственного хозяйства способен правильно «кировать» государством». Гэтак расейскамоўная апазыцыя пераплёўваецца з расейскамоўным афіцыёзам пры дапамозе беларускае мовы, тым самым адводзячы ёй ролю пляўка. Сваё: мова, гісторыя, сьцяг, — у гэтых прыкладах ператвараецца ў чужое, варожае. Што прымушае людзей паводзіць сябе такім чынам? На маю думку, імкненьне выступаць на баку мацнейшага — расейскага імпэрыялізму ці нямецкага фашызму.*

1999.10.31 **Дзяды'1999.** З удзелам С.Харэўскага, З.Бартосіка і С.Квяткоўскага.

1999.11.07 **Культура пасьля камунізму.** А.Дынько пра часопіс «ARCHE». А.Прасаловіч пра Якуба Коласа. С.Харэўскі пра вайну культур у часопісе «Фрагмэнты».

1999.11.14 **Украінская тэма.** З удзелам З.Бартосіка, С.Шупы, А.Дынько, С.Харэўскага і А.Прасаловіча.

1999.11.21 **«Мутнае вока».** Забыты адрас культуры. Гутарка З.Бартосіка.

*Р.Барадулін: «Мутнае вока» не магло быць без Караткевіча. Я памятаю нейкі вечар, мы прынесьлі з сабою нешта выпіць і ў буфэце яшчэ бралі. І Чарнабаеў Віктар Максімавіч нешта засьпяваў. І тут, канечне, Караткевіч не ўцярпеў. Як гэта яго нехта пераб'е! Наагул, Уладзімер не цярпеў канкурэнцыі ні ў чым, ні ў мастацтве, ні ў выпіўцы. І вось, Валодзя тут экспромтам сваім магутным голасам пачаў сьпяваць: «Багаты чалавек каня запражэ ды й выедзе-е-е. А бедны чалавек жонку пакладзе ды й выебе-е-е. Радуйся, сарока, радуйся, варона, радуйся й ты, верабей цудатворца-а-а!» Чарнабаеў ашалеў. Там усе ашалелі. Таму што ў архірэйскім, так званым, доме, і такі царкоўны хваласьпеў, і з такім тэкстам! На гэта быў здольны толькі Караткевіч».*



1999.11.28 **Беражыце эліту.** Нататкі С.Харэўскага пра Оскара Мілаша.

1999.12.05 **Жыды: апраўданьне імя**

1999.12.12 **Пра што мараць беларусы?** Апытаньне С.Квяткоўскага.

1999.12.19 **Няміга.** Пра найстарэйшую менскую вуліцу. Гутарка З.Бартосіка з Валянцінам Тарасам.

*Калісьці паэт Адам Глёбус выказаў думку пра горадабудаўнічую перадвызначанасьць Менску, які арыентаваны на ўсход. Майляў, чалавек едзе з Масквы, шаша незаўважна ператвараецца ў гарадзкі праспэкт. Чалавек праміная цэнтар гораду аж да плошчы Незалежнасьці і тут упіраецца ў тупік. Просты, як струна, шлях далей, на захад, распадаецца на мноства скрывуленых вулак, паваротаў і разгалінаваньняў. Каб не ўнікаць у гэтыя хітраспляценьні, падарожніку прасьцей зрабіць кола на плошчы Незалежнасьці і рушыць у адваротным кірунку — на Маскву...*

1999.12.26 **Урокі 20 стагодзьдзя.** А.Дынько пра часопіс «Скарына».

2000.01.02 **Менская Брама.** З удзелам С.Харэўскага.

2000.01.09 **Культурныя рэйтынгі 20 ст.** Найлепшыя пісьменьнік, мастак, кампазытар, кніга, газэта, фільм... З удзелам С.Харэўскага і З.Бартосіка.

2000.01.16 **Культура ў дачыненьнях з соцыюмам.** З.Бартосік пра «Судовую мэдыцыну» па-беларуску. С.Харэўскі пра скарбы — з удзелам А.Трусава.

2000.01.23 **Парк Горкага ў Менску.** З удзелам С.Квяткоўскага, З.Бартосіка, С.Харэўскага.
2000.01.30 **Мова-2000.** Наватворы 20-га ст.
2000.02.06 **Загадка Яўгена Глебава.** Гутарка С.Квяткоўскага з Ул.Някляевым. Аповед З.Бартосіка.
2000.02.13 **Менск, Дзімітрава, 3.** С.Харэўскі пра дзёньнік В.Маркаўца. Гутарка С.Квяткоўскага з Ул.Басалыгам і Ул.Крукоўскім.
2000.02.20 **Два новыя менскія музэі.** З.Бартосік пра Музэй кіно. С.Квяткоўскі і С.Харэўскі пра Музэй З.Азгура.
2000.02.27 **Хто такі Рыгор Барадулін?** 65-я ўгодкі паэта. З удзелам С.Харэўскага, З.Бартосіка і Р.Барадуліна. Апытаньне С.Квяткоўскага з удзелам Вал.Тараса.
2000.03.05 **Беларуская правінцыя.** Гутарка С.Квяткоўскага з С.Шыдлоўскім і С.Пачобутам. Занатоўкі С.Харэўскага і З.Бартосіка.
2000.03.12 **«Лясная Хатка».** Забыты адрас культуры. Занатоўкі С.Харэўскага з удзелам К.Балаховіч і А.Аблажэя. Гутарка З.Бартосіка з Г.Войцік.
2000.03.19 **«Дзень Волі».** З гісторыі газэт. З удзелам С.Харэўскага. Назіраньні за моваю — С.Шупы.
2000.04.02 **1 красавіка — Prima Aprilis.** З удзелам С.Харэўскага.
*Скажу адразу: ані таго першапачатковага лацінскага Prima Aprilis, ані цяперашняга эўрапейскага Fool's Day, ані знаёмага з савецкіх часоў Дня Сьмеху ў беларускай традыцыі няма. Па-першае, днём вясёлага шкодніцтва ў нас заўсёды было Купальле. Другая прычына — забітасьць і цемната, прынамсі, апошнія гадоў дзьвесьце, калі беларускі селянін страціў усялякую ініцыятыву і стараўся не вытыркацца...*
2000.04.09 **Васіль фон Роткірх.** Забытае імя. З удзелам С.Харэўскага.
2000.04.16 **Вясна, Гомель, Баброўскі.** Эсэ З.Бартосіка з удзелам М.Сердзюкова і А.Мінкіна.
2000.04.23 **Мова-2000.** Агляд пошты
2000.04.30 **«Сказ пра Лысую гару»**
2000.05.07 **Дзяржкамдрук супраць «Нашай Нівы».** С.Харэўскі пра рэфэрэндум 1995 году.



2000.05.14 **Суд «Нашай Нівы»**
2000.05.21 **Дом, дзе прыдумалі краіну.** Вільня, Віленская, 33. Згадкі З.Бартосіка пра Язэпа Сажыча і С.Харэўскага пра Ўладзіслава Струмілу.
2000.05.28 **100 гадоў Уладзімеру Жылку.** З удзелам С.Харэўскага. З.Бартосік — з паездкі ў Макашы пад Нясьвіжам:
*«На кухні за брудным сталом сядзелі тры дзяды і пілі мутны самагон з клясычнай здаравеннай бутлі. Як высьветлілася, сын з бацькам прыехалі з Баранавічаў адведаць свайго дзядзьку й брата. Выпіта, мяркуючы па ажыўленай гамонцы, было нямала. Не пасьпеў я адрэкамэндавацца й дастаць мікрафон, як перада мною ўжо стаяў напоўнены кілішак. Я зьвярнуўся да самага старога, Івана Абрамовіча, народжанага ў Макашах праз два гады па зьяўленьні на сьвет свайго знакамітага земляка — у 1902-м.*
*— Бацька яго хрысьціў мяне. А бацька яго родам з-пад Слуцку... Гэты Жылка рэдактарам быў. Далі яму пяць лет турэмнага заключэньня. За што, я не магу вам сказаць. Патрыёт быў Родзіны. (Скрозь плач.) Жаль мне яго! Жаль мне яго! Жаль мне яго!*
*Стары Абрамовіч закурыў «Прыму» й зайшоўся такімі рыданьнямі, быццам пахаваў самага блізкага сябра. Пазаўчора. Зрэшты, з вышыні дзевяноста васьмі гадоў, напэўна, любая перажытая эпоха бачыцца як нешта зусім нядаўняе.*
*Я ня стаў болей турбаваць старых людзей, пакінуўшы іх далей расьпіваць сваю пляшку. Ня цяжка нават уявіць, як гэтая тройца п'е на працягу стагодзьдзя. Ад самага нараджэньня. За пыльным вакном мяняюцца рэжымы і ўлады. Па дарозе на Ішкалдзь праходзяць арміі ў самых разнастайных уніформах. Радыё балбоча на розных мовах. А тут усё той жа стол. Усё той жа самагон. І ўсё тыя ж тосты за здароўе й доўгае жыцьцё! Там Расейская імпэрыя і Рэч Паспалітая, Трэці райх і СССР! І як тут не дапіцца да беларускай незалежнасьці...»*

2000.06.04 **Расейскамоўны Менск.** З удзелам С.Харэўскага. Гутарка З.Бартосіка з М.Герчыкам: *«Наш унівэрсытэцкі інтэрнат на Нямізе быў легендарны. Там быў вялізны пакой на васямнаццаць ложкаў. Зь першага паваеннага пакаленьня жылі Валодзя Шыцік, Жэня Курто, Пімен Панчанка й іншыя хлопцы, якія вярнуліся з вайны. Яны са стыпэндыяў сваіх і пэнсіяў купілі на пляцы Волі ў нейкім «Галубым Дунаі», якіх тады процьма была, бочку піва. І прыкацілі гэтую бочку ў інтэрнат. Самае сьмешнае, што на дзесяць чалавек, якія купілі гэтае піва й кацілі яго, ног было пятнаццаць, а рук і таго меней. Усе ж інваліды вайны. І кацілі яны — хто мыліцай, хто плячом. І ўсьпёрлі наверх па двух вялізных пралётах старой лесьвіцы. Там жа столь была не такая, як у нас, а па чатыры, па пяць мэтраў вышыні. Вось яны ўсьпёрлі гэтую бочку, выбілі шпунт. Яно як дало адтуль фантанам, дык толькі падстаўлялі хто міскі, хто што пасьпеў...»*

2000.06.11 **Люцінка Дуніна-Марцінкевіча.** З удзелам С.Харэўскага. Падарожжа З.Бартосіка.

2000.06.18 **Кіраўнікі турызму — «валадары мух».** З удзелам С.Харэўскага.

2000.06.25 **Андрэй Патрэй.** Падарожнае эсэ з удзелам З.Падбярэскага, В.Кораня, А.Глёбуса, А.Патрэя.

2000.07.02 **Айцец Ян Шуткевіч.** Партрэтнае эсэ С.Харэўскага.

2000.07.09 **Дача пісьменьнікаў у Падблоні.** Забыты адрас культуры. Падарожныя нататкі З.Бартосіка з удзелам Г.Вольскага, А.Вольскага і М.Клімковіч.

2000.07.16 **Згубленыя лісты.** 100 гадоў Уладзімеру Дубоўку. Гутарка З.Бартосіка з І.Пісьменнай: *«Аднойчы ўвечары прыехалі да яго пісьменьнікі: Глебка, Броўка, Кандрат Крапіва й яшчэ нехта. Гэта былі першыя дні, як ён вярнуўся ў Беларусь зь лягеру. Яны прыйшлі, каб выказаць яму сваю пашану. Я бачыла здаля, які твар быў у Дубоўкі, і я зразумела, што яму гэта ня вельмі прыемна, іхны прыезд. Ён мне не расказваў, пра што яны гаварылі. Я й не пыталася. Але ён мне сказаў, што яны былі датычныя, што яго, маладога чалавека, якія падавалі надзеі і ўжо меў імя, пасадзілі. Відаць, ён ведаў, хто зь іх быў датычны да гэтага. А, можа, усе разам, ня ведаю. Але такую фразу ён сказаў. Ён сказаў: «Яны прыехалі папрасіць мяне, каб я даў ім апошнюю паэму. Яны хочуць яе надрукаваць». Я спыталася: «Вы далі?» «Не, — сказаў ён, — навошта? Я ім сказаў, што я не пісаў паэм, бо ў мяне не было паперы».*



2000.07.23 **100 гадоў Наталі Сарот**

2000.07.30 **Замаўляйце па-беларуску...** Апытаньне З.Бартосіка.

2000.08.06 **Віцебскі мастак Давыд Якерсан.** Дасьледаваньне С.Харэўскага.

2000.08.13 **Рэстарацыя «Дзікае паляваньне».** Аповед З.Бартосіка.

2000.08.20 **Страчаная спадчына Пётры Сергіевіча.** Дасьледаваньне С.Харэўскага з удзелам Р.Будрыса і Ул.Скараходава.

2000.08.27 **10 гадоў Закону аб мовах.** *З.Бартосік: Далёка ня ўсе ведаюць пра ролю дэпутатаў расейскай культуры ў лёсе таго закону. Для мяне, напрыклад, быў прыемным адкрыцьцём той факт, што наш Закон аб мовах, які ўжо было зьбіраліся заваліць, выратаваў актор расейскага тэатру Расьціслаў Янкоўскі. Вось што ўспамінае Алег Трусаў:*

*— Калі прымалі Закон, супраць выступалі бюракраты мясцовай гадоўлі. І калі Янкоўскі выступіў, са сваім шармам, і сказаў: «Ды што вы робіце! Давайце прымем!» — толькі чалавек дваццаць прагаласавала супраць. Тое самае было, калі канчаткова прымалася Канстытуцыя. Вэтэраны не хацелі галасаваць за беларускую мову — толькі дзьве мовы. І калі выступіў іх нефармальны лідэр генэрал Гетц, які ў танку гарэў, калі вызваляў Беларусь... Ён, канечне, быў чалавек сталінскіх поглядаў, але вельмі сумленны. Ён сказаў: «Навошта нам раскалваць грамадзтва? Сябры, давайце прымем: дзяржаўная мова — беларуская, а расейская — мова міжнацыянальных зносін». Авацыя ў залі, і на табло дзьве трэція. Таму і Янкоўскі, і*

*Гетц — гэта людзі, вартыя таго, каб іх імёны засталіся на скрыжалях беларускага пісьменства.*

2000.09.03 **Як я правёў лета.** Занатоўкі С.Харэўскага. З.Бартосік спытваўся ў А.Памідорава, А.Клінава, З.Падбярэскага, В.Манаева:

*«Лета я правёў на беларускіх Канарах, 15 кілямэраў ад Менску. Гэта Астрашыцкі гарадок. Там ёсьць база адпачынку, называецца: пансіянат «Тэатральны». Але з тэатральных дзеячоў там было, можа, чалавекі два-тры. Бо для сучасных тэатральных дзеячоў нават такія беларускія Канары, якія называюцца «Астрашыцкі гарадок», не па кішэні. А так, было цудоўнае беларускае надвор'е. З 23-х дзён чатыры — сонечныя. І гэта вымушала адпаведна сябе паводзіць. Там на дачным пасёлку, які называецца каапэратыў «Сябры», ёсьць цудоўнае месца, якое называецца «крама паўсядзённага попыту». Ну, і тавары паўсядзённага попыту спажываліся вельмі добра. Улічваючы тое наша цудоўнае беларускае надвор'е. І цудоўная была тэмпэратура возера. Градусаў чатырнаццаць. Што таксама не забараняла нам акунацца пасьля наведваньня крамы паўсядзённага попыту. Я вельмі задаволены сваім адпачынкам і ніколі не прамяняю беларускіх Канараў на нейкія там замежныя».*

2000.09.10 **Вільня — старая сталіца.** Занатоўкі С.Харэўскага з удзелам Н.Пяткевіч і Л.Плыгаўкі.

2000.09.17 **«Аўтарская» песьня на Крапівенскім полі.** Падарожныя нататкі З.Бартосіка.

2000.09.24 **Беларускія крыжы.** Пра кнігу М.Раманюка. З удзелам С.Харэўскага.

2000.10.01 **Алімпійскія рэфлексіі (1)**

2000.10.08 **Алімпійскія рэфлексіі (2).** Гімн бяз мовы

2000.10.15 **Тапанімічная рэвалюцыя.** З удзелам С.Харэўскага і З.Бартосіка.

2000.10.22 **Беларусь па-за сталіцамі.** Нататкі па дарозе зь Вільні на Полацак.

*Назвы вёсак літоўцы перайначылі на літоўскі лад, часам перакладаючы сэнс, як, напрыклад, здарылася зь Вялікім Сялом — яно цяпер называецца Дзіджасаліс. Часам назва перакладзеная напалову: Ужбалацiс — гэта, ясная рэч, Забалацьце. А часам — проста запісваючы літоўскімі літарамі, як, напрыклад, зрабілі з Андрэяўкай. Цікава, што перапісвалі менавіта зь беларускага арыгіналу, захоўваючы гэтае «яў». Шэдэўр новай тапанімічнай творчасьці — Дзеткаўшчына. Яна цяпер называецца Деткаўшчызна. У адным слове сышліся адразу чатыры мовы. Ад расейскай тут «Дет», ад беларускай — «аў», ад польскай — «з», і ўрэшце ўсё перададзенае літоўскімі літарамі. Праўда, у выніку гэта не гучыць ні на якой мове. У ваколіцах Вільні, блізка да сталіцы, пасьлядоўна перакладзена ўсё. А сюды, на ўскраек, літуанізацыя дайшла ўжо слабейшай, без таго імпэту, што на Віленшчыне...*



2000.10.29 **Яцак Крышталевіч — гарадзкі вар'ят**

2000.11.05 **Вільня, Вялікая Пагулянка, 1920-я.** Па-беларуску, па-француску, па-польску. Гарэцкі — Гары — Фэдэцкі. Нататкі С.Харэўскага з удзелам З.Фэдэцкага.

2000.11.12 **«Пайшла ты, любая...»** Саматэвічы. Забыты адрас культуры. Падарожжа З.Бартосіка.

2000.11.19 **Таварыства Мёртвых Паэтаў.**

*Самы трагічны дзень у гісторыі беларускай літаратуры — 29 кастрычніка 1937 году, калі ў Менску было расстраляна адначасова дваццаць літаратараў. На наступны дзень, 30-га, дастрэлілі яшчэ трох...*

2000.11.26 **Лёзунгі Случчыны.** З удзелам С.Шупы, З.Бартосіка і С.Харэўскага.

2000.12.03 **Раман Семашкевіч і іншыя рэпрэсаваныя мастакі.**

*С.Харэўскі: На пачатку 1930-х былі арыштаваныя Ібрагім Гембіцкі, Міхась Філіповіч, Міхал Станюта. Але ім, можна сказаць, пашэнціла. Неўзабаве яны павярталіся дахаты. У 39-м выпадкова ўцёк з арышту ў Вялейцы Ўладзіслаў Страмінскі, ён перабраўся ў Нямеччыну. Выжыў. Адным зь першых быў забіты Ўладзіслаў Галубок. Ня толькі літаратар, актор і рэжысэр, але й мастак. Яго расстралялі ў 37-м. Пра тыя гады я*

*папрасіў распавесьці зяця Галубка, беларускага мастака Яўгена Ціхановіча.*
*Я.Ціхановіч: Гадлеўскі Эдуард, пасьля параду фізкультурнікаў выслалі ў Магадан. За тое, што ягоная скульптура Сталіна з пап'е-машэ павалілася. Пасьля адседкі ў Менск не вярнуўся... Змудзінскага, які рабіў малюнкі да буквароў, выслалі ў Сібір за тое, што быў у мінулым афіцэрам «царскага рэжыму». Абрамаў, мастак-графік, зрабіў, між іншым, геаграфічныя мапы ў Белдзяржвыдавецтве. Меў хату й вялікі сад. Але ўлады захапілі ягоны пляц і пабудавалі там Лечкамісію. Ён пачаў абурацца, што й стала падставаю ягонага арышту й высылкі, дзе ён і памёр... Кашкель — мастак-графік, працаваў у Белдзяржвыдавецтве, але ягоны бацька пры нэпе меў вялікі магазін. Толькі гэта й стала падставаю для ягонага арышту й высылкі... Настаўнікі Віцебскага мастацкага тэхнікуму браты Даркевічы. Пётра Даркевіч выкладаў мастацтвазнаўства, а ягоны родны брат Хрыстафор — манумэнтальны жывапіс. Бацька іхны меў свой вялікі млын. Таму іх арыштавалі й расстралялі... Мінін выкладаў у тым самым тэхнікуме графіку, а ў мінулым быў афіцэрам царскага войска. Арыштаваны быў у 37-м. Расстраляны...*

2000.12.10 **Сто беларускіх кніг 20 ст.** З удзелам С.Харэўскага.
*Бывай, 20 стагодзьдзе. Мы сыходзім. Мы пакідаем гэты пыльна-фіялетавы Аўганістан у руінах. Мы яшчэ доўга будзем згадваць цябе, 20 стагодзьдзе. Твае рэвалюцыі й войны, курапаты, хатыні, чарнобылі. А што сьветлага — дык хіба нешта асабістае, кожнаму сваё, зь дзяцінства. Сьветла заўсёды наперадзе. Бо мы сыходзім фатальна і незваротна. Мы сыходзім і гасім за сабою сьвятло...*

2000.12.24 **Радзіма менскіх дамавікоў.** Забыты адрас культуры. Дасьледаваньне З.Бартосіка з удзелам А.Глёбуса, В.Шніпа, М.Анемпадыстава, Ул.Сьцяпана, Ул.Арлова.



2000.12.31 **Нью-Ёрк, Нью-Ёрк...** Навагодняя гутарка З.Бартосіка з С.Адамовічам.

2001.01.07 **Юбілеі 2001-га.** Год Янкі Лучыны. З удзелам С.Харэўскага.

2001.01.14 **Стары Новы год у Каралішчавічах.** Гутарка З.Бартосіка з Р.Барадуліным:
*«Гісторыя гэтага доміка чыста савецкая... Пасьля вайны быў старшыня Савету Міністраў Наталевіч. Гэта было яго паляўнічае лецішча. Тут зьбіраліся, рабіліся п'янкі. І Наталевіч любіў паляваць на зайцоў. Ён за ноч заганяў «козьліка», машыну. Гэта пасьля вайны адразу. Калі партызанам, якія ваявалі за савецкую ўладу, завесьці каня не было як. Для Наталевіча былі машыны, каб паляваць на зайцоў. Фарамі асьвятляюць, у фарах гоняць зайца, і... пакуль заяц ня тропнецца ад разрыву сэрца. Мы яшчэ жартавалі: ён баіцца закасіць лінію генэральную, заяц...»*

2001.01.21 **Праекты веку ў Беларусі 20 ст.** З удзелам С.Харэўскага.

2001.01.28 **Шпацыр па старой Нямізе.** Гутарка З.Бартосіка з Ул.Бярберавым.

2001.02.04 **Загадка Караткевіча**

2001.02.11 **10 падзеяў тысячагодзьдзя.** С.Шупа пра кнігі Ф.Скарыны. С.Харэўскі пра рэформы каралевы Боны. А.Лукашук пра тры беларускія рэспублікі: БНР, БССР, РБ.

2001.02.18 **Вальжына Цярэшчанка.** Падарожжа З.Бартосіка ў Гомель.

2001.02.25 **Вобраз Хрыста ў сучасных беларускіх мастакоў.** Гутарка С.Харэўскага з С.Покладам, Э.Падбярэскім, В.Янушкевічам, А.Пушкіным.

2001.03.04 **Друскенікі ў лютым**

2001.03.11 **Падарожжа ў 20 стагодзьдзе**

2001.03.18 **Маральныя аўтарытэты:** у беларусаў і ў суседзяў, раней і сёньня. З удзелам С.Харэўскага, В.Корзуна. Вулічнае апытаньне З.Бартосіка.

2001.03.25 **Беларускія імёны.** З удзелам С.Шупы.

2001.04.01 **«Сыліконавае» пакаленьне.** З удзелам С.Харэўскага.

2001.04.08 **Новая кніга Алеся Адамовіча (1).** Пра тры

апошнія аповесьці, надрукаваныя пад адной вокладкай у выдавецтве «Наша Ніва».
2001.04.15 **Новая кніга Алеся Адамовіча (2)**
2001.04.22 **Новая кніга Алеся Адамовіча (3).** З удзелам К.Шэрмана, Р.Барадуліна, Вал.Тараса, А.Глёбуса і А.Лукашука.
2001.04.29 **Пасаджэньне на кол (1)**
2001.05.06 **Пасаджэньне на кол (2)**
2001.05.13 **Мова як апошняя ахвяра дэмакратыі.** Занатоўкі З.Бартосіка з удзелам І.Герменчука, К.Высоцкай, А.Уліцёнка:
*«...І я думаю, што калі Беларусь захавае сваю незалежнасьць, яна здолее ўвайсьці ў эўрапейскі дом на першай пары нават расейскамоўнаю. Расейскамоўная Беларусь у эўрапейскім агульным доме — гэтая карціна бачыцца мне рэальнай».*
2001.05.20 **Януш Радзівіл і Чарнобыль.** З удзелам С.Харэўскага.
2001.05.27 **«Наша Ніва»: 10 гадоў язды.** З удзелам С.Харэўскага і І.Луцкевіча.
2001.06.03 **Менск будуецца: куды і навошта?** З удзелам С.Харэўскага. Расповед З.Бартосіка пра паездку ў Барань.
2001.06.10 **Янка Лучына і Васіль фон Роткірх.** З удзелам А.Аркуша і С.Харэўскага.
2001.06.17 **Забыты адрас: Мархачоўшчына.** Нататкі З.Бартосіка.
2001.06.24 **Янка Лучына і Максім Багдановіч**
2001.07.01 **Менск бяз вуліцы Замкавай.** З удзелам С.Харэўскага.
2001.07.08 **Вера і нявера ў Беларусь.** З удзелам С.Харэўскага і А.Аркуша.
2001.07.15 **Барада Шчукіна.** З удзелам С.Харэўскага.
2001.07.22 **Джэром Сэлінджэр**
2001.07.29 **Беларускі буквар:** ня самая прыгожая кніжка ў кнігарні. Гутарка З.Бартосіка з А.Глёбусам. Занатоўкі С.Харэўскага.
2001.08.05 **Беларуская культура празь сем гадоў.** З.Бартосік апытвае В.Шніпа, А.Федарэнку, А.Памідорава, Л.Вольскага, А.Кулінковіча, С.Курс, З.Падбярэскага, Г.Сагановіча, М.Анемпадыстава.



2001.08.12 **Вячаслаў Адамчык.** Апошняе інтэрвію. Гутарка З.Бартосіка.
2001.08.19 **Рукапіс, знойдзены ў гатэлі.** З удзелам С.Харэўскага і А.Аркуша.
2001.08.26 **Летнія імпрэсіі. Русалка на калінінградзкім саборы.** С.Харэўскі пра віленскія мэмарыяльныя шыльды. А.Аркуш пра ідэальнае тло культуры.
*Калінінградзкі постмадэрніст Аляксандар Пападаў напісаў кнігу пра сваю радзіму. І вось як ён тлумачыць паходжаньне русалкі на флюгеры Катэдральнага сабору:*
*«У «Палявым вызначальніку прыбалтыйскіх русалак» нашай русалкі я не знайшоў ані ў сямействе Прыўкраснавалосых, ані ў сямействе Галацыцых, ані ў сямействе Плакальніцаў, што недвухсэнсоўна сьведчыць пра яе нетутэйшае паходжаньне. Зь якога ж боку ідзе яе радавая лінія? З Усходу ці з Захаду? Мяркую ўсё ж такі, што з Усходу прыйшла русалачка, а дакладней, зь Беларусі, бо там у фальклёры ёсьць абшырная радня нашай, і сярод радні так званая «Русалка — жалезная цыцка». Вось адкуль, значыць, вецер дзьме!»*
2001.09.02 **Цэнзура**
2001.09.09 **«Восень патрыярха»**
2001.09.16 **Амэрыканская трагедыя**
2001.09.23 **Краявід. Ураджай. Яблыкі.** Галоўны матыў беларускага выяўленчага мастацтва 20 ст. З удзелам С.Харэўскага, Р.Мячкоўскага, А.Аркуша, А.Глёбуса, З.Падбярэскага, М.Баразны.
2001.09.30 **Экскурсія ў няісны музэй.** Згадкі С.Харэўскага пра менскі дом на Дзімітрава, 3. Падарожныя нататкі З.Бартосіка.
2001.10.07 **Максім Танк: таямніца імя.** З удзелам С.Харэўскага і З.Бартосіка.
2001.10.14 **Калі пісаліся «Лісткі календара»?** Гутарка З.Бартосіка з А.Лісам.
2001.10.21 **Кніжны агляд.** А.Антанян пра беларускі нумар часопіса «Мятай». С.Харэўскі пра кнігу Т.Венцлавы «Вільня».
2001.10.28 **Магіла Каліноўскага**
2001.11.11 **Ці магчымая праўда пра сучасную вайну?**

2001.11.18 **Кен Кізі**
2001.11.25 **Фэномэн Ермаловіча.** З удзелам Т.Поклад, М.Казлоўскага, Г.Далідовіча, А.Ермаловіч, М.Чарняўскага.
2001.12.02 **Партрэт пакаленьня на фоне музыкі *The Beatles*.** Памяці Гарысана. З удзелам А.Аркуша, В.Вячоркі, А.Глёбуса.
2001.12.09 **Дзіцячыя хаўтуры**
2001.12.16 **Філязофія гораду: Вільня і Менск.** З удзелам Т.Поклад, С.Харэўскага, І.Чарняўскага, Г.Мікнявічэне.
2001.12.23 **Нацыянальныя прэміі — падобныя да калядных падарункаў.** З удзелам С.Харэўскага, В.Маркаўца, А.Глёбуса, А.Аркуша, А.Дынько.
2001.12.30 **Чалавек інфармацыйны замест савецкага.** З удзелам А.Аркуша. З.Бартосік пра магілу Я.Лучыны на менскай Кальварыі.
2002.01.06 **Калядныя гісторыі пра нацыянальнае пакаяньне.** З удзелам С.Харэўскага і З.Бартосіка.
2002.01.13 **Стары Новы год з Рагнедай Раманоўскай.** Гутарка З.Бартосіка.
2002.01.20 **Інтымныя занатоўкі Максіма Багдановіча.** З удзелам С.Харэўскага, З.Бартосіка, А.Астраўцова, А.Глёбуса, П.Качатковай.
2002.01.27 **Пэгі Лі**
2002.02.03 **Рэзыдэнт Беларусі Цімох Вострыкаў.** Гутарка З.Бартосіка.
2002.02.10 **Падарожжа ў Солт-Лэйк Сіці з думкай пра нацыянальную ідэю.** С.Харэўскі пра спорт у беларускім мастацтве.
*У Солт-Лэйк Сіці на захадзе ЗША нішто не нагадвае пра Беларусь. Ані засьнежаныя скалістыя горы; ані салёнае возера, па краёх якога не расьце ні аер, ні чарот, ні трысьнёг; ані сама гэтая бязьмежная разложыстая даліна, застаўленая дамкамі аднапавярховае Амэрыкі; ані здаровыя й прыветныя твары тутэйшых насельнікаў-мармонаў, быццам ажылыя плякатныя вобразы амэрыканскае мары; ані сьпевы тутэйшага хору, так падобныя і так не падобныя да савецкіх радыёмаршаў.*
*Сёньня ў Солт-Лэйк Сіці найбольш не нагадваюць пра Беларусь зімовыя алімпійскія гульні. Пераносячыся ў думках туды, на Дзікі Захад, я раптам зразумеў, наколькі мы неспартовая нацыя. Наша культура не прысьвяціла гэтай тэме аніводнага заўважнага твору. І самае паказальнае ў гэтай справе — прыгожае пісьменства. Стоячы перад паліцаю са зборамі твораў Купалы і Коласа, Караткевіча і Танка, Мележа і Быкава, я мусіў канстатаваць: нічога спартовага ў беларускай літаратуры няма.*



2002.02.17 **Вяртаньне фантазіі: віленскі Музэй.** З удзелам С.Вітушкі. Гутарка Т.Поклад з Г.Дрэмайтэ пра часопіс «П’ювіс».
2002.02.24 **Беларускія брэнды.** З удзелам З.Бартосіка, А.Клінава, С.Харэўскага, М.Анемпадыстава.
2002.03.03 **Год Віктора Гюго.** З удзелам Т.Поклад.
2002.03.10 **Клюшчанскі куст Казімера Сваяка.** Падарожжа З.Бартосіка. З удзелам А.Марозіка.
2002.03.17 **Бабруйск. 1960-я.** Эсэ пра дзяцінства В.Каракорскага.
2002.03.24 **Ці адказныя беларусы за галакост?** З удзелам Я.Гутмана, А.Райчонак і В.Каракорскага.
2002.03.31 **Нераскрытыя справы гісторыі.** З удзелам Ул.Ляхоўскага.
2002.04.07 **Краіны-блізьняты Беларусь і Зымбабвэ.** З удзелам Т.Поклад.
2002.04.14 **Віленская анталёгія**
2002.04.21 **Забойства жывёлаў.** Недасканалы сьвет. З удзелам Т.Поклад і С.Харэўскага:
*«Што адбывалася б, калі б людзі ўсё ж адпусьцілі на волю тых істотаў, якіх стварылі на свой капыл? Гэткія прыклады ёсьць: мустангі ў Амэрыцы й на поўдні Францыі, вярблюды й буйвалы ў Аўстраліі, сабакі, каты ды галубы па ўсім сьвеце. Але гэта выключэньні, што вытлумачваюцца выпадковым зьбегам рэдкіх прыродных перадумоваў. Ну, а куды сыдзе сьнежнай зімою кабан польска-кітайскае пароды, больш за тону вагою, ламаючы ногі ад уласнага цяжару? Альбо куды дзенецца нядоеная карова з поўным вымем малака?..»*
2002.04.28 **Нацыя паэтаў і яе хросныя бацькі**

2002.05.05 **Вайсковыя лісты.** Памяці І.Герменчука.
2002.05.12 **Гімнаманія.** З удзелам Т.Поклад, С.Астраўцова і А.Аркуша.
2002.05.19 **«Дон Кіхот» — найлепшая кніга на ўсе часы**
2002.05.26 **Арабска-ізраільскі канфлікт у беларускім кантэксьце.** З удзелам В.Каракорскага.
2002.06.02 **Сьмех і грэх: віленскі гумар.** З удзелам Т.Сапач, Г.Войцік, Д.Кузіневіча.
2002.06.09 **Груша па-над дняпроўскаю стромай.** Забыты адрас культуры. Падарожжа З.Бартосіка ў Рагачоў з удзелам А.Рыкунова, Васіля Максімавіча, М.Кірэйшына і С.Грынкевіча:
*«Во тут з Караткевічам цырк быў. Едзем мы на лодцы, а ён сядзіць на носе. Рукі во так у вадзе. Рана-раніца. І тут на табе! Праскоквае тапельніца. Ужо да таго разлажылася!.. Караткевіч рукі падымае: «Дзядзька, што мне дзелаць!?» Ну, мы гэтую тапельніцу — к берагу. А ён гэта... ня знае, што з рукамі з гэтымі рабіць. У вадзе ж былі...»*
2002.06.16 **Біржа эмігрантаў.** Эсэ В.Каракорскага.
2002.06.23 **Стаянка першага чалавека**
2002.06.30 **Мундыяль як сьвята і вайна.** З удзелам С.Харэўскага, З.Бартосіка, С.Астраўцова, С.Квяткоўскага.
2002.07.07 **Янка Купала: *fantasy* з раскрытых курганоў.** З.Бартосік пра запісы голасу Купалы. С.Харэўскі пра Бяларучы:
*«...У нашую праграму ўваходзіла таксама малявньне людзей з натуры. Самае цяжкое было — дамовіцца зь вяскоўцамі, каб пазіравалі. Нарэшце, азваўся адзін калярытны вусаты дзед. Сядзеў ён нерухома, ціха. Але пачуўшы, як мы, юнакі, гаворым міжсобку па-беларуску, без папярэдніх уводных словаў раптам сказаў: «А тое, дзеткі, што вам кажуць, нібы Купала мужыком быў, дык вы таму ня верце! Мы ўсе ў школу ў лапціках прыходзілі, а ён — у боціках...»*
2002.07.14 **Грошы**
2002.07.21 **Ігнат Дамейка.** З удзелам С.Квяткоўскага і А.Мальдзіса.



2002.07.28 **Чаму беларусы не гавораць па-свойму?** Вулічнае апытаньне З.Бартосіка.
2002.08.04 **Віленская археалёгія.** З удзелам Т.Поклад, Г.Рацкявічуса, А.Трусава і Г.Вайткявічуса.
2002.08.11 **Элвіс Прэсьлі**
2002.08.18 **«Крывавае сьвята»**
2002.08.25 **Гараць тарфянікі...** Новае пра Адама Міцкевіча.
*У нас часта цытуюць словы Міцкевіча зь ягонае лекцыі ў Калеж дэ Франс — пра беларускую мову, самую гарманічную і з усіх славянскіх моваў наймені зьмененую. Аказваецца, гэта прамаўляў зусім не салідны прафэсар, які роўным голасам надыктоўвае слухачам свае вынашаныя адкрыцьці. Лекцыі Міцкевіча ў Калеж дэ Франс суправаджаліся сцэнамі псыхадрамы — з крыкамі і гістэрыкай. Чалавек, які ведаў, што ён сапраўды прызнаны вялікі паэт, нічога ня мог з гэтым зрабіць — са сваім геніем. Гэта ніякім чынам не дапамагала яму ў практычным жыцьці. Верагодна, такая прорва паміж уласнай значнасьцю і ўласнай жа тут, на эміграцыі, мізэрнасьцю і прымушала яго зрывацца на крык.*
2002.09.01 **Алесь Адамовіч**
2002.09.08 **Пэрфоманс як тэракт.** Гутарка з А.Клінавым. Размова С.Квяткоўскага з П.Канавальчыкам. З удзелам В.Каракорскага і С.Вітушкі.
2002.09.15 **Часопіс «Дзеяслоў».** Гутарка з Б.Пятровічам.
2002.09.22 **Кім Хадзееў — менскі культурны герой.** Нататкі З.Бартосіка з удзелам Ул.Мацкевіча, А.Анціпенкі, К.Тарасава, А.Белавусава і І.Пісьменнай.
2002.09.29 **Віленская беларуская спадчына.** З удзелам Т.Поклад.
2002.10.06 **Падарожжа на радзіму М.Танка.** Занатоўкі З.Бартосіка і С.Квяткоўскага з удзелам В.Глінскага і землякоў М.Танка.
2002.10.13 **Пяць гадоў «Вострае Брамы».** З удзелам С.Харэўскага. Апытаньне С.Квяткоўскага на вуліцы і сярод студэнтаў. Апытаньне З.Бартосіка з адказамі І.Бабкова, А.Глёбуса, А.Федарэнкі,

Ул.Сьцяпана, Б.Пятровіча, Л.Сільновай, В.Шніпа, Л.Галубовіча, Л.Рублеўскай, А.Пашкевіча.
*А.Лукашук: «Я ня ведаю жанравага вызначэньня перадачы «Вострая Брама» — сёньня, пасьля пяці гадоў у этэры, падыходзіць любое, у тым ліку — энцыкляпэдыя. Энцыкляпэдыя пошуку і адкрыцьцяў нацыянальнага культурнага кантэксту на мяжы стагодзьдзяў.*
*Гэтая перадача ўспрымаецца многімі слухачамі і архітэктурна-літаральна — як храм. Часам слухачы спрачаюцца з казаньнямі, якія гучаць у «Вострай Браме» — і тады яны шлюць эмацыйныя лісты, у якіх не пагаджаюцца з ацэнкамі, аспрэчваюць высновы, палемізуюць з аўтарамі. Гэта азначае, перш за ўсё, што перадача жывая і ўплывае на жыцьцё.*
*На Радыё Свабода мы штодня пішам зьмест праграмаў па-ангельску, у тым ліку назвы перадачаў. Існуюць агульнапрынятыя пераклады назвы Вастрабрамскай царквы на ангельскую мову, але мы пішам па-беларуску, лацінкай — Вострая Брама не перакладаецца. Ці, дакладней, наадварот — не патрабуе перакладу».*
2002.10.20 **Бабруйская багема.** Эсэ В.Каракорскага.
2002.10.27 **«За кулісамі» літаратурнага жыцьця.**
Гутарка З.Бартосіка з Вал.Тарасам:
*«Тады быў час, калі ўсіх апраналі ў форму: пракуратуру, міліцыю, суды, чыгуначнікаў, службоўцаў розных міністэрстваў... І Макаёнак пусьціў пагалоску, што — ён ужо гэта ведае дакладна, яму па сакрэце ў ЦК сказалі, — што ўводзяцца форма і званьні для пісьменьнікаў. Будзе пачынацца адразу з малодшага лейтэнанта. Малодшы лейтэнант, лейтэнант, старэйшы лейтэнант, капітан, маёр, падпалкоўнік, палкоўнік і генэрал. Ну, і нейкі мундур прыдумваецца, такі вось пад сюртук, а на пагонах будуць скрыжаваныя пёры. І што ўжо распрацоўваецца сьпіс, каму які... І што вы думаеце? Сур'ёзныя, дарослыя людзі клюнулі на гэта. І Кірэенка пытаецца (я пры гэтым прысутнічаў): «А мне якое званьне?» Андрэй кажа: «Здаецца, капітан». «А чаму капітан?» «Ну, ня ведаю, чаму». «А ты хто?» «Ну, мне казалі, што я нібыта маёр». «А чаму ты маёр, а я капітан?» І гэта на поўным сур'ёзе пачалі абмяркоўваць... А тады Маўзон, ён быў прыяцелем Макаёнка, пытаецца: нуб ладна, Андрэй, раскажы мне, а хто я буду? Андрэй на яго паглядзеў, кажа: «Табе наагул ніякага званьня не прысвояць. Табе проста памяняюць псэўданім. Ты будзеш не Аркадзь Маўзон, а Публій Авідый Маўзон». І тут усе грохнулі, і зразумелі, што гэта жарт. Прыкол, як цяпер кажуць...»*



2002.11.03 **Антысавецкая літаратура**
2002.11.10 **Цётка: галоўны матыў творчасьці.** З удзелам Т.Поклад, Н.Пяткевіч, Л.Плыгаўкі.
2002.11.17 **Міхась Машара: яркі заходні паэт і бляклы савецкі празаік.** З удзелам Г.Войцік, Т.Поклад, С.Харэўскага, С.Вітушкі. Нататкі З.Бартосіка з паездкі на радзіму Машары і сустрэчы зь ягонымі сваякамі, з удзелам Мялеція Машары і А.Райчонак.
2002.11.24 **Геннае адзінства беларускага мастацтва.** Гутарка С.Харэўскага з І.Сурвілай.
2002.12.01 **Песьні старога Менску.** Гутарка З.Бартосіка з М.Герчыкам.
2002.12.08 **Рамадан, Ханука, Каляды.** З удзелам В.Каракорскага.
2002.12.15 **Белае і чорнае. Літаратура безвыходнасьці.** Пра кнігу В.Адамчыка «Нязрушаны камень»
2002.12.22 **Купала і Курапаты**
2002.12.29 **Інтэлектуальныя вынікі году.** З удзелам В.Каракорскага. А.Антанян пра маршрут дзядзькі Антося ў Вільні. Гутарка З.Бартосіка з А.Курэйчыкам.
2003.01.05 **Юбілейныя даты 2003-га**
2003.01.12 **Прэзыдэнт — ідэальны зяць**
2003.01.19 **Беларушчына і кланаваньне**
2003.01.26 **Менск: горад, складзены зь вёсак**
2003.02.02 **Чысты геній.** Памяці Ул.Мулявіна. З удзелам В.Вячоркі, З.Бартосіка, В.Бартлавай і Л.Бартлава:
*«Я яму кажу: Валодзя, ты нядрэнна сьпяваеш, а чаму ты па-беларуску не гаворыш? Ён кажа: «Мне*

*Бог даў адно, і я не магу падмешваць сабе другое». Ён даў яму песьню».*

2003.02.09 **Гавал — прэзыдэнт надзеі.** З удзелам Л.Баршчэўскага.

2003.02.16 **«Рэспубліка-партызанка»**

2003.02.23 **Публічная мова.** С.Квяткоўскі размаўляў з М.Івашыным, Л.Вольскім, А.Кулінковічам. Гутарка з С.Абламейкам пра ягоную кнігу афарызмаў. Размова З.Бартосіка з А.Глёбусам. Нататкі пра афарызмы Віт.Тараса і В.Каракорскага. Гутарка С.Квяткоўскага з М.Халезіным, А.Лябедзькам, З.Бандарэнкам, П.Краўчанкам.

2003.03.02 **«Вахцёрская ўлада».** З удзелам С.Харэўскага, З.Бартосіка, Віт.Тараса і А.Чакуоліса.

2003.03.09 **Тодар Кляшторны**

2003.03.16 **Пра беларускі тэрарызм.** З удзелам С.Харэўскага.

2003.03.23 **Дзень Волі-2003.** З удзелам С.Харэўскага і З.Бартосіка.

2003.03.30 **Што ў Беларусі паказаць замежніку?** Гутарка С.Квяткоўскага з Д.Раманюком, В.Акудовічам, В.Каліноўскім, І.Кашталян, А.Клінавым, А.Памідоравым, А.Клешчуком. З удзелам С.Харэўскага і З.Бартосіка.

2003.07.05 **Нацыянальная ідэя (1).** Пра ідэалёгію ў Літве — В.Каракорскі, у Польшчы — Я.Максімюк, у Расеі — П.Вайль.

2003.07.12 **Нацыянальная ідэя (2).** Пра ідэалёгію ў ЗША — А.Сёмуха, у Нямеччыне — А.Панкратава.

2003.07.19 **Нацыянальная ідэя (3).** Званкі на «Свабоду». Апытаньне абітурыентаў — Г.Абакунчык.

2003.07.26 **Беларускі бізнэс.** З удзелам З.Бартосіка, Ул.Мацкевіча.

2003.08.02 **Духоўны лідэр.** Званкі на «Свабоду». Вулічнае апытаньне Г.Абакунчык.

2003.08.09 **Чаму закрылі Ліцэй? (1)**

2003.08.16 **Чаму закрылі Ліцэй? (2)** З удзелам Л.Рублеўскай і З.Бартосіка.

2003.08.23 **Мабільнікі па-беларуску.** Дасьледаваньне Ю.Шаровай з удзелам В.Вячоркі, С.Кручкова, В.Стахіевіча, А.Трусава, Г.Мацура, Л.Вольскага.



2003.08.30 **Дзе ў постсавецкіх краінах лепшае жыцьцё?** Званкі на «Свабоду».

2003.09.06 **Моўная меншасьць — маральная большасьць.** Партрэтныя абразкі З.Бартосіка.

2003.09.13 **Ці ёсьць у Беларусі глеба для антысэмітызму?** Званкі на «Свабоду». Камэнтар В.Каракорскага.

2003.09.20 **Натальля Арсеньнева. Таямніца творчасьці**

2003.09.27 **Залаты ланцуг.** З удзелам А.Глёбуса, А.Дашкевіча, А.Вітушкі, Г.Барвенавай.

2003.10.04 **Натальля Арсеньнева. Доры**

2003.10.11 **Ці расейцы ў Беларусі — нацыянальная меншасьць?** Т.Поклад пра расейцаў у Літве. Занатоўкі З.Бартосіка.

2003.10.18 **Сучасная беларуская літаратура.** З удзелам Г.Вінярскага, І.Логвінава.

2003.10.25 **Чым Беларусь магла б праслявіцца ў сьвеце?** Пра знаходку магілы бацькоў Н.Арсеньневай.

*З.Бартосік: Ва ўспамінах паэтка згадвае свайго бацьку Аляксея Арсеньнева, які памёр у Вільні ў 1926 годзе. Дадам, што сям'я была праваслаўнай. Гэтых зьвестак дастаткова, каб адправіцца на віленскую Ліпоўку — старыя праваслаўныя могілкі.*

*Настаяцель царквы, айцец Уладзімер, дарэчы, беларус з Мастоў, да маёй справы паставіўся вельмі паважна. І, адклаўшы свае клопаты, адшукаў старыя кнігі з вопісам міжваенных пахаваньняў. Прагглядаючы разам старонку за старонкай, мы ў разьдзеле, прысьвечаным 24-му ўчастку, неўзабаве знайшлі наступны запіс. «Алексей Арсеньев, 1926 год, Надежда Арсеньева, 1913 год». Побач давалася апісаньне магілы. «Камень, высокі мармуровы крыж, жалезная агароджа». Участак 24 знаходзіцца паміж Лысаю гарой і Шкаплернай вуліцай. Сёньня гэта вуліца Дзуку.*

*Сапраўды, праз колькі часу мы пабачылі магілу Марыі Рыбнікавай, а побач магілы сям'і Дзегцяровых. Згодна з кнігай, побач павінна была быць агароджа Арсеньнеўскага могільніку. І вось ён,*

*зарослы травою грудок і камень пры самай сьцяжыне. На камені — сьлед ад крыжа, шыльда таксама сарваная. Але сумневаў у нас не было. Айцец Уладзімер пайшоў па сваіх справах, а я застаўся каля сямейнай магілы Арсеньневых. Такім чынам, зьявіўся яшчэ адзін беларускі віленскі адрас. І тым, каму дарагая творчасьць Натальлі Арсеньневай, ёсьць куды прыйсьці, каб пакласьці кветкі.*

2003.11.01 **Дзяржаўная ідэалёгія — адна на ўсіх.** З удзелам В.Карцава.

2003.11.08 **Вацлаў Ластоўскі. «Лябірынты».** З удзелам В.Мудрова, Ул.Ісаенкі, Э.Зайкоўскага: *«Пэўная праўда ў гэтым ёсьць. Я сапраўды некалі быў на гэтым возеры, таму што ў нейкай меры абапіраўся на зьвесткі зь «Лябірынтаў». Ну і, акрамя таго, у 1928 годзе выйшла такая праца Міхала Мялешкі «Камень у вераваньнях і паданьнях беларусаў». Дык там згадвалася, што на востраве Богінскага возера быў знойдзены каменны ідал з адбітай галавой і складзенымі на грудзях рукамі, які мясцовае насельніцтва называла стод. Дык вось я вырашыў адшукаць сьляды гэтага стода. І ў 1986 годзе ў час правядзеньня археалягічных разьведак мы спэцыяльна паехалі на возера Богінскае...»*

2003.11.15 **Лукаш Бэндэ**

2003.11.22 **Куды падзецца мільён эўра?** На пытаньне С.Квяткоўскага адказваюць вулічныя мінакі, а таксама М.Анемпадыстаў, А.Кулінковіч, М.Халезін, В.Шчукін, А.Лябедзька, М.Статкевіч, А.Андрэева, П.Батуеў, Ц.Дранчук, Ю.Глушакоў, А.Сюдак, А.Солтан, Ж.Грынь, Ю.Зянковіч.

2003.11.29 **Суд над камунізмам.** З удзелам В.Каракорскага і А.Лукашука. Гутарка Г.Соусь з М.Крывальцэвічам, М.Кляшторнай.

2003.12.06 **Падзея году: час пайшоў.** Званкі на «Свабоду».

2003.12.13 **Марцін Кухта**

2003.12.20 **Юбілеі-2004.** З удзелам А.Лукашука.

2003.12.27 **Навагоднія правакацыі.** Гутарка з Ул.Коласам: *«Дарэчы, Брыгадзін сышоў у адстаўку, ён не падпісаў загаду аб ліквідацыі ліцэю. Падпісаў Аляксандар Жук — калега, так сказаць, зь якім разам мы пачыналі. Ён ствараў ліцэй БДУ, а я — Беларускі гуманітарны ліцэй. Хадзілі разам па кабінэтах. І ён падпісаў гэты загад, рука ня дрогнула».*



2004.01.04 **...і каб усё было харашо.** Навагоднія зычэньні.

2004.01.11 **«Чужая Бацькаўшчына».** 20-я ўгодкі кінастужкі. Расповед З.Бартосіка з удзелам А.Бабковай, В.Рыбарава і Ф.Кучара: *«Я прачытаў гэты раман і, можна сказаць, лётаў, як дурны, па студыі, даваў чытаць розным рэжысэрам. Прычым, пераважна гэта былі людзі мясцовыя, тутэйшыя. Зь вёскі, зь мястэчка. Карані тут. Але яны ў гэтым ня бачылі адпраўной кропкі мастацтва. Вось што ўразіла. А як узьнік Рыбараў? Выпадак. Мы зь ім працавалі. Мы ведалі адзін аднаго. І вось я яму таксама даў чытаць Адамчыка. І ён за гэта ўхапіўся. Хоць сам мовы ня ведаў. Але адчуў, што гэта мастацтва».*

2004.01.18 **Скарына для сьляпых.** Расповед З.Бартосіка з удзелам З.Смаляка і Г.Крывашэй. Сюжэт Т.Поклад з удзелам В.Талочкі.

2004.01.25 **Чэслаў Немэн.** З удзелам В.Вячоркі. Гутарка С.Астраўцова з Ул.Кіслым. Паведамленьне А.Дзікавіцкага з удзелам Г.Франковяк, Л.Тарасэвіча.

2004.02.01 **«Песьня філярэтаў».** 200-я ўгодкі А.Адынца. Гутарка З.Бартосіка з Ул.Мархелем і А.Мальдзісам.

2004.02.08 **Аляксандар Салжаніцын. Жыць без ілжы**

2004.02.15 **«Жлобская нацыя».** Гутарка З.Бартосіка з В.Шалкевічам.

2004.02.22 **Ларыса Александроўская.** Гутарка З.Бартосіка з Ю.Андрэевай і Ул.Някляевым: *«...Яна мне расказвала і пра сьмерць Купалы. Яна ж тады ў Маскве была, у той дзень і ў тым гатэлі, і нават называла прозьвішча чалавека, які нібыта выканаў тую місію — забойства Купалы. Яна мне клялася, што так усё і было. Маўляў,*

*прыйшоў Панамарэнка, лаяўся, і названае было прозьвішча гэтага чалавека ў тым кантэксьце, што занадта старанна саслужыў службу, якой у яго ўжо ня надта прасілі».*

2004.02.29 **Апраўданьне Антона Луцкевіча**

2004.03.07 **Паксасгейт: літоўскі ўрок для Беларусі.** З удзелам Т.Поклад.

2004.03.14 **Беларусы ў Краслагу**

2004.03.21 **Успаміны пра Дзень Волі.** Апытаньне З.Бартосіка з удзелам А.Глёбуса, В.Сёмухі, В.Шалкевіча, Л.Ушкіна, Ул.Арлова, Л.Баршчэўскага, А.Вячоркі, А.Пушкіна, І.Бабкова, А.Хадановіча.

2004.03.28 **«Модныя» часопісы па-беларуску.** Т.Поклад пра часопісы Літвы. Дасьледаваньне З.Бартосіка з удзелам З.Сурскага і А.Вітушкі.

2004.04.04 **НАТО без прапагандысцкіх штампаў.** Гутарка з В.Каракорскім. Вулічнае апытаньне Г.Соусь.

2004.04.11 **А.Рыпінскі ў лёнданскім Тотэнгэме.** Забыты адрас культуры. З удзелам Г.Пікарды, М.Пачкаева, І.Лабацэвіча.
*З.Бартосік: «Калі выйсьці з мэтро «Seven Sisters» і прайсьці направа, вы патрапіце на галоўную вуліцу Тотэнгэма Гай Роўд. Праз мэтраў 150 на правым баку будзе вялікі і ўрачысты, з чырвонай цэглы, будынак каледжа. На супрацьлеглым баку вуліцы, сярод невялічкіх старых дамкоў вы заўважыце белы двухпавярховік з шыльдаю «Дантыст». Менавіта тут паўтара стагодзьдзя таму ў невялікай прыватнай друкарні эмігрант зь Віцебшчыны Рыпінскі выдаваў беларускія кнігі».*

2004.04.18 **Антыамэрыканізм.** З удзелам Вал.Тараса, В.Акудовіча і Ул.Мацкевіча:
*«Амэрыканцаў баяцца імпэрыялісты. Тыя, хто хочуць падпарадкаваць сьвет адной ідэі, адной уладзе, аднаму цэнтру. Амэрыканцы ўяўляюцца імі, як іх ворагі, якія маюць тую самую мэту. І таму яны змагаюцца з амэрыканскім, так бы мовіць, імпэрыялізмам. А амэрыканцы не імпэрыялісты. Яны фэдэралісты. Хобіты. Як той Рэйган, які змагаўся з Імпэрыяй зла. Амэрыканцы — змагары з імпэрыяй. Не для таго, каб усталяваць сваю імпэрыю, а для таго, каб уладкаваць сьвет, у якім кожная маленечкая грамада будзе той лад жыцьця, які ёй падабаецца».*



2004.04.25 **Пагроза беларускага нацыяналізму.** Званкі на «Свабоду». Камэнтар С.Навумчыка.

2004.05.02 **Гістарычнае невуцтва.** Апытаньне на вуліцы і на гістфаку БДУ.

2004.05.09 **Лёнданская лекцыя Прэзыдэнта БНР.** Забыты адрас культуры. З удзелам А.Надсана.
*З.Бартосік: Калі воляю лёсу вы апынецеся ў Лёндане, не палянуйцеся, знайдзіце вуліцу Ліндэн. Гэтая невялікая, паўкруглая вулачка схавалася за стракатай, markup розпастылёвай забудовай Нотынг Гіл Гэйту. Тут, на Ліндэн-стрыт, амаль няма людзей. Нават гукі вялікага гораду сюды ледзь далятаюць. Тут, сярод спакою арыстакратычных дамоў, сярод пыхі рэспэктабэльных мармуровых сходаў, сярод бляску дзьвярных клямак і дасканалых газонаў, здаецца, нічога не нагадвае Беларусі. Але менавіта на гэтай фанабэрыстай Ліндэн-стрыт знаходзіцца адзін цікавы адрас. Бачыце, ледзь не палову вуліцы займае агромністы белы будынак, ад якога проста патыхае спадкаемнымі брытанскімі мільёнамі ды каляніяльнымі стагодзьдзямі. Улетку 1947 году тут, на Ліндэн-стрыт, 47 сабралася сотня маладых беларусаў, вэтэранаў другой сусьветнай, каб паслухаць лекцыю прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка аб прыродных багацьцях Беларусі. Тады, у 47-м, гэты дом купіла ўкраінская грамада. Больш заможныя суседзі аддалі адзін пакой братам-беларусам. За гэтыя гады дом не зьмяніў сваіх гаспадароў. Ля ўваходу па-ранейшаму шыльда на ўкраінскай мове».*

2004.05.16 **Гомельская кватэра Паўлюка Труса.** Падарожжа З.Бартосіка з удзелам Ю.Глушакова і І.Раманенкі.

2004.05.23 **Невядомая вайна (1)**

2004.05.30 **Невядомая вайна (2)**

2004.06.06 **Хто ў Беларусі найвялікшы патрыёт?**

Вулічнае апытаньне З.Бартосіка з камэнтарамі М.Анемпадыстава.
2004.06.13 **Дзень бардзюра.** Падарожжа ў Чарнобыльскую зону.
*Гэтая лёгіка перанятая ўладамі ад бабулі, што ідзе па ягады ў чарнобыльскі лес: ня бачу бяды, дык яе і няма. Ранейшыя кіраўнікі імкнуліся людзей адсяляць і растлумачваць ім нябачную небясьпеку. А гэтыя — наадварот, падыгрываюць таму ўяўленьню, што нічога зьмяняць ня варта. Маўляў, будзем жыць дома, а там — як Бог дасьць. Разьлік просты — калі праўда прафэсара Бандажэўскага патрапіць на тэлеэкраны, цяперашняга электарату Лукашэнкі ў чарнобыльскім рэгіёне ўжо ня будзе ў жывых. А пакуль ён гаворыць тое, што яны думаюць. Агучвае іхныя думкі.*
2004.06.20 **Васіль Быкаў. Нявыкрутка**
2004.06.27 **«Людзьмі звацца».** Вулічнае апытаньне. Гутарка З.Бартосіка з П.Васілеўскім, Б.Пятровічам, Ю.Барысевічам, В.Корзунам, А.Дашкевічам, А.Анціпенкам.
2004.07.04 **Беларуска-літоўскія паралелі.** Гутарка Т.Поклад з В.Ландсбергісам.
2004.07.11 **Беларусь бязь містыкі (1).** Занатоўкі З.Бартосіка з удзелам старой Аўгусты, прадказальніцы, і К.Сяльчонка.
2004.07.18 **Беларусь бязь містыкі (2).** Гутарка З.Бартосіка з В.Фраловым.
2004.07.25 **Новае пакаленьне.** Дасьледаваньне З.Бартосіка з удзелам А.Міхалевіча.
2004.08.01 **Гіпнатычны фільм пра беларускі народ.** Гутарка з В.Корзунам, аўтарам стужкі «Васіль Быкаў. Вяртаньне».
2004.08.08 **Юбілей калгасу (1).** Аповед З.Бартосіка.
2004.08.15 **Юбілей калгасу (2).** Успамін пра савецкае шчасьце.
*...Але ў тым жа і заключалася ідэя тэарэтыкаў камунізму, каб зрабіць людзей шчасьлівымі, збудаваць для іх рай на зямлі. Чалавек самастойны і заможны — вечна ў клопатах. Якое тут шчасьце! А чалавек, пазбаўлены ўласнага розуму, правоў і маёмасьці, — зусім іншая справа. Пралетары ўсіх краін, яднайцеся! Хто не хацеў, тых — усіх да аднаго — закапалі... Гісторыя вучыць, што шчасьлівыя заўсёды вынішчаюць нешчасьлівых, каб абараніць ад іх сваю бестурботную і безмаетную бяспраўнасьць. Затое нешчасьлівыя калгасьнікаў не расстрэльваюць і ў НКВД даносаў на іх ня пішуць, бо занятыя іншым — рухаюць наперад прагрэс, культуру, грамадзтва...*
2004.08.22 **Геграфічны крэтынізм.** Вулічнае апытаньне З.Бартосіка і камэнтар С.Плыткевіча.
2004.08.29 **Ворагі Беларусі ў кантэксьце дзяржаўнай ідэалёгіі**
2004.09.05 **Каляніяльная спадчына: расейскія прозьвішчы.** З удзелам В.Вячоркі і Ул.Арлова.
2004.09.12 **Мы — эўрапейцы. Што гэта значыць?** Занатоўкі і вулічнае апытаньне З.Бартосіка.
2004.09.19 **Лукашэнка і Гітлер**
2004.09.26 **Беларуская мара.** Гутарка З.Бартосіка з Ул.Мацкевічам.
2004.10.03 **Харызма.** З удзелам А.Клінава.
2004.10.17 **Вынік рэфэрэндуму.** З удзелам Ул.Арлова, Ул.Мацкевіча, Ж.Літвіной, А.Міхалевіча, В.Корзуна.
2004.10.24 **Тайна Мярлінскіх хутароў**

Поўны тэкст перадачаў можна знайсьці ў віртуальным архіве «Вострае Брамы» на старонцы www.svaboda.org.

